# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ

## У ДВУХ ТАМАХ

Пад агульнай рэдакцыяй
доктара філалагічных навук
М.В. Нікалаева

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ

Том 1

М. В. Нікалаеў

## Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага



Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2009

УДК 655.11(476)(091)
ББК 76.10(4Беи)
Г51

Навуковыя рэдактары тома:
*В. В. Антонаў,*
*А. І. Мальдзіс*
Мастак
*Г. І. Мацур*

Выдаецца па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

**Гісторыя беларускай кнігі.** У 2 т. Т. 1. Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага /
Г51 М. В. Нікалаеў ; навук. рэд.: В. В. Антонаў, А. І. Мальдзіс. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. — 424 с. : іл.
ISBN 978-985-11-0481-5.

Двухтомнае выданне «Гісторыя беларускай кнігі» ахоплівае перыяд ад з'яўлення першых рукапісных кніг да канца XX стагоддзя. Першы том прысвечаны кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага за ўвесь перыяд існавання гэтай дзяржавы. Шматлікія ілюстрацыі паказваюць эвалюцыю мастацкай аздобы беларускай кнігі. Кніга будзе карыснай для студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ, гісторыкаў, філолагаў, краязнаўцаў, усіх, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі беларускай культуры.

**УДК 655.11(476)(091)**
**ББК 76.10(4Беи)**

**ISBN 978-985-11-0481-5 (т.1)**
**ISBN 978-985-11-0480-8**

# ПРАДМОВА

У пачатку было слова. І слова было запісана. І ўвасобілася ў кнізе. Выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» прадстаўляе да ўвагі чытача фундаментальную двухтомную працу па гісторыі кніжнай культуры Беларусі. Першы том нашага выдання прысвечаны культуры дзяржавы, якая на працягу амаль паловы тысячагоддзя аб’ядноўвала ўсе беларускія землі, а потым бясследна знікла з палітычнай карты Еўропы. Ужо адна гэтая акалічнасць, мяркуем, можа тлумачыць, чаму для беларускай навукі асабліва цяжка паставіцца да такога прадмета без некаторай прадузятасці, тым больш што і ў царскія, і ў савецкія часы падобная прадузятасць не вельмі заахвочвалася. Зусім натуральна, што гісторыя, лёс, культурная спадчына Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) не толькі прыцягвалі і прыцягваюць да сябе ўвагу гісторыкаў, філолагаў, мастацтвазнаўцаў, але і вельмі горача і востра адбіваюцца ў грамадскай думцы, ідэалагічных канструкцыях, нават у палітычным жыцці. Дакладней кажучы, актуальнасць і злабадзённасць гэтага феномена рашуча ўваходзяць у навуковыя працы. У прынцыпе, тут няма нічога кепскага, наадварот, гэта непазбежна і ў нейкай меры неабходна — пакуль не пераходзіць мяжу, за якой пачынаецца апалагетыка і, адпаведна, заканчваецца навука. Напрыклад, адзін з сучасных даследчыкаў бачыць у Вялікім Княстве і яго культуры ўзор канстытуцыйнага ладу, грамадзянскіх свабод, нават прававой дзяржавы, інакш кажучы — чыстую «залатую сярэдзіну» паміж заходняй нецярпімасцю і ўсходнім дэспатызмам, а другі — не менш вучоны і таленавіты — лічыць адзіным сэнсам існавання ВКЛ захаванне свядомасці этнічнага адзінства ўсходніх славян, якая быццам патрэбная (і да сёння!) для паспяховага супраціўлення польскай і ўвогуле заходняй культурнай экспансіі. Мы можам смела сказаць, што пры ўсёй канцэптуальнай і ідэйнай супрацьлегласці гэтых поглядаў метадалагічна яны тоесныя, паколькі абодва аўтары ў роўнай меры зыходзяць з неабходнасці, калі можна так сказаць, мабілізацыі гістарычнага матэрыялу для актуальных патрэб дня і, галоўнае, не ўсведамляюць небяспекі, якая чакае гісторыка на гэтым шляху: звужэнне далягляду, адвольны падбор крыніц, некрытычнае іх успрыняцце і да т п.



Падобныя ды і іншыя метадалагічныя падыходы ўласцівыя не толькі беларускай інтэрпрэтацыі спадчыны ВКЛ. У гістарыяграфіі Расіі — спадкаемцы Вялікага Княства з усёй яго тэрыторыяй, насельніцтвам, рэсурсамі і помнікамі — заўсёды прысутнічалі нейкія хваравітыя да яго адносіны, пачуццё нечага штучнага, амаль ненатуральнага. Яшчэ ў 1816 г. М. Карамзін гаварыў аб сумесі «пры-

творнага сяброўства» і «натуральнай, узаемнай нянавісці адна да адной» паміж Літвой і Расіяй[1], праз сто гадоў А. Прэснякоў піша аб «непазбежнай варожасці» Усходняй і Заходняй Русі[2], і ў нашы дні знакаміты акадэмік В. Янін амаль паўтарае гэтую думку, характарызуючы (у прадмове да манаграфіі сваіх малодшых калег) маскоўскія дачыненні да Літоўска-Рускай дзяржавы як да «ўтварэння роднаснага, хоць і пастаяннай крыніцы ваеннай небяспекі»[3].

Калі дарэвалюцыйных гісторыкаў хвалявала нязменная апазіцыя да Масквы дзяржавы ў масе сваёй безумоўна славянскай (нават рускай, у спрадвечным значэнні слова) і праваслаўнай[4], то аўтараў савецкай эпохі насцярожвала, галоўным чынам, нацыянальная прырода ВКЛ, больш дакладна — відавочная адсутнасць такой, а яшчэ больш дакладна — прынцыповая немагчымасць суаднесці яго гісторыю з якой-небудзь канкрэтнай савецкай рэспублікай. Апошнім часам было шмат крытыкі ў бок выдатнага савецкага даследчыка У. Пашуты за наданне ім Вялікаму Княству на пачатковым этапе яго існавання нацыянальнага літоўскага характару. І ў гэтай крытыцы шмат слушнага[5]; толькі ж не будзем забывацца, што іншы падыход для савецкага гісторыка быў амаль што немагчымы, бо пануючая ідэалогія надзвычай раўніва і рашуча выкараняла спробы выхаду нацыянальнай гістарычнай думкі за межы адведзеных ёй «рэспубліканскіх кватэр» (возьмем хоць бы гісторыю з кнігай А. Сулейменава «Аз і я» альбо памянёны А. Краўцэвічам факт «забароны ў 70-я гады выдання зборнай працы пра Беларусь у складзе ВКЛ»[6]).

Апошнія гады паказалі, што, вызваліўшыся ад шораў савецкіх, нацыянальная гістарыяграфія можа адразу ж апынуцца ў палоне новых. Так, сучасныя даследчыкі-кнігазнаўцы з Вільні Сігітас і Дайва Нарбуты пішуць у прадмове да свайго грунтоўнага каталога лацінскамоўных кніг Вялікага Княства Літоўскага: «Дамінуючая зараз дзяржаўная мова і мноства з ёю звязаных нерэалізаваных грамадскіх магчымасцей закладзеныя ў культуры XVII ст.»[7]. У самой гэтай фразе не было б нічога дзіўнага, калі б тут прысутнічала тлумачэнне, пра якую сучасную дзяржаву і якую дзяржаўную мову ідзе гутарка — польскую, беларускую, рускую ці ўсё ж такі літоўскую.

[1] *Карамзин Н. М.* История государства Российского. Т. 5. М., 1993. С. 167; Т. 6. М., 1998. С. 141.

[2] *Пресняков А. Е.* Образование Великорусского государства. М., 1998. С. 228.

[3] *Александров Д. Н., Володихин Д. М.* Борьба за Полоцк между Литвой и Русью в XII—XVI веках. М., 1994. С. 5.

[4] На думку М. Крома, вядучую ролю тут адыгрывала палітычная падазронасць адносна ВКЛ як «поліэтнічнага і поліканфесіянальнага ўтварэння», якое пасля паўстання 1863—1864 гг. магло паслужыць небяспечным прыкладам для народаў імперыі (*Кром М. М.* Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV — первой трети XVI в. М., 1995. С. 10—12). Гэта абсалютна правільна, але зыходная інтуіцыя такой падазронасці значна глыбей за розныя злабадзённыя палітычныя ўражанні і, безумоўна, значна больш старая, чым падзеі 1863 г. Дый чым быў славуты «заходнерусізм» XIX ст., як не адчайнай спробай апраўдацца, даказаць сваю «рускасць», праваслаўе, адным словам, непадзельнасць з метраполіяй, а ўсё іншае аб'явіць інтрыгамі альбо непасрэднай фальсіфікацыяй з боку ворагаў.

[5] Гл., напр.: *Ермаловіч М. І.* Старажытная Беларусь. Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 315, 318, 334—335; *Ён жа.* Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд. Мн., 1994. С. 7, 14—15; *Краўцэвіч А. К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1998. С. 49—50.

[6] *Краўцэвіч А. К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 59.

[7] *Narbutienė D., Narbutas S.* XVII a. Lietuvos lotyniškų knygų sąrašas. Vilnius, 1998. P. 25.

Добра разважыўшы, класці ў аснову навуковага даследавання пэўную нацыянальную ідэю — справа даволі рызыкоўная. Не будзем прыводзіць прыклады з творчасці вядомых трыбунаў падобнага роду — нават такі цвярозы і ўдумлівы вучоны, як В. Чамярыцкі, заявіў аднойчы: «...зусім непрымальнай з'яўляецца іх (беларуска-літоўскіх летапісаў. — *М. Н.*) назва «заходнерускія», ужыванне якой па сутнасці адмаўляе існаванне беларускага народа ў XV—XVI стст. са сваёй адметнай культурай»[8]. Мусім пагадзіцца, што тэрмін «заходнерускі» адносна летапісаў сапраўды ў чымсьці няўдалы; але якое гэта мае дачыненне да «існавання беларускага народа»? Нават калі гэта і так — што за злачынства адмаўляць існаванне таго ці іншага этнасу ў канкрэтны гістарычны перыяд? У сярэдзіне XIX ст. рускі гісторык і правазнаўца К. Кавелін сказаў тое, што ў прынцыпе ўсведамлялі ў навуцы ўсе, але ніхто не ўмеў альбо не адважваўся выказаць адкрыта (у гістарыяграфіі гэта сустракаецца нярэдка), што пад час складання «першага нашага летапісу» велікарусаў як «галіны рускага племя» яшчэ не існавала[9]. Аднак таго, хто на гэтай падставе палічыў бы Кавеліна пэўным нацыянальным нігілістам (велікарускім), чакае моцнае расчараванне: ужо на суседняй старонцы ён шчыра гаворыць, што «Расія ёсць адзіная свабодная славянская дзяржава», і пра «спрадвечную несамастойнасць заходняй Расіі, яе няздольнасць да стварэння адзінай магутнай дзяржавы»[10].

Мы тут не будзем абмяркоўваць такі погляд па сутнасці — гэта проста прыклад таго, наколькі незлучальныя навуковыя высновы і ўражанні нацыянальнага ці патрыятычнага пачуцця; яны нават не кампраметуюць адно аднаго, проста існуюць у розных сувымярэннях — у метадах і катэгорыях вывучэння навакольнай рэчаіснасці і ў вобразах міфалогіі.

Аўтар гэтых радкоў не менш за іншых абцяжараны рознага кшталту нацыянальнымі, культурнымі і гістарычнымі прымхамі і прыярытэтамі. Але ва ўсялякім разе ён цвёрда абяцае чытачу заўсёды памятаць аб пагрозе, якую яны нясуць, і не прыпісваць ім аб'ектыўны характар, не выдаваць уласныя меркаванні за дакладныя факты. Метадалагічныя асновы гэтай працы даволі простыя: Вялікае Княства Літоўскае ёсць дзяржаўнасцю, культурай, цывілізацыяй, якая загінула і ніколі не ўваскрэсне і непасрэдным пераемнікам якой не мае права лічыць сябе ні адна з дзяржаў і нацый, што змяшчаецца на ранейшых яго землях. Адэкватна зразумець такі культурны феномен можна толькі адхіліўшыся ад якой бы ні было ідэалізацыі, замілавання альбо мадэрнізацыі гістарычнага мінулага. Гэта не азначае, крый Божа, што аўтар абыякавы да сваёй тэмы альбо хоча адмаўляць існаванне духоўнай спадчыны ВКЛ, якая заўважна прысутнічае ў нацыянальных культурах XIX—XX стст., — ён толькі імкнецца пазбавіцца, па магчымасці, ад непатрэбных эмоцый, прыхільнасцей і, натуральна, стэрэатыпаў.

[8] *Чамярыцкі В. А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мн., 1969. С. 12.
[9] *Кавелин К. Д.* Наш умственный строй: Статьи по философии русской истории и культуры. М., 1989. С. 183.
[10] Тамсама. С. 184.

Другі аспект даследавання ў гэтай кнізе — паняцце «кніжная культура». Яно, можа, з-за сваёй (уяўнай) відавочнасці, да сёння, здаецца, не мае спецыяльнага даследавання. Кнігазнаўчыя даведнікі звычайна замяняюць яго тэрмінам «культура кнігі» і абмяжоўваюць сферай выдавецкай практыкі [11]. (У польскай літаратуры шырока ўжываецца выраз «kultura literacka», што аб'ядноўвае праблематыку выдання, распаўсюджвання і побыту друкаванай кнігі, галоўным чынам мастацкай літаратуры.) Адзінага разумення прыроды і межаў кніжнай культуры не існуе: некаторыя з найноўшых аўтараў разумеюць пад ёй літаратурную спадчыну пэўнай эпохі [12], іншыя — сукупнасць прыёмаў і традыцый кнігавытворчасці [13] і г. д. Такія падыходы, на наш погляд, неапраўдана звужаюць праблему. Са свайго боку, мы зыходзім з таго, што, паколькі пад культурай у цэлым разумеюць сукупнасць духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей чалавечага грамадства, цалкам лагічна вылучыць тыя яе сферы і аспекты, што афарбаваны (сагрэтыя, калі хочаце) прысутнасцю такога выразнага сацыяльнага феномена, як кніга, — ва ўсёй яго шматзначнасці. Адсюль галоўным у прадмеце кніжнай культуры ёсць уяўленне пра кнігу як пра каштоўнасць.

Бібліяфілам добра вядома, што кніга — гэта носьбіт вартасці матэрыяльнай, мастацкай (эстэтычнай) і духоўнай. Пры гэтым са з'яўленнем кнігадрукавання і, адпаведна, магчымасці неабмежаванага (у прынцыпе) тыражыравання першы складнік істотна саслабеў, а апошнія два — кніга як чыннік духоўнага развіцця і духоўнай спадчыны — бадай што толькі пачалі разгортваць і пашыраць на прастор Еўропы свае патэнцыі.

Радзей звяртаюць увагу на чацвёртую вартасць кнігі — маральную, якая ўяўляецца найбольш архаічнай і, значыць, найбольш вострай, найбольш актуальнай у сярэднявеччы. Па сутнасці, нічога дзіўнага тут няма. І сёння, калі гавораць (звычайна з прыхаваным неадабрэннем) аб наяўнасці — у народзе альбо ў каго-небудзь асабіста — «даверу да ўсялякага друкаванага слова», маюць на ўвазе менавіта гэтую вартасць.

Таксама агульнавядома велізарная роля прыняцця хрысціянства народамі Усходняй Еўропы ў з'яўленні тут кніг, пісьменства, адукацыі і г. д. Аднак разуменне асаблівай значнасці напісанага слова, безумоўна, больш старажытнае — хрысціянства сустракае яго ў варварскіх народаў (і выкарыстоўвае ў сваіх мэтах). Напрыклад, мы чытаем у хроніцы Яна Длугаша, як у 1382 г. князя Вітаўта пераконвалі ў здрадніцкіх зносінах вялікага князя Ягайлы з Тэўтонскім ордэнам, а Вітаўт не верыў ніякім доказам і сведкам і здаўся, толькі калі абвінаваўца «падняў угару перахопленыя дакументы аб змове» (tollebatque deprehensas federis literas) [14], — гэта менавіта тыя ж сакральныя па сутнасці адносіны да запісанага

[11] Гл., напр.: Книга: Энциклопедия. М., 1999. С. 354.
[12] *Саверчанка I. В.* Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998.
[13] *Столярова Л. В.* Из истории книжной культуры русского средневекового города (XI—XVII вв.). М., 1999.
[14] *Dlugossii J.* Annales seu Cronicae incliti regni Poloniae. Liber 10. Varsaviae, 1985. P. 95.

тэксту[15]. Пытанне аб іх паходжанні дастаткова складанае і, ва ўсялякім выпадку, выходзіць за межы нашай тэмы[16]; тут мы хацелі толькі паказаць на спецыфіку кніжнай культуры як аб'екта вывучэння, на яе нятоеснасць гісторыі літаратуры і нават мастацтву і майстэрству кнігі.

Разважаючы пра культуру ВКЛ, нельга абысці (як гэта, на жаль, робяць некаторыя аўтары[17]) прынцыповае пытанне: уяўляла яна з сябе нешта адзінае, цэльнае альбо гэта чыста палітычна-геаграфічнае паняцце, набор нацыянальных культур?[18] Скажам шчыра, у нас няма зараз гатовага адказу. Можа, адказам альбо набліжэннем да яго будзе ўся гэтая кніга. Можа, найбольш верагодна, для гэтага спатрэбіцца яшчэ шмат працы вучоных з розных краін. Але, ва ўсялякім выпадку, пошукі вырашэння гэтай праблемы і ёсць цэнтральная «звышзадача» нашага даследавання.

Няма патрэбы тлумачыць, што дадзеная кніга не прэтэндуе на ўсебаковае, вычарпальнае раскрыццё тэмы — аўтар будзе цалкам задаволены, калі яго праца выканае ролю першапачатковай спробы сінтэзу вялікага, метадычна складанага і яшчэ недастаткова вывучанага матэрыялу, бо апошнім часам назбіралася шмат новых артэфактаў. Паглыбленага, спецыяльнага даследавання патрабуе шэраг праблем і аспектаў нашага прадмета — ад спецыфікі старажытнарускай пісьмовай культуры на землях будучай Беларусі і да ролі ВКЛ (даволі рэакцыйнай, на першы погляд) у эпоху Асветніцтва і рэформ часоў Станіслава Аўгуста. У гэтых умовах адзіна магчымым падыходам да асэнсавання і выкладу з'яў культуры нам уяўляецца падыход гістарычны; г. зн. паслядоўнае іх суаднясенне з канкрэтнымі перыядамі і храналагічнымі межамі гісторыі краіны. Безумоўна, перыядызацыя культуры не можа быць проста праекцыяй агульнагістарычнай альбо, яшчэ горш, сацыялагічнай схемы (як гэта часта можна было бачыць у савецкай літаратуры), але і адрыванне з'яў кніжнасці ад сацыяльна-палітычнай гісторыі, ігнараванне самога базісу ўсіх культурных феноменаў (што таксама часам здараецца) ніяк не спрыялі б іх правільнаму разуменню.

[15] Параўн. заўвагу даследчыка польскіх сярэдневечных актаў: «Характэрна, аднак, што першыя дакументы з іх таямнічымі літарамі і пячаткамі мелі не столькі юрыдычныя, колькі магічныя функцыі (побач з іншымі магічнымі элементамі судаводства: пераскокваннем праз агароджу, кіданнем на зямлю пука саломы, ударам па руках, выпіваннем кубка вады і інш.)» (Источниковедение истории южных и западных славян. Феодальный период. М., 1999. С. 114).

[16] Вось толькі адзін факт з гісторыі лексікі. Слова *кніга* вядомае ўсім славянскім мовам (Этимологический словарь славянских языков. Праславянский лексический фонд. Вып. 13. М., 1987. С. 203—204), але толькі ім (літоўскае *knyga* бясспрэчна славянскага паходжання). Этымолагі лічаць яго запазычаннем з усходніх (найбольш верагодна, цюркскіх) моў, магчыма, з эпохі «панавання гунаў альбо авараў» (*Sławski F.* Słownik etymologiczny języka polskiego. Kraków, 1966/1969. T. 3. S. 272), г. зн. з V—VII стст. Іншымі словамі, паняцце «кніга» ў славян старэйшае за іх пісьменства. Безумоўна, да такой жа глыбокай даўніны ўзыходзіць і ўяўленне пра вышэйшую вартасць кнігі.

[17] Гл., напр.: *Батура Р. К., Пашуто В. Т.* Культура Великого княжества Литовского // Вопросы истории. 1977. № 4.

[18] Прыгадаем і трэцяе, даволі дзіўнае, на наш погляд, меркаванне, быццам бы «культура Літоўска-Рускай дзяржавы не ўяўляла з сябе ні кангламерату, ні супольнасці, па крайняй меры, у звычайным разуменні гэтых тэрмінаў» (*Станчинский Г. А.* Русские и балты. СПб., 1994. С. 5) — інакш кажучы, была невядома альбо нават зусім не існавала.

Аўтар цалкам падзяляе канцэпцыю старой рускай гістарыяграфіі (М. Любаўскі, А. Прэснякоў і інш.) аб гісторыі Вялікага Княства як прамым працягу гісторыі Кіеўскай Русі, аб тым, што «будаўнікі літоўскай дзяржаўнасці» (выраз Прэснякова) успрынялі ад усходніх славян пачаткі і палітычнай арганізацыі, і вайсковай справы, і культуры. Аднак нельга не заўважыць і зусім відавочны факт: ВКЛ як старажытнаруская дзяржава абсалютна не сталася — культурны паварот «эпохі ілюмінаваных Псалтыроў», што пачаўся каталіцкім хрышчэннем Літвы (1386), закончыўся ў другой палове XVI ст. татальным крызісам заходнярускай (старабеларускай, «простай») мовы і кніжнасці[19]. Не менш відавочная і цесная сувязь усяго гістарычнага і культурнага развіцця ВКЛ з польскай дзяржаўнасцю і культурай[20]. Шляхам уніі з Польшчай Гедымінавічы, назваўшыся Ягелонамі, набываюць агульнаеўрапейскае значэнне, разам з ёй Вялікае Княства перажывае эпоху росквіту і моцы, з ёй жа хіліцца да скону і занепадае. Адсюль цалкам апраўданай выглядае і прынятая намі перыядызацыя — адпаведна этапам станаўлення і эвалюцыі літоўска-польскай дзяржаўнай уніі.

Мы вылучаем тут тры важнейшыя перыяды; канкрэтны змест кожнага з іх у плане кніжнай культуры раскрыты ў адпаведным раздзеле; зараз жа паспрабуем падаць іх у больш шырокім гістарычным і гістарычна-культурным кантэксце. Эпоха XIII—XV стст. — гэта ў поўным сэнсе панаванне спадчыны Кіеўскай Русі. «Панаванне» тут не абазначае асаблівай жыццёвай сілы старажытнарускай культуры (яна так цалкам і не ачуняла пасля татарскага разгрому XIII ст.) — хутчэй гэта адсутнасць вартых супраціўнікаў. Каталіцкая хрысціянізацыя, якая, натуральна, несла з сабой і кніжную экспансію[21], першапачаткова абмяжоўвалася амаль выключна этнічнай Летувай; Крэўская ж унія доўгі час заставалася не больш чым дамовай аб ваенным саюзе. У XV ст. пачынаецца нават нешта накшталт «рускага адраджэння»: вялікі кніжны цэнтр фарміруецца ў Смаленску[22], да смаленскага летапісання, па ўсёй верагоднасці, узыходзяць і беларуска-літоўскія летапісы, якія дайшлі да нашага часу.

Мяжа XV і XVI стст. падводзіць рысу пад сярэднявеччам. Стагнацыя змяняецца інтэнсіўным ростам. Уплыў Рэнесансу, ідэй гуманізму, крыху пазней Рэфармацыі, з'яўленне і хуткае распаўсюджванне кнігадрукавання хутка змяняюць сітуа-

[19] А. Жураўскі слушна заўважыў, што ўключэнне ў Літоўскі статут 1566 г. нормы аб абавязку пісаць дзелавыя дакументы «литэрами и словы рускими» азначала не перамогу «простай мовы» ў ролі мовы дзяржаўнай, а было прыкметай разбурэння старажытнарускай традыцыі і спробай выкарыстаць для яе захавання сілу закона (Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1967. Т. 1. С. 350—351). Як прыклад, супаставім з гэтым той літаральна крык душы, што вырваўся (у 1550 г.) у Міхалона Літвіна: нас прымушаюць вывучаць рускую мову, а яна для нас чужая і непатрэбная, мы — ліцвіны, г. зн. італійцы! (*Михалон Литвин*. О нравах татар, литовцев и москвитян. М., 1994. С. 85—86).

[20] Звернем увагу на факт з гісторыі мовы: паланізмы ў помніках пісьменства ВКЛ з'яўляюцца ўжо ў 1340-я гг. (*Карский Е. Ф.* Белорусы. [Т. 2]: Язык белорусского народа. Вып. 1. М., 1955. С. 68), а ў наступным стагоддзі робяцца агульнай з'явай.

[21] Длугаш сведчыць, што каралева Ядвіга асабіста займалася забеспячэннем віленскага і прыходскіх касцёлаў кнігамі (*Dlugosii J.* Annales... Liber 10. P. 163).

[22] Менавіта да гэтага горада датычыць «вельмі рэдкае для свайго часу сведчанне аб тыражыраванні рукапіснай кнігі» (*Розов Н. Н.* Книга в России в XV веке. Л., 1981. С. 26).

цыю. Напачатку здаецца, што ўжо сфарміраваная літаратурная («простая»)[23] мова ўпэўнена ўтрымлівае пазіцыі — на ёй друкуе свае кнігі Францыск Скарына, на ёй (і менавіта «пад уплывам гуманістычнай навукі рымскага права»[24]) адбываецца кадыфікацыя законаў і складзены Статут 1529 г. Аднак гэтыя поспехі аказваюцца піравымі. Захоп Смаленска Масквой (1514) абарваў летапісную традыцыю, Скарына змушаны пакінуць межы ВКЛ, Статут 1529 г. не быў надрукаваны, а ўвогуле кірылічнае кнігадрукаванне аднавілася толькі ў 1560-я гг. і толькі пад уздзеяннем патрэб канфесійнай (першапачаткова пратэстанцкай) агітацыі і палемікі.

Гэтыя падзеі цяжка растлумачыць без уліку аднаго выключна палітычнага фактару. Акт Мельніцкай уніі 1501 г. пастанавіў, што каралём Польшчы і вялікім князем Літвы можа быць абрана толькі адна і тая ж асоба (да гэтага вялікім князем быў звычайна брат ці сын караля). Ствараецца, такім чынам, рэальная дзяржаўная еднасць абедзвюх краін[25]; і калі ў гэтую адзіную палітычную і культурную прастору ўрываецца бурная плынь адраджэнцкіх, рэфармацыйных, пратэстанцкіх, а пазней контррэфармацыйных і езуіцкіх культурных, літаратурных, грамадскіх, адукацыйна-выхаваўчых ідэй, канцэпцый і інстытутаў — да таго ж на фоне сапраўды «залатога веку» польскай літаратуры, — для яшчэ захаваных рэфлексаў старабеларускай кніжнасці не застаецца ніякіх шанцаў[26].

Апошні перыяд яе актыўнасці — літаратурная палеміка канца XVI — пачатку XVII ст. аб царкоўнай уніі; з вычарпаннем палітычнага зместу гэтай барацьбы (пасля таго як дзяржаўная ўлада ў 1632 г. прызнала новую праваслаўную іерархію) старабеларуская кніжнасць імкліва дэградзіруе, са свецкага ўжытку яе выціскае польская і лацінская, з царкоўнага — вернутая царкоўнаславянская, хоць апошняя і набыла беларускае вымаўленне[27].

Перыяд 1648—1795 гг. пачаўся спусташальнымі ўнутранымі і знешнімі войнамі, працягваўся (ад пачатку XVIII ст.) фактычным пераходам пад пратэктарат Расіі[28]

[23] Мы свядома не вельмі ахвотна ўжываем тэрмін «старабеларуская», паколькі ён хутчэй паказвае на арэал паходжання мовы, чым на яе рэальнае літаратурнае распаўсюджанне. Якраз у канцы XVI ст. буйнейшымі цэнтрамі «старабеларускай» кніжнасці робяцца Кіеў, Астрог, Львоў, г. зн. практычна ўся Правабярэжная Украіна. Увогуле першае ў лексікаграфіі супрацьстаўленне «літоўскіх» (г. зн. беларускіх) і «валынскіх» (г. зн. украінскіх) форм сустракаецца ў слоўніку Памвы Бярынды 1627 г. — «Лексіс» Лаўрэнція Зізанія 1596 г. гэтага яшчэ не фіксуе [*Успенский Б. А.* Краткий очерк истории русского литературного языка (XI—XIX вв.). М., 1994. С. 67].

[24] *Bobrzyński M.* Dzieje Polski w zarysie. Wyd. 4. T. 2. Warszawa etc., 1927. S. 40.

[25] Лепшае пацвярджэнне гэтаму — распачаты ўжо ў 1506 г. няспынны паток скаргаў літоўскай шляхты на «польскае засілле» пры заняцці адміністрацыйных і земскіх пасад (*Савич А. А.* Нариси з історії культурних рухів на Вкраїні та Білорусі в XVI—XVIII в. Київ, 1929. С. 189—191). Люблінская унія 1569 г. толькі зрабіла неабходныя юрыдычныя высновы з фактычнага стану рэчаў.

[26] Варта ўвагі назіранне, што ўзаемаўплыў і ўзаемаабагачэнне ўсходнеславянскай і польскай кніжнасці ў гэты час былі немагчымыя «не только з прычыны прынцыповых адрозненняў літаратурных сістэм (ранневізантыйскай у сваіх падставах, з аднаго боку, і рэнесансавай — з другога), але і самой адсутнасці мастацкай літаратуры на Русі» (История литератур западных и южных славян. Т. 1. М., 1997. С. 427).

[27] *Станкевіч Я.* Беларуская вымова царкоўна-славянскага пісьма // Спадчына. 1992. № 2. С. 54—57.

[28] К. Маркс вельмі трапна сказаў, што «падзелы Польшчы з'яўляюцца толькі саступкамі суседнім дзяржавам, саступкамі, зрабіць якія Расія была вымушана з-за шэрагу польскіх паўстанняў супраць гэтай яе вярхоўнай улады» (Архив Маркса и Энгельса. Т. 14. М., 1973. С. 65).

і скончыўся поўным крахам Рэчы Паспалітай. Ён характарызуецца паступовым, але няўмольным заняпадам, стратай сэнсу самой ідэі уніі Літвы і Польшчы. Праўда, захоўваліся і часам нават аднаўляліся велікакняжацкія прававыя і саслоўныя інстытуты. Сапраўды, ніколі да гэтага не разважалі так ахвотна пра братэрства «абодвух народаў», але грамадская свядомасць чым далей, тым больш усю гэтую «Літву» ўспрымала як сярэднявечны перажытак, хай сабе і не пазбаўлены пэўнай настальгічнай прывабнасці. Пераможная ідэалогія трыдэнцкага каталіцызму, усеабдымная і наднацыянальная, не мела ніякай патрэбы ў з'яўленні ў дзяржаве новых нацыянальных утварэнняў, хай то беларускае ці літоўскае. Закон 1696 г. патрабуе, каб «усе дэкрэты» выдаваліся толькі на польскай мове. Замойскі сабор 1720 г. па сутнасці ператварае уніяцкую царкву ў асобны дыяцэз рымска-каталіцкай — абодва гэтыя акты не выклікалі аніякага руху проста таму, што санкцыяніравалі практыку, якая існавала ўжо даўно. Да пачатку XVIII ст. Рэч Паспалітая ў культурных дачыненнях, безумоўна, унітарная дзяржава, у якой Вялікаму Княству адведзена роля хіба што аб'екта польскіх асветніцкіх і цывілізатарскіх высілкаў. Дзейнасць Эдукацыйнай камісіі (з 1773 г.) паказала гэта вельмі наглядна.

У такім сціслым аглядзе шмат што, безумоўна, мы выкладаем вельмі спрошчана, шмат засталося па-за нашай увагай. Але наперадзе ў чытача, у рэшце рэшт, уся кніга. А сфармуляваць агульны, прынцыповы абрыс культурнай гісторыі ВКЛ падалося небескарысным. Вядомы этнограф і кнігазнаўца Аляксандр Мыльнікаў заўважыў аднойчы з некаторай крыўдай, што «гісторыкі кнігі шырока карыстаюцца матэрыяламі гістарычнай навукі і метадамі крыніцазнаўства, у той час як вынікі іх дзейнасці застаюцца пераважна ў гістарычна-кнігазнаўчым асяроддзі»[29]. Паспрабуем і мы папрацаваць дзеля пераадолення гэтай сітуацыі. Спашлёмся яшчэ на аднаго спецыяліста: «Для навукі не трэба пакідаць пазіцый абгрунтаванага і паслядоўнага гістарызму, нават калі прадметам яе вывучэння робіцца Адкрыццё (Откровение)»[30], і нават, дадамо ад сябе, такі феномен, як кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага.

* * *

З усіх помнікаў, што засталіся ад ВКЛ, кнігі найбольш шматлікія і рухомыя. Падобная ўласцівасць спрыяла іх захаванню часта далёка ад месца стварэння і бытавання, часта тады, калі былі зруйнаваны храмы, для якіх гэтыя кнігі пісаліся, разбураны замкі, манастыры і палацы, у чыіх бібліятэках гэтыя кнігі знаходзіліся[31]. Аднак раскіданыя па музеях і архівах усяго свету рукапісныя помнікі

[29] *Мыльников А. С.* Книга как объект источниковедения // Источниковедение отечественной истории: Сб. статей. 1975. М., 1976. С. 59.

[30] *Алексеев А. А.* Текстология славянской Библии. СПб., 1999. С. 220.

[31] Арыгінальная архітэктура ВКЛ метадычна і мэтанакіравана знішчалася як у сталіцы (суцэльная перабудова віленскіх праваслаўных храмаў па «мураўёўскіх» канонах), так і на абшарах (найбольш пры Савецкай уладзе) — фара Вітаўта ў Гродне, Віцебская Дабравешчанская царква, Любчанскі замак складаюць толькі самы верх піраміды руін (гл.: *Габрусь Т. і інш.* Страчаная спадчына. Мн., 1998).

ВКЛ, на жаль, не маюць зводнага каталога. Адсутнасць іх апісанняў — адна з самых вострых праблем сучаснай археаграфіі; што да старадрукаў, то з больш як трыццаці дзейных у Вялікім Княстве друкарняў толькі чатыры маюць друкаваныя каталогі сваёй прадукцыі[32]. Гэтая акалічнасць замінае і вывучэнню кніжнасці як гістарычна-культурнага працэсу, таксама як і вывучэнню дзейнасці асобных кнігапісных майстэрняў і друкарняў. Падобная праблема турбуе і расійскіх вучоных[33]. Раскіданасць крыніц абумовіла недастатковае з імі знаёмства, хоць польская і расійская, а пазней літоўская, украінская і беларуская бібліяграфія і кнігазнаўства шмат прасунуліся ў накірунку апісання і вывучэння кніжнасці ВКЛ[34].

Гісторыя музыкі, мініяцюры, графікі, літаратуры, каліграфія, залатарства, гарбарства, вытворчасць паперы — гэтыя і іншыя прадметы, сабраныя ў кнізе, робяць кожны рукапіс і кожны старадрук непаўторным фактам гісторыі матэрыяльнай і духоўнай культуры. Наша выданне мае на мэце паказаць аблічча кніжнай культуры ВКЛ не толькі праз тэкст (паведамленне і тлумачэнне фактаў), але і праз прыгажэйшыя захаваныя помнікі і помнікі ардынарныя. Часам у тэксце чытач знойдзе палеміку і выклад розных поглядаў на адну і тую ж з'яву, магчыма, асобныя пабудовы аўтара пададуцца гіпатэтычнымі, але паўтораныя пры дапамозе паліграфіі, фатаграфічнай і найноўшай электроннай тэхнікі старонкі старадрукаў і рукапісаў застануцца аўтэнтычным аргументам праўдзівай прыгажосці кніжнай спадчыны Вялікага Княства. Habent sua fata libelli — свой лёс нават у кніжак. Кожны экземпляр старадруку, як і кожны рукапісны кодэкс — непаўторны, мае на сабе прыкметы сваёй гісторыі: дапіскі чытачоў, штампы і экслібрысы бібліятэк, пячаткі гаспадароў і дзяржаўных устаноў, выразкі, дамалёўкі, сляды пазнейшых рэстаўрацый... Пры падборы ілюстрацый мы арыентаваліся на стан захаванасці і асаблівасці экзэмпляраў. Пецярбургскія кнігазборы, якія для аўтара больш даступныя, — вельмі важны фактар, але каб шырэй паказаць важнейшыя помнікі кніжнай культуры ВКЛ, здымкі зроблены таксама у Вільні, Кіеве, Кракаве, Мінску і Маскве. Спосабы здымак ілюстрацый былі рознымі: каляровая і чорна-белая фатаграфія, скaніраванне. Апошні спосаб дае магчымасць істотна карэкціраваць арыгінал — таніраваць плямы, выкідаць пазнейшыя запісы і бібліятэчныя штампы, пакідаючы першапачатковы выгляд тытула, ілюстрацыі, пераплёту. У выніку сярод ілюстрацый прысутнічаюць і «адрэдагаваныя» здымкі, і здымкі з захаваннем пашкоджанняў і індывідуальных асаблівасцей экзэмпляраў — у апошніх выпадках паказваецца шыфр і назва сховішча.

[32] *Лабынцев Ю. А.* Кирилловские издания Супрасльской типографии. М., 1978; *Ён жа.* Описание изданий Несвижской типографии и типографии Василия Тяпинского. М., 1985; *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805: Bibliografija. Vilnius, 1979; *Cubrzyńska-Leonarczyk M.* Katalog druków supraskich. Warszawa, 1996.

[33] «Для таго каб паставіць справу вывучэння старажытнарускіх кнігапісных цэнтраў на цвёрдую аснову, патрэбны поўны каталог старажытнарускіх рукапісаў XV—XVI стст., згрупаваны па іх уладальніцкай належнасці ў той перыяд часу», — піша вядомы маскоўскі гісторык-славіст (*Флоря Б. Н.* О реконструкции состава древнерусских библиотек // ДИРК. [Сб. 1]. М., 1972. С. 59).

[34] Падрабязны разгляд літаратуры прадмета павінен стаць, на нашу думку, прадметам асобнай працы. У дадзенай манаграфіі мы абмяжуемся толькі падрадковымі заўвагамі.

* * *

Тэкст першага тома з'яўляецца перапрацоўкай спецкурса «Кніжная культура Беларусі», які чытаўся студэнтам Гродзенскага універсітэта па кафедры беларускай культуры ў 1991—1999 гг., у эпоху кіравання кафедрай прафесарам Аляксеем Міхайлавічам Пяткевічам. З таго часу гісторыкі кнігі зрабілі новыя адкрыцці, у беларускім кнігазнаўстве ўсталявалася новая тэрміналогія, выйшлі новыя каталогі рукапісаў і старадрукаў, знайшлося зніклае ў чэрвені 1941 г. разам з крыжом Еўфрасінні Полацкай Слуцкае Евангелле... Нешта з гэтай навіны мы змаглі post factum уключыць у стуктуру тэксту, нешта — у бібліяграфічныя нататкі. Даціроўкі рукапісных кніг, што захоўваюцца ў Вільні, мы даём паводле Ф. Дабранскага, не паспеўшы праверыць удакладненні, зробленыя сучаснымі даследчыкамі Н. Марозавай і С. Цямчынам. А нешта засталося для асэнсавання будучым даследчыкам кнігі. Ведама бо — навука не стаіць на месцы, прагрэс — закон прыроды.

Прапанаванае Вашай увазе выданне атрымалася такім, як яно ёсць, дзякуючы навуковай рэдакцыі пецярбуржца Валерыя Антонава і мінчаніна Адама Мальдзіса, а таксама кансультацыям з Тамарай Аляксандраўнай Афанасьевай, Ірынай Базылевай, Андрэем Уладзіміравічам Вазнясенскім, Іялантай Гвёздзік, Аляксандрам Гладкім, Сяргеем Жамайцісам, Апалоніяй Кальнютэ, Андрэем Катлярчуком, Ліляй Коўкель, Юрыем Лабынцавым, Аляксандрам Сяргеевічам Мыльнікавым, Дайвай Нарбутэне, Аляксандрам Наумавым, Івонай Петшкевіч, Марыяй Підлыпчак-Маеровіч, Наталляй Васілеўнай Рамазанавай, Мікалаем Мікалаевічам Розавым, Таццянай Рошчынай, Аленай Аляксееўнай Савельевай, Марыяй Ткачэнка, Арвідасам Пацявічусам, Зояй Ярашэвіч-Пераслаўцаў, Рутай Янонене, Юрыем Ясіноўскім. Большую частку працы па сканіраванні ілюстрацый выканалі Павел Мядзведзеў, Аляксандр Каштаньер, Антон Волкаў, Марыя Лукоўская, Дзяніс Цыпкін і Мікалай Свістун, рэканструкцыю першапачатковага стану пераплётаў, кніжных разгортаў і асобных ілюстрацый зрабілі Генадзь Мацур і Віктар Міхей. Пераклады рэзюме на англійскую, нямецкую, літоўскую і японскую мовы зрабілі Андрэй Нікалаеў, Клаус Рудольф Шэль, Апалонія Кальнютэ, Тамоко і Токуакі Баннай. Усім ім вялікая ўдзячнасць.



Збіраючы і апрацоўваючы матэрыялы для гэтай кнігі, аўтар незаўважна для сябе перайшоў з катэгорыі «маладых навукоўцаў» у наступную ўзроставую групу. Калі ж узнікла патрэба паказаць свае дасягненні сябрам і калегам, абмеркаваць вынікі, параіцца і выслухаць крытыку, то востра адчулася адсутнасць паважаных і дарагіх мне людзей, якія адышлі за апошні час: Міхася Аляксандравіча Ткачова, Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага, Лявона Антонавіча Луцкевіча, Эгідзюса Данатавіча Банёніса, Міколы Іванавіча Ермаловіча, Якіма Прохаравіча Запаско, Віктара Фёдаравіча Шматава. Ім і прысвячаецца мая праца.

# ПЕРШЫЯ КНІГІ НОВАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Рукапісная кніжнасць Вялікага Княства Літоўскага ўзыходзіць сваімі каранямі ў культуру Старажытнай Русі, больш таго — на працягу доўгага часу расце на яе аснове, імкнецца захоўваць і развіваць кіеўскія каштоўнасці і традыцыі. Спробы засваення і выкарыстання старажытнарускай спадчыны і складаюць галоўны змест першага перыяду, што заканчваецца пры панаванні Аляксандра Ягелона і мітрапаліцтве Іосіфа Балгарынавіча. На храналагічнай восі гэтая эпоха знаходзіцца паміж сярэдзінай XIII і пачаткам XVI ст. Не да канца зразумелых гістарычных праблем у гэтым адрэзку вельмі багата: як паўставала дзяржава і ў якіх дачыненнях яна знаходзілася з царквой; чаму грамадства не засталося ў адной рэлігіі; якая была гутарковая мова людзей, што пісалі на «славенскай рускай» — пры знаёмстве з кніжнасцю немагчыма не закрануць падобныя пытанні. Складанасць адказу на іх абумоўлена тым, што ад усяго перыяду захавалася толькі каля трох дзесяткаў кніг. Ад двух з паловай стагоддзяў меней, чым зараз падручнікаў на стале вучня старэйшых класаў! Такая акалічнасць патрабуе, з аднаго боку, максімальна ўважлівых падыходаў да ўсіх захаваных помнікаў, з другога — вялікай асцярожнасці ў высновах.

Пытанне аб «кіеўскай спадчыне» — уласна кажучы, у значнай ступені пытанне аб спецыфіцы культурнага аблічча зямель сучаснай Беларусі — цэнтральнага тэатра станаўлення дзяржаўнасці ВКЛ — у межах Старажытнай Русі. Як вядома, у другой палове XI ст. пачынаецца больш ці менш інтэнсіўная хрысціянізацыя гэтых тэрыторый: у 1072 г. (ці каля 1088 г.) засноўваецца праваслаўная епіскапская кафедра ў Тураве, у 1104 г. — у Полацку, у 1137 г. — у Смаленску[1]. (Для параўнання: на вялізных прасторах Паўночна-Усходняй Русі да рубяжа XII і XIII стст. існуе адна епархія, Растоўская.) Распаўсюджванне хрысціянства не магло не ісці адначасова са з'яўленнем, распаўсюджаннем і паўсядзённым ужываннем богаслужбовых кніг — і гэта не абстрактнае дамысленне: як слушна заўважыў адзін з гісторыкаў, ужо сама фігура Кірылы Тураўскага не дазваляе лічыць заходні рэгіён загуменнем (у культурных дачыненнях), «як можа здацца, калі меркаваць толькі па пагардлівым маўчанні крыніц»[2]. Але і ігнараваць такое маўчанне, альбо, праўдзівей, надзвычайную скупасць звестак, маляваць карціны няспыннага прагрэсу і вялікіх дасягненняў[3] няма ніякіх падстаў. Звернемся да важнейшых фактаў.

Мы нагадалі выдатнага прапаведніка і кніжніка XII ст. епіскапа Кірылу Тураўскага. Адносна яго твораў думкі даследчыкаў палярна разыходзяцца: яго залічваюць то да арыгінальных аўтараў, то да простых пе-

[1] У гісторыка-царкоўнай літаратуры існуе не вельмі праўдападобная, але трывалая традыцыя адносна стварэння Тураўскай і Полацкай епархій яшчэ за часы Уладзіміра Святога (*Голубинский Е. Е.* История русской церкви. М., 1997. Т. 1, ч. 1. С. 334—335, 681; *Мельников А. А.* Путь непечален: Исторические свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992. С. 19, 48; *Шейкин Г. Н.* Полоцкая епархия: Историко-статистическое обозрение. Мн., 1997. С. 5—6; параўн.: *Подскальски Г.* Христианство и богословская литература в Киевской Руси (988—1237 гг.). СПб., 1996. С. 56, 58). А. Мельнікаў дадае сюды (незразумела, на якіх падставах) і Смаленскую (*Мельников А. А.* Путь непечален. С. 76).

[2] *Феннел Дж.* Кризис средневековой Руси. 1200—1304. М., 1989. С. 52.

[3] Параўн., напр.: «Эпоха Старажытнай Русі — гэта антычны і эпічны час усходніх славян, а старажытнаруская літаратура — іх высокая класіка...» і г. д. (Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд. 3-е выд. Мн., 1997. С. 51).

рапісчыкаў багаслоўскіх тэкстаў. Для вырашэння праблемы была зроблена спроба вылучыць фармальныя прыкметы стылю Кірылы з дапамогай колькаснага аналізу, што прывяло да высновы аб прэваліраванні ў 11 творах, якія традыцыйна прыпісваюцца яму, стылю выкарыстаных ім крыніц і, значыць, аб кампілятыўнай дамінанце ў яго творчасці[4]. Ні адной кнігі, якую традыцыя непасрэдна звязвала б з Кірылам як перапісчыкам, не захавалася, але ад часоў ВКЛ засталося багата спісаў яго малітоўных вершаў. Яны ўвайшлі ў многія рукапісныя і друкаваныя зборнікі[5], прынамсі ў кнігу «Молитвы повседневные», якую выдала Віленскае праваслаўнае брацтва ў 1596 г.[6] У XVII ст. Кірыла Тураўскі друкаваўся ў Вільні, Еўі, Куцейне[7]. Вынікі пошукаў яго малітоўнага цыклу ў рукапісных кнігах дазваляюць гаварыць пра больш чым 60 спісаў рознай паўнаты[8].

Істотна менш мы можам сказаць пра іншых кніжных дзеячаў XII і пачатку XIII ст. Ад мітрапаліта Клімента Смаляціча дайшоў адзіны твор («Пасланне да прэсвітэра Фамы»[9]) ды яшчэ нататка ў Кіеўскім летапісе пад 1147 г., дзе Клімент названы «книжник и философь, так якоже в Рускои земли не бяшеть»[10]. У жыццях святых Еўфрасінні Полацкай і Аўрамія Смаленскага (тэксты ўзыходзяць адпаведна да пачатку і сярэдзіны XIII ст.) змешчаны кароткія і досыць стандартныя заўвагі аб тым, што першая «начат книги писати своима рукама»[11], а другі «вся от всех избирая и списая ово своею рукою, ово многыми писцы»[12] — у апошнім выпадку бачым згадку пра існаванне манастырскага скрыпторыя (у Селішчы, пад Смаленскам)[13]. Калі дадаць сюды складанне самых гэтых жыццяў (верагодна, якраз ў Полацку і Смаленску) і праблему даволі гіпатэтычнага полацкага і наваградскага летапісання, мы практычна вычарпаем вонкавыя факты літаратурнай гісторыі нашага рэгіёну ў дамангольскія часы.

Выразную карціну ўяўляе і стан кніжных помнікаў дадзенага перыяду. Зараз агульны фонд захаваных славяна-рускіх кніг XI—XIII стст. складае прыкладна 262 кодэксы[14]. Сярод іх з той ці іншай ступенню верагоднасці з тэрыторыяй будучага ВКЛ (за выключэннем украінскіх зямель) звязваюцца толькі шэсць — Тураўскае, Дабрылава, Полацкае і Аршанскае Евангеллі[15], а таксама Супрасльскі рукапіс XI ст.[16] і спіс «Лесвіцы» Іаана Лесвічніка XIII ст.[17] (Мы не закранаем зараз г. зв. Евангелле Латыша 1270 г. і Псал-

[4] *Полянская И. В.* Кирилл Туровский: творец или компилятор?! // От Нестора до Фонвизина. Новые методы установления авторства. М., 1994. С. 97—100.

[5] Аб спадчыне Кірылы Тураўскага ў XVI—XVII стст. гл.: *Саверчанка І. В.* Aurea mediocritas. С. 34—36.

[6] Кніга Беларусі 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986. № 44 (тут і далей даюцца спасылкі на нумары першага раздзела гэтага каталога — «Старадрукаваныя кірылічныя выданні»). Рэпрынт выдання 1596 г. змешчаны ў кн.: *Лабынцаў Ю. А.* «Напой росою благодати...»: Малітоўная паэзія Кірыла Тураўскага. Мн., 1992. С. 93—235.

[7] Кніга Беларусі 1517—1917. № 58, 70, 96, 104, 114, 119.

[8] *Рогачевская Е. Б.* Цикл молитв Кирилла Туровского: Тексты и исследования. М., 1999. С. 17—42. Тут (с. 89—197) апублікаваны поўны сядмічны цыкл малітваў Кірылы па малітоўніку 1601 г. (Кніга Беларусі 1517—1917. № 58), які памылкова названы выданнем 1602 г.

[9] БЛДР. Т. 4. СПб., 1997. С. 118—141.

[10] ПСРЛ. Т. 2. М., 1998. Стб. 340. — Аб матывах такога высокага водзыву летапісу (увогуле варожага да Клімента) гл.: *Соколов П. П.* Русский архиерей из Византии и право его назначения до начала XV века. Киев, 1913. С. 62—64, 69.

[11] Кніга жыцій і хаджэнняў. Мн., 1994. С. 29.

[12] Тамсама. С. 70; БЛДР. Т. 5. СПб., 1997. С. 34.

[13] А. Мельнікаў выказвае меркаванне пра наяўнасць скрыпторыя і ў Полацку, а праз некалькі старонак у яго гэты няпэўны скрыпторый ператвараецца — ужо ў множным ліку — у «скрыпторыі, бібліятэкі і школы» (*Мельников А. А.* Путь непечален. С. 29, 33, 136), што, зразумела, ёсць чыстая фантастыка.

[14] *Столярова Л. В.* Древнерусские надписи XI—XIV веков на пергаменных кодексах. М., 1998. С. 53. — У зводных каталогах апісаны і ўлічаны 494 адпаведныя адзінкі захоўвання ў СССР і 2 у Польшчы, але трэба памятаць, што шмат кніг захаваліся ў двух і больш фрагментах, якія ўлічваюцца асобна, дый пытанне аб прыналежнасці фрагментаў да той самай кнігі (кодэкса) часта застаецца адкрытым.

[15] Сводный каталог славяно-русских рукописных книг, хранящихся в СССР. XI—XIII вв. (далей — Сводный каталог XI—XIII вв.). М., 1984. № 10, 55, 194, 195, 342.

[16] *Щапов Я. Н.* Восточнославянские и южнославянские рукописные книги в собраниях Польской Народной Республики. Вып. 1. М., 1976. № 18; Сводный каталог XI—XIII вв. № 23.

[17] *Щапов Я. Н.* Восточнославянские и южнославянские рукописные книги в собраниях Польской Народной Республики. № 206.



*Полацкае Евангелле XIV ст. (РНБ: F.п.I.17). Добра відаць, што яшчэ да перапіскі дзіркі ў пергамене былі старанна зацыраваны.*

тыр з дадаткам 1296 г.[18], што належаць ужо да наступнай эпохі і гутарка пра якія будзе ніжэй.) Як правіла, рэгіянальнае паходжанне, а хутчэй бытаванне кнігі, высвятляецца не па яе асноўным змесце, мастацкай аздобе[19] ці моўных асаблівасцях, а паводле пазней-

[18] *Щапов Я. Н.* Восточнославянские и южнославянские рукописные книги в собраниях Польской Народной Республики. № 180, 188.

[19] Выключэннем з'яўляецца Полацкае Евангелле, у арнаменце заставак якога ўжыта срэбра, што характэрна для германскай тэхнікі кніжнай ілюмінацыі (*Нікалаеў М. В.* Палата кнігапісная. Рукапісная кніга на Беларусі ў X–XVIII стагоддзях. Мн., 1993. С. 25).

шых прыпісак[20] альбо звестак з гісторыі рукапісу. Так, Тураўскае Евангелле XI ст. змяшчае ўкладны запіс князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага з жонкай і сынам ад 2 мая 1508 г.: ён надае да царквы Ператварэння ў Тураве «сад с пасекою и поле з сеножатьми... на сюи стороне на пересельи села Вересни[ц]кого, на сюи стороне Воронине от замку»[21]. 10 лютага 1513 г. на іншым аркушы імі ж зроблены запіс-наданне да той самай царквы «три поли на пересельи, села Бересницкого, и з припашьми, и з сеножатьми, и з замежьками, по самую течьку и долину»[22]. На Полацкім Евангеллі канца XII ці пачатку XIII ст. найбольш старажытныя запісы (і звязаныя менавіта з Полацкам) датуюцца сярэдзінай альбо другой паловай XIV ст. Гэта ўкладныя запісы ў Троіцкі манастыр ад Андрэя Данілавіча на «сельце на Просмужьци», ад Івана Ніканавіча Дземянцеева на «три места ролеиная на Великом поли, да поженька, да луг на Полоте, да огород у старом городе, да польгумна» і ад полацкага князя Андрэя Альгердавіча на «реку Званицю з гоны з [бо]бровыми от Звана озера до Дрысы»[23]. Дабрылава Евангелле 1164 г. і «Лесвіца» былі куплены ў Гомелі ў 1822 г. для збору графа М. Румянцава[24], а Супрасльскі рукапіс знойдзены прафесарам М. Бабpоўскім «у кучы ўсялякіх друкаваных папер» Супрасльскага манастыра ў 1823 г.[25]



Полацкае Евангелле XII ст. (РНБ: Пог.12. Арк. 32). Срэбра, якое ўжываў ілюмінатар, з цягам часу выпаліла малюнак застаўкі.

Уся важнасць і значнасць гэтых звестак не можа, аднак, засланіць той арыфметычны факт, што доля ядра будучага Вялікага Княства ў кніжнай спадчыне Кіеўскай Русі складае прыблізна 6 (альбо 8) з 262, г. зн. ледзьве дасягае 3%. Спісаць усё на знішчэнне і рабункі пад час войнаў абсалютна нерэальна — ніякія ваенныя ці іншыя гвалтоўныя страты не могуць вытлумачыць падобную колькасную дыспрапорцыю, да таго ж Паўднёвая і Усходняя Русь, як вядома, куды мацней пацярпелі ў XII—XIII стст. ад унутраных усобіц і чужаземных нападаў. Нацягнута выглядалі б і здагадкі пра нейкі татальны і мэтанакіраваны вываз культурных каштоўнасцей

[20] Прыпісак не мае Аршанскае Евангелле, зрэшты, і яго залічэнне да кіеўскай эпохі выклікае сумненне. Большасць даследчыкаў датуюць яго другой паловай XIII ст. (*Геппенер М. В.* Слов'янські рукописи XI—XIV ст. у фондах Відділу рукописів Центральної наукової бібліотекі Академії наук Української РСР: (Огляд, опис, публикації). Київ, 1969. С. 33—34; Сводный каталог XI—XIII вв. С. 295; *Запаско Я. П.* Пам'ятки книжкового мистецтва. Українська рукописна книга. Львів, 1995. С. 48, 231) ці нават XIV ст. (*Ластоўскі В. Ю.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя. Коўна, 1926. С. 102; *Попова О. С.* Русская книжная миниатюра XI—XV вв. // ДИРК. Сб. 3. М., 1983. С. 42, 44, 70; *Шматаў В. Ф.* Аршанскае Евангелле // Спадчына. 1990. № 2. С. 13).

[21] *Запаско Я. П.* Пам'ятки книжкового мистецтва. Українська рукописна книга. С. 158.

[22] Тамсама.

[23] *Гранстрем Е. Э.* Описание русских и славянских пергаменных рукописей [Государственной Публичной библиотеки им. М. Е. Салтыкова-Щедрина]. Рукописи русские, болгарские, молдовлахийские, сербские. Л., 1953. С. 31; Рукописные книги собрания М. П. Погодина: Каталог. Вып. 1. Л., 1988. С. 28; гл. таксама: *Шулаева Д. П.* Западнорусские приписки в рукописи ГПБ Пог. 12 // ВЛУ. 1969. № 8.

[24] Сводный каталог XI—XIII вв. С. 97, 231.

[25] *Нікалаеў М. В.* Палата кнігапісная. С. 36—37.

за межы ВКЛ у пазнейшыя часы, напрыклад у Маскоўскую дзяржаву ў XVII ст. Такія выпадкі таксама вядомыя (пра некаторыя з іх мы скажам далей), але мелі адзінкавы характар, а галоўнае, як здаецца, не закраналі твораў найдаўнейшай, кіеўскай кніжнасці.

Але яшчэ большай памылкай была б вынова на гэтай падставе пра амаль што поўную непісьменнасць, цемрашальства, ледзь не першабытнасць Паўночна-Заходняй Русі — той дзікай (паводле старабеларускай і польскай традыцыі) літвы, што, па словах кніжніка, «из болота на свет не выникиваху»[26], з якой бралі даніну хіба толькі скурамі ды драўлянай карой[27] і якую брыдзіліся ўжываць нават як нявольнікаў[28]. Спашлемся на працу Ф. Гурэвіч, дзе сабраны кніжна-археалагічны (пісьмовыя прылады, фрагменты пераплётаў) і эпіграфічны матэрыял XI — першай паловы XIII ст. з раёна найбольш, здавалася б, глухога, ва ўсялякім выпадку найбольш аддаленага ад буйнейшых культурных цэнтраў Русі — з гарадоў Панямоння: Наваградка, Гродна, Ваўкавыска. Мы бачым тут кірылічныя надпісы на прасніцах, амфарах, медальёнах, пячатках, іконках, на мурах цэркваў і жылых будынкаў і г. д.[29] Было знойдзена таксама 7 металічных зашпілек для кніжных пераплётаў[30] і, у Наваградку, 14 стыляў для пісьма. Параўнанне іх з аналагічнымі знаходкамі ў Ноўгарадзе Вялікім прывяло аўтара да надзвычай важнай высновы аб прыкладна аднолькавым распаўсюджанні пісьма на васковых дошках у абодвух гарадах[31]. Асабліва падкрэслім: далёкі Наваградак апынуўся на адной роўні не з чым-небудзь, а са старажытнай сталіцай Русі, з даўнім і агульнапрызнаным цэнтрам кнігавытворчасці, летапісання і бытавога пісьменства. Зразумела, што гэтае апошняе, як і вывучэнне граматы, не можа існаваць без наяўнасці ў грамадстве пэўнага мінімуму кніг і пэўнай ступені іх распаўсюджанасці. Нам няма патрэбы спыняцца на іншых знаходках, на берасцяных граматах Віцебска і Мсціслаўля[32] і да т. п., каб цвёрда канстатаваць: гіпотэза аб Паўночна-Заходняй Русі XII—XIII стст. як каланізаванай ускраіне, як рэгіёне фіксаванай і заканамернай культурнай адсталасці павінна быць адкінута.

Такім чынам, мы маем відавочную супярэчнасць паміж станам пісьмовай культуры паводле археалагічных крыніц і рэальным заходнерускім працэнтам у кніжным фондзе Кіеўскай Русі. І гэты феномен зусім не выключаецца межамі паўночна-заходняга рэгіёну. Згодна з найстараннейшым падлікам даследчыка ўкраінскай кнігі Я. Запаска, агульная колькасць ацалелых паўднёварускіх кніг XI—XIII стст. — 49 кодэксаў поўных альбо ў фрагментах звыш 10 аркушаў[33], што на парадак вышэй, чым у ВКЛ. Але бадай што яшчэ больш яскрава высвечвае прынцыповае палажэнне: амаль 80% кніжных помнікаў кіеўскай эпохі дайшлі да нас праз зборы, праз культуру, праз грамадскае асяроддзе Паўночнай і Паўночна-Усходняй Русі[34]. Наўрад ці мы зараз можам

[26] БЛДР. Т. 5. С. 90.

[27] *Dlugossii J.* Annales... Liber 10. P. 166. — У пісьменнікаў XVI ст. гэтыя скуры (perisomata) ператварыліся ў зусім ужо абразлівыя «венікі».

[28] Як яшчэ магчыма разумець перададзеную аўтарам XVI ст. М. Стрыйкоўскім старажытнарускую прыказку (бясспрэчна, аўтэнтычную): «Romanie, Romanie! lichym się karmisz, Litwuju oreż!» (*Stryjkowski M.* Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1. Warszawa, 1846. S. 202).

[29] *Гуревич Ф. Д.* Грамотность горожан древнерусского Понеманья // КСИА. 1973. Вып. 135. С. 32—34.

[30] Тамсама. С. 34.

[31] Тамсама. С. 31—32.

[32] Агляд эпіграфічнага матэрыялу па тэрыторыі Беларусі гл.: *Медынцева А. А.* Грамотность в Древней Руси: По памятникам эпиграфики X — первой половины XIII века. М., 2000. С. 41—43, 58—61, 66, 85—86, 91, 169—170, 214—215.

[33] *Запаско Я. П.* Пам'ятки книжкового мистецтва. Українська рукописна книга. С. 15, 31, 44—45.

[34] Па сутнасці, тая ж сітуацыя існуе і ў іншых сферах духоўнай культуры: практычна ўсе помнікі літаратуры, летапісання, народнай творчасці Старажытнай Русі вядомыя нам выключна праз літаратуру, летапісанне, фальклор Поўначы і Паўночнага Усходу. У 1860—1861 гг. у Аланецкай губерні запісваюцца быліны пра войны Рамана Галіцкага з літоўскімі «каралевічамі» (Песни, собранные П. Н. Рыбниковым. Т. 1. Петрозаводск, 1989. С. 320—323; Т. 2. Петрозаводск, 1990. С. 197—204, 281—286, 330—335) — г. зн. пра падзеі канца XII ст., якія даўным-даўно сцерліся з гістарычнай памяці ўкраінцаў і беларусаў. Погляд, быццам пад літоўцамі ў гэтых былінах трэба разумець «Лівонскі ордэн, які вылучаўся, як вядома, надзвычайнай нават для сярэднявечча жорсткасцю» (*Мирзоев В. Г.* Былины и летописи — памятники русской исторической мысли. М., 1978. С. 50), не толькі нічым не абгрунтаваны, але і незразумелы па сутнасці, бо самыя маляўнічыя зверствы ўчыняе, паводле былін, сам князь Раман.

даць поўную разгадку гэтага парадоксу. Рызыкнем усё ж дапусціць, што яна ляжыць у наступнай гісторыі ўсходнеславянскіх краін, у перыядзе інтэнсіўнай культурнай дывергенцыі XV—XVII стст. Інакш кажучы, Маскоўская і Наўгародская Русь выявіліся як куды больш здольныя і ўдзячныя рэцыпіенты старажытнай спадчыны, чым Русь Кіеўская, Галіцкая, Літоўская. Такое пачуццё, быццам помнікі гэтай спадчыны выштурхоўвалі з паўднёвых і заходніх раёнаў, адхілялі там — і падхоплівалі, клапатліва захоўвалі, капіявалі ва Уладзіміры і Суздалі, Ніжнім Ноўгарадзе і Кастраме, у далёкіх паўночных манастырах і г. д. Вядома, гэты працэс расцягнуўся на шэраг стагоддзяў і для сучаснікаў быў практычна непрыкметны, але калі ў XVII ст. імклівае станаўленне украінскай нацыянальнай самасвядомасці і задачы рэстаўрацыі класічнай царкоўнаславянскай мовы патрабавалі звароту да крыніц, да помнікаў старажытнакіеўскага пісьменства — іх проста (за малым выключэннем) не знайшлося. I аўтары Густынскага летапісу і «Сінопсісу» былі вымушаны перапісваць у «ненавісных» каталікоў Кромера і Марціна Бельскага анекдоты пра тое, як ваявалі са славянамі Аляксандр Македонскі і Аўгуст-кесар, і што Сармацыя «прозвася гречески от народа, имуща подобіе ехидныних, или ящурчих, очес»[35].

Канкрэтныя формы авалодання маскоўцамі рэсурсамі кіеўскай кніжнасці былі разнастайныя — сярод іх і ваенныя канфіскацыі, і царкоўныя рэвізіі, і скупка, і крадзеж, і падманы[36]. Таму нічога дзіўнага, што ва ўкраінскай і беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі XX ст. не раз гучала думка пра вяртанне культурнага набытку гэтых народаў, інтэлектуальнай маёмасці Паўднёвай і Заходняй Русі. Мы не будзем падтрымліваць ці абвяргаць гэтыя эмацыянальныя тэзісы, зазначым толькі, што такога роду патрабаванні з'явіліся гадоў праз 200 пасля самой з'явы, а сучаснікам такое і ў галаву не прыходзіла[37]; і яшчэ звернем увагу на тое, што за стагоддзі суіснавання і барацьбы паміж ВКЛ і Масквой, барацьбы з вельмі пераменным поспехам, калі сапраўды, па словах Пушкіна, «не раз клонилась под грозою то их, то наша сторона», вектар перамяшчэння кніжных каштоўнасцей да канца XVII ст. заставаўся нязменны — з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Важнейшым зыходным пунктам гэтага руху быў пераезд мітрапаліта Максіма ў 1299 г. са спустошанага манголамі Кіева ва Уладзімір-на-Клязьме. Дапусцім, Кіеў неабходна было пакінуць[38]; але гісторыкі царквы даўно заўважылі, што патрэбна была асабліва важкая прычына, каб мітрапаліт (да таго ж грэк) перанёс сваю рэзідэнцыю не ў бліжэйшы паўднёвы і дастаткова магутны Галіч, а ў далёкі халодны Уладзімір[39] (разбураны, дарэчы, не менш за Кіеў) — тым больш што і папярэднік, і наступнік Максіма на мітраполіі былі ўраджэнцы Валыні.

Найбольш верагодна, што мітраполія проста не давярала Галічу як палітычнай сіле. Канстанцінопальская ідэалогія, зазначае гісторык царквы, патрабавала «аб'яднання Русі пад уладай не толькі адзінага мітрапаліта, але і пад уладай адзінага гаспадара: адно без другога было немагчыма», аднак менавіта «Галіч, з яго перавагай баяраў, слабасцю каралеўскай улады... бязладдзем у кіраванні, вынікам чаго была, у далейшым, страта галіцкай самастойнасці, з'яўляўся ва ўсіх дачыненнях непрыдатным для ажыццяўлення гэтых ідэй... Даводзілася звяртацца да Усходняй Русі»[40]. Гэтыя тэндэнцыі зараз жа

[35] Українська література XVII ст. Київ, 1987. С. 151, 168, 169.
[36] Нават такія тонкія, як невяртанне кніг, што былі ўзятыя нібыта (ці напраўду) для перапіскі (*Запаско Я. П.* Пам'ятки книжкового мистецтва. Українська рукописна книга. С. 15).
[37] У 1415 г. у Навагрудку збіраецца царкоўны сабор для абрання свайго, літоўскага, асобнага ад Масквы мітрапаліта. У адрас маскоўскага мітрапаліта Фоція гучыць шэраг абвінавачванняў, у тым ліку і ў вывазе святыняў і скарбаў з Кіева (РИБ. Т. 6. 2-е изд. СПб., 1908. Стб. 309—311 1-й араб. паг.; параўн.: ПСРЛ. Т. 11. М., 2000. С. 228); пра кнігі, якія безумоўна былі сярод кіеўскіх каштоўнасцей, ніхто і не ўспомніў.
[38] Зрэшты, пасля Батыевай навалы прайшло амаль 60 гадоў, а спусташэнне Кіеўшчыны, як паказаў яшчэ М. Грушэўскі, моцна гіпербалізавана ў летапісах (*Грушевський М. С.* Історія України-Руси. Т. 3. Київ, 1993. С. 143—150).
[39] *Голубинский Е. Е.* История русской церкви. Т. 2, ч. 1. М., 1997. С. 95. — А. Карташоў мяркуе, што Галіч быў адхілены ў якасці цэнтра мітраполіі, бо яго «праваслаўную рэпутацыю... загубілі уніяцкія авантуры Данілы Раманавіча Галіцкага» (*Карташев А. В.* Очерки по истории русской церкви. Т. 1. М., 2000. С. 363). Але да гэтага моманту Даніла Галіцкі ўжо 35 гадоў як у магіле, дый калі б яго «авантуры» былі такія небяспечныя для праваслаў'я, менавіта Галіч выклікаў бы асаблівую ўвагу мітрапаліта.
[40] *Соколов П. П.* Русский архиерей из Византии... С. 227.

адлюстроўваюцца ў кніжнай справе: з 1250-х гг. (а якраз у 1250 г. мітрапаліт Кірыла ўпершыню надоўга ад'язджае з Кіева ва Уладзімір) адзначаецца заняпад галіцкай літаратурнай традыцыі і афіцыйнага летапісання — і неадкладная іх рэцэпцыя ва Уладзіміра-Суздальскай Русі[41]. Ва ўсялякім разе, для нас відавочныя глыбіня і аб'ектыўны характар культурнага пералому XIII—XV стст., які нельга звесці да чыіх-небудзь зламысных намераў[42].

Такі пункт погляду можа здацца камусьці спробай рэстаўрацыі старой расійскай гістарычнай канцэпцыі, што бярэ пачатак яшчэ ад XVI ст., аб перамяшчэнні цэнтра жыцця рускага народа з Кіеўскай Русі ва Уладзімірскую, адтуль у Маскву і г. д. — канцэпцыі, супраць якой у свой час з такім імпэтам выступіў М. Грушэўскі[43] і якая, хай і больш асцярожна, была асуджана рускай навукай[44]. Сапраўды, нейкае падабенства ёсць. Не ўсё ў крытыцы Грушэўскага можа быць прынята. Яго прынцыповы тэзіс «Кіеўская дзяржава, права, культура былі прадуктам адной народнасці, украінска-рускай, уладзіміра-маскоўская — другой, велікарускай»[45] падаецца груваcткай механічнай схемай, дзе дзейнічаюць спрадвечна нязменныя і прывязаныя да пэўных геаграфічных раёнаў «народнасці». Але галоўнае не ў гэтым. Грушэўскі меў рацыю, калі пісаў, што традыцыйная канцэпцыя выпіхвае гісторыю ўкраінскага (і, дадамо, беларускага) народа на абочыну навукі (у краязнаўства, скажам цяпер, грунтуючыся на савецкім вопыце), што «пачатковыя стадыі гістарычнага жыцця ўкраінскага народа танулі ў гэтай «рускай гісторыі», сярэднія вякі (XIV—XVI) знікалі ў гісторыі в. кн. Літоўскага і Польшчы, і пры ўкраінскай гісторыі, як яна звычайна мыслілася, заставаліся толькі перыяды «отпадения от Польши» і «присоединения к России»[46]. Як, верагодна, ужо мог заўважыць чытач, нашы погляды палярна супрацьлеглыя. У тэндэнцыях адарвання Паўднёвай і Заходняй Руссю кіеўскай спадчыны мы бачым не здзічэнне, не ператварэнне ў «культурныя задворкі», а наадварот — глыбінныя працэсы, што патэнцыяльна вялі да фармавання новага тыпу культуры. У гэтых, магчыма, высакамоўных словах няма ніякай містыкі: змяняўся гістарычны лёс зямель і людзей — змянялася і светаўспрыманне (ментальнасць), змяняліся (вельмі павольна, паўторым, і непрыкметна для сучаснікаў) каштоўнасныя і эстэтычныя ўяўленні. І штуршок гэтаму быў дадзены яшчэ да мангольскага нашэсця.

19 чэрвеня 1205 г. армія галіцка-валынскага князя і фактычнага дыктатара ўсёй Паўднёвай Русі Рамана Мсціславіча (вядомага ката і садыста, які, мусіць, першы на Русі пачаў ужываць у буйных маштабах такія кары, як закопванне жывым у зямлю, здзіранне скуры, выдзіранне вантробаў і да т. п.) была нашчэнт разбіта войскам кракаўскага князя Лешка Белага ля Завіхоста на Віслe. Загінуў і сам Раман. Палітычная раўнавага ў рэгіёне рэзка парушылася. Паміж 1208 і 1211 гг. на Валынь абрынуўся вораг, якога да той пары тут ведалі толькі з аповедаў пра далёкія паходы доблеснага Рамана. «Олександру седящу в Володимере, а брату его Всеволоду в Червьне, Литва же и Ятвезе воеваху и повоева же Туриск, и около Комова, оли и до Червена... Беда бо бе в земле Володимерьстеи от воеванья Литовьского и Ятвяжьского», — так кажа летапіс[47], фіксуючы з'яўленне на міжнароднай арэне новай самастойнай ваенна-палітычнай сілы. Праходзіць некалькі гадоў, і ўдава Рамана падпісвае з літоўскімі князямі (пералічана звыш 20 імён) мірную і саюзніцкую дамову. Гэтая дамова (каля 1219 г.) — першае (і бясспрэчнае) сведчанне існавання літоўскай

[41] *Лихачев Д. С.* Исследования по древнерусской литературе. Л., 1986. С. 201—225.

[42] Як заўважае сучасны кнігазнаўца, усходнеславянскія народы «былі аб'яднаны ў перыяд Кіеўскай Русі не столькі этнічным і тэрытарыяльным паходжаннем, колькі адзінай структурай улады, якая цягнула да унітарнай арганізацыі. Татара-мангольскае нашэсце, зруйнаваўшы гэтую структуру ўлады і тэрытарыяльныя сувязі, прывяло да заняпаду духоўнай культуры Кіеўскай Русі, што, натуральна, зрабіла ўплыў і на кніжную культуру» (*Дубровіна Л. А.* Кодикологія та кодикографія української рукописної книги. Київ, 1992. С. 179).

[43] *Грушевський М. С.* Звичайна схема «русскої» історії й справа раціонального укладу історії східного слов'янства//Статьи по славяноведению. Вып. 1. СПб., 1904; Ён жа. Історія України-Руси. Т. 1. Київ, 1994. С. 3—4.

[44] Гл., напр.: *Пресняков А. Е.* Образование Великорусского государства. С. 13—15.

[45] *Грушевський М. С.* Звичайна схема «русскої» історії... С. 299. — Мы добра разумеем, што перад вучоным стаяла грамадска-палітычная (справядлівая і высакародная) задача: дамагчыся незалежнасці і раўнапраўнасці ўкраінскага народа і яго гістарыяграфіі; але мы зараз ацэньваем не публіцыстычны, а навуковы змест.

[46] *Грушевський М. С.* Історія України-Руси. Т. 1. С. 4.

[47] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 721; БЛДР. Т. 5. С. 188.



*Полацкае Евангелле XIV ст. (РНБ: F.п.I.17). Прыпіска паведамляе аб тым, што Стэфан, баярын пана Хадкевіча, стаўшы інакам Сергіем, сплаціў укуп манастыру св. Іаана Прадцечы на востраве.*

дзяржаўнасці, хоць яшчэ вельмі своеасаблівай і далёкай ад якога-небудзь манархічнага пачатку. Але сярод князёў ужо называецца Міндоўг, а неўзабаве словы «Літва» і «Міндоўг» робяцца амаль што сінонімамі[48]. «Літва Міндоўга» адчувае сваю сілу, але асцерагаецца Галіча, які пры ўсіх унутраных закалотах здаваўся сучаснікам моцнай ваеннай дзяржавай. Мангольскае заваяванне 1237—1241 гг. зняло і гэты абмежавальнік. Ад гэта-

[48] Пад 1235 г. чытаем, як Даніла Галіцкі «возведе» ў паход на Мазовію Ізяслава Наваградскага і «Літву Миндога» (ПСРЛ. Т. 2. Стб. 776; БЛДР. Т. 5. С. 232), а крыху ніжэй — што галіцкія князі «посласта в Литву помощи просяща, и послана бысть от Миндога помощь» (ПСРЛ. Т. 2. Стб. 801; БЛДР. Т. 5. С. 250).



*Полацкае Евангеле XIV ст. (РНБ: F.п.I.17). На ніжнім полі запіс інака Лаўрэнція і яго брата інака Сімона полацкаму манастыру св. Іаана «сяла на Сушыне», якое яны купілі ў гаспадарскіх людзей.*

га часу нарастае колькасць літоўскіх нападаў на ўсе сумежныя рускія землі — веерам, ад Полацка да Брэста. Нейкую абарону — і то з мангольскай дапамогай — трымае толькі Галіцка-Валынскае княства; у іншых раёнах супраціўленне цалкам адсутнічае. «Што хто приемлеть, собе держить», — з такой гарантыяй Міндоўг пасылае сваякоў ваяваць да Смаленска[49], прасцей кажучы: бярыце вы ў іх колькі хочаце, праблем не будзе. Сапраўды,

[49] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 815; БЛДР. Т. 5. С. 262.

суцэльна прагнілае Полацкае княства[50] ператвараецца ў плацдарм, з якога літоўскія атрады ходзяць на Пскоў і Ноўгарад, Таржок і Цвер, дабіраючыся ледзь не да Яраслаўля[51]. З 1260-х гг. у Полацку ўжо і de jure сядзяць літоўскія князі. Гэтак жа на працягу другой паловы XIII ст. валяцца Тураўскае і Пінскае княствы. Гісторыкі патрацілі шмат высілкаў, спрабуючы неяк прымірыць, звесці разам сведчанні рускіх, беларуска-літоўскіх і польскіх летапісаў і хронік аб гэтых падзеях. Справа аказалася цалкам безнадзейнай: храналогія і генеалогія атрымліваюцца самыя фантастычныя (накшталт змены чатырох пакаленняў за 30 гадоў), а чаргаванне на адным стале рускіх і літоўскіх князёў стварае настолькі дзіўную цераспалосіцу, што некаторыя аўтары высунулі нават тэорыю аб «літоўска-рускім сукіраўніцтве», напрыклад, у Тураве[52].

Думаецца, усё было прасцей (хоць у чымсьці і больш складана, як само жыццё). Літоўскія заваёўнікі спачатку досыць абыякава ставяцца да пытанняў, кажучы сучаснай мовай, дзяржаўнага будаўніцтва на заваяваных землях, захоўваюць рускіх князёў (зразумела, без якой-небудзь рэальнай улады), дазваляюць некаторым княжацкім лініям павымірацць натуральным чынам (як у тым жа Тураве і, здаецца, у Полацку). Але падобнае становішча трывае параўнальна нядоўга. На пачатку XIV ст. на ўсіх княжацкіх сталах сядзяць ужо літоўцы, і да гэтага ж часу абшары новай дзяржавы дасягаюць пэўных прыродных межаў — Дзвіны і Дняпра на паўночным усходзе і ўсходзе і басейна Прыпяці на поўдні. Тэрыторыя стабілізуецца, пачынаецца новы перыяд.

З унутранага боку літоўскае грамадства гэтай ранняй эпохі ўяўляе — у сваіх вышэйшых і найвышэйшых сферах — карціну не менш дынамічную і баявую. З шасці першых «вялікіх» князёў, ад Міндоўга да Віценя, пра трох напэўна вядома, што яны загінулі ад рук наближаных асоб. Але на бязвінных ахвяр яны ніяк не падобныя. Рэзюміруючы панаванне Міндоўга, летапісец не знаходзіць пра яго іншых слоў, як «нача избивати братью свою и сыновце свои, а другия выгна и земле, и нача княжити один во всеи земле Литовьскои»[53]. Увогуле ж Міндоўг выпрацаваў асаблівы стыль расправы з супраціўнікамі — выкарыстанне знешніх войнаў. Для пачатку ён адпраўляе свайго дзядзьку і двух пляменнікаў у паход на Смаленск, а ўслед за ім — брыгаду забойцаў, каб канчаткова вырашыць сваяцкія пытанні. Справа адразу не ўдаецца, пераходзіць у дыпламатычны план, і Міндоўгу даводзіцца нават прыняць хрост (паводле каталіцкага абраду) — чаго не зробіш дзеля вартай мэты. Пляменнік Таўцівіл бяжыць у Жамойць. Пачынаецца новая вайна, Міндоўг пасылае туды князя Вісімонта, а тым часам забівае ягоных братоў; неўзабаве гіне пры няясных абставінах і Вісімонт[54]. У рэшце рэшт у выніку змовы забіваюць і самога Міндоўга з двума сынамі. Адзін з яго забойцаў і наступнік Транята ўпэўнена працягвае яго справу, распраўляецца нарэшце з Таўцівілам, але вельмі разгарнуцца не паспявае — у тым жа годзе ён зарэзаны сваімі слугамі «па дарозе ў лазню»[55]. Пра князя Трайдзеня летапісец зусім не хоча казаць, заўважаючы толькі, што «егоже беззаконья не могохом писати срама ради»[56]. Нават святы манах Войшалк, сын Міндоўга, па

[50] Гэта тое, што А. Краўцэвіч далікатна называе «традыцыйнай палітыкай мірных адносін з літоўцамі» (*Краўцэвіч А. К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 142). Наконт мірных традыцый гл. «Слова пра паход Ігаравы» пра князя Ізяслава Васількавіча, які «под чрълеными щиты на кроваве траве притрепан литовскыми мечи» (БЛДР. Т. 4. С. 262).

[51] Многія летапісы захавалі даволі выразны расказ. У 1245 г. літоўцы зрабілі чарговы набег на Таржок і Бежацк. Вялікі князь Аляксандр Неўскі кінуўся ў пагоню за грабежнікамі, разбіў іх, адабраў палон, а па дарозе заскочыў у Віцебск, літаральна «вырваў» адтуль («поима») свайго малалетняга сына Васіля і «поиде к Новугороду в мале дружине» (гл., напр.: ПСРЛ. Т. 3. М., 2000. С. 79, 304; Т. 6, вып. 1. М., 2000. Стб. 317; Т. 39. М., 1994. С. 84). Карамзін меркаваў, што «юны сын Аляксандраў гасцяваў тады ў свайго дзеда, Брачыслава Полацкага» (*Карамзин Н. М.* История государства Российского. Т. 4. М., 1992. С. 188), але нам цяжка паверыць, што Васіль нібыта адпачываў у Віцебску ўлетку на дачы. Хутчэй за ўсё Брачыслаў ужо не жыў, і Аляксандр пасадзіў у Віцебск сына, імкнучыся прыбраць княжанне да сваіх рук (*Александров Д. Н.* Русские княжества в XIII—XIV вв. М., 1997. С. 342). Вынікі, як гаворыцца, відавочныя.

[52] Тамсама. С. 128—129.

[53] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 858; БЛДР. Т. 5. С. 294.

[54] Мы прымаем тут трактоўку летапісных сведчанняў, пададзеную В. Насевічам (Насевіч В. Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага. Людзі і падзеі. Мн., 1993. С. 40—41).

[55] Тамсама. С. 56.

[56] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 869; БЛДР. Т. 5. С. 302, 304.

праўдзе, яшчэ да свайго прасвятлення праваслаўным хростам робіць ў Наваградку нейкую крывавую лазню, «убивашеть бо на всяк день по три, по четыри, которого же дні не убьяшеть кого, печаловашеть тогда»[57]. Але і пасля, ужо ў манаскім чыне, у прамежках між духоўнымі подзвігамі, заснаваннем манастыроў, паломніцтвам на Афон і да т. п., паспявае і «вороги свое избивати, изби их бещисленое множество, а друзии розбегошася камо кто видя»[58], пакуль сам не гіне, «засечаны Львом (Галіцкім. — *М. Н.*) уласнаручна пасля «сяброўскай» размовы на балі, куды Леў сам жа яго і запрасіў»[59]. Але дзіўная справа — увесь гэты крывавы кругаверт нібы не закранае асноў грамадства, не ідзе ўглыб, не разбурае пачаткі дзяржаўнасці, наадварот, можна сказаць, што гэтыя дзікія 70-гадовыя смуты нейкім чынам уяўлялі сабой працэс палітычнага будаўніцтва. Так ці інакш, пасля іхняга сканчэння Гедымін атрымлівае (у 1316 г.) моцную і стабільную ўладу над новай дзяржавай, што трывала ўсталявалася ў самым цэнтры Усходняй Еўропы.

І лепшы паказчык адрознення гэтай новай, літоўскай Русі ад старых рускіх княстваў — манголы. Для іх межы літоўскіх заваяванняў сталі амаль неадольнай перашкодай. У 1259 г. Бурундай канчаткова ставіць на калені Галіцка-Валынскае княства; непасрэднай жа прычынай гэтага з'яўляецца крах (гадам раней) саюзнай мангола-галіцкай экспедыцыі супроць Літвы. Наймаштабнейшая выправа, задуманая амаль як паўтор Батыевай, заканчваецца накшталт рабаўнічага наезду: «Василкови же (валынскі князь Васілька Раманавіч. — *М. Н.*) едущу по Борундаи одиному по Литовьскои земле, обрет негде Литву, избив ю и приведе саигат Бурондаеви»[60]. Адносна ваенных дзеянняў гісторык слушна заўважае, што «Валынскі летапіс паведамляе галоўным чынам аб Васільку, які беспаспяхова шукаў у Літве схопленага пляменніка, Наўгародскі ж абмяжоўваецца адной загадкавай фразай: «Тои ж зимы взяша татарове всю земли Литовскую, а самехь избиша» (каго «самія»? літоўцаў? татар?)»[61]. Два наступныя паходы (паводле летапісу, 1274 і 1277 гг.) завяршаюцца гэтак жа бяздарна. У адным выпадку саюзнае войска спыняецца, убачыўшы пару, якая ідзе з-за гары, і лічачы, што гэта конніца праціўніка; але выявілася, «оже нетуть рати, но паря идяшеть со истоков, текущих из гор, зане морозе бяхуть велице»[62]. У другім — пакуль манголы спусташаюць ваколіцы Наваградка, галіцка-валынскія князі адпраўляюць свайго ваяводу пад Ваўкавыск, дзе прусы і борты вынішчаюць альбо бяруць у палон увесь яго атрад. Князі вымушаны былі пайсці на перамовы — «и докончаша с горожаны, како города им не имати, а свое бояры выимати. Бояры свое поимаша, а городу не въспеша ничего же, тако возвратишася во свояси»[63]. З усёй гэтай невыразнасці, набору паўанекдатычных ці яўна ганебных для захопнікаў фактаў відавочна адно: пакарэнне Літвы цалкам праваліласа.

Гісторыкі ледзь не з часоў М. Стрыйкоўскага неаднойчы адзначалі вялізнае значэнне пры станаўленні ВКЛ «татарскага чынніку» — у тым сэнсе, што перспектывы вызвалення ад мангольскай улады і мангольскай даніны наймацнейшым чынам садзейнічалі кансалідацыі рускіх зямель вакол Літвы. Мы ж павернем гэты факт іншым бокам: свабода ад манголаў — гаспадароў амаль усёй Усходняй Еўропы — клала рэзкую мяжу паміж княжаннямі, гарадамі і грамадствамі, якія яшчэ ўчора былі цесна звязаны адно з адным праз эканамічныя, культурныя, генеалагічныя сувязі. У палітычным плане гэта выяўлялася ў паўсюдным падзенні княжацкіх сталоў Рурыкавічаў і пераходзе ўлады да літоўскіх дынастаў[64]. Беларуска-літоўскія летапісы аднадушна сведчаць пра мірны харак-

[57] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 858; БЛДР. Т. 5. С. 294.
[58] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 861; БЛДР. Т. 5. С. 298.
[59] *Насевіч В. Л.* Пачаткі Вялікага княства Літоўскага. С. 57.
[60] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 847; БЛДР. Т. 5. С. 286.
[61] *Насевіч В. Л.* Пачаткі Вялікага княства Літоўскага. С. 47.
[62] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 873; БЛДР. Т. 5. С. 306.
[63] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 878; БЛДР. Т. 5. С. 310.
[64] В. Насевіч сцвярджае, што «працэс «літвізацыі» княжанняў моцна залежаў ад генеалагічнага стану мясцовых дынастый: у гарадах, князі якіх мелі сыноў ці малодшых братоў, уладкаванне чужынца было малаверагодным» (*Насевіч В. Л.* Генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў 12—18 стагоддзяў. Мн., 1993. С. 9). Калі разумець гэтую думку літаральна, прыйдзецца дапусціць загадкавую эпідэмію бясплоднасці, што пазбавіла ўсіх заходнерускіх Рурыкавічаў нашчадкаў на працягу двух-трох пакаленняў.

тар працэсу[65] — насельніцтва проста выракалася, выпіхвала Рурыкавічаў, якія даўно сталі сімвалам краху і ганьбы, слабасці і бессэнсоўнай жорсткасці, адзінства, але адзінства наскрозь фальшывага, адзінства заўсёдных войнаў і крыві і пры гэтым поўнага бяссілля і нават рабалепства перад знешнім ворагам. З другога боку, гэтая свабода служыла магутным аб'яднальным чыннікам, які рэальна згуртоўваў землі Паўночна-Заходняй Русі задоўга да ўстанаўлення іхняга дынастычнага адзінства пад «гербам Калюмнаў». Шукаць беларускі нацыянальны ўздым у XIII ст.[66] няма патрэбы — названыя фактары, нават матэрыяльныя, ляжалі ў аснове і новай дзяржаўнасці, і новай ментальнасці, і новай культуры.



*Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх. Арк. 208 адв. Ініцыял «П».*

Зразумела, сама смутная і крывавая пераходная эпоха была маласпрыяльнай для захавання існуючых альбо ўзнікнення новых помнікаў культуры. Таму наўрад ці мае рацыю В. Насевіч, калі кажа аб «бясспрэчным дамінаванні» Русі над Літвой у культурнай сферы ў другой палове XIII ст.[67] Культурнае дамінаванне мае перадумовай, па-першае, пэўную ўнутраную сілу, перакананасць, калі хочаце, агрэсіўнасць пануючай культуры, а па-другое, адзіную прастору культурнага ўзаемадзеяння, якая забяспечваецца ў першую чаргу адзінствам дзяржаўнай улады і тэрыторыі. У XIII ст. нічога падобнага, вядома ж, яшчэ не было. Разрозненыя рускія гарады пад заўсёднай пагрозай мангольскага ці галіцкага нашэсця маглі думаць толькі аб ратаванні рэштак старой культуры. Практычна адзінае непасрэднае паведамленне наконт кніг гэтага часу змешчана ў Галіцка-Валынскім летапісе, дзе апісваецца, як князь Уладзімір Васількавіч заснаваў «многы городы», у Камянцы паставіў царкву Дабравешчання Багародзіцы і «положи» ў ёй апракасныя (г. зн. з тэкстам у паслядоўнасці пры богаслужэнні) Евангелле і Апостал, а таксама Парэмійнік (богаслужбовыя тэксты Старога Запавету) і некалькі загадкавы «съборникь отца своего». У Брэсце «постави ж церков святого Петра, и еуагелие да опракос оковано сребром... туто положи», і ў Бельску «поустрои церков иконами и книгами»[68]. Дадзеныя, безумоўна, выключна каштоўныя, але ў тым і справа, што іх у большай меры трэба залічыць да культуры, так бы кажучы, «антылітоўскай» — усе гэтыя гарады будаваліся ці ўзмацняліся ў 1270—1280-я гг. на паўночных крэсах Галіцка-Валынскай дзяржавы якраз супроць літоўскіх нападаў[69].

Да гэтага ж класу з'яў трэба аднесці і факты вядзення пінскіх летапісных запісаў[70] альбо нават стварэння найпазнейшай, пятай рэдакцыі Галіцка-Валынскага летапісу (1292) дзесьці ў Пінскай зямлі, верагодна, у самім Пінску[71]. Апошняя гіпотэза грунтуецца, мяркуючы па ўсім, толькі на ўпамінанні пінскіх князёў пры апісанні пахода на Літву пад 1274 г. («идоша же с ними князи Пиньсции и Туровьсцеи»[72]), што наўрад ці можа

[65] *Улащик Н. Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 153, 155. — Думаецца, у дадзеным выпадку позні характар крыніц (XVI ст.) не павінен стаць зачэпкай для сумненняў у пэўнасці гэтых звестак: баявыя сутыкненні з любым праціўнікам заўсёды былі найважнейшым і найкаштоўнейшым зместам для летапісца, ён мог бы змоўчаць пра тую ці іншую падзею, але не стаў бы выдумляць карціны «ўсенароднай падтрымкі», уласцівыя больш для прапаганды XX ст.

[66] Гл., напр.: «Працэс збірання паасобных гістарычных абласцей Беларусі ў адзінае цэлае і ўтварэнне беларускай народнасці і культуры пачаўся раней XIV ст.» (*Ермаловіч М. І.* Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае. Мн., 2000. С. 12).

[67] *Насевіч В. Л.* Пачаткі Вялікага княства Літоўскага. С. 60.

[68] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 925, 927; БЛДР. Т. 5. С. 346, 348.

[69] *Грушевський М. С.* Історія України-Руси. Київ, 1992. Т. 2. С. 387—389.

[70] *Приселков М. Д.* История русского летописания XI—XV вв. СПб., 1996. С. 294.

[71] *Генсьорський А. І.* Галицько-Волинський літопис (Процес складання; редакції і редактори). Київ, 1958.

[72] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 872; БЛДР. Т. 5. С. 306.



*Евангеліст Іаан. Фрагмент мініяцюры Лаўрышаўскага Евангелля. Арк. 1 адв.*

лічыцца пераканальным довадам. Па праўдзе кажучы, яшчэ ў XIX ст. М. Каяловіч упэўнена пісаў, што «рускія ўцекачы ад татарскіх гвалтаў зносілі з сабой у Літву сярод сваёй маёмасці і кнігі, у тым ліку невялікую колькасць летапісаў, і, у кожным выпадку, прыносілі ў Літву ўмельства і звычку да пісання летапісаў і чытання іх»[73]. Нам няясна, чаму канкрэтна вучоны зрабіў гэтую выснову, — у крыніцах няма звестак пра падобных уцекачоў, ратаванне імі помнікаў кніжнасці і да т. п., але тут не варта чапляцца да шаноўнага гісторыка: такое цалкам магло быць. Важна іншае: усе гэтыя факты і гіпотэзы адназначна паказваюць на тое, што ў эпоху набліжэння заняпаду Галіцка-Валынскага княства на нейкі момант адбылося ўзмацненне культурнага ўплыву яго паўночнай перыферыі, ад Бельска да Пінска, г. зн. тых зямель, якія неўзабаве ўвойдуць у склад ВКЛ. Ужо фарміруецца фонд кніжных помнікаў, з якім Вялікае Княства ўвойдзе ў перыяд свайго афармленага і стабільнага існавання. Пэўную ролю адыгралі ў гэтым і сувязі з Паўночна-Усходняй Руссю.

Ад канца стагоддзя да нас дайшлі два помнікі, адносна якіх можна дапусціць магчымасць іх бытавання на землях ВКЛ у даволі ранні час. Евангелле 1270 г. (яно ж Евангелле Латыша, Сіманаўскае, Гарадзецкае)[74] уяўляе сабой ілюмінаваны апракас, дзе акрамя традыцыйных мініяцюр з выявамі евангелістаў маецца рэдкая ў кніжным мастацтве гэтага перыяду выява св. Сімана — патрона заказчыка кнігі. Кодэкс мае 4 запісы і паметы перапісчыка Георгія[75]; выхадны запіс, датаваны 23 сакавіка 6778(1270) г., у прыватнасці, кажа: «Писах же книгы сия аз, Гюрги, сын попов, глаголемаго Лотыша с Городища, стяжаниемь Симона чернца от святого Георгия, собе на спасение и всем крестияном на утеху»[76]. Кнізе нязменна прыпісваецца наўгародскае паходжанне (здаецца, толькі В. Ластоўскі знаходзіў у яе мове некаторыя віцебскія асаблівасці[77]); па ніжніх палях яе першых аркушаў ідзе пазнейшы ўладальніцкі (ці, больш дакладна, укладны) запіс скорапісам XVI ст.: «А си книга глаголимая еуангелия напрестолное Василя Слепювронскаго», і далей, пасля выскрабенага

[73] *Коялович М. О.* История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. 4-е изд. Мн., 1997. С. 63—64.

[74] Сводный каталог XI—XIII вв. № 180.

[75] *Столярова Л. В.* Свод записей писцов, художников и переплетчиков древнерусских пергаменных кодексов XI—XIV веков. М., 2000. № 106—109.

[76] Тамсама. С. 123. — «Што азначае антрапонім «Лотыш», — піша публікатар, — няясна. У слоўніках старажытнарускай мовы гэтая лексема адсутнічае» (Тамсама. С. 124). Аднак яна вядомая ў пскоўскіх гаворках (*Розов Н. Н.* Искусство книги Древней Руси и библиогеография (по новгородско-псковским материалам) // ДИРК. [Сб. 1]. С. 26) і зафіксаваная ў старабеларускай мове (Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 17. Мн., 1998. С. 123).

[77] *Ластоўскі В. Ю.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 84. — Мяшанне ц і ч, якое адзначаў Ластоўскі, ёсць характэрнай рысай і наўгародскай гаворкі (Попова О. С. Новгородская рукопись 1270 г. (Миниатюры и орнамент) // ЗОР ГБЛ. 1962. Вып. 25. С. 187).

месца, дата: «1555 месяца июня двацат третего дня»[78]. Як адзначалася ў літаратуры, і леталічэнне ад Раства Хрыстова, і характар графікі і мовы (канчатак -ия ў назоўным склоне: еуангелия) сведчаць пра бытаванне рукапісу «дзесьці на тэрыторыі сучаснай Украіны ці Беларусі»[79]. Варта заўважыць таксама, што адзіны ўкладны запіс з'явіўся амаль праз трыста гадоў пасля выхаднога. Гэта сведчыць пра рэдкія выпадкі змены ўладальнікаў рукапісу і, ускосна, пра адносна доўгі тэрмін яго бытавання ў ВКЛ.

Другі падобны прыклад з яшчэ больш складанай і блытанай гісторыяй (і гістарыяграфіяй) — Псалтыр з дадаткам 1296 г.[80] Гэта буйны кодэкс аб'ёмам 338 аркушаў, з вялізным выхадным запісам пісца Захарыі[81], які жыў дзесьці «на Волоце» і прафесійна, ледзь не з дзіцячых гадоў («из детьска обычая»), займаўся перапіскай кніг. У навуковай літаратуры Псалтыр 1296 г. вядомы ад пачатку XIX ст. У 1896 г. Я. Карскі асцярожна дапусціў: «Па ўсёй верагоднасці, перапісчык... калісьці жыў у межах Заходняй Русі», а крыху пазней адзначыў, што ў мове помніка, «сапраўды, сустракаюцца тыповыя заходнерускія рысы... але ёсць і рысы наўгародскія...»[82] Аднак ужо ў 1910-я гг. было ўстаноўлена (а ў нядаўні час падтрымана і развіта ў працах Л. Сталяровай), што апошнія два аркушы кодэкса з запісам Захарыі «першапачаткова не належалі да асноўнай часткі Псалтыра, а былі ўстаўлены ў яго пазней», а асноўная частка атрыбутуецца паводле малітоўнага і ўкладнога запісаў на папярэднім аркушы з імем пскоўскага баярына Кюра Канстанцінавіча, які вядомы па летапісах (загінуў у 1343 г.). Гэтым перыядам, такім чынам, і трэба датаваць увесь Псалтыр, акрамя двух аркушаў Захарыі[83], і менавіта да



*Псалтыр Уляны і Глеба Смаленскіх. Арк. 25 адв. Ініцыял «Н», пачатак 10-га псальма.*

пскоўскага рукапісу сярэдзіны XIV ст. адносяцца ўсе заўвагі наконт яго мовы і паходжання. Урэшце, такая выснова не выклікала агульнага прызнання. Яе па сутнасці праігнаравалі аўтары Зводнага каталога славяна-рускіх рукапісных кніг XI—XIII стст., не прыняў М. Розаў[84], а М. Шчэпкіна катэгарычна заявіла, што ўсе запісы кодэкса выкананы «почыркам таго ж перапісчыка»[85]. Вырашэнне дадзенага пытання ляжыць у галіне палеаграфіі; але нейкія, хоць даволі слабыя, заходнерусізмы магчыма знайсці і ў тэксце запісу Захарыі — як, напрыклад, напісанне *погынет* («венець цесарев скоро истлееть и сам погынет»[86]), больш блізкае да перакладаў Псалтыра ў ВКЛ, чым да агульнарускай традыцыі[87]. Канечне, моўныя асаблівасці могуць адлюстроўваць паходжанне самога перапісчыка, а не рукапісу.

Вось, бадай, і ўсе канкрэтныя факты і помнікі кніжна-пісьмовай культуры, што існавалі ў межах літоўскіх заваяванняў да таго моманту, калі на велікакняжацкі стол сеў Гедымін, які паклаў пачатак новай і, галоў-

[78] *Востоков А. Х.* Описание русских и словенских рукописей Румянцовского музеума. СПб., 1842. С. 175; параўн.: *Попова О. С.* Новгородская рукопись 1270 г. С. 187.
[79] Сводный каталог XI—XIII вв. С. 204.
[80] Тамсама. № 188; *Щепкина М. В. и др.* Описание пергаментных рукописей Государственного Исторического музея. Ч. 1: Русские рукописи // Археографический ежегодник за 1964 год. М., 1965. С. 160—161.
[81] *Столярова Л. В.* Свод записей... № 122.
[82] *Карский Е. Ф.* Западнорусские переводы Псалтыри в XV—XVII веках. Варшава, 1896. С. 22; *Ён жа.* Белорусы. Т. 1. Варшава, 1903. С. 370.
[83] *Столярова Л. В.* Древнерусские надписи XI—XIV веков на пергаменных кодексах. С. 170—176; *Яна ж.* Свод записей... С. 261—263.
[84] *Розов Н. Н.* Книга Древней Руси XI—XIV вв. М., 1977. С. 105.
[85] *Щепкина М. В.* Возможность отождествления почерков в древнерусских рукописях // ДИРК. Сб. 2. М., 1974. С. 8.
[86] *Столярова Л. В.* Свод записей... С. 150.
[87] *Карский Е. Ф.* Западнорусские переводы Псалтыри в XV—XVII веках. С. 359; параўн.: Словарь русского языка XI—XVII вв. Вып. 15. М., 1989. С. 185.



*Бурхард Страсбургскі. Сума правоў. (Burchardus Argentoratensis. Summa Juris sive de casibus.) Канец IV і пачатак V главы. Арк.77 адв. Італьянская рукапісная кніга XIV ст. з бібліятэкі Віленскай езуіцкай акадэміі.*

нае, адзінай дынастыі Літвы[88]. Амаль беспераынны перыяд панавання Гедыміна (1316—1341) і яго трэцяга сына Альгерда (1345—1377) стаўся перыядам напружаных пошукаў новай дзяржавай культурнай самаідэнтыфікацыі — і ўнутры сябе, і ў стасунках з навакольным светам. Гэтыя пошукі прымалі пераважна форму выбару рэлігіі — выбару паміж праваслаўнай і рымскай царквой. Прычым сам рэлігійны пачатак доўга заставаўся выключна ў плане формы, нейкай фармавальнай мадэлі — гэта якраз з тых выпадкаў, пра якія казаў П. Мілюкоў, калі рэлігія «ацэньвалася не згодна з унутраным сваім значэннем, а як сімвал грамадскай адасобленасці насельніцтва, што яе вызнавала»[89]. Толькі ў нашым выпадку трэба дадаць: і адасобленасці дзяржаўнай. Скажам, забягаючы наперад: задача гэтая ў поўным аб'ёме выканана не была — на Літве не знайшлося палітыка, роўнага Уладзіміру Святому. У канцы XIV ст. краіна стала аб'ектам барацьбы абедзвюх цэркваў, якая завяршылася (да часу, зразумела) своеасаблівым падзелам сфер уплыву. Усё гэта мела вельмі сур'ёзныя наступствы, і культурныя таксама.

Звычайна падаюць справу такім чынам, што Гедымін нібыта больш сімпатызаваў каталікам, у той час як Альгерд паволі, але пэўна схіляўся да праваслаў'я, і каб не яго смерць, то... і г. д. Рацыя тут ёсць, хоць рэальная карціна выглядае куды больш супярэчлівай. Сапраўды, у перапісцы Гедыміна не раз упамінаецца пра касцёлы ў Вільні і Навагрудку, якія ён будаваў альбо пасля войнаў адбудоўваў[90]. Але з самым пачаткам княжання Гедыміна супадае і небывалая ў гісторыі праваслаўнай царквы падзея — у 1316 ці 1317 г. канстанцінопальскі патрыярх Іаан Гліка ставіць асобнага мітрапаліта для Літвы. Мітрапаліт Феафіл прыязджае ў Літву і размяшчае сваю кафедру ў Навагрудку[91]. Першы раз мітраполія праіснуе нядоўга, да

[88] Мы кажам пра новую дынастыю Гедыміна, не ўнікаючы ў старадаўнюю вучоную спрэчку, даводзіўся ён свайму папярэдніку Віценю сынам, братам, ці быў яго стайнікам (і забойцай). Крыніцы апавядаюць рознае, але цікава, што апошнюю, такую непахвальную для дынастыі версію зусім пэўна выкладае Ян Длугаш (*Dlugossii J.* Annales... Liber 10. P. 92), і, як абсалютна справядліва заўважыў яшчэ Карамзін, нельга спасцігнуць, навошта храніст, што жыў і пісаў у часы Казіміра Ягелончыка — праўнука Гедыміна, стаў бы выдумляць «байку, настолькі абразлівую для гонару каралеўскага роду» (*Карамзин Н. М.* История государства Российского. Т. 4. С. 280). «Удар перуна», ад якога, паводле Хронікі Быхаўца, памёр (надзіва дарэчы) Віцень (ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 136), нагадвае, як дзве кроплі вады, «апаплексічныя ўдары» і «гемараідальныя колікі», што здараліся з манархамі наступных стагоддзяў. Урэшце гэтыя падрабязнасці вялікага значэння не маюць: роля Гедыміна як заснавальніка дынастыі вызначана ўжо яе назвай, а таксама тым, што менавіта з яго часу знікае ўся блытаніна і фантастыка, якой праз край поўная генеалогія і храналогія літоўскіх князёў XIII ст.

[89] *Милюков П. Н.* Очерки по истории русской культуры. Т. 3. М., 1995. С. 13.

[90] Послания Гедимина. Вильнюс, 1966. С. 25, 31, 45, 53, 55.

[91] Не закранаем тут пытанне, ці ўваходзілі ў гэты час у склад Літоўскай мітраполіі галіцка-валынскія епархіі і, адпаведна, ці не была яна ў юрыдычным сэнсе толькі перайменаванай Галіцкай, якая ўпершыню была ўтворана ў 1303 г. Больш важна тое, што цяпер мітрапаліцкай епархіяй стала сама Літва, а кафедрай — яе «першапрастольная сталіца».

смерці Феафіла (мусіць, у 1330 г.); паводле думкі некаторых гісторыкаў, яна не была скасавана, а проста «не змяшчалася» ў складанай гульні канстанцінопальскай палітыкі[92]. У далейшым вялікі князь Альгерд адновіць барацьбу за мітраполію і паспрабуе захапіць нават кіеўскую кафедру, але ўся бурная гісторыя яго стаўленікаў — мітрапалітаў Феадарыта і Рамана — не можа засланіць той факт, што мітрапаліт у Наваградку не мог з'явіцца без згоды Гедыміна, а хутчэй за ўсё, і пастаўлены быў па яго патрабаванні[93]. З іншага гледзішча, Альгерд быццам і сапраўды быў блізкі да грэка-візантыйскай царквы. Абедзве яго жаніцьбы на праваслаўных рускіх князёўнах, знаходжанне пры другой яго жонцы, Ульяне Цвярской, у якасці духоўніка самога кіева-пячэрскага архімандрыта склалі яму трывалую рэпутацыю абаронцы праваслаў'я[94]. Хроніка Быхаўца (XVI ст.) пераконвае, што Альгерд ахрысціўся яшчэ ў маладосці[95], хоць тут жа апавядае, як ён пасадзіў за ваяводу ў Вільні каталіка Пятра Гаштольда, які адразу прывёў «z Lachow 14 mnichow franciszkan, y założy klasztor Matki Bożoy...»[96] Альгерду належаць і такія сумніўныя, з праваслаўнага пункту погляду, подзвігі, як расправа з «трыма літоўскімі пакутнікамі» (1347) і пакаранне смерцю 500 віленскіх мяшчан за забойства сямі францысканцаў.

Думаем, лепшыя аўтарытэты ў гэтым пытанні — самі царкоўныя ўлады. І ў Канстанцінопалі, і ў Маскве, з якімі Альгерд часта знаходзіўся ў вострых канфліктах, яго шмат лаялі і бязбожным, і паганым, і вогнепаклоннікам[97], аднак ні разу не паўставала пытанне аб яго царкоўным асуджэнні, адлучэнні, нарэшце. Немагчымая, калі б Альгерд быў хрысціянінам, была б і кананізацыя — пры яго жыцці, у 1374 г.! — пакараных па яго загадзе «трох пакутнікаў». Але для Альгерда, як і для яго бацькі, язычніцтва ўжо не натуральны светапогляд племяннога грамадства, а хутчэй палітычная маска, спосаб уплыву і адначасова захавання «свабоды рук». Адсюль і своеасаблівая талерантнасць, вядома, у паняццях XIV ст., калі для аховы чужога культу можна дэманстратыўна адправіць на той свет паўтысячы суайчыннікаў[98]. І калі язычнік Гедымін будуе каталіцкія храмы ў Вільні і Наваградку, а язычнік Альгерд — праваслаўныя ў Віцебску[99], гэтае язычніцтва, як неба ад зямлі, далёкае ад язычніцтва Віценя, які ўсяго за 20 гадоў да таго, захапіўшы пад час нападу на Польшчу мноства царкоўных адзенняў і пасудзін, загадаў, паводле слоў храніста, у знак пагарды «ўжываць іх кашчунным чынам»[100].

Да эпохі князёў Гедыміна і Альгерда належыць і першы бясспрэчны кніжны помнік Вялікага Княства Літоўскага — вялікае ілюмінаванае напрастольнае Евангелле, Лаўрышаўскае[101], з'яўленне якога ў Наваградку, цэнтры праваслаўнай Літвы, звязана, па ўсёй верагоднасці, з дзейнасцю мітрапаліта Феафіла і наваградскага князя Карыята-Міхаіла, сына Гедыміна. Кніга датуецца пачаткам ці першай паловай XIV ст. і знаходзіцца ў Бібліятэцы імя Чартарыйскіх у

[92] *Соколов П. П.* Русский архиерей из Византии... С. 271, 363.

[93] Тамсама. С. 261; *Голубинский Е. Е.* История русской церкви. Т. 2, ч. 1. С. 126, 129.

[94] Гэтая рэпутацыя захоўваецца і да сёння. Зводку доказаў на карысць праваслаў'я Альгерда (пры поўным ігнараванні шматлікіх сведчанняў супроць) гл.: *Ермаловіч М. І.* Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае. С. 194–195.

[95] ПСРЛ. Т. 32. С. 139. — Яна прыводзіць таксама адказ Альгерда маскоўскаму вялікаму князю Дзмітрыю на яго абвяшчэнне вайны: «A ja dast' boh w neho budu na welik deń, a pocałuiu ieho krasnym jajcom czeraz szczyt sulicoiu...» (Тамсама. С. 140). «Чырвонае яйка» больш дарэчы, бадай, у вуснах хрысціяніна, але не выклікае сумнення фальклорны характар расказа.

[96] Тамсама. С. 140.

[97] Гл., напр.: РИБ. Т. 6. Стб. 120 2-й араб. паг.; ПСРЛ. Т. 4, ч. 1, вып. 1. Пг., 1915. С. 305; Т. 8. СПб., 1859. С. 25; Т. 16. М., 2000. Стб. 103; Т. 18. СПб., 1913. С. 118; Т. 34. М., 1978. С. 121; *Макарий (Булгаков М. П.).* История русской церкви. Кн. 3. М., 1995. С. 426, 427.

[98] Выказвалася гіпотэза, што тры пакутнікі былі змоўшчыкамі і хацелі забіць Альгерда менавіта за яго верацярплівасць, якая злавала і хрысціян, і язычнікаў (*Stadnicki K.* Olgierd i Kiejstut synowie Gedymina w. księcia Litwy. Lwów, 1870. S. 120–121). Аднак рускія летапісы зладжана кажуць пра пакутніцтва толькі за веру (*Baronas D.* Trys vilniaus kankiniai: gyvenimas ir istorija: (Istoriné studija ir šaltiniai). Vilnius, 2000. P. 304–314), не ўпамінаючы пра якія-небудзь іншыя, хай фальшывыя, абвінавачванні.

[99] *Ермаловіч М. І.* Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае. С. 139, 195.

[100] *Петр из Дусбурга.* Хроника земли Прусской. М., 1997. С. 149.

[101] *Щапов Я. Н.* Восточнославянские и южнославянские рукописные книги... Вып. 1. № 32.



*Лаўрышаўскае Евангелле. Мініяцюра з вывай евангеліста (Лукі) займае не ўсю старонку — з'ява для ілюмінаванай богаслужбовай кнігі вельмі рэдкая. Арк. 167 адв.*

Кракаве[102], факсімільнага выдання Лаўрышаўскае Евангелле дасёння не мае. Адносна асаблівасцей мовы і арфаграфіі помніка існуюць розныя погляды: аўтары пачатку XX ст. бачылі ў іх рысы ўласна крыўскія, з Паўночна-Усходняй Беларусі[103], у найноўшай жа літаратуры найперш падкрэсліваюцца яго паўднёварускія карані[104].

Гісторыя рукапісу і ўў параўнальна нядаўні перыяд досыць цьмяная. Час і абставіны, пры якіх ён апынуўся ў Чартарыйскіх, невядомыя. У 1842 г. акадэмік А. Вастокаў зрабіў першае навуковае апісанне Лаўрышаўскага Евангелля, апублікаваў шэраг прыпісак на ім і зазначыў: «...Евангелле разам з Пулаўскай бібліятэкай кн. Чартарыйскага перавезена ў С.-Пецярбург і знаходзіцца цяпер у імператарскай Публічнай бібліятэцы»[105]. Частка Пулаўскай бібліятэкі сапраўды ўвайшла ў 1833 г. у склад фондаў Публічнай бібліятэкі ў Пецярбурзе[106], але ніякіх іншых звестак аб паступленні такога рэдкага помніка няма, і самой кнігі ў Рукапісным аддзяленні, здаецца, ніколі не было. Мажліва, яна знікла разам з тымі рукапісамі і старадрукамі, адсутнасць якіх выявіла «бутурлінская» рэвізія 1843—1844 гг. (што і стала, дарэчы, прычынай адстаўкі Вастокава)[107]. Ва ўсялякім разе, у 1882 г. рукапіс ужо ў Кракаве, на сённяшнім месцы захавання[108].

Лаўрышаўскае Евангелле ўяўляе тып гэтак званага поўнага апракаса (лекцыянара), гэта значыць, змяшчае богаслужбовыя евангельскія чытанні на кожны дзень года, апроч шасці тыдняў Вялікага посту, для якіх прыводзяцца толькі суботнія і нядзельныя тэксты. Кніга складаецца з дзвюх частак. Першая ўключае чытанні ў парадку літургічнага года — ад Вялікадня да Вялікай суботы — і займае 3—320-ю старонкі рукапісу (на с. 1 і 2 знаходзяцца мініяцюры). Другая частка значна меншая: с. 320—366. Тут змешчаны чытанні (альбо паказанні на адпаведныя месцы ў першай, асноўнай частцы) па днях каляндарнага вераснёвага года — ад 1 верасня да 29 жніўня (аркушы з тэкстамі на 30 і 31 жніўня не захаваліся).

Увогуле, поўны апракас — самая пашыраная разнавіднасць евангельскіх рукапісаў сярод старaславянскіх і рускіх кніг X—XIII стст. Але мастацкая аздоба Лаўрышаўскага кодэкса робіць куды больш складанае ўра-

102 *Friedelówna T.* Ewangeliarz Ławryszewski: Monografia zabytku. Wrocław etc., 1974; *Smorąg-Różycka M.* Ewangeliarz Ławryszewski». Kraków, 1999; *Семянчук А.* Лаўрышаўскае Евангелле // Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я. Галенчанкі, Вільня — Мінск, 2009. С. 236—246.
103 *Карский Е. Ф.* Белорусы. Т. 1. С. 370—371; Свенцицкий И. С. Лаврашевское Евангелие начала XIV века: (Палеографически-грамматическое описание) // ИОРЯС. 1913. Кн. 1. С. 228.
104 *Friedelówna T.* Ewangeliarz ławryszewski. S. 228.
105 *Востоков А. Х.* Описание русских и словенских рукописей Румянцовского музеума. С. 124.
106 Императорская Публичная библиотека за сто лет. 1814—1914. СПб., 1914. С. 109.
107 *Голубева О. Д.* Хранители мудрости. М., 1988. С. 231—232.
108 *Первольф И. И.* Отчет ординарного профессора императорского Варшавского университета И. И. Первольфа о научных занятиях за границею с 20 мая по 20 сентября 1882 г. // ВУИ. 1883. № 2. С. 23—24, 2-й паг.

жанне і ў некаторых сваіх тэндэнцыях нават пераўзыходзіць па праціўляць... мастацтву кнігі дамангольскай эпохі. Рукапіс мае 18 мініяцюр; перад пачаткам працы іх меркавалася большая колькасць, для чаго было пакінута свабоднае месца. Маскоўская даследчыца Л. Яўсеева, якая правяла скрупулёзны аналіз і рэканструкцыю працы мініяцюрыста, прыйшла да высновы, што паказ евангельскіх сюжэтаў узыходзіць да візантыйскага мастацтва, хоць «прыёмы іх выканання вельмі спрошчаныя... Групоўка трохі выцягнутых фігур ў мініяцюрах Лаўрышаўскага Евангелля, агульная разрэджанасць кампазіцый, а таксама дынаміка і маштабнасць сцэн захоўваюць асаблівасці комнінаўскіх манументальных ансамбляў, як мы іх бачым у мазаіках XII ст. на Сіцыліі»[109]. Аднак пры гэтым адзначаецца: «Тэхніка мініяцюр Лаўрышаўскага лекцыянара ўяўляе пераважна контурны малюнак пяром», што падобны да тэхнікі найдаўнейшых заходніх іканаграфічных узораў X—XIII стст.— у Эльзаскай кнізе апошняй чвэрці XII ст., Вольфенбютэльскіх аркушах каля 1230 г. і інш.[110] Такая даволі нечаканая арыентацыя на заходнееўрапейскія ўзоры выразна сведчыць аб пачатку нейкага культурнага павароту, аслабленні аўтарытэту старажытнарускіх і візантыйскіх стэрэатыпаў, пошуках новых вобразаў і сродкаў выяўлення. Натуральна, гэта яшчэ не быў і не мог быць разрыў са старажытнарускай традыцыяй — нясмелыя прыкметы культурнай самастойнасці Літоўскай Русі спараджаліся, вядома, не ўздымам спецыфічнай заходнерускай культуры, а, наадварот, найцяжэйшым крызісам усёй рускай культуры і ментальнасці. У падобных выпадках радасць вызвалення непарыўна пераплятаецца з настальгіяй па страчанай супольнасці, адкінутае старое зноў пачынае прыцягваць да сябе і набываць каштоўнасць, а тое, што гэта ўжо каштоўнасць не жывога жыцця, а антыкварыяту, усведамляецца часам праз шмат дзесяцігоддзяў ці стагоддзяў. І таму характэрна, што ў малюнках Лаўрышаўскага Евангелля мы адначасова бачым відавочныя сувязі з паўночнарускім мастацтвам, як, напрыклад, у мініяцюры, што ілюструе «прытчу аб слодычы гэтага свету»: чалавек на дрэве, якое вырастае з пашчы пачвары і якое грызуць белая і чорная мышы, сімвалы дня і ночы. Вельмі падобная па сюжэце выява змешчана на гэтак званых Васілеўскіх варотах 1336 г. — медных царскіх варотах наўгародскага Сафійскага сабора (з 1570 г. знаходзяцца ў Троіцкім саборы г. Аляксандрава)[111].



*Лаўрышаўскае Евангелле. Ілюстрацыя зроблена ў фрэскавай манеры: анёл, які сядзіць на руне, гаворыць жонам-міраносіцам: «Устане ў гэтым месцы, дзе быў паложаны»; на пярэднім плане сем воінаў са шчытамі і дзідамі.*

Калі пра мастацкія асаблівасці рукапісу мы гаворым з вялікай асцярогай, стала падкрэсліваючы, што гутарка можа ісці толькі пра самыя раннія стадыі працэсу культурнай дывергенцыі, то палітычны складнік выяўлены тут зусім адкрыта. Як сказана вышэй, Лаўрышаўскае Евангелле — першы кніжны

[109] *Евсеева Л. М.* Афонская книга образцов XV в.: О методе работы и моделях средневекового художника. М., 1998. С. 109.
[110] Тамсама. С. 112.
[111] *Лазарев В. Н.* Русская средневековая живопись: Статьи и исследования. М., 1970. С. 206.



*Лаўрышаўскае Евангелле. Выява архангела Міхаіла на першай старонцы рукапісу. Абапал — укладныя запісы, у тым ліку праваслаўных вялікіх князёў літоўскіх.*

помнік літоўскай дзяржаўнасці. Пачынае кнігу выдатная выява архангела Міхаіла — апекуна велікакняжацкай улады. Адна з прыпісак на кнізе сведчыць пра пабудову праз нейкага Юрыя Ваўковіча царквы і алтара св. Мікалая «повеленьемь благовернаго і христолюбиваго князя великого Михаила Кедиминовича» ў 1329 г.[112] Сам Юрый Ваўковіч, ужо зыходзячы з наяўнасці фамільнага імя, наўрад ці быў сучаснікам Гедыміна. Запіс, верагодна, зроблены не раней XV ст. і мае на ўвазе якую-небудзь новую адбудову той царквы. Тым не менш яго тэкст дазваляе меркаваць, што яшчэ пры жыцці Гедыміна яго сын Карыят-Міхаіл, які атрымаў ад бацькі наваградскі стол, быў сур'ёзным прэтэндэнтам на вялікае княжанне і абапіраўся пры гэтым на сваіх праваслаўных падданых. Прыпіскі на першай старонцы, якраз вакол выявы архангела, паказваюць, што сярод укладчыкаў у Лаўрышаўскі манастыр былі праваслаўныя літоўскія князі — «великыі княз Дмитриі Олгирдович», г. зн. альбо другі сын Альгерда Дзмітрый Бранскі, які загінуў у бітве на Ворскле ў 1399 г., альбо, больш верагодна, трэці сын ад другога шлюбу Карыбут-Дзмітрый; унук Альгерда Аляксандр (Алелька) Уладзіміравіч, з 1440 г. князь кіеўскі; невядомы князь Андрэй (?) Барысавіч, імя якога на краі старонкі практычна не чытаецца[113].

Усяго кодэкс уключае 14 укладных запісаў; дзевяць з іх змяшчаюць непасрэдныя ўказанні на Лаўрышаўскі манастыр як на адрасата ўкладу; астатнія пяць альбо па змесце і сэнсе таксама маюць дачыненне да Навагрудскай зямлі, альбо значна пашкоджаныя (як названыя запісы князёў Дзмітрыя Альгердавіча і Андрэя Барысавіча). Такое досыць рэдкае геаграфічнае адзінства запісаў у дастатковай меры гаворыць на карысць навагрудскага паходжання кнігі і, адпаведна, на карысць сувязі яе стварэння з узнікненнем навагрудскай мітрапаліцкай кафедры. (Гэтаму ніколькі не супярэчаць вядомыя ў літаратуры асобныя паўднёварускія рысы тэксту[114], таму што, як мы ўжо бачылі, раёны Заходняй і Паўднёвай Беларусі знаходзіліся ў гэты час пад значным культурным уплывам Галіцкай Русі, істотна мацнейшым, чым сувязі з Полацкам ці Смаленскам.)

Да кніг, што так ці інакш звязаныя з Літоўскай мітраполіяй, можна залічыць Евангелле-апракас сярэдзіны XIV ст. з Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве[115]. Яно перапісана добра выпрацаваным паўуставам некалькімі почыркамі, мае дзве мініяцюры з выявамі евангелістаў Іаана (уклейка перад арк. 1) і Мацея (арк. 37 адв.). Мініяцюры рознага фармату (Іаан значна меншы, уклееныя), але па прыёмах пісьма яны падобныя. Праўда, мініяцюра з выявай Іаана (з подпісам: «писал Микита рукою грешною»[116]) значна папсаваная — частка фону, стол, пюпітр евангеліста запісаны зялёнай

[112] *Friedelówna T.* Ewangeliarz Ławryszewski. S. 71.
[113] Ibidem. S. 66—67; *Щапов Я. Н.* Восточнославянские и южнославянские рукописи... Вып. 1. С. 79—80.
[114] *Friedelówna T.* Ewangeliarz Ławryszewski. S. 113—125, 167, 220, 228.
[115] *Востоков А. Х.* Описание русских и словенских рукописей Румянцовского музеума. № 113.
[116] Тамсама. С. 180. — У «Свод...» Л. Сталяровай гэты запіс чамусьці не трапіў.

фарбай. Можа, майстар сам хацеў перапісаць, падправіць мініяцюру і не закончыў працу. Мініяцюры (асабліва Мацей) напісаны шырока, шчыльным слоем фарбаў, з вялікай колькасцю бялілаў; формы масіўныя; адзенне, вэлюм выпісаны цяжка, матэрыяльна. Прыёмы пісьма (асабліва ў адзенні) блізкія да фрэскі. Стыль мініяцюраў пры падабенстве многіх рысаў з наўгародскім жывапісам мае таксама і шэраг адрозненняў ад яго — манера класці прабелы, характар размяшчэння складак адзення, згушчаны і цяжкаваты жывапісны строй і інш.[117] Сярод сюжэтных матываў часта сустракаецца крылаты сабака — сенмурф (арк. 92 адв., 109 адв., 158 адв., 187 адв.), нярэдкія выявы галавы чалавека (маскароны), выкананыя не простым контурам, а жывапісна, з прымяненнем «святлацені», якая перададзена тут зялёным колерам (арк. 18, 33, 136 адв.). Кнігі ўпрыгожаны арнаментамі: жгутавым, раменным пляценнем, радзей сустракаюцца спрошчаныя старавізантыйскія кампазіцыі. Арнаменты выканалі, верагодна, два майстры. Галоўны намаляваў большасць аздобы. Яго асноўныя колеры — бледна-зялёны і маркоўны, у кампазіцыі цяжкаватыя формы, часам блізкія да раманскай скульптуры. Другі майстар адрозніваўся графічнасцю сваёй манеры. Праца некалькіх перапісчыкаў і некалькіх мастакоў сведчыць, што кніга выраблялася ў вялікай майстэрні, якой мог быць скрыпторый літоўскіх мітрапалітаў.

Трохі іначай аздоблена гэтак званае Евангелле з Каўрова — поўны апракас XIV ст. са збораў Пушкінскага дома[118]. На першым аркушы тут толькі накід сцэны з 12 апосталамі, а загалоўная мініяцюра — выява Іаана Багаслова, які на востраве Патмас нагаворвае свяшчэнны тэкст свайму вучню Прохару, — змешчана на адгорце першага аркуша. У мове помніка выразна прысутнічаюць агульныя заходнерускія рысы, таму некаторыя аўтары бачаць тут украінскае паходжанне. Аднак памянёны ў старэйшай (канец XIV ст.) прыпісцы на кнізе Святы Спас на востраве[119] досыць пераканальна ўказвае на адзін з храмаў вядомага Полацкага Прадцечанскага «на востраве» манастыра і, значыць, на бытаванне там гэтай кнігі ўжо ў XIV ст.

Важным помнікам, які паказвае шлях перамяшчэння кніг з правінцыі ў сталіцу, з'яўляецца Друцкае Евангелле-апракас[120]. Перапісана яно было па загадзе князя Васіля Міхайлавіча і княгіні Васілісы для царквы Багародзіцы ў Друцку ў XIV ст. Праз сто гадоў («при великом князи Казимире королевичи, перваго году княженья его», як сказана ў прыпісцы[121]) друцкі кодэкс быў укладзены ў віленскую царкву Уваскрэсення Хрыстова. Як кніга апынулася ў укладчыка — віленскага месціча «раба Божага Конана» — невядома. Нельга выключыць, што ён зрабіў уклад з ведама друцкіх князёў, — бо тады ўкладная прыпіска аб значным княскім дары для Багародзіцкай царквы («село Моравьиничи и с людьми и со всеми пошлинами и с медовою данью и с селищи и с пожьнями»[122]) губляла сувязь з друцкай маёмасцю, што патэнцыяльна аблягчала яе перадзел.

Мы закранулі толькі чатыры помнікі эпохі Гедыміна і Альгерда — шмат якія з іх, падобна Мінскаму Евангеллю[123], не дайшлі да нас, паходжанне іншых насілу паддаецца дакладнай лакалізацыі. Але і разгледжаны матэрыял паказвае, з якою лёгкасцю Вялікае Княства ўспрымала рускую пісьмовую культуру, з якою нязмушанасцю і натуральнасцю прызнала яе за сваю, не аглядваючыся ні на Маскву з Ноўгарадам, ні на ўласнае нярускае ці нехрысціянскае насельніцтва. Ацаніць гэты факт магчыма толькі з улікам шэрагу чыннікаў знешнепалітычнай і царкоўнай гісторыі. Тут, аднак, патрэбна пэўнае адступленне.

[117] Стылістычную паралель гэтым мініяцюрам уяўляюць мініяцюры Евангелля XIV ст. са збораў ДзГМ (*Щепкина М. В. и др.* Описание пергаментных рукописей Государственного Исторического музея. Ч. 1. С. 182).

[118] *Запаско Я. М.* Пам'ятки книжкового мистецтва. Українська рукописна книга. № 53.

[119] *Жуковская Л. П.* Пергаменная рукопись XIV в. из собрания Пушкинского дома (Новое приобретение) // ТОДРЛ. 1968. Т. 23. С. 310.

[120] *Тихомиров М. Н.* Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968. № 1. — Вучань акадэміка М. Ціхамірава вядомы славіст А. Рогаў распавядаў у свой час аўтару гэтых радкоў аб тым, што той хацеў аддаць Друцкае Евангелле разам з некаторымі іншымі помнікамі кніжнасці ВКЛ са свайго збору ў бедны на старажытную кнігу Мінск, але разбурэнне ў 1961 г. беларускімі ўладамі віцебскай Дабравешчанскай царквы XII ст. прымусіла яго змяніць намер, і ў выніку рукапіс трапіў у Новасібірск.

[121] Тихомиров М. Н. Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968. № 1. С. 10.

[122] Тамсама. С. 9.

[123] *Драй-Хмара М.* Фрагменти Менського пергаменового апракоса XIV в. // Збірник Комісії для дослідження історії української мови. Т. 1. Київ, 1931.

# ЭПОХА ІЛЮМІНАВАНЫХ ПСАЛТЫРОЎ

Ва ўсіх нас глыбока ўкаранілася перакананне, падмацаванае і школьнай, і вышэйшай адукацыяй, што, напрыклад, Цвер, Смаленск, Разань, не кажучы ўжо пра свабодалюбныя Ноўгарад і Пскоў, у ходзе свайго гістарычнага развіцця XIV—XV стст. змагаліся за сваю самастойнасць, самабытнасць, хай нават у адмоўным сэнсе асобнасць. Масква ж спрадвеку імкнулася падпарадкаваць сабе найперш усіх непасрэдных суседзяў, потым усе велікарускія землі, а там ужо і ўсю «спадчыну Манамаха» — да Кіева, Вільні і Юр'ева-Лівонскага ўключна, што і было здзейснена ў XVII—XVIII стст. Падобнае ўяўленне аб іманентнай імперска-агрэсіўнай сутнасці Маскоўскай Русі, вельмі жывое і сёння, адыходзіць каранямі ў старую расійскую і савецкую гістарыяграфію, і нават не столькі гістарыяграфію, колькі выкладанне гісторыі, дзе тэма «Узвышэнне Масквы» арганічна перацякала ва «Утварэнне Рускай цэнтралізаванай дзяржавы», а тая, у сваю чаргу, ва «Уз'яднанне ўкраінскага і беларускага народаў» і да т. п. Натуральна, гэты тэзіс бліскуча ўгрунтаваўся ў польскай, а пасля і ў маладой украінскай і беларускай гістарычнай думцы — тым больш што падзеі XIX—XX стст. давалі багата пацвярджэнняў на злабадзённым матэрыяле. Ідэалагічнае напаўненне яго аказвалася палярна процілеглым — ад ганарлівага ўсведамлення вялікадзяржаўя Расіі да пафаснага выкрыцця спрадвечнай злачыннасці яе знешняй палітыкі.

Гэтыя палітычная тэорыя і псіхалогія своеасаблівага расійскага ірэдэнтызму сапраўды існавалі, але склаліся ўжо пад час манархіі Івана III, не раней канца XV ст., і праецыраваць іх на Маскоўскае княства XIV ст. было б сур'ёзнай памылкай. Няма ніводнага сведчання, што Сямён Горды ці Дзімітрый Данской глядзелі на Кіеў ці Полацк як на свае вотчыны альбо імкнуліся забіраць іх узброенай рукой. Пасля поспеху Івана Каліты, які забяспечыў вечную асабістую унію з Ноўгарадам, Масква надоўга замыкаецца ў абарончым становішчы. Багатыя паўночна-рускія землі перайшлі з-пад уплыву Вялікага Ноўгарада ў залежнасць ад Масквы. Дзякуючы ўкладу князя Івана Каліты ў далёкі манастыр на Паўночнай Дзвіне захаваўся да нашых дзён найстаражытнейшы з маскоўскіх кніжных помнікаў —пергаменнае Сійскае Евангелле з выдатнымі мініяцюрамі. Акрамя таго захаваліся яшчэ два дакладна датаваныя маскоўскія рукапісы сярэдзіны 14 стагоддзя: Евангелле князя Сямёна Гордага з масіўным срэбным абкладам добрай залатарскай работы і Евангелле 1358 года, створанае пры вялікім князі маскоўскім Іване Іванавічы і мітрапаліце Алексіі рабом божым Лук'янам. Большасць захаваных дасёння маскоўскіх рукапісных кніг датаваныя часам пасля 1382 года, калі Масква была разрабавана і спалена войскам хана Тахтамыша. Аднаўленню кніжнага рэпертуару пасля гэтай катастрофы спрыяла праца кнігапісцаў Чудава, Спаса-Андронікава і Сіманава манастыроў, а таксама Троіца-Сергіевай лаўры. Рэпертуар засноўваўся на зборах манастырскіх бібліятэк.

Фактычныя кіраўнікі маскоўскай знешняй палітыкі за сыноў і ўнука Каліты мітрапаліты Феагност (да 1353 г.) і Алексій (у 1354—1378 гг.) выказваюць поўную абыякавасць да заходніх епархій: Феагност быў там, здаецца, усяго аднойчы, Алексій — дакладна толькі адзін раз (у 1359 г.), прычым не абышлося без нейкага цяжкага канфлікту з Альгердам і мітрапалітам Раманам. Са свайго боку, Альгерд, нават калі збіраўся ў паход «пастукаць чырвоным яйкам» аб крамлёўскія муры, быў цалкам далёкі ад усведамлення якойнебудзь маскоўскай пагрозы, а больш таго — небяспекі ад рускай мовы ці праваслаўнай культуры. Наадварот, пасля смерці ў 1361 г. мітрапаліта Рамана ён закідвае Канстанцінопаль просьбамі аб новым мітрапаліце, аднак каб пад яго ўладай знаходзіліся ўжо не адна Літва з яе трыма епархіямі (мітрапаліцкая ў Наваградку, Тураўская і Полацкая), а таксама Кіеў, Смаленск, Цвер, Малая Русь, Навасіль і Ніжні Ноўгарад![124] Як бачым, гэта не сепаратызм і не раскол — гэта праграма акружэння і ўдушэння Масквы, яе па-свойму царкоўнай блакады. Не менш знамянальна тое, што на саму Маскву з Уладзімірам Альгерд зусім не прэтэндуе, інакш кажучы, яго ніколькі не хвалюе ні царкоўнае адзінства старой Кіеўскай мітраполіі, ні ідэі ўз'яднання рускіх зямель, хай і з цэнтрам у Вільні, — ён проста ўсімі сіламі змагаецца з суседам — ворагам,

[124] *Голубинский Е. Е.* История русской церкви. Т. 2, ч. 1. С. 209—211.



*Полацкае Евангелле XIV ст. з укладным запісам XVI ст. на ніжнім полі (РНБ: F.п.I.17).*

мажліва, і моцным, але які не мае аніякай унутранай апоры ў ВКЛ. Шмат мусіла вады сплыць, каб у 1489 г. імперскі рыцар Мікалай Попель змог нашэптваць Івану III: «...ляхі вельмі баяцца, што калі ты будзеш кароль (г. зн. прыняўшы ад рымскага імператара тытул караля маскоўскага. — *М. Н.*), то ўся Руская зямля, якая цяпер пад каралём польскім, адступіць ад яго і пакарыцца табе», а той спагадліва слухаў і рабіў перспектыўныя высновы наконт «сваёй отчыны, Вялікага Княства Кіеўскага і іншых рускіх зямель, якія трымае за сабой Казімір»[125]. Выходныя ж пасылкі, што прывялі да такога стану рэчаў, належаць,

[125] *Соловьев С. М.* Сочинения. Кн. 3. М., 1989. С. 132, 134.



*Полацкае Евангелле XIV ст. (РНБ: F.п.I.17). Старонка рукапісу з тэраталагічнымі ініцыяламі.*

сапраўды, да XIV ст. Адны з іх — Крэўская унія 1385 г. і непасрэдна звязаны з ёю каталіцкі хрост Літвы шырока вядомыя; другі ж фактар часта застаецца ў цені, і на ім трэба спыніцца.

Мы ўжо не раз успаміналі пра цесныя кантакты ВКЛ з Галіцка-Валынскай дзяржавай. У сярэдзіне XIV ст. яны набылі характар непасрэднай палітычнай уніі: у выніку «баярскай рэвалюцыі» 7 красавіка 1340 г. быў забіты апошні прадстаўнік дынастыі Рамана Галіцкага князь Юрый-Баляслаў і на прастол запрошаны адзін з малодшых сыноў Гедыміна Любарт-Дзімітрый. Пад час наступных войнаў з польска-венгерскай кааліцыяй былі страчаны Галіч і ўсходнія раёны Валыні,

але Луцкая зямля трывала ўвайшла як адзін з удзелаў у склад ВКЛ. Гэта быў толькі першы крок экспансіі Вялікага Княства на поўдзень і паўднёвы ўсход. Прыкладна ў канцы 1350-х гг. Альгерд захоплівае (у смаленскіх князёў) Бранск, потым прыходзіць чарга Ноўгарад-Северскага, Навасіля, Чарнігава, г. зн. усяго дняпроўскага левабярэжжа[126]. Урэшце, у 1360-я гг. адбываецца ключавая падзея ўсяго працэсу — падае Кіеў: Альгерд выганяе адтуль нейкага сумніўнага князя Фёдара (верагодна, намесніка ўлад Залатой Арды) і саджае на ўдзел свайго сына Уладзіміра[127]. Уладанне Кіевам — не проста старажытнай сталіцай, а кафедрай мітраполіі[128], цэнтрам і сімвалам адзінства ўсёй Русі — не магло не адбіцца на царкоўнай і палітычнай ідэалогіі краіны і на духоўнай сферы ў самым шырокім сэнсе слова. Па праўдзе сказаць, ні асабіста Альгерд, у рэлігійных дачыненнях, відавочна, даволі індыферэнтны, ні Вялікае Княства яго часоў, дзяржава па сутнасці свецкая і талерантная, яшчэ не былі гатовыя ўспрыняць усе глабальныя высновы з «кіеўскай ідэі». Вядома, Альгерд выдатна разумеў палітычнае і царкоўна-палітычнае значэнне Кіева і ў дачыненнях з Канстанцінопальскай патрыярхіяй стала высоўваў сваё дзяржаўнае валоданне Кіевам як лепшы аргумент на карысць яго падпарадкавання сваім, літоўскім мітрапалітам альбо ўвогуле вяртання мітрапаліцкай рэзідэнцыі з Масквы ў Кіеў[129]. Але гэтыя дамаганні мелі зусім канкрэтныя мэты: асобная, памесная праваслаўная царква здавалася неабходнай умовай дзяржаўнага суверэнітэту, а недапушчэнне знаходжання якой-небудзь часткі сваёй тэрыторыі пад духоўнай уладай маскоўскага (de facto) мітрапаліта — патрабаваннем дзяржаўнай бяспекі. Думкі аб наддзяржаўнай і наддынастычнай супольнасці ўсёй Русі, тым больш візантыйская ідэалогія «кідэмоніі» — імперска-царкоўнага адзінства краіны пад уладай адзінага валадара і адзінага вярхоўнага архірэя — былі Альгерду, як і яго маскоўскім сучаснікам, абсалютна чужыя. Для іх успрымання і спроб рэалізацыі патрэбны былі новыя людзі, пазбаўленыя сувязей з руска-літоўскай традыцыяй XIII—XIV стст., а для іх з'яўлення на сцэне — параўнальна рэзкая змена дэкарацый. Гэта і адбылося ў канцы 1370-х гг.

Амаль што адначасовыя смерці Альгерда (май 1377 г.) і мітрапаліта Алексія (12 лютага 1378 г.) не толькі змянілі стан рэчаў, але і істотна дэстабілізавалі сітуацыю ў абедзвюх дзяржавах. Пераход велікакняжацкага тытула да сына Альгерда Ягайлы выклікаў працяглую ўнутраную вайну, якую не перапыніла нават абранне яго польскім каралём і якая завяршылася ў 1392 г. зацвярджэннем годнасці вялікага князя літоўскага за пляменнікам Альгерда Вітаўтам. Ва Усходняй жа Русі пад панаваннем Дзмітрыя Данскога пачалася 12-гадовая царкоўная смута (яна натуральным чынам неўзабаве закранула і Заходнюю), пад час якой аднойчы (у 1384—1385 гг.) на кіеўскай кафедры сядзелі разам тры мітрапаліты. У гэтых умовах і вылучыўся выдатны царкоўны і культурны дзеяч, мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі Кіпрыян — у поўным сэнсе homo novus. Балгарын, ён не ведаў і не прызнаваў рэаліі ўдзельнай Русі[130], але добра засвоіў сваю місію аднавіцеля адзінай і непадзельнай мітраполіі. Чалавек здольны, адукаваны, актыўны, у некаторых адносінах «медны лоб», але стойкі і ўпарты ў дасягненні сваіх мэт. Дастаткова сказаць, што двойчы выгнаны Дзмітрыем Данскім з Масквы, абрабаваны і ледзь не біты яго чыноўнікамі Кіпрыян пасля смерці князя з трыумфам вяртаецца ў Маскву, яго ўрачыста сустракаюць сам вялікі князь Васіль I і духавенства, ён з бясспрэчным аўтарытэтам і ў Маскве, і ў Літве кіруе адзінай мітраполіяй аж да сваёй смерці ў 1406 г., а праз 70 гадоў яго далучаюць да почату святых! Толькі такі чалавек і мог ацаніць усе перспектывы «кіеўскай ідэі» іператварыць іх у жыццё. А што ў рэшце рэшт гэтая ідэя спрацавала не на карысць Літвы, а супроць яе, з'явілася наймацнейшым каталізатарам «маскоўскага на-

[126] *Грушевський М. С.* Історія України-Руси. Т. 4. Київ, 1993. С. 65—73.

[127] Тамсама. С. 73—78.

[128] Кіеў заставаўся кафедрай рускіх мітрапалітаў і пасля фактычнага (у 1299 г.) і фармальнага (у 1354 г.) перанясення іх сталай рэзідэнцыі ва Уладзімір і Маскву (Голубинский Е. Е. История русской церкви. Т. 2, ч. 1. С. 95—96).

[129] *Грушевський М. С.* Історія України-Руси. Т. 5. Київ, 1994. С. 389—390.

[130] Найноўшы даследчык на падставе вывучэння пэўных відаў літаратурнай дзейнасці пры Кіпрыяне робіць выснову, што кіраўнік яе мусіў сфарміравацца «па-за межамі рускага духоўнага асяроддзя і быць свабодны ад яго псіхалогіі і ўсталяванай традыцыі» (*Елисеев Г. А.* Две системы взглядов в общественном сознании средневековой Руси и эволюция апокрифов в XIII—XV вв. // Русское средневековье. 1998. Вып. 1. С. 89).




*Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх. Арк. 147 адв. Ініцыял «Н» — ілюстрацыя да 70-га псальма «На тя, Господи уповах да не постыжуся в векы...».*

цыяналізму» XV ст., гэта ўжо абумовілася шматлікімі аб'ектыўнымі гістарычнымі чыннікамі.

Даўно прызнана і не лічыцца парадоксам, што перамога ў Кулікоўскай бітве не ўзмацніла, а аслабіла Маскоўскае княства[131] (накшталт таго, як грунвальдская перамога істотна аслабіла пазіцыі ВКЛ у дачыненнях з Польшчай); менш звяртаецца ўвагі на тое, што аслабленне Масквы негатыўна ўплывала і на развіццё ВКЛ, на станаўленне яго самасвядомасці і самабытнай культуры. З адвечнага супраціўніка Масква ператварылася ў аб'ект палітычных маніпуляцый, а з жаніцьбай у 1390 г. 19-гадовага Васіля I на дачцы Вітаўта Соф'і (што супала па часе з канчатковым перасяленнем Кіпрыяна ў Маскву) — увогуле ў літоўскага сатэліта. У першае дзесяцігоддзе панавання Вітаўта стасункі з Масквой нагадваюць нейкі цудоўны сон, пра што Альгерд не мог марыць і на вяршыні сваіх поспехаў. У 1395 г. Вітаўт з дапамогай простай і цынічнай камбінацыі захоплівае Смаленск — на наступны год Васіль I наносіць візіт Вітаўту ў Смаленск, тым самым цалкам ухваляючы яго анексію. Вітаўт арганізоўвае карную экспедыцыю супроць разанскіх князёў, і па яе сканчэнні Васіль сам сустракае цесця з віншаваннем у Каломне, на маскоўска-разанскай мяжы. Нядзіўна, што ў Вітаўта, асабліва на фоне трывалых цяжкасцей з Тэўтонскім ордэнам і стрыечным братам Ягайлам (цяпер ён кароль польскі Уладзіслаў II), у дачыненні да рускіх княстваў расце і мацнее перакананне «Я ўсё магу». Ён ужо сур'ёзна вымагае поўнай пакорлівасці ад Вялікага Ноўгарада (у 1397 г.) і нават выношвае пэўныя маштабныя планы на Усходзе: вядомы, напрыклад, яго ультыматум хану Цімур-Кутлуку, каб на ардынскай манеце чаканілі яго, Вітаўта, кляймо. Глабальныя намеры правaліліся 12 жніўня 1399 г., у дзень разгрому на Ворскле, але маскоўскі сябра не падводзіць і цяпер: яшчэ ў 1404 г. спрыяльны нейтралітэт Васіля дазваляе Вітаўту канчаткова авалодаць Смаленскам. Толькі праз два гады (і зноў не выпадкова гэта супадае з хваробай і смерцю Кіпрыяна) Масква пачынае выяўляць самастойнасць і выступае (па пскоўскаму пытанню) супроць ВКЛ[132].

Такім чынам, ідэалогія Вітаўта ў дачыненнях да Усходняй Еўропы — чыста імперская, наднацыянальная і пазанацыянальная; Літва, Літоўская Русь займаюць у ёй, можна сказаць, апошняе месца, хоць нават пісар яго лацінскай канцылярыі пры гэтым можа напісаць на палях кнігі з лацінскімі дакументамі на сваёй роднай мове: «Myla matuchniczko Boza szmyluj uszo nad namy» альбо «Margareta moja myla»[133]. І вялізная, агульнаруская мітраполія Кіпрыяна — пры ўсім шчырым каталіцызме Вітаўта і, верагодна, праз гэты каталіцызм, гэтую сусветную ідэю — імпануе вялікаму князю. Самога ж Кіпрыяна ў ВКЛ лічылі «сваім» — ён быў кандыдатурай яшчэ Альгерда і пастаўлены першапачаткова, у 1375 г., у літоўскія мітрапаліты. Яго прызнанне Масквой і пераезд туды расцэньваліся Вільняй як уласная перамога, пэўны духоўны наступ на гістарычнага ворага. Суб'ектыўна Кіпрыян, безумоўна, не быў ні «ліцвін» (у чым яго калісьці падазравалі ў Маскве[134]), ні дзеяч адкрыта маскоўскай арыентацыі, накшталт сваіх папярэдніка і наступніка — мітрапалітаў Алексія і Фоція. Кіпрыян перакананa і шчыра займаўся рэстаўрацыяй адзінай Кіеўскай мітраполіі, як ён яе разумеў, — адзінай і ў адмі-

[131] *Пресняков А. Е.* Образование Великорусского государства. С. 221—223.

[132] *Соловьев С. М.* Сочинения. Кн. 2. М., 1988. С. 363—368.

[133] Codex epistolaris Vitoldi magni ducis Lithuaniae 1376—1410. Collectus opera Antoni Prochaska. Cracoviae, 1882. P. XCV—XCVII.

[134] Паводле яго ўласных слоў, пры першым яго прыездзе ў Маскву ў 1378 г. тамтэйшыя царкоўнікі «хуляще на патріарха, и на царя, и на сбор великій: патріарха литвином назвали, царя такоже, и всечестный сбор вселеньскій» (РИБ. Т. 6. Стб. 185 1-й араб. паг.; БЛДР. Т. 6. С. 422).

ністрацыйным, і ў культурным сэнсе. Рэальна ж паслядоўнае сціранне ім усялякіх слядоў Літоўскай мітраполіі ва ўмовах каталіцкай рэлігійнай і культурнай экспансіі міжвольна зрушвала ў грамадскай свядомасці ВКЛ цэнтр рускага праваслаў'я на ўсход, да Масквы. Праваслаўная Літва ўжо з пачатку XV ст. пачынае адчуваць сябе, можа, і не зусім разумеючы гэта, як перыферыя рускай царквы, а свае ўласныя спробы вярнуць былую самастойнасць — як раскол, хоць і апраўданы знешнімі абставінамі. Адсюль, верагодна, тая няўпэўненасць і пасіўнасць, з якою на працягу XV ст. ставяцца заходнерускія іерархі да ідэі аднаўлення Літоўскай мітраполіі, у абодвух выпадках (у 1415 і 1458 гг.) паддаючыся (ці робячы выгляд, што паддаюцца) прамому націску з боку дзяржаўнай улады, якая нарэшце зразумела, што ідэалагічная перамога засталася за Масквой. Вось менавіта гэты аспект — перамога «кіеўскай ідэі» ў яе «масквацэнтрычным» варыянце — вельмі важны пры разглядванні помнікаў кніжнасці «кіпрыянаўскага перыяду».

Увагу да аднаўлення царкоўнага жыцця Кіпрыян стаў выяўляць з самых першых гадоў сваёй дзейнасці на мітраполіі, яшчэ ў Літве, не прызнаны маскоўскімі князямі. У 1378 г. ён пісаў пра свае поспехі: «Церкви святыа ставил есмь. Христианьство утвердил есмь. Места церковная, запустошена давными леты, оправил есмь приложити к митрополии всея Руси. Новый Городок литовськый давно отпал, и яз его оправил и десятину доспел к митрополии же и села»[135]. Гісторык заўважае наконт гэтага, што «хвалебныя словы чалавека да сябе самога немагчыма прыняць за сапраўднае гістарычнае сведчанне»[136], аднак у сферы кніжнасці мы маем цалкам надзейныя доказы працы Кіпрыяна.

Ужо першае з'яўленне Кіпрыяна ў Літоўскай Русі звязана з фактамі літаратурнай гісторыі. У 1374 г. у «найсвяцейшую і вялікую царкву», г. зн. у Канстанцінопаль, былі прывезены па ініцыятыве Кіпрыяна часціцы мошчаў віленскіх пакутнікаў 1347 г. Прыкладна ў той самы час патрыярх Філафей Кокін кананізаваў іх пад імёнамі Антонія, Іаана і Яўстафія. Якраз тады ж з'явілася грэцкае пахвальнае слова «слаўным наваяўленым пакутнікам» рытара царквы Св. Сафіі Міхаіла Вальсамона і іх «Жыціе», якое, па ўсёй верагоднасці, таксама напісана ў Візантыі[137]. Выкарыстанне прац вучоных грэкаў для складання жыццяў мясцовых святых у праваслаўнай Усходняй Еўропе не адзінкавая з'ява — акадэмік А. Сабалеўскі паказаў на складзенае ў сярэдзіне XVI ст. Львом Філолагам «Жыціе князя Міхаіла Чарнігаўскага і баярына яго Фёдара»[138]. Жыціе трох пакутнікаў адразу ж было ўнесена ў сцішны Сінаксар — тып службоўніка, што пераважаў у той час у грэцкай царкве. Адсюль яно не пазней чым у XV ст. перайшло ў некаторыя паўднёваславянскія спісы сцішнога Сціхірара, а з іх на Русь — было ўключана ў Пралог і Мінею[139]. Роля Кіпрыяна ва ўсёй гэтай акцыі даволі двухсэнсоўная: прыбыўшы на Русь як давераная асоба патрыярха для расследавання абвінавачванняў супроць мітрапаліта Алексія і ўвайшоўшы ў давер да Альгерда, ён выставіў маскоўцам (і ўсяму праваслаўнаму свету) іх галоўнага палітычнага супраціўніка ў негатыўным святле, як мучыцеля верных. Гэта не было справядліва, бо не было праўдай — прынамсі, сведчанняў антыправаслаўнай палітыкі літоўскіх вялікіх ці проста ўдзельных князёў не існуе; складзенае ў Канстанцінопалі «Жыціе» ёсць адзіным выключэннем. Варожасць кніжнікаў ВКЛ да артыкула пра віленскіх пакутнікаў (мясцовы, здавалася б, матэрыял) відавочная: яго няма ні ў адным са шматлікіх беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік. Найбольш старажытны з захаваных спісаў «Жыція» ў ВКЛ — Слуцкая Мінея XVI ст., дзе яно змешчана пад 19 снежня[140].

Адзін з самых выдатных кніжных помнікаў эпохі мітрапаліта Кіпрыяна — Кіеўскі Псалтыр 1397 г.[141], які мае наступную прыпіску кнігапісца: «В лето 6905 спісана бысть кніга сія Давыда царя повеленьем

[135] РИБ. Т. 6. Стб. 182—183 1-й араб паг.; БЛДР. Т. 6. С. 420.

[136] *Голубинский Е. Е.* История русской церкви. Т. 2, ч. 1. С. 322.

[137] *Сперанский М. Н.* Сербское житие литовских мучеников // ЧОИДР. 1909. Кн. 1. С. 26—47 3-й араб. паг.

[138] *Соболевский А. И.* [Рецензия на работу М. Н. Сперанского «Сербское житие литовских мучеников»] // ЖМНП. 1909. Ноябрь. С. 225—226 2-й паг.

[139] *Сперанский М. Н.* Сербское житие литовских мучеников. М., 1909. С. 22—23.

[140] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских. Вильна, 1882. № 147.

[141] *Гранстрем Е. Э.* Описание русских и славянских пергаменных рукописей. С. 36—37; *Запаско Я. П.* Пам'ятки книжкового мистецтва. Українська рукописна книга. № 55.



*Кіеўскі Псалтыр 1397 г. Арк. 171 адв. «Рукі твае стварылі мяне і зрабілі мяне...». Ілюстрацыя да 118-га псальма са сцэнай стварэння чалавека. Хрыстос адухаўляе Адама, які ляжыць на зямлі сярод дрэў і кветак. Кругом лётаюць птушкі, ходзяць павы.*

смірeнаго владыкы Михаила, рукою грешнаго раба Спірідонья протодіякона, а пісана в граде в Кіеве»[142]. Кодэкс гэты прыгожа перапісаны і багата аздоблены мініяцюрамі, да таго ж выдатна захаваўся да нашых дзён. Зараз ён знаходзіцца ў РНБ, куды трапіў у 1932 г. са зборамі былога Таварыства аматараў старажытнага пісьменства, перад тым быў у бібліятэцы В. Трамбіцкага каля Слоніма, яшчэ раней, у першай палове XIX ст., — у Шарашове і Жыровіцах, у протаіярэя М. Баброўскага. Больш як трыста гадоў, ад 1518 да 1821, Кіеўскі Псалтыр захоўваўся ў цэнтры старой Вільні, у царкве Св. Мікалая, куды ўклаў яго земскі падскарбі ВКЛ, былы іудзей Абрам Езафовіч з нагоды свайго хрышчэння. Застаецца да канца няясным, дзе ён узяў гэтую кнігу. Надпіс на ёй, які 10 кра-

[142] *Столярова Л. В.* Свод записей... С. 382.



*Кіеўскі Псалтыр 1397 г. Арк. 57. «...Як той алень крыніцы чыстай, так шукаю Бога я...». Ілюстрацыя да 41-га псальма. Фігура на скалістай горцы — сімвал крыніцы; уздоўж воднай страмніны ідзе алень. Вышэй цар Давід узносіць свае малітвы да Ісуса Хрыста (апошні паказаны ў медальёне).*

савіка 1518 г. загадаў зрабіць побач з выявай свайго шляхецкага герба гэты хіба не самы багаты ў Вялікім Княстве чалавек, абвяшчае ад імя ўкладчыка, што «сію книгу, глаголемую Псалтыр з деяньемь, писаную з золотом куноваремь а чернилом на паркомене у десть, дал есми се в церков святого великого Христова чюдотворца Ніколы перенесения святых и честных мощей его, в Богом спасаемом граде Вілни, для спасенія душевьнаго, и вечное памяти», а потым змяшчае доўгі шэраг праклёнаў у адрас тых, хто адважыўся б выкрасці альбо інакш забраць яе з гэтага храма[143].

Прыпіска дыякана Спірыдонія дакладна датуе Псалтыр 1397 г. і называе месца перапіскі (Кіеў), аднак абставіны з'яўлення і гісторыя кодэкса ў першыя дзвесце гадоў яго

[143] *Запаско Я. П.* Пам'ятки книжкового мистецтва. Українська рукописна книга. С. 272.

існавання да канца няясныя. Маскоўскі мастацтвазнавец Г. Вздорнаў звярнуў увагу на тое, што гэта адзіны багата ілюмінаваны славянскі спіс Псалтыра, у той час як кола візантыйскіх аналогій даволі вялікае. Тым не менш ён прапануе лічыць, што кодэкс быў перапісаны па заказу смаленскага епіскапа Міхаіла ў Кіеве, потым прывезены ў Маскву, дзе быў упрыгожаны шматлікімі мініяцюрамі, а ўжо потым вярнуўся ў Смаленск, пакуль смаленскі староста (у 1496—1505 гг.) Абрам Езафовіч не вывез яго ў Вільню, каб укласці ў царкву Св. Мікалая[144]. Версія кіеўскага даследчыка М. Візіра грунтуецца на тым, што кніга знаходзілася ў Кіеве да таго часу, пакуль цэнтр мітраполіі канчаткова не перамясціўся ў Заходнюю Русь.

Іншую рэканструкцыю паходжання і гісторыі Кіеўскага Псалтыра прапанаваў пецярбургскі гісторык С. Жамайціс[145] . Ён звярнуў увагу на тое, што рубрыкацыя апошняга сшытка кодэкса выканана іначай, чым усіх папярэдніх: ініцыялы напісаны не золатам, а кінаварам, прычым адзін з іх апынуўся паверх мініяцюры. Гэтае назіранне дазволіла вызначыць этапы працы над кнігай: напачатку быў напісаны тэкст, потым намаляваны мініяцюры, крыху пазней зроблена рубрыкацыя і выпраўлены выяўленыя памылкі (кінаварам упісаны прапушчаныя словы) па ўсім тэксце. Трэці перыяд працы над Кіеўскім Псалтыром праходзіў, на думку С. Жамайціса, у Кіеве, а два папярэднія (перапіска тэксту і ілюмінацыя) — у Канстанцінопалі альбо ў адным з манастыроў Афона[146]. Стыль аздобы гэтай кнігі мастацтвазнаўцы пазней назавуць неавізантыйскім — зварот да старой традыцыі расліннага (цяпер, праўда, больш складанага) арнаменту ў застаўках, вялікая колькасць золата, шматфарбавая ўрачыстасць ініцыялаў.

У 1397 г. у Галіцыю быў накіраваны віфлеемскі архіепіскап Міхаіл, які выконваў даручэнні канстанцінопальскага патрыярха Антонія. Пра некаторыя даручэнні (прынамсі, вырашыць справу луцкага епіскапа Іаана) патрыярх пісаў у лісце да караля Ягайлы, пра іншыя павінен быў расказаць сам Міхаіл[147]. Якія сакрэтныя прапановы патрыярха да Ягайлы прывёз царкоўны «міністр замежных спраў», нам невядома. Цалкам магчыма, што патрыярх меў надзею схіліць Ягайлу і Вітаўта, якія нядаўна прынялі каталіцызм, да адмовы ад гэтага веравызнання, тым больш што прэцэдэнты ў гісторыі ВКЛ былі вядомыя. Фрэскі ў Любліне і Кракаве сведчаць пра добрыя адносіны караля Польшчы да візантыйскай традыцыі. Раскошна ілюмінаваны кодэкс, які не мае аналогій сярод сучасных яму кірылічных рукапісаў, пасля заканчэння (у Кіеве) мог быць падараваны патрыярхам вялікаму князю Вітаўту разам з каштоўным «патрыяршым» крыжам, які з таго часу знаходзіцца на шчыце конніка-Пагоні — дзяржаўным гербе Вялікага Княства. Паводле версіі С. Жамайціса, праз некаторы час пасля смерці Вітаўта, у сярэдзіне XV ст., рукапіс перайшоў у распараджэнне кіеўскіх мітрапалітаў, у Наваградак ці Вільню. Калі мітрапалітам стаў (у 1507 г.) Іосіф Солтан, шмат дарагіх рэчаў з мітрапаліцкай рызніцы перайшло ў Жыровіцы, спадчынны маёнтак Солтанаў. Паколькі рух каштоўнасцей у дзяржаве кантраляваўся земскім падскарбіем, апошні мог, пры пасрэдніцтве Солтана, атрымаць Кіеўскі Псалтыр для ахвяравання.

Хоць Кіеўскі Псалтыр разам з прыгажосцю сваёй неавізантыйскай аздобы прынёс у Вільню карпускулу канстанцінопальскай пыхі, але нельга сказаць, каб ён быў адзіны дыктатар моды на кніжную аздобу. Многія кніжнікі пераходзяць да тэраталагічнага (ад грэцкага τερας 'пачвара') стылю аздобы кодэксаў — камбінацыі вычварных форм жывёлін з плеценымі з палос-рамянёў арнаментамі ў застаўках, ініцыялах, франтыспісах. Тэраталагічны стыль не выходзіць з папярэдняга, візантыйскага, — ён змяняе яго. Часам сярод раменных сплященняў ілюмінатар паказвае птушак і звяроў, людзей і пачвар. Пры гэтым у ініцыялах спалучэнне пляцення са звярынымі матывамі не дае бачнага каркаса альбо контуру літары — абрысы зблытаных пляценнем жывёлін такія адвольныя, што асноўны контур літары парушаецца і робіцца

[144] *Вздорнов Г. И.* Исследование о Киевской Псалтири. М., 1978. С. 32.
[145] Жемайтис С. Г. К вопросу о происхождении и бытовании Киевской псалтири (1397—1518 гг.) // Хризограф. Вып. 2. М., 2005. С. 126—138.
[146] Аб славянскіх кнігапісных майстэрнях у Візантыі гл.: *Вздорнов Г. И.* Роль славянских монастырских мастерских письма Константинополя и Афона в развитии книгописания и художественного оформления русских рукописей на рубеже XIV—XV вв. // ТОДРЛ. 1968. Т. 23.
[147] РИБ. Т. 6. Стб. 297—310.



*Кіеўскі Псалтыр 1397 г. Арк. 197. «Госпадзе! Што ёсць чалавек... Чалавек падобны дунавенню; дні яго — як хісткі цень». Матывам ілюстрацыі да 143-га псальма стала прытча пра адзінарога з «Аповесці пра Варлаама і Іасафа». Чалавек уцякае ад адзінарога на скалістую вяршыню, дзе расце вялікае дрэва. Ён лічыць, што выратаваны, і частуецца мёдам (сімвал мірской спакусы). Між тым белая і чорная мышы (дзень і ноч) падточваюць дрэва і яно вось-вось зваліцца ў глыбокую яму, дзе чакаюць змій («Пад зміем разумей страшнае адава чэрава») і чатыры аспіды (чатыры стыхіі). Малюнак з такім самым сюжэтам ёсць і на адной са старонак Лаўрышаўскага Евангелля.*

невыразным. Народны язычніцкі светапогляд праецыраваўся ў дэкарацыю да найбольш свяшчэнных кніг хрысціянства — Евангелля і Псалтыра. Стыль гэты панаваў на Беларусі да канца XVстагоддзя.

Адным з прыгажэйшых аздобленых тэраталогіяй кодэксаў эпохі Кіпрыяна з'яўляецца Псалтыр 1395/1396 г. з Мсціслаўскага Тупічэўскага манастыра[148]. Кніга была вывезена ў XVII ст. у Масковію і паслана як уклад

[148] *Щепкина М. В.* и др. Описание пергаментных рукописей Государственного Исторического музея. Ч. 1. С. 177—178. — У літаратуры гэты кодэкс да нядаўняга часу датаваўся 1395 г.; у апошніх працах Л. Сталяровай звернута ўвага, што пры сакавіцкім годзе сканчэнне перапісвання Псалтыра (1 лютага) прыпадае на наступны, 1396 г. (*Столярова Л. В.* Древнерусские надписи XI—XIV веков на пергаменных кодексах. С. 371—372; *Яна ж.* Свод записей... С. 381).

*Мсціслаўскі Псалтыр 1395 г. У арнаментыцы франтыспіса храм паказаны з фасада, уся заходняя частка пакрыта ўзорам пляцёнкі-сеткі і птушак — жывых і мёртвых. Магчыма, ілюмінатар паказаў злоўленыя людскія душы-птушкі. Унікальная для Псалтыра выява св. Савы тлумачыцца наяўнасцю ў гэтым кодэксе Часаслоўца па Статуту св. Савы.*



патрыярха Нікана ў Хрэсны манастыр на востраве Кій, у Анежскай губе Белага мора. Пазней, па загаду Сінода, яна была перададзена ў Архангельскае епархіяльнае сховішча старажытнасцей, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — у ДзГМ у Маскве. Адсюль розныя назвы гэтага кодэкса ў літаратуры — Псалтыр Смаленскі, Анежскі, Архангельскі. У ім захаваўся запіс: «В лето 6903 свершение книзе сеи месяца февраля в 1 рукою грешнаго инока Луки Смолнянина. Аще ли же кто въсхощеть книгу переписувати, сматряи не приложити или отложити неко слово, или тычку едину, или крючкы, иже суть под строками в рядах, ни же пременити слогню некоторую, или приложити от обычных их же первие привык, или пакы отложити, но с великим вниманием прочитати учитися. А писана бысть книга сия грешному иноку Алексю, и аще Бог благоволить в коегождо от отець быти сеи книзе, и аз, грешныи Олекси, того молю: поминание створи о мне грешном, в святых своих молитвах»[149]. Як можна заўважыць, тэкст запісу мае дзве часткі — ад імя кнігапісца Лукі Смальняніна і (ад слоў «и аз, грешныи Олекси») ад замоўцы кнігі, мсціслаўскага (?) манаха Алексія, якія адрозніваюцца нават арфаграфіяй напісання імя апошняга. Паколькі абедзве часткі напісаны адной рукой, узнікла меркаванне, што пісаў Лука пад дыктоўку Алексія, г. зн. запіс уяўляе так званы «дыктат».

Аздоба Мсціслаўскага Псалтыра складаецца з трох архітэктурных франтыспісаў, заставак і мноства ініцыялаў. Усе яны выканаы яркімі фарбамі з такім арнаментальным запаўненнем, якое радуе вока, і нагадваюць вырабы залатара, пакрытыя эмаллю. У сярэдзіне «інтэр'ераў» архітэктурных франтыспісаў прысутнічаюць маленькія абразкі: дзве выявы кнігапісцаў за работай і «Укрыжаванне з прадстаячымі». Малюнак першага франтыспіса традыцыйны: цар Давыд у абліччы кнігапісца; выявы на другім і трэцім — незвычайныя. Калі кампазіцыю «Укрыжаванне» можна знайсці і ў іншых кнігах (пазней яе часта адціскалі на пераплётах), то выява другога кнігапісца, падпісаная «Святой Савва», для Псалтыра унікальная. М. Розаў лічыць, што падставай для яе стала наступная частка гэтай жа кнігі, названая «Часословец... по уставу... отца нашего Саввы»[150]. Трэба адзначыць гарманічнае спалучэнне арнаментацыі разгортаў Мсціслаўскага Псалтыра, а таксама наяўнасць сімвалічнага малюнка. Падобнага кшталту малюнкі можна сустрэць і ў Лаўрышаўскім Евангеллі, і ў Кіеўскім Псалтыры. Упрыгожыў кнігу, хутчэй за ўсё, сам Лука, аб чым сведчыць пазнака тайнапісам «Господи, помози рабу Своему Луце» над выявамі чатырох фантастычных пачвар, якія акружылі зайца[151]. К. Бугаслаўскі спрабаваў тлумачыць малюнак як сімвалічны паказ Смаленскага княства паміж Масквой, Літвой і Ардой[152]. Гэтая не пазбаўленая арыгінальнасці «палітычная» інтэрпрэтацыя здаецца некалькі штучнай. Мы лічым, што больш правільна будзе тлумачыць сэнс малюнка як спробу кнігапісца паказаць у абліччы зайца сябе, сваю асобу ў акружэнні фантастычных істот, якія асацыіруюцца са звышсіламі[153].

Іншага кшталту тэраталагічная аздоба ўпрыгожвае сучасную Мсціслаўскаму Псалтыру кнігу — Мсціжскае Евангелле[154]. Тут няма багатых франтыспісаў ці медальёнаў з выявамі святых. Але шматлікія ініцыялы, сярод якіх багата антрапаморфных, вельмі выразныя. Ёсць выявы чалавека з чаркай і чалавека з рыдлёўкай, птушкі, якая заблыталася ў цянётах, фантастычнай істоты, што збіраецца праглынуць зайца, і інш.[155] Прыпіска почыркам XVI ст. на адгорце апошняга аркуша паведамляе: «З Менска Василей Микитич Лах, бурмистр места Менского, до Мстижи до Юрья светого отдал до храма божьяго»[156].

Выконваючы абавязкі вярхоўнага пастыра ўсіх праваслаўных ва Усходняй Еўропе,

[149] *Столярова Л. В.* Свод записей... С. 380.
[150] *Розов Н. Н.* Русские мастера рукописной книги: (К 1000-летию русской книги). СПб., 1999. С. 103—104.
[151] *Нікалаеў М. В.* Палата кнігапісная. С. 156—157. — У «Своде...» Л. Сталяровай таксама адсутнічае. Пры напісанні ўжытыя некалькі прыёмаў: напісанне літар дагары нагамі, замена кірылічных літар глагалічнымі, ужыванне недапісаных літар (*Долгов С. О.* Архангельская Псалтирь // Древности: Труды Московского археологического общества. 1906. Т. 21, вып. 1. С. 89—94).
[152] *Бугославский К. Г.* Замечательный памятник древней смоленской письменности XIV века и имеющийся в нем рисунок символико-политического содержания // Тамсама. С. 77—88.
[153] *Нікалаеў М. В.* Палата кнігапісная. С. 153, 156.
[154] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 2.
[155] *Нікалаеў М. В.* Палата кнігапісная. С. 151—156.
[156] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... С. 7.



*Мсціслаўскі Псалтыр 1395 г. Дапіска тайнапісам і сімвалічны малюнак. На малюнку пачвары (цары — рымскі, македонскі, вавілонскі — і антыхрыст) абкружаюць баязлівага зайца.*

Кіпрыян сам займаўся перакладам і спісваннем кніг; вядома аб яго перакладах з грэцкай на славянскую мову царкоўна-службовых тэкстаў — чыноў і малебных канонаў на розныя выпадкі, а таксама літургіка-паэтычных твораў. У сваіх «Адказах ігумену Афанасію» Кіпрыян гаворыць аб тым, што ў цэрквах трэба чытаць Евангелле тлумачальнае, а на трапезе — Пацярык, кнігі св. Яфрэма Сірына і авы Дарафея, «такоже и Шестоденьник святого Василья, и святого отца Іоана Златоустаго»[157]. Пры Кіпрыяне і праз ягоную карпатлівую працу адбываўся пераход праваслаўнай царквы ад Студыйскага царкоўнага статута да Іерусалімскага, які ўжо зацвердзіўся на Усходзе і ў паўднёвых славян.

Захаваўся пергаменны Службоўнік, найбольш верагодна, 1390-х гг., у якім маецца запіс: «Сии Служебник преписан от грецкых книг на рускыи язык рукою своею Киприан, смиреныи митрополит Кыевъскы и всея Руси; елици же преписуете и поучаваетеся сими книгами ли божественую и безкровную жертву Господеви приносящеи священници и сими книгами молитвы молящеся поминаите наше смирение, яко да и вы тому же поминанию сподоблени будете. Аще ли же кто восхощет сия книгы переписывати, сматряи, не приложити, или отложити едино некое слово, или тычку едину, или крючькы, иже суть под строками в рядех, ниже пременити слогию некоторую, или приложити от обычных их же первее привык, или паки отложити в дьяконьствах, ниже в възглашениих, ни в молитвах, но с великым вниманием прочитати учитися или преписывати, яко да не от небрежения в грех впадете, зане же еже от небрежения впасти в грех, горшии есть, неже еже от невидения бываемаго»[158]. Словы «рукою своею» не трэба разумець літаральна: почырк і арфаграфія Кіпрыяна вядомыя і адрозніваюцца ад тых, што мы бачым у дадзенай кнізе[159]. Як піша Л. Сталярова, такі зварот «мог азначаць альбо тое, што мітрапаліт быў заказчыкам гэтага кодэкса, альбо тое, што ён пераклаў тэкст грэцкага Службоўніка, які лёг у аснову дадзенага кодэкса»[160].

Мы прывялі запіс цалкам, каб звярнуць увагу на даслоўнае супадзенне з тэкстам Лукі Смальняніна з Мсціслаўскага Псалтыра 1395/1396 г. у частцы «унікальнага пераліку прафесійных памылак перапісчыка»[161], што можа, хай ускосна, паказваць на досыць цесныя сувязі Кіпрыяна ў яго кніжнай дзейнасці са Смаленскай зямлёй.

Яшчэ адзін Службоўнік кіпрыянаўскіх часоў[162] паходзіць з Полацка. У калекцыю М. Румянцава кніга трапіла ад доктара Говарава з Полацка, які атрымаў яе ад наглядчыка полацкага павятовага вучылішча Дарашкевіча. Іван Грыгаровіч адзначыў той факт, што ў гэтым Службоўніку сустракаюцца памінанні князя (пад час перапіскі кнігі ім быў Андрэй Альгердавіч), епіскапа і архіепіскапа. У сувязі з гэтым ён прыгадвае, што полацкая епіскапская кафедра стала архіепіскапскай у 1392 г., калі мітрапаліт Кіпрыян хіратанісаў першага полацкага архіепіскапа Феадосія — таго самага, які пазней ўдзельнічаў у Навагрудскім саборы 1415 г. і выбарах мітрапаліта Грыгорыя Цамблака. Дэталёва разгледзеў Грыгаровіч асаблівасці мовы і палеаграфіі гэтай кнігі[163], толькі мастацкую аздобу («буквы ўзорныя з выявамі драконаў», паводле выразу Вастокава) ён пакінуў без увагі.

У межах ВКЛ створана яшчэ адна захаваная да сёння кніга эпохі Кіпрыяна — вялізны, 238 аркушаў памерам фоліо, «Зборнік жыццяў і Словаў святых», які спісаў у 1390 г. «многогрешныи дьяк Василко»[164].

Да гэтага ж перыяду адносіцца альбо, прынамсі, узыходзіць да яго ў якой-небудзь сваёй першапачатковай версіі яшчэ адзін, даволі цьмяны паводле паходжання помнік — «Сказанне пра літоўскія цуды св. Мікалая

[157] РИБ. Т. 6. Стб. 259—260 1-й араб. паг.

[158] *Столярова Л. В.* Свод записей... С. 316.

[159] *[Горский А. В., Невоструев К. И.]* Описание славянских рукописей Московской синодальной библиотеки. Отд. 3, ч. 1. М., 1869. С. 12.

[160] *Столярова Л. В.* Свод записей... С. 317. — Не можам, дарэчы, не здзівіцца, чаму такі сталы даследчык лічыць Кіпрыяна, мітрапаліта Маскоўскага, і Кіпрыяна, мітрапаліта Кіеўскага, за дзвюх розных асоб (тамсама. С. 482).

[161] Тамсама. С. 317.

[162] *Востоков А. Х.* Описание русских и словенских рукописей Румянцовского музеума. № 398.

[163] Переписка А. Х. Востокова в повременном порядке. СПб., 1873. С. 79—81.

[164] *Леонид (Кавелин Л. А.).* Систематическое описание славяно-российских рукописей собрания графа А. С. Уварова. Ч. 2. М., 1893. № 1045. — Запіс у «Своде...» Л. Сталяровай адсутнічае.

Мірлікійскага». Яно вядома ў 6 спісах XVI—XVII стст., прычым ніводзін з іх, здаецца, не звязаны з ВКЛ[165]. Паказальны сам загаловак: «А се новая чюдеса святаго Николы, в Лукомли сотворишася, в Литовской земли»[166]. Апошнія словы ў Вялікім Княстве былі б залішнія. Аднак залічыць гэты твор да літаратуры ўласна велікарускай таксама не выпадае; ён вельмі архаічны і яўна адлюстроўвае тую эпоху, калі для Маскоўскай Русі погляд на Русь Літоўскую як на краіну нейкага другараднага, сапсаванага праваслаўя быў цалкам чужы. «Сказанне...» апісвае пастаўленне ў Лукомлі ў 1397 г. крыжа ў гонар св. Мікалая і цуды, што здарыліся пасля, — 15 хворых з розных месц вылечыў св. Мікалай. У некалькіх спісах упамінаецца вялікі князь Вітаўт; адзін са спісаў называе наўгародскага архіепіскапа Іаана, які памёр у 1415 г. Верагодна, да гэтага часу належыць і паходжанне «Сказання...». Месца ж яго з'яўлення ў літаратурнай форме вызначыць, нават гіпатэтычна, больш складана. Бясспрэчна, «Сказанне...» абапіраецца на мясцовыя, лукомльскія паданні — пра гэта сведчаць і нечакана канкрэтныя тапаграфічныя спасылкі (св. Мікалай загадвае «всем крестияном лукомляном» паставіць у яго імя царкву «у ледника на горке»[167]), і ў асноўным заходнерускія тапонімы, што змешчаны ў пераліку цудаў. Але відавочна і пэўная аддаленасць «Сказання...» ад Літоўскай Русі — апроч назвы, можна адзначыць і поўную адсутнасць моўных заходнерусізмаў[168], і нейкія дваістыя адносіны да Полацка: св. Мікалай кажа лукамлянам, што хацеў бы быць з імі, але павінен ісці «в Полтеск, занеже умножишася безакония их, целують крест, да изменяют. Хощю их показнити»[169]. Аўтар быццам і асуджае палачан, аднак неяк па-сваяцку: св. Мікалай не толькі іх не праклінае, але ў пэўным сэнсе аддае перавагу Полацку над Лукомлем. У гэтай сувязі магчыма дапусціць пскоўскае паходжанне «Сказання...», да таго ж у Пскоўскай зямлі спецыфічны культ св. Мікалая стаў развівацца раней у параўнанні з астатняй Руссю і набываў найбольш выразныя формы[170]; пры гэтым сам помнік, з яго безумоўнымі заходнерускімі каранямі, служыць яскравым прыкладам таго духоўнага сінкрэтызму, што так старанна насаджваўся кіпрыянаўскай іерархіяй па ўсёй праваслаўнай Усходняй Еўропе.

У часы Кіпрыяна з непасрэдным удзелам кніжнікаў ВКЛ узніклі і іншыя творы, да прыкладу летапісны гістарычна-геаграфічны помнік «Имена всем градом рускым далним и ближним» (паміж 1375 і 1381 гг.)[171] з асобным раздзелам «Літоўскія гарады». Пералічана 37 гарадоў, сярод іх ўсе тры «гістарычныя сталіцы» ВКЛ — Наваградак, Трокі, Вільня. Добрае веданне асаблівасцей забудовы сведчыць аб асабістай прысутнасці на месцы аўтара артыкула ці яго інфарматараў. Шмат якія з «літоўскіх гарадоў» ужо ў XVI ст. перайшлі ў арбіту Масквы, але іхняя «літоўскасць» яшчэ доўга ўплывала на культурныя дачыненні ў рэгіёне. Напрыклад, Таропец, які належаў ВКЛ, быў пагранічным пунктам на шляху ў саюзную Вялікаму Княству Цвер. З Таропца выйшлі кнігапісцы, што працавалі ў розных частках праваслаўнага свету, у тым ліку ў Вільні і Супраслі. З другога боку, значная частка гарадоў, якія знаходзіліся на тэрыторыі ВКЛ, названыя валынскімі, кіеўскімі і смаленскімі: невядомыя аўтары пад рэдакцыяй, магчыма, самога Кіпрыяна праводзяць традыцыяналісцкі падыход да назваў гістарычных зямель, якія ўжо з'яўляюцца часткамі новага дзяржаўнага ўтварэння.

Лёгка заўважыць, што ў аснове Кіпрыянавай эпохі ляжала істотная супярэчнасць — у плане палітычным гэта былі часы дамінавання Літвы над Масквой, а ў культурным (кажучы, канечне, толькі аб праваслаўнай куль-

[165] *Пак Н. В.* Сказанне пра «літоўскія» цуды свяціцеля Мікалая Мірлікійскага // Праваслаўе. 1999. № 8. С. 75—78.

[166] Тамсама. С. 80.

[167] Тамсама. С. 78, 80.

[168] Тамсама. С. 78.

[169] Тамсама. С. 80.

[170] *Успенский Б. А.* Филологические разыскания в области славянских древностей (Реликты язычества в восточнославянском культе Николая Мирликийского). М., 1982. С. 16. — Да Пскова належыць і найдаўнейшы (1372 г.) запіс старажытнарускага перапісчыка з малітвай да св. Мікалая (*Столярова Л. В.* Свод записей... № 296), і першае, здаецца, у праваслаўнай Усходняй Еўропе з'яўленне разнога абраза — якраз з выявай св. Мікалая (*Соловьев С. М.* Сочинения. Кн. 4. М., 1989. С. 77—78).

[171] *Тихомиров М. Н.* Русское летописание. М., 1979. С. 83—137; *Янин В. Л.* Новгород и Литва. Пограничные ситуации XIII—XV веков. М., 1998. С. 67.

туры) — адваротная з'ява, пераход да ўмацавання Маскоўскай дзяржавы як ядра ўсходнеславянскай кніжнасці. Характэрна, што вядомыя пункты кнігавытворчасці ў ВКЛ канца XIV і пачатку XV ст. групуюцца, у асноўным, на яго ўсходніх землях — гэта Полацк, Мсціслаўль, крыху пазней Смаленск. Пры мітрапалітах Фоціі (1409—1431), Герасіме (1433—1435) і Ісідары (1437—1441) такое становішча афармілася зусім пэўна: палітычная і царкоўная сталіца — Вільня — аказваецца няблізкай перыферыяй для заходнерускай рукапіснай кніжнасці, а пагранічны з Масквой Смаленск — яе прызнаным цэнтрам. Падобную сітуацыю не змянілі ні кароткая рэстаўрацыя Літоўскай мітраполіі ў 1415—1419 гг. (з кафедрай ужо ў Вільні, а не ў Кіеве), ні яе канчатковае аддзяленне ад Масквы ў 1458 г.; праваслаўная духоўная ўлада і праваслаўная духоўная культура сталіся ў ВКЛ раз'яднаныя і ў чымсьці супрацьпастаўленыя нават тэрытарыяльна. Сталае знаходжанне Герасіма, пад час яго нядоўгага мітрапаліцтва, у Смаленску ёсць вынік выключна знешніх, ваенных абставін — грамадзянскіх войнаў, што адначасова ішлі ў ВКЛ і Маскоўскім княстве. Гэты чыннік, з бегам часу відазмяняючыся, іншы раз слабеючы, але захоўваючыся на працягу амаль 200 гадоў, адыграў важную і драматычную ролю ў лёсах духоўнай культуры Вялікага Княства.

Такім чынам, кіпрыянаўскі перыяд кладзе рэзкую мяжу паміж XIV і XV стст., адначасова займаючы ў гісторыі глыбока арыгінальнае і непаўторнае месца. Адрозненні добра прыкметныя і ў кніжным рэпертуары: калі большая частка XIV ст. прайшла пад знакам Евангелляў, а часы Кіпрыяна можна назваць эпохай Псалтыроў, то стагоддзе пятнаццатае вылучаецца як значным пашырэннем і ўзбагачэннем наменклатуры царкоўнай кнігі (богаслужбовай, жыційнай, твораў Айцоў Царквы), так і ўзнікненнем свецкіх апавядальных твораў, г. зн. літаратуры ва ўласным сэнсе. Першапачаткова яны з'яўляюцца ў якасці ўставак альбо прыпісак у больш традыцыйных формах пісьменства — у летапісах, царкоўных чэцціх кнігах і да т. п.

Найбольш выразны прыклад устаўкі падобнага роду — першая рэдакцыя «Пахвалы Вітаўту». У фондзе РНБ ёсць кніга, якая была ўласнасцю мітрапаліта Герасіма яшчэ ў бытнасць яго смаленскім епіскапам, — зборнік 1428 г. са Словамі св. Ісаака Сірына, спісаны «рукою раба Божіа Тімофея», а «волею и хотеніем великого князя Александра, зовомого Витовтъ»[172]. Прыпіска ў канцы кнігі апавядае і пра заказчыка: «В лето 6936 месяца августа 14 списана бысть книга сия, в богохранимом граде Смоленьску, повеленіем смиренаго епископа кир Герасима, преже бывьшаго Владимерьскаго Волынскыя земли, родом же москвитина, Тітова сына, а Болванова внука»[173]. Цалкам гэтая кніга, на жаль, не захавалася. Калі яе пераплcraталі ў Жыровіцкім манастыры (характэрны шыфр жыровіцкай бібліятэкі XVIII ст. пастаўлены на перадапошняй старонцы), то адсутнічаў пачатак (некалькі сшыткаў) і адзін аркуш у канцы — на паўслове абарваныя звесткі пра Герасіма. Паказальна, што папера кнігі мае філігрань «Адзінарог» — такую ж самую паперу выкарыстоўвала канцылярыя Вітаўта ў 1422—1424 гг.[174] Непасрэдна перад працытаванай прыпіскай знаходзіцца тэкст «Пахвалы» — хіба не першага панегірычнага твора ў культуры ВКЛ[175]. Ён вядомы таксама ў некалькіх пазнейшых рэдакцыях у беларуска-літоўскіх летапісах і хроніках XV—XVI стст. і ў расійскіх гістарычных зборніках XVI—XVII стст. Тут, верагодна, не месца для гістарычна-літаратурных альбо крыніцазнаўчых назіранняў, але нельга не звярнуць увагу, наколькі «Пахвала» адпавядае той маніі



*Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх. Ініцыял — ілюстрацыя да псальма 139: «Збаві мяне, Госпадзе, ад чалавека ліхога; ахавай ад прыгнятальніка, яны ліхое думаюць у сэрцы, кожны дзень на бойку ладзяцца...».*

[172] *Ластоўскі В. Ю.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 151.
[173] Тамсама. С. 153.
[174] *Laucevičius E.* Popierius Lietuvoje XV—XVIII a. Vilnius, 1967. № 3742.
[175] Пра «Пахвалу Вітаўту» гл.: *Чамярыцкі В. А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. С. 85—113.

вялікасці, што апанавала Вітаўта з канца 1390-х гг. і да канца жыцця. Паводле думкі панегірыста, «бяху крепко служаху ему (Вітаўту. — *М. Н.*) велицыи князи: великии князь Моськовски, великии князь Тферьски, велики князь Рязаньски, великии Новъгород, великии Пьсков и спроста рещи весь Русьскии язык. Честь и дары подаваху ему и такоже служаху ему въсточные великии цари Татарьскии, тако же и Немецькии, великии князи служаху ему, со всеми грады своими и с землями, те же Немецькии князи по Немецькому языку зовоми мисторове. Еще же и иніи велицыи князи служать ему: государь Молдавьскои земли, тако же и Бесарабьскои земли, те же велицыи князи, государи Молдовьскои земли по Власкому языку зовоми воеводы. Тако же и Чесьское корольство служаше ему... А от тех великих земль которому осподарю повелеваше к собе быти, они без всякого ослушания прихожаху к нему с своих земль есть пак хочеть поити на которую землю, на них сам бываше коли гневен, или пак сильных своих воевод где послати хощеть. И ис которои земли, которым государем веляше к собе быти, ино тех великих земль государи без всякого ослушания приходять со всеми своими силами на помочь и на его службу»[176]. В. Чамярыцкі, які вельмі тактоўна трактуе гэтыя ні на што не падобныя, ледзь не шалёныя ўсхваленні і ліслівасці, не можа, аднак, не заўважыць (кажучы пра гісторыю тэксту «Пахвалы» ў летапісных рэдакцыях), што «калі згодна з пахвалой 1428 г. уплыў Вітаўта абмяжоўваўся выключна Усходняй Еўропай... то ў новай апрацоўцы магутнасці і славе вялікага літоўскага князя нададзена ўжо сапраўды ўсееўрапейскае гучанне. «Во велицеи любви живущи» з Вітаўтам, «велику честь подаваше» яму, дадае аўтар, нават сам цэзар рымскі... цар царградскі, кароль польскі, а ў Ардзе літоўскі князь мае практычна неабмежаваны ўплыў»[177]. Вось ужо сапраўды, «прастата і непасрэднасць выказанага ў ёй («Пахвале». — *М. Н.*) пачуцця»[178] проста унікальныя[179]. Твор гэты займае важнае месца ў духоўнай гісторыі XV ст. Ідэю літаратурнага праслаўлення свайго князя пазней падхапілі ў Цверы, дзе інак Фама склаў «Слова пахвальнае цвярскому князю Барысу Аляксандравічу», а таксама ў Маскве, дзе было створана «Слова аб жыцці і аб скананні вялікага князя Дзмітрыя Іванавіча, цара рускага». Урэшце, тады ж у маскоўскіх і наўгародскіх летапісах з'явілася прасякнутая нянавісцю да Вітаўта аповесць «Аб пабоішчы Вітаўта з Цімур-Кутлукам» — аб бітве 1399 г. на Ворскле.

Летапісы, пра якія мы нагадалі, таксама былі ў межах ВКЛ цалкам новай з'явай, ва ўсялякім выпадку, ніяк не былі пераемна звязаны з традыцыяй XIII ст. Не будзем спыняцца на крыніцах і ўласна гісторыі летапісання — гэта досыць поўна выкладзена ў шырокавядомых працах В. Чамярыцкага і М. Улашчыка; разгледзім толькі некаторыя факты з гістарычна-культурнага гледзішча. Польскі гісторык Я. Якубоўскі зазначыў, што летапісанне ВКЛ узнікла «як процівага летапісанню рускаму» і, хоць і карысталася рускай мовай, імкнулася «ў іншым духу ўплываць на думку чытэльнага літоўска-рускага грамадства»[180]. Бясспрэчна, у XVI ст. так і было, але ці было так ад самага пачатку? В. Чамярыцкі паказвае, што «ўсе вядомыя спісы беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік падзяляюцца на чатыры групы» — у хparty храналогіі паходжання: «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», першы звод (кароткая рэдакцыя), другі звод (пашыраная рэдакцыя) і спіс (Хроніка) Быхаўца[181]; прычым «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» асобнымі спісамі не прадстаўлены — гэта проста назва «адзінага агульнага для ўсіх спісаў тэксту»[182]. Апроч яго, кароткая рэдакцыя (інакш — Беларускі І

[176] *Ластоўскі В. Ю.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 151—152. — М. Грушэўскі заўважыў у гэтым тэксце «сляды рытмічнай ці, хутчэй, цыклічнай будовы» (*Грушевський М. С.* Історія України-Руси. Т. 6. Київ, 1995. С. 363); калі так, смаленскае пісьменства і ў XV ст. захоўвала вельмі архаічныя рысы старакіеўскай літаратуры.

[177] *Чамярыцкі В. А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. С. 91.

[178] Тамсама. С. 86.

[179] Савецкія літаратуразнаўцы падзялілі літаратуру XV ст. на літаратуру, якая спрыяла ўтварэнню Рускай цэнтралізаванай (з цэнтрам у Маскве) дзяржавы, і літаратуру з «пераважальнымі абласнымі тэндэнцыямі» (гл., напр.: *Гудзий Н. К.* История древней русской литературы. 7-е изд. М., 1966. С. 308—310). Панегірыку Вітаўту ў гэтай схеме месца, вядома, не знайшлося.

[180] *Jakubowski J.* Studya nad stosunkami narodowościowymi na Litwie przed Unią Lubelską. Warszawa, 1912. S. 13.

[181] *Чамярыцкі В. А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. С. 25.

[182] Тамсама. С. 15.



*Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх. Ініцыял — ілюстрацыя да 85-га псальма: «Нахілі, Госпадзе, вуха Тваё і пачуй мяне, бо я бедны і гаротны...».*

летапіс) змяшчае часткі агульнарускую, на аснове Наўгародскага IV і Сафійскага I летапісаў, і смаленскую, у тым ліку вядомую нам «Пахвалу Вітаўту». І паколькі, працягвае В. Чамярыцкі, «агульнае падабенства першага беларуска-літоўскага, Наўгародскага IV і Сафійскага I летапісаў рэзка абрываецца на 1418 г., трэба прызнаць, што ў аснове гэтага рускага летапісу, крыніцы першага беларускага, ляжаў агульнарускі звод 1418 г., так званы паліхрон Фоція»[183]. Іншымі словамі, першы летапісны звод ВКЛ знаходзіцца цалкам

[183] *Чамярыцкі В. А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. С. 70—71.

у рэчышчы агульнарускай традыцыі, альбо, дакладней, традыцыі адзінай мітраполіі, «кідэмоніі». Першы звод, які абапіраўся на крыніцы часоў Фоція, вёўся і папаўняўся ў Смаленску, дзе епіскапам, а потым мітрапалітам сядзеў стаўленік і верны паплечнік Фоція Герасім, — праца над ім працягвалася і пасля гібелі апошняга ў 1435 г. (самая позняя звестка адносіцца да 1446 г.), затым спынілася.

Цяпер зноў звернемся да В. Чамярыцкага: «Летапіс жа пашыранай рэдакцыі адкрываецца зусім новым творам — «Хронікай Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», у якой перадаецца легендарная гісторыя Літвы ад міфічнага князя Палемона да Гедыміна... Увесь агульнарускі летапіс, за выключэннем некалькіх звестак, у спісах пашыранай рэдакцыі апушчаны. З летапісу папярэдняй, кароткай рэдакцыі запазычаны толькі арыгінальныя творы мясцовага паходжання: «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», Смаленская хроніка з «Пахвалой Вітаўту» і некалькі смаленскіх запісаў пра падзеі 30-х — першай паловы 40-х гадоў XV ст.»[184] Па сутнасці, у другой палове XV ст. у летапісанні ВКЛ адбылася рэвалюцыя. Другі звод (Беларускі II летапіс) свядома і адкрыта парывае з агульнарускай традыцыяй, а дакладней — з ідэалогіяй арыентаванасці на Маскву, нават у пытаннях духоўных. І найбольш выразна гэта выглядае ў самым прыкметным месцы: «Аповесць мінулых гадоў» з яе біблейскім пачаткам цынічна замяняецца легендай аб паходжанні літоўскай дынастыі і арыстакратыі ад старажытных рымлян. Безумоўна, непасрэдная прычына гэтага ідэйнага разрыву — падзел на Літоўскую і Маскоўскую мітраполію ў 1458 г. Але сама рэзкасць і прастата разрыву паказвае, бадай, на карані больш глыбокія — і ў часе, і, здаецца, у псіхалогіі. Жудасны канец мітрапаліта Герасіма (яго спалілі ў Віцебску нібыта за дзяржаўную здраду, і спаліў якраз той, хто лічыўся лепшым абаронцам усіх праваслаўных у ВКЛ, — вялікі князь Свідрыгайла Альгердавіч) правёў тлустую рысу пад любой «кідэмоніяй», дыскрэдытаваў саму ідэю Кіеўскай мітраполіі. Шматлікія беларускія спісы «Летапісу Аўраамкі» і блізкага да яго «Летапісца епіскапа Паўла», якія сучасны даследчык залічвае да помнікаў летапісання Вялікага Ноўгарада апошніх гадоў існавання Наўгародскай рэспублікі, з'яўляюцца, на нашу думку, характэрнымі помнікамі кніжнасці ВКЛ таго перыяду, калі магчымы быў саюз Вялікага Княства з Ноўгарадам[185]. Наступнік Герасіма Ісідар — апошні мітрапаліт сапраўды «ўсяе Русі» — ужо ў роўнай меры пазбягае і Масквы, і Літвы, аддаючы перавагу Цверы, Ноўгараду, а яшчэ больш Італіі! І сама Масква з надзвычайнай лёгкасцю прызнала раскол 1458 г. (усё абмежавалася абменам пасланнямі між рускімі і літоўскімі епіскапамі[186]) — Літоўская зямля стала для яе чужой і ў царкоўных дачыненнях, застаўшыся выключна аб'ектам тэрытарыяльных дамаганняў. Адзіная старажытнаруская культура канчаткова распадаецца. Толькі цяпер і робяцца магчымымі, з аднаго боку, вялікадзяржаўныя тэорыі аб «спадчыне Манамаха», з другога — успрыманне ў Вялікім Княстве культуры Адраджэння.

Знешняя лёгкасць расколу не супярэчыць таму, што мы казалі пра неахвоту і пасіўнасць, з якой ставілася праваслаўная іерархія ВКЛ да выхаду з-пад улады маскоўскіх мітрапалітаў. Самавызначэння патрабавала не царква, а грамадства, і не з царкоўнымі інтарэсамі гэтае самавызначэнне было звязана ў першую чаргу. Якраз з асяроддзя мясцовага епіскапата не вядома ніводнага значнага прыхільніка царкоўнай незалежнасці, і ніхто з заходнерускіх мітрапалітаў аж да 1475 г. не паходзіў ні з епіскапаў, ні з ураджэнцаў Літоўскай Русі. Кіраўніцтва царквы апынулася на ўзбочыне гістарычнага працэсу; грамадства раптам выйшла з-пад кантролю іерархіі. (І гэта пры тым, што славянскае насельніцтва ВКЛ заставалася шчыра і глыбока праваслаўным — спробы саюза з рымскай царквой у 1458—1469 і 1476 гг., што не ішлі ні ў якое параўнанне з маштабамі Брэсцкай уніі, былі аднадушна адхіленыя вернікамі і надоўга забытыя.) Так быў зроблены першы крок у гісторыі крызісу праваслаўнай царквы ў ВКЛ, што прывёў нарэшце да катастрофы 1596 г., ад якой яна ўжо не ачуняла. Гісторыя

[184] *Чамярыцкі В. А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. С. 23.

[185] *Бобров А. Г.* Новгородские летописи XV века. СПб., 2001. С. 229—237.

[186] *Макарий (Булгаков М. П.).* История русской церкви. Кн. 4, ч. 1. М., 1996. С. 275. — Паказальна і тое, што «зносін уласна паміж самімі мітраполіямі Маскоўскаю і Літоўскаю пасля канчатковага падзелу іх... не адбывалася ніякіх на працягу ўсяго дадзенага перыяду» (тамсама. Кн. 4, ч. 2. М., 1996. С. 200), г. зн. да самай Брэсцкай уніі.

кніжнай культуры адлюстравала гэты факт у сваёй спецыфіцы: летапісанне Вялікага Княства Літоўскага, ледзь узнікшы, у канцы XV ст., г. зн. з Беларускага II летапісу, поўнасцю губляе царкоўны характар, параджае такую унікальную з'яву, як «літоўскія летапісы» XVI ст., — і бясследна знікае, у адрозненне, напрыклад, ад Польшчы, дзе даўнія традыцыі аўтарскай аналітыкі плаўна звязалі яе з эрудыцкай гістарыяграфіяй Новага часу. Калі ў Кіеўскай і Маскоўскай Русі летапісанне да часоў Івана Грознага было царкоўнай манаполіяй, то царква Вялікага Княства Літоўскага адразу ж выпусціла з рук гэтую магутную зброю, таксама як неўзабаве страціла кантроль і над творамі царкоўнай кніжнасці. У XVI ст. іх вытворчасць усё больш пераходзіць да прыватных асоб. Лёс летапісання стаў адной з вонкавых адзнак працэсу падзення аўтарытэту праваслаўя ў Літоўскай Русі.

Тут варта закрануць адзін надзвычайны помнік 1490-х гг., які гістарычна звязаны з ВКЛ, але як быццам увогуле не ўкладваецца ў нашы ўяўленні аб эвалюцыі летапісання XV ст. Радзівілаўскі летапіс — копія Уладзімірскага ілюмінаванага зводу 1206 г. (які да нас не дайшоў), — ёсць адной з прыгажэйшых і цікавейшых кніг стагоддзя. Яна змяшчае больш за 600 каляровых мініяцюр, выкананы яны двума (некаторыя даследчыкі лічаць, што трыма) мастакамі — з лёгкай рукі акадэміка Дз. Ліхачова іх часам называюць «вокнамі ў страчаны свет сярэднявечча»[187]. Згодна з традыцыяй, гэта зборнік — ён уключае не толькі летапіс, але і іншыя творы: «Сказанне Даніла ігумена пакорлівага», «Слова святога Дарафея епіскапа Турскага аб 12 святых апосталах», «Слова святога Епіфанія, сказанне аб прароках і прарочыцах».

У XVII ст. рукапіс гэты належаў Багуславу Радзівілу — ад чаго і назва, перад тым — ляснічаму Зяновічу, яшчэ раней — дробнаму гродзенскаму шляхціцу Цаплі; мяркуючы па маргінальных запісах, пабываў у межах Троцкага, Віленскага і Наваградскага ваяводстваў; далей у глыбінях часу лёс яго невядомы. Кніга знаходзіцца ў Бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук, добра захавалася і, што здараецца нячаста, выдатна апублікавана факсімільна[188]. Датуецца спіс досыць дакладна па вадзяных знаках паперы; галоўную праблему складае пытанне аб месцы яго вырабу. Ад пачатку XX ст., з прац акадэміка А. Шахматава, у літаратуры замацавалася меркаванне аб заходнерускім, больш верагодна смаленскім, паходжанні кодэкса. Як рэзюміруе сучасны прыхільнік гэтага пункту погляду, ён пацвярджаецца праз дыялектычныя асаблівасці рукапісу, змест прыпісак, у якіх бачыцца ўхваленне вечавых парадкаў, асабліва ў Полацку (у сувязі з атрыманнем горадам магдэбургскага права ў 1498 г.), а таксама праз «мноства заходнееўрапейскіх уплываў» і «малацаркоўны характар афармлення»[189]. Акадэмік Б. Рыбакоў дадае сюды вынікі аналізу мініяцюр рукапісу, адзначаючы ў іх заходнія гатычныя элементы «ў паўнавартасным комплексе: рыцарскі даспех XV ст., своеасаблівыя вычварныя шчыты XV ст., гарматы ў амбразурах крэпасцей» поруч са спецыфічна смаленскімі сюжэтамі і матывамі[190]. У цэлым падобныя доказы ўражваюць, але, узятыя паасобку, абвяргаюцца іншымі аўтарамі.

Характар мініяцюр можна растлумачыць праз біяграфію і жыццёвы вопыт мастака, а асаблівасці мовы — праз месца нараджэння перапісчыка[191]; пазнака «зри» пры ўпамінанні Полацка (на яе важнасці настойвае А. Чарняцоў[192]) сведчыць на карысць полацкага паходжання спіса не больш, чым устаўка «ў нас» у тэкст сказання аб закліканні варагаў («а другий сиде у нас на Белеозере»[193]) на карысць белазерскага. Многія заўвагі хутчэй выклікаюць пытанні, чым адказваюць на іх. Так, А. Чарняцоў адзначае «архаізм мініяцюр

[187] Напрыклад, аповяд пра штурм князем Уладзімірам Полацка, спробу Рагнеды забіць свайго мужа, заступніцтва маленькага Ізяслава за сваю маці, раду баяр даць Рагнедзе з сынам айчыну, а таксама высылку полацкіх князёў з сем'ямі ў Канстанцінопаль — усё гэта ілюстравана пяццю мініяцюрамі (арк. 163—164).

[188] Радзивиловская летопись. [Т. 1]: Факсимильное воспроизведение. СПб.; М., 1994.

[189] *Чернецов А. В.* К изучению Радзивиловской летописи // ТОДРЛ. 1981. Т. 36. С. 285—287.

[190] *Рыбаков Б. А.* Миниатюры Радзивиловской летописи и русские лицевые рукописи X—XII веков // Радзивиловская летопись. [Т. 2]: Текст, исследование, описание миниатюр. СПб.; М., 1994. С. 282, 300—301.

[191] *Кукушкина М. В.* К вопросу о месте происхождения Радзивиловской летописи в списке XV в. // ТОДРЛ. 1997. Т. 50. С. 382—383.

[192] *Чернецов А. В.* К изучению Радзивиловской летописи. С. 286.

[193] *Кукушкина М. В.* Предисловие к изданию // Радзивиловская летопись. [Т. 2]. С. 10.



*Старонка Радзівілаўскага летапісу з трыма мініяцюрамі, якія ілюструюць тэкст (падзеі 1199 г.):*
*1. Вяртанне войска князёў Яраполка кіеўскага, Юрыя Даўгарукага пераслаўскага і Андрэя валынскага з паходу на Чарнігаў. Тут жа: невядомы рыцар канчае жыццё самагубствам.*
*2. Захоп чарнігаўскімі Ольгавічамі палонных, скаціны і коней пад Нежацінам.*
*3. Дараванне кіеўскім князем Яраполкам пераяслаўскага княжэння свайму брату Андрэю і валынскага — пляменніку Ізяславу Мсціславічу. Злева — алегарычная фігура.*
*Арк. 166 адв.*



*Старонка Радзівілаўскага летапісу з мініяцюрамі, якія ілюструюць тэкст: пад час мору 1092 г. па Полацку хадзілі пешшу (уначы) і ездзілі конна (удзень) д'яблы, нападаючы на людзей у дамах і на вуліцах.*

цюр, іх арыентацыю на старажытнарускія ўзоры дамангольскіх часоў, практычную адсутнасць адлюстравання ў мініяцюрах дасягненняў старажытнарускага мастацтва XIV—XV стст.»[194] — але ці былі Полацкая і Смаленская землі некранутымі астраўкамі дамангольскай архаікі? Тут жа ён кажа пра «агульную дэградацыю стылю і звязаную з ёй нядбайнасць выканання». Але ж гэта датычыць аднаго з мастакоў ілюстрацый, чаму гэта павінна служыць доказам таго ці іншага месца стварэння спіса? Супастаўленне вайсковых і бытавых рэчаў на мініяцюрах паказала адпаведнасць іх захаваным у музеях і археалагічным знаходкам. Паводле заключэння археолага А. Арцыхоўскага, іх можна разглядаць як праўдзівую гістарычную карціну — мініяцюрысты дакладна паказваюць не толькі старажытную зброю: мячы, сякеры, коп'і, шастапёры, гарматы і бытавыя рэчы — плугі, рыдлёўкі, нажніцы, але таксама прадметы — сімвалы існаваўшай іерархіі: кароны, шапкі, шлемы і адзенне[195]. Сапраўды, Радзівілаўскі летапіс мае шмат загадак, супярэчнасцей і парадоксаў. Але галоўнае: абсалютна немагчыма растлумачыць, хто і на якія сродкі мог замовіць у Вялікім Княстве ў 1490-я гг., калі туды ўжо ва ўсю моц паступалі друкаваныя кнігі, вялізны ілюмінаваны кодэкс свецкага зместу, цалкам пазбаўлены якой-небудзь актуальнасці (нагадаем, тэкст заканчваецца на 1206 г.) і якіх-небудзь сэнсавых сувязей з Літоўскай Руссю (такія знакавыя для новай дзяржавы тапонімы, як Вільня, Наваградак, Трокі, рака Нёман не прыгадваюцца тут ні разу).

Доўгае княжанне Казіміра Ягелончыка (1440—1492) выклікала і новыя з'явы ў сферы кніжнасці. Інтэнсіўная заканадаўчая дзейнасць (выданне Судзебніка 1468 г. і шэрага прывілеяў гарадам і землям ВКЛ), ускладненне структуры і функцый велікакняжацкага апарату прывялі да ўзнікнення дзяржаўнага архіва. «У сярэдзіне 80-х гадоў XV ст. канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага ажыццявіла два мерапрыемствы, цесна звязаныя паміж сабой: былі складзены кнігі-зборнікі ранейшых дакументаў і распачалося вядзенне бягучых кніг, у якія дакументы ўпісваліся па меры складання. Гэты момант уяўляецца пачатковай датай гісторыі выданняў Літоўскай Метрыкі»[196]. Тут важна не толькі тое, што ўзнікае новы тып — «кнігі-архівы»[197], але і што істотна пашыраецца кола людзей не проста пісьменных, а тых, хто прафесійна займаецца працай з дакументамі, прычым людзей з шырокімі духоўнымі інтарэсамі. Невыпадкова да гэтага часу адносяцца першыя сведчанні аб прамых кніжных сувязях Вільні з Масквой: пісар вялікага князя Якуб звяртаецца з просьбай да маскоўскага архітэктара Васіля Ярмоліна купіць для яго некалькі богаслужбовых і чэцціх кніг[198].

Узнікненне свецкай кніжнасці не азначала якога-небудзь звужэння сферы функцыяніравання царкоўнай кнігі. Рэпертуар жа яе значна пашырыўся. Звяртае ўвагу з'яўленне службовых кніг песнапенняў — Трыёдзяў (Поснай, што ўключала паследаванні велікапоснага цыкла, і Кветнай — для набажэнства ад Вялікадня да Пяцідзесятніцы) і Актоіха, альбо Асмагласніка (з малітваслоўямі на астатнюю частку года). Мітрапаліт Фоцій, едучы з Канстацінопаля на Русь (у 1408 г.), захапіў з сабой грэцкія богаслужбовыя кнігі, якія сталі ўзорам для перакладаў і тыражыравання ў ВКЛ; да іх адносіцца Трыёдзь Посная і Кветная, якая захавалася да сёння[199]. Вядомыя нам і славянскія Трыёдзі. Адна з іх — пергамінавая, знойдзена ў XIX ст. у вёсцы Мікалаева Дзісенскага павета[200]. Другая, з фондаў РНБ, выклікае асаблівую цікавасць. Як паведамляе запіс перапісчыка, яе ў 1466 г. зрабіў дыякан Яўстафій у Гродне па заказе пана Фёдара Валовіча[201]. Аднак пры параўнанні публікацыі з арыгіналам выяўляецца, што кантрастная фатаграфія і чорна-белы друк зраўнялі колер чарніла асноўнага тэксту прыпіскі (акуратны слупок) з выпраўленнямі і дапіскамі, зробленымі іншым чарнілам і іншай рукой. Калі былі зроблены папраўкі і з якой мэтай — невядома. Пазнейшае ўмя-

[194] *Чернецов А. В.* К изучению Радзивилловской летописи. С. 287.

[195] *Арциховский А. В.* Древнерусские миниатюры как исторический источник. М., 1944.

[196] *Бережков Н. Г.* Литовская Метрика как исторический источник. Ч. 1. М.; Л., 1946. С. 95.

[197] *Альшиц Д. Н.* Что считать рукописной книгой? (Из опыта описания древнерусских рукописей) // Проблемы источниковедческого изучения рукописных и старопечатных фондов. Л.,1979.

[198] *Нікалаеў М. В.* Палата кнігапісная. С. 211.

[199] *Фонкич Б. Л.* Греческая рукопись митрополита Фотия // ДИРК. [Сб. 1]. С. 189—195.

[200] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 5.

[201] *Ластоўскі В. Ю.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 161.



*Трыёдзь XV ст. з Гродна (РНБ: F.п.I.17). Прыпіска дыякана Яўстафія са спраўленнямі невядомага рэдактара. У канцы — сентэнцыя кнігапісца: «Радку апошняму канец, а розуму няма канца. Як рады заяц, сеткі пазбегшы, так рады пісец, апошні радок дапісаўшы...».*

*Трыёдзь XV ст. з Гродна (РНБ: F.п.I.17). Арк. 186. Дапіска «Верным нашым князем пособи...» у тэксце праўшчыка-рэдактара кнігі вылучаецца і колерам чарніла, і почыркам.*



шанне ў гэтую прыпіску выглядае спробай «прывязаць» яе да вядомай гістарычнай асобы. Калі ўважліва ўгледзецца ў старонкі кнігі, можна ўбачыць рэдактарскую праўку па тэксце — магчыма, змяненне прыпіскі было канчатковай стадыяй работы праўшчыка.

Актоіх, які часта ўжывалі і як навучальную кнігу па музыцы, набыў у XV ст. пэўную актуальнасць[202]. У практыку Кіеўскай мітраполіі ўводзіцца новы службовы статут — Іерусалімскі замест Студыйскага. У адпаведнасці з большай складанасцю ўжытку была створана новая рэдакцыя Актоіха, якая ўключыла новыя вершы і каноны і адлюстравала зменены парадак песнапенняў. Менавіта таму пісар Якуб прасіў прыслаць яму з Масквы Актоіх новай рэдакцыі[203].

Узор рукапіснай кнігі смаленскай традыцыі гэтага перыяду — Евангелле 1449 г. з укладным запісам: «Се евангльe дал раб бжии Мамак Федор Матфеи Боброедов Иван Никифоров Лукъян Максимов Стму Спсу на пристол в лето З ное при великим кнзи Казимире при епспе Семиони»[204].

Якасцю каліграфічнага выканання вылучаецца спіс тлумачальнага Псалтыра («Сказаніе псалмом») св. Афанасія Александрыйскага, зроблены ў Віцебску[205]. На адгорце апошняга аркуша знаходзіцца прыпіска: «В лето 6... (апошнія тры лічбы адсутнічаюць. — *М. Н.*) списана бысть сія книга рукою многогрешного раба Божия Ортемья дяка рекомая Псалтирь толкованая. А списана бысть в граде Витебьску месяца марьта, на похвалной недели в 13 день...»[206] Цікавая рыса, якая не адзначана ў публікацыі прыпіскі: слова «Ортемья» напісана пасля закрэсленага «Артеміа» — перапісчык выправіў напісанне, якое здалося яму, верагодна, занадта прастамоўным.

У розных беларуска-літоўскіх і рускіх летапісах неаднаразова апісана гісторыя далучэння Смаленска да ВКЛ — распавядаецца, як Вітаўт аблажыў у 1395 г. гэты горад і прапанаваў выйсці з яго смаленскім князям Святаславічам, каб вырашыць іх сямейныя спрэчкі на яго, Вітаўта, трацейскім судзе. Калі князі выйшлі, Вітаўт прымусова рассяліў іх у розныя месцы сваёй дзяржавы, а Смаленск перадаў свайму намесніку. Вялікі князь Глеб Святаславіч Смаленскі аказаўся на велікакняжацкай службе і праз кароткі час (у 1399 г.) geраічна загінуў у бітве на Ворксле, ваюючы на баку Вітаўта. Пасля шэрага закалотаў у 1404 г. горад канчаткова ўвайшоў у склад ВКЛ. На наступны пасля смерці Вітаўта год, у 1431 г., удава Глеба Смаленскага Ульяна (у манастве Алена) уклала ў храм св. Міхаіла Архангела ў Смаленску сваю сямейную рэліквію — вялікі ілюмінаваны пергамінавы Псалтыр. Укладны запіс на апошняй старонцы паведамляе: «В лето 6939 сию книгу дала раба божиа Ульяна, нареченая во иночьском житьи Елена, церкви чюдотворца святого архангела Михаила на поминок... господину своему князю великому Глебу Смоленскому и мне, инокине Елене, и нашим детем. А кто сию книгу отимет, погубит нашу память, самого его погубит Христос сын бога живаго... аминь»[207]. Нашчадкі Глеба Святаславіча Смаленскага і Ульяны ўвайшлі ў далейшую гісторыю ВКЛ як дынастыя Глебавічаў (Глябовічаў) — яны ў розны час займалі, ужо як дзяржаўныя чыноўнікі, вышэйшыя пасады ў дзяржаве, у тым ліку ў Смаленскім ваяводстве. Псалтыр Ульяны і Глеба застаўся адным з самых выразных і добра за-



*Псалтыр Ульяны і Глеба Смаленскіх. Арк. 275 адв. Дыялог двух рыбакоў, якія разам з поўнай рыбы сеткай утвараюць ініцыял «М»: «Потяни корвин сын — сам еси таков». Атрымалася досыць іранічная ілюстрацыя да 128-га псальма: «Шмат уціскалі мяне з юнацтва майго...».*

[202] *Дожына Н.* Спеўная кніга Актоіх на Беларусі // Музычная культура Беларусі: пошукі і знаходкі: Матэрыялы VII навуковых чытанняў памяці Л. С. Мухарынскай (1906—1987). Мн., 1998.
[203] *Нікалаеў М. В.* Палата кнігапісная. С. 211.
[204] *Востоков А. Х.* Описание русских и словенских рукописей Румянцовского музеума. С. 175.
[205] *Петров Н. И.* Описание рукописных собраний, находящихся в городе Киеве. Вып. 2. М., 1896. № 11.
[206] Тамсама. С. 10.
[207] *Гранстрем Е. Э.* Описание русских и славянских пергаменных рукописей. С. 51.



*Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх. Франтыспіс з Канстанцінопальскім патрыяршым крыжом з'явіўся ў Псалтыры смаленскіх князёў у той самы час, калі выява гэтага крыжа трапіла на шчыт конніка «Пагоні» на дзяржаўным гербе Вялікага Княства Літоўскага.*

хаваных помнікаў прылучэння незалежнага княства да ВКЛ.

Тэраталагічная ілюмінацыя Псалтыра Улляны і Глеба Смаленскіх мае падабенства да аздобы сучасных яму па часе стварэння (канец XIV ст.) Мсціслаўскага Псалтыра і Мсціжскага Евангелля. Акрамя пляцёнак-ініцыялаў з фантастычнымі істотамі тут ёсць шмат буквіц, якія па свайму малюнку — зварот да рэалізму штодзённага жыцця. У літа-

ры «М» два рыбакі цягнуць сетку з рыбай і (падпісана рукой пісца) сварацца пры гэтым: «Цягні курвін сын! — Сам гэтакі!», у літары «И» б'юцца два рыцары — адзін утыкнуў у другога дзіду, супраціўнік замахнуўся мячом (гэта ілюстрацыя да 139-га псальма — малітвы за дапамогу супраць ворагаў). У літары «П» два чалавекі трымаюць верхнюю перакладзіну літары, а свабоднай рукой кожны трымае за язык сабаку, ініцыял «О» намаляваны так, што літару ўжо цяжка пазнаць — яна страціла свае акруглыя формы і ператварылася ў двухнефавую келлю, пасярод якой стаіць сівабароды чалавек з тонкім нажом для рэзкі пергаміну ў адной руцэ і з рукапісам у другой. Асабліва складаныя па кампазіцыі франтыспісы — намаляваны не толькі традыцыйныя застаўкі з тэраталагічным (раменным і звярына-пачварным) арнаментам, але і рэчы нетрадыцыйныя, напрыклад патрыяршы крыж (той жа формы, што і крыж Еўфрасінні Полацкай, які ў гэты час знаходзіўся ў Смаленску). Акрамя арыгінальнай ілюмінацыі ў Псалтыры Улляны і Глеба ёсць дадатковыя малітвы, змест якіх сугучны тэксту Псалтыра — маленне слабога чалавека: «Шатание юности и лицемерие старости и обое безумия притяжав, в леностьную облехся ризу и, встыда исполнихся, руку вздети на нь бо не смею. О милости Божия причитая, к тебе припадая, молюся, прося отпуста многих ми зол... приими мои плач вопиюща к тобе, в путь твоих заповедии настави мя...» (арк. 297 адв. — 298).

Ілюмінацыя Псалтыра Улляны і Глеба Смаленскіх яшчэ чакае свайго манаграфічнага даследавання. Тое, што яно можа быць цікавым і плённым, паказвае праца Б. Рыбакова — для тлумачэння асаблівасцей светапогляду стрыгольнікаў ён выкарыстаў аналіз тэраталагічнай аздобы наўгародскіх кніг XIV ст.[208]

Сярод кніг, што прыдатныя і для чытання пры набажэнстве, і для хатняга альбо келейнага чытання, вылучаецца «Пралог». Гэты жыційна-павучальны зборнік з чытаннямі па днях года быў распаўсюджаны ўжо ў XV ст. У інвентары Слуцкага Троіцкага манастыра 1494 г. адзначаецца «...старых речей церковных... Прелоги два»[209], у «спісе кніг у Метрыцы Вялікага Княства Літоўскага» за 1510 г. (бібліятэка Альбрэхта Гаштольда —



*Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх. Арк. 140 адв. Антрапаморфны ініцыял «Б».*

Жыгімонта Старога) упамінаюцца два «Пралогі»: «кніга прелог» і потым другі раз — «прелог». Друкарні ВКЛ гэтую кнігу не выдавалі.

Частка рэпертуару кніг у акрэслены намі перыяд не прызначалася для богаслужбы (ці, дакладней, яны прызначаліся не толькі для богаслужбы) — гэта чэцці кнігі, сярод якіх важную функцыю носьбіта ведаў пра будову навакольнага свету выконвалі прыродазнаўчыя зборнікі. У славянскай кірылічнай традыцыі самастойных прыродазнаўчых кніг (з выняткам, які складаюць, напрыклад, «Траўнікі») не існуе. Чытач знаходзіў іх у выглядзе асобных казанняў у зборніках энцыклапедычнага зместу, у Палеі, Шасцідневе і іншых зборніках трывалага і пераменнага зместу.

Часам звесткі аб з'явах прыроды (у тым ліку і анамальных) сустракаюцца ў выглядзе прыпісак на богаслужбовых, чэцціх альбо гаспадарчых кнігах. Напрыклад, у Евангеллі XVI ст. маецца такі запіс (на польскай мове з асобнымі словамі на старабеларускай): «Года тысяча шэсцьсот пяцьдзесят чацвёртага месяца жніўня дванаццатага дня па рымскім календары знак на небе паказаўся перад світанкам, засвяцілася раніцай, а дзевятай гадзіне, месяц быў і зорка, што, верагодна, яму служыла; за караля его міласці Яна Казіміра тое было, а за дзяржавай яго міласці пана Яна Мілясеўскага маёнтку і царквы Горніцкай. Іаан Сашка, гродзенскі пратапоп сваёй рукой».

[208] *Рыбаков Б. А.* Стригольники. Русские гуманисты XIV столетия. М., 1993. С. 170–174.
[209] АЗР. Т. 1. СПб., 1846. С. 137.



*Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх. Арк. 297 адв. Ініцыял паказвае кніжніка ў келлі. Пра тое, што гэта літара «От», можна здагадацца хутчэй па сэнсе, чым з выявы.*

Кантакты ВКЛ з Захадам спрыялі з'яўленню зборнікаў чыста літаратурных, якія складалі асобную кнігу. Адна з такіх ацалелых кніг сярэдзіны XV ст. — рукапісны зборнік з літаратурнымі творамі — змяшчае тры аповесці: «Страсці Хрыстовы», «Аповесць пра каралёў-валхвоў» і «Жыціе Аляксея, чалавека Божыя»[210]. Тэксты гэтых папулярных сярэднявечных твораў перакладзены з лацінскай мовы. Перакладчык не ведаў царкоўнаславянскай версіі апошняй аповесці, і, можа, таму ў мове яго перакладу амаль не сустракаюцца царкоўнаславянізмы. Гэтыя і іншыя акалічнасці дазволілі В. Ластоўскаму сцвярджаць, што зборнік перакладзены каталіком для католікоў[211]. Мяркуючы па асаблівасцях палеаграфічных (тэкст перапісаны беглым паўуставам, якім карысталіся пры напісанні дакументаў), зборнік мог быць перапісаны ў скрыпторыі вялікакняжацкай канцылярыі.

У 40-я гады XV ст. пачалося кнігадрукаванне ў Еўропе. Прыкладна праз 30 гадоў гэтае тэхнічнае дасягненне, якое вывела, паводле трапнай заўвагі Я. Неміроўскага, кнігу з тупіка унікальнасці[212], ужо прымянялася ў дзяржаве Казіміра Ягелончыка, менавіта ў яго польскай сталіцы — Кракаве. Тут у 1473—1477 гг. выйшлі чатыры кнігі на лацінскай мове, а праз некалькі гадоў, у 1491 г. — чатыры кірылічныя інкунабулы. Першыя кірылічныя кнігі на славянскай мове пры фінансавай падтрымцы кракаўскага горнапрамыслоўца Яна Турзона былі надрукаваны Швайпольтам Фіолем у 1491 г. Гэта чатыры літургічныя кнігі: Актоіх, Часаслоў, Трыёдзь Посная і Трыёдзь Кветная. Сферай іх распаўсюджання сталі ўсе славянскія землі. Прыпіскі на 78 захаваных да сёння паасобніках выданняў Фіоля паказваюць, што 30 з іх у XVI—XVII стст. бытавалі ў Маскоўскай дзяржаве (яшчэ 14 маюць больш познія прыпіскі велікарускага паходжання), на 12 паасобніках ёсць запісы беларускія, польскія і ўкраінскія, на двух — румынскія маргіналіі[213]. Аднак друкаванне ў Кракаве славянскіх кніг было прымусова спынена. У гэтым можна бачыць адну з першых праяў цэнзуры новага часу[214], аднак, хутчэй за ўсё, прычына тут больш складаная: важным фактарам была перамога каталіцкай артадоксіі, немалую ролю адыграла і аддаленасць месца вытворчасці ад асноўных спажыўцоў.

Выхадцы з ВКЛ, магчыма, звязаны яшчэ з такім цікавым фактам гісторыі славянскай друкаванай кнігі, як друкаванне каталіцкіх кніг славянскай мовай глаголічным алфавітам — яго арганізаваў у горадзе Рыека на свой кошт епіскап Шымун Казічыч Беня ў 1530—1531 гг. Усяго вядома шэсць назваў: Псалтыр, лацінскі Службоўнік, малы Рытуал, Місал, «Кніжіце од житийа римских археров и цесаров» (гістарычны твор з жыццяпісамі папаў рымскіх і імператараў) і кніжачка з манаскімі правіламі. У Рыеке для Шымуна Казічыча працавалі два майстрыдрукары — Дамінік і Барталамей з Брэста[215]. Наўрад ці яны былі з французскага Брэста — больш верагодна, што славянскія тэксты (хай сабе і нязвыклай глаголіцай), набіралі выхадцы з Брэста Літоўскага, і славянская мова была для іх родная.

210 *Карский Е. Ф.* Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 263—315.

211 *Ластоўскі В. Ю.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 181.

212 *Немировский Е. Л.* Начало славянского книгопечатания. М., 1971. С. 36.

213 Тамсама. С. 208. — Некаторыя з кнігазнаўцаў навейшага часу залічвалі друкі Швайпольта Фіоля да здабыткаў толькі ўкраінскіх. Так, увесь 5-ы выпуск часопіса «Українська книга» (Краків; Львів, 1943) выйшаў з падзагалоўкам: «450-ліття українського друкарства в Кракові». Такой самай крайнасцю з'яўляецца пастулат аб тым, што друкі Фіёля — гэта першыя беларускія друкі (*Саверчанка І. В.* Aurea mediocritas. С. 20).

214 *Topolski J.* Polska w czasach nowożytnych. Od środkowoeuropejskiej potęgi do utraty niepodległości (1501—1795). Poznań, 1994.

215 Discovering the glagolitic script of Croatia. Zagreb, 2000. P. 27.

Каля 1475 г. на мітрапаліцкую кафедру ў Наваградак прыехаў абраны вернікамі і духавенствам і прызначаны вялікім князем Казімірам смаленскі епіскап Місаіл — упершыню на прастол сеў ураджэнец ВКЛ. Атрымаўшы ў спадчыну маёнтак Чарэю, ён яшчэ ў 1454 г. заснаваў у ім манастыр. Гэты манастыр ён адпісаў у спадчыну сваёй роднай пляменніцы княгіні Марыі і яе мужу, велікакняжацкаму пісару пану Багдану Сапегу. Акрамя Чарэйскага ў апошняй чвэрці XV ст. у ВКЛ склалася цэлая сетка манастыроў, кожны з якіх быў кнігапісным цэнтрам — Гродзенскі Каложскі Барысаглебскі, Віленскі Свята-Троіцкі, Кобрынскі Спаскі, Мсціслаўскі Ануфрыеўскі, Мсціслаўскі Пустынскі, Міхайлаўскі Гарадзецкі ў Полацку, Полацкі Іаана Прадцечы на востраве, Полацкі св. Пятра на замку, Полацкі св. Міколы на Лучні, Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі, Пінскі Ляшчынскі, Слуцкі св. Іллі, Слуцкі Троіцкі, Лаўрышаўскі, Смаленскі Міхаіла Архангела, Троцкі Раства Багародзіцы. З благаславення Місаіла ў мітрапаліцкім скрыпторыі была створана новая Кормчая кніга. Акрамя царкоўных кананічных правілаў (на аснове сербскай рэдакцыі) яна ўключала апісанне Наваградскага 1415 г. сабору, формулу пастаўлення ў епіскапы мітрапаліта Герасіма, паследаванне асвячэння антымінса і царквы ў 1476/1477 гг., а таксама шэраг юрыдычных актаў вялікіх князёў Вітаўта і Казіміра Ягелончыка для ўсіх насельнікаў Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая Кормчая — важны помнік царкоўнага і свецкага права апошняй чвэрці XV ст. — зараз знаходзіцца ў Кракаве, куды трапіла з бібліятэкай графа Тарноўскага[216].

Ад другой паловы XV ст. кнігапісны цэнтр існаваў у Слуцку пад пратэкцыяй князёў Алелькавічаў. На пачатку 1494 г. архімандрыт Слуцкага Троіцкага манастыра Іосіф Солтан (у будучым мітрапаліт), адыходзячы на служэнне ў якасці епіскапа ў Смаленск, падпісаў вопіс манастырскай маёмасці, якую здаваў княгіні слуцкай, пазначыўшы, што ён атрымаў пры прыняцці архімандрыцтва, а што прыбавіў. Гэта самы старажытны вопіс маёмасці, у якім найбольш увагі аддаецца кнігам: «Я архимандрит Іосиф, нареченый епискуп Смоленскій, здаю твоей милости государыни моей кнегини манастырь святое Троици... а над то прибавил есми за мое держанье... А книг: Правила великіи, Устав, Соборник постный, Соборник годовый, Соборник Житія Святых, Зморагд, Потребники два, Служебники три, Дорофей, Ефрем, Никон, Феодор Студит, Апокалипсія, Григорей Синаит, Псалтыря в десть, Часословець... А старых речей церковных: Миней дванадцать, Тріоди две, Еуангеліи два тетры, Прелоги два, Еуангеліе толковое четье, книжка Лествица, Семіон Новый Богослов; Апостол тетр, а другій опракос, Устав, Псалтыря, Патерик Печерскый...»[217]. Такім чынам, архімандрыт Іосіф 26 кніг атрымаў ад сваіх папярэднікаў, а 19 дадалося пад час яго кіравання манастыром. Можна меркаваць, што частка новых кніг была перапісана ў самім манастыры. Рэпертуар іх — пераважна чэцці, прычым такія кнігі, як Саборнікі, патрабуюць вялікай творчай работы ад складальніка і наяўнасці вялікай бібліятэкі, дзе можна было б збіраць патрэбныя тэксты. Адна з кніг, перапісаная ў Слуцку, захавалася да сёння. Гэта патрыстычны зборнік (РНБ, шыфр Q. I. 1410), які ў 1487 г. па загадзе Іосіфа спісаў Антон Сямёнаў сын Чалюсткін.

Кнігі полацкай работы разнастайныя па тэматыцы, захавалася іх няшмат. Адна з такіх — «Лесвіца» 1479 г., спісаная ў Іаанаўскім на востраве манастыры[218].

Значнымі кніжнымі падзеямі ў гэты час былі працы кнігапісцаў Бярозкі і Васкі. У 1489 г. паповіч Бярозка родам з Наваградка складае і перапісвае ў Камянцы кнігу «Чэцця» «пры вялікім каралю Андрэю» — так называлі Казіміра Ягелончыка, і гэта дало некаторым падставу гаварыць аб першапачатковым праваслаўным хрышчэнні Казіміра пад імем Андрэй. Знакам бытавання габрэйскіх кніг, прывезеных з Заходняй Еўропы альбо з Канстанцінопаля, з'яўляюцца іх пераклады ў ВКЛ. Адзін з прыкладаў — зборнік пад назвай «Приточник», які ў 1483 г. спісаў пісар пана Мікалая Радзівіла Васка. Тут, між

[216] *Щапов Я. Н.* Восточнославянские и южнославянские рукописи... Вып. I. С. 136—154.

[217] АЗР. Т. 1. С.136—137.

[218] Іаанаўскіх манастыроў было багата на Русі, таму кнігі з прыпіскай аб знаходжанні ў манастыры Св. Іаана Прадцечы цяжка дакладна лакалізаваць. Аднак мы ведаем толькі адзін манастыр Іаана Прадцечы на востраве — у Полацку. Гэта не ўлічыла даследчыца полацкай «Лесвіцы» (*Корнеева-Петрулан М. И.* Лествица 1479 г. как памятник письменного языка Псковской области XV в. // Slavia. 1931. Sešit 1. S. 4). Кніга зараз захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Харкаўскай гарадской бібліятэкі імя У. Г. Караленкі (N 819322а-10.9196).



*Патрыстычны зборнік (РНБ: Q.I. 1410). Смальнянін Антон Сямёнавіч спісаў гэту кнігу па загадзе кір Іосіфа Балгарыновіча, настаяцеля манастыра св. Тройцы ў Слуцку ў 1487 г. Неманаскае імя кнігапісца дазваляе бачыць у ім альбо паслушніка, альбо наёмнага работніка.*

іншым, перапісаны пераклад «Логікі» («Речи Моисея Египтянина») аўтара XII ст. Майсея Майманіда[219]. Дзе працаваў Васка — невядома. Хутчэй за ўсё, не ў маленькім Нясвіжы, а ў сталічнай Вільні, дзе можна было знайсці арыгінальныя тэксты для спісання (магчыма,

[219] Творы, перапісаныя ў гэтай кнізе, выклікалі актыўную палеміку на пачатку XX ст. (*Берджицкий Л.* Заметки к литературе о жидовствующих // РФВ. 1911. № 3/4). Зараз месцазнаходжанне зборніка невядома. Ён знік з калекцыі Аддзела рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Украіны ў час Другой сусветнай вайны.

большую частку з іх трэба было перакладаць).

Прыняўшы епіскапскую кафедру на ўсходзе Вялікага Княства Літоўскага — у Смаленску, мітрапаліт Солтан сваёй кіпучай энергіяй спрыяў развіццю кніжнай справы ў гэтым горадзе. Яго намаганнямі падрыхтаваны і здзейснены шлюб Аляксандра з праваслаўнай маскоўскай царэўнай Аленай Іванаўнай, што спрыяла, у ліку іншага, інтэнсіўным кніжным кантактам з Маскоўскай дзяржавай, прынамсі з Троіца-Сергіевым і Кірыла-Белазерскім манастырамі.

Сталай, афіцыйна зацверджанай рэзідэнцыі мітрапаліт не меў. У залежнасці ад асабістай прыхільнасці ён мог жыць у Смаленску, Валадымеры-Валынскім, Навагрудку і Менску. Сталічная Вільня не была месцам пастаяннага знаходжання мітрапаліта: пасля скаргі віленскіх мяшчан вялікаму князю Аляксандру ў 1498 г. у лісце Аляксандра было зазначана: «...а здавна дей митрополит одинова на год к ним приездживал...»[220].

Важным для будучага аблічча кніжнасці ВКЛ стаў 1386 год. Тая частка «літоўскага народа», якая да гэтага часу заставалася язычніцкай, хрысцілася па каталіцкім абрадзе і была падпарадкавана польскім архіепіскапам. Прыняцце хрысціянства адбывалася пад час «вялікага расколу» рымска-каталіцкай царквы (1378—1417), калі заходні свет меў адначасова двух пап — аднаго ў Рыме, другога ў Авіньёне. Хрышчэнне па заходнім абрадзе прывяло да шырокага пранікнення ў краіну лацінскіх, а пазней і польскіх кніг. Яшчэ неахрышчаныя язычнікі пад правадырствам вялікага князя Ягайлы далучыліся да каталіцызму. У дзяржаве адбылося веравызнаўчае раз'яднанне, і яно стала часткай modus vivendi (спосабу жыцця).

Гісторыя веравызнаўчых разыходжанняў сягае ў XI ст., калі візантыйскі патрыярх Міхаіл Кіруларый абвясціў (у 1054 г.) прынцып перавагі духоўнай улады над свецкай, зачыніў падпарадкаваныя Рыму цэрквы і манастыры ў Візантыі, назваў ерассю традыцыйнае ў лацінян прычашчэнне апраснокамі і суботні пост. Ён адмовіўся прызнаць вяршэнства папы Льва IX над усходняй царквой. Чэрвень 1054 г. пазначаны поўным разрывам заходняй і ўсходняй цэркваў.

У багаслоўскай сферы асноўнае разыходжанне палягала ў тым, што лаціняне прызнавалі сашэсце Святога Духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Ісуса Хрыста, ад сына («І ад Сына» — «filioque»). Спрэчка аб прыродзе Тройцы стала, па сутнасці, спробай вырашэння важнейшых філасофска-багаслоўскіх пытанняў аб суадносінах адзінства і мноства, зямнога і нябеснага, чалавека і Бога. Па-рознаму трактавалі ўсходняя і заходняя цэрквы свабоду волі. Заходняй канцэпцыі наканавання (св. Аўгусцін)[221], якое вядзе чалавека ў выратаванне альбо ў пагібель, візантыйцы супрацьпастаўлялі тэорыю сінергізму — спалучэння свабоднай чалавечай дзейнасці з Боскай міласэрнасцю.

Каталіцкая царква ў ВКЛ выкарыстоўвала гатовыя тыпы богаслужбовых кніг, якія склаліся ў Заходняй Еўропе: зборнікі службаў, агенды, рытуалы, брэвіарыі, градуалы, антыфанарыі.

Богаслужбовыя каталіцкія кнігі прысутнічалі ў 1422 г. у навагрудскім касцёле Усіх Святых (зараз фарны касцёл), калі 74-гадовы Ягайла браў свой чацвёрты шлюб з прадстаўніцай знатнага роду (паходжаннем з Вялікага Княства) Соф'яй Гальшанскай. Пасля нараджэння іх дзяцей над Польшчай фактычна запанавала літоўская дынастыя. Сямейнай мовай першых Ягелонаў і іх сваякоў у ВКЛ была «славенская руская», пра што сведчаць, прынамсі, дакументы — лісты вялікіх князёў. Так, у 1387 г. Ягайла, ужо кароль, даючы свайму брату Скіргайлу Альгердавічу Троцкае княжанне і горад Полацк, карыстаецца «рускай» мовай[222]. Апынуўшыся ў Кракаве, ліцвіны спрычыніліся да польскай кніжнасці — Соф'я Гальшанская заказала пераклад кніг Старога Запавету на польскую мову. Кніга гэтая была адмыслова ўпрыгожана і атрымала ўласнае імя «Біблія каралевы Соф'і»[223].

Асноўным спажыўцом прывазных кніг было Віленскае каталіцкае епіскапства. Параўнальна маладое (арганізавана пасля

[220] АЗР. Т. 1. С. 175.

[221] Глыбокая зацікаўленасць творчасцю св. Аўгусціна выявілася ў выдадзеным Віленскай акадэмічнай друкарняй у 1617 г. зборы яго твораў: «Размысленні ў пяці тамах. Таемныя казанні, зброя духоўная, аб скрусе сэрца, аб марнасці свету...». Пераклад з лацінскай на польскую мову зрабіў бабруйскі старасціч Пётр Казімір Трызна.

[222] Пергаменные рукописи Библиотеки Академии наук СССР. Описание русских и славянских рукописей XI—XVI веков. Л., 1976. С. 176.

[223] *Kossowska M.* Biblia w języku polskim. T. 1. Poznań, 1968. S. 62—86.

*Liber Passionalis (Андэгавенскі легендарый) XIV ст. Чатырохчасткавая мініяцюра са сцэнамі з жыцця св. Станіслава. Друкуецца па кнізе «Pasierb J. S., Janocha M. Polonica artystyczne w zbiorach watykańskich. Gdańsk, 2000».*



1387 г.), яно ахоплівала велізарную тэрыторыю, на якой каталіцкі касцёл знаходзіўся ў стадыі арганізацыі — напрыканцы XV ст. там было каля 90 парафій. Неабходныя кнігі прыбывалі ў асноўным з-за мяжы. Так, сярод кніг першага віленскага каталіцкага епіскапа Андрэя Васіла ў 1397 г. называюцца: два пантыфікалы, а трэці стары, з рубрыкай рымскага двара, імшал адзін малы, рубрыкі французскай альбо рымскай[224]. У Кракаве, пры Ма-

[224] *Przyałgowski W.* Żywoty biskupów wileńskich. T. 1. Petersburg, 1861. S. 26.

рыяцкім касцёле, была створана спецыяльная карпарацыя — «катэдралісі» — цэх кнігапісцаў, што працавалі па перапісцы кніг для заказчыкаў з рускіх зямель Кароны і для ВКЛ. Сярод прадстаўнікоў гэтага цэха асаблівым мастацтвам вылучаўся алтарыст Марыяцкага касцёла майстар Барталамей, які выканаў у 1483 г. па заказе наваградскага старасты Марціна Гаштольда «Антыфанарый»[225]. Да зробленых у Кракаве кніг належыць і Біблія з Бібліятэкі Расійскай Акадэміі навук.



*Фрагмент мініяцюры Андэгавенскага легендарыя. Сцэна з пастаўленнем св. Станіслава ў епіскапы. Друкуецца па кнізе «Pasierb J. S., Janocha M. Polonica artystyczne w zbiorach watykańskich. Gdańsk, 2000».*

Да з'яўлення ў Вялікім Княстве Літоўскім кнігадрукавання Віленскае епіскапства замаўляла неабходныя кнігі за яго межамі. Так, у 1499 г. гданьскаму друкару Конраду Баўмгартэну была замоўлена літургічная кніга «Агэнда» (Agenda). Гэтае універсальнае выданне, папярэднік «Рытуала» (называлася таксама «Sacramentarium», «Pastorale», «Liber Officiorum», «Manuale»), было галоўным кіраўніцтвам кожнага святара ў выкананні сваіх абавязкаў. «Агэнда» напісана па ініцыятыве і пад наглядам епіскапа Ольбрахта Табара[226] канонікам віленскай дыяцэзіі Марцінам.

Сучасныя даследчыкі атаясамляюць каноніка Марціна з Марцінам з Радома, што жыў у Вільні ў 1495—1502 гг., выпускніком Кракаўскага універсітэта, чалавекам з бліжэйшага атачэння епіскапа Табара[227]. Кніга атрымалася настолькі ўдалая (невялікая — 62 аркушы, яна змяшчала толькі самыя неабходныя — выбраныя — службы), што Баўмгартэн у тым жа годзе выпусціў яшчэ адно выданне для выкарыстання ва Улоцлаўскім епіскапстве (пры гэтым быў зменены тытульны аркуш — на ім ужо не ўпамінаўся віленскі каноік Марцін). Стасункі з Гданьскам не перапыніліся і ў наступныя стагоддзі; так, у першай палове XVII ст. вялікую колькасць пратэстанцкіх кніг для літоўскіх збораў пастаўляў гданьскі друкар і выдавец Андрэй Тунэфельд.

Усеагульная змена касцельных богаслужбовых кніг адбылася пасля Трыдэнцкага сабору (1545—1563). Новыя кнігі павінны былі адлюстроўваць рэформы літургіі. У сённяшніх бібліятэках часта можна сустрэць пераплёты XVI ст., зробленыя з ранейшых па часе натаваных пергаменных лацінскіх рукапісаў, — гэта рэшткі тых каталіцкіх датрыдэнцкіх службоўнікаў (градуалаў і антыфаналаў), што пайшлі пад нож пераплётчыка.

Каб атрымаць поўнае ўяўленне пра кніжную культуру Вялікага Княства Літоўскага, мы павінны ўлічваць сталую прысутнасць у абарачэнні значнай колькасці прывазных кніг. Кніжныя сувязі зямель, якія пазней увайшлі ў ВКЛ, з заходнееўрапейскімі краінамі пачаліся яшчэ ў XI ст., калі ў Тураў з жонкай князя Ізяслава Яраславіча трапіў кодэкс Гертруды — Псалтыр, перапісаны пры канцы X ст. па заказе архіепіскапа Трэві (Ірландыя) Эгберта і ўпрыгожаны 34 мініяцюрамі. На Русі ў кодэксе з'явілася яшчэ адна частка (гэтак званы Codex Gertrudianus — малітоўнік Гертруды) і пяць новых мініяцюр: «Раство Хрыста», «Укрыжаванне», «Багародзіца Пячорская», «Апостал Пётр з групавым партрэтам сям'і Яраполка» і «Каранаванне Яраполка». Малітоўнік узнік на працягу 1078—1087 гг., пісала яго

*→ Псалтыр Улляны і Глеба Смаленскіх. Арк. 169 адв. — 170. Разгорт з франтыспісам. «Чуй, мой народзе, навуку маю, вуха сваё да слоў вуснаў маіх прыхіліце» — пачатак псальма 78.*

[225] *Potkowski E.* Książka rękopiśmienna w kulturze Polski. Warszawa, 1984. S. 108.

[226] Епіскап Табар нарадзіўся ў Табарышках Ашмянскага павета. Быў прабошчам ашмянскага сабора Св. Духа, потым віленскім канонікам. Некаторыя гісторыкі называюць яго Войцэхам (*Przyałgowski W.* Żywoty biskupów wileńskich. T. 1. S. 69—89).

[227] *Nowak Z.* Początki sztuki drukarskiej na Pomorzu w XV wieku. Gdańsk, 1976. S. 154—155.





КА. ЛІ

ПАЛМЪ. ДВДВЪ. ОЗ.

ВЪНЕМЛѢТЕЛЮДИЕМОИЗА
КОНЪМОИПРИКЛОНИТЕОУХО
ВАШЕВЪГЛЪІОУСТЪМОИХЪ.
ОТВЕРЗОУВЪПРИТЧАХЪОУСТА
МОЄАПРОВѢЩАЮГАДАНИЄАИСПЕРВА
ЕЛИКОСЛЪІШАХОМЪИРАЗОУМѢ
ХОМЪИОЦИНАШИПОВѢДАШАНА.
НЕОУТАИСЄАОТЧАДЪИХЪВРОДЪИНЪ.
ВЪЗВѢЩАЮЩЕХВАЛЪІГНИИСИЛЪІ

альбо сама Гертруда, альбо, як лічаць некаторыя даследчыкі, яе капелан[228]. Мініяцюры, згодна з гіпотэзай Віктара Шматава, маглі быць створаны ў Тураве, дзе некаторы час жыў Яраполк[229].

Значны кніжны імпарт (славянскіх і грэцкіх кніг) з паўднёваславянскіх зямель і з Візантыі існаваў праз цесныя царкоўныя кантакты з Канстанцінопалем. Пасля каталіцкага хрышчэння ў ВКЛ у вялікай колькасці сталі трапляць, часцей за ўсё праз Польшчу, заходнееўрапейскія кнігі. Спачатку ў Наваградку і Вільні, а затым і ў іншых гарадах ВКЛ пастаянна дзейнічалі каталіцкія манахі (францысканцы і дамініканцы, пасля — кармеліты, бенедыкцінцы, бернардзінцы і іншыя ордэны), з якімі прыйшла лацінская кніга — часцей за ўсё не перапісаная ў ВКЛ, а прывезеная здалёк прадукцыя заходнееўрапейскіх скрыпторыяў. Сярод іх такія высокамастацкія, як кніга з жыццямі святых — «Андэгавенскі легендарый». Гэты пергаменны (на 105 фаліёвых аркушах) кодэкс быў зроблены па замове караля Роберта Андэгавенскага каля 1333 г. майстрам Гертуламі. Згодна з пануючай на той час у італьянскіх (балонскіх) майстроў модай, на старонках дамінуюць мініяцюры, а не жыційныя тэксты — бо гэта была кніга, прызначаная для каралеўскіх дзяцей, якія па ёй вучыліся чытаць. У 1347 г. Андэгавенскі легендарый вывез з Неапаля кароль Людвіг Венгерскі, які пакінуў яго сваёй дачцы Ядвізе. Ад яе кніга як пасаг перайшла да Уладзіслава Ягайлы. У сталіцы ВКЛ прыгожы заходнееўрапейскі кодэкс атрымаў назву «Liber Passionalis», бо тут пераважалі жыцці пакутнікаў. Вялікі князь Ягайла падараваў «Liber Passionalis» віленскаму кафедральнаму касцёлу — яна доўга заставалася там як узорная кніга для знаёмства новазвернутых хрысціян з выдатным сінтэзам слова і вобраза, сплавам гісторыі і легенды, агіяграфічных топасаў і іканаграфічных схем... урэшце, з лацінскай мовай і асновамі хрысціянскай веры[230].

Найбольшую групу сярод захаваных рукапісных кніг складаюць літургічныя, альбо богаслужбовыя, кнігі. Вялікая іх колькасць у праваслаўнай царкве тлумачыцца тым, што пры богаслужэнні карысталіся спалучэннем сонечнага (мінейнага) і месяцавага (трыёднага) каляндарных цыклаў. Богаслужэнне магло адбывацца па поўным цыкле — манастырскае — ці скарочаным — саборна-прыходскае. Некаторыя літургічныя рукапісы ўяўляюць сабой тэксты яшчэ меншага аб'ёму, чым гэта неабходна нават для саборна-прыходскага богаслужэння. Гэта прывяло С. Цемчына да думкі, што ў сярэднявеччы існаваў яшчэ адзін тып богаслужэння, калі яно адбывалася не рэгулярна, а спарадычна — не ва ўсе дні, а толькі на некаторыя выхадныя і найбольш значныя святочныя дні. Гэты тып мог існаваць там, дзе не было рэальнай магчымасці для штодзённага саборна-прыходскага богаслужэння ў слабахрысціянізаваных асяродках, пасля падзелу цэркваў — на тэрыторыях з перавагай іншаслаўнага (напрыклад, каталіцкага) насельніцтва, у рэдканаселеных месцах, дзе цяжка збірацца ўсім вернікам, у перыферыйных вясковых прыходах. Такі тып богаслужэння С. Цямчын прапанаваў называць місіянерскім[231]. Кожнаму тыпу богаслужэння адпавядалі пэўныя тыпы кніг, асноўныя з якіх пададзены ў табл. 1.

Істотныя змены ў рэпертуары распаўсюджаных у ВКЛ літаратурных твораў адбыліся пры мітрапаліце Кіпрыяне, іх прынята лічыць вынікам другога паўднёваславянскага ўплыву. Назіранні акадэміка А. І. Сабалеўскага паказалі, што на мяжы XIV і XV стст. інтэнсіўна перапісваліся творы святых айцоў, новыя спісы працягвалі сваё жыццё ў буйнейшых праваслаўных (пазней базыльянскіх) манастырскіх бібліятэках[232].

Асаблівасці аздобы кнігі ў XIII—XV стст. — яе ілюмінацыя (у адрозненне ад пазнейшай ілюстрацыі). Гэта абавязковае цэласнае мастацкае вырашэнне ўсёй кнігі: каліграфія перапісчыка, мастацкае выкананне загалоўных літар (ініцыялаў) і заставак, нарэшце, малюнкі і мініяцюры. Вонкавы выгляд захаваных кніг адпавядае мастацкім густам часу і ўзроўню майстэрства: вонкавы — пера-

[228] *Potkowski E.* Kobiety a książka w średniowieczu — wybrane problemy // KHist. 1998. № 3. S. 3—4.

[229] *Шматаў В. Ф.* Партрэт Яраполка ў мініяцюрах // ПГКБ. 1980. № 4. С. 24—26.

[230] Зараз «Андэгавенскі легендарый» пад назвай «Acta sanctorum pictis imaginibus adornata» захоўваецца ў бібліятэцы Ватыкана (*Pasierb J. S., Janocha M.* Polonica artystyczne w zbiorach watykańskich. Gdańsk, 2000. S. 32–33).

[231] *Темчин С. Ю.* Типы православного славянского богослужения в XI—XIII веках в связи со структурными разновидностями служебного Евангелия и иных литургических книг // Slavia. 1999. Sešit 2. S. 191—211.

[232] *Соболевский А. И.* Южнославянское влияние на русскую письменность в XIV—XV веках. СПб., 1894.

**Асноўныя тыпы кніг пры богаслужэннях** *Табліца 1*

| Богаслужэнне | Манастырскае | Саборнапрыходскае | Місіянерскае |
|---|---|---|---|
| Перыядычнасць | Кожны дзень | Суботы, нядзелі, святы | Спарадычна (нядзелі, святы) |
| Статут | Студыйскі, Іерусалімскі | Статут Вялікай царквы | |
| Евангелле | Поўны апракас, тэтр | Кароткі апракас | Апостал-Евангелле Апракас святочны (нядзельны) |
| Апостал | Поўны апракас і чэцій Апостал | Кароткі апракас | Велікодна-нядзельны, Стоўпны |
| Мінея | Месячная | Святочная | Агульная |
| Актоіх | Актоіх поўны | Шасцідneў службовы | Актоіх нядзельны |
| Кветная Трыёдзь | Поўная | Поўная | Святочная (нядзельная) |

плётчыкаў, унутраны — ілюмінатараў і пісцоў. На жаль, пераплёты кніг гэтага перыяду не захаваліся, таму гаварыць пра вонкавы выгляд можна толькі абапіраючыся на апісанні і нешматлікія аналогіі. Традыцыйным сюжэтам мініяцюр былі выявы аўтараў кніг (найчасцей евангелістаў) — іх шмат сустракаецца ад пачатку кнігапісання. У XIII—XIV стст., як заўважыў М. Розаў, у гэтых выявах з'явіліся новыя характэрныя асаблівасці, якія вынікаюць з таго, што майстры кніжнай мініяцюры пачалі больш зацікаўлена ставіцца да гэтых выяў, бо бачылі ў іх, у адрозненне ад іканапісцаў, не толькі святых, але і людзей сваёй прафесіі[233]. У азначаны перыяд у Вялікім Княстве Літоўскім у кніжнай аздобе змяніліся два стылі — візантыйскі і тэраталагічны, звярыны.

Для разумення творчасці ілюмінатара важна ўсведаміць, што ў межах стылю ён досыць свабодна «гуляе». Гэта назіраецца і пазней, у выпадку з мастацкім «прымітывам» аздобы рукапісных кніг XVIII ст. Паводле думкі Ю. М. Лотмана, народнае ўспрыняцце малюнка матэрыяльнае: яго кранаюць рукамі, на яго паказваюць пальцам, з ім гавораць. Кніжная ілюмінацыя звязана з тэкстам не толькі пісаным, але і імправізаваным. Калі прафесійнае мастацтва стварае статую, якую аглядаюць моўчкі, то народнае мастацтва стварае ляльку, з якой гуляюць, размаўляюць, якую апранаюць, спавіваюць. І сакралізаваны змест у XIV—XV стст. не перашкаджае яшчэ аздабляць кнігу так, каб можна было «гуляць» на пачатку амаль кожнага раздзела. Наглядным прыкладам могуць стаць ініцыялы з Мсціжскага Евангелля і Мсціслаўскага Псалтыра. У арнаментыцы франтыспіса Мсціслаўскага Псалтыра 1395 г. храм паказаны не як звычайна, у разрэзе, а з фасада; уся заходняя частка пакрыта ўзорам пляцёнкі-сеткі і птушак — жывых і мёртвых. Птушкі нібыта трапілі ў сетку арнаментальнай пляцёнкі, каб загінуць. Цяжка вызначыць схаваны сэнс гэтай кампазіцыі — Б. А. Рыбакоў бачыць у плеценых арнаментальных застаўках тэраталагічнага стылю д'ябальскія сеткі-«цянёты», у якіх ілюмінатар паказаў злоўленыя людскія душы-птушкі.

Для вывучэння кніжнай ілюстрацыі ў якасці аднаго з інструментаў мы павінны вылучыць асобныя іканаграфічныя схемы і зрабіць назіранні за іх асобнымі зменамі ў межах іканаграфічнага зводу. Важным з'яўляецца даследаванне асобных ілюстрацый і агульнай сістэмы ілюстравання. Неабходны дадатак да гэтага — аналіз вобразнай інтэрпрэтацыі тэксту сродкамі ілюстрацыі. Мастак у паказанай падзеі часам выходзіць за межы тэксту, які ён ілюструе. Іншы раз гэта тлумачыцца асацыятыўным мысленнем, часам — міграцыяй ілюстрацыйных схем і сюжэтаў з кнігі ў кнігу, але варта ўзяць пад увагу і тыя някніжныя крыніцы вобразна-паэтычнай інфармацыі, якой валодае ілюмінатар.

Калі для вызначэння іканаграфічнай схемы неабходна высветліць найперш тры крыніцы: звесткі кананічных і некананічных кніг Старога і Новага Запаветаў, творы патрыстыкі і літургічнай гімнаграфіі, то пры даследаванні кніжнай ілюстрацыі трэба прымаць пад увагу, акрамя таго, дадзеныя апокрыфаў і шырэй — фальклорныя вобразы.

[233] *Розов Н. Н.* Русские мастера рукописной книги. С. 90.

Вырашэнне праблем някніжных крыніц ілюстрацыі абяцае адкрыцці, якія істотна павялічаць уяўленні не толькі пра псіхалогію мастацкай творчасці ілюмінатара, але і пра шырокі і багаты сусвет народных ідэалаў, што атрымалі адлюстраванне ў разнастайных ілюстрацыях сярэднявечнай і навейшага часу кнігі.

У 1970-я гады супрацоўнікі Археаграфічнай камісіі АН СССР распачалі працу над зводным каталогам рукапісаў, што захоўваліся ў СССР. На першым этапе гэтага праекта даследчыкі з Беларусі і Летувы ў працы ўдзелу не бралі. Вынікам стала недастатковая ўвага да кніжнасці з зямель ВКЛ, нешматлікія захаваныя паасобнікі залічваліся да агульнарускіх помнікаў. Станоўчым бокам стала, аднак, тое, што праца паспрыяла распрацоўцы методыкі і метадалогіі вывучэння рукапіснай кнігі. У аснову апісанняў зводнага каталога была пакладзена тыпалагічная класіфікацыя — метадычныя рэкамендацыі змяшчаюць характарыстыкі асноўных тыпаў рукапісаў. Аднак пры ўсёй увазе да класіфікацыі кнігі элементы кніжнай аздобы — арнаментыка і ілюстрацыя — найчасцей заставаліся па-за ўвагай іх функцыянальнага прызначэння ў межах кодэкса.

На сённяшнім этапе вывучэння нам далёка яшчэ да магчымасці стварыць абагульняльную гісторыю ілюмінаванай рукапіснай кнігі ў Вялікім Княстве. Да сёння не асэнсавана інфармацыя аб цэнтрах кнігавытворчасці, не выяўлены ўсе майстры, не даследавана тэхналогія ілюмінацыі. Аднак матэрыял, што сабраны ў працэсе працы над рукапіснай кніжнасцю ВКЛ, яшчэ неаднойчы будзе прадметам гістарычна-кнігазнаўчага абагульнення, і перш за ўсё ў плане гісторыі кніжнай ілюстрацыі і кнігавытворчага ўмельства. Неабходна і далей назапашваць апісанні ілюмінаваных кніг, распрацоўваць методыку вывучэння ілюстрацыі, раскрываць узаемазалежнасць паэтычнай вобразнасці літаратурнага твора і кніжнай аздобы. На гэтым шляху важна вырашыць метадычную і метадалагічную задачу манаграфічнага вывучэння і публікацыі асобных помнікаў. Найлепшы вынік атрымліваецца ў выпадку, калі рыхтуецца факсімільнае выданне рукапісу. Першая спроба фотатыпічнага выдання ў Мінску помніка рукапіснай кніжнасці XIV ст. была няўдалай: надрукаванае з чорна-белага мікрафільма са значным памяншэннем ад фармата арыгінала «факсіміле» Друцкага Евангелля аказалася не прыдатным для вывучэння аздобы, фанетычных асаблівасцей і пунктуацыі гэтага цікавейшага помніка — на рэпрадукцыі згубіўся такі важны для кнігапісца XIV ст. чырвоны колер — кінавар[234]. Нашмат больш удалым было ажыццёўленае ў 2009 г. факсімільнае (на паперы) і электроннае выданне Слуцкага Евангелля з навуковымі каментарыямі. Далейшымі па важнасці кандыдатамі на факсімільнае перавыданне мы назвалі б Мсціслаўскі Псалтыр, Полацкае і Лаўрышаўскае Евангеллі.

Рукапісная спадчына ВКЛ патрабуе і прынцыпова іншага спосабу вывучэння, менавіта рэканструкцыі страчаных помнікаў кніжнасці. Зніклыя ў пажарах і ліхалецці паасобнікі (прыгадаем дзесяткі знойдзеных у культурных слаях Наваградка, Полацка, Мінска і іншых гарадоў кніжных зашпілек) могуць быць рэканструяваны паводле зместу і нават аздобы. Міжвольная спроба такой рэканструкцыі адбываецца заўсёды, калі даследчык якога-колечы захаванага помніка гаворыць пра яго «пратограф». Адна з такіх рэканструкцый узыходзіць да ўзнаўлення створанага ў Наваградку ў 1262 годзе Хранографа: апісання пошуку міфалагічнымі асобамі-язычнікамі найбольш прымальнага спосабу пахавання вельмі добра стасуецца з мяшанай балтыйска-славянскай тапанімікай Наваградчыны і спалучэннем абрадаў трупаспалення і трупапалажэння ў навакольных могільніках[235]. Тэксты з незахаванай да сёння рукапіснай кнігі пры гэтым бяруцца па спісах Хранографаў XV (РДзАСА №279/658) і XVI (БАНЛіт № 109/147) стагоддзяў[236].

[234] Друцк летапісны. Друцкае Евангелле. Мінск, 2001.

[235] *Павлова К.В.* Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // КСИА. 1981. Вып. 166. С. 78–83.

[236] *Лемешкин И.* Иоанн Малала и фольклорное сказание о Совии в составе Хронографа 1262 г.: переводная византийская хроника и древняя литовская литература // Senoji lietuvos literetūra, 21 kniga. Vilnius, 2006. L. 229–275.

# КУЛЬТУРНА-ГІСТАРЫЧНЫ КАНТЭКСТ

Да пачатку XVI ст. замкнёная ў сабе арганізацыя асобных зямель Літоўска-Рускай дзяржавы пасля падпарадкавання іх уладзе вялікага князя віленскага цалкам захавалася. Кожная з зямель была не толькі адміністрацыйнай адзінкай. Пры поўнай адсутнасці агульнага заканадаўства яна жыла «па сваіх мясцовых правах, па сваёй «старыне» і раўніва ахоўвала непарушнасць сваёй тэрыторыі...»[1].

Ці была ў гэты час агульная для ВКЛ культурная прастора? Адназначнага адказу няма. Самастойнасць асобных зямель замацоўвала іх культурныя асаблівасці. У розных частках дзяржавы карысталіся сваімі дыялектамі «рускай» ці «літоўскай» мовы (асабліва адрозніваліся дыялекты балтыйскія: прусы і жмудзіны разумелі летувіскія гаворкі з-пад Ліды і Крэва не больш, чым палачане палякаў). Хрысціянства не забараняла «тутэйшай» мовы ці дыялекту, але прывучала маліцца на мове агульнацаркоўнай. Адным з важных і да сёння нявывучаных пытанняў культурнай гісторыі ВКЛ з'яўляецца пытанне аб ужыванні «рускай» мовы ў каталіцкім храме. Ахрышчаная ў каталіцызм Літва стала дзвюхмоўнай — нават ведаючы свой родны (балтыйскі) дыялект, прадстаўнікі пануючых класаў усё часцей для грамадскіх зносін, а таксама і ў побыце карысталіся старабеларускай мовай — асабліва тыя, хто атрымаў маёнткі на рускіх землях, хто парадніўся з рускімі баярамі і князямі. А такіх за два мінулыя стагоддзі была большасць. Касцельнае набажэнства на лацінскай мове вымагала ад святароў ведання лаціны, але не больш таго. Якая мова будзе абслугоўваць унутрыкасцельнае жыццё (пропаведзь, дакументацыя і да т. п.), павінны былі вырашаць самі новаахрышчаныя. Рымска-каталіцкі касцёл у дачыненнях культуры (мастацтва, мовы, музыкі) быў сістэмай гнуткай і адкрытай на ўсход (пра гэта сведчаць, напрыклад, кірылічныя надпісы і візантыйскага стылю фрэскі ў касцёлах Кракава і Любліна часоў Ягайлы). Захаваныя шматлікія касцельныя паперы на старабеларускай мове розных, прынамсі віленскіх і навагрудскіх, касцёлаў, пратэкцыя каталіцкага епіскапа першадрукару Францыску Скарыне гавораць пра тое, што на пачатку XVI ст. у касцёле ВКЛ адбывалася ваганне паміж «пальшчызнай» і «русчызнай». Н. Мячкоўская тлумачыць адзін з абаротаў у выдавецкім адрасе Скарыны (*рускими словы а мовай славенскай*) як падкрэсленае ўказанне на новы шрыфт, аўтарам якога быў Скарына[2]. У гэтым ёсць рацыя, але справа не столькі ў малюнку шрыфту, колькі ў яго прынцыповым адрозненні ад лацінскіх шрыфтоў.

Нязменны альбо амаль нязменны жыццёвы лад вызначаў, акрамя ўсяго, і ўстойлівасць ужытковага кніжнага рэпертуару. З другога боку, падзеі штодзённага жыцця ўвесь час стваралі прычыны для ўзрушэння грамадства. Будаваліся шматлікія хрысціянскія храмы — касцёлы для неафітаў і цэрквы для паслядоўнікаў традыцыйнага, грэцкага дабрачэсця. Найбольш значныя сярод іх — познагатычны касцёл св. Ганны ў Вільні і мітрапаліцкі Навагрудскі Барысаглебскі сабор, узведзены на фундаментах старажытнай царквы XII ст. Многім новабудаваным храмам дойліды надалі абарончыя якасці — з такіх захаваліся Сынковіцкая, Маламажэйкаў-

[1] *Пресняков А. Е.* Лекции по русской истории. Т. 2, вып. 1. М., 1939. С. 129.
[2] *Мечковская Н. Б.* Кирилло-мефодиевское наследие в филологии Slavia Orthodoxa и языковые вопросы в русском православии XX века // Славяноведение. 2000. № 2. С. 5–6.

ская, Супрасльская цэрквы і Камайскі касцёл. Грамадства ВКЛ моцна ўзрушыў напад крымскіх татараў 1506 г., калі былі ўзяты і разбураны Наваградак і Мінск: «Року 1506... сам Магмет Герей солтан подъишол под замок Минский, а под Слуцко послал двох братов своих... пустил загоны под Вилню, также до Витебска, Полоцка и Друцка, и на все стороны... А тые два брата его царевичи отступивши от Слуцка пошли до Новгородка, а на той час в Новгородку все панове сеймовали, которые видячи, же зле, выехали з Новгородка за Немен, а татаре за ними гонили. Взявши перше Новгородок, запалили его, а перешедши Немен, в Литовской земли великии починили шкоды, а з вязнями и здобытками назад вернулися... людей самых над 100000 христиан вязнев з Руси и Литвы, кром инших добытков, вывели так, иж на кождого татарина по 25 вязнев доставало, кром побитых»[3]. Пасля гэтай катастрофы пачалося інтэнсіўнае абарончае будаўніцтва на навааградскім Замку і ўзвядзенне новай гарадской сцяны ў Вільні: «Того ж року вилняне и панове литовские, тым страхом стрвожены, мур около Вилня обвели и замки обмуровали»[4], — знешняя пагроза падштурхоўвала будаўніцтва ў дзяржаве. Не паспелі прызвычаіцца да адных архітэктурных дасягненняў — а ўжо закладваліся падмуркі новых. Саборы будавалі гараджане і багатыя паны, магнаты і дзяржава стваралі сістэму абарончых замкаў і гарадоў[5]. Людзі напружана працуюць на будаўніцтве, ствараюць новыя кнігі, нябачныя дагэтуль абразы і фрэскі, пішуць музычныя творы. Важнымі падзеямі робяцца новыя думкі (найперш у нетрах хрысціянскіх канфесій) і публічныя дыспуты аб іх. Тысячы праваслаўных становяцца пратэстантамі, каб ужо ў наступным пакаленні зноў быць правільнымі каталікамі. Небываласць — гэтую неадменную прыкмету культурнай падзеі — грамадства не толькі заўсёды чакае, але штодня стварае; сукупнасць культурных падзей дае няспынную плынь «навіны» — рух эвалюцыі. Можна ўбачыць пэўны парадокс у тым, што жыццё і грамадскі статус новым дасягненням — новабудоўлям, заканадаўству, парадку судаводства альбо арганізацыі войска — забяспечвалі каралі і вялікія князі праз тое, што, прымаючы ўладу, давалі абяцанне «старыну не рушыці, навіны не ўводзіці».

Паколькі гаспадары больш часу жылі за мяжой, у Польшчы (Кракаве, а потым Варшаве; выключэнне складалі Аляксандр Ягелончык ды Жыгімонт Аўгуст), гарант захавання «старыны» аказваўся далёка, і «навіна» даволі лёгка з'яўлялася ў межах ВКЛ, не сустракаючы кансерватыўнага адпору вышэйшай улады.

Для нас тут найбольш важна, як адбываўся працэс назапашвання кніжнай «навіны», якая роля ў гэтым розных слаёў грамадства ВКЛ — ад вялікіх князёў да простых друкароў, кнігапісцаў і пераплётчыкаў. Пасля смерці Аляксандра Ягелончыка ў каралеўскім скарбцы ў Кракаве (інвентар спісаны 24 і 25 ліпеня 1506 г.) знайшлося 12 кодэксаў і 18 аздобленых малітоўнікаў, сярод якіх і адна руская кніжка[6]. Але гэта былі не ўсе яго кнігі — віленская частка каралеўскай бібліятэкі тут не апісана. Пры яго панаванні між Масквой і Вільняй, Смаленскам і Ноўгарадам, Бранскам на Падляшшы і Бранскам на Дзясне існавала адзіная прастора — кнігі прыбывалі з Масквы, але і спісваліся на месцы; для гэтага былі адукаваныя пісцы і патрэбныя тэксты. У гэты ж перыяд у ВКЛ закладаліся падмуркі «кніжнай талеранцыі» — у адной сям'і збіраліся кнігі розных па веравызнанні аўтараў. Мець іх у сваёй хаце і чытаць было не заганна.

За кароткае праўленне Аляксандра многія тэндэнцыі новай эпохі проста не паспелі выявіцца. Першы значны яе перыяд прыпадае на княжанне Жыгімонта Старога (1506—1548). Пад час яго валадарства ўзнікла некалькі буйных кніжных прадпрыемстваў: актыўна дзейнічалі мітрапаліцкі і велікакняжацкі скрыпторыі, пад пратэкцыяй членаў віленскага магістрата і каталіцкага епіскапа Яна «з княжат літоўскіх» (пазашлюбнага сына Жыгімонта) пачалася кнігадрукарская дзейнасць Францыска Скарыны ў Празе (1517—1519). На шматлікіх пражскіх выданнях ёсць запіс: «А то ся стало накладом Богдана Онкова сына радци места виленского» альбо, як на тытуле Кнігі Іова: «а накладом Богдановым Онкович з виленского места». Выдавецкая творчасць Скарыны нават знешне ўяўляла сабой сімвал новага. Перaклад-

[3] ПСРЛ. Т. 32. С. 101.
[4] Тамсама.
[5] *Трусаў А. А.* Старонкі мураванай кнігі. Мн., 1990; *Ткачоў М. А.* Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.) Мн., 1977.
[6] *Papee F.* Aleksander Jagiełłończyk. Kraków, 1949. S. 114.



*На партрэце Францыска Скарыны з пражскага выдання Біблії 1517 г. першадрукар паказаны як «кніжы спісацель».*

чык, каментатар і друкар Бібліі надаў пры ёй свой партрэт на фоне атрыбутаў вучонага (сфера, ліхтар і пчала) і кніг (сваёй бібліятэкі?) — з'ява для таго часу унікальная[7]. Гуманістычныя ўплывы прыкметныя і ў падкрэсленай талерантнасці прадмоў і пасляслоўяў Скарыны, дзе як заказчыкі не ўпамінаюцца царкоўныя іерархі.

Мастацкая аздоба выданняў Скарыны вылучае яго кнігі з шэрага сучасных яму рукапісных. Навіна была ў малюнку шрыфту, у аздобе — пераважна чорна-белыя гравіраваныя ілюстрацыі (замест звыклых каляровых заставак і шматколерных мініяцюр), адмысловы тытульны аркуш. Але шматлікія, адносна велічыні саміх кніг, застаўкі-арнаменты і іншую аздобу, а таксама нячорнае (часцей за ўсё рознага тону карычневае) чарніла часта ўжывалі ў гэты час і кнігапісцы. Што да колеру, то тут Скарына мяняе традыцыю і робіць кнігі больш строгімі. Цяпер, праз колькі стагоддзяў, мастацтвазнаўцы і гісторыкі выказваюць больш ці менш абгрунтаваныя меркаванні пра тое, якія нямецкія, італьянскія ці чэшскія кнігі Скарына ўзяў за ўзор для аздобы сваіх, якія гравюры купіў гатовыя, а якія заказаў (ці, можа, зрабіў сам). Пад час выдання Бібліі Скарыны і ўваходу яе ў прастору кніжнасці ВКЛ гэтае пытанне не было актуальным. Патроны Скарыны — тыя ж віленскія бургамістры і радцы, епіскап Ян — напэўна ж бачылі заходнія друкаваныя кнігі і хацелі мець свае не горшыя.

На развіццё кірылічнай кніжнасці ВКЛ адмоўна паўплывала страта (у 1514 г.) такога значнага кніжна-летапіснага цэнтра, якім быў Смаленск; не прыйшоўшыя з усходу кнігі замяніліся на тыя, што прывезлі з захаду — у Кракаве была створана цэлая карпарацыя перапісчыкаў кніг. Галоўнымі заказчыкамі сталі касцёлы Вялікага Княства. Прынцце ў 1529 г. першага збору законаў — Статута ВКЛ — стала прычынай масавай вытворчасці яго спісаў у дзяржаўным скрыпторыі — велікакняжацкай канцылярыі. За год да смерці Жыгімонта Старога пры падтрымцы прускага герцага Альбрэхта, супраціўніка (хоць і пляменніка) Жыгімонта, Марцін Мажвідас выдаў «Простыя словы катэхізіса» — першую кнігу на літоўскай мове. Народ, які не меў рукапіснай кніжнасці, дый ніякага пісьменства на сваёй мове, атрымаў адразу высокую форму кніжнай культуры. Імплантацыя сталася ўдалай, хоць асноўная мэта літоўскамоўнай кніжнасці — пашырэнне пратэстантызму — не была дасягнута. Няма сумневу, што ў Вялікім Княстве стала вядома аб выдавецкай дзейнасці Мажвідаса: Катэхізіс меў прысвячэнне «Ad Magnum Ducatum Lituaniae» («Вялікаму Княству Літоўскаму»); усяго ж Мажвідас быў аўтарам пяці кніг, дзве з іх выйшлі ўжо пасля яго смерці ў 1566 і 1589 гг.[8] Кнігі Мажвідаса наўрад ці дадалі шмат новага да рэпертуару пратэстантаў у ВКЛ, бо ад сярэдзіны XVI ст. тут ужо наладзілася вытворчасць сваіх кніг

[7] З некалькіх соцень выданняў Бібліі XV і першай чвэрці XVI ст. партрэт перакладчыка ці выдаўца знаходзіцца, апроч скарынінскай, толькі ў венецыянскай Біблії Н. дэ Малермі 1490 г. (*Шматов В. Ф.* Искусство книги Франциска Скорины. М., 1990. С. 83).

[8] *Жукас С.* Первая литовская книга в культурном контексте эпохи. Катехизис Мартинаса Мажвидаса (1547). Vilnius, 1997. С. 16—19.



на польскай, нямецкай і старабеларускай мовах. Аднак кёнігсбергскія выданні несумненна паўплывалі на з'яўленне літоўскамоўных кніг у Вільні: фактам свайго існавання яны сцвярджалі годнасць гэтай непрызнанай у дзяржаве мовы. У выніку сфера ўжытку літоўскай мовы пашырылася: яе выкарыстала і контррэфармацыя, першым атрадам якой былі езуіты. Невыпадкова нават сучасная літоўская мова нясе на сабе выразны адбітак мовы насельнікаў Малой (Прускай) Летувы. У XVIII ст., да прыкладу, друкаваных цалкам ці часткова па-літоўску выданняў у ВКЛ было 167 і 243 — у Прусіі[9].

Княжанне наступнага (і апошняга) Ягелона — Жыгімонта Аўгуста — цесна і складана пераплятаецца з панаваннем Жыгімонта Старога, які дамогся абрання сына вялікім князем, а неўзабаве і каралём, яшчэ ў 1529 г., калі той меў дзевяць гадоў ад роду. Гэта не была ні адмова ад улады, ні парушэнне ўмоў Мельніцкай уніі — хутчэй прамая лагічная выснова з іх, спроба ўстанавіць хоць нейкае падабенства спадчыннай манархіі, дапоўніць асабістую унію замацаваннем абедзвюх дзяржаў за сваёй дынастыяй. У 1544 г., яшчэ пры жыцці бацькі, Жыгімонт Аўгуст фактычна садзіцца на велікакняжацкі стол у Вільні — пераход улады адбыўся амаль непрыкметна. Адпаведна і культурная гісторыя таго часу шмат у чым уяўляе працяг і развіццё тых напрамкаў і з'яў, што выспявалі ў першай палове стагоддзя.

Рэлігійная талерантнасць, узведзеная ў палітычны прынцып, выклікала моцны ўздым кнігавыдавецкай актыўнасці. Але ж пры гэтым віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны ў 1559 г. быў запісаны як непажаданы аўтар у «Індэкс забароненых кніг» папы Паўла IV. Падставай стала яго палеміка з папскім легатам Алаізіем Ліпаманам[10]. Энергічныя адэпты пратэстантызму, сярод якіх былі высокія дзяржаўныя чыноўнікі ВКЛ, аказвалі моцную дапамогу сваёй новай канфесіі. Важнай падзеяй для будучыні культуры стала пратэстанцкая Біблія на польскай мове, якую выдае ў 1563 г. Брэсцкая друкарня Мікалая Радзівіла Чорнага. Пальшчызна ад двара вялікага князя і караля Польшчы так шырока распаўсюдзілася, што ў 1566 г. Другі Статут ВКЛ мусіў стаць на абарону традыцыі — замацаваць дзяржаўную «рускую» мову як абавязковую для канцылярыі.

*«Біблія» Францыска Скарыны. Разгорт Кнігі Царстваў з гравюрай «Пабудова храма». У гэтай ілюстрацыі адбіўся пафас будаўніцтва, які апанаваў Вялікае Княства Літоўскае ў першай чвэрці XVI ст.*

[9] *Топоров В. Н.* Мартинас Мажвидас в контексте его времени: (К 450-летию со дня выхода в свет первой литовской книги) // Балто-славянские исследования 1997: Сборник научных трудов. М., 1998. С. 29.
[10] *Buchwald-Pelcowa P.* Cenzura w dawnej Polsce: między prasą drukarską a stosem. Warszawa, 1997. S. 206–207.


Евангелие
светаго Ісуса Христа
написаный через матфея светого

*«Евангелле ад Матфея» Васіля Цяпінскага. Першае ў ВКЛ выданне з паралельным — беларускім і славянскім — тэкстам.*

Беспатомны Жыгімонт Аўгуст адправіў сваю дзяржаву ў будучыню без Ягелонаў, але злітую з кароннай Польшчай. «І ўжо Карона Польская і Вялікае Княства Літоўскае ёсць адно непадзельнае цела, а таксама не паасобная, але сумесная Рэч Паспалітая, якая сябе з дзвюх дзяржаў і народаў у адзін народ знесла і злучыла»[11], — гэта, аднак, не цалкам адпавядала асноўным пастановам новай уніі, што была зацверджана ў Любліне 1 ліпеня 1569 г. Да супольнай выканаўчай улады (кароль, ён жа вялікі князь) дадалася толькі супольная заканадаўчая — вальны сойм. Асобнымі засталіся цэнтральныя органы і суды. Сам акт уніі змяшчаў бадай што адну ўмову, якую можна лічыць у чымсьці дыскрымінацыяй Літвы, — палажэнне аб каранацыі караля і вялікага князя выключна ў Кракаве. Істотным чыннікам змены балансу сіл на карысць Кароны стала спыненне са смерцю Жыгімонта Аўгуста (прапрапраўнука Гедыміна) нацыянальнай літоўскай дынастыі. Паралельнае выданне на славянскай і беларускай мовах Евангелля (Васілём Цяпінскім) супала па часе з прыняццем уніі.

Нядоўгі прамежак часу 1572—1587 гг., які ахапіў, тым не менш, тры «бескаралеўі» і два панаванні «недынастычных» каралёў (Генрыха Валуа і Стэфана Баторыя), стаўся ў пэўных дачыненнях вельмі цэласным і выніковым. Апошні Жыгімонт з Ягелонаў пакінуў Вялікае Княства свабоднай, можна сказаць, дэмакратычнай краінай ў братэрскай федэрацыі з Польшчай — праз 15 гадоў яго цёзка са шведскай дынастыі Вазаў атрымаў каталіцкую ваенную дзяржаву, нацэленую на распаўсюджанне рымскага прававерʼя і звонку, і ўнутры сябе. Каталіцызм з пануючай рэлігіі ператварыўся ў дзяржаўную ідэалогію — перыферыйнае і нават падпарадкаванае становішча Літвы рабілася відавочным само па сабе: што яна магла супрацьпаставіць Кракаву, арцыбіскупу-прымасу? І справа тут не ў занядбанні ці няўвазе — каралі, як, да прыкладу, Баторый альбо пазней Уладзіслаў IV, маглі любіць Літву і жыць там — сама логіка ідэйнага развіцця выштурхоўвала Вялікае Княства на крэсы дзяржаўнасці і культуры Рэчы Паспалітай. Галоўны змест культурнай эвалюцыі непазбежна пераходзіў у галіну рэлігіі, рэлігійнай барацьбы. У 1584 г. у Франкфурце-на-Майне выйшла ў трох тамах «Гісторыя Польшчы» Аляксандра Гвагніна[12]. У другім томе гэтай кнігі ёсць асобны раздзел з апісаннем Вялікага Княства Літоўскага: «Magni Ducatus Litvaniae cum suis Provinciis, palatinatibus, civitatibus et castris praecipius compendiosa descriptio». Для нас зараз важна, якія абшары ў гэтай кнізе (што пазней шмат разоў перавыдавалася) падаваліся еўрапейскаму чытачу як ВКЛ. Гэта увогуле Літва, Віленскае ваяводства, Троцкае ваяводства, Мінскае ваяводства, Наваградскае ваяводства, Брэсц-

[11] Volumina legum. T. 2. Petersburg, 1859. P. 89.

[12] *Gvagnino A.* Rerum Polonicarum. Tomi tres. Francofurti. 1584. Мы карысталіся паасобнікам з бібліятэкі Радзівілаў, які зараз знаходзіцца ў Аддзеле рэдкай кнігі БАН СПб: 11456.о/4629R.



кае ваяводства, Валынь (Volinia Regio), Кіеўскае ваяводства, Мсціслаўскае ваяводства, Віцебскае ваяводства, Полацкае ваяводства, Княства Самагіція (Жмудзь. — *М. Н.*)

Моцным ударам па не да канца яшчэ сфарміраванаму маналіту культуры Вялікага Княства Літоўскага пры Баторыі стала прымусовае ўвядзенне для дзяржаўнага карыстання грыгарыянскага календара. Гэтая «навіна» (яе неадназначна сустрэлі і ў такіх чыста каталіцкіх краінах, як Італія) выклікала, як сведчыць летапіс, «великое замешание промежи панами и промеж людми духовными, также и людми простыми было плачу великого, нареканя силнаго, похвалки, посварки, забуйство, грабежи, заклинания, видячи яко новые свята установляли, празники отменяли, купцом торги албо ярмарки поотменяли, праве было начало пристья антихристова, у таком великом замешанью»[13]. Колькасць аргументаў прыхільнікаў новага календара, як і колькасць спецыяльна напісаных на гэтую тэму кніг, павялічвалася, але не вельмі пераконвала апанентаў. Праваслаўныя каляндар не прынялі.

Як форма грамадскага адказу на ўмяшанне дзяржавы ў сферу прыватнага рэлігійнага побыту ўзніклі брацтвы — пратэстанцкія і праваслаўныя хаўрусы з уласнай палітычнай, гаспадарчай і культурнай дзейнасцю. Брацтвы арганізоўвалі школы і друкарні: «...Того ж часу почали у во Львове, у месте Виленском, у Берестью школы науку выдавати, братерство якоесь установляти и тым закон и веру утверждати», — апавядае Баркулабаўскі летапіс пад 1583 г.[14]

Істотна ўплывала на вытворчасць, спажыванне і гандаль кнігамі ў Вільні каталіцкая семінарыя папы Грыгорыя XIII, якая дзейнічала ў сталіцы ВКЛ (з перапынкамі) у 1582—1798 гг. Тут навучаліся студэнты (алюмны) з розных краін Еўропы, яны былі

*Каляндарныя табліцы (у тым ліку пасхалія і «вруцэлет» — малюнак рукі з напісанымі на фалангах лічбамі) у рукапіснай кнізе «Святцы». 3 лютага 1634 г. гэту кнігу купіў віцебскі мешчанін Багдан Заверніцкі «...за злотых пайдзевята ад Паўла Білецкага...» (РНБ, Пог. 322).*

[13] ПСРЛ. Т. 32. С. 177.
[14] Тамсама.





*Партрэты вялікіх князёў літоўскіх і польскіх каралёў Стэфана Баторыя і Жыгімонта III з рукапіснага маскоўскага «Тытулярніка» 1672 г.*

пастаяннымі спажыўцамі кніг, у тым ліку прывазных. Іх пярэсты нацыянальны склад паказваюць захаваныя спісы студэнтаў за 1585—1602 гг.: па адным чалавеку з Аўстрыі, Бельгіі, Багеміі, Далмацыі, Гамбурга, Гесена, Ілірыі, Італіі, Лапландыі, Любека, Масковіі, Мазураў, Нарвегіі; па два з Фінляндыі, Сілезіі, Жамойці, Швабіі; па тры з Падляшша і Трансільваніі; па чатыры з Германіі, Саксоніі і Вестфаліі; па пяць з Брандэнбурга, Англіі, Венгрыі і Шатландыі; шэсць з Польшчы, сем з Даніі, 15 з Русі, 19 з Літвы, 24 з Лівоніі, 31 з Прусіі, 35 са Швецыі[15]. Чаму маглі навучыцца іншаземныя і мясцовыя студэнты ў Вялікім Княстве? Хто былі іх настаўнікі? Адказ на гэтыя пытанні патрабуе асобнага даследавання. Аднак наяўнасць у нашым рэгіёне па-еўрапейску адукаваных асоб, якія маглі навучаць моладзь і самі плённа працавалі ў розных галінах ведаў, відавочная.

Доўгае (да 1632 г.) панаванне Жыгімонта III Вазы было больш складанае і разнастайнае, чым проста перыяд змрочнай езуіцкай рэакцыі, як яго часта паказваюць. У 1588 г. быў прыняты Трэці Статут ВКЛ і ў тым жа годзе надрукаваны ў створанай дзяржаўнымі чыноўнікамі друкарні. Рознае з Польшчай судовае права і розны парадак судаводства замацаваў адрозненні ў правазнаўстве абедзвюх частак манархіі Вазы. Магчымасць прадстаўнікам ВКЛ не пастулацца сваімі інтарэсамі на агульным (вальным) сойме павінна было забяспечыць права «liberum veto» хоць для аднаго голасу. Гэтая юрыдычная «бомба запаволенага дзеяння» была закладзена на будучыню, а пакуль ВКЛ карысталася выгодамі ад унармаванага права: аб ступені дасканаласці і распрацаванасці Трэцяга Статута сведчыць той факт, што ён заставаўся дзейным законам нават Расійскай імперыі да 1840 г., а ў юрыдычнай практыцы ўжываўся да канца XIX ст.[16] Патрэбы дзяржавы спрыялі развіццю кніжнай вытворчасці. Выдаваліся кнігі, неабходныя для справаводства і судоў, у прыватнасці спісы Статутаў. Праз год пасля прыняцця Статута Жыгімонт III першы раз наведаў сталіцу Вялікага Княства (пад час паездкі ў Рэвель для сустрэчы з бацькам, каралём Швецыі Юханам III), і няма сумневу, што канцлер Леў Сапега і друкары Мамонічы падаравалі каралю паасобнік Статута «свайго» друку з

[15] *Litwin H.* Przynależność narodowa alumnów Seminarium Papieskiego w Wilnie 1582—1798 // Między Wschodem a Zachodem. Warszawa, 1993. S. 61—65.

[16] У 1897 г. расійскі Сенат па прыватнай судовай справе прызнаў за афіцыйны тэкст Статута беларускі, паводле выдання 1588 г. (*Нольде А. Э.* К истории перевода Литовского Статута на русский язык // Сборник статей в честь Дмитрия Фомича Кобеко от сослуживцев по Императорской Публичной библиотеке. СПб., 1913. С. 142).

яго партрэтам. На той жа выпадак было падрыхтавана вельмі важнае для гісторыі мастацтва кнігі выданне — панегірыкі віленскіх «акадэмікаў» (так называлі і выкладчыкаў, і студэнтаў універсітэта) А. Крэўскага і А. Рачкага; тут упершыню гербы вялікага князя і караля (на пачатку кнігі), а таксама аўтараў (на канцы) надрукаваны не з драўлянай, а з меднай дошкі. Пачынаецца эра медзярыту ў кніжнай ілюстрацыі.

Першыя гады панавання Жыгімонта III прайшлі ў Кракаве. Але ад'ехаўшы ў 1609 г. на вайну пад Смаленск, кароль вярнуўся ў 1611 г. ужо ў Варшаву, якая і стала надалей рэзідэнцыяй манарха.

Час панавання Жыгімонта III стаў часам росквіту мастацтваў: пры двары працавалі шматлікія мастакі, архітэктары, музыканты і спевакі. У адрозненне ад апошніх Ягелонаў Жыгімонт Ваза запрашаў людзей мастацтва не на акрэслены тэрмін, а пажыццёва, прызначаючы невялікі пансіён. Збіраў калекцыі ўсходняй зброі, дываноў, карцін. У вольныя хвіліны браў урокі ў прыдворных мастакоў. Большасць яго вялікіх архітэктурных праектаў выконваліся ў Варшаве і Кракаве; у ВКЛ кароль фінансаваў аздобу віленскага касцёла св. Казіміра і пабудову маста на Нёмане: «драўляны, праўда, але так паводле правілаў мастацтва збудаваны, што падобнага Польшча не мае», — пісаў Сымон Старавольскі. Езуіты наблізіліся да Жыгімонта III пасля ўвядзення новага «ўраду» пры двары — каралеўскага прапаведніка. Першым заняў гэтую пасаду ў 1588 г. рэктар Віленскага універсітэта Пётр Скарга, які зрабіўся праз гэта адным з бліжэйшых дарадцаў караля (да сваёй смерці ў 1612 г.).

Характэрная рыса мастацтва кнігі перыяду першых Вазаў — эмблематыка з трохчасткавым тыпам эмблемы: надпісам (дэвізам), выявай, подпісам (каментаром). Дэвізамі эмблем рабілі сентэнцыі антычных аўтараў, вытрымкі з Бібліі, выказванні сучаснікаў. Подпісы ў залежнасці ад мэты стварэння эмблемы былі дыдактычныя, панегірычныя ці метафізічныя, разнастайныя не толькі па змесце, але і па аб'ёме. Выразнымі прыкладамі эмблематыкі ў графічнай аздобе кнігі пачатку XVII ст. з'яўляюцца «Алегорыя» К. Халецкага (1613) і панегірык А. Мафона Льву Сапегу на ўступленне яго на пасаду віленскага ваяводы ў выданні Лявона Мамоніча (1623), а таксама панегірык Яну Каралю Хадкевічу «з нагоды закладкі першага каменя ў падмурак касцёла Унебаўзяцця Маці Божай у Крожах на Жмудзі»[17].

У Вільні кароль-каталік быў найперш вялікім князем пярэстага ў рэлігійных дачыненнях Вялікага Княства. Абразок з жыцця тагачаснай Вільні ў апавяданні сучасніка — добрае таму сведчанне. Аднойчы навагрудскі падсудак Фёдар Еўлашоўскі гасціў у свайго прыяцеля, віленскага каноніка Балтрамея Нядзвіцкага. Калі італьянцы, слугі каноніка, што сядзелі разам з ім за сталом, даведаліся, што Еўлашоўскі — пратэстант, то вельмі здзівіліся, «як мяне смеў ксёнз канонік на абед свой паклікаць». На гэта канонік ім адказаў, што «в нас з того жадна ненавист не быва и милуемы се яко з добрыми приятелы»[18].

У тым жа 1589 г. сваю паству ў ВКЛ наведаў канстанцінопальскі патрыярх Іярэмія. Мамонічы друкавалі ліст караля з абвесткай аб яго візіце, а таксама ўпамянулі пра гэтую (дасюль небывалую) падзею ў пасляслоўі да выдання «Апостала» 1591 г. На сустрэчы ў Вільні патрыярх Іярэмія, мітрапаліт Міхаіл Рагоза, навагрудскі ваявода Фёдар Скумін і іншыя паны і князі разам з народам «мели намову и обмышлене друкованя книг до церквеи Божих». Тады ж Іярэмія наведаў Львоў і даў прывілей на кнігадрукаванне львоўскаму праваслаўнаму брацтву Успення Багародзіцы. Дакумент гэты цікавы для знаёмства з рэпертуарам кніг праваслаўнай друкарні на той час, бо падрабязна іх пералічвае: «...мають волность братство успенія Богородица друковати не возбранно священныя книги церковныя прилежно и з великим опатренем, не токмо часословцы, псалтыры, апостолы, минеи и треоди, требники, синаксары, еуангеліе, метафрасты, торж[естве]ники, хроники си реч, летописцы, и прочая книги богословов церкви нашея христовы, но училищу потребные и нужные, си реч, грамматику, пеитику, реторику и философію»[19].

[17] *Ткачэнка М. І.* Эмблематычныя рысы ў гравюрным партрэце пачатку XVII ст. // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998. С. 237—238.

[18] *Свяжынскі У. М.* «Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага. Мн., 1990. С. 18.

[19] Diplomata statutaria a patriarchis orientalibus confraternitati stauropigianae Leopoliensi a. 1589—1592 data, cum aliis litteris coaevis et appendice. Leopoli, 1895. T. 2. P. 64.




*Полацкі архіепіскап Іясафат (Кунцэвіч), якога за гвалтоўнае прыцягненне да уніі забілі жыхары Віцебска ў 1623 г., хутка будзе названы святым патронам Польшчы і Літвы. Гравюра з кнігі Андрэя Младзяноўскага «Suppetiae militares ex divis Poloniae Lituanaeque gentis Tutelaribus...». [Vilnae], 1671 г.*

Для характарыстыкі супрацьстаяння Польшчы і ВКЛ найбольш выразнай (і працяглай) палітычнай падзеяй 1590-х гг. была спрэчка каталікоў за Віленскае біскупства. Жыгімонт III, мяркуючы, верагодна, узмацніць адзінства сваёй дзяржавы, намінаваў на кракаўскую кафедру ліцвіна Юрыя Радзівіла, а на віленскую — паляка Бернарда Мацэёўскага. Аднак у Вялікім Княстве, спасылаючыся на Статут, не прынялі на вышэйшую царкоўную пасаду іншаземца. Справа вырашылася толькі ў 1600 г., сама па сабе: памёр Юры Радзівіл, і кароль перавёў Мацэёўскага ў Кракаў, а Віленскае біскупства было аддадзена ураджэнцу ВКЛ Бенядыкту Войне (блізкаму сваяку Мамонічаў).

Актуальным палітычным пытаннем заставалася злучэнне заходнярускай праваслаўнай царквы з царквой рымска-каталіцкай. Заключаная ў 1596 г. Брэсцкая царкоўная унія не вырашыла, як паказала будучыня, пытання, але шмат што змяніла як для праваслаўнай, так і для каталіцкай цэркваў. Уніяцкая іерархія неўзабаве зразумела, што ў правах з каталіцкай так і не зраўняецца, а нязгодная з уніяй частка праваслаўнага духавенства не была прызнаная ў сваіх правах. Унія, як і супраціўленне ёй, нарадзіла не толькі арыгінальную літаратуру (богаслужбовую, багаслоўскую, чэццю), але і стварыла адметныя тыпы кніг — двухмоўныя службоўнікі, памяннікі і г. д. Самае ж важнае, што Брэсцкая унія выклікала да жыцця унікальную для таго часу, прынамсі ў межах адной дзяржавы, з'яву — адкрытую літаратурную палеміку вакол злучэння цэркваў і ходу гэтага працэсу на праваслаўных землях Кароны і Вялікага Княства. Палеміка, якая працягвалася толькі ў найбольш актыўнай сваёй фазе, практычна паўстагоддзя (з 1590-х да 1640-х гг.), яскрава адлюстравала галоўную, магчыма, палітычную супярэчнасць Рэчы Паспалітай гэтых часоў — надзвычайную бескампраміснасць, нават бязлітаснасць уласна рэлігійных узаемадачыненняў і барацьбы, а з другога боку — выкарыстанне такой жа надзвычайнай свабоды слова і друку і, што не менш істотна, разуменне высокай каштоўнасці гэтых інстытутаў для грамадства, разуменне, якое даходзіла часам да ўзаемнай падтрымкі розных канфесій у справе забеспячэння гэтых свабод, напрыклад, паміж праваслаўнымі і пратэстантамі. Як піша сучасны даследчык, «пастановы Варшаўскай канфедэрацыі (1573 г. аб верацярплівасці. — *М. Н.*) прадухілілі ў Польшчы кровапралітныя рэлігійныя войны, якія ахапілі Захад Еўропы... Пазней — на працягу XVII ст. — контррэфармацыя ўзяла верх у польска-літоўскай дзяржаве не ў братазабойчай вайне, а шляхам пераконвання і выкарыстання легальных форм барацьбы»[20]. Думка гэтая выказана, можа, занадта катэгарычна, не без пэўнай ідэалізацыі «шляхецкай дэмакратыі» (ці не контррэфармацыя ў яе спецыфічна польскім варыянце прывяла да войнаў Багдана Хмяльніцкага і расійска-шведскага «патопу»?), але па сутнасці аўтар мае рацыю.

[20] *Липатов А. В.* Литература в кругу шляхетской демократии (Позднее барокко. Просвещение. Предромантизм). М., 1993. С. 17.

Толькі не варта забываць і пра іншы бок праблемы: каталіцызм пачатку XVII ст., які свядома вырашаў задачу аднаўлення свайго татальнага панавання ў Еўропе[21], мог ужываць дэмакратычныя формы, але ніколі не пагадзіўся б ім падпарадкавацца. «Шлях пераконвання», росквіт палемічнай літаратуры хавалі за сабой нарастанне небывалага крызісу, і Вялікае Княства апынулася ўбаку ад яго. У 1620 г. іерусалімскі патрыярх Феафан, вяртаючыся з Масквы праз Кіеў, без дазволу дзяржаўных улад паставіў там праваслаўнага мітрапаліта і епіскапаў. Узнікненне гэтай «новай іерархіі» поруч са «старой» — кіеўскім мітрапалітам-уніятам у Вільні і яго епіскапамі на тых самых епархіях — перавадзіла ўсё пытанне ў рэчышча ўзброенага супрацьстаяння, бо дзяржава не дапускала «новых» епіскапаў да епархій і саступала альбо пагрозам казацкай ваеннай сілы, як у Кіеве, альбо шырокім грамадскім рухам і настроям, як у Луцку ці Перамышлі. Ужо адзін гэты факт яскрава сведчыў, што унія правалілася — насуперак самому сэнсу слова яна прывяла не да аб'яднання, а да з'яўлення, замест дзвюх, трох царкоўных арганізацый з адпаведным ростам напружанасці ва ўзаемных дачыненнях у грамадстве. Для Літвы ж гэтае нечаканае аднаўленне сапраўднай Кіеўскай мітраполіі азначала новы, першы пасля 1458 г., выхад рэальнага цэнтра праваслаўя за межы яе дзяржаўнай тэрыторыі і, як вынік у сучасных умовах, неабходнасць яшчэ цяснейшага злучэння з Польшчай, якая адна магла абараніць уніяцкую іерархію.

Унія, прынятая ў Брэсце, лагічна закончылася праз 28 гадоў — у студзені 1624-га, на царкоўным саборы ў Наваградку. Пяць епіскапаў (уладзімірскі Іякім Марахоўскі, холмскі Афанасі Пакоста, луцкі Іярэмія, полацкі Антоні Сялява, тураўскі Грыгорый Міхалоўскі) і мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі пастанавілі дамовіцца з кіеўскім духавенствам аб тым, «абы был новофундованый в наших краях, яко и в московских, патріярха на добрах певных духовных, который бы на добрах тых на вси потомные часы пребывал, и по благословеніе нигде не посылал»[22]. Не пасылаў ні ў Канстанцінопаль, ні ў Рым...

Гэты дакумент, саборнае рашэнне 1624 г., адназначна сведчыць: тыя, хто прыняў унію, гатовыя былі дзеля задзіночання царквы і большай духоўнай свабоды адмовіцца ад яе. Аднак так, як хацелі — «щырым сердцемъ, откинувши приваты свои на сторону» — не стала. Толькі змяніліся на некаторы час кольксасныя судачыненні праваслаўных і каталікоў...

Унія, прынятая ў Любліне ў 1569 г., закончылася ў 1655 г. скасаваннем саюза ВКЛ і Кароны. Вялікім князем літоўскім абраны шведскі кароль Карл X Густаў. Новую унію падпісалі 1100 чалавек шляхты, жмудскі біскуп і пяцёра сенатараў ВКЛ (сярод іх ініцыятар уніі Януш Радзівіл). Гэта кульмінацыя палітычнага лёсу Януша Радзівіла, а пачыналася ўсё яшчэ ў 1641 г., калі багаты магнат-пратэстант браў шлюб з праваслаўнай — дачкой малдаўскага дэспата Васіле Лупу Марыяй. Дзеля таго вяселля па загадзе кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы на лацінскай і польскай мовах быў складзены панегірык, упрыгожаны шматлікімі гравюрамі і шыкоўна выдадзены лаўрскай друкарняй у Кіеве. Сярод ілюстрацый — гравюры з варыяцыямі на тэмы гербаў Радзівілаў (арол і тры трубы) і малдаўскіх гаспадароў (галава вала). У канцы змешчана гравюра з партрэтамі Радзівілаў, гербамі ВКЛ і Малдовы[23].

Аднак ілюзіі самастойнасці ВКЛ адразу разбурыліся: віленскаму ваяводзе і вялікаму гетману Янушу Радзівілу маскоўскі цар (праз свайго пасла, двараніна Васіля Ліхарава) пагардліва нагадвае: «А ты великий гетман полского короля и ВКЛ вилинский воевода был по милости полского короля. А город Вилна была полского ж короля, а не твоя. Волно было королю на твое место и иново гетмана вилинским воеводою учинить, ныне ты, а завтра иной бы был воевода. А ныне город Вилна и городы Княжства Литовского великого государя нашего, а не свийского короля. А ты свийскому королю пишеш ВКЛ напрасно...»[24].

[21] Гл., напр.: *Поршнев Б. Ф.* Тридцатилетняя война и вступление в нее Швеции и Московского государства. М., 1976. С. 9–56.

[22] АЗР. Т. 4. СПб., 1851. С. 513–514.

[23] Панегірык гэты — адна з самых прыгожых кніг свайго часу — зараз надзвычайная рэдкасць; мы карысталіся паасобнікам РНБ, шыфр: 6.4.1.281.

[24] *Заборовский Л. В.* Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655–1656 гг.): Документы, исследование. М., 1994. С. 25.



*Гравюра 1641 г. з панегірыка да вяселля Януша Радзівіла і Марыі, дачкі гаспадара Малдовы Васіле Лупу. Сімвалічны малюнак паказвае, як на небе сыходзяцца шляхі Радзівілаў і іх новых малдаўскіх сваякоў. Тое, што наймагутнейшага магната-пратэстанта, «некаранаванага ўладара Літвы» вянчаў праваслаўны мітрапаліт, сучаснікі расцэньвалі не толькі як асабісты поспех Пятра Магілы, але і як падзею, што падымала аўтарытэт праваслаўнай царквы. Аўтары панегірыка не ведалі, што шлюб будзе бяздзетны, на Янушы Радзівіле скончыцца біржайская галіна гэтага роду.*

Драматычны лёс Януша Радзівіла — віленскага ваяводы і найвышэйшага гетмана ВКЛ, князя Свяшчэннай Рымскай Імперыі на Біржах і Дубінках, графа на Невелі і Себежы і мсціслаўскага старасты — прыводзіць яго ў падляскі гарадок Тыкоцін, дзе ён раптоўна памёр 30 снежня 1655 г. Сярод яго маёмасці ў Тыкоціне знаходзіліся, між іншым, і ўзятыя ім з сабой кнігі: «6. Skrzynia wozowa z księgami staremi pisanemi... 9. Skrzynka długa żelazna z księgami drukowanemi... 11. Szuflada z księgami... 12 i 13. Dwie szuflady wielkie z biblioteką»[25].

Унія ВКЛ і Кароны Польскай вярнулася на кругі свая...

Часы праўлення Уладзіслава IV (1632—1648) яшчэ раз паказалі глыбока аб'ектыўны, незалежны ад якіх-небудзь палітычных паваротаў характар падзей. Новы кароль, далёкі ад фанатычнага каталіцызму Жыгімонта III (яшчэ ў 1624—1625 гг. каралевіч Уладзіслаў ездзіў у падарожжа ў Заходнюю Еўропу ў суправаджэнні Альбрэхта Станіслава Радзівіла, і кантакты з адукаваным ліцвінам значна паўплывалі на маладога чалавека), афіцыйна прызнаў «новую іерархію» — вынікам стала кансалідацыя ваяўнічага праваслаўя, якое абапіралася на казацтва. Прапаведнікамі Уладзіслава былі не толькі езуіты, як у Жыгімонта III, але і дамініканцы — спачатку (у 1612—1634 гг.) прафесар рымскай і грэцкай літаратуры з Кракаўскага універсітэта Фабіян Біркоўскі (быў з Уладзіславам і пры войску), ад 1635 г. — грамадзянін ВКЛ, прафесар Віленскага універсітэта і славуты паэт Мацей Казімір Сарбеўскі, кнігі якога выходзілі як у ВКЛ, так і ў Еўропе. Сарбеўскі карыстаўся сімпатыяй караля і суправаджаў яго нават на паляваннях. Пакаёвымі дваранамі Уладзіслава IV былі браслаўскія шляхціцы Геранім і Уладзіслаў Камары.

У часы Уладзіслава IV былі зроблены спробы ўлагодзіць міжканфесійныя супярэчнасці. Адной з такіх супярэчнасцей быў стары каляндар. У верасні 1640 г. у Вільні выйшла кніга дубенскага архімандрыта, уніята Касіяна Саковіча, прысвечаная праблеме календара. Аўтар паказаў шматлікія нязручнасці ад карыстання дзвюма рознымі сістэмамі лічэння часу і ўгаворваў адмовіцца ад старога календара на карысць новага: «...Сам тады змілуйся над сабой зацны народзе рускі і скінь той непатрэбны табе ценжар Старога Календара з каркаў сваіх, дзеля прыняцця Новага Календара. Бо то вельмі не гжэчна, што ў аднаго будзе «Хрыстос Васкрэс», а ў другога аж праз пяць тыдняў будзе «Воісціну Васкрэс», і прыяцель твой каталік будзе весяліцца і скакаць, а ты над селядцом і сырам сядзець будзеш...»[26]. Тут жа падаецца прапанова — як прыняць новы каляндар праваслаўным жыхарам Кароны і ВКЛ: «...калі б у першых гарадох, напрыклад на Літве ў Вільні, а на Русі ў Львове, на Валыні ў Астрогу і Луцку, а на Украіне ў Кіеве каляндар прынялі, тады б і іншыя меншыя гарады за імі пайшлі...»[27]. Праблема календара, як бачым, засталася нявырашанай да сёння.




*Казанне Казіміра Яна Вайшнаровіча на пахаванне Агнешкі Чарніцкай Камаровай. Жодзішкі, 12 верасня 1645 г. Кніга прысвечана яе сынам: Гераніму, «пакаёваму дваранін яго міласці караля», і Уладзіславу, браслаўскаму падчашаму, «пакаёваму дваранін каралевіча яго міласці караля».*

[25] *Kotłubaj E.* Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859. S. 420.
[26] *Sakowicz K.* Kalendarz stary w ktorym jawny y oczywisty błąd ukazuie sie... a iakie szkody z trzymania sie Starego, y iako sie ma rozumiec Poprawa Kalendarza. Wydany przez wielebnego oyca Kassiana Sakowicza, archimandrite Dubieńskiego unita. W Wilnie Roku Pańskiego 1640 dnia 13 Septembra Za dozwoleniem Starszych. Арк. C4.
[27] Тамсама. Арк. E2.

# ТРАДЫЦЫІ КНІГАПІСАННЯ І РЭПЕРТУАР

З развіццём дзяржавы ўзнік і атрымаў развіццё інстытут дзяржаўнай канцылярыі ВКЛ. Канцылярыяй кіраваў канцлер, які ў адсутнасць вялікага князя заставаўся вышэйшай урадавай асобай у дзяржаве[28].

Усе дакументы, якія мелі подпіс караля і вялікага князя — прывілеі і універсалы, акты на зямлю і на тытулы, дыпламатычныя дакументы і да т. п., каб мець юрыдычную сілу, павінны былі быць запячатаны дзяржаўнай пячаткай і ўпісаны ў кнігі дзяржаўнага архіва — Метрыкі[29]. Канцлеру і яго намесніку — падканцлеру падпарадкоўваліся пісары. Колькасць іх строга не рэгламентавалася і ў розныя часы магла быць рознай. Пісару падпарадкоўваліся дзякі, якія вялі справаводства, перапісвалі акты, тыражавалі неабходныя для жыцця дзяржавы кнігі, у прыватнасці звод законаў — Статут. Такім чынам, канцылярыя з'яўлялася скрыпторыем.

Калі ў канцы XV ст. маскоўскі цар Іван III сфармуляваў дактрыну абароны і апекі праваслаў'я, у тым ліку і на землях ВКЛ, і такім чынам заклаў падмуркі ідэалогіі барацьбы за прылучэнне да Масквы ўсіх праваслаўных зямель, гэтыя ідэі не атрымалі шырокага водгуку сярод праваслаўных Вялікага Княства. Цэнтрам апазіцыі, на думку Э. Банёніса, быў не толькі найвышэйшы гетман князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, які пабываў у маскоўскім палоне, а потым працягваў ваеннае змаганне з войскам Івана III, але і праваслаўныя пісары вялікакняскай канцылярыі. Бо менавіта яны валодалі тымі дакументамі і кнігамі, на аснове якіх рыхтаваліся абгрунтаванні палітыкі і ідэалогіі для пасольскай службы Вялікага Княства[30]. У канцылярыі выпрацаваўся вельмі выразны почырк-скарапіс, які імкнуліся пераймаць у правінцыі. Зараз гэты почырк вядомы пад назвай «заходнерускі», «беларускі» альбо «ўкраінскі» скарапіс. Асноўнай кніжнай прадукцыяй, што выходзіла са скрыпторыя вялікакняскай канцылярыі, былі спісы Статутаў, хоць штат прафесійных пісцоў мог спісаць усялякія іншыя кнігі на заказ[31].

Пісары ў ВКЛ былі лацінскія і рускія. Пасада пісара з'явілася ў канцылярыі Вітаўта ў канцы XIV ст. і была адной з найбольш важных у дзяржаўнай іерархіі. З 1522 г. пісары прыносілі прысягу. Пісар-ураднік кіраваў працай дзякаў-перапісчыкаў і ставіў на дакументы свой подпіс. Пасля 1550 г. з'явіліся першыя намінацыі (назначэнні) на пісарства, але колькасць пісараў не была дакладна вызначана. Пасля рэарганізацыі канцылярыі Вялікага Княства ў 1566 г. колькасць пісараў была абмежавана пяццю: пісар вялікі, скарбовы, польны, пісар двароў і маёнткаў гаспадарскіх, пісар дэкрэтавы. Наступная «навіна» з'явілася толькі на пачатку XVIII ст. — тады пачалі вылучаць пісараў свецкіх і духоўных. Як сам пісар, так і яго падначаленыя дзякі часта займаліся кнігапісаннем. Сучасная гістарыяграфія дастаткова добра ведае гісторыю і іерархію пісараў ВКЛ[32].

Прадукцыю скрыпторыя канцылярыі ВКЛ мы пазнаем па характэрным почырку яе дзякаў, а таксама па ўпамінанні ў прыпісках пісараў. Усё, што вядома з яе сёння, — гэта вялікія, грунтоўныя кнігі. Прыкладам яе прадукцыі ў XVI ст. могуць быць захаваныя спісы Статута 1525 г., Жыровіцкі зборнік энцыклапедычнага зместу, тут пачалася праца над зводам біблейскіх кніг — «Дзесятаглаваў». У XVII—XVIII стст. функцыі канцылярыі як скрыпторыя паступова зніклі. Гэта можна патлумачыць істотным павелічэннем аб'ёму работы з актавымі матэрыяламі і Метрыкай, з другога боку — далучэннем да рэалізацыі важных кніжных мерапрыемстваў блізкіх урадавым асобам друкарняў (яны ў такіх выпадках адначасова выконвалі і функцыі выдавецтва).

[28] Ад 1458 да 1579 г. канцлеры былі адначасова віленскімі ваяводамі. Астафей Багданавіч Валовіч у 1579—1587 гг. быў адначасова канцлерам і віленскім кашталянам. Пасля яго канцлеры іншых пасад не займалі (*Wolff J.* Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego 1386—1795. Kraków, 1885. S. 160).

[29] *Stang Ch. S.* Die westrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen. Oslo, 1935.

[30] *Банионис Э. Д.* Литва XV в.: ощущение многообразия окружающего мира // Наш радавод. Кн. 4, ч. 2. Гродна, 1992. С. 432.

[31] *Сядзельнікаў А. Д.* Паведамленне аб пісары Якубе // Запіскі аддзелу гуманітарных навук [Інстытута беларускай культуры]. 1928. Кн. 3. С. 207—209.

[32] Адна з апошніх прац: *Lulewicz H., Rachuba A.* Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku. Kórnik, 1994.



*Дзесятаглаў. Старонка з вертыкальнай застаўкай. Праца лепшага на той час у Вялікім Княстве каліграфа — Мацея Дзесятага. Вільня — Супрасль, 1502—1507 гг.*

Недахоп якога-небудзь віду кніг прыводзіў часам да таго, што кнігапісанне арганізоўвалі (бралі пад сваю апеку) прыватныя асобы — як правіла, багатыя магнаты. Скрыпторыі ўзнікалі ў маёнтках. Найбольш вялікі з прыватных скрыпторыяў дзейнічаў у двары Солтанаў у прадмесці Вільні — Шышкінях (зараз раён горада побач з тэлевежай). Час дзейнасці гэтай кнігапіснай майстэрні — канец XV і першая палова XVI ст. Месца перапіскі самых старых солтанаўскіх кніг дакладна не вызначана. Гэта Мінеі, перапісаныя ў 1487 г. дзякам Сенкам па заказе гаспадарскага маршалка Солтана Аляксандравіча (маршалак, намеснік слонімскі і наваградскі, памёр каля 1490 г.)[33]. Магчыма, што гэтыя кнігі ўжо пісаліся ў Шышкінях, як і Мінея службовая, перапісаная ў 1488 г. пісарам Занкам родам з Турава[34]. У 1496 г. невядомы перапісчык спісаў для яго Пралог[35]. Існуе дакумент — спіс кніг Солтана Аляксандравіча, «што у Вильни были при нем»[36]. Магчыма, што большая частка з іх спісана ў скрыпторыі Солтанаў. У 1537 г. два перапісчыкі перапісалі для яго сына Аляксандра Солтанавіча «Службу святым Барысу і Глебу» з парэміямі і «Службоўнік». У 1545 г. у Шышкінях дзяк Міхайла перапісаў для яго «Багародзічнік» (пазней кнігі 1537 і 1545 гг. былі пераплеценыя разам)[37]. Адзін з багацейшых родаў Вялікага Княства — Радзівілы таксама мелі сваю канцылярыю са штатам канцылярыстаў-кнігапісцаў; першы ўпамянёны з іх — Васка — вядомы як перапісчык (а магчыма, і складальнік) зборніка з трактатамі па логіцы.

Сярэднявечны вобраз свету і абумоўленыя ім універсаліі культуры пачынаюць разбурацца пры канцы XV ст. Гэты працэс працягваецца ў XVI і XVII стст., калі набывае пэўныя абрысы новая карціна свету. Калі для сярэднявечнага чалавека навука азначала перш за ўсё асэнсаванне таго, што дадзена яму ў аўтарытэтных крыніцах як ісціна, то пазней, у XVI—XVII стст., такі стан рэчаў змяняецца. Імкненне да пазнання прымушае чалавека звярнуцца да непасрэднай сутнасці рэчаў. Ён хоча — незалежна ад зададзеных узораў — убачыць усё на свае вочы, дайсці да ўсяго сваім розумам. Анталагічныя, касмаганічныя, натурфіласофскія і гнасеалагічныя праблемы шырока асвятляліся ў публіцыстычнай літаратуры другой паловы XVI—XVII стст. Спектр сацыяльных праблем, што знайшлі адлюстраванне ў публіцыстыцы, уключаў глыбокія праграмныя распрацоўкі маштабных грамадскіх пераўтварэнняў, базавыя прынцыпы рэформ дзяржаўных інстытутаў, удасканаленне вышэйшай улады, судовых органаў, фарміраванне прынцыпаў рэгулявання дачыненняў паміж станамі, а таксама нормы міжнародных і міждзяржаўных дачыненняў.

Найбольш папулярныя ў гэты перыяд аўтары — Валент Барташэўскі (17 розных выданняў), Якуб Альшэўскі (12), Мялет Сматрыцкі (12). Важнае месца працягвае займаць зборнік. Чалавек, які бачыць у кнізе ўсеагульную і універсальную «веду», зразумеўшы, што Святое Пісьмо не заключае яе ўсю, часта збірае ўсё астатняе, чаго няма ў Біблії, у асобную, «сваю» кнігу. Там поруч аказваюцца бытавыя (сямейныя) звесткі, інфармацыя са старажытнай гісторыі, літаратурныя творы, юрыдычныя дакументы, палемічныя пісанні. Так, з 15 спісаў летапісца ВКЛ толькі адзін (Слуцкі) уяўляе асобную «гістарычную» кнігу, астатнія 14 — часткі зборнікаў[38]. Загадкай застаецца, чаму ні адна з друкарняў не надрукавала падобны зборнік для хатняга чытання.

Каб дакладна паказаць колькасць майстэрняў пісьма і іх лакалізацыю ў ВКЛ, патрэбна адмысловае даследаванне. Аднак матэрыялу для азначэння некаторых з кніжных цэнтраў на землях ВКЛ як скрыпторыяў, што дзейнічалі на працягу акрэсленага перыяду, дастаткова. Кнігі перапісвалі асобныя «спісацелі» шмат у якіх гарадах і мястэчках і бадай ці не ў кожным манастыры, але скрыпторыем мы будзем лічыць майстэрню па вытворчасці рукапісных кніг, дзе работа выконваецца на заказ (на рынак). Хоць у буйных скрыпторыях існуе падзел працы, на кнігах па-ранейшаму з'яўляюцца прыпіскі кшталту: «Радуеться корьмчник в тишину праставь, а странный пришед в отчьствіе свое, а книжный съписател дошед книг конца сего», як у «Кнізе На-

→ *«Senator septem consularibus C. Marii aquilis signatus, in Aquila illustrissimi et excellentissimi domini d. Michaelis Casimiri Radziwiłł S.R.I. principis ... expressus, suaeq[ue] celsitudini primo palatinale solium inscendenti, ab Alexandro Pozniak notaride terrestri Vilnensi...». Вільня, 1666 г. Гравюра Конрада Гётке з выявай радзівілаўскага арла, гербавым знакам «тры трубы» на грудзях, які ўзнесены над сталіцай Вільняй, і рамантычным пейзажам з акведукам і возерам. На ніжнім полі этыкетка з шыфрам Імператарскай Публічнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургзе.*

[33] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 156, 161.
[34] РДАСА, ф.181, № 442.
[35] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 100.
[36] РИБ. Т. 20. СПб., 1903. С. 872.
[37] *Тихомиров М. Н.* Описание Тихомировского собрания рукописей. С. 19—20.
[38] Гл.: *Улащик Н. Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания.



*Запіс курса астраноміі і геаметрыі ў адным з калегіумаў ВКЛ. 1608 г. Табліца руху 8-й сферы на 1609 — 1644 гг. З бібліятэкі Нясвіжскага замка.*

вукаў Ісаака Сірына і авы Дарафея» з Супрасльскага манастыра (арк. 239)[39].

Пасля адкрыцця (у 1579 г.) Віленскага універсітэта ў рэпертуары тыражаваных кніг з'яўляюцца матэматычныя, фізічныя і іншыя прыродазнаўчыя выданні; як правіла, яны на манер рукапісаў энцыклапедычнага зместу мелі некалькі частак, прысвечаных розным сюжэтам. Вывучэнне прыпісак на 11 паасобніках чатырох кніг па фізіцы (віленскія выданні XVI—XVII стст. з польскіх збораў) дало магчымасць сцвярджаць, што гэтай літаратурай карысталіся галоўным чынам прафесары і вучні езуіцкіх школ, а захоўвалі манастырскія бібліятэкі розных ордэнаў на тэрыторыі ВКЛ і Польшчы[40]. У прыватнасці, паасобнікі працы Й. Рэйтэра «Iris seu colores...» (Вільня, 1647 г.) належалі бібліятэцы езуіцкага калегіума ў Нясвіжы і канвента кармелітаў у Клодаве. Твор Й. Младзяноўскага «Theoremata de oculo» (Wilno, 1641) быў уласнасцю Войцэха Рудаўскага, студэнта філасофіі і матэматыкі. Як вынікае з запісу, гэта быў дарунак О. Кругера, прафесара Віленскага калегіума. Кніга аўтарства Канстанцыя Віюка Каяловіча «Oculus ratione correctus...» (Вільня, 1648 г.) была ўласнасцю дамініканцаў у Ражане, другі яе паасобнік належаў бернардзінцам у Радаме.

Даследаванне шасці паасобнікаў (з польскіх збораў), выдадзеных у Вільні кнігаў па медыцыне паказала, што тры з іх не мелі прыпісак чытачоў-сучаснікаў, затое шматлікія глосы сустракаюцца на палях пяці выданняў (вывучана 15 захаваных паасобнікаў) па астраноміі. Вялікай папулярнасцю таксама карысталіся (і неаднаразова перавыдаваліся) эканамічная брашура Марціна Сміглецкага «O lichwie...» і любчанскае выданне «O obieraniu i cwiczeniu koni». Да арыгінальных старадрукаваных кніг-зборнікаў прыродазнаўчага складу можна залічыць працу ўраджэнца вёскі Магільна Пінскага павета Яна Пратасовіча «Inventores rerum... czyli co kto wynalazl» («Пералік рэчаў... альбо хто што вынайшаў»), што выдадзена ў Вільні ў 1608 г. У ёй змешчаны апісанні 174 вынаходак і 180 імёнаў людзей, спрычыненых да гэтых адкрыццяў.

Асобным відам кніжнасці былі рукапісы прыродазнаўчага зместу, спісаныя для патрэб студэнтаў (канспекты чытаных курсаў), а таксама рукапісы вучоных, не падрыхтаваныя да друку.

Да найбольш ранніх прыродазнаўчых рукапісаў, што выйшлі са сцен Віленскага універсітэта, належыць твор прафесара матэматыкі Андрэя Мілеўскага «Elementae disciplinarum mathematicarum» (1630), які змяшчае асноўныя звесткі па практычнай геаметрыі-геадэзіі, пачаткі астраноміі і метэаралогіі. Вялікі трохтамовы кампендыум «Księgi nauk matematycznych» напісаў у 1655—1659 гг. шляхціц Іосіф Нарановіч-Наронскі. Першы том прысвечаны выкладу арыфметыкі, другі — геаметрыі, трэці — асновам перспектывы і фартыфікацыі. У кнізе мелася, паводле слоў сучаснага даследчыка, усё неабходнае інжынеру таго часу[41]. Акрамя гэтага, пяру Наронскага належалі кніга-

[39] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... С. 85.

[40] *Topolska M. B.* Czytelnictwo książek wydanych na Litwie i Białorusi w XVI i pierwszej połowie XVII wieku (na podstawie prowiniencji starodruków z polskich i zagranicznych bibliotek naukowych). Cz. 2: Literatura świecka // PamBK. 1980. Z. 16. S. 257—259.

[41] *Naronowicz-Naroński J.* Budownictwo wojenne. Warszawa, 1957. S. VIII.



зборнік з перапісанымі і створанымі ім самім працамі па мастацтве артылерыі, будаўніцтву сядзіб, палацаў і замкаў, спіс сенатараў ВКЛ і каронных, зборнік прымавак[42]. Калі ў 1658 г. сойм вынес рашэнне аб выгнанні арыян з межаў Рэчы Паспалітай, Іосіф Нарановіч-Наронскі пераехаў з Вялікага Княства ў Прусію. Пасля яго смерці бібліятэка была прададзена, прычым некаторыя кнігі і рукапісы трапілі да губернатара Слуцкага і Капыльскага княства Казіміра Клакоцкага, вядомага кіраўніка работ па фартыфікацыі Слуцка.[43]

**Біблейскія і богаслужбовыя кнігі.** На тэрыторыі ВКЛ, дзяржавы поліканфесійнай, распаўсюджаны былі богаслужбовыя і чэцці кнігі хрысціян розных плыней, іудзеяў і мусульман. Спалучэнне полілінгвізму і поліканфесійнасці прывяло да таго, што рэпертуар богаслужбовых кніг у краіне быў вельмі разнастайны. Толькі у XVI — першай палове XVII ст. у Вялікім Княстве выдадзены каля 320 назваў твораў рэлігійнай літаратуры, прычым кірылічныя кнігі складалі каля 60%. Да гэтай лічбы можна яшчэ дадаць каля 150 назваў надрукаваных палемічных твораў[44]. Хоць розныя адгалінаванні хрысціянства вялі паміж сабой палеміку, але пры гэтым прадстаўнікі адной канфесіі маглі карыстацца тэкстамі Святога Пісьма, а часам і богаслужбовымі кнігамі, падрыхтаванымі прадстаўнікамі іншай канфесіі. Так, каталікі, заключыўшы унію з праваслаўнымі, фармальна прызналі ўвесь камплект праваслаўных кніг. Біблію ў перакладзе пратэстантаў вывучалі каталіцкія і праваслаўныя багасловы.

*Разгорт з каляндарнымі таблiцамі. Зборнік энцыклапедычнага зместу — прадукцыя скрыпторыя велікакняжацкай канцыляры. XVI ст. З бібліятэкі Жыровіцкага манастыра.*

[42] *Маркушевич А. И.* Новооткрытое произведение польской военно-технической литературы XVII в. // КИМ. 1968. Сб. 17. С. 215—224.
[43] *Buchwald-Pelcowa P.* Kazimierz Krzysztof Kłokocki i drukarnia w Słucku // ORP. 1967. T. 12. S. 165—166.
[44] *Topolska M. B.* Czytelnictwo książek wydanych na Litwie i Białorusi w XVI i pierwszej połowie XVII wieku (na podstawie prowiniencji starodruków z polskich i zagranicznych bibliotek naukowych). Cz. 1: Literatura religijna i polemiczna // PamBK. 1979. Z. 15. S. 207.



БИВЛИЯ РУСКА
выложена докторомъ
францискомъ скориною
изславнаго града по
лоцька, богу кчти и
людемъ посполитымъ
кдоброму научению

*Тытульны аркуш «Бібліі» Францыска Скарыны. Выданне гэтай кнігі не змагло б адбыцца без грашовай дапамогі віленскага месціча Багдана Онкава. Прага, 1517 г.*

Старабеларуская мова трапіла ў справаводства і богаслужэнне не толькі хрысціянскіх цэркваў, але і мусульманскай; з'явіліся пераклады на яе са старa- і новагабрэйскай моў.

У беларускіх мусульман склаўся свой арыгінальны камплект богаслужбовых кніг. Акрамя абавязковага Карана на арабскай мове ў яго ўваходзілі Тэджвід (выклад навукі чытання Карану), Тэфсір (Каран з падрадковым каментарам на беларускай мове), Кітаб (рукапісны зборнік разнастайных тэкстаў), Хамаіл (малітоўнік, зборнік замоў, лячэбнік), Ільміхал (зборнік рэлігійна-жыцейскіх правілаў, якія абавязковыя для мусульман).

У кніжнай культуры ВКЛ ад даўных часоў, прынамсі ад 14 ст., прысутнічае і грэчаскі складнік. Мітрапаліт Кіпрыян і грэкі з яго атачэння і сталі тымі, хто пазнаёміў мясцовых насельнікаў з грэцкай рукапіснай кнігай. У больш познія часы колькасць кантактаў павялічылася. Грэцкія кнігі сталі звычайнай з'явай не толькі сярод праваслаўных інтэлектуалаў, але знаходзіліся і ў вучоных каталікоў Вялікага Княства. Прынамсі каталог бібліятэкі Віленскага універсітэта сёння ўключае 32 грэцкія кнігі, выдадзеныя ў першай палове XVI ст. у Венецыі, Кёльне, Парыжы, Базэлі, Цюрыху і Халле, якія належалі бібліятэцы віленскага іезуіцкага навіцыяту, галоўнай бібліятэцы віленскай Акадэміі (Bibliotheka Magna), езуіцкім калегіумам у Полацку і Оршы. Няма сумнення, што колькасць грэчаскіх выданняў і рэгіён іх пашырэння былі шмат большыя.

Першым друкаром, які пачаў выкарыстоўваць грэцкія шрыфты, быў Іван Фёдараў. Прыехаўшы ў Львоў з беларускага Заблудава, ён адразу ж пачаў шукаць магчымасці арганізаваць друкарню. На той час у Львове існавала грэчаская калонія, Фёдараў спадзяваўся, што грэкі падтрымаюць яго і дапамогуць яго пачынанням. Да іх першых ён і звярнуўся: «и плакахся прегорькими слезами, еже не обретох милующего ниже помогающего; не точію же в руском народе, но ниже в греках милости обретох» (пасляслоўе да Апостала 1574 г.). Тым не менш друкаванне Апостала скончана ў 1574; у тым жа годзе выйшаў славянскі буквар.

Восенню 1576 года друкар перасяліўся ў Астрог дзеля ажыццяўлення новых планаў — выдання поўнай Бібліі. Галоўным рэдактарам стаў рэктар Астрожскай акадэміі Герасім Сматрыцкі. Друкаванне Бібліі скончана 12.8.1581 г. Заключны аркуш з датай 12.7.1580 г. у некаторых экземплярах прадстаўляе толькі адзін з варыянтаў, гэта бясспрэчна падцьвярджаецца тым, што ва ўсіх экземплярах Бібліі ў прадмове называецца як дата сканчэння работ 12.8.1581 г. Першым прыкладам грэчаскага друку ў выданнях Івана Фёдарава з'яўляецца заключная формула ў прадмове да Новага Запавету: Δοξα τω συνταξοντι απαντα ‖ αμην — Слава зрабіўшаму ўсё, амінь. Усяго толькі пяць слоў дробным грэчаскім шрыфтам, з такой жа колькасцю граматычных памылак у іх; аднак яны сведчаць аб тым, што працу па стварэнню грэчаскіх шрыфтоў астрожская друкарня праводзіла ад самага пачатку, адначасова з друкаваннем кірыліцай.

Ужывальную ў розных хрысціянскіх цэрквах ВКЛ кнігу досыць умоўна можна ўкласці ў традыцыйную схему, а менавіта: Святое Пісьмо, царкоўнае права, літургіка, царкоўная гісторыя, аскетычная тэалогія, гамілетыка і Miscellania, альбо «рознае».

Галоўнай часткай як друкаванага, так і рукапіснага рэпертуару ва ўсе часы існавання ВКЛ ёсць «кніга кнігаў» хрысціянскай цывілізацыі — Біблія. Першую на ўсходнеславянскіх землях спробу сабраць у адной кнізе ўсе часткі Бібліі зрабілі ў Ноўгарадзе Вялікім па замове архіепіскапа Генадзя ў канцы XV ст., а на пачатку XVI ст. поўны збор біблейскіх тэкстаў з'явіўся і ў Вялікім Княстве — гэтая праца звязана з віленскім мітрапаліцкім скрыпторыем і каліграфам Мацеем Дзесятым, пра што мы згадвалі ў першым раздзеле.

У сталіцы ВКЛ кнігадрукаванне пачалося выданнем «Апостала» Скарыны. Поўны біблейскі звод быў упершыню надрукаваны па-польску сацыніянамі ў Брэсце ў 1563 годзе. Яшчэ адну спробу новага перакладу Бібліі на польскую мову зрабіў Сымон Будны — плён яго працы пабачыў свет у 1572 г. у Нясвіжы і Лоску. У 1626 г. віленскі кальвінскі сінод прыняў рашэнне аб неабходнасці перавыдання «Бібліі версіі Брэсцкай, а не іншай, хіба толькі з неабходнымі папраўкамі». Пасля дамовы з кальвіністамі Каронінай Польшчы новае перавыданне вырашылі друкаваць у Гданьску. Пры гэтым тэкст «Малітвы караля Манасіі» быў перанесены да апокрыфаў, а «Песні трох младзенцаў», «Сусана» і інш., якія ў Брэсцкай Бібліі падаюцца асобна, злучаны разам, як «Дадаткі да Данііла». Шыкоўна надрукаваная Андрэем Гюнефельдам кніга ўвайшла ў гісторыю як «Гданьская Біблія 1632 г.». Лідэр пратэстантаў ВКЛ Крыштаф Радзівіл прысвяціў гэтае выданне — з надзеяй на талерантнасць — Уладзіславу IV на пачатку яго маястату. Палову тыражу Гданьскай Бібліі (300 паасобнікаў) атрымалі зборы Вялікага Княства Літоўскага. Рэшту — Малапольшча (200 паасобнікаў) і Вялікая Польшча (100 паасобнікаў)[45].

Некалькі спроб надрукаваць Біблію зрабілі праваслаўныя. Для атрымання выпраўленых і аўтарытэтных спісаў біблейскіх тэкстаў віленскі ваявода і гетман Рыгор Аляксандравіч Хадкевіч і земскі падскарбі Астафей Валовіч пасылалі ў 1561 г. у Маскву манаха Ісаію Камянчаніна з заданнем атрымаць для друку аўтарытэтныя тэксты, славянскую (Генадзеўскую) Біблію, «Жыціе» Антонія Пячэрскага і «Евангельскія гутаркі», незадоўга перад тым перакладзеныя з грэцкай мовы пад кіраўніцтвам Максіма Грэка. Сёння прынята лічыць, што асноўныя мэты паездкі Ісаіі былі палітычныя — перамовы аб недапушчэнні магчымай вайны паміж абедзвюма дзяржавамі, а размовы аб кнігах (адзінай сапраўды неабходнай у Вільні кнігай былі «Евангельскія гутаркі») — дыпламатычным прыкрыццём[46]. Місія Ісаіі за-


KNIGA
Nobaznistes
Krikscioniszkos/
Ant gárbos
Diewuy TRAYCEY Szwentoy
Wienatijam:
Ant wartoimá
Bázniciom̄s dides Kunigistes
Lietuwos iszduotá.
O dabar antra karta perdrukawota/
Supriedu / nekuriu giesmiu / Ewangeliu ant
pomiestkos Szwentuju Diewa / teypag
Supriedu nekuriu maldu.
KIEDAYNISE,
DRUKAWOIA, JOACHIMAS JURGIS
RHETAS, Meatu Poná, 1653.

*Кніга хрысціянскіх набажэнстваў... для карыстання цэрквам Вялікага Княства Літоўскага выдадзена, а цяпер другі раз перадрукавана з дадаткам некаторых песняў на памяць святых божых таксама з далучэннем некаторых малітваў. У Кейданах друкаваў Яўхім Юрый Ротэ, у год Гасподні 1653.*

[45] *Nowak Z.* Andrzej Hünefeld jako nakladca i drukarz Biblii Gdańskej z 1632 roku // L. G. I. za rok 1967. Gdańsk, 1968. S. 35–53.

[46] *Юзефович Л. А.* Миссия Исайи (1561 г.) и Остафий Волович // Советское славяноведение. 1975. № 2. С. 73–81.

*Прыпіска кінаварам па-славянску на паасобніку Брэсцкай Біблії 1563 г.: да загалоўка «Księgi sędziow» (Кнігі суддзяў) дададзена кірыліцай «І[зра]ілевых».*


List. 135.

Ksiegi Sedziow. іилевы

Argument.

PO śmierci Jozuego áż do czásow Saulá Krolá pierwszego rzecz pospolita Izráelska byłá przez niemáły czás spráwowána przez niektore męże / obráne nie z ktorego pewnego pokolenia ábo domu / ále dziś z iednego á iutro z drugiego. A tychci nie obierano pospolitym obyczáiem / ále byli pobudzáni y podáni od Bogá według iego vpodobánia / iáko baczył być rzecz potrzebna ku rządowi ludu onego. Ty przełożone ábo spráwce zwano Sędźmi / ábowiem byli postánowieni ku czynieniu Sądu y roskazánia Páńskiego / ktory ie dla thego obdárzał duchem swoim / duchem mądrości y mocy. Był thez vrząd ich spráwowáć lud w kárności podług zakonu / záchowywáiąc gi w prawdźiwey wierze / y w prawdźiwey chwale Bożey / bronić go od nieprzyiacioł / czyniąc káżdemu spráwiedliwość według tego iáko w zakonie iest nápisano.

кончылася няўдала; у гісторыю ён увайшоў не як дыпламат, а як пісьменнік[47]. Агульная ваЖ для ўсяго арэала Slavia orthodoxa задача выдання кніг Біблії была вырашана крыху пазней, пасля пераезду ў Вялікае Княства маскоўскіх першадрукароў[48]. У Вялікім Княстве Літоўскім Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец працавалі не толькі над друкаваннем, але і рабілі тэксталагічную падрыхтоўку біблейскіх тэкстаў, прынамсі рыхтуючы выданні Евангелля і Апостала. Пасля сустрэчы з імі Сымон Будны пісаў, што яны «jako mi sami powiedali, z starych ksiąg naprawili»[49], г. зн. правілі тэксты па старых (верагодна, рукапісных) кнігах. Гэты ўспамін перакладчыка Біблії на польскую мову сведчыць і пра цесныя асабістыя кантакты кніжнікаў розных канфесій. Вяршыняй выдавецкай дзейнасці Івана Фёдарава стала надрукаваная ў 1580–1581 гг. у Астрогу Біблія. Да гэтага часу Валынь з Астрогам стала часткай Кароны Польскай, аднак традыцыйныя сувязі з праваслаўнымі ВКЛ не толькі захаваліся, але і набывалі новае вымярэнне. А развіццё навукі ў Астрожскай акадэміі ў будучым было крыніцай ведаў і для Вільні, і для Львова[50]. Рыхтуючы астрожскае выданне, Іван Фёдараў акрамя галоўных крыніц — Генадзеўскага 1499 г. спісу Біблії, перакладаў Францыска Скарыны, Мацея Дзесятага і дыякана Фёдара — выкарыстоўваў таксама Брэсцкую (Радзівілаўскую) Біблію 1563 г. і іншыя выданні Брэсцкай друкарні.

Кніжная традыцыя працягвала развівацца ў накірунку пашырэння рэпертуару і стварэння новых цэнтраў перапіскі, спецыфічнай

[47] *Абрамович Д. И.* К литературной деятельности мниха Камянчанина Исаии. [СПб.], 1913.

[48] У гістарыяграфіі існуюць розныя думкі аб прычынах «выхаду» маскоўскіх першадрукароў у ВКЛ. Акадэмік А. Панчанка піша: «Механічнае тыражаванне ісцін засмучала рускі розум... Патрэбны быў час, каб чалавек змірыўся з гэтай навацыяй...» (*Панченко А. М.* Русская культура в канун петровских реформ // Из истории русской культуры. Т. 3. М., 2000. С. 12; параўн.: *Сапунов Б. В.* К вопросу о прекращении деятельности первых типографий в Москве // ТОДРЛ. 1956. Т. 12).

[49] *Голенченко Г. Я.* Русские первопечатники и Симон Будный // КИМ. 1965. Сб. 10. С. 146–161.

[50] *Мицько І. З.* Острозька слов'яно-греко-латинська академія (1576–1636). Київ, 1990.


Wtore Księgi Kroniki. List. 247.
Beniáminie/ y obliczył ie poczawszy od dwudźiestthego roku y dáley/ á náláżło śie miedzy nimi mężow ná wybor gotowych ku boiowi trzy kroć sto tysiecy z drzewcy y z tarczami.
6. Ktemu z Izráelá przyiął zá pieniądze sto thysiecy ludu rycerskiego zá
mu powiedźiał/ Izali ćie obrano pánem rádnym Krolowym? Przestań że by ćie snadź nie zábito: A ták go zániechał prorok mowiac/ Juž znam że Bog vmyślił izby ćie zátráćił/ gdyżeś to vczynił niechcac słucháć rády moiey.
Joás Krol Izráelski.

*Брэсцкая Біблія 1563 г. Аркуш 247. «Другая кніга Хронік», якая ў візантыйскай традыцыі называецца Параліпаменон, аб чым і зроблены запіс кінаварам кірылічнымі літарамі.*

асаблівасцю гэтага перыяду можна назваць рукапісныя копіі з друкаваных кніг. Часам гэта былі копіі, якія імкнуліся паўтарыць арыгінал абсалютна дакладна, аж да капіравання арнаментаў гравіраваных заставак і гравюр-ілюстрацый. Але адзначаны і іншыя варыянты. Так, у канцы XVI і пачатку XVII ст. для богаслужбовага ўжытку досыць часта капіравалі біблейскія кнігі скарынінскага друку. Аднак выданне ў восьмую долю аркуша не падыходзіла для патрэб богаслужэння, таму перапісчыкі імкнуліся надаць кнігам традыцыйную, кансерватыўную форму — вялікі (у аркуш) фармат, стараславянскую графіку і арфаграфію. Кошт рукапіснага паасобніка быў меншы, чым друкаванага.

У фондзе РНБ захоўваецца паасобнік Брэсцкай Біблії са шматлікімі прыпіскамі почыркам XVI ст. Па сутнасці, прыпіскі ўяўляюць сабой паказальнік, які рабіў магчымым дапасаванне гэтага паасобніка для праваслаўнага богаслужэння. У бібліятэцы Кубліцкіх на Палессі знаходзілася яшчэ адна падобная кніга — Новы Запавет, выдадзены сацыніянамі ў Ракаве ў 1620 г., у якім раздзелы па-славянску падзелены на зачалы; у тым жа паасобніку знаходзіўся пісаны па-славянску каляндар[51]. Некаторыя з паасобнікаў Астрожскай Біблії адразу ж пасля выдання сталі прадметам працы кніжнікаў ВКЛ, «кніжнага спраўлення». Рабілася філалагічная праўка, накіраваная на замену славянскіх архаізмаў словамі жывой мовы, допісы з палемікай супраць іншаверцаў[52].

Выданне Астрожскай Біблії стала значнай падзеяй у біблеістыцы, гісторыі кніжнай культуры і выдавецкай справе, але не прынесла, па ўсёй верагоднасці, камерцыйнага поспеху. У 1590-я гг. віленскі выдавец Кузьма Мамоніч купіў значную частку нераспрададзенага тыражу Астрожскай Біблії, у тым ліку вялікую колькасць недадрукаваных паасобнікаў. Адсутныя лісты былі дадрукаваны спецыяльна адлітым па заказе Мамонічаў шрыфтам; у бібліяграфіі яны атрымалі назву «віленскіх»[53].

Рымска-каталіцкая поўная Біблія ў Вялікім Княстве Літоўскім не выдавалася[54]. Здаецца, што прычынай гэтага была перыферыйнасць ВКЛ у каталіцкім свеце. І ў кароннай Польшчы справа выглядала не лепш. Асноўныя клопаты тэолагаў з Кракава былі скіраваны на падрыхтоўку і выданне толькі Новага Запавету (друкарня Марка Шарфэнбергера) — упершыню ў 1556 г., а потым перавыданні 1561 г. з прысвячэннем Жыгімонту Аўгусту, 1575 г. — Генрыху Валуа, 1577 г. — Стэфану Баторыю, прычым тэкст перакладу кожны раз змяняўся[55].

[51] *Jocher.* Obraz bibliograficzno-historyczny literatury i nauk... po rok 1830 włączne. Wilno, 1840. T. 2. S. 16.

[52] Выдатным узорам працы кніжнікаў ВКЛ XVI ст. з'яўляюцца прыпіскі на паасобніку Астрожскай Біблії, які пазней належаў Савацієву манастыру (12 вёрст ад Цверы). Сотні глосаў рукі двух аўтараў паказваюць на знаёмства апошніх з асаблівасцямі веравучэння каталікоў, лютэран і кальвіністаў, добрае веданне гістарычных твораў, уважлівае стаўленне да мовы, у тым ліку праз выпраўленне памылак друку (*Пихоя Р. Г.* Приписки конца XVI в. на листах Острожской Библии из собрания Уральского государственного университета // Федоровские чтения 1982: Сборник научных трудов. М., 1987. С. 21—33).

[53] Кніга Беларусі 1517—1917. С. 71.

[54] Адзінае вядомае нам выключэнне — вершаваны пераказ Старога і Новага Запаветаў, надрукаваны ў 1769 г. у Нясвіжы.

[55] *Fr. S.* Wiadomość o przekładach Biblii w języku polskim // Czasopismo księgozbioru publicznego imienia Ossolińskich. 1828. Z. 4. S. 36—60.



*Нясуць скінію, а Давыд скача. Мініяцюра-ілюстрацыя да тлумачальнага Псалтыра. Вільня, XVI ст.*

Найбольш колькаснай групай сярод захаваных рукапісных і друкаваных кніг па-ранейшаму з'яўляюцца літургічныя, альбо богаслужбовыя. Пасля прыняцця Брэсцкай уніі новыя каталікі — уніяты — карысталіся для набажэнства сваімі традыцыйнымі (візантыйска-праваслаўнымі) кнігамі. У ВКЛ не было строгай і да канца рэгламентаванай сістэмы відаў богаслужбовых кніг, што даследчыкі звязваюць з меншай (у параўнанні з праваслаўнай Масквой) рэгламентацыяй царкоўнага жыцця. Асабліва гэта заўважна на кнігах для прыватнага богаслужэння і хатняй малітвы, якія, у іх першых выданнях, можна разглядаць як богаслужбовыя зборнікі. «У назвах адчуваецца некатарая няпэўнасць, таму што выдаўцы часта тлумачаць назву кнігі, раскрываючы яе змест. Так, напрыклад, назва віленскага следаванага Псалтыра — Паўустаў — тлумачыцца словам «Трэбнік» (на Маскве «Трэбнікам» называлі толькі тыя кнігі, якія змяшчалі трэбы, г. зн. чыны асвячэння вады, вянчання, спавядання і г. д.). У прадмове да віленскага 1622 г. Паўустава даецца абгрунтаванне такой назвы праз тое, што ў ёй ёсць выбарка найпатрэбнейшых царкоўных спраў з поўнага зводу гэтых спраў — Устава»[56]. Тое ж можна сказаць пра Часлоў (Часасловец, Часоўнік), Трыфалагіён (Анфалагіён), Актоіх (Асьмагласнік) і інш. Пратэстанцкія канфесіі карысталіся асобнымі тыпамі богаслужбовых кніг, якія склаліся, як і каталіцкія, у Заходняй Еўропе. Істотнай з'явай у кнігавыдавецкай гісторыі ВКЛ стала выданне перакладу Пятра Сестранцэвіча «Навукі аб святых сакрамэнтах Новага Запавету» Жана Кальвіна (кавалак з яго кнігі «Інструкцыі хрысціянскага набажэнства») у любчанскай друкарні Пятра Бластуса Кміты ў 1623 г.


Починають сѧ песни давыда пророка царѧ Израилева кафисма а
Псаломъ двдвъ а
Блаженъ мужъ иже не иде на совѣтъ нечестивыхъ, и на пути грешныхъ не ста, и на седалищи губитель не седе. Но въ законѣ Гдни воля его, и въ законѣ его поучитсѧ день и нощь. И будеть ѧко древо сажденно при исходищихъ водъ, иже плодъ свой да...

У дадзены перыяд па-ранейшаму найбольш папулярнай кнігай Старога Запавету быў Псалтыр. Структуру Псалтыра добра прэзентуе тытульны аркуш аднаго з віленскіх выданняў (Брацкая друкарня, 1630 г.): *«Псалтыр блаженнаго пророка и царя Давыда со молитвами по каждой кафисме, песнми Моисеовыми и величаніем на праздники господскія и святых божіих»*. Кафізма (ад грэцкага «сядзець») — гэта састаўная частка Псалтыра, некалькі псальмоў, што чытаюцца за адзін раз; у шэрагу выпадкаў пасля кафізмы змяшчаюцца спецыяльныя дадатковыя гімны («седальны»). Кожная кафізма ў сваю чаргу падзяляецца на тры «славы». У Вялікім Княстве Літоўскім былі распаўсюджаны тры віды Псалтыроў славянскай традыцыі: просты, следаваны і тлумачальны.

Просты Псалтыр у самым кароткім варыянце складаўся з наступных частак: 1) уласна Псалтыр, 20 кафізмаў; 2) біблейскія песні (8 старазапаветных і 1 новазапаветная); 3) «Псальмы выбраныя» — выбаркі з псальмоў для службы на святы, з «велічаннямі». Вельмі часта далучаліся памінальныя службы, асобныя каноны, статутныя палажэнні, пасхальныя табліцы.

*Застаўка-дрэварыт нямецкай работы для першага друкаванага беларускага Псалтыра. Францыск Скарына, Прага, 1517 г.*

→
*Дзесятаглаў. Пачатак Псалтыра. Разгорт з адзінай ў кнізе мініяцюрай. Вільня — Супрасль, 1502—1507 гг.*

[56] *Вознесенский А. В.* Служебная Псалтирь в восточнославянском книгопечатании XVI—XVIII вв. // ТОДРЛ. 1997. Т. 50. С. 215—219.

*«Давыд грае, пісцы пішуць, а народ трубіць» – група музыкаў на мініяцюры віленскага тлумачальнага Псалтыра мае блізкае іканаграфічнае падабенства да групы музыкаў на сярэдняй частцы мініяцюры з Дзесятаглава Мацея Іаанавіча (гл. С. 118), якая датуецца 1502–1507 гг.*



Следаваны Псалтыр — гэта просты Псалтыр, да якога дададзены Часаслоў, г. зн. паслядоўнасць дзённых службаў. У следаваны Псалтыр можа ўваходзіць да 50 асобных частак. Гэта універсальная богаслужбовая кніга.

У тлумачальным Псалтыры для лепшага разумення тэксту да псальмоў прыдадзены тлумачэнні Айцоў Царквы.

На думку Яўхіма Карскага, Псалтыр стаў адной з першых кніг, у тэксце якой адбіліся асаблівасці старабеларускай мовы. Як прыклад ён называе тлумачальны Псалтыр з Супрасльскага манастыра (зараз у БАНЛ, F19-49), Псалтыр Румянцаўскага музея (зараз у АР РДБ, Рум. 335 і Рум. 1017). У далейшым беларускія моўныя асаблівасці адлюстравалі таксама друкаваныя Псалтыры Скарыны, Мамонічаў, Еўеўскай друкарні і шматлікія спісы з іх[57]. Выразным прыкладам з'яўляецца рукапісны спіс 1543 г. з Псалтыра Ф. Скарыны, дзе захавана прыпіска перапісчыка: «Под лето Божого нароженя 1543 року индикта 1 августа 8 докончана ес сіа псалтырь з росказаня его млсти велможного пана Ивана Михаиловича старосты пинского, и кобрынского клецкого, городецкого, рогачевского, державцы быховского и селецкого. Писал Парфен»[58].

У Псалтыры пераважаюць вершы, якія выказваюць эмацыянальны стан стваральніка. Тут мала канкрэтных вобразаў і сюжэтаў, і з-за гэтага, здавалася б, кнігу цяжка ілюстраваць. Аднак Псалтыр належыць да тых кніг, якія мастакі імкнуліся ўпрыгожыць як найлепш. Шэдэўрамі мастацтва кнігі з'яўляюцца Кіеўскі і Мсціслаўскі Псалтыры (пра іх ужо была гаворка ў папярэднім раздзеле). Найбольш багата аздобленая частка Дзесятаглава (Супрасльскі зборнік) з адзінай у кнізе шматфігурнай мініяцюрай, шматколерным пісьмом і багатымі ініцыяламі — гэта Псалтыр.

Паралельна з працай Мацея Дзесятага над зборнікам біблейскіх кніг у мітрапаліцкім скрыпторыі ВКЛ працавалі над ілюмінаваным спісам тлумачальнага Псалтыра. Кодэкс гэты, у адмысловым пераплёце віленскай работы, да сёння захаваўся ў зборах РНБ у Санкт-Пецярбурзе[59]. Асаблівасцю яго з'яўляюцца мініяцюры-ілюстрацыі (большасцю двухчасткавыя) са сцэнамі біблейскай гісторыі часоў цара Давыда. Блізкае кампазіцыйнае падабенства мініяцюр дазваляе меркаваць, што ў іх стварэнні браў удзел адзін і той жа майстар-мініяцюрыст.

Колькасць выданняў і перавыданняў друкаваных кірылічных Псалтыроў можна падлічыць толькі прыблізна, ад накладу часта засталіся лічаныя паасобнікі, а то і унікаты:

1. 1522, Вільня. Друкарня Францыска Скарыны: «Малая падарожная кніжка» Скарыны — гэта па складу свайму следаваны Псалтыр. Вядома 9 захаваных паасобнікаў.

2. 1576, 16. I, Вільня. Друкар Пётр Мсціславец у доме Кузьмы і Лукаша Мамонічаў. Кніга выйшла па загаду скарбнага ВКЛ Зяновія Зарэцкага. Друк у дзве фарбы, вялікія ініцыялы. Бібліяграфія ўлічвае 26 захаваных паасобнікаў.

3. 1586, 10. II, Вільня. Друкарня Мамонічаў. «Выдрукована... працою и пилностью и всеми выдатки Лукаша Ивановича Мамонича, скарбного короля его милости Великого Князства Литовского и Козьмы Мамонича, бурмистра виленьского». Бібліяграфія ўлічвае 7 захаваных паасобнікаў.

4. 1592, 8. I, Вільня. «Выдрукована в Великом князстве Литовском в столечном граде Вилни... под дозором и звирхним паном друкарни... пана Лва Сапеги канцлеря Великого Князства Литовского... А промыслом, проторы труды и тщанием скарбного короля его милости пана Лукаша Ивановича Мамонича и брата его Козмы, бурмистра виленского...». Бібліяграфіяй улічаны толькі адзін захаваны паасобнік (РНБ, Санкт-Пецярбург).

5. 1591—1592, Вільня. Друкарня Мамонічаў. Бібліяграфія ўлічвае 5 захаваных паасобнікаў. Усе яны пашкоджаны і не маюць выхадных звестак.

6. 1593, 30. XI, Вільня. Друкарня Мамонічаў. З прысвячэннем Луку Мамонічу, што падпісаў Лявон Мамоніч, на адгорце тытульнага аркуша змешчаны герб Мамонічаў. Бібліяграфія ўлічвае 8 захаваных паасобнікаў.

7. 1595, 26. IX, Вільня. Брацкая друкарня. Тытульны аркуш не захаваўся. У выхадных звестках у канцы кнігі яна названа «Псаломніца» і пад такой назвай улічана бібліяграфіяй. Ёсць звесткі пра 5 захаваных паасобнікаў.

[57] *Карский Е. Ф.* Западнорусские переводы Псалтыри в XV—XVII веках. С. 22—31.

[58] *Барсов Е. В.* Описание некоторых южнорусских и западнорусских рукописей, находящихся в рукописном собрании Е. В. Барсова // ЧОИДР. 1884. Кн. 2. С. 1 2-й паг.

[59] У Імператарскую Публічную бібліятэку кніга паступіла са збору Ф. Буслаева ў 1911 г., зараз мае шыфр F.I.738.

*Віленскі тлумачальны Псалтыр XVI ст. У верхняй частцы мініяцюры паказаны музыканты са смычковымі і шчыпковымі інструментамі, а таксама з трубамі (РНБ. F.I.738).*





*Дзесятаглаў (Супрасльскі зборнік з перакладам кніг Біблії). Пачатак прароцтва Іосії. Каліграфія Мацея Дзесятага. 1502—1507 гг.*

8. 1594—1595, Вільня. Друкарня Мамонічаў. Бібліяграфіяй улічана 7 захаваных паасобнікаў.

9. 1596, 23. VI, Вільня. Псалтыр (без тытула). Брацкая друкарня. З трох вядомых паасобнікаў ні адзін не захаваў тытульнага аркуша.

10. 1600, Вільня. Друкарня Мамонічаў. Дакладны паўтор выдання 1576 г. Адрозніваецца чорнымі кропкамі, якія ў выданні 1576 г. надрукаваны чырвонай фарбай. Адсюль умоўная назва гэтага — выдання «Псалтыр з чорнымі кропкамі». Бібліяграфіяй улічана 6 захаваных паасобнікаў.

11. 1623, Вільня. Брацкая друкарня. Бібліяграфіяй улічана 5 захаваных паасобнікаў.

12. 1627, Вільня. Брацкая друкарня. Бібліяграфіяй улічаны 2 захаваныя паасобнікі, абодва ў Маскве (РДзГМ, РДБ).

13. 1629, Вільня. Брацкая друкарня. Бібліяграфіяй улічаны 2 захаваныя паасобнікі. У гэтым жа годзе друкарня выпусціла Псалтыр з Часасловам. Вядомы толькі 2 паасобнікі гэтага выдання — у Санкт-Пецярбурзе і універсітэцкай бібліятэцы ў Упсале.

14. 1630, Вільня. Брацкая друкарня. Бібліяграфіяй улічаны 3 захаваныя паасобнікі.

15. 1635, Буйнічы. Друкарня Спірыдона Собаля. 8°. На тытульным аркушы пазначана, што кніга выходзіць «в новозаложеном месте Буйничах в маетности его милости пана Богдана Стеткевича, подкоморего Мстиславского...». Бібліяграфіяй улічаны 1 захаваны паасобнік (Масква, РДзГМ).

16. 1637, Магілёў. Друкар Спірыдон Собаль. 4°. («В Могилеве з друка Спиридона Соболя... рукодан. Року 1637»). На тытульным аркушы пазначана, што кніга выдадзена «благословением... повелением и иждивением Петра Могилы, милостию божею архиепископа митрополита киевскаго галицкаго и всея России, экзархи святейшаго апостолскаго фрону константинополскаго...». Бібліяграфіяй улічаны 2 захаваныя паасобнікі (РНБ, Санкт-Пецярбург і РДБ, Масква).

17. 1638, Еўе. Друкарня брацтва. У гэтым выданні першы верш кожнага псальма надрукаваны па-славянску, а далей гатычным шрыфтам по-польску. Вядомы 4 захаваныя паасобнікі.

18. Каля 1637—1638 гг., Магілёў. Спірыдон Собаль. Блізкае падабенства да магілёўскага выдання 1637 г. Адзіны захаваны паасобнік у РНБ, Санкт-Пецярбург.

19. 1642, Еўе, працай манахаў манастыра Сашэсця Святога Духа. 3 захаваныя паасобнікі.

20. 1642, Куцейна (РНБ, Упсала).

21. Каля 1650 г., Куцейна. Унікат у Маскве (РДБ).

Далей наступае доўгі перапынак да 1693 г., калі «Псалтыр» Максіма Вошчанкі выйшаў у Магілёўскай брацкай друкарні (перавыдадзены тамсама ў 1704 г.).

Аналіз гэтага спіса паказвае, што Псалтыр як тып выдання даволі варыятыўны — кніга можа мець фармат ад вельмі вялікага (folio, 2°) да маленькага (octavo, 8°). Акрамя традыцыйнай гравюры з выявай цара Давыда (часам з ільвом) упрыгажэннямі могуць быць гравюры з Тройцай, Спасам, шляхецкім гербам.

Псалтыр у Slavia orthodoxa традыцыйна быў галоўнай кнігай для навучання. Гэта пацвярджаецца шматлікімі прыпіскамі (кшталту: «учебная дьячка Фёдора Родионова» на выданні 1600 г.) і каліграфічнымі практыкаваннямі на палях і свабодных старонках. Большасць захаваных паасобнікаў з гэтай прычыны вельмі «зачытаныя» і знаходзяцца ў кепскім стане. Пратэстанцкія выданні Псалтыра на польскай мове выйшлі ў 1564 г. у Брэсце (з прысвячэннем М. Радзівіла каралеве Ганне Ягелонцы) і ў Любчы ў 1614 г. у вершаваным выкладзе Саламона Рысінскага.

Сярод старазапаветных тэкстаў у другой палове XVI ст. пашырыліся Кнігі Пракокаў з тлумачэннямі. У працэсе іх перапісвання паралельна ішла інтэнсіўная праца над перакладам і рэдагаванне, пра што сведчыць, у прыватнасці, прыпіска на старонках з тэкстам Іярэміі-прарока ў «Кнізе прарокаў» з Віцебскага Маркава манастыра: «Сіе приложено есть от некіих преводников дабы зходилась последняя речь с перьвою, а в еврейских книгах того не обретается»[60]. Далей у гэтай жа кнізе на палях, насупраць тэкста Данііла-прарока: «Того еже нижеи положено в еврейских книгах Данііла пророка еже писаны суть в них халдейским языком не обрящете, даже дотоле: Тогда с страхом подивися. Пісанож есть сіе в книгах греческих і латинских... Даже дозде в еврейских книгах не писано, а се еже положено есть вышей с Федоси переводу греческаго»[61].

[60] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 47.
[61] Тамсама.



*Лемяшэвіцкае Евангелле XVI ст. Асаблівасці аздобы паказваюць на скрыпторый пінскага Ляшчынскага манастыра.*



*Прыпіска дзяка Міхаіла Аляксандравіча, які спісаў Евангелле па даручэнні і за грошы святара Казьмы Васілевіча Жабы, пры дзяржаве караля польскага, вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста Жыгімонтавіча.*

«Кнігі пракокаў» — зборнік досыць аб'ёмны: перапісаны ў сшытках памерам in quarto, ён займае 495 аркушаў, а памерам in folio — 388 аркушаў. З друкаваных да гэтага тыпу кніг можна залічыць «Кароткія сабраныя гісторыі з Новага і Старога Запаветаў» — зборнік тэкстаў, што выдалі ў Віленскай друкарні ксяндзы-піяры ў 1762 г.

Да сёння не існуе поўнага бібліяграфічнага спіса створаных у ВКЛ рукапісных Евангелляў. Паводле нашых падлікаў, іх захавалася менш за сотню[62], у XVI—XVII стст. гэта пераважна тэтры (Чатырох'евангеллі). Склад гэтых кніг досыць традыцыйны: прадмова Феафілакта Балгарскага, чатыры Евангеллі і паказальнік чытанняў. Што да аздобы, то ў гэты час дамінуюць два стылі — балканскі і рэнесансавы. Найбольш выразныя помнікі балканскага стылю (стыль вызначаецца найперш застаўкамі з плеценым арнаментам) — Евангелле полацкага архіепіскапа Нафанаіла і Шарашоўскае Евангелле. Рэнесансавы стыль, для якога характэрна «разрастанне» ўпрыгажэнняў, акаймаванне заставак і ініцыялаў намаляванымі на палях кнігі кветкамі, найбольш выразна выяўлены ў аздобе Ваўкавыскага і Сапегаўскага (Жыровіцкага) Евангелляў.

Акрамя новых (друкаваных і рукапісных) Евангелляў ва ўжыванні знаходзіліся і кнігі, створаныя яшчэ ў старажытнарускі перыяд. Яны з'яўляліся аўтарытэтнымі спісамі і выкарыстоўваліся не толькі для чытання і богаслужэння, але і для запісу юрыдычных дакументаў. Так, пад час судовай справы (за зямлю Федароўшчыну) святара віцебскай царквы Іаана Багаслова з удавой Натамілай Маркавай у 1546 г. у якасці аргумента фігуруе старажытнае Евангелле з укладным запісам княгіні Улляны Альгердаўны[63]. Укладныя запісы маюцца ў большасці захаваных Евангелляў старажытнарускага часу: Тураўскім,

[62] У Пецярбурзе спісы Евангелляў з ВКЛ знаходзяцца ў архіве Сінода (XV ст. з замкавай царквы Пятра і Паўла ў Полацку; пачатку XVII ст.; сярэдзіны XVI ст. з укладным запісам князя Канстанціна Астрожскага ў Дарагабуж; канца XVI ст., наданне віленскага райцы ў царкву Прачыстай Багародзіцы ў 1594 г.), у БАН (фрагмент Евангелля-апракаса XII ст. са збору Міхала Баброўскага, Чатырох'евангелле XVI ст., куплена ў 1594 г. у Тарапцы, у 1633 г. ахвяравана ў царкву Іллі ў Бялынічах; Чатырох'евангелле Дабрахотава 11.8.1.; Ляшчынскае XVI ст.), у Аддзеле рукапісаў РНБ (Полацкія Евангеллі Пог.12., Q.п.I.2, F.п.I.17; Галіцкае Евангелле 1266—1301 гг.; Евангеллі Нафанаіла, Лемяшэвіцкае, Галянішчы, Дзісенскае), у Пушкінскім доме (галіцка-валынскі апракас). У зборы Віленскай публічнай бібліятэкі знаходзіліся 8 пергаменных, 15 Евангелляў на паперы, створаных да XVII ст., а таксама 5 рукапісных Евангелляў XVII—XVIII стст. У маскоўскіх сховішчах Евангеллі з ВКЛ ёсць у РДзБ, ДзГМ, бібліятэцы Маскоўскага універсітэта, РДАСА.

[63] *Сапунов А.* Витебская старина. Т. 1. Витебск, 1888. С. 45 (№23).



*Евангелле XVI ст. з Брэсцкай царквы святога Міхаіла. Пачатак ад Іаана. Аддзел рэдкіх кніг бібліятэкі Томскага універсітэта, шыфр В-1235.*

→ *Евангелле тэтр полацкага архіепіскапа Нафанаіла. Пачатак Евангелля ад Матфея.*

Аршанскім, Лаўрышаўскім. Перапісаныя ў перыяд ВКЛ пергаменныя Евангеллі таксама праз пэўны час ператвараліся ў кнігі-архівы: прыпіскі з ахвяраваннямі маюць Менскі апракас XIV ст., Друцкае Евангелле XIV ст. і інш. Тым часам праваслаўныя (пазней уніяты) часта карысталіся царкоўнай кнігай і як юрыдычным дакументам. Ахвяраванні цэрквам і манастырам упісваліся ў найбольш каштоўныя і аўтарытэтныя Евангеллі — напрастольныя. Шмат новых запісаў, напрыклад, сустракаем у Лаўрышаўскім Евангеллі. З XVI ст. на палях з'яўляюцца іншыя (у параўнанні з больш ранні́мі) укладныя. Калі ў XIV–XV стст. уклады рабілі вышэйшыя асобы ў дзяржаве, то цяпер на пергаменных палях лаўрышаўскага кодэкса — дараванні манастыру вакольных жыхароў: «Пан Іван Аляксандравіч Стрэтовіч, падскарбі вялікага гаспадара, караля Казіміра запісаў на манастыр трыццаць коп жыта са свайго маёнтку Бярозаўца; Пан Воўчка Есковіч з братам сваім Грынем дае ў Лаўрышаў манастыр сваю ніву, а пры гэтым прысутнічае пан Воўчка Гаўсовіч; пан Іван Глебовіч дае поле ў Мілашэве святой Прачыстай у Лаўрышава, вечна і непарушна. А пры тым сведкі — паны Багдан Храбтовіч, Хведка Глебовіч, Воўчка Гаўсовіч, Андрушко Харытановіч», — такіх запісаў у Евангеллі каля дзесятка. У XV–XVI стст. праваслаўныя баяры і шляхта шчодра адорвалі заснаваны вялікім князем Войшалкам манастыр зямлёй і прадуктамі са сваіх палёў. Жыхар Наваградка Лук'ян Шуба з жонкай Васілісай і дзецьмі Пятром і Федкам запісаў на царкву Прачыстай Маці Божай у Лаўрышаўскім манастыры чалавека, на імя «Крэчю», з яго дзецьмі і зямлёй. Гэты акт здзяйснялі ў прысутнасці пана Васіля Пратасовіча і Афанаса-сотніка, а пісаў нікольскі поп Панкрат. Падобныя запісы ёсць у Полацкім Евангеллі XIV ст. з Іаана-Прадцечанскага на востраве манастыра[64] і ў іншых помніках.

Прыпіскі ўкладчыкаў пераважаюць над прыпіскамі кнігапісцаў. Фармуляр прыпісак змяняецца ў залежнасці ад часу і яшчэ чакае спецыяльнага даследавання. Вось прыклад прыпіскі XVI ст. (з Евангелля 1520 г.): «В лето 7028 индикта 8 написана бысть книга сіа, нарицаемаа еуангеліе, тетро, при великом короле Жикгимонте, і при епископе Іони владыце туровском и пинском и при князе Федори Ивановичи Ярославичя, повелением христолюбиваго мужа раба божіа Семиона Батыевичя Рака старца хвоеньскаго. И дано бысть в Нобли в храм святаго великаго и чудотворца архіерея христова Николы. А хто сіу книгу възмет от церкви святаго отца Николы иж в Нобли пинскаго повета, тот да будет проклят в сіи век и в будущіи. А писал дьяк многогрешныи раб божіи Савастіан Авраамович иж в Нобли. Доскончана бысть книга сіа месяца іуня, 1 день на памят святого мученика Иустина Философа и на мученика Устина»[65].

Захавалася багата кніг, пра месца спісвання якіх мы можам гаварыць толькі з некато-

[64] *Гранстрем Е. Э.* Описание русских и славянских пергаменных рукописей. С. 41–45.
[65] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... С. 47.

# Ѿ Матѳеа стое бл҃говѣствованїе

гла а҃

Книга родства Іс Хва, сна Двда, сна Авраамлѧ.
Авраамъ роди Исаака.
Исаакъ же роди Іакова.
Іаковъ же роди Іоуда
и братїю его. Іоуда же

не. пре рж҃тво Хвы. Стаі Ѿца

Лѣта ҂зѯв

*Пачатак прыпіскі, якая з'яўляецца аўтабіяграфічнай аповесцю кнігапісца Мацея Дзесятага і нават мае асобны загаловак: «О написавшемъ книги сія».*



О написавшемь книги сія

рай верагоднасцю. Да такіх належыць, напрыклад, Евангелле тэтр з дзвюма прыпіскамі полацкага архіепіскапа Нафанаіла — аб укладзе самога гэтага Евангелля і срэбнага келіха-паціра ў царкву Параскевы Пятніцы ў Полацку. Кніга гэтая мае незакончаную аздобу: ініцыялы прапісаны толькі кінаварным контурам, пакінута месца для мініяцюр і заставак (намалявана ўсяго адна першая заста́ўка пры Евангеллі ад Матфея). Мяркуючы па ўмелай разліноўцы паперы, дасканалым почырку перапісчыка, выдатна арганізаваным адсылачным і даведачным матэрыяле і іншых прыкметах, кнігу перапісвалі ў нейкім скрыпторыі (магчыма, віленскім мітрапаліцкім). Тут яе і прыдбаў полацкі архіепіскап і, не дачакаўшыся, пакуль скончаць аздобу, завёз у Полацк, каб зрабіць ўклад. Дата ўклада дакладна невядомая (прыпіскі не датаваныя), можна меркаваць, што гэта першая чвэрць XVI ст., калі Нафанаіл упамінаецца на полацкай кафедры[66]. Тое, што Полацк і сам здаўна быў кнігапісным цэнтрам, не дадае аргументаў на карысць мясцовага паходжання гэтага рукапісу, бо мясцовы архіепіскап напэўна б не пашкадаваў грошай (і часу), каб укласці кнігу з цалкам скончанай аздобай.

Вялікую каштоўнасць уяўляе прыпіска трэцяй асобы (не перапісчыка і не гаспадара кнігі) — духоўніка слуцкага князя Юрыя Юр'евіча Алелькавіча папа Мілахвея, у якой ён засведчыў уласнаручную працу князя па перапісцы Евагелля: «Не чудися благоразсудителное чытателъю сие светое Евангелии которое сам светое памети Юры Юревич Олелъко Княжа благочестивое Слуцкое року 1585 сам своею рукою власною переписав что починает золотом, а далее простым чернилом и миниею, бо тое учинилось не от скупости, але от ревности великой ко благочестию светому, дабы такое переписание скоро до скутку своего пришло, а знову утаеваючи працы свои и кошты пред человеки, тое тот князь учинив йак мысьмо часто там бывали и видили и слышыли, а найвенцей што уже и хороба приближалася, турбацыя Речи Посполитой укоротили жызнь тое княжати — умер, погребен в Слуцку в Соборней Успенья Пресвиатыя Бого-Матери церкви у правого крилоса положен. Свядчим многогрешный поп Мілахвей Светое Барборы в Слуцку церкви, княжети с. п. духовный отец»[67].



*Евангелле тэтр архіепіскапа Нафанаіла. Укладны запіс Нафанаіла на Евангелле і срэбны пацір у Пятніцкую царкву ў Полацку.*

Для ўзору прыпісак на Евангеллі, што датавана XVII ст., мы выбралі кодэкс, які паходзіць з калекцыі гродзенскага дамініканца Дамініка Сівіцкага (яго пячатка захавалася на арк. 5: «Dominicus Siwicki O. P. prov. litv. fr.»), а пасля скасавання дамініканскага манастыра быў вывезены ў Віленскую публічную бібліятэку, зараз мае шыфр БАНЛ,

[66] Макарий (*Булгаков М. П.*). История русской церкви. Кн. 5. М., 1996. С. 167.

[67] Цытата паводле запісу гісторыка Іосіфа Смалінскага, які трымаў арыгінал у 1904 г. у Слуцку (*Kałamajska-Saeed M.* Portrety i zabytki książat Olelkowiczów w Słucku. Inwentaryzacja Józefa Smolińskiego z 1904 r. Warszawa, 1996. S. 37).

F19-30. Усяго ў гэтай кнізе 194 аркушы, спісаныя ў два слупкі. Звычайны склад для Евангелля тэтр: Прадмова Феафілакта, епіскапа Охрыдскага, тэксты евангелістаў у традыцыйнай паслядоўнасці: Матфей — Марк — Лука — Іаан, ад аркуша 189 адв. перапісаны Саборнік. Дзве рукапісныя прыпіскі, у якіх сустракаюцца літары лацінскага і кірылічнага алфавітаў: адна памінальная, на адгорце 154-га аркуша: «В месте Инъдуры dnia 27 msca Juni anno 1655, помени Господи душу раба своего Стефана Буваевича, умарлаго в Минску»; другая прыпіска паведамляе аб назіранні гродзенскага пратапопа Яна Сашкі за незвычайнай з'явай у ваколіцах Горніцкай царквы — сучасныя уфолагі ведаюць падобныя ўражанні пры з'яўленні НЛА (неапазнанага лятаючага аб'екта): «Roku tysiąc sześćset piedziesiąt czwartego msca Awgusta dwunastego dnia według Rymskiego kalendarzu znak na niebie pokazał sie przez godzine szara, poswiata była rano o godzinie dziewiątey, miesiąc był y gwiazda służyła onemu zapewnie; za krola его милости Jana Kazimierza to było, a za dzierzawy jego msci pana Jana Miliasiewskiego maiętnosci у церкви Горницкое. Joan Szszka, protopopa Grodzienski, рукою своею».

Самае ранняе друкаванае Евангелле ў Вялікім Княстве «свершилося» 17 сакавіка 1569 г. — гэта Евангелле вучыцельнае[68], якое было надрукавана на сродкі найвышэйшага гетмана Рыгора Хадкевіча ў яго маёнтку Заблудаве Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам[69]. Яно мае вялікую прадмову, напісаную самім Хадкевічам. «Точию не буди ленив, но со всяким прилежанием читай, внимай, слушаи писанных и твори», — пісаў ён. Аўтарам Евангелля вучыцельнага традыцыя называе канстанцінопальскага патрыярха XIV ст. Каліста. Назву, як і змест кнігі, тлумачыць загаловак аднаго з рукапісных Евангелляў вучыцельных XVI ст.: «Повучэння ізбранна от святого Евангелія и от многих божественных писаній, глаголема от архирэя з уст во всякую неделю на поучение христоименитым людем альбо прочитаема такоже и на господские праздники»[70]. Такі тып Евангелля (часам яго называюць «нядзельнае Евангелле») быў папулярны ў ВКЛ, а ў Маскоўскай Русі пасля ніканаўскіх рэформ распаўсюджваўся галоўным чынам сярод старавераў (яны заказвалі гэтую кнігу ў Супрасльскай і Віленскай друкарнях у 1790 і 1794 гг.[71]); у Маскве яно ўпершыню выдадзена ў 1652 г., а пасля — толькі праз 200 гадоў. Наступнымі пасля заблудаўскага сталі віленскія выданні вучыцельнага Евангелля — Васіля Гарабурды каля 1580 г.[72] і два Мамонічаў 1595 г.[73] Пры друкаванні і Гарабурда, і Мамонічы арыентаваліся на выданне 1569 г. Яны капіравалі першавыданне ў шрыфтах, размяшчэнні тэксту, арнаментыцы. Гэтая акалічнасць зараз стварае вялікія цяжкасці пры атрыбуцыі дэфектных паасобнікаў[74].

Выдаючы каментар да Евангелля, праваслаўная царква ВКЛ уводзіла ў кола сваіх кніг аналогію пратэстанцкім і каталіцкім Пасцілам[75]. Некаторыя даследчыкі бачаць за гэтым фактам тэндэнцыю да схілення праваслаўя ў бок контррэфармацыі[76], але такое меркаванне пакуль не падмацавана дастатковымі аргументамі.

У 1616 г. адразу два выданні Евангелля вучыцельнага выйшлі з Еўеўскай брацкай друкарні. Першае мае вялікую прадмову, звернутую да крычаўскага старасты, пана Багдана Багданавіча Саламярэцкага. Аўтар прадмовы, Максенці (Мялет) Сматрыцкі, праслаўляе род Саламярэцкіх, а на заканчэнне піша: «Вучыцельнае Евангелле, або Казанні нядзельных і ўрачыстых свят евангелляў, з славенскай мовы працаю маею (за ласкаю і помачу божыяй) на мову рускую пераклад зе-

[68] Старадрукаваныя кірылічныя апракасы ў бібліяграфіі невядомыя.

[69] Кнігі Беларусі 1517—1917. № 6.

[70] Рукапіс гэты быў пакладзены ў царкве Спаса ў сяле Варанілавічах смаленскім ваяводам Васілём Тышкевічам (1569—1571) і яго жонкай Настасеяй (зараз захоўваецца ў РДАСА).

[71] *Вознесенский А. В.* Кириллические издания старообрядческих типографий конца XVIII — начала XIX века: Каталог. Л., 1991. № 125, 349.

[72] Кнігі Беларусі 1517—1917. № 11.

[73] Тамсама. № 30, 31.

[74] Параўнальны аналіз цалкам захаваных паасобнікаў і табліцы памылак друку гл.: *Мосин А. Г.* Определение кириллических изданий Евангелия Учительного XVI в. в полевых условиях: Методические рекомендации. Свердловск, 1990.

[75] Пасціла — значыць гутарка, казанне «post illa», г. зн. «пасля тых» (прачытаных пад час імшы) слоў Бібліі.

[76] *Błocska M., Bułgak H.* Na tropach książek cyrylickich wydawanych w państwie polsko-litewskim w XV—XVIII wieku: Próba charakterystyki // Najstarsze druki cerkiewnosłowiańskie. S. 181—187.



нае... вашай княжацкай міласці прыношу». У прадмове да другога еўеўскага выдання, якую падпісалі манахі брацкага манастыра і прысвяцілі княгіні Карэцкай (Ганне Хадкевіч), прычыны перакладу Евангелля вучыцельнага на рускую мову (фактычна на заходнярускую, альбо старабеларускую) тлумачацца больш падрабязна. Усяго ад 1569 да 1616 г. было выдадзена некалькі тысяч паасобнікаў гэтай кнігі[77]. Пасля гэтага — больш чым стосямідзесяцігадовы перапынак. Толькі ў канцы XVIII ст. (у Супраслі ў 1790 г. і ў Вільні ў 1794 г.) па заказах старавераў перавыдадзена маскоўскае (1652) вучыцельнае Евангелле.

Колькі б шмат ні выходзіла друкаваных вучыцельных Евангелляў, гэтую кнігу тыражавалі і кнігапісцы. Рукапісныя копіі часам маюць на сабе прыкметы інтэлектуальных шуканняў саміх «спісацеляў» і чытачоў. Так, на ўжо памянёным вучыцельным Евангеллі, што спісаў кнігапісец Іаан для смаленскага ваяводы Васіля Тышкевіча, знаходзіцца цікавая праўка, якая сведчыць аб жаданні наблізіць тэкст да гутарковай мовы свайго часу. Праўшчык перакладаў славянскія словы на мясцовы беларускі дыялект, выкарыстоўваючы кірыліцкі і лацінскі алфавіты альбо іх сумесь: спсніа (с. 67) — zbawienia; гдьствую[т] над німі (с. 70) — panuia nad nimi; Блгдтію і члколюбіем (с. 72 адв.) — Ласкою і члко Любіем; Прославіте (с. 84) — Выхвал я[і]те; Стенограді е (с. 85 адв.) — будоване.

Васіль Тышкевіч смаленскім ваяводам быў толькі тры гады, у 1569—1571 гг., потым памёр, пахаваны ў Супрасльскім манастыры. Магчыма, Іаан быў адным з супрасльскіх манахаў і спісаў на заказ смаленскага ваяводы толькі што выдадзеную ў суседнім Заблудаве кнігу? Яшчэ адзін спіс Евангелля вучыцель-

*Евангелле вучыцельнае. Разгорт з гербам Рыгора Аляксандравіча Хадкевіча і пачаткам Прадмовы. Заблудаў, 1569 г. Вандроўныя друкары Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец.*

*→ Разгорт з пачаткам Евангелля ад Марка. Друкар — еўеўскі ігумен Гаўрыіл Іаанавіч. Еўе, 1644 г.*

[77] *Topolska M. B.* Czytelnictwo książek wydanych na Litwie i Białorusi... Cz. 1. S. 221.



Нлⷣ, прⷣ Просвѣщенїемъ.

Маⷬ:

# Ѿ Марка Свѧтаго Бл҃говѣствованїе

## Глава первая.

Начало Євⷢ҇лїа* Ї҆с Хрⷭ҇та, Сн҃а Бж҃їа, ꙗкоже єсть писано въ Прорцѣхъ, Се азъ посылаю Аг҃гла моего прⷣ лицемъ твоимъ, иже оуготовитъ пѹть твой предъ тобою. Гласъ вопїющаго въ пѹстыни: оуготовайте пѹть Гдⷭ҇нь, правы творите стезѧ єго.

Зача: а.

па.

И в навечерїе Просвѣщенїѧ, и на Г мъ, Час.

Зачало Євⷢ҇лїа*

нага (з еўеўскага 1616 г. выдання) знаходзіўся ў Жыровіцкім манастыры і захаваўся (БАНЛ, F19-69) да сёння.

Традыцыйнае Евангелле тэтр (Чатырох'-евангелле) асобнымі выданнямі выходзіла досыць рэдка. Першая такая кніга была скончана Пятром Мсціслаўцам 30 сакавіка 1575 г. у доме Мамонічаў у Вільні[78]. У выдавецкім адрасе зафіксаваны факт чатырохмесячнага (ад лютага да чэрвеня 1574 г.) панавання караля і вялікага князя Генрыха Валуа. Ён ужо больш за паўгода жыве ў Францыі, але новы вялікі князь не абраны, і Мамонічы выдаюць кнігу «при деръжаве господаря нашего милостиваго Гендрика Божією милостію короля польскаго и великаго князя литовскаго и при преосвященном архіепископе нашем Ионе митрополите кіевском и галицком и всеа Русіи».

Пасля гэтага чвэрць стагоддзя (да 1600 г.) тэтры не друкаваліся — Евангелле Васіля Цяпінскага 1570-х гг.[79] было хутчэй выданнем дэкларатыўным, чым масава запатрабаваным. Тым часам друкаваных кніг не хапала, таму актыўна працягвалася перапісванне заказных паасобнікаў, пра што сведчаць, напрыклад, уклады Евангелля князем Васілём Канстанцінавічам Астрожскім і яго жонкай у 1581 г. у Дарагабужскую царкву і Евангелля, спісанага ў 1594 г. віленскім райцам Якавам Іванавічам у царкву Прачыстай Багародзіцы[80].

17 ліпеня 1600 г. Мамонічы завяршаюць новае Евангелле[81]. За выключэннем пасляслоўя, гэтая кніга цалкам з'яўляецца перадрукоўкай Евангелля 1575 г. — ёсць толькі невялікая розніца ў наборы асобных слоў і радкоў, упрыгажэнні ў параўнанні з арыгіналам перагравіраваны груба і спрошчана [82]. У канцы 1600 г. Мамонічы зрабілі яшчэ адно выданне Евангелля з нязначнымі адрозненнямі ў наборы[83]. Тыражы былі досыць вялікія, аб чым можна меркаваць па многіх паасобніках, якія дайшлі да нас (толькі ў Львове зараз захоўваецца 13 паасобнікаў). Найбольш цікавы з іх мае ўкладны запіс 1609 г. у царкву Мяркурыя Смаленскага. У 1614 г. гэтае Евангелле «прынесена ад маскоўскай зямлі ад храму святога велікапакутніка Хрыстова Меркурыя, купіў яго міласць пан Нікора Прежекул вялікі вістернік зямлі малдавскай, будучы ве Львове і даде яго там жа да манастыра святога Янофрыя йде же ёсць пігрібені цела жонкі яго Марыі...»[84]

У XVII ст. істотна павялічваецца колькасць каталіцкіх выданняў — яны пачынаюць пераважаць на кніжным рынку. Двойчы, у 1637 і 1647 г., выходзіць «Евангелле польскае і літоўскае, так нядзельнае, як і ўсіх свят, што ў касцёле каталіцкім паводле рымскага парадку праз цэлы год чытаюць» Яна Якновіча[85]; у 1643 г. — «Евангелле на нядзелі і ўсе святы...» у польскім перакладзе езуіта Якуба Вуйка[86]. З праваслаўнага боку супрацьстаіць ім толькі Евангелле 1644 г., якое «благословением святейшаго патриархи кир Парфена» друкавала брацкая друкарня ў Вільні альбо Еўі[87].

Асобных выданняў кірылічных «Апосталаў» за XVI і першую палову XVII ст. вядома шэсць: Скарыны 1525 г., Мамонічаў 1591, 1592 і пасля 1595 г., куцеінскае каля 1632 г. і магілёўскае 1638 г. Спірыдона Собаля[88].

Як бачым, да канца XVI ст. праваслаўная царква карысталася амаль выключна рукапіснымі «Апосталамі»; у нейкай меры патрэбу задавальнялі прывазныя паасобнікі маскоўскага (1564)[89] і львоўскага (1574) «Апостала» друку Івана Фёдарава. Апошняе выданне лічылася, верагодна, найбольш аўтарытэтным: Мамонічы ўзялі яго за ўзор, і іх «Апостал» 1591 г. паўтарае яго ў размяшчэнні набору на старонках і ў іншых прыкметах афармлення.

[78] Кнігі Беларусі 1517—1917. № 8.
[79] Кнігі Беларусі 1517—1917. № 12.
[80] [*Никольский А. И.*] Описание рукописей, хранящихся в архиве Святейшего Правительствующего Синода. Т. 1. СПб., 1904. С. 10—11, 13—14.
[81] Кніга Беларусі 1517—1917. № 55.
[82] *Лукьяненко В. И.* Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI—XVII вв. Вып. 1. Л., 1973. С. 156.
[83] Кніга Беларусі 1517—1917. № 56.
[84] *Ситникова Л. И.* Виленские кирилловские издания конца XVI — первой половины XVII в. во львовских собраниях // Федоровские чтения 1982. С. 81—82.
[85] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 423, 424.
[86] Тамсама. № 1014.
[87] Кніга Беларусі 1517—1917. № 146.
[88] Тамсама. № 3, 23, 25, 39, 117, 128.
[89] У 1602 г. у царкву Успення ў Заблудаве быў пакладзены Апостал 1564 г. (*Сапунов Б. В.* Книга и читатель на Руси в XVII в. // Книга в России до середины XIX века. Л., 1978. С. 64).



*«Новы Запавет господа нашага Ісуса Хрыста ў ім жа і Псалтыр...». Разгорт з выявай евангеліста Марка. Куцейна, 1652 г.*

Некалькі разоў на працягу XVI ст. кнігі Новага Запавету выдавалі сацыніяне: у Нясвіжы ў 1563 г. Даніэль Ленчыцкі; у Брэсце ў студзені 1566 г., з прысвячэннем Тамаша Фальконіўса Эльжбеце, Сафіі, Анне і Хрысціне Радзівіл; у Брэсце ў чэрвені 1566 г. выйшлі «Дзеянні Апостальскія» з тэкстам, узятым з Брэсцкай Біблії, і тлумачэннямі з прысвячэннем выдання Тамашам Фальконіўсам Мікалаю Радзівілу (Рудаму)[90]. Акрамя таго, тут змешчаны вершы Цыпрыяна Базіліка («Да Мікалая і Крыштафа Радзівілаў») і Станіслава Жука («Да ласкавага чытача»)[91].

У канцы XVI ст. з'явіліся выданні Новага Запавету з Псалтыром. Упершыню збор гэтых найбольш ужытковых богаслужбовых кніг выдаў Іван Фёдараў у 1580 г. у Астрогу. Кніга такога складу атрымала прызнанне сярод праваслаўных жыхароў ВКЛ, якія не прынялі унію, і да маскоўскай вайны 1654—1667 гг. выходзіла ў розных друкарнях. Каля 1596 г. у брацкай друкарні ў Вільні была выдадзена «Книга Новаго завета. В ней же напреди псалмы блаженнаго Давида пророка и царя», што змяшчала таксама месяцаслоў і паказальнік евангельскіх чытанняў па тыднях года[92]. Выданне было зручным для карыстання і адразу ж даволі шырока распаўсюдзілася ў праваслаўным свеце. Складзены ў 1601 г. вопіс кніг Кірыла-Белазёрскага (у Расіі) манастыра фіксуе: «4 кнігі Новый Завет литовских в четверть, в начале писаны псалмы». У 1611—1641 гг. Новы Запавет з Псалтыром быў перавыдадзены яшчэ тры разы[93]. У прысвячэнні да выдання 1611 г. адлюстроўваецца крызіс кірылічнага кнігадрукавання: зазначана, што добрых кніг, «нашим

[90] Тамаш Фальконіўс — кафедральны канонік у Любліне; пасля адыходу ад рымска-каталіцкай царквы яго пасадзілі ў астрог, адкуль яго вызваліў Мікалай Радзівіл. Разам з Сымонам Будным Фальконіўс быў пратэстанцкім прапаведнікам у Клецку.

[91] *Киреева Г. В.* Брестские издания XVI века в фондах Национальной библиотеки Беларуси // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. [Вып. 1]. Мн., 1995. С. 24—30.

[92] Кніга Беларусі 1517—1917. № 48.

[93] Тамсама. № 71, 100, 137.



*«Новы Запавет господа нашага Ісуса Хрыста ў ім жа і Псалтыр...». Разгорт з пачаткам літургії св. Васіля Вялікага. Куцейна, 1652 г.*

словенским языком друкованых, не стало», а таму робіцца гэтае «собрание многих книг» па парадку царкоўнай службы і «всё что нужно людям подорожным для отправованя набоженства».

Каб сумешчаныя Новы Запавет з Псалтыром можна было выкарыстоўваць не толькі для хатняга чытання, але і для вядзення богаслужэння, у некаторых выданнях да Новага Запавету дадаваліся маргіналіі з паказаннямі чытанняў, а ў віленскім выданні 1623 г. — указанні пра тое, як пачынаць і як заканчваць спяванне Псалтыра.

Нельга сказаць, што «Апакаліпсіс» св. Іаана Багаслова быў адной з папулярных альбо шырока распаўсюджаных кніг. Аднак гэты адметны твор сустракаецца ў кніжнасці ВКЛ, як і ў культуры іншых хрысціянскіх краін, пачынаючы з XVI ст.[94]

Строга рэгламентаваны парадак набажэнства фіксаваў Служboўнік — «Устав божественныя литургия иже во святых отец наших Иоанна Златоустаго, Василия Великаго и прежде освященная Григория Двоеслова». Паколькі парадак набажэнства ад часоў, што апісваюцца ў гэтым раздзеле, да часу інтэнсіўнага збірання рукапісных кніг як помнікаў старажытнасці істотна змяніўся, то значная колькасць Службоўнікаў паспела згубіцца ў хвалях часу (рэальна — яны былі парэзаны на пераплёты альбо знішчаны як непатрэбныя). У першай палове XVI ст. адзінства праваслаўнай службы і нязменная патрэба ў Службоўніках з правільным выкладам службы сталі прычынай распаўсюджання сярод праваслаўных ВКЛ Службоўнікаў, друкаваных у Венецыі (у прыватнасці, у 1519, 1527 і 1554 гг., прычым у першым і апошнім выпадку — двума выданнямі). Рэдакцыйныя адрозненні не сталі пры гэтым перашкодай.

Першы друкаваны ў ВКЛ Службоўнік выпусціла друкарня Мамонічаў 24 чэрвеня 1583 г. у Вільні[95] «ко очищению и ко исправлению ненаучоных и неискусных в разуме книгописец... дабы во всех церквах Божиих

[94] Откровение св. Иоанна Богослова в мировой книжной традиции: Каталог выставки. М., 1995.
[95] Кніга Беларусі 1517—1917. № 14.

служащии іереи по искусных и исправленых книгах служили». Кнігазнаўцы даўно звярнулі ўвагу на яго ксілаграфічныя застаўкі з імем чарнагорскага ваяводы і друкара Божыдара Вукавіча, узноўленыя з венецыянскага Службоўніка 1554 г. Ёсць дзве гіпотэзы адносна прычын гэтага відавочнага капіравання. Згодна з адной, застаўкі, што робяць віленскае выданне падобным на венецыянскае, былі зроблены для лепшага распаўсюджвання выданняў Мамонічаў на Балканах[96], згодна з другой, такое падабенства патрэбна было Мамонічам, каб павялічыць аўтарытэт свайго Службоўніка ў ВКЛ і, можа быць, у Маскве[97]. Урэшце, выкарыстанне застаўкі і некаторых прыёмаў графічнай аздобы аркуша, уласцівых выданням Вукавічаў, не перайшло ў літаральнае капіраванне. У тэксце Службоўніка, побач з некаторымі арфаграфічнымі нормамі паўднёваславянскага правапісу, сустракаюцца сляды наўгародскага вымаўлення (напрыклад, «оцисти» замест «очисти»), што сведчыць аб выкарыстанні рускіх спісаў. Перавыданне Службоўніка адбылося ў Вільні ў 1598 г. ці незадоўга перад тым (паколькі ўсе вядомыя яго паасобнікі не маюць тытульнага аркуша, кніга датуецца па ўкладным запісе ад 22 красавіка 1598 г.)[98]. Да сярэдзіны XVII ст. выйшла яшчэ 7 выданняў[99]. Асаблівы від службоўніка пад назвай «Трыфалагіён, альбо Цветаслоў» быў надрукаваны з благаславення і па загаду мітрапаліта Сільвестра Косава ў Куцейне ў 1647 г.[100]



«Новы Запавет господа нашага Ісуса Хрыста ў ім жа і Псалтыр...». Пачатак Псалтыра. Куцейна, 1652 г.

Першым выданнем службоўніка каталіцкай царквы ВКЛ была «Агэнда» віленскага каноніка Марціна, надрукаваная ў 1499 г. Конрадам Баўмгартам у Гданьску. Непасрэдна на тэрыторыі Вялікага Княства каталіцкія богаслужбовыя кнігі сталі друкаваць шмат пазней. Называліся яны па-рознаму: «Agenda parva» (Vilnae, 1616) з фармулярамі на хрышчэнне, вяселле і да т. п.; «Modus devotus celebrandi cum fructu sanctissimum missae sacrificium...» — пераклад з італьянскай мовы твора езуіта R. P. Justinello для ўжывання духавенствам Літвы і Жамойці (Vilnae, 1624); тое ж (Vilnae, 1630); тое ж (Vilnae, 1646); «Rituale sacramentorum» (Vilnae, 1647); «Rituale sacramentorum» (Vilnae, 1653). Пасля маскоўскай вайны — перапынак да 1670 г. Акрамя лацінскіх, вядомы польскамоўныя службоўнікі — усяго, паводле нашых падлікаў, 12 выданняў.

Пратэстанцкія богаслужбовыя кнігі, вытворчасць якіх была пашырана ў XVI ст., захаваліся кепска. Вядомы тры выданні службоўніка «Forma albo porządek sprawowania świętości pańskich» (2-е выд. Wilno, 1598; 3-е выд. Wilno, 1600), а таксама выдадзеная ў 1624 г. Любчанскай друкарняй праца Мікалая Высоцкага «Akt usługi chrztu...». Важным крокам да ўпарадкавання пратэстанцкай богаслужбы стала кніга пастара Яна Маліны «Парадак звычайных абрадаў касцёла Аўгус-

[96] *Зернова А. С.* Типография Мамоничей в Вильне (XVII век) // КИМ. 1959. Сб. 1. С. 178.
[97] *Пуцко В. Г.* Художественное оформление виленских изданий служебника (1583—1640) // Федоровские чтения 1982. С. 124.
[98] Кніга Беларусі 1517—1917. № 52.
[99] Тамсама. № 80, 81, 102, 130, 138.
[100] Тамсама. № 153.


Кнеиже блажєных трех
Єпископовъ лургіе съвершаютъся.
Іωанна Златоустаго, Васи
лія Великаго, и Григорія двое
слова Папы Римъскаго, Пре
ждесщенная.
На єстъ коштомъ и накладомъ
вельможного Пана
Єго милости Пана
Лешна Сапеги. Канцлера Великого Князства
Литовъского Могилевъского, шерешовъского
Старосты. Іпроч.
Вдрукарни Лешна Мамонича.

*Службоўнік, выдадзены коштам дзяржаўнага канцлера ВКЛ пана Лявона Сапегі. Друкарня Лявона Мамоніча. Тытульны аркуш. Вільня, 1617 г.*

→ *Кнігадрукары жадаюць свайму дабрадзею мінскаму ваяводзічу і надворнаму харужаму ВКЛ пану Багдану Агінскаму «здоровя обойга» — духоўнага і цялеснага.*

ціянскай канфесіі» (Вільна, 1640) і створаны на падставе гэтага «Парадку...» польскамоўны службоўнік «Agenda» (Вільна, 1648).

Акрамя Службоўніка, паследаванне дзённых службаў ёсць таксама ў Часоўніку (пазней Часаслоў, Часасловец). У гэтай кнізе побач з архірэйскімі і дыяканскімі малітваслоўямі змяшчалі таксама тыя славесныя формулы, якія прамаўляў чытальшчык (апошні мог не мець царкоўнага сану). Склад Часоўніка і Часаслова вельмі варыятыўны. Абавязковым ядром у іх з'яўляецца паслядоўнасць пагадзінных малітваў (часоў, ад гэтага і назва кнігі) і некаторыя нязменныя малітваслоўі павячэр'я і паўночніцы. Найбольш важнае адрозненне Часаслова ад уласна Часоўніка зыходзячы са структуры кнігі, палягае ў тым, што ў першым, побач з паследаваннем дзённых службаў, змяшчалі яшчэ і месяцаслоў і некаторыя іншыя матэрыялы, пераважна даведачныя. Часоўнікі і месяцасловы выдаваліся часта — праз кожныя 1—2 гады. Тым не менш гэтыя кнігі сярод захаваных даволі рэдкія, можа таму, што іх выкарыстоўвалі для навучання грамаце. Прыкладам рукапіснага Часаслова можа быць Часаслоў з Супрасльскага манастыра з дадаткамі (малітва пасля нараджэння дзіцяці, чын асвячэння вады і іншыя службы); у пазнейшых (уніяцкіх) Часасловах з'яўляюцца мясцовыя элементы, у прыватнасці ўключаецца служба Іясафату Полацкаму (рукапіс БАНЛ, F19-226).

На разгледжаны перыяд прыпадаюць 9 выданняў Часоўнікаў і Часасловаў.

1. Часасловец (як частка «Малой падарожнай кніжкі»). Францыск Скарына «ў великославном месте Виленском», каля 1523 г.
2. Часоўнік. Вільня, 1574—1576 гг. Пётр Мсціславец у Мамонічаў.
3. Часоўнік. Вільня, 6.7.1596 г. Брацкая друкарня.
4. Часоўнік. Вільня, 1597 г. Мамонічы.
5. Часасловец. Вільня, 1601 г. Мамонічы (магчыма, у 1592—1601 гг. былі яшчэ выданні).
6. Часаслоў. Еўе, 1612 г. Брацкая друкарня.
7. Часаслоў. Вільня, 1617 г. Частка накладу на тытульным аркушы мае назву «Часасловец». Лявон Мамоніч.
8. Часаслоў. Вільня, 1631 г. Брацкая друкарня.
9. Часаслоў. Куцейна, 1632 г. Спірыдон Собаль.

У практыцы праваслаўнай царквы на кожны дзень года прыпадае ўпамінанне аб якойнебудзь звязанай з царкоўнай гісторыяй падзеі. Адпаведна да дзённых службаў, паследаванні якіх меліся ў Службоўніку і Часаслове, далучаліся асобыя малітваслоўі і спевы, прысвечаныя канкрэтным падзеям альбо кананізаваным асобам. Гэтыя паследаванні (галоўным чынам да вячэрні і ютрані) маюцца ў кнігах, што называюцца Мінеямі месячнымі. Усіх Міней дванаццаць; у складзе кожнай кнігі прыведзены адпаведныя формулы на кожны дзень месяца; дванаццаць кніг тым самым ствараюць поўны гадавы камплект.

Поўны гадавы камплект рукапісных Міней — рэдкасць, ён меўся хіба толькі ў вялікіх і багатых манастырах, друкаванага ж у ВКЛ не было.

Найбольш распаўсюджаны фармат рукапісных Міней 4° і F°. Незалежна ад фармату ў кожнай кнізе змешчаны тэкст чытанняў на адзін альбо два месяцы. Рукапісныя Мінеі змяшчаюць шмат матэрыялу, які дазваляе гаварыць пра мясцовую своеасаблівасць у пра-

## Велможномꙋ Его М. Панꙋ.

# БОГДАНꙊ ОГИНСКОМꙊ

## ХОРꙊЖОМꙊ НАДВОРНОМꙊ

## Великаго Кнзтва: Литовскаго, Воєводи чови Минскомꙋ. П. П. и Добродѣеви нам вце Милостивомꙋ здоровѧ ѡбойга.

Всемощный Державца всегѡ створенѧ, которого всѣ справы правда. З превѣчное рады постановивши, годный славѣ своє выставити паламен (Велможный Мл: П. Хорꙋжый Ве: Кнз: Ли: Пне и Добродѣю) на нбныи высокостѧх ѡный засади, и оукшталтованый в найдосконалшой фигꙋрѣ Сферной, звѣздами ӕко наймистернѣйшими гафтами ѡздобилъ, двѣ болшіи свѣтила, дрꙋгое днѧ, дрꙋгое ночи, часъ ѡказꙋючіє постановилъ, а ӕкѡ найдосконалшій Архітектонъ, слꙋги тымъ ѡкрꙋгомъ нбнымъ, дхи мовлю смртелное зеблоки поронные приставилъ: з которихъ иннымъ крꙋговъ нбныхъ ѡбороты, иннымъ дыханіѧ вѣтровъ, ѡвыи ѡгнѧ бластанія, инныи сфери повѣтренои мѣркованє, инныи дождовъ, снѣговъ, градовъ, и тымъ подобныхъ метеѡръ роспоражене, иннымъ на ѡстатокъ до оупадкꙋ склонного члвѣка сторожꙋ повѣрилъ. То такъ нбный бꙋдынокъ гдыи премꙋдрость Бжїѧ выставила, ѡздобила, и роспорѧдила, в Девѧть чинов слꙋги ѡные, албѡ Ѡффицыалисты, роспосажила: даючи знать, ижъ и Ѡблюбенница Слова и Сна превѣчнаго Бжїѧ, черезъ выбраные Дхомъ Стымъ начинѧ, в девѧть хорѡвъ часы млтвенные винна зостала роспоражати: и слꙋшне, ӕкъ а бовѣмъ дом непристꙋпнои хвалы Бжеи, хорѡвъ тыхъ роспоражениє триꙋстнымъ воспѣванїемъ славы єгѡ непристꙋпное, велбитсѧ и кшталтитъ; такъ и Црковь, на земный домъ славы тогожъ Пана, молитвенными хѡрами звыкласѧ кшталтовнѣйшею богатѣйшею и ӕснѣйшею ѡказовати. Девѧть прето Ѡрдинкѡвъ млтвенныхъ часовъ Црковь Грекокаѳолическаѧ Сынодалне знайдоватисѧ оузаконила.



*Тытульны аркуш Ірмалоя. Гэтая спеўная кніга ўключае ў сябе толькі тэксты, мелодыі спевакі выконвалі толькі па памяці. Еўе, брацкая друкарня, 1642 г.*

васлаўнай традыцыі. У прыватнасці, цесныя сувязі Супрасльскага манастыра з Сербіяй адлюстраваліся ў тэкстах Міней: у супрасльскім спісе Мінеі на асобым месцы (у канцы) — службы св. Антонію, архіепіскапу Сербскаму [БАНЛ, F19-145], другі спіс зафіксаваў пазнейшую замену службы св. Сімяону Сербскаму службай прападобнаму Марцініяну («по рассуждению искуснейших не празднуется сей св. Симеон в 13 дне, вместо же его поем преподобнаго отца Мартиниана» [БАНЛ, F19-159]). Акрамя традыцыйных тэкстаў у Мінеях маглі змяшчацца ноты і вершы [БАНЛ, F19-155, F19-138] альбо помнікі мясцовай агіяграфіі, літаратурнай творчасці. У прыватнасці, агульная Мінея [БАНЛ, F19-137] уключае некалькі арыгінальных твораў — апакрыфічныя «Казанне аб канцы свету», «Спрэчка Еліферыя з жыдам Малфам аб 12 пятніцах», віршаваны твор «Слова аб збурэнні пекла. Размова Люцыфера з Адамам» і інш.

Адзін са старажытнейшых захаваных спісаў Мінеі службовай мае прыпіску, у якой пісец паведамляе пра выраб кнігі праз загад пана Солтана, маршалка караля і вялікага князя — магчыма, у скрыпторыі Солтанаў на двары Шышкіні: «Произволеніємь отца, и хотеніємь сына и с поспешеніємь и деиствиємь пресвятого и животворящаго духа. Изволися написати сіа книга рикомая мінея маи в году ZЧYS при державе короля польскаго казимира великаго князя литовьскаго. А повелениємь и желаниємь пана солтана короля его милости маршалка литовьскаго, нареченнаго в святемь крещеніи Александр сын пана Александра подскарбьего земли Литовскыя Рукою многогрешнаго и грубаго діака Занка родом з турова от отца именем Алексїа. Ино осподо отци и братіа ведающіи закон бжии чтете бога ради исправляюще а не клените моего худоумїа и маломожства. Понеж елико ми вседерьжитель бог спохпешествова достигнути толико и потрудихся к желателем благочестиа сие съписати богу слава в троици аминь» (ЦДзАСт.А, ф.181[архіў МАМІД], № 442.). Вядомы выпадкі прывозу Мінеі службовай у ВКЛ з маскоўскіх межаў, прынамсі адна такая кніга ў 1552 г. трапіла ў Мсціслаў да брацкага свяшчэнніка Грыгорыя Горліцы[101].

**Кнігі літургічныя і гімнаграфічныя.** Свая спецыфіка прысутнічала ў структуры службы для свят Велікоднага цыкла. Ад першага падрыхтоўчага да Вялікага посту тыдня і да свята Тройцы ў складзе змяняльных малітваслоўяў трэба было спяваць не поўныя каноны, а зменшаныя, якія складаюцца пераважна з трох песень, супраць звычайных васьмі- і дзевяціпесенных канонаў. Гэтыя паследаванні склалі дзве кнігі, якія атрымалі назву Трыёдзі (ад трыпесенных канонаў). Трыёдзь Посная ўключала паследаванні велікапоснага цыкла, Трыёдзь Кветная — паследаванні ад Вялікадня да Пяцідзесятніцы (свята Сашэсця св. Духа).

У 1609 г. Посная і Кветная Трыёдзі былі надрукаваны ў друкарні Мамонічаў. На тытульным аркушы гэтага выдання пералічаны

[101] [*Никольский А. И.*] Описание рукописей, хранящихся в архиве Святейшего Правительствующего Синода. Т. 1. С. 112—113.

аўтары: «Треодь цветная Иоанна Дамаскина, Козьмы Маумского, Феофана Никейскаго, Иосифа Солуньскаго епископов. И иных святых избрана». У прысвячэнні, якое адрасавана дзяржаўнаму канцлеру ВКЛ Льву Сапегу, адзначана патрэба Трыёдзі не толькі для Вільні, але і для «...всех краев народу языка славенского...». Далей аўтар прадмовы (Лявон Мамоніч) падкрэслівае заслугі Льва Сапегі ў аб'яднанні ўсходняй і рымскай царквы.

На працягу многіх стагоддзяў адной з найвышэйшых праяў эмацыянальнага пазнання Божай мудрасці былі царкоўныя спевы. Таму першыя музычныя кнігі, з якімі пазнаёміліся жыхары ВКЛ, — кнігі з запісамі музычнага суправаджэння богаслужбы, а геаграфія і гістарычны лёс абумовілі сустрэчу ў Вялікім Княстве дзвюх найвялікшых плыняў хрысціянскай гімнаграфіі: візантыйскай і грыгарыянскай. Першая карысталася набыткамі такіх вядомых аўтараў-гімнографаў, мелургаў і паэтаў-меладосаў, як Іаан Златавусны і Яфрэм Сірын, Раман Сладкапевец і Андрэй Крыцкі, Іаан Дамаскін, Казьма Маюмскі і шмат іншых[102]. Другая грунтавалася на духоўнай працы папы Грыгорыя Вялікага (Двуяслова) і ахоплівала не толькі спеў, але распрацоўвала інструментальную музыку. Практыка праваслаўнай царквы выпрацавала некалькі тыпаў музычных кніг, важнейшыя сярод якіх — Трыёдзь і Актоіх. У праваслаўнай традыцыі вядома шмат кніг, у якіх музыка запісвалася пры дапамозе знаменнай натацыі — адмысловых знакаў над радком тэксту.

Пасля тыдня Усіх Святых замест Трыёдзі парадак змяняльных малітваслоўяў і песняў паказвала іншая кніга — «Актоіх, альбо Асьмагласнік». У складзе гэтай кнігі малітваслоўі згрупаваны па васьмі гласах царкоўнага спявання (адсюль і назва: okto — восем), а ў сярэдзіне гласаў — па днях сядзмічнага (тыднёвага) цыкла. Найбольш старажытныя Актоіхі пабудаваны паводле Студыйскага статута. Актоіх можа быць натаваны і ненатаваны, пры гэтым беларускія натаваныя Актоіхі да XVI ст. музыказнаўцамі пакуль не вылучаны, і мы можам сведчыць пра іх бытаванне толькі абапіраючыся на агульнасць з рускімі

Актоіхамі, якія маюць і тэксты, і крукавыя ноты. Больш познія спісы Актоіха з зямель ВКЛ могуць мець акрамя тэксту сціхіраў ноты — напрыклад, Актоіх XVII ст. з Супрасля[103]. Пра ўжыванне Актоіха і як навучальнай музычнай кнігі сведчыць запіс на ніжняй дошцы пераплёту рукапісу XVII ст.: «Аз многогрешный Францишек Ланевскій тут у Супраслю з ласки его милости отца архимандриты Іосафата Михневича мил позволеніе на той книзи учитися» (БАНЛ, F19-179). Сярод рукапісных Актоіхаў вылучаецца кніга, якая належала князю Сямёну Міхайлавічу Слуцкаму (БАНЛ, F19-174).

Пасля з'яўлення кнігадрукавання Актоіх трапіў на варштат у ліку першачарговых выданняў — у жніўні 1582 г. у Вільні, у доме Мамонічаў, яго надрукаваў Васіль Гарабурда. Пазней гэтую кнігу тыражавалі друкам і прыхільнікі праваслаўя — з кіеўскіх і астрожскіх арыгіналаў, і уніяты, прынамсі супрасльскі Актоіх выдадзены «благословеніем вселенского архіерея Венедикта папы Рымскаго».

Усяго нам вядома пяць выданняў Актоіха ў друкарнях ВКЛ (табл. 2).

*Табліца 2*

| Год выдання | Месца выдання | Друкарня, друкар | Заўвагі ў выхадных звестках |
|---|---|---|---|
| 1582, 4.VIII | Вільня | Васіль Гарабурда | |
| Каля 1632 | Куцейна альбо Буйнічы | Спірыдон Собаль | «Кіеў, 1629» |
| Пасля 1638 | Куцейна альбо Буйнічы | Спірыдон Собаль | «Кіеў, 1629» |
| 1646 | Куцейна | Друкарня Богаяўленскага манастыра | «Перш у Астрозе і ў Кіеве, а цяпер у Куцейне выданы» |
| | Супрасль | Друкарня манастыра | |

[102] Пецярбургскі музыказнавец Я. Герцман лічыць, што многія з гэтых аўтараў (у т. л. Раман Сладкапевец) складалі толькі словы, выкарыстаўшы папулярныя ў іх час мелодыі (*Герцман Е. В.* Музыкальная византинистика. Л., 1988).

[103] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 176.

*Давыд грае на гуслях і перамагае льва. Мініяцюры-ілюстрацыі да тлумачальнага Псалтыра. Віленскі мітрапаліцкі скрыпторый. Першая чвэрць XVI ст.*



Кнігі Актоіха звычайна друкавалі фарматам 20 (№ 1 і 5) альбо 40 (№ 2, 4). Часам яго ўпрыгожвалі толькі двухколерны друк і простыя застаўкі (№ 1, 5), але часцей гэтая кніга мела адну-дзве (№ 2, 3, 4) гравюры.

Існаваў і скарочаны варыянт Актоіха, куды ўваходзілі спевы нядзельных дзён на ўсе восем гласаў, іншыя былі пададзены выбарачна. Гэтая кніга, прыдатная для небагатых храмаў, у якіх не было штодзённай рэгулярнай службы, называлася Шасціднеў. Найбольш ранні вядомы нам рукапіс Шасціднева мае прыпіску з датай: «В року 1616 месяца сенътебрия 14 написася сия книга глаголемый шестодневец»[104].

У эпоху Рэнесанса і барока адбываецца пераарыентацыя гімнаграфіі візантыйскай традыцыі на заходнееўрапейскую. Інтэнсіўнае развіццё гімнаграфіі ў ВКЛ у XV—XVII стст. абумовіла фарміраванне новых тыпаў спеўных натаваных кніг, сярод якіх галоўнае месца належала зборніку як сінтэтычнай анталогіі гімнаграфічнага рэпертуару. У ВКЛ такі зборнік быў адной натаванай кнігай, што мела саманазву Ірмалой. Асноўны змест Ірмалоя — першыя страфы песняў і канонаў — Ірмасы. Ноталінейныя Ірмалоі дайшлі да нашага часу ў шматлікіх рукапісных копіях, якія ствараліся ў розны час, у розных мясцовасцях і рознымі перапісчыкамі-спевакамі. Таму ўсе яны маюць большыя альбо меншыя адметнасці — у вонкавым выглядзе, тыпе мастацкага дэкору, графіцы і арфаграфіі слоўнага і нотнага тэкстаў і спосабаў іх кампанавання, нарэшце, у музычна-стылёвым напаўненні. Знешні выгляд Ірмалояў звычайна святочна-ўрачысты, што сведчыць пра мастацкі густ іх стваральнікаў і заказчыкаў. Святочнасць пранізвае ўсё: ад кампаноўкі старонкі гэтых помнікаў да ўласна музычнага зместу. Львоўскі музыказнавец Юры Ясіноўскі сцвярджае, што выбраны святочны рэпертуар дыктаваў узнёслы настрой знешняга выгляду Ірмалояў[105].

Ужо ўведзеныя ў навуковы ўжытак Ірмалоі сведчаць, што існавалі кніжныя цэнтры, дзе музычныя рукапісы выраблялі рэгулярна. Гэта перш за ўсё манастыры: усяго мы можам гаварыць пра 30 Ірмалояў, што створаны да 1668 г., 13 з іх манастырскага паходжання. Найбольш распаўсюджаны фармат — у чацвёртую долю аркуша (17 адзінак, 56,6%), крыху менш Ірмалояў-фаліянтаў (11 пасобнікаў, 36,6%). Ірмалоі маленькага фармата складаюць 6,6% (захаваліся дзве кніжачкі). У залежнасці ад фармату, шчыльнасці почырку і колькасці музычнага матэрыялу Ірмалоі могуць мець ад 200—300 да 600 і больш старонак. Падзелу працы паміж перапісчыкамі тэкстаў і нот не было — практычна заўсёды ўвесь Ірмалой перапісвала адна і тая ж асоба[106].

Вось кароткі рэестр захаваных рукапісных Ірмалояў, створаных у ВКЛ да 1668 г. (№, дата, звесткі пра рукапіс, заўвагі; у квадратных дужках нумар паводле каталога Ю. Ясіноўскага).

1. 1598—1601 гг., 576 аркушаў; «Ірмолой, твореніе преподобнаго отца нашего Іоана Дамаскина. Нанотован в святой обители монастыру Супрасльском, столп Ірмосов написан рукоделіем Богдана Онисимович[а], спевака родом с Пинска. В лето от созданіа міра 7109. А от въплощеніа Христова 1601». Беларускі скорапіс, асобныя тэксты пісаныя грэцкай мовай. Пераплёт сучасны рукапісу. Арнаментальныя застаўкі, ініцыялы — каляровая пляцёнка балканскага тыпу; на палях упрыгажэнні ў выглядзе птушак і маскаронаў; 6 мініяцюр у цэлы аркуш: св. Раман і Давыд, св. Васіль-Уладзімір, св. Казьма, св. Іаан Дамаскін, суд Пілата, Дабравешчанне, на тытульным аркушы гравюра з Пражскай Бібліі Францыска Скарыны. Ёсць укладны запіс (часткова пашкоджаны) у храм Архангела Міхаіла Кіева-Пячэрскай лаўры. Напевы: супрасльскі, знаменны, мултанскі, мірскі, балгарскі, грэцкі, царгародскі. Хор маскоўскага патрыярха запісаў у 1997 г. некалькі песнапенняў з Супрасльскага Ірмалоя на кампактдыск [5].

2. Пач. XVII ст., прадаўгаваты (10,7×14 см.), 685 аркушаў, без пачатку і канца. Дробны паўустаў; адна арнаментальная застаўка — каляровая пляцёнка балканскага тыпу. Вадзяныя знакі паперы 1606—1623 гг. У 1909 г. з мінскай калекцыяй А. Ельскага паступіў у Львоўскі нац. музей [8].

3. Пач. XVII ст., 288 арк., скорапіс. Арнаментальная застаўка: раслінны матыў з про-

[104] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета, самарских библиотеки и музея и минских собраний. Л., 1934. С. 179.

[105] *Ясиновський Ю. П.* Українські та білоруські нотолінійні Ірмолої 16—18 століть: Каталог і кодикологічно-палеографічне дослідження. Львів, 1996. С. 35—41.

[106] Тамсама. С. 75.

сценькай мініяцюрай, арнамент ініцыялаў — пляцёнка з заамарфнымі элементамі; на пач. ахоўным аркушы прыклеена гравюра. Вадзяныя знакі 1615—1622 гг. Актоіх-Ірмалой; напевы: кіеўскі, супрасльскі, балгарскі. Масква, ДГМ; Сін. п. 216 [13].

4. 1-я пал. XVII ст., 271 арк. Арнаментальныя застаўкі, ініцыялы — пляцёнка балканскага тыпу. Перапісчык «Jieromonach Jiona Feręnka swa»; «Сей Ермолой отца Карпа Федор[овича] священника Плещецкого и ... куплен у Смоленску року 1629 февраля 24 дня у пана Федора Киеници радцы смоленского, рукою власною»; наклейка XVIII ст.: Кутеенскій. Напевы: рускі, просты, балгарскі [14].

5. 20—30-я гг. XVII ст., 444 арк.: «Книга глаголемая Ермолой монастыра общежителного Кутеиньского иноческаго и храмов святых Богоявленій и Рождества Христова православиа греческаго восточнаго». Скорапіс, у нотным тэксце фіты, бекары, старожы. Кнігу ўпрыгожваюць арнаментальныя застаўкі, ініцыялы з каляровай пляцёнкі. Напевы: балгарскі, грэцкі [18].

6. 2-я чвэрць XVII ст. (да 1643 г.), 261 арк., зблытаны пры пераплёце. «Паки и паки. Господи благослови... Столп сии написан быст мною недостойным иеромонахом Тарасием... в Менску почал, а у Вильни и у Жыровичах докончыл». Напевы: супрасльскі, грэцкі, «напел добрый», «меледыйная» [30].

7. 2-я чвэрць XVII ст., 380 арк., скорапіс. «Сей Ермолой Ивана Казака куплен 1787 году в... Сей Ермологий ворколабовского монастыря» (на форзацы). Балгарскі напеў [32].

8. 2-я чвэрць XVII ст., 147 арк., дробны паўустаў, скорапіс; старожы; застаўкі і ініцыялы старадрукарскага арнаменту; з Супрасльскага манастыра [35].

9. XVII ст., 433 арк., без пачатку; дробны паўустаў; старожы [36].

10. XVII ст., 346 арк., без канца; скорапіс; старожы; балгарскі напеў [37].

11. 1638—1639 гг. Ірмалой Фёдара Семіяновіча з Беражан на Падгор'і, спісаны ў Супраслі. 290 арк., паўустаў, фіты, старожы; арнаментальныя застаўкі і ініцыялы — раслінныя арнаменты старадрукарскага тыпу; пяць мініяцюр; запіс аб пераплёце кнігі ў жніўні 1644 г. у Супрасльскім манастыры, стараннем Сілуяна Кунцэвіча; балгарскі напеў [46].

12. Ірмалой, спісаны ў Куцеінскім жаночым манастыры пры ігуменні Меланні Юрчакоўне ў 1648 г. Пазней ігумення Іраіда прывезла кнігу ў Смаленскі Узнясенскі жаночы манастыр (да 1663 г.) і там рукапіс заставаўся да XIX ст. Сённяшняе месцазнаходжанне невядома [49].

13. 1649 г. Іаан Калбека ў Жыровіцкім манастыры. 413 арк., паўустаў, старожы; арнаментальныя застаўкі і ініцыялы — пляцёнка з элементамі расліннага арнаменту, мініяцюра ў цэлы аркуш, гравюра (гравёр Лука); астрожскі, падгорскі, беларускі, віленскі, слуцкі і крамянецкі, скіцкі, сербскі і балгарскі напевы [51].

14. XVII ст., 234 арк., старожы, фіты; застаўкі і ініцыялы з заамарфных элементаў, 7 мініяцюр. Просты, астрожска-валынскі, купяціцкі і балгарскі напевы [69].

15. XVII ст., 7 арк., без пачатку і канца, скорапіс; старожы; балгарскі напеў [71].

16. XVII ст., 264 арк., без пачатку і канца, паўустаў; старожы; кіеўскі напеў [73].

17. XVII ст., 278 арк., без пачатку і канца, паўустаў; старожы; застаўкі і ініцыялы друкарскага арнаменту; балгарскі і кіеўскі напевы [74].

18. XVII ст., 300 арк., без пачатку, паўустаў; старожы; на арк. 180 мініяцюра — бічаванне Хрыста; балгарскі і падгорскі напевы [79].

19. XVII ст., 333 арк., без пачатку, паўустаў; старожы, фіты; застаўкі і ініцыялы друкарскага арнаменту; балгарскі і просты напевы; паходзіць з Віцебскага Маркава манастыра [93].

20. XVII ст., 305 арк., паўустаў; старожы, фіты; пакінута чыстае месца для аздобы; кіева-пячэрскі, балгарскі і супрасльскі напевы; «...куплена сиа книга Ермолой в месте Витебску в ковалёва сына Стефана Амосовича, а цина ей сей книзе грубых талеров полшеста, то есть злотых 13, року 1681 месяца декабриа» [94].

21. XVII ст., 349 арк., скорапіс і дробны паўустаў; старожы; пераплёт з ціснёным арнаментам; кіеўскі, астрожскі і балгарскі напевы [95].

22. 1651 г. Заказаны ігуменняй Фоціяй Кіркораўнай для Баркалабаўскага жаночага манастыра ў Куцеінскім манастыры, пры ігумене Іаілі Труцэвічы. 318 арк., старожы, нотны тэкст у рамцы; арнаментальная застаўка, ініцыял, на тытульным аркушы — каляровая мініяцюра. Напевы: просты, балгарскі [102].

23. 1652 г. Цімафей Кулікові, святар в. Белы Ковель Аршанскага павета пры брацкай царкве Іаана Прадцечы, 373 арк., пропускі, дробны паўустаў; старожы, фіты; арнаментальныя застаўкі, ініцыялы — кветкавыя ма-

тывы друкаванага тыпу і пляцёнка, часткова ў колеры [104].

24. 1653 г. Віленскі базыльянскі манастыр Св. Тройцы. 377 арк., канца няма, паўустаў, старожы; пераплёт новы. «Сей Ермолой написаный през недостойного и моногоргрешнаго інока чыну святого Василія Великаго в манастыру святои Троицы в Вилне в року 1653 и отданый до церкви святой животворящей Троицы в року 1655 месяца Януарія 10 дня...». У 1663 г. быў у Масковіі; укладзены Мікітам Казловым у Амбросіеў Дудзін манастыр [106].

25. Другая палова XVII ст., 371 арк., арк. 351—371 з іншага рукапісу. Арнаментальныя застаўкі, ініцыялы — каляровыя кветкі; чатыры мініяцюры. Запісы пра ігумена Грозаўскага манастыра (арк. 323, 324). Напевы: кіеўскі, балгарскі [138].

26. Другая палова XVII ст., 518 аркушаў. Арнаментальныя застаўкі, ініцыялы, канцоўкі — друкаванага тыпу, кветкавыя і раслінныя матывы, частка ў колеры; кнігу ўпрыгожваюць таксама дзесяць мініяцюр і восем гравюр. Прыпіска на першым аркушы: «Князю Алексею Михаиловичу от священника Митрофана Бенкоровского. Село Шишево Горецкого уезда Могилёвской губ.» Напевы: астрожскі, балгарскі [139].

27. 1662 г. «Сей Ірмолой Евстафія Івановича М.І.К.М. мъста Витепска, куплен у пана Керштона Крыстиана, дано за него талеров 9». 215 арк. Арнаментальныя застаўкі, ініцыялы друкаванага тыпу, раслінныя матывы. Належаў Івану Ігольніку, жыхару Віцебска. У 1866 г. знаходзіўся ў Віцебскай Заручайскай царкве Раства Хрыстова. А. Рачынскі вывез рукапіс у Вільню. Напевы: падгорскі, балгарскі [145].

28. 1662 г. «Ирмолой...повелением же ясне превелебнаго в Бозе его милости Господина отца Кгабриеля Коленды, архиепископа Полоцкого, Витебского, Мстиславского, епископа Березвецкого, Лещинского и Супрасльского архимандрита митрополии Кіевской, Галицкой и всея Росіи администратора. Выписан есть в року Господнем 1662 мца декабря 24 в Супраслю». Работа інака Феафіла, 294 арк. Багатая мастацкая аздоба: арнаментальныя застаўкі, ініцыялы, аздобленыя каляровым шоўкам, кветкавыя матывы; мініяцюры (14), сюжэты: анёлы граюць на разнастайных музычных інструментах — гітары, віяланчэлі (басэтлі), фагоце, арфе, трубах; адна гравюра (Жыровіцкая Багародзіца). Месцазнаходжанне невядомае [147].

29. Магчыма, 1666 г., 411 арк. без пачатку і канца, пашкоджаны; дробны паўустаў розных почыркаў, скорапіс; старожы. Мастацкая аздоба: каляровыя арнаментальныя застаўкі і ініцыялы з кветкавымі матывамі, уклеена адна гравюра [151].

30. Трэцяя чвэрць XVII ст., 211 арк., дробны паўустаў. Мастацкая аздоба кнігі — арнаментальныя застаўкі, шматколерныя ініцыялы з расліннымі матывамі, сем мініяцюр. Тут жа жартоўны верш аднаго з гаспадароў кнігі: «Круль Ягело збіл крыжакі а пан Крупа хцял быць такім» [91].

Адзін з самых ранніх і адначасова самых поўных і цікавых па музыцы — Ірмалой Багдана Анісімовіча — перапісаны ў 1598—1601 гг., калі яго складальнік Багдан Анісімовіч, родам з Пінска, быў пеўчым у Супрасльскім манастыры. У ім (над Херувімскай III гласа) ёсць прыпіска пра тое, што царгарадскі напеў запісаны ад патрыяршага пеўчага — сведчанне жывых кантактаў праваслаўных манастыроў ВКЛ з Канстанцінопалем[107]. Магчыма, гэты пеўчы быў у Вялікім Княстве разам з патрыярхам Іярэміем у 1589 г. — тады мясцовыя «спевакі» запісалі і захавалі яго мелодыі. Ірмалой Багдана Анісімовіча з'яўляецца адным з найбольш ранніх помнікаў, з непасрэднымі перакладамі крукавога знаменнага распеву ў ноталінейную сістэму. Пасля канфлікту ў 1630 г. з крытарам манастыра Хрыстафорам Хадкевічам Багдан Анісімовіч пераехаў з Супрасля ў Кіеў. Ірмалой, які быў уласнасцю «спевака», трапіў пасля яго смерці ў збор Кіева-Пячэрскага манастыра; тут гэтую кнігу неаднаразова капіравалі як узор, і яна значна паўплывала на ўкраінскую музычную культуру[108]. Дата перапіскі ў Супраслі больш позняга Ірмалоя — Фёдара Семіяновіча — вызначаецца па двух прыпісках: у арнаменце на ініцыяле (арк. 32) можна прачытаць: «Року 1638 июля 17»; на аркушы 271 яшчэ адзін запіс: «Року 1639 апрыля 25 za rozkazaniem jego mości Pana przewielebnego oyca Nikodema Mokosia Szybińskiego archimandrity Supraslskiego za

[107] *Цалай-Якименко О.* Перекладна півча література XVI—XVII століть в Україні та її музично-віршова форма // ЗНТШ. 1993. Т. 226. С. 13.

[108] *Конотоп А. В.* Древнейший памятник украинского нотолинейного письма — Супрасльский ирмологион 1598—1601 гг.// Памятники культуры. Новые открытия (1974). М., 1975. С. 287.



*Ірмалой Лаўрэна Крупскага. Смаленск, канец XVII ст. На мініяцюры паказаны архангел Міхаіл, які перамагае шматлікіх д'яблаў. Ніжэй, у пякельным полымі, гарыць каранаваная асоба.*

łaską Bozą wypisany jest той Ірмолой Феодор Семіяновіч з града Бережан з Подгоря». Музычная частка Ірмалоя складаецца з двух напеваў: простага (для літургіі) і балгарскага (для сціхіры «Приідите людіе»).

Акрамя шырока распаўсюджаных напеваў — балгарскага, грэцкага і знаменнага — у Ірмалоях сустракаюцца і больш рэдкія, у тым ліку мясцовыя, напевы — мултанскі, падгорскі, астрожскі, супрасльскі і мірскі.

Месца стварэння кожнага Ірмалоя залежала ад перамяшчэнняў яго аўтара-складальніка. Прынамсі, прыпіска на рукапісным Ірмалоі XVII ст. (спісаны да 1643 г.) паказвае, што Тарасій — іераманах-базыльянін — працаваў над ім у трох месцах: спачатку ў Менску, а потым у Вільні і Жыровіцах: «Паки и паки. Господи благослови. Честь и хвала господу богу и пречистой светой девици Марии и всем светым. Столп сии написан быст мною недостойным иеромонахом Тарасием закону иже во светых отца нашего Василия Великого. Подписал рукою власною. В Менску почал, а у Вилни и у Жыровичах докончыл. Лета господня [1] 643 месяца августа 23 дня в среду от дение празник Успения предвечныя владичицы нашея богородицы и ... діви Мария»[109]. Частка натаваных рукапісаў падпісана не поўным імем аўтара, але толькі крыптонімамі: «І.Т.», «П.Ш.», «R.P.» — такога звычаю няма ў спісах украінскага паходжання. Ю. Ясіноўскі тлумачыць гэта

109 *Ясиновский Ю. П.* Певческие рукописи украинской традиции в собраниях Государственной библиотеки СССР им. В. И. Ленина // ЗОР ГБЛ. 1986. Вып 45. С. 287—288; *Касцюкавец Л. П.* Беларускі рукапісны Ірмалой // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні. Мн., 1989. С. 149—154.

цяжкімі палітычнымі і канфесійнымі ўмовамі на беларускіх землях ВКЛ, калі перапісчыкі павінны былі хаваць свае імёны[110]. Больш, аднак, верагодна, што гэта — даніна традыцыі і праява асобы перапісчыка, бо невядомы ніводзін факт праследу чалавека за перапіску спеўнай кнігі.

Вядома толькі адно выданне Ірмалоя ў гэты перыяд, называецца яно «Ірмалой, сиреч Осмогласник» (зн. Актоіх). Выдрукавала яго ў 1642 г. Еўеўская брацкая друкарня. Ірмалой змяшчаў тэксты, але без музычнага матэрыялу. Кніга маленькага фармату (у 12-ю долю аркуша), з гравіраванай выявай сашэсця Святога Духа на адгорце тытульнага аркуша. Захаваліся два паасобнікі гэтай кнігі, абодва ў РНБ.

Музычная культура каталіцкай царквы — гэта перш за ўсё традыцыйныя грыгарыянскія спевы; у касцёлах выконваліся таксама кампазіцыі сучасных еўрапейскіх аўтараў, мясцовыя музыканты пісалі арыгінальныя літургічныя творы. Музычную частку службы складалі Градуалы і Антыфаналы; часам у маргіналіях сустракаюцца сведчанні спісвання іх у мясцовых кляштарах і касцёлах. Як прыклад можна назваць Градуал з пяцілінейнай квадратнай натацыяй, спісаны ў мястэчку Кімбараўка (Цёмная даліна) над Прыпяццю ў 1609—1630 гг. (аддзел рукапісаў НББ, шыфр 091/311К).

Нотныя лінейкі ў ім прапісаны чырвоным альбо чорным чарнілам; перапісчык нот і тэксту напісаў тонкія загалоўныя літары (ініцыялы), пакінуўшы каля кожнай з іх месца для работы другога майстра — рубрыкатара. Апошні стварaў на свабодным месцы шматколерную арнаментальную кампазіцыю, надаючы старонцы ўрачысты і святочны выгляд, аднак не скончыў працу і частка ініцыялаў засталася не арнаментаваная. Прыкладна да таго ж часу, што і кімбараўскі Градуал, адносіцца «Арганная кніжачка» 1626 г., якая належала аднаму з францысканскіх манастыроў ВКЛ. У ёй змешчаны рукапісныя ноты для арганаў (на двух нотных станах: верхні пяцілінейны і ніжні васьмі- альбо дзевяцілінейны). Наяўнасць у «Арганнай кніжачцы» гравюр работы еўрапейскіх майстроў сведчыць аб друкаванні яе як нотнага сшытка ў адной з друкарняў Еўропы, а пазней — запаўненні нотным зместам у ВКЛ, на што паказаў адкрывальнік і даследчык гэтага рукапісу Уладзімір Неўдах[111].

Першая ў ВКЛ кальвінская музычная друкаваная кніга — Канцыянал — выйшла ў Брэсцкай друкарні ў 1558 г. Гэта былі «Песні Божае хвалы» Яна Зарэмбы ў музычнай апрацоўцы Вацлава з Шаматул і Цыпрыяна Базыліка. У гэтай жа друкарні ў 1560 г. выйшла «Песня аб лотраўскім стане аблудных манахаў», друкаваная прыгожым, як і Канцыянал, мензуральным нотным шрыфтам. Пратэстанцкія спеўныя кнігі выпускала і Нясвіжская друкарня, прынамсі ў Нясвіжы выйшлі з друку Катэхізіс (1563—1564), да якога далучаны Канцыянал (54 псальмы і 110 песень з мелодыямі). Апрача таго, вядомы невялікі спеўнічак, які ўлучае 5 псальмоў і 8 песень на тэксты Рэя, Каханоўскага, Марціна Чэховіца. У Вільні музычная прадукцыя абмяжоўвалася выключна друкаваннем аднагалосых мелодый у рэлігійных кнігах, што выдаваліся ад канца XVI ст. як для каталікоў, так і для пратэстантаў. Друкарня Яна Карцана перавыдала ў 1594 г. выпраўлены нясвіжскі Канцыянал, а ў 1598 г. падрыхтавала новае, папоўненае і змененае выданне гэтай кнігі. Якуб Марковіч у 1600 г. выдрукаваў «Катэхізіс ... з малітвамі, псальмамі і песнямі», з якіх значная частка мае ноты. З друкарні Мельхіёра Пяткевіча выйшаў «Польскі з літоўскім катэхізіс», выкананы яго памочнікам-супрацоўнікам Станіславам Вярэйскім[112].

Разнастайная літургічная кніжнасць была толькі адным з раздзелаў велізарнай сферы кніжнай культуры, пакліканай да жыцця Святым Пісьмом. Другім вялікім раздзелам, што абавязаны сваім генезісам шэрагу кніг Бібліі, была патрыстыка — творы Айцоў Царквы. Напісаны яны перад канцом першага стагоддзя хрысціянства. Найвышэйшы росквіт патрыстычнай літаратуры быў некалькі стагоддзяў пазней і звязаны з імёнамі Іаана Златавуснага, Васіля Вялікага і Грыгорыя Багаслова Назіянзіна. Сярод шматлікіх накірункаў у кніжнай патрыстыцы найбольшае развіццё атрымалі два: пісанні экзэгетычныя, якія тлумачылі Святое Пісьмо, і

[110] *Ясиновський Ю. П.* Українські та білоруські нотолінійні Ірмолої 16—18 століть. С. 52.

[111] *Неўдах У.* Cantantibus organis. Беларуская арганная культура ў кантэксце еўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу. Мн., 1999. С. 63—65.

[112] *Przywecka-Samecka M.* Drukarstwo muzyczne w Europie do końca XVIII wieku. Kraków, 1987. S. 259—261.




*Катэхізіс. Разгорт кнігі пры пачатку 143-га псальма «Domine exaudi orationem». (У праваслаўнай і каталіцкай традыцыі гэта псальм 142: «Галасна крычу я да Госпада».) Вільня, друкарня Яна Карцана, 1598 г.*

пісанні гамілітычныя, скіраваныя да чытачоў і слухачоў, што прагнулі духоўнага навучання.

Рукапісныя кнігі з творамі Айцоў Царквы трапілі ў ВКЛ як частка спадчыны часоў Старажытнай Русі. Аднак старых спісаў і раней зробленых перакладаў было недастаткова, бесперапынна ствараліся новыя. Асабліва значныя памеры гэтая дзейнасць набыла ў XVI ст. Вельмі папулярная ў XVI—XVII стст. кніга кракаўскага прафесара Мацея Мяхоўскага (каталіка па веравызнанні) «Tractatus de duabus Sarmatiis...» («Трактат аб двух Сарматыях...»)[113] паведамляла чытачам наступныя звесткі пра рэпертуар кніг праваслаўных жыхароў ВКЛ: «Рускія з'яўляюцца паслядоўнікамі вучэння грэцкіх дактароў і багасловаў, пераважна Васіля Вялікага, Грыгорыя Назіянзіна і Іаана Златавуснага. Грыгорыя Назіянзіна яны называюць на сваёй мове багаслоў (bogoslow), што па-латыні значыць праслаўіцель Бога. Яны прызнаюць і нашага святога Грыгорыя, папу Рымскага, асабліва яго кнігі Маралі, чытаюць яго ў перакладзе і на сваёй мове называюць беседнік (besednik), што значыць аратар, прапаведнік альбо дарадца»[114]. Захаваныя да нашага часу спісы твораў Айцоў Царквы пацвярджаюць гэтую інфармацыю, нават сведчаць пра больш шырокі рэпертуар. Пералічым кнігі, у якіх захаваліся творы найбольш значных аўтараў.

**Св. Васіль Вялікі** (329—378) быў адным з слынных хрысціянскіх настаўнікаў і пісьменнікаў поруч з Грыгорыем Багасловам і Іаанам Златавусным. Ён пакінуў багатую спадчыну, у тым ліку дзевяць гутарак на шасціднеў, шаснаццаць гутарак на розныя псальмы, сем аскетычных трактатаў, манаскія правілы ў двух (прасторнай і кароткай) рэдакцыях, кнігу «Пра Святога Духа», некалькі казанняў і інш. Вялікую папулярнасць сярод вернікаў Васіль Вялікі набыў праз аскетычны вобраз жыцця, бясстрашную абарону прыгнечаных, апякунства над беднымі. Яго правілы сталі асновай жыцця манахаў у ВКЛ — як праваслаўных, так і уніяцкіх, якія на манер рымска-каталіцкага манаства былі арганізаваны ў ордэн св. Васіля Вялікага (базыльяне). Рукапісныя спісы твораў гэтага выдатнага ба-

113 Выдадзена ў 1517—1634 гг. восем разоў на латыні, двойчы (у 1518 і 1534 гг.) па-нямецку, тройчы (у 1535, 1541 і 1545 гг.) па-польску, чатыры разы (у 1561—1634) па-італьянску.
114 *Меховский М.* Трактат о двух Сарматиях. М.; Л., 1936. С. 97—98.

гаслова меліся ў кожным базыльянскім манастыры, сведчанне таму — два захаваныя кодэксы.

Першы — вялікага (in folio, 311 арк.) фармату кніга са «Словамі пра пасніцтва» св. Васіля Вялікага — быў створаны ў Супрасльскім манастыры ў XVI ст. (БАНЛ, F19-53.). У пачатку, пад кінаварнай застаўкай балканскага тыпу, на 23 аркушах перапісаны ўводны тэкст: «Іже в святых отца нашего Амфилохіае епископа Иконіискаго. Слово о велицемь Василіи и о чюдесехь его». Потым, пасля кінаварнай застаўкі, ідзе «Предсловіе посническым словесем иже в святых отца нашего Василіа Великаго архіепископа Кесарія Кападокіискыя», далей змест і тэксты «Слоў...».

У канцы кнігі (пачынаючы ад аркуша 294 адв.) спісана «Премудраго Георгіа Писида похвала Богу о сътвореніи Всея твари» з прыпіскай, якая зроблена кінаварам тым самым почыркам, што і перапісанае Слова: «в лето 6893 (1385) переведено быс сіе слово святого и премудраго Георгіа Писида от греческых книг на рускыи язык Дмитріем Зографом». Мова перакладу, як адзначае сучасны даследчык (Г. Прохараў), хоць і названа рускай, не адрозніваецца ад мовы перакладаў, зробленых у XIV ст. паўднёвымі славянамі на Балканах, а само імя перакладчыка — Зограф — дазваляе дапусціць, што ён быў балгарынам альбо сербам.



Трыфалагіён. Гравюра-дрэварыт з выявай св. Васіля Вялікага. Куцейна, 1647 г.

Яшчэ адзін захаваны рукапіс з творамі св. Васіля Вялікага таксама належаў Супрасльскаму манастыру. Флавіян Дабранскі вызначыў яго як Статут з living рознымі дадаткамі, пісаны на беларускай мове ў XVII ст. Гэтая кніга змяшчае «Статут іже во святых отца нашего Васілія Великого архіепіскопа Кесарія Кападокійскія, обшчему житію пачальніка» (арк. 1—106), а таксама малітвы і разважанні на ўсялякія выпадкі жыцця. Сярод іншых ёсць тэксты, перапісаныя лацінкай, напрыклад «Jesus Chrystus: punkta pokory» (53 пункты). Усяго кніга мае 134 аркушы фармату in qvarto (БАНЛ, F19-54).

Глыбокая зацікаўленасць творчасцю св. Аўгусціна з яго канцэпцыяй наканавання, якое вядзе чалавека да выратавання альбо да пагібелі, выявілася ў зборы яго твораў «Разважанні ў пяці тамах. Таемныя казанні, зброя духоўная, пра скруху сэрца, пра марнасць свету...», выдадзеным Віленскай акадэмічнай друкарняй у 1617 г. Пераклад з лацінскай на польскую мову зрабіў бабруйскі старасціч Пётр Казімір Трызна[115].

**Св. Грыгорый Багаслоў** (Грыгорый Назіянзін, 328—390 гг.) — сучаснік і сябра Васіля Вялікага, славуты прапаведнік. Да нашага часу дайшлі яго творы — 242 лісты да розных асоб, 507 вершаў і 45 прамоў, сярод якіх самыя важныя — пяць Слоў пра багаслоўе, у абарону праваслаўя супраць арыянаў. У ВКЛ былі вядомыя некалькі спісаў 16 Слоў св. Грыгорыя Багаслова з тлумачэннямі Мікіты, епіскапа Іраклійскага. Творы гэтага аўтара звычайна перапісвалі ў кнігах вялікага фармату. У канцы спіса XVI ст., які належаў Жыровіцкаму манастыру (F°, 377 арк.), маецца «Жыціе і жыццё іжэ ў святых айца нашага Грыгорыя Багаслова, архіепіскапа Канстанцінаграда, спісана Грыгор'ем, вучнем яго» (БАНЛ, F19-55).

Супрасльскаму манастыру належаў спіс 16 Слоў св. Грыгорыя Багаслова з тлумачэннямі Мікіты, епіскапа Іраклійскага, датаваны

[115] У 1788 г. акадэмічная друкарня перавыдала гэтую кнігу.

XVI стагоддзем (F°, 465 арк.). На ніжняй дошцы пераплёту гэтай кнігі захаваўся дакладна датаваны запіс: «року 1598 служил ту в Супрасли дяк Михайло с Киева, аминь» (БАНЛ, F19-56). Важнае значэнне мае запіс скорапісам XVI ст. на адгорце апошняга, 465-га аркуша, у ім упамінаецца вядомы іканаграфічны сюжэт, што ўваходзіць у кампазіцыю Пяцідзесятніцы (Сашэсце Св. Духа на Апосталаў): «О образе еже пішут у коруне седа, у червлених одеяніях з белым убрусом и подписан космос» — далей тлумачэнне гэтага вобраза, які аказваецца выявай д'ябла[116].

Словы з тлумачэннямі Мікіты, епіскапа Іраклійскага (F°, 583 арк.), XVI ст., перапісаны двума почыркамі. Пераклад першых васьмі Слоў адрозніваецца ад перакладу, што пададзены ў рукапісе БАНЛ, F19-56 з Супрасльскага манастыра (БАНЛ, F19-57).

**Св. Грыгорый**, папа рымскі, у лацінскай традыцыі Грыгорый Вялікі, быў вядомы сярод праваслаўных ВКЛ як Грыгорый Дваяслоў, альбо Бяседнік. Яго твор «Regula pastoralis» вучыць, якім павінен быць пастар і як ён павінен выконваць свае абавязкі, — кніга і да сёння неабходная ўсялякаму святару і епіскапу. Другі твор Грыгорыя Дваяслова — «Гутаркі аб жыцці і цудах італійскіх айцоў». Гэтая кніга, у якой гаворыцца, між іншым, пра замагільнае жыццё, шырока распаўсюджвалася ў ВКЛ. Сярод захаваных спісаў:

1. Гутаркі на Евангелле. Пергаменны спіс другой паловы XIII ст. На адгорце 1-га аркуша — мініяцюра з выявай Ісуса Хрыста, св. Грыгорыя і св. Яўстафія. На арк. 41 адв. пазнейшы запіс: «о(т) кн(я)зя Юрья Семенови(ч)...». Асобу князя можна суаднесці з князем слуцкім Юрыем Сямёнавічам Алелькавічам, вядомым у свой час кніжнікам (РНБ, Пог. 70).
2. Гутаркі. Пергаменны спіс з Супрасльскага манастыра. XIV ст. 214 арк. (БАНЛ, F19-3).
3. Гутаркі (F°, 145 арк.). XVI ст., з Супрасльскага манастыра; копія пергаменнага супрасльскага спіса (БАНЛ, F19-58).
4. Гутаркі (4°, 398 арк.). XVI ст.; спіс гэты належаў Навагрудскаму, а потым Жыровіцкаму манастырам. Спіс з супрасльскага пергаменнага арыгінала зроблены некалькімі кнігапісцамі. Пасля 212-га аркуша ідуць дадаткі, розныя заўвагі. У прыватнасці: «В лето 778 быше на 7 соборе Адріян, папа Рымскы»; у вынасцы да гэтага месца на арк. 211 адв. пералічаны папы, што былі пасля Адрыяна да Стэфана III: «І все православни быша исповедающе знамене православныя веры еже есть верую во единого бога, яко ж предано бысть от святого 1-го собора аж до 6 і 7 как от отца единого Дух святый исходит и на сыне почивает. По Стефане 3 — Фармос папа. Сей до конца веру разрушил». На арк. 397 адв. гэтага рукапісу запіс кніжніка: «Книги любящіе тыи ж суць христолюбци, любящи бо книгу, в правду христолюбец называется». На адгорце 217-га аркуша пералічаны 14 асоб, што насілі імя Ісус. Першы — Ісус Хрыстос, 14-ы — Ісус Сямей (БАНЛ, F19-59).

Захаваўся толькі ўрывак з твораў Грыгорыя Сінаіта ў спісе XVI ст., 21 аркуш памерам in qvarto (БАНЛ, F19-60). Сярод ацалелых артыкулаў Словы: «Пра душэўнае прычасце», «Пра намеры», «Пра пакуты», «Пра дагматы», «Пра страсці», «Пра дабрадзействы», «Пра маўчанне».

Перапісаныя Словы св. авы Дарафея († 620 г.) вядомыя нам па кнігах, што выйшлі з супрасльскага скрыпторыя. Кароткая біяграфія аўтара ў пачатку 3-га Слова паведамляе, што ён быў манахам манастыра авы Серыда (у Сірыі), а потым ігуменам уласнага манастыра [блізка ад Газы]. Ён жа запісаў для нашчадкаў аскетычныя навукі сваіх настаўнікаў: «айца Іаана глаголемага, прарока», «канечнага маўчання айца Варсануфія» і авы Засімы. Вядомыя два спісы яго твораў — адзін асобнай кнігай, а другі — разам з творам Ісаака Сірына (Ісаак Сірын і ава Дарафей. Павучанні з рознымі дадаткамі. F°, 388 арк., XVI ст., з Супрасльскага манастыра) (БАНЛ, F19-63).

**Прападобны Яфрэм Сірын** — адзін з Айцоў Царквы, у творах якога выразна гучаць эсхаталагічныя тэмы. Яго можна назваць не проста багасловам і прапаведнікам, але таксама і тайнабачцам апошніх часоў. Найбольш поўны рукапісны спіс яго «Павучанняў» датуецца XVI ст. Кніга гэтая мае 294 аркушы памерам folio і перапісана ў Супрасльскім манастыры (БАНЛ, F19-62). Папулярнасць Слоў Яфрэма Сірына вынікала са зместу — тут шмат хараша напісаных невялікіх казанняў на розныя выпадкі жыцця: «Як выпадае хрысціяніну доўгацярпліваму быці і не зласліваму», «Пра цярпенне», «Пра тых, хто не мае цярпення», «Пра ману», «Пра зай-

[116] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... С. 172.

здрасць і ляноту», «Пра ўстрыманне», «Пра неўстрыманне», «Пра маўклівасць» і да т. п.

Айцец Царквы **Ісаак Сірын** жыў у VII ст. Нарадзіўся і жыў у Ніневіі, пад канец жыцця адышоў у пустыню ў Егіпет. Сучасным (як і познесярэднявечным) багасловам вядомыя яго 99 павучанняў (сірыйскаму пісьменніку XIII ст. Эбед-Іезу былі вядомыя 133 павучанні, якія захаваліся ў арабскіх перакладах, а ўсяго Ісаак Сірын пакінуў, па словах Эбед-Іезу, сем тамоў «Павучанняў»).

1. Найбольш старажытны спіс (XV ст.) захоўваецца ў РНБ. Гэта частка некалі вялікага зборніка з запісам пра прыналежнасць кнігі Паўлу Дабрахотаву. Захавалася частка прыпіскі, якая паведамляе аб спісанні гэтай кнігі ў Смаленску «рабом божым Цімафеем» (F.I.476.).

2. Спіс «Павучанняў» Ісаака Сірына з Супрасльскага манастыра быў уключаны ў зборнік, які змяшчаў таксама Словы авы Дарафея. У канцы «Павучанняў» (арк. 239) прыпіска перапісчыка, у якой раскрыты эмацыянальны стан кнігапісца пры заканчэнні працы: «Радуеться корьмчник в тишину прастав, а странный пришед в отчьствіе свое, а книжный съписател дошед книг конца сего...» (БАНЛ, F19-63).

3. З Жыровіцкага манастыра паходзяць «Павучанні». F°, дэфектны паасобнік, захаваліся арк. 14—128 (БАНЛ, F19-64).

Безумоўна, найбольш папулярны ў кніжнасці ВКЛ аўтар — **Іаан Златавусны**. Ён нарадзіўся ў Антыахіі ў 347 г., быў епіскапам Антыахійскім, а потым Канстанцінопальскім. Яго выступленні супраць раскошы і нікчэмнасці, заступніцтва за бедных і заклікі да дабрачыннасці багатыя візантыйцы палічылі ўзбуджэннем антаганізму паміж саслоўямі і ў 404 г. выслалі Іаана спачатку ў горад Кукуз у Арменіі, а потым на Каўказ, у Піцунду, па дарозе куды ён і памёр у 407 г. Найвышэйшы ўзровень яго пісьменніцтва дасягнуты ў экзэгетыцы — тлумачэнні Святога Пісьма. У сваіх творах Іаан выкарыстоўваў як Словы (казанні) на розныя выпадкі, на дні памяці святых і г. д., якія вылучаліся адзінствам і рытарычна-правільнай структурай; так і такую форму пропаведзі, як гамілія (тлумачэнне пад час літургіі прачытанага месца Святога Пісьма), якая давала большы прастор свабоднай асацыяцыі ідэй. Сярод рукапісных кніг з творамі Іаана Златавуснага захаваліся:

1. Жыціе і 6 Слоў (F°, 324 арк.), XVI ст., са Слуцкага манастыра (БАНЛ, F19-65).

2. Гутаркі на Евангелле ад Матфея (4°, 630 арк.), двума почыркамі, з Жыровіцкага манастыра (БАНЛ, F19-66).

3. Гутаркі на Евангелле ад Іаана (F°, 574 арк.), XVII ст., з Супрасльскага манастыра (БАНЛ, F19-67).

4. Гутаркі на Пасланні Рымлянам (F°, 349 арк.), XVII ст., уклад Пінскага і Тураўскага епіскапа Паісія Сухоўскага (пам. у 1626 г.) у Жыровіцкі манастыр у 1620 г. (БАНЛ, F19-68).

5. Павучанні (огласительные і тайноводные) і жыціе св. Іаана Златавуснага (4°, 401 арк.), XV ст. На арк. 1 запіс: «Манастыря Дубенскаго Св. Спаса мон. виленскому Св. Тройцы пожичона». Мае ex libris Жыровіцкага манастыра (БАНЛ, F19-70). Захавалася яго кніга «Павучанні» (F°, 139 арк.), XVI ст., з Супрасльскага манастыра (БАНЛ, F19-71).

Цалкам альбо пераважна са Слоў Іаана Златавуснага складзены і папулярныя ў ВКЛ зборнікі розных аўтараў: «Златаструй» і «Златавуст». «Златаструй» уключае ў сябе ў поўнай рэдакцыі 136 артыкулаў, выбраных з розных твораў Іаана Златавуснага. Ён быў складзены ў Балгарыі пры цару Сімяоне (IX ст.). Гэты зборнік прызначаўся для хатняга чытання. Найбольш распаўсюджаны ў праваслаўным рэгіёне зборнік «Златавуст» выкарыстоўваўся як для хатняга, так і для царкоўнага чытання. Казанні падабраны і размешчаны тут па парадку гадавога царкоўнага круга, па тыднях, пачынаючы з тыдня «мытара і фарысея».

Творы Сімяона новага Багаслова захаваліся ў кнізе (4°, 163 арк.) XVI ст. з прыпіскай: «з монастыря Дерманскаго пожичона монастырови виленскому Св. Тройци» (БАНЛ, F19-72). У XVIII ст. гэты рукапіс захоўваўся ў бібліятэцы Жыровіцкага манастыра.

Жыцці святых, якія выкарыстоўваліся для набажэнстваў і былі папулярнымі для чытання, змяшчала спецыяльная кніга — Пацярык. У залежнасці ад пабудовы і зместу распаўсюджаныя ў ВКЛ Пацерыкі падзяляюцца на кіева-пячэрскі (прыкладам можа быць рукапісная кніга XVI ст. з Жыровіцкага манастыра; зараз у БАНЛ, F19-86.), азбучны і іерусалімскі (захавалася рукапісная кніга XVI ст. з Супрасльскага манастыра; зараз у БАНЛ, F19-85.), скіцкі (узорны спіс — Пацярык скіцкі XVI ст. з Супрасльскага манастыра), з якіх найбольш папулярны — кіева-пячэрскі Пацярык. Друкаваныя ў друкарнях ВКЛ Пацерыкі на славянскай, альбо старабеларус-



SPLENDOR
SLVSZCIANORVM SIDERVM
INTER FVNEBRES ETIAM TENEBRAS
ILLVSTRISSIMI DOMINI
D. ALEXANDRI
SŁVSZKA
Palatini Trocensis, Rzeczycensis, Homelensis
Propoyscensis &c.&c. Capitanei
ILLVSTRISSIMVS,
FVNEBRI ELOGIO
REPRÆSENTATVS &
ILLVSTRISSIMIS, DOMINIS
D. BOGVSLAO
SLVSZKA
M.D.L. CVRIÆ THESAVRARIO
Capitaneo Rzeczycensi
D. SIGISMVNDO
SLVSZKA
Homelensi & Propoiscensi Capitaneo
FILIIS
DEDICATVS
Ab Adamo Francisco Boczkowski Sacræ Theologiæ & Iuris. vtriusq.
in Academia Vilnensi Auditore
Vilnæ Typis Academicis Soc. IESV 1647

*Панегірык Адама Бачкоўскага «Бляск Слушкаўскіх зорак». Вільня, 1647 г. Кніга прысвечана сынам троцкага ваяводы — рэчыцкаму старасце Багуславу, гомельскаму і прапойскаму старасце Жыгімонту Слушкам.*

кай, мове невядомыя. Але велізарнай папулярнасцю карыстаўся зборнік Пятра Скаргі «Жыцці святых», які неаднаразова выдаваўся па-польску. Яго часта перакладалі на славянскую (альбо на старабеларускую) мову і распаўсюджвалі ў спісах. Манахі-базыльяне часам складалі свае жыційныя зборнікі, кшталту агіяграфічнага зборніка, у змест якога ўвайшлі акрамя ўсяго «Жыцие святога Міколы», жыцці Афанасія Александрыйскага, Пятра Афонскага, Паўла Фівейскага і іншых святых (сярэдзіна XVI ст., Чарэйскі манастыр),[117] аднак ні адзін з іх не стаў такі папулярны, як кніга Скаргі.

**«Абразы без асоб»**. Сярод іншых царкоўных кніг вылучаюцца Памяннікі, альбо Сінодзікі. Шырокае іх распаўсюджанне вызначаецца царкоўным звычаем памінання нябожчыкаў у пэўныя дні сядмічнага і гадавога кола, часцей за ўсё па суботах, адкуль і другая назва Памянніка — «Суботнік». Імёны для памінання запісвалі ў пэўным парадку (з нязначнымі адрозненнямі): напачатку службі царквы па ранжыру (ад патрыярхаў і мітрапалітаў да дыяканаў), затым свецкія ўладныя асобы і на заканчэнне астатнія ў ханалогіі. Напрыклад, Супрасльскі Памяннік меў такі склад: пасля агульнага памінання «цароў і царыц, князёў і княгінь, патрыярхаў, архіепіскапаў, епіскапаў, святароў, манахаў, дыяканаў і ўсіх хрысціян» названы імёны 70 кіеўскіх мітрапалітаў, а таксама епіскапаў розных праваслаўных епархій ВКЛ[118]. Епіскап Ніканор (Каменскі), які даследаваў Супрасльскі Памяннік, звярнуў увагу на тое, што ў пергаменным арыгінале выразаны аркушы, якія павінны змяшчаць памінанні цароў і патрыярхаў: «Может страха ради эти листы были благовременно сокрыты от злых взоров, недовольных рускими Самодержцами и Восточными патриархами. А может быть эти злые люди и сами вырвали неугодные им страницы»[119]. Каго з пануючых асоб і патрыярхаў паміналі і каго не паміналі ў праваслаўных манастырах ВКЛ у розны час — вельмі цікавае пытанне, на жаль, пакуль не вывучанае гісторыкамі.

Стэфан Каханевіч, перапісваючы Супрасльскі Памяннік у 1631 г. з пергаменнага арыгінала ў новую кнігу (на паперы), надпісаў імёны і даты жыцця мітрапалітаў; паміналіся 32 смаленскія і 2 валынскія архіепіскапы, потым архімандрыты і ўся брацця Супрасльскага манастыра, потым пералічаны члены сям'і Хадкевічаў — фундатараў манастыра. Прыпіскі працягваліся да XIX ст., апошняй названа Людвіка Хадкевіч,

[117] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета... С. 192.
[118] *Лавровский Л.* Историко-критическая проверка каталога смоленских епископов, помещенного в синодике Супрасльского монастыря и в Требнике XVI века Московской синодальной библиотеки // Смоленские епархиальные ведомости. 1898. № 14. С. 780–781.
[119] Никанор (*Каменский Н. Т.*). Собрание сочинений. Казань, 1909. С. 931.

якая памерла ў Чарнобылі ў 1816 г. Далей запісаны манахіні віленскага Св. Тройцы і пінскага Св. Варвары манастыроў, пасля іх «роды христіанскія ото всех краевъ, что записалися в книги сія общия» — усяго 279 імён. Сярод іх шмат такіх, з якіх выйшлі вядомыя гістарычныя дзеячы, вучоныя, рэвалюцыянеры, падарожнікі, літаратары: Абуховічы, Багушэвічы, Гарнастаі, Грынявіцкія, Дзялыгі, Еўлашоўскія, Кміты, Калантаі, Каляды, Лышчынскія, Мялешкі, Петрашэвічы, Петрашэўскія, Стацэвічы, Тышкі, Трызны, Ходзькі, Чапліцы, Яблонскія і інш. Шырокі і геаграфічны ахоп запісаных у Супрасльскі Памяннік родаў. Акрамя жыхароў блізлеглых да манастыра населеных пунктаў запісаны цэлыя сем'і і асобныя людзі з Бельска, Бераставіцы, Берасця, Володымера, Вільні, Гродна, Любліна, Магілёва, Пінска, Полацка, Слуцка, а таксама з Маскоўскай дзяржавы — Тарапца і Разанскай зямлі.

Акрамя памяннікоў-кніг бытавалі памяннікі някніжнага віду. Некаторыя з іх былі напісаны на адным баку вузкага ліста пергаміна, мелі багатую арнаментацыю. Захоўваліся яны як сувой — яго раскручвалі і чыталі пры памінанні. Да такога тыпу належыць родавы памяннік Сангушкаў (БАНЛ). Падобны памяннік называецца і ў завяшчанні святара Віленскай Пакроўскай царквы Іаана Мацэевіча ад 1546 г.: «...которых же родителей моих пописавши есми имена их на списы, один список прыбил есми на столе, а други над жрътовником в тот обычай, иж по мне будущии свещенницы, служители тое Божественныя церкви Пречистыя Богородица Покрова, служачи в Божественной службе, когда бываець Литоргія, мають тые списы прочитати...»[120]. Такі тып памянніка не прыжыўся — галоўны недахоп яго ў тым, што плошча ліста (сувоя) абмежаваная і не было месца, каб упісаць памерлых пазней членаў сям'і.

Памяннік быў крыніцай даходу для манастырскага і белага духавенства. Так, у 1498 г. віленскія святары скардзіліся вялікаму князю Аляксандру Ягелону на мітрапаліта Макарыя: «хто калі ўпісвае ў цэркаў душы родзіцеляў сваіх у паміннік, ён дзей таго впісу брал на сябе палавіну» і прасілі, каб плата за ўпісванне ў памяннік — па старыне — «шла на попы»[121].



*Герб Слушкаў. З кнігі Адама Бачкоўскага «Бляск Слушкаўскіх зорак». Вільня, 1647 г.*

На жаль, не захаваліся і не вывучаны памяннікі, што складаліся пры цэнтральных саборных храмах праваслаўнай царквы ВКЛ — віленскіх Прачысценскім і Свята-Троіцкім, наваградскіх Прачысценскім і Барыса-Глебскім. А менавіта яны адлюстравалі заходнюю мяжу праваслаўя «персанальна», пералічыўшы імёны вышэйшай праваслаўнай шляхты і паноў ВКЛ. Найбольш раннія з за-

120 АСД. Т. 6. Вильна, 1869. С. 38.
121 АЗР. Т. 1. С. 174–175.

хаваных памяннікаў, што належаць да беларускіх зямель ВКЛ, датуюцца 1500 (Супрасльскі) і 1517 (Слуцкі) гадамі. Найстаражытны, верагодна, — Полацкі Памяннік, пра які паведаміў В. Ластоўскі: «Рукапіс гэтага надзвычайна цікавага Памянніка бачыў я ў 1912 г., у Барысаглебскім манастыры. Памяннік пачынаўся паміnаннем роду в. кн. Полацкіх, а ніжэй паміналіся роды кн. Менскіх-Глябовічаў, Лагойскіх, Вітабскіх, Друцкіх і інш. Кніга абыймала з лішнім сто пэргаменовых лістоў, без канца; мела маляваныя па золаце застаўкі, здаецца, па пісьму адносілася да XV—XVI стст. Перахоўвалася ў цёплай царкве, у скрынцы з рожнымі старымі паперамі. Добра разгледзіць гэты Памяннік не дала мне ігумення, быўшая прыдворная дама, нават пратэкцыя не памагла, казала, што яна мае перадаць памяннік нейкаму в. князю»[122]. Сляды аднаго з найдаўнейшых памяннікаў — Суботніка са Смалявіцкай Свята-Нікольскай царквы — згубіліся пасля Другой сусветнай вайны. У ім мелася прыпіска, якая сведчыла: Суботнік «сооруженный през свяшченно ієрія Давыда Сомовіча. 1507 г. мес. апрыля 16 дня, а з стараго у новый переведено през мене недостойнаго іерэя Пётра Сомовіча, презвітера тоей же церкві святонікольской Смолевіцкой року 1738 месяца февр. 20 дня»[123].

У царкоўных і манастырскіх памянніках рабілі не толькі кароткія памінальныя запісы, але адзначалі таксама некаторыя гістарычныя падзеі. Напрыклад, у пачатку Супрасльскага Памянніка паведамляецца аб заснаванні манастыра і пабудове цэркваў: «В лето от начла миру 1500 индикта 3, дозволениемъ вельможного пана, его милости пана Александра Ивановича Ходковича, начася съзидати сій монастыр, у его отчинной пущи Блудовской на край реки Супряслы. Верою и любовию, желаніемъ и трудом многогрешнаго священноинока игумена Пафнотія, родом из Бельска. І первие съоружися церковъ невелика въ имя святого Іоанна Бгослова... Потомъ, в лето 1502 индикта 7 съоружена бысть великая црквии Пречистыа Богоматере чьстнаго ея Благовещенія со приделы святых великомученикъ благоверных князей руских, Бориса и Глеба... Сия же святыя божих црквии священны быша освещенным епископом нареченнымъ митрополитом киевскимъ и всея Руси, кир Іоною, месяца октоврия въ 15 день, на памят преподбнаго отца нашего Еуфимия Новаго, и святого мученика Лукїана, презвитера великія Антиохія, индикт.7»[124].

Вядомы тры спісы Слуцкага Памянніка. Самы ранні, датаваны 1517 г., захоўваўся ў музеі імя Івана Луцкевіча ў Вільні, адзін знаходзіўся ў царкоўна-археалагічным музеі ў Мінску і адзін у Варварынскай царкве ў Слуцку. Апошні перапісаны ў 1684 г. і мае такі загаловак: «Сынодик албо зобраніе имен преставленых душъ, споражонки у року 1684 юліа 14 през отцев соборных на тот час будучых Саву Подтопу, Симіона, Ліонтія, Іоана Минкевичовъ, Матфея Богушевича и діякона Іакова Козюли».

Пачынаецца Памяннік ад вялікага князя Альгерда, далей пералічаны мужчынскія і жаночыя імёны з роду Алелькавічаў, потым ідуць імёны пінскага князя Фёдара Яраславіча, мінскіх князёў Глябовічаў, троцкага кашталяна Аляксандра Агінскага, шляхетных родаў Ваньковічаў, Барсуковічаў, Зверавых, Яцковічаў, Неміровічаў, Пажарыцкіх, Караткевічаў, Ляўковічаў, Лапіцкіх; працягваюць гэты спіс імёны слуцкіх мяшчан з прыпіскамі (даты смерці, побач з некаторымі ўпісаны прозвішчы) — усяго некалькі тысяч імён.

У мінскім паасобніку гэтага Памянніка ўпісаны імёны 82 манахаў кіеўскага Пустынскага манастыра. Тут жа спіс дамовы ад 20 лютага 1518 г. паміж ігуменам Пустынскага Мікалаеўскага манастыра Сергіем і Слуцкім Троіцкім архімандрытам Іосіфам аб узаемным бясплатным(!) упісванні ў Памянніку памерлых манахаў абодвух манастыроў пры ўмове пісьмовага пацверджання смерці[125].

Больш лакальныя, чым Супрасльскі, Полацкі і Слуцкі памяннікі ўключалі памінанні галоўным чынам жыхароў вакольных населеных пунктаў. Як прыклад можна прывесці Памяннік Грозаўскага Прадцечанскага манастыра. Яго пачалі перапісваць не пазней за 1579 г., запісы працягваліся да 1850 г. Акрамя святароў у ім памінаецца род Васіля, гаспадара малдаўскіх зямель, гомельскага старасты

[122] *Ластоўскі В. Ю.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 487.
[123] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета... С. 191.
[124] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... С. 180.
[125] АЗР. Т. 2. СПб., 1848. С. 124—125.




*«Жалобныя галасы сыноў пры пахаванні яе мосьці пані Ганны Капцёўны Друцкай-Горскай, старасціны аршанскай, ...яго мосьці пану Грыгорыю Юрыю Друцкаму-Горскаму, аршанскаму старасце, ...бацьку і дабрадзею свайму літасціваму прыніжаныя і разам жалобныя сыны Міхаіл і Сцяпан ахвяруюць».*
*Вільня, 1642 г.*

пана Мікалая Красінскага (пасля яго імя дапісана: памёр у Менску ў 1730 г.), роды паноў Говартаў, Тукальскіх, Загароўскіх, Ступінскіх, Сілічаў, Міхаіла Лапіцкага, слуцкага войта, Якуба Валковіча, род львоўскага мешчаніна Януша, капыльскага жыхара Зарубенкі і інш. Адным са «спісацеляў» Грозаўскага Памянніка быў іераманах Герасім Сваткоўскі, што скапіраваў гэтую кнігу 11 ліпеня 1767 г.[126]

Сінодзік Драгічынскага манастыра, перапісаны ў 1729 г. іераманахам Варлаамам Левікам, мае ўпрыгожаны мініяцюрай тытульны аркуш. Цікава, што ў ім пры памінанні караля Яна Казіміра той называецца толькі «Вялікі Князь»[127].

Сінодзік Дзятлавіцкага Праабражэнскага манастыра пачаў складаць ігумен манастыра, іераманах Дыянісій Вараноўскі 17 снежня 1753 г. Пасля пераліку вышэйшых іерархаў — кіеўскіх мітрапалітаў — ён перапісвае ігуменаў і братоў Дзятлавіцкага манастыра, між іншых упамінаецца іканапісец манах Мітрафан. Сярод людзей мірскіх названы роды Дашкевічаў, Дабрынскіх, Парэцкіх, Драздовічаў, Масловічаў, Кашынічаў з Турава, Стаднікаў з Давыд-Гарадка і інш. Запісы працягваліся да сярэдзіны XIX ст. Да Другой сусветнай вайны гэты Сінодзік знаходзіўся ў Дзяржаўным музеі Беларусі (паступіў туды з Мінскага царкоўна-археалагічнага камітэта, куды трапіў з Барысаўскага сабора).[128]

[126] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета... С. 191—192.
[127] Никанор (*Каменский Н. Т.*). Собрание сочинений. С. 956—960.
[128] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета... С. 191.




*«Спеў Гіменея». Гравюра Конрада Гётке да кнігі Адама Сулінскага — панегірыка на шлюб Георгія Якуба Шверына з Генцілішак і князёўны на Ковелі Еўфрасінні Сангушкі. Нявесту сімвалізуе багіня Дзіяна, якая сядзіць на вяршыні гары і грае на лютні. Бог Гіменей стаіць побач з гербамі маладажонаў і трымае ў левай руцэ факел з двума вянкамі, а ў правай — кальцо з надпісам «Aeterno Foedere iungo» — «Злучаю вечнай сувяззю». Вільня, 1644 г.*

Яшчэ больш сціплым з'яўляецца Памяннік маленькай прыходскай царквы. Як прыклад можна назваць Памяннік з Вялікай Рыты (зараз вёска ў Маларыцкім раёне Брэсцкай вобласці). Акрамя двух святароў, усе імёны ў ім належаць мясцовым сялянам з навакольных вёсак. На першай старонцы памінаюцца «убогие их же некому поменути, скитающиеся па вулицахъ, в ров упадаючые, и тые, которые не мели где головы прытулити»[129].

«Нашы Памяннікі — гэта «абразы без асоб», назовы, сэнс якіх затрачаны: імёны, імёны — і больш нічога! Устаноўленне рэальных асоб, скрытых пад гэтымі імёнамі, сістэматызацыя іх і пасьля дасьледаванне, г. зн. спастаноўка цэлага раду прыватных і дробных фактаў, якія-бы далі гэтым асобам гістарычныя комэнтары, пачэрпнутыя з рожных крыніц, і, урэшце, вывады з гэтай стугі фактаў, маючыя агульнае значэнне, вывады, высьняючыя падробнасці і асобнасці цэлай групы гістарычных падзей, вось якая праца над Памяннікамі чакае ў будучыне крыўскіх вучоных», — пісаў В. Ластоўскі[130]. Гэтая эмацыянальная рэпліка заклікае да гістарычных і генеалагічных даследаванняў і слушна прадказвае плён. Аднак нельга цалкам пагадзіцца з характарыстыкай памяннікаў як «абразоў без асоб». Пачынаючы з сярэдзіны XVII ст. побач з імёнамі часта ўпісваюць і прозвішчы тых, каго памінаюць; больш таго — памяннікі час ад часу пераглядаюцца і пры магчымасці рэтраспектыўна робяцца ўдакладненні і дадаткі. У прыватнасці, у 1631 г. Стэфан Каханевіч, перапісваючы Супрасльскі Памяннік, дапісаў вядомыя яму прозвішчы. У тым самым 1631 г. па благаслаўленні супрасльскага архімандрыта Аляксея Дубовіча былі зроблены дадаткі да манастырскага Памянніка. Паміж 38-м і 39-м аркушамі быў уклеены лісток малога фармату, на якім каліграфічна напісана: «Род з Тарапца маста з Масквы, шляхетнага Мацея Іаанавіча, які напісаў і надаў у манастыр Супрасльскі кнігу вялікую, рэкомую Дзесятаглаў. У лета ад стварэння свету 7015, року господня 1507-е». На адгорце такая заўвага: «Глядзі: гэты род, можа сто і больш гадоў не знаходзіўся ў памянніку Супрасльскім сярод запісаных душ. І ці было якое-нібудь ранейшых страіцеляў гэтай святой абіцелі альбо не было старанне аб памінанні гэтага рода, Бог ведае. Аднак за павяленнем цяперашняга яго міласці айца Аляксея Дубовіча, архімандрыта Віленскага і Супрасльскага, дзеля не забвенія і памінання тут упісаны». Чаму памяць пра кнігапісца Мацея Іаанавіча, альбо Мацея Дзесятага, не была ўключана ў Супрасльскі Памяннік адразу пасля яго смерці — невядома. Магчыма, што ён, адышоўшы ў манастыр для кнігапісання і перакладчыцкай працы, так і не быў пастрыжаны ў манахі (Мацей Іаанавіч — імя свецкае, другога ён не паведамляе) і «непамінанне» было яму помстай за гэта? Магчыма, аднак, што ён прыняў манаства пасля напісання Дзесятаглава і ўпісаны ў памяннік пад новым (манаскім) імем. А ў архімандрыцтва кніжніка Аляксея Дубовіча пра гэта ўжо не памяталі, і зрабілі памінальны запіс, абапіраючыся на звесткі з перапісанай Мацеем кнігі Дзесятаглава.

Як бы там ні было, мы бачым, што больш як праз сто гадоў кнігапісная праца Мацея Дзесятага прынесла яму і яго роду гонар і памінанне ў адным з буйнейшых і найбольш уплывовых базыльянскіх манастыроў Літоўскай правінцыі.

Традыцыя царкоўнага памінання жыла трывала, але паралельна з ёй ад XVI ст. развівалася новая традыцыя — памінання кніжнага, і нарадзілася цэлая традыцыя памінальных панегірыкаў — для чытання дома.

**Панегірычныя выданні.** У сярэднявеччы, калі большасць людзей заставалася альбо цалкам непісьменнай, альбо малапісьменнай, казанні святароў у храмах адыгрывалі надзвычай важную ролю — гэта і асветніцтва, і агітацыя з прапагандай, і гістарычны аповед. Кніжная форма казанняў — рукапісны (пазней таксама і друкаваны) зборнік альбо асобнае выданне. Як помнікі літаратурныя і царкоўна-публіцыстычныя, казанні можна падзяліць на сем груп: 1) вучыцельныя гаміліі, 2) арыгенаўскія тлумачальныя гаміліі, 3) дагматычныя словы, 4) казанні з крытыкай існуючых звычаяў, 5) хвалебныя словы, 6) надмагільныя прамовы і 7) патрыятычныя казанні[131]. У азначаны перыяд шырокай папулярнасцю карысталіся зборнікі нядзельных і святочных казанняў-навук, якія на пачатку

[129] *Скрынченко Д. В.* Из истории минского края // ЧОИДР. 1910. Кн. 3. С. 1—7. 4-й паг.
[130] *Ластоўскі В. Ю.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. С. 488.
[131] *Гроссу Н.* Исторические типы церковной проповеди // ТКДА. 1910. Кн. 2. С. 424—460.



*Дзесятаглаў (Супрасльскі зборнік 1502—1507 гг.). Шматколерны тэкст Псалтыра. Каліграфія Мацея Іаанавіча (Мацея Дзесятага).*

XV ст. пераклалі з грэцкай мовы на славянскую. Складанне такога тыпу зборніка і аўтарства асобных казанняў у грэцкіх рукапісах прыпісваецца Філафею, канстанцінопальскаму патрыярху (XIV ст.). Рукапісную традыцыю гэтага зборніка працягвалі выданні: заблудаўскае 1569 г. і віленскае 1595 г., крыху пазней — ужо ўкраінскае выданне — кнігі «рэктара і ігумена манастыра брацкага кіеўскага» Іянікія Галятоўскага «Ключ разуменія» (1659). Шырока выдаваліся аналагічныя творы аўтараў-каталікоў. Гэта перадусім «Kazania przygodne» Пятра Скаргі (1610) і «Kazania na niedziele swięta doroczne» Фабіяна Біркоўскага (1620), што развівалі жанр казання ў пануючым тады стылі барока. Аднак найбольшае распаўсюджанне ў кніжнасці ВКЛ атрымалі хвалебныя словы і надмагільныя прамовы. Адным з першых узораў гэтага жанру стала ўжо вядомая нам «Пахвала Вітаўту».




*Гравюра з гербам Мацея Вадарадскага і вершам на герб у кнізе доктара тэалогіі, францысканца Мікалая Лаўрыновіча «Хіраманція, альбо Казанне на пахаванні ковенскага чашніка Мацея Вадарадскага ў касцёле Найсвяцейшай Дзевы Марыі на Пясках, што прaзываецца францішканскі 2 чэрвеня 1643 году». Вільня, друкарня Акадэміі, 1643 г.*

З XVI ст. увайшло ў моду выдаваць асобнай кніжачкай казанне (казанні), падрыхтаванае (святаром-літаратарам) з нагоды якойнебудзь важнай падзеі ў шляхецкай сям'і: вяселля, нараджэння дзіцяці, смерці. Друкаванае казанне раздавалі гасцям пад час цырымоніі; часта выданне запазнялася і ўлучала ў сябе апісанне мінулай цырымоніі, ператвараючыся, такім чынам, у кнігу-помнік. Паколькі ў кожным выпадку галоўнай тэмай было ўзвялічыць прадстаўніка роду і цэлы род, кнігі гэтыя сталі называць «Панегірыкі» (ад лац. panigiris — узвялічваць). Загалоўкі такіх выданняў падрабязна пералічвалі тытулы асобы (асобаў), якой яны былі прысвечаны, у тым ліку галоўныя маёмасці, якімі гэтая асоба (асобы) валодае.

Уладанні буйных магнатаў былі раскіданыя па розных мясцовасцях ВКЛ. Бясспрэчна, многія захоўвалі сваё родавае гняздо, але шматлікія набыткі звычайна звязвалі гаспадара з іншымі ваяводствамі і паветамі. Эканамічныя сувязі вяльможнага магнацтва пашыраліся шмат якімі шляхамі: роднаснымі дачыненнямі паміж рознымі родамі (шлюбныя панегірыкі адлюстравалі гэты працэс), што прыводзіла да змены складу іх уладанняў шляхам спадкаемнасці; пажалаваннямі зямель за выслугу «на вечнасць»; нарэшце, набыццём дзяржанняў і застаў, якія нярэдка пераходзілі ў пажыццёвае карыстанне і нават спадчыннае ўладанне. Вяльможныя паны, што прыходзілі ў тую ці іншую зямлю ваяводамі, старастамі і намеснікамі, рабіліся мясцовымі землеўласнікамі, пускалі карані ў гэтую зямлю, не парываючы ранейшых сувязей.

Некалі, яшчэ на пачатку ўтварэння ВКЛ, праз такі працэс — гісторыкі часам называюць яго «ваенна-служылая літоўская каланізацыя» — ствараліся новыя сацыяльныя сувязі, якія знітоўвалі Вялікае Княства шмат мацней, чым маглі б гэта зрабіць толькі дачыненні палітычнай залежнасці. Пазней з'явы таго ж парадку прывялі на беларускія землі роды не мясцовага, а літоўскага паходжання — Алелькавічаў і Гедымінавічаў. Такія зямельныя і службовыя дачыненні пашыралі палітычныя далягляды вышэйшага грамадскага слою, вялі да ўтварэння агульнадзяржаўнай, калі так можна сказаць, зямельнай арыстакратыі як рэальнага носьбіта аб'яднальных тэндэнцый. У гэтым класе ляжаў і цэнтр цяжару самабытнасці ВКЛ, скіраванай супраць польскіх памкненняў да інкарпарацыі Літвы[132]. Пра «цесны свет» шляхты ВКЛ у сярэдзіне XVII ст. сведчыць панегірык францысканца Мікалая Лаўрыновіча «Хіраманція, альбо Казанне на пахаванне шляхетна народжанага яго міласці пана Мацея Вадарадскага, ковенскага чашніка, што прамаўлялася ў Вільні ў касцёле Найсвяцейшай Дзевы

[132] *Пресняков А. Е.* Лекции по русской истории. Т. 2, вып. 1. С. 206—207.




*«Жалобныя галасы сыноў пры пахаванні яе мосьці пані Ганны Капцёўны Друцкай-Горскай, старасціны аршанскай... Год гасподні 1642». Гравіраваны герб Копцяў з кнігі братоў Друцкіх-Горскіх.*

Марыі на Пясках... 2 чэрвеня 1643 г.»[133]. Прадмова звернута да Хрыстафора Хадкевіча — маршалка Трыбунала ВКЛ, віленскага ваяводы, крэўскага, вішнеўскага, беліцкага і іншага старасты: нябожчык быў яго швагерам і завяшчаў яму апякунства над сваімі дзецьмі. Лаўрыновіч падрабязна пералічвае сваяцкія сувязі Мацея Вадарадскага з шляхетнымі дамамі ВКЛ па першай і другой жонцы.

Большасць панегірычных брашур выдавалася на лацінскай мове, але сустракаліся выданні на старабеларускай і польскай (колькасць апошніх павялічылася ў XVIII ст.). Ад XVII ст. выдаваліся і двухмоўныя панегірыкі: асноўны тэкст пісаўся на лацінскай мове, а на заканчэнне дадаваліся скарочаныя пераклады (ці меншыя па памерах творы на тую ж тэму) па-польску — як, напрыклад, у віленскіх «Бляску слушкаўскіх зорак...» (1647) ці «Усходзе несмяротнай славы на заходзе смяротнага жыцця...» (1695)[134].

Усталяваўся тып брашуры-панегірыка: колькасць старонак у такой кнізе вагаецца ад чатырох да 20, звычайны фармат — у аркуш (F°) альбо ў чацвёртую долю аркуша (4°), на адгорце тытульнага аркуша гравіраваны герб той асобы, якой прысвечаны панегірык. Часам пад гербам альбо вышэй і ніжэй герба — верш «на герб». Наклады былі невялікія: адна-дзве сотні паасобнікаў. Усяго ў XVI — першай палове XVII ст. друкарні ВКЛ выпусцілі каля 400 розных панегірыкаў. Па змесце яны надзвычай цікавыя — гэтая гістарычная крыніца паказвае нам, якім уяўлялі чалавека Сярэднявечча яго сучаснікі[135].

Панегірыкі адрозніваюцца адзін ад аднаго асаблівасцямі аўтарскага падыходу. Так, Андрэй Рымша ў кнізе «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла», якую выдала Віленская друкарня Даніэля Ленчыцкага ў 1585 г., акрамя асноўнага тэксту — панегірычнай паэмы — змясціў 40-радковы лацінскамоўны акраверш, пачатковыя літары якога чытаюцца зверху ўніз: Christophorus Radivilus Palatinus Vilnensis (Хрыстафор Радзівіл, ваявода Віленскі). Аўтарамі панегірычных вершаў ў гэтай кнізе з'яўляюцца акрамя Андрэя Рымшы яшчэ Ян Радван і два паэты, схаваныя за крыптанімамі M. J. і J. K. Сучасны даследчык у другім з іх пазнае Яна Казаковіча, добрага прыяцеля Рымшы[136].

Вельмі папулярныя былі пахавальныя прамовы (эпіцэдыі) — яны складаюць каля 2/3 агульнай колькасці панегірыкаў. Класічным узорам гэтага жанру можна лічыць выданне 1642 г. на смерць княгіні Ганны Друцкай-Горскай. Княгіня памерла пасля

[133] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 550.
[134] Ibidem. № 805, 372; *Narbutienė D., Narbutas S.* XVII a. Lietuvos lotyniškų knygų sąrašas. № 103, 368.
[135] Як гістарычную крыніцу плённа выкарыстоўваў панегірыкі Марцэлі Косман (*Kosman M.* Litewskie kazania pogrzebowe z pierwszej połowy XVII w. // ORP. 1972. T. 17. S. 87—114).
[136] *Кавалёў С. В.* Гераіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. Мн., 1993. С. 50.




*«Nadzieia iasnie oswieconych, iasnie wielmoznych domow, z ziemi do nieba w Jerzym z Kozelska Oginskim woiewodzicu Trockim przeniesiona...». Панегірык на смерць троцкага ваяводзіча мсцібаўскага, радашковіцкага і дарсунішскага старасціча Юрыя Агінскага. У аснове кампазіцыі другога гравіраванага тытульнага аркуша партрэт шляхціца-хлопчыка і гербы сваякоў памерлага — Глябовічаў, Палубінскіх, Радзівілаў, Валовічаў, Агінскіх. Насычаны дэталямі малюнак другога тытула ўраўнаважваецца на развароце амаль пустой суседняй старонкай, на якой пасярэдзіне ў невялікай з наборнага друкарскага арнаменту рамцы фраза Менандра «Quem Deus amat, iuvenis moritur» — «Каго любіць Бог, таго забірае маладым». S.l. S.d. (1670 – 1684 г.).*


RELATIA
Prawdziwa dispu-
taciey Nowogrodzkiey / ktora się
działá dniá 9. Styczniá / Roku
Pańskiego 1616.
Y
Wyráźne okazanie wielkiey nie-
szczyrości Łukaszá Wadłowskiego
w opisániu tey disputáciey.
Wydána
Przez X. Marcina Gradowskiego
Commendarzá Nowogrodzkiego.
W Wilnie /
W drukárniey Iozefá Kárczaná.

*Градоўскі Марцін. «Праўдзівае паведамленне пра дыспут у Навагрудку... дня 9 студзеня... 1616, і дакладнае паказанне вялікай няшчырасці Лукаша Вандлоўскага ў апісанні таго дыспута...». Вільня, 1616. Акрамя палемікі тут ёсць інфармацыя аб працэдуры: у якой паслядоўнасці гаварылі дыспутанты, якія пытанні (па дамоўленасці бакоў) нельга было закранаць і г. д.*

няўдалых родаў, памёр і народжаны хлопчык, якога, верагодна, паспелі ахрысціць, бо фігуруе яго імя — Філон. Старэйшыя яе сыны — Міхал і Сцяпан, на той час студэнты Віленскай акадэміі, склалі 18 вершаваных «Плачаў» і выдалі асобнай кніжкай у акадэмічнай друкарні[137]. Багатая шляхетная сям'я заказала раскошнае выданне. Усе 13 аркушаў маюць шырокую арнаментальную рамку, а таксама арнаментальную застаўку на пачатку старонкі. Тэкст складаецца з вершаваных польскіх «głosyw», палову з якіх напісаў Міхал, а палову — Сцяпан Друцкі-Горскі. На асобных старонках тры гравюры: дзве з гербам Друцкіх-Горскіх і адна з матчыным гербам Копцяў. У вершах да гербаў свайго бацькі і маці (звяртаючыся да элементаў-знакаў кожнага герба) аўтары падкрэсліваюць, што і меч Друцкіх-Горскіх, і косы Копцяў неаднойчы секлі маскалёў (на пераслаўскіх палях), турэцкія і шведскія каркі.

Нават просты пералік назваў «Плачаў» сведчыць пра асаблівасці шляхецкай сямейнай культуры і светаўспрымання:

1. Зварот да бацькі Грыгорыя Юрыя Друцкага-Горскага, аршанскага старасты. Падпісана: Міхал Друцкі-Горскі, «прыніжаны слуга і сын».
2. Плач над Філонам, які народжаны некалькі дзён перад тым.
3. Плач над жаласнай смерцю радзіцелькі і брата разам.
4. Плач да яе міласці памерлай пані маці.
5. Плач да яго міласці пана бацькі.
6. Плач над жалобным яго міласцю панам бацькам.
7. Плач да яе міласці панны цёткі, панны Кацярыны Капцёўны, маршалкоўны Лідскай.
8. Плач да вялебнай яе міласці панны сястры Марыны Бянігны Друцкай-Горскай, манашкі ў законе св. Францыска.
9. Плач да тае ж вялебнае сястры.
10. Плач над Фёдарам, Мікалаем, меншымі братамі, і Кацярынай, паннай сястрой.
11. Над нашым гербавым мячом... плач.
12. Над самымі месяцамі (месяцы — элемент герба Друцкіх-Горскіх. — *М. Н.*) слязьмі вочы зацьміла... плач.
13. Плач над тымі ж гербавымі месяцамі.
14. Над гербавымі косамі іх міласцяў паноў Копцяў (з такім эпіграфам: «Гербава каса — толькі колам сабе скачаш: слухай Трэну над маткай — станеш і заплачаш)... плач.
15. Над крыжом гербавым іх міласцяў паноў Копцяў плач.
16. Апошняе развітанне яе міласці пані маці пры труне.
17. Плач пры ўкладанні ў труну яе міласці пані маці.
18. Апошняе развітанне з Філонам, родным наймендшым.

Масавая вытворчасць кніг панегірычнага зместу прывяла да стварэння стэрэатыпаў, а разам з гэтым да напісання дапаможнікаў і ўзораў па складанні панегірыкаў. Напрыклад, у Віленскай базыльянскай друкарні ў 1641 г. выйшла кніга «Сабранне розных актаў, якія пры сватаўстве, вяселлях, банкетах, пахаваннях і да таго падобных свецкіх забавах звыкла адпраўляць... з уключэннем розных вершаў на такія выпадкі... якія не заўсёды з рукава можна вытрасці». А праз тры гады, у

[137] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 319.

1644 г., універсітэт выдаў свой дапаможнік на такія ж жыццёвыя выпадкі — кнігу папулярнага прапаведніка Казіміра Яна Вайшнаровіча «Палітычны аратар, які служыць розным пахавальным актам», што стала ўзорам для многіх пакаленняў святароў ва ўсім Вялікім Княстве. Як прыклад можна прывесці выданні эпіцэдый Віленскай акадэмічнай друкарняй, дзе (дый у іншых) друкаваліся казанні, прамоўленыя не толькі ў храмах сталіцы і ваяводскіх гарадоў, але і ў правінцыі. Наступным дапаможнікам для напісання панегірыкаў стала ўжо памянёная намі кніга Іянікія Галятоўскага «Ключ разумення», якую выдаў ураджэнец Наваградка Міхал Слёзка — на той час знакаміты львоўскі друкар. Кніга Галятоўскага змяшчала «Навуку, альбо Спосаб злажэння казання» на розныя выпадкі жыцця (нядзельныя, на пахаванне і інш.).

Характэрнай асаблівасцю панегірыкаў як выданняў ёсць тое, што пераважная большасць з іх мае адну ілюстрацыю — герб асобы, якой панегірык прысвечаны. Звычайна выява герба займала адгорт тытульнага аркуша. Герб выконвалі ў тэхніцы гравюры на дрэве (дрэварыт) альбо гравюры на метале (медзярыт). Часам ніжэй герба змяшчалі вершы «на герб» на лацінскай, польскай, грэцкай, старабеларускай мовах. У асобных выпадках рабілі цалкам гравіраваны другі тытульны аркуш з партрэтам нябожчыка і складанай гербавай кампазіцыяй. Прыкладам можа быць выданне «Надзея яснавяльможных дамоў, перанесеная з зямлі на неба з Юрыем Агінскім, троцкім ваяводзічам...»[138]. Тэксты напісаны ад імя Віленскай езуіцкай акадэміі, выданне прысвечана троцкаму ваяводзе Марцыяну Агінскаму і яго жонцы Марцыбеле Агінскай (з Глябовічаў). У аснове кампазіцыі другога (гравіраванага) тытульнага аркуша партрэт шляхціца-хлопчыка і гербы сваякоў памерлага — Глябовічаў, Палубінскіх, Радзівілаў, Валовічаў, Агінскіх. Тэкст — вершы аб тым, якая страта для кожнага з гэтых родаў смерць Юрыя Агінскага. Насычаны дэталямі малюнак другога тытула ўраўнаважваецца на разгорце амаль пустой суседняй старонкай, на якой пасярэдзіне ў невялікай рамцы з наборнага друкарскага арнаменту змешчана фраза Менандра: «Quem Deus amat, iuvenis moritur» («Каго любіць Бог, памірае малады»). Год у кнізе не пазначаны, таму датаваць гэтае выданне мы можам толькі прыблізна — па часе, калі Марцыян Агінскі быў троцкім ваяводам: 1670 — май 1684 г.


OBRONA VERIFICACIEY OD OBRAZY MAIESTATV KROLA IE° MILOSCI CZYSTEY: Honor y Reputacię ludzi zacnych, Duchownych y Swietskich záchowuiącey:

PRZEZ SCRIPT SOWITA WINA.

NAZWANY:

Od zgromádzenia Cerkwie S. Troyce wydány: o obráze Máiestatu Królá Je° M. Honoru y Reputaciey ludzi zacnych Duchownych y Swietskich pomowioney.

Wydána przez Zakonniki Monástera Bractwá Wileńskiego Cerkwie S. Duchá.

w Wilnie: Roku Páńskiego.

*Мялет Сматрыцкі. Obrona verifikacyi. Тытульны аркуш (прозвішча аўтара ўпісана пяром). Вільня, друкарня манастыра Св. Духа, 1621 г.*

У склад розных рукапісных зборнікаў часта ўваходзілі **палемічныя творы**, аўтары якіх былі і праваслаўныя, і пратэстанты, і каталікі. З распаўсюджаннем кнігадрукавання палемічныя творы пачалі выходзіць асобнымі кнігамі. Колькасць такіх выданняў толькі ў XVI — першай палове XVII ст. склала каля 200, г. зн. прыблізна 12% усяго выдавецкага рэпертуару. Агляд больш як 350 паасобнікаў палемічных выданняў друкарняў ВКЛ паказаў, што найбольш папулярныя з іх, у прыватнасці творы Пятра Скаргі «Artes duodecim sacramentorum» і «Pro sacratissima Eucharistia», выкарыстоўваў і чытаў практычна ўвесь каталіцкі клір ВКЛ і Польшчы. Сярод палемічных пераважалі кнігі каталіцкіх (Антоні Пасевін, Эмануэль Вега, Андрэй Юргіевіч і інш.) і пратэстанцкіх (Сімон Турноўскі, Грыгоры з Жарноўца, Ян

[138] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576–1805. № 2219.




*Ліст канстанцінопальскага патрыярха Цімафея, які быў дадзены патрыярху іерусалімскаму, калі той ехаў да Масквы. Паралельнае выданне на грэчаскай і польскай мовах. Вільня, XVII ст.*

Немаеўскі і інш.) аўтараў. Нязначная кольсасць належыць праваслаўным (Мялет Сматрыцкі, Артолаг) і уніяцкім (Велямін Руцкі, Іпат Пацей і інш.) палемістам. Вывучэнне маргіналій паказвае, што большасць бытаваных на землях ВКЛ паасобнікаў спісаны заўвагамі на польскай, беларускай, лацінскай мовах, у той час як паасобнікі з манастыроў Польшчы маюць толькі экслібрысы сваіх бібліятэк[139].

Калі гістарычны час «сціскаецца» — а адзін з такіх момантаў быў напярэдадні прыняцця уніі, значэнне толькі што напісанага (надрукаванага) тэксту ўзрастае. Так у судовую пратэстацыю Лаўрэнція Зізанія быў уключаны адказ на галоўнае абвінавачанне яго на Наваградскім саборы 1595 г. са спасылкай на нядаўняе выданне Астрожскай друкарні: «...мы в Сына Божого единороднаго так верымо и люде учимо яко держит и учит святая Апостальская кафолическая церков православія Грэческаго, выразне о вочеловеченіи его, яко святый Златоусный учил и написал в книге Маргарите, якая теперь за старанем і накладом яснеосвецоного его милости княжати Острожского з друку вышла».

Рукапісная альбо старадрукаваная кніга, якая складаецца з двух ці больш самастойных тэкстаў (артыкулаў), традыцыйна называецца зборнікам. У кніжнасці ВКЛ яны прысутнічаюць спрадвеку — гэты тып кнігі прыйшоў у часы Кіеўскай Русі і ўзыходзіць да яшчэ больш ранняй візантыйскай традыцыі. Найбольш старажытныя рускія зборнікі — «Ізборнік» кіеўскага князя Святаслава 1073 г. і «Ізборнік» 1076 г. — у пазнейшыя часы неаднаразова спісваліся[140]. Вядома пра бытаванне такіх спісаў на тэрыторыі ВКЛ. Захаваныя да нашага часу зборнікі можна, услед за Ю. Лабынцавым, класіфікаваць па часе і спосабе складання, тэматычным змесце, аўтарстве, паходжанні аўтараў[141].

[139] *Topolska M. B.* Czytelnictwo książek wydanych na Litwie i Białorusi... Cz. 1. S. 203–237.

[140] *Бибиков М. В.* Рукописная традиция греческих списков прототипа Изборника Святослава 1073 г. // Византийский временник. 1993. Т. 34. С. 106.

[141] *Лабынцев Ю. А.* Некоторые вопросы кирилловского книгопечатания в Супрасле // Федоровские чтения 1978: Сборник научных трудов. М., 1981. С. 171–173.



первый КЕ

W starim Statucie Art 7 Ro: 7

Артыкулъ 19 ДІ Art 15

Артыкулъ 20 К Art 16

*Карыстальнікі кніг утылітарнага прызначэння часта пакідаюць на палях дадатковую патрэбную (карысную) інфармацыю. Старонка з трэцяга мамоніцкага выдання Статута ВКЛ з прыпіскамі ў пачатку кожнага раздзела: арабская лічба нумара артыкула (у друкаваным тэксце лічбы пададзены кірылічнымі літарамі), а таксама заўвагі аб тым, дзе знаходзіўся дадзены артыкул «W starim Statucie» (у старым Статуце). Вільня, Мамонічы, 1586 г. (РНБ. 1.2.6а).*


186 Rozdział Czwarty.

ROZDZIAL

187

Rozdział Piąty.

O odpráwie, posagu, y o wiánie.

ARTYKVŁ I.

Ktorym obyczáiem oćiec wydáiąc dźiewkę swą zá mąż, ma obwárowáć y vpewnić zápiśánie wiána od źięćia.

*Міналі стагоддзі. Змянялася мода на шрыфты, з'яўляліся іншыя стылі аздобы і прынцыпы арганізацыі тэксту. Заставаўся нязменны сам Статут. Разгорт выдання Статута ВКЛ з пачаткам раздзела пятага «Аб пасагу і вене» з друкарні Пятра Элерта (XVII ст., у стылі позняй готыкі).*

У сучасных курсах гісторыі літаратуры за адзінку літаратурнага працэсу бяруцца альбо адзін твор («Пахвала», «Хроніка», «Інтэрмедыя» і да т. п.), альбо творчасць аднаго чалавека (Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына, Мялет Сматрыцкі і інш.). Зборнікі, дзе змяшчаюцца розныя творы, пакуль ніхто не разглядаў як з'яву кніжнай культуры. Між тым у XV–XVII стст. у манастырскіх і свецкіх скрыпторыях стваралі шматлікія зборнікі, кожны з якіх уяўляў характэрную адзінку літаратурнага працэсу. Яны працягвалі традыцыю, што пачалася яшчэ ў Старажытнай Русі з «Ізборніка» князя Святаслава. Кожны «кнігалюбец» спісваў толькі тыя матэрыялы, у якіх была пільная патрэба, якія адпавядалі яго густу альбо падаліся яму важнымі. «З такіх выпісак «выбранага» і складаліся «Ізборнікі», якія з'яўляліся свайго роду энцыклапедыямі, што задавальнялі ўсім разумовым патрэбам таго часу, але ў той жа час насілі на сабе сляды індывідуальных асаблівасцей збіральніка. У гэтых дачыненнях яны і цікавыя, бо даюць магчымасць меркаваць аб тым, што ў кожную эпоху цікавіла нашых продкаў, якія пытанні іх хвалявалі, якога кшталту чытанне было распаўсюджана, так што, маючы пад рукамі больш альбо менш удала і поўна складзены зборнік, можна дакладна азначыць увесь светапогляд збіральніка»[142]. У кніжнай культуры ВКЛ былі распаўсюджаны два тыпы зборнікаў – трывалага зместу («Златаструй», «Ізмарагд», «Маргарыт», «Ізборнік» Святаслава) і зборнікі індывідуальныя, якія кнігаспісвальнік складаў паводле свайго жадання і на свой густ.

**Кнігі утылітарнага прызначэння**. Хоць экзэгетычныя і гамілітычныя тэксты па-ранейшаму ўключаюць у склад большасці чэцціх

[142] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... С. LII.



202 ROZDZIAŁ CZWARTY

bie mieć ma, iako o woźnych w tym Statucie ieſt opiſano, a zeznanie tego każdego woźnego w każdym Powiecie, i na każdym urzędzie, za mocne, i ważne przyimowane być ma. A w Ziemi Zmudzkiey dwa takowi Generałowie być mogą.

(a) Woźnych, Generałow, każdy Sąd, i Urząd do poſług ludzkich przydawać, i ich przyznanie przyimować ma, pod 100. grzyw: winy, 1576. O Woźnych, Generałach, *fol:* 291.

ARTYKUŁ CV. 105.

*O potwarzach.*

ZAbiegaiąc (a) temu, aby ludzie źli od potwarzy na ludzi niewinnych powściągnieni byli. Uſtawuiemy, ieśliby kto przebaczywſzy boiaźni Bożey, i wſtydu ludzkiego, rzeczy iakie zmyślone potwarne do ſądu doniosł, i ſprawy tey na kogo popierał, a toby ſię na niego pierwſzy raz iawnymi dowody, i ſłuſznymi znaki pokazało. (b) Tedy za to ſtronie tey, którą ſpotwarzył, winy powinien będzie zapłacić ſześć kop groſzy, A pokażeli ſię to wtóry i trzeci raz, tedy za każdym razem po temuż ſtronie przeciwney płacić powinien będzie. A ieśliby i czwarty raz toż ſię na tegoż, od kogokolwiek pokazało, tedy iuż takowemu nozdrza rozerzniona być ma, i iuż takowy potym aby nigdy do żadnego urzędu i do ſprawy przypuſzczon nie był. Wſzakże ſię to rozumieć ma tylko o iawnych potwarcach, a nie o tych ludziach, którzy abo dla uboſtwa, abo dla iakiey proſtoty, i nie umieiętności ſwey, abo też dla iakiego przypadku prawa ſwego ſobie nie dowiedzie, ci za potwarce rozumiani, i karani być nie maią. (c)

(a) Temu, któryby kogo potwarzył, za pierwſzy, wtóry, abo trzeci raz, po trzy grzywny ſtronie, także Urzędowi płacić ma, a ieśliby ſię czwarty kroć tego dopuścił, iuż więcey ku ſprawowaniu nie ma być przypuſzczon, ale za iego zły uczynek, nozdrza iako Wałachowi maią być rozerznione, beze-czci, i Szlachectwa zoſtałe. *Kaź: w Mesz: H. P.* 491.

Gdyby kto kogo kryminalnie, a potwarnie oſkarżył, wprzód uczynić *Scrutinium* o tey rzeczy, a gdy będzie przekonany, na twarzy znak mu maią przepalić. *Jan Olb:* 1493. *H. P.* 205.

(b) Od potwarzy kto odprzyſięga ſię, Delator żadney winie nie podlega. *Conſtit:* 1588. *fol:* 456.

Gdyby kto o Kryminał nieſłuſznie pozwał, i nie dowiodłby tego, winy grzywien 100, nie ſchodząc z Urzędu, i wſzyſtkie ſzkody, za przyſięgą płacić ma, do tego w wieży 12. niedziel ſiedzieć ma. *Conſt:* 1565. *fol:* 101.

(c) I o Paſzkwilach taż poena.

203

ROZDZIAŁ

PIĄTY

O ODPRAWIE POSAGU, I O WIANIE.

ARTYKUŁ I. 1.

*Którym obyczaiem Ociec wydaiąc dziewkę ſwą za mąż, ma obwarować, i upewnić zapiſanie wiana od zięcia.*

TEż (a) uſtawuiem, iż każdy obywatel tego Państwa, któregożkolwiek będąc ſtanu, wydaiąc dziewkę ſwą za mąż, i daiąc za nią poſag, abo wyprawę według dobrey woli ſwey. Naypierwey, niżli córkę za mąż wyda, ma od zięcia wziąć zapis pod pieczęcią, i z podpiſem ręki iego, kto piſać umie, i pod pieczęciami ludzi dobrych, którym on na trzeciey części imienia ſwego leżącego on poſag, to ieſt: pieniądze gotowe, złoto, ſrebro, perły, kamienie drogie, (b) ſowito ſzacuiąc, opiſać ma. A inſzą wyprawę, ſzaty, i wſzelakie ubiory, i chuſty białe, konie, kolebki, i wſzyſtkie inſze rzeczy ruchome, iednym ſzacunkiem bez ſowitości kładąc, opiſać ma, potemuż iako niżey opiſano. A potym on zapis onże zięć na pierwſzych rokach Ziemſkich ſądownie odprawuiących ſię przed ſądem Ziemſkim onego powiatu, w którym ta oſiadłość, na czym wiano zapiſano, będzie leżeć, ſam oczywiſto zeznać, i w Księgi Ziemſkie zapiſać dać ma, i na to zeznanie ſwe, że go ma na urzędzie uczynić, powinien będzie zięć Oycowi liſt ſwóy oſobny pod zarękami dać. A zgodzali ſię na to obie ſtrony, żeby taki liſt wianowany na urzędzie Grodzkim, nie czekaiąc Ziemſkich rokow był zeznan, to też wolno będzie, A potym ten zapis, Ociec, Matka, abo bliſcy żony iego przenieść maią do Ksiąg Ziemſkich, i iuż takowa oprawa ma być dzierżana u każdego prawa. Potemuż ſię Matka, bracia, ſtryiowie, i inni bliſcy około wydawania w ſtan

*Разгорт выдання Статута ВКЛ з пачаткам раздзела пятага «Аб пасагу і вене» з акадэмічнай друкарні.*
*Вільня, XVIII ст.*
*Аздоба кнігі — у стылі віленскага барока.*

зборнікаў, у XVI ст. з'яўляюцца кнігі з перавагай тэкстаў утылітарнага прызначэння: летапісы, спісы Статутаў і Трыбуналаў, гістарычныя творы, прыродазнаўчыя і г. д. Як прыклад можна назваць Жыровіцкі зборнік, які выйшаў са скрыпторыя рускай канцылярыі ВКЛ (названы па месцы пазнейшага перазахоўвання гэтай кнігі). У сярэдзіне XIX ст. ён быў вывезены з манастыра настаўнікам духоўнай семінарыі Паўлам Дабрахотавым, зараз захоўваецца ў Бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук.

Ужо адзначалася, што кніга з'явілася ў ВКЛ як прадмет рэлігійнага культу. Аднак функцыянальныя магчымасці яе сталіся нашмат шырэйшыя, і з развіццём дзяржавы і грамадства кніжная культура таксама рабілася больш разнастайнай. Зборнікі выбраных тэкстаў — як звычай іх складалі асобы, якія маглі карыстацца манастырскімі альбо прыватнымі кнігазборамі — ператвараліся ў зборнікі універсальнага зместу, а ўрэшце частка з іх вылучалася ў асобны тып кнігі: юрыдычная, інвентарна-гаспадарчая, кніга-архіў. У далейшым, у XVIII ст., сфарміравалася спецыялізацыя кніг па галінах ведаў.

**Зводы законаў свецкіх**. Прыкладам кнігі утылітарнага прызначэння могуць быць спісы (а ў далейшым і друкаваныя паасобнікі) зборніка законаў Вялікага Княства — Статута. Кадыфікацыя права адбывалася ў ВКЛ у тры этапы, на кожным з якіх дзейнічала асобная рэдакцыя Статута (некаторыя даследчыкі лічаць больш правільным гаварыць не пра эвалюцыю аднаго помніка, а пра тры асобныя Статуты — каб не затушоўваць перамен, што адбываліся ў ВКЛ на працягу 1529—1588 гг.)[143].

[143] *Бардах Ю.* Литовские Статуты — памятники права периода Возрождения // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976. С. 71—93.

Першы Статут быў прыняты ў 1529 г. Да нашага часу захаваліся чатыры спісы XVI ст. на старабеларускай мове (Фірлейскі і Замойскі ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, Дзялыньскіх у бібліятэцы ПАН у Курніку і Слуцкі ў РНБ у Санкт-Пецярбурзе), два на лацінскай [Лаўрэнцеўскі (Пфорцкі) у бібліятэцы гімназіі г. Шульпфорт, Германія, і Пулаўскі ў бібліятэцы ПАН у Курніку] і адзін польскамоўны (Альшэўскі, у зборніку змешанага зместу, які ўключаў таксама «Хроніку Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага») у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве.

6 снежня 1522 г. Жыгімонт I Стары падпісаў прывілей аб выданні Першага Статута[144]. Аднак надрукаваны ён не быў; адной з прычын гэтага стала, верагодна, спыненне дзейнасці друкарні Францыска Скарыны пасля пажару ў Вільні 1525 г.

На Брэсцкім сойме 1544 г. было абвешчана пра неабходнасць выправіць і надрукаваць асноўны закон. Калі на Віленскім сойме 1551 г. дэпутаты зноў паўтарылі просьбу аб тым, каб «Статут права посполитого земъского был поправлен а выдрукован», вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст адказаў, што ён «будет рачыл росказати оный Статут выдруковати и битым писмом выбити, абы вси вжо одностайное и неотъменъное право свое посполитое ведали и вунътъпенья никаторого в ним не мели»[145].

Другі Статут быў прыняты на Віленскім сойме ў 1566 г. У адпаведнасці з ім суды прымалі рашэнні; спісы яго разыходзіліся ў ВКЛ (у межах да Люблінскай уніі 1569 г.) даволі шырока. Паводле падлікаў Алдоны Васіляўскене, да нашага часу захавалася каля 40 спісаў Другога Статута[146]. Надрукаваць яго ў ВКЛ так і не змаглі. З аднаго боку, сам звод законаў шляхта не лічыла дасканалым, патрабавалася яго «даводка» і апрабацыя практыкай, з другога — яшчэ не было друкарні, якая магла б гэта ажыццявіць. Праўда, Радзівілы ўжо мелі магчымасці друкаваць лацінкай у Брэсце і кірыліцай у Нясвіжы. Але яны прапаведавалі новае хрысціянскае вызнанне — пратэстанцтва, чужое для праваслаўных і каталікоў. Аддаваць да друку ў адну з гэтых друкарняў важнейшую кнігу дзяржаўнага справаводства ніхто не пажадаў. Тут трэба памятаць, што ў 1566 г. Радзівілы яшчэ не мелі ні таго багацця, ні тае моцы і аўтарытэту, якіх яны дамагліся пазней, у канцы XVI—XVII стст.

За два гады перад выданнем Статута ў Мамонічаў выйшаў «Трибунал обывателем Великого Князства Литовского на сойме Варшавском даный» (1586). Тут былі надрукаваны «Спосаб абірання суддзяў», «Прысяга суддзяў», «Аб апеляцыях у рэчах крывавых...», «Способ выданя декретов судей головных» і іншыя пастановы, датычныя арганізацыі справаводства ў дзяржаве.

Трэці Статут адразу пасля прыняцця (у 1588 г.) быў надрукаваны кірыліцай на «рускай» мове, якая названа ў тэксце дакумента абавязковай для дзяржаўных чыноўнікаў: «пісар земскі мае па-руску літарамі і слоўмі рускімі пісаці а не іншымі мовай і словамі»[147]. На выпуск першага друкаванага выдання Статута былі выдадзены два прывілеі — дзяржаўнаму канцлеру Льву Сапегу (выдаўцу, які быў адказны за адпаведнасць друкаванага тэкста арыгіналу, што прыняў сойм і зацвердзіў кароль) і друкарні Мамонічаў. Пазней карыстальнікі для зручнасці часта пераплятaлі тэкст Статута з тэкстам Трыбунала 1586 г. Нягледзячы на тры «заводы», надрукаваныя кірыліцай, паасобнікаў не хапала, і гэта прыводзіла да неабходнасці перапісвання. Спісы з'явіліся адразу ж пасля прыняцця Статута. Найбольш ранні з вядомых быў зроблены ў 1589 г. у маёнтку Гадуцішкі (да Другой сусветнай вайны захоўваўся ў Берліне). Спісы Трэцяга Статута ўключалі таксама ў склад зборнікаў, якія змяшчалі інвентары і іншыя гаспадарчыя матэрыялы (адзін з такіх зборнікаў захоўваецца ў БАНЛ, F16-13.). У зборы ЦГАДА у Маскве ёсць спіс, зроблены ў 1643 г. (ф. 181, воп. 1, № 153(225), які мае ў якасці дадаткаў пазнейшыя змены, унесеныя ў Статут на соймах. Усяго ж спісаў Статутаў у XVI—XVII стст. налічваліся сотні.

У 1614 г. друкарня Мамонічаў паўтарыла выданне Статута ў перакладзе на польскую

[144] *Лаппо И. И.* Великое княжество Литовское во второй половине XVII столетия. Литовско-русский повет и его соймик. Юрьев, 1911. С. 268.
[145] РИБ. Т. 30. Стб. 184.
[146] *Василяускене А.-В. В.* Списки Второго Литовского статута на старобелорусском языке (палеография, хронология, дипломатика): Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Вильнюс, 1990. С. 4.
[147] Статут ВКЛ. Раздзел 4. Артыкул I. § 4.



ТРИБУНАЛЪ

ОБЫВАТЕЛЕМЪ ВЕЛИКОГО
КНЯЗСТВА ЛИТОВСКОГО.
НА СОЙМЕ ВАРШАВСКОМЪ
ДАНЫ. РОКУ, АФПА.

ВЪ ВИЛНИ
ВЪ ДРУКАРНИ МАМОНИЧОВЪ. РОКУ, АФПЅ.

*Большасць юрыдычнай літаратуры ў друкарні Мамонічаў у апошняй чвэрці XVI ст. выдавалася кірылічнымі шрыфтамі на старабеларускай мове. Трыбунал абывацелям Вялікага Княства Літоўскага. Тытульны аркуш. Вільня, 1586 г.*

мову. Выдаўцы надалі кнізе прыгожы і ўрачысты выгляд. Акрамя гатычнага шрыфту гэтай мэце служылі гравюры-ілюстрацыі: партрэт Жыгімонта I, дзяржаўны герб «Пагоня» і малюнак, на якім паказана пасяджэнне сойма. Адразу пасля тытульнага аркуша надрукавана прысвячэнне Лявона Мамоніча Льву Сапегу, у якім між іншым сказана: «...калі ведаю, што тыя рускія за пажаданнем В[ашай] М[іласці] майго міласцівага пана айцом маім року 1588 Статутаў В.К.Л. друкаваныя паасобнікі даўно ўжо паміж людзьмі разабраныя, а тых новаспарадкаваных (перад гэтым была гутарка аб тым, што практыка судаводства папаўняецца «людскімі новапрыдуманымі няпраўнасцямі», якія патрабуюць дадаткаў і рэдакцыі права. — *М. Н.*) доўга было б чакаць, а той грамадскай патрэбе і жаданню абываceляў В.К.Літ. В.М. мой М. пан ахвотна дагадзіць прагнеш, Рэчпаспалітую і дамовых сваіх любячы, цяпер зноў для тых, якія альбо рускай мовай чытаць ня ўмеюць альбо польскай часцей карыстаюцца, той самы Статут перад тым па-руску друкаваны, цяпер папольску мне ніжэйшаму і даўнаму слуге свайму друкаваць дазволіў і загадаў...».

Захаваныя спісы Другога Статута, таксама як спісы і паасобнікі Трэцяга Статута ВКЛ, часта маюць заўвагі на палях, датычныя асаблівасцей ужывання асобных артыкулаў і параграфаў закона. Прыкладам можа быць спіс з РНБ, дзе ёсць шматлікія папраўкі[148]. У сярэдзіне XVII ст., калі мамоніцкая друкарня ўжо не існавала, а паасобнікі Статута сталі дэфіцытам, выданне гэтай важнай ужытковай кнігі ажыццявіла ў 1648 г. Варшаўская друкарня Пятра Элерта.

Акрамя Статута, у распараджэнні «праўнікаў» ВКЛ абавязковай кнігай былі Канстытуцыі соймаў — рашэнні сойма мелі сілу закона і дапаўнялі (удакладнялі) Статут. Канстытуцыі выдавалі адразу ж пасля сойма і за права выдання змагаліся многія друкары. Вывучыць Канстытуцыі як асобны помнік прававой культуры ВКЛ — задача асобнага спецыяльнага даследавання. Аднак ужо назіранні за дынамікай і асаблівасцямі выдання такіх важных праўных дакументаў, якімі былі Канстытуцыі соймаў, дазваляюць зрабіць некаторыя высновы. Перадусім канстатаваць, што ў федэратыўнай Рэчы Паспалітай выданне Канстытуцый напачатку было «раскладзена» па саюзных сталіцах: у Кароне — кракаўскім друкарам (...Андрэй Пётркоўчык, потым яго сын, потым удава сына, потым Мікалай Аляксандр Шэдэль, Ян Даманоўскі), у ВКЛ — віленчукам Мамонічам. Мамонічы друкуюць Канстытуцыі вальных соймаў, што адбываліся ў Варшаве, спачатку на «рускай» (у 1586 г.), а потым на польскай мове (вядомыя выданні 1586, 1601, 1607, 1616, 1619, 1623 і 1624 гг.[149]). Пасля 1625 г. паралельнае кракаўскаму выданне ажыццяўляецца толькі ў Варшаве, спачатку Янам Расоўскім, потым Янам Трэльпінскім, Пятром Элертам, Карлам Шрайберам і, нарэшце, друкарняй ксяндзоў-піяраў.

У сямейных кнігазборах і бібліятэках дзяржаўных і царкоўных Канстытуцыі соймаў былі прадметам руплівага збірання. Ведаючы грамадскі попыт, друкарня Андрэя Пётркоўчыка падрыхтавала зборнае выданне Канстытуцый і Прывілеяў за 1550—1637 гг. Яно шырока разышлося і ў межах ВКЛ, напэўна было і ў Нясвіжскай бібліятэцы Радзівілаў. Як быў арганізаваны матэрыял, датычны ВКЛ, пакажам на прыкладзе велізарнага канвалюта з Нясвіжскай радзівілаўскай бібліятэкі, які ўлучае ў сябе Канстытуцыі ад 1637 да 1726 г. (Бібліятэка Расійскай Акадэміі навук) (табл. 3).

Як бачым, толькі двойчы (у 1678 г. у Гродне і ў 1699 г. у Вільні) выданне Канстытуцый зроблена ў ВКЛ. Што ж датычыць арганізацыі матэрыялу, то тут праз увесь час ідзе змаганне дзвюх пазіцый: 1) злучыць у адно; 2) даваць паасобку.

**Зводы законаў царкоўных**. Законы, па якіх жыла царква, спісвалі ў іншай кнізе. Называлася яна альбо як звод законаў свецкіх — Статут (з азначэннем Царкоўны), альбо Кормчая, альбо Номаканон. Адзін з цэнтраў перапіскі такіх кніг быў у Турава-Пінскай епархіі — найбольш старажытнай на землях ВКЛ. Захаваліся рукапісы XI—XIV стст., гісторыяй сваёй звязаныя з гэтым рэгіёнам, але месца іх стварэння дакладна невядома. Самыя раннія кнігі, якія мы можам суаднесці з галоўным кнігапісным цэнтрам у гэтай епархіі — скрыпторыем Пінскага Ляшчын-

[148] У гэтым спісе ёсць запэцканыя чарнілам радкі, аднак прачытаць іх немагчыма — нават крыміналісты Санкт-Пецярбургскай міліцыі, да якіх мы звярнуліся з гэтай просьбай, маглі толькі канстатаваць, што тэкст быў запэцканы чарніламі таго ж гатунку, што і напісаны.

[149] *Budzyk K.* Bibliografia konstytucyj sejmowych XVII wieku w Polsce. Wrocław, 1952. S. 15—43.

**Выданне Канстытуцый і арганізацыя ў іх матэрыялаў** *Табліца 3*

| Год выдання | Горад, друкарня | Арганізацыя матэрыялаў, якія датычаць ВКЛ і Кароны |
|---|---|---|
| 1637 | Кракаў, друкарня Андрэя Пётркоўчыка | Пастановы змяшаныя |
| 1638 | Варшава, друкарня Яна Трэльпінскага | Пастановы змяшаныя |
| 1640 | Варшава, друкарня Яна Трэльпінскага | Пастановы змяшаныя |
| 1641 | Варшава, друкарня Яна Трэльпінскага | Пастановы змяшаныя |
| 1642 | Варшава, друкарня Яна Трэльпінскага | Пастановы змяшаныя |
| 1643 | Варшава, друкарня Пятра Элерта | Пастановы змяшаныя, асобна вылучаны раздзел «Аб падатках у ВКЛ» |
| 1646 | Варшава, друкарня Пятра Элерта | Пастановы змяшаныя |
| 1647 | Варшава, друкарня Пятра Элерта | Пастановы змяшаныя |
| 1649 | Кракаў, у доме спадчыннікаў Андрэя Пётркоўчыка | Пастановы змяшаныя |
| 1649 | Варшава, друкарня Пятра Элерта | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона |
| 1650 | Кракаў, ва ўдавы і спадчыннікаў Андрэя Пётркоўчыка | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона |
| 1652 | Кракаў, ва ўдавы і спадчыннікаў Андрэя Пётркоўчыка | Пастановы змяшаныя |
| 1653 | Варшава, ва ўдавы і спадчыннікаў Пятра Элерта | Пастановы змяшаныя |
| 1654 | Варшава, ва ўдавы і спадчыннікаў Пятра Элерта | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона |
| 1655 | Варшава, ва ўдавы і спадчыннікаў Пятра Элерта | Канстытуцыі — змяшаныя; асобна дадзены для ВКЛ «Instruktarz celny» |
| 1658 | Кракаў, ва ўдавы і спадчыннікаў Андрэя Пётркоўчыка Таксама ў Варшаве ў 1658 г. Кракаў перавыдаў «дзеля памылак» | Пастановы змяшаныя |
| 1659 | Варшава, ва ўдавы і спадчыннікаў Пятра Элерта | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона, кожная мае асобны тыт. аркуш |
| 1661 | Варшава, ва ўдавы і спадчыннікаў Пятра Элерта | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона, кожная мае асобны тыт. аркуш |
| 1662 | Кракаў. У Ганны Тэрэсы Пётркоўчыкаўны | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона, кожная мае асобны тыт. аркуш |
| 1667 | Варшава, у спадчыннікаў Пятра Элерта | |
| 1668 | Варшава, у спадчыннікаў Пятра Элерта | Пастановы змяшаныя |
| 1670 | Варшава | |
| 1676 | Кракаў, друкарня дзедзічаў Крыштафа Шэдэля | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона, кожная мае асобны тыт. аркуш (у варшаўскім выданні асобных тыт. арк. няма) |
| 1677 | Кракаў, друкарня дзедзічаў Крыштафа Шэдэля | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона, кожная мае асобны тыт. аркуш |
| 1678 | Гродна, 1679, друкарня мінарытаў | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона, кожная мае асобны тыт. аркуш |
| 1683 | Кракаў, Гірш і Мікалай Шэдэлі | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі, кожная мае асобны тыт. аркуш |

| | | |
|---|---|---|
| 1685 | Варшава, друкар Карл Фердынанд Шрайбер | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона, кожная мае асобны тыт. аркуш |
| 1690 | Кракаў, друкарня Мікалая Аляксандра Шэдэля | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона, кожная мае асобны тыт. аркуш |
| 1697 | Кракаў, друкарня Мікалая Аляксандра Шэдэля | Элекцыйныя акты Аўгуста II |
| 1699 | Кракаў, друкарня Мікалая Аляксандра Шэдэля | Матэрыял падзяляецца на дзве часткі: ВКЛ і Карона, кожная мае асобны тыт. аркуш |
| 1699 | Вільня, друкарня айцоў францысканцаў | |
| 1703 | Люблін, друкарня езуітаў | |
| 1710 | Кракаў, друкарня Яна Даманоўскага | |
| 1712 | Варшава, друкарня Scholarum Piarum | |
| 1715 | | |
| 1717 | | |
| 1718 | Варшава, друкарня Scholarum Piarum | Матэрыял ВКЛ і Кароны падзелены |
| 1724 | Варшава, друкарня Scholarum Piarum | Матэрыял ВКЛ і Кароны падзелены |
| 1726 | Варшава, друкарня Scholarum Piarum | Матэрыял ВКЛ і Кароны падзелены |

скага манастыра — датуюцца пачаткам XVI ст. Гэта, перадусім, Чатырох'евангелле з двума ўкладнымі запісамі ў Ляшчынскі манастыр: 1506 г. Андрэя Васілевіча, званага Багданам Велятыцкім, на два дварышчы і 1513 г. князя Фёдара Яраславіча з княгіняй Аленай Сямёнаўнай на возера Самінае ў Пінскім павеце[150]. У Пінскім скрыпторыі выпрацаваўся асаблівы стыль упрыгажэння рукапісаў, для якога характэрна наяўнасць рэнесансавых арнаментаў на бакавых палях (Евангелле тэтр БРАН Воскр.1, БАНЛ, F19-10 і Евангелле тэтр ОР РНБ, СПБ ДА AI 116). Аднак вытворчасць кніг у епархіі не абмяжоўвалася толькі манастыром. У 1520 г. пры князі Фёдары Іванавічы Яраславічы і Тураўскім і Пінскім епіскапе Іоне Евангелле тэтр, памерам quarto, не вельмі выпрацаваным паўуставам «...писал дьяк многогрешныи раб божіи Савостіан Авраамович иж в Нобли», які ў сваю прыпіску ўключыў і традыцыйны праклён: «...а хто сію книгу взмет от церкви святого отца Николы иж в Нобли Пинского повета, тот да будет проклят в сіи век и в будущіи»[151].

Сабраныя ў кніжніцы Ляшчынскага манастыра тэксты дазвалялі ствараць (спісваць) вельмі важныя для ўнутрыцаркоўнага жыцця зборнікі накшталт Трэбніка XVI ст., дзе перапісаны, сярод іншага, абавязкі розных катэгорый свяшчэннаслужыцеляў (дыякана, папа, пратапопа, іерадыякана, мітрапаліта) і асаблівасці іх пастаўлення ў Турава-Пінскай епархіі[152]. Пазней у Ляшчынскім манастыры царкоўнапраўныя кнігі перапісвалі і на заказ. Прыкладам можа быць Номаканон (зборнік кананічных правілаў і рашэнняў Сусветных Сабораў) з такой прыпіскай: «В лето от сътвореніа мира 6242, а иже от во плоти рожества Господа Бога и Спаса нашего Ісуса Христа 1634 месяца марта 22 дня написана быс сія книга глаголемая греческым языком Номаканон нашим же языком сказаемая Закону правило... в богоспасаемом граде Пинску, при благочестивем епископе того града Рафаиле Корсаку в манастыру Лещу, повелением настоятеля моего на тот час чесного отца Іоанна Дубовича и накладом чудотворныя лавры Жировицкыя, церкви Успенія Пресвятыя Богородица. В ней же и положена ес, при игумени сего манастыра Жировицкого чесном отци Пахоміи Оранском. Написах же ю аз многогрешный и недостойный священноинок Никодим прозываем Козицкый чину

150 Описание Рукописного отделения Библиотеки Императорской Академии наук. Т. 1. СПб., 1910. С. 11.
151 *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... С. 47—48.
152 [*Горский А. В., Невоструев К. И.*] Описание славянских рукописей Московской синодальной библиотеки. Отд. 3, ч. 1. № 377.

святого отца нашего Великого Василія и дах труд свой за стопочивших родителей моих и в отпущеніе грехов своихъ...»[153] Захаваўся яшчэ адзін такі ж Номаканон (у традыцыі XIX ст. — Кормчая кніга), які быў спісаны на продаж альбо ў Ляшчынскім манастыры, альбо, з вышэйпамянёнага жыровіцкага пасобніка, у Жыровіцах[154].

Распаўсюджаным тыпам кніг утылітарнага прызначэння ў ВКЛ былі Інвентары (у XVI ст. яны яшчэ мелі назвы «Попіс», «Рэестр»). Як каштоўная крыніца па эканамічнай гісторыі, Інвентары часта былі аб'ектам вывучэння і публікацыі. Традыцыйна Інвентар меў тытульны аркуш, на якім звычайна пісалася назва маёнтка, каму ён належыць, а таксама імя складальніка інвентару. Потым ішло апісанне сядзібы — панскага двара: жылыя і гаспадарчыя пабудовы, іх архітэктура і планіроўка з пералікам хатніх і гаспадарчых рэчаў, адзення. Адзначалася наяўнасць у маёнтку царквы альбо касцёла. Далей называліся плошчы пасеваў па культурах, а ў некаторых выпадках памеры ўраджаяў мінулых гадоў, колькасць ворыўнай зямлі і сенажаці, пералічваліся хатняя жывёла і птушка, давалася апісанне млыноў, кузняў і да т. п., адзначалася наяўнасць ракі альбо сажалкі. Называліся памеры і крыніцы прыбыткаў маёнтка. Пры наяўнасці ў маёнтку карчмы трэба было паказаць яе прыбыткі. Потым ішло апісанне гарадоў, мястэчак, вясковых валасцей, а таксама фальваркаў, якія належалі да маёнтка. Апісанне гарадоў і мястэчак праводзілася па вуліцах і дамах. Інвентар называў імя гаспадара і памеры належнага ад яго падатку, у вёсках гаспадары пералічваліся па «дымах», з паказаннем колькасці зямлі. Больш дэталёва павіннасці сялян пералічаны ў канцы апісання кожнай вёскі. Часам інвентары змяшчалі інструкцыі панскай адміністрацыі эканомам з указаннямі, як весці гаспадарку. У некаторых інвентарах ёсць звесткі пра сялянскую «грамаду» (абшчыну), планы маёнткаў, малюнкі на тэму вясковага жыцця.

Часам інвентары маюць мастацкую аздобу — звычайна гэта малюнкі не прафесійных мастакоў, а схільных да малявання ўладальнікаў кнігі. Гэтая акалічнасць робіць інвентары важнай крыніцай для знаёмства з такой малазахаванай часткай мастацкай спадчыны, як народны малюнак.

Інвентары дзяржаўных уладанняў складаліся пры змене адміністратараў (старастаў, эканомаў), перадачы зямель у арэнду альбо пасля яе заканчэння, пад час рэвізіі гаспадарчага стану маёнткаў, пры іх продажы альбо «заставе» (адданні на водкуп). Пастанова сойму 1562 г. вызначала перыядычнасць рэвізій дзяржаўных уладанняў у 5 гадоў, а соймавая Канстытуцыя 1601 г. рэгламентавала парадак правядзення інвентарных апісанняў. Інвентары самых вялікіх дзяржаўных уладанняў — велікакняжацкіх эканомій і старостваў нярэдка змяшчаюць апісанні дзесяткаў і соцень вясковых паселішчаў.

Інвентары царкоўных уладанняў (каталіцкай, праваслаўной і уніяцкай цэркваў) блізкія па структуры да інвентароў дзяржаўных маёнткаў. У дзяржаўных і прыватных замках вяліся так званыя «справавыя» кнігі — злучэнне інвентару з рахункаводствам. Захаваліся гэтыя кнігі кепска; як прыклад можна назваць «Кнігу спраў замку Клецкого» за канец XVI—пачатак XVII ст., якая знаходзіцца ў бібліятэцы Маскоўскага універсітэта[155].

У манастырскіх кнігах-архівах (картулярыях) актавы матэрыял злучаўся ў пераплёты не толькі для лепшай захаванасці, але і для працягу і пашырэння праўнай сілы кожнага дакумента, а таксама дзеля атрымання новага дзейснага эфекту ад самога факта іх злучэння. У новыя кнігі-архівы ўпляталі і гістарычныя даследаванні, што мелі на мэце не толькі пазнаёміць чытача з гісторыяй, але і быць практычным дапаможнікам у судовых працэсах шляхты і манастыроў-супернікаў розных ордэнаў. Хоць форма вядзення кніг-архіваў вызначалася кіраўніцтвам ордэна, яны вельмі адрозніваюцца паміж сабой і нясуць на сабе адбітак характару сваіх стваральнікаў — часцей за ўсё гэта былі манастырскія архіварыусы альбо хартафілаксы. Існуе мноства інвентароў асобных манастыроў і царкоўных маёнткаў, якія адлюстравалі гістарычныя змены ў іх на працягу дзесяткаў

[153] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... С. 387—393.

[154] Тамсама. № 243. — Пачатак гэтага рукапісу не захаваўся. Ёсць толькі канец палістовай прыпіскі з указаннем, і гэта для даследчыка важна, кошту кнігі: «... Сильвестра Козминского за суму пенязей литовских 38 коп четыре» (С. 394).

[155] *Конюхова Э. И.* Славяно-русские рукописи XIII—XVII вв. Научной библиотеки имени А. М. Горького Московского государственного университета: Описание. М., 1964. № 7.

і нават соцень гадоў. Характэрным прыкладам могуць быць картулярыі базыльянскіх манастыроў, што створаны ў Жыровіцах, Лаўрышаве, Быцені, Наваградку і іншых манастырах Літоўскай правінцыі ордэна св. Васіля Вялікага. Іншы кшталт мела кніга-архіў прыватнай асобы, прынамсі, тая, што належала ў сярэдзіне XVII ст. Сімяону Полацкаму. Першая частка гэтага кодэксу змяшчае матэрыялы Полацкага Богаяўленскага манастыра, што датуюцца да пачатку 1660-х гг. (гэтую кнігу пачынаў настаўнік Сімяона Полацкага Ігнаці Іяўлевіч). Другая частка зборніка — уласнаручныя спісы лістоў Сімяона Полацкага да розных асоб: 23 на польскай, 2 на лацінскай і 16 на рускай мовах[156]. Гэты канвалют, які мае дзве назвы: «Грамоты обрасцовые всякіе» і «Собраніе различных епистол», дае прыклад зменлівасці характару ўжывання утылітарнай кнігі пры пераходзе ад аднаго гаспадара да другога.

Кнігі-архівы складаюць найбольшы працэнт з усіх захаваных; акрамя манастырскіх сярод іх важную ролю ў жыцці грамадства і дзяржавы адыгрывалі судовыя кнігі-архівы. Прычынай іх з'яўлення была сістэма судоў (шасці тыпаў), якія функцыяніравалі ў Вялікім Княстве Літоўскім пасля выдання Трэцяга Статута. У кожнага з судоў былі свае кнігі: земскія, гродскія (замкавыя), падкаморскія, мейскія, трыбунальскія і канцылярскія. Акрамя таго, у судаводстве Вялікага Княства ўжываліся кнігі, якія можна падзяліць (услед за М. Гарбачэўскім) на шэсць катэгорый:

1. Актавыя дэкрэтавыя кнігі (libri inscriptionum perpetuarum), у якія ўносілі больш за 26 відаў запісаў — дароўныя, закладныя, квітанцыйныя, фундушовыя, пастановы соймікаў, яўкі гетманскіх універсалаў і г. д.

2. Актавыя дэкрэтавыя кнігі (libri decretorum), якія змяшчаюць судовыя рашэнні па розных пытаннях. Рашэнні былі канчатковыя (decreta oczywiste), калі прысуд выносіўся ў прысутнасці абодвух бакоў; кантумацыйныя (завочныя, contumaciae), калі адзін з бакоў не з'явіўся ў суд; і рэмісійныя (remissae), калі рашэнні суда па якіх-небудзь прычынах адтэрміноўваліся.

3. Актавыя працэсуальныя кнігі (libri manifestationum), у якія запісвалі скаргі і пратэсты.

4. Актавыя паточныя кнігі (libri relationum), у якія ўносіліся данясенні возных аб уручэнні позваў у суд, рознага віду абдукцыі (асведчанні) і так званыя ўводныя акты (данясенні аб уводзе ў маёнтак пэўных асоб).

5. Пратакольныя кнігі (актавыя, дэкрэтавыя і паточныя) — усялякі запіс, перш чым ён будзе ўнесены ў актавыя кнігі, пісары альбо рэгенты ўпісвалі ў Пратакольную кнігу.

6. Рэестравыя кнігі, паводле якіх вызначаўся парадак судавытворчасці.

Усе вышэйзгаданыя кнігі мелі практычную вартасць да 1917 г. — іх збіралі і захоўвалі ў дзяржаўных архівах і выкарыстоўвалі пры судаводстве. Паводле загаду імператара Мікалая I, судовыя кнігі часоў ВКЛ збіралі ў трох архівах — Віленскім, Віцебскім і часткова ў Кіеўскім. Колькасць іх даволі вялікая — толькі ў Віленскім архіве захоўвалася больш як 15 000 розных судовых кніг XVII—XVIII стст. (кнігі XVI ст. сустракаліся як выключэнне)[157].

З ліку названых функцыянальна вылучаюцца кнігі земскага і гродскага судоў, якія змяшчалі акты і дакументы як судовага, так і несудовага паходжання. Месцам іх стварэння былі практычна ўсе павятовыя гарады ВКЛ, таму захавалася іх шмат. Акрамя запісаў судовых працэсаў, судовых рашэнняў і заяў, што заносілі ў кнігі спецыяльна з мэтай пачаць судовую справу альбо падаць новыя матэрыялы для вырашэння справы ў судзе, у гэтыя кнігі мясцовая шляхта ўпісвала дакументы, якія яна хацела захаваць «ад згубы», і заявы, якімі мела на мэце забяспечыць свае правы альбо засцерагчы сябе ад злоўжыванняў і небяспек — заявы аб збеглых чалядніках, абавязацельствы па пазыках, заявы аб пагрозах здароўю і жыццю, прапажы пячаткі ці дакументаў і г. д. У іх заносіліся гаспадарскія прывілеі і універсалы, што мелі значэнне для ўсяго павета; запісваліся распараджэнні (лісты), адрасаваныя павету, дакументы, што выйшлі з яго сойміка; уносілі акты сваёй дзейнасці павятовыя ўраднікі. Кнігі павятовых судоў прызначаны былі захоўваць усе акты і дакументы, якія мелі значэнне як

[156] *Подтергера И. А.* Письма и послания Симеона Полоцкого: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. СПб., 2000. С. 8.

[157] *Горбачевский Н. И.* Каталог древним актовым книгам губерний: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской, также книгам некоторых судов губерний Могилевской и Смоленской, хранящимся ныне в Центральном архиве в Вильне. Вильна, 1872.

для кожнага «паветніка»-шляхціца, так і для цэлага павета як шляхецкай карпарацыі[158].

Ствараліся земскія «судовыя кнігі» ў працэсе работы земскага суда, які збіраўся на тры сесіі кожны год. Сесіі гэтыя звычайна называліся «рокі», «рочкі», іншы раз лацінскім словам «кадэнцыя». Закончыўшы свае рокі, члены суда (суддзя, падсудак і пісар) збіралі кнігі ўсіх ранейшых «рокаў», за выключэннем толькі што адсуджаных, якія заставаліся ў пісара да наступнай сесіі «для порадного справованья и на чисто переписанья»[159]. Усе дакументы трох «рокаў» пісар павінен быў пераплесці — «занесці і вязаць» у адну кнігу[160]. Сам пісар пераплётам, як правіла, не займаўся, выкарыстоўваючы наёмнага пераплётчыка (інтралігатара). Запіска аб памылцы пераплётчыка захавалася ў актавай кнізе Гродзенскага земскага суда за 1578—1579 гг.: «Помылкою интроликгатора жыда, тут тая секстерна вставлена, каторая мела быть нижей на роки о Трох Каралях»[161]. Затым кнігі хавалі «в скрыню моцную» за трыма замкамі, ад якіх адзін ключ быў у суддзі, другі — у падсудка, трэці — у пісара. Замкнуўшы скрыню, яны запячатвалі яе сваімі пячаткамі. Скрыня з кнігамі, згодна з дзейным заканадаўствам, ставілася ў бяспечным месцы; «схованье доброе і варовное» павінны забяспечыць ваяводы і судовыя старасты ў замку альбо на «дворе судовом». Склеп, дзе стаіць скрыня, павінен ахоўваць ваявода альбо стараста[162].

Належнае захаванне кніг прызнавалі як справу настолькі важную, што яшчэ ў 1584 г. паны-рада і прадстаўнікі шляхты ВКЛ абмяркоўвалі на Віленскім з'ездзе прапанову аб увядзенні спецыяльнага падатку (па 2 грошы з валокі) на прагоны соймавым паслам і пабудову «дамоў для злажэння кніг земскіх». Гэты падатак не быў прыняты, і ў рашэннях вальнага сойму адбіваліся справы аб стане захавання земскіх кніг у асобных рэгіёнах: «Пакольні кнігі земскія і трыбунальскія ў Навагрудку месца добрага не маюць, па просьбе паслоў Навагрудскага ваяводства, а за згодай усіх станаў, вежу адну ў замку нашым Навагрудскім названую Шчытоўская на залажэнне і захаванне іх даём; якая вежа праз старасць папсаваная, праз гэта на яе папраўу на Сойміку [навагрудскім] рашэнне прыняць пастанаўляем», — гаварылася ў Канстытуцыі вальнага сойму 1638 г.



*Пратэстанцкі Катэхізіс Мацея Кавячынскага, Сымона Буднага і Лаўрэна Крышкоўскага. Тытульны аркуш. Нясвіж, 1562 г.*

У наш час «судовыя» кнігі для судаводства не ўжываюцца. Яны складаюць гістарычную частку архіўнага фонду, шмат іх распылена па музеях і бібліятэках.

**Навучальная літаратура.** Прынята лічыць, што да XVI ст. чытаць вучыліся па богаслужбовых кнігах — Часаслову, Псалтыру і інш., яны ж адразу рабіліся падручнікамі па рэлігіі. У XVI ст. эвалюцыя хрысціянскіх канфесій прывяла да павелічэння іх коль-

[158] *Лаппо И. И.* Великое княжество Литовское во второй половине XVII столетия. С. 114—115.
[159] Тамсама.
[160] Тамсама.
[161] *Бершадский С. А.* Литовские евреи. СПб., 1883. С. 410.
[162] Статут ВКЛ. Раздзел IV. Артыкул 13.




*Тытульны аркуш падручніка граматыкі. Вільня, друкарня Мамонічаў, 1621 г.*

касці і да стварэння спецыяльных падручнікаў з выкладам веравучэння — Катэхізісаў. Сярод першых — праваслаўны Катэхізіс Зізанія, пратэстанцкі «Катэхізіс» Буднага і каталіцкі Катэхізіс мамоніцкага друку. З іншых спецыялізаваных падручнікаў першымі надрукавалі падручнікі па навучанні пісьму, хоць і яны давалі вучням азы рэлігійных ведаў.

Сучасныя даследчыкі па-рознаму падыходзяць да вылучэння (і, адпаведна, вывучэння) кніг, прызначаных для навучання грамаце. Філолаг Алена Яскевіч, напрыклад, уключае ў сферу сваёй увагі ўсе кірылічныя буквары і граматыкі XVI—XVII стст., што выйшлі ў друкарнях Вільні і Львова, а таксама рукапісную граматыку Івана Ужэвіча як прыналежныя да адной кніжна-культурнай прасторы[163]. Гісторык Георгій Галенчанка разглядае толькі тыя славянскія буквары, што былі надрукаваны ў ВКЛ, падзяліўшы іх на восем рэдакцый.

Першую рэдакцыю склалі два выданні, надрукаваныя ў Мамонічаў (сярэдзіна 1590-х гадоў) і ў Віленскім брацтве (1596) — яны зроблены падобна Львоўскаму і Астрожскаму букварам Івана Фёдарава. Другая рэдакцыя — гэта «Наука ку читаню и розумению писма словенского...» Лаўрэна і Стэфана Зізаніяў, што выдадзена Віленскім брацтвам у 1596 г. Трэцяя рэдакцыя прадстаўлена адным віленскім выданнем (захаваўся толькі адзін паасобнік — у Бадлеянскай бібліятэцы ў Оксфардзе). Па асаблівасцях шрыфтоў і арнаменту англійскія даследчыкі Дж. Барнікот і Дж. Сіманс датавалі гэтае выданне часам паміж 1593 і 1600 гг.[164] Чацвёртая рэдакцыя — еўеўскае выданне 1618 г. «Букварь языка словенска писаній чтенія оучитися хотящим в полезное руковоженіе» Мялета Смятрыцкага. Ён пашырыў раздзелы, прысвечаныя граматычным формам, і ўвёў у кнігу новыя тэксты для чытання. Да пятай рэдакцыі належаць віленскія буквары, выдадзеныя Мамонічамі ў 1618 і 1621 гг. Асаблівасцю гэтай рэдакцыі з'яўляецца выкарыстанне ў кнігах урыўкаў са Старога Запавету як тэкстаў для чытання: «Прытчы Саламонавы», «Ісус Сірахаў», фрагмент «Товія вучыць сына свайго». На тытульным аркушы мамоніцкага выдання «Граматыкі, альбо Слажэнне пісьма младалетнім атрачатам, якія хочуць вучыці славенскае мовы» (1621) змешчана гравюра, на якой паказана сучасная школа: на лавах за сталом сядзяць вучні, на адной з лаваў вучня б'юць дубцамі — шырока распаўсюджаны педагагічны прыём.

Шостая рэдакцыя ахоплівае падручнікі, што выпусціла Віленскае брацтва ў 1630-я — 1650-я гг. Першым выданнем гэтай рэдакцыі быў буквар 1637 г. Сёмая рэдакцыя — куцеінскі «Буквар» 1631 г. Восьмая рэдакцыя ўключае тры перавыданні магілёўскага «Буквара» Спірыдона Собаля. Усяго, канстатуе даследчык, у канцы XVI — сярэдзіне XVII ст. у ВКЛ было зроблена 17 выданняў кірылічных буквароў; у той жа час у каронных (украінскіх) друкарнях іх было восем, а ў маскоўскіх — пяць[165].

[163] *Яскевіч А. А.* Старабеларускія граматыкі. Да праблемы агульнафілалагічнай цэласнасці. Мн., 1996.
[164] *Barnicot J. D. A., Simmons J. S. G.* Some unrecorded early-printed Slavonic books in English libraries // OSP. 1951. Vol. 2.
[165] *Голенченко Г. Я.* Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI — середине XVII в. Мн., 1989. С. 155—157.



*Сімвалічная фігура Граматыкі і эпіграма на Граматыку. Вільня, друкарня брацтва, 1596 г.*

Больш глыбокія мовазнаўчыя веды закладваліся ў граматыках славянскай мовы. Першая з іх выйшла ў 1586 г. у Мамонічаў[166]. Гэта была славянская апрацоўка аднаго з грэцкіх граматычных трактатаў і друкавалася «за прозбою жителей столицы Великаго князства Литовъскаго града Вильни» па рукапісным паасобніку кіеўскага ваяводы, князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага. Наступнае выданне з'явілася 12 лютага 1596 г. у друкарні Віленскага брацтва[167]. Асноўныя тэксты гэтага падручніка пабудаваны ў форме пытанняў і адказаў. Аўтар — Лаўрэнцій Зізаній — на тытульным аркушы абазначаны абрэвіятурай — спалучэннем славянскай і лацінскай літар: «Л. Z.». Кнігу ўпрыгожвае гравюра невядомага майстра з алегорыяй Граматыкі (жаночая постаць з ключом у руцэ) на адгорце тытульнага аркуша. Тэкст побач з гравюрай папярэджвае: «Прожно ты ся кусиш писмо умети, который нехоч мене розумети»[168] — «Дарэмна той хоча пісання ўмеці, які не хоча мяне разумеці». Тэкст і выява абмежаваны рамкай з наборнага арнаменту. Змест і значэнне навукі граматыкі раскрыты ў «Епиграмме на Грамматику»: яна вучыць пісаць і складаць вершы, «ключем бо есть отворяючи всем ум к познанию» і складаецца з чатырох частак: арфаграфіі, прасодыі, сінтаксісу, этымалогіі. Кожная частка, акрамя сінтаксісу, мае ў кнізе асобны раздзел. Звесткі ж пра знакі прыпынку ўключаны ў раздзел прасодыі. Аўтарскае заканчэнне на апошняй старонцы заклікае: «Приимете друзи мои взлюбленнии вдячне тую мою малую працу, а о большей сами ся постараите и инших и мене увеселяите».

Наступным крокам да стварэння навуковага апісання граматычнага і гукавога ладу кніжнаславянскай мовы стала кніга Мялета Сматрыцкага «Грамматики славенския правилное Синтагма...». Першае выданне гэтай вялікай (252 старонкі) кнігі выйшла ў 1619 г. (падрыхтавана ў 1618 г.) у брацкай друкарні

[166] Кніга Беларусі 1517—1917. № 17.
[167] Тамсама. № 42.
[168] Тамсама. С. 74.

ў Еўі[169]; на адгорце тытульнага аркуша размешчаны герб мецэната — троцкага падкаморыя князя Багдана Агінскага. «Граматыка» Сматрыцкага стала лепшым кампендыумам лінгвістычных ведаў свайго часу. Яна некалькі разоў перавыдавалася ў Маскве і на Украіне, але ніколі больш — у межах ВКЛ. Польскую мову можна было вывучыць па кніжцы «Dla dziatek nauka czytania pisma polskiego. W Wilnie, 1633» («Для дзетак навука чытання польскага пісьма»).

Падручнік грэцкай граматыкі Якуба Грэтсера «Institutionum linguae Graecae libri tres» упершыню быў надрукаваны ў віленскім прадпрыемстве Яна Карцана ў 1604 г.[170] (да гэтага карысталіся прывазнымі, сярод якіх выдадзеная Львоўскім брацтвам у 1591 г. Граматыка Адэльфотэса[171]). Друкарня Карцана хіба не адзіная на той час у Вільні мела грэцкія шрыфты. Пазней іх займела і акадэмічная друкарня. У XVII ст. яны зрэдку выкарыстоўваліся для набору эпіграм і грэцкіх цытат.

Нязменная цікавасць да літоўскай мовы выявілася ва універсітэцкіх выданнях слоўніка ксяндза Канстанціна Шырвіда «Dictionarium trium linguarum in usum studiosae iuventutis» 1629 г.[172] і яго ж граматыкі літоўскай мовы. На жаль, экзэмпляры яе не захаваліся (ёсць згадка пра яе выданне ў 1630 г.)[173]. Трохмоўны (польска-лацінска-літоўскі) слоўнік Шырвіда карыстаўся трывалым попытам, яго перавыдавалі ў 1631, 1642, 1677 і ў 1713 гг. Інтэнсіўнае ўжыванне і час зрабілі яго вялікай рэдкасцю: адзін дэфектны (без пачатку і канца) паасобнік першага выдання, ніводнага — другога, пяць — трэцяга, дзесяць — чацвёртага і каля 70 пятага[174]. Адзнакай высокага ўзроўню філолагаў Віленскай акадэміі стаў «Dictionarium Polono-Latino-Lotavikum...» (1683) — першы друкаваны слоўнік латышскай мовы.

Лексіку славянскай мовы жыхары ВКЛ маглі вывучаць па перавыдадзеным Куцеінскай друкарняй у 1653 г. «Лексіконе славяна-роскім» Памвы Бярынды ў рэдакцыі ігумена манастыра Іаіля Труцэвіча[175]. У «Лексіконе...» П. Бярынды каля 7000 слоў, што амаль у 4 разы больш, чым у папярэднім слоўніку — «Лексіцы» Лаўрэнція Зізанія выдання Віленскай брацкай друкарні 1596 г. (1601 слова). Кніжнай тэрміналогіі ў слоўніку менш, чым, напрыклад, у Шырвіда. Адсутнічаюць словы «пераплёт», «кніга», «кніжная крама». Ёсць, праўда, слова «книгочій», патлумачанае наступным чынам: «писар посполитый, або Канцлер, Исход, 18. стараста, урядник такій который впроважает листы або писма, албо дяк». Тут жа тлумачацца словы «книжник» — «писар, дяк, грамматик» — «детоучитель, дяк».

«Без лаціны плацяць віны» — гэтая прымаўка ўзыходзіць да вельмі даўных часоў. Навучанне прыгожай лаціне абапіралася перадусім на падручнік па рыторыцы іспанскага езуіта Цыпрыяна Суарыша «De arte rhetorica libri III» (упершыню выдадзены ў 1560 г.), і на надрукаваную ў Вільні ў 1640 г. рыторыку М. Радана «Orator extemporanes»[176]. Граматыку вучылі па падручніку Эмануэля Альварэса (Альвара).

Адукацыя ў межах ВКЛ існавала ў большменш арганізаванай форме праз дзейнасць ордэна езуітаў. Якая навука для чаго патрэбная, тлумачылася ў «Ratio studiorum» — канцэпцыі езуіцкай школы. У рамках «studium universale», альбо поўнага езуіцкага калегіума, навука працягвалася 12 ці 13 гадоў, з якіх першыя пяць ці шэсць вучні атрымлівалі сярэднюю адукацыю ў пяці кла-

[169] Кніга Беларусі 1517—1917. № 89.

[170] *Narbutienė D., Narbutas S.* XVII a. Lietuvos lotyniškų knygų sąrašas. № 379—381.

[171] *Запаско Я. П., Ісаевіч Я. Д.* Пам'яткі книжкового мистецтва. Каталог стародруків, виданих на Україні. Кн. 1. Львів, 1981. № 22.

[172] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 856; *Narbutienė D., Narbutas S.* XVII a. Lietuvos lotyniškų knygų sąrašas. № 1085.

[173] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 855; Narbutienė D., Narbutas S. XVII a. Lietuvos lotyniškų knygų sąrašas. № 1084.

[174] Гэтыя падлікі зрабіў аўтар уступнага артыкула да факсімільнага перавыдання слоўніка Шырвіда К. Пакалка (*Širvydas K.* Pirmasis lietuvių kalbos žodynas. Vilnius, 1979. P. 30).

[175] Быў яшчэ адзін, пазнейшы беларуска-лацінска-польскі слоўнік XVII ст., які захаваўся як найменш у двух рукапісах і быў узяты як адна з крыніц для надрукаванага ў 1704 г. у Маскве трохмоўнага лексікона Фёдара Палікарпава (*Сперанский М. Н.* Из истории русско-славянских литературных связей. М., 1960. С. 198—210).

[176] Выкладчыкі езуіцкіх школ ВКЛ (у тым ліку вышэйшых) часам самі пісалі падручнікі, якія пашыраліся ў рукапісным выглядзе. Як прыклад можна назваць рукапісную рыторыку Казіміра Віюка Каяловіча «Institutionum rhetoricarum pars prima» (Vilnae, 1654).

сах: інфімы, граматыкі, сінтаксісу, паэтыкі і рыторыкі. У класе рыторыкі, напрыклад, стараліся злучыць навуку аб прыгожым маўленні з эрудыцыяй, веданнем рэчаў. Настаўнік вучыў вылучаць тэмы і кампазіцыю прамовы, аналізаваць метады і слушнасць аргументаў, пасля чаго агаворваў асаблівасці стылю. Вучань павінен быў умець падтрымаць думку прапанаваных аўтарам тэзісаў сентэнцыямі з іншых твораў, звесткамі з гісторыі і міфалогіі. Фармальная моўна-рытарычная адукацыя ў езуіцкіх калегіумах (а іх у ВКЛ было больш дзесяці) была падпарадкавана мэце нівеліравання ўсіх індывідуальных адрозненняў на карысць езуіцкага універсалізму.

Пра кнігі для навучання прыродазнаўству мы ўпаміналі асобна. Трэба толькі адзначыць, што сярод іх значная колькасць рукапісных — гэта канспекты лекцый, што пісалі самі студэнты ў розных навучальных установах. Ці былі ў ВКЛ карпарацыі «спісацеляў канспектаў», як у некаторых універсітэтах Заходняй Еўропы, мы не ведаем.

**Кнігавыдавецкія сувязі і прывазная літаратура.** Ад XV ст. кніжныя сувязі еўрапейскіх дзяржаў і ВКЛ сталі шырэйшыя і больш разнастайныя. Дзеці заможных грамадзян ВКЛ часта адпраўляліся на вучэнне ў Польшчу і Германію і прывозілі адтуль нямецкія кнігі. Ад 1540 да 1619 г. толькі ў гімназіі і акадэміі ў Страсбургу навучалася 37 чалавек з Вялікага Княства (у тым ліку прадстаўнікі роду Радзівілаў)[177]. Сярод прывазных кніг еўрапейскіх выдаўцоў можна асобна вылучыць замежныя выданні твораў мясцовых аўтараў, альбо кнігі, у якіх тэкст (ілюстрацыі) так ці іначай звязаны з ВКЛ. Свабоду перамяшчэння грамадзянам гарантаваў закон. Статут 1588 г. пацвердзіў старую (з прывілея 1447 г.) традыцыю: права на выезд за мяжу ўсіх свабодных падданых[178]. Як падкрэслівае А. Мыльнікаў, прыклад палачаніна Францыска Скарыны, выхадца з багатай купецкай сям'і, выпускніка Кракаўскага і Падуанскага універсітэтаў, які працаваў у Празе, Вільні, Кёнігсбергу, — хутчэй правіла, чым выключэнне з правілаў[179]. Яшчэ ў 1480 г. кнігадрукаванне ў Лондане пачаў выхадзец з ВКЛ Іаан (John Lettou, John of Lithuania). Паколькі ў першай чвэрці XVI ст. у ВКЛ адсутнічала друкарня, якая б магла выдаць тэксты на лацінскай мове, паэмы славутых лацінамоўных паэтаў, ураджэнцаў Беларусі Яна Вісліцкага «Пруская вайна» (1516) і Мікалая Гусоўскага «Песня пра зубра» (1523) былі выдадзены ў Кракаве. І пазней, калі тэхнічных магчымасцей для кнігадрукавання было дастаткова, у залежнасці ад кан'юнктуры рынку і палітычных варункаў аўтары з ВКЛ часта карысталіся свабодай перамяшчэння для выдання кніг за мяжой. Такія выданні маглі быць разлічаны на рэалізацыю часткі накладу ў Еўропе (як прыклад можна прывесці надрукаваны ў 1582 г. у Кёнігсбергу opus vitae каноніка жмудскай капітулы Мацея Стрыйкоўскага «Хроніка Польская, Літоўская, Жмудская і ўсяе Русі»[180]. Выдадзеныя ў еўрапейскіх друкарнях кнігі часам моцна ўзрушвалі грамадства Вялікага Княства Літоўскага. Так, віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны на варшаўскім сойме 1563—1564 гг. з абурэннем выступаў супраць «Гісторыі» Марціна Кромера, што выйшла ў друкарні Апорына ў Базэлі ў 1555 г.[181]

У еўрапейскіх выданнях тэма ВКЛ гучала часта і па-рознаму. Арыгінальнай з'явай стаў альбом (лацінамоўнае выданне ў 1601 г., нямецкамоўнае — у 1604 г.) амбразскай калекцыі аўстрыйскага эрцгерцага Фердынанда, брата імператара Максіміліяна II. У замку Амбраз у Тыролі была сабрана калекцыя рыцарскіх даспехаў і партрэтаў самых знакамітых людзей Еўропы свайго часу. Па жаданню Фердынанда рысавальшчык Дж. Фантана і гравёр Д. Кусто выканалі серыю медзярытаў для кнігі альбомнага тыпу пад назвай «Кніга знакамітых воінаў». Сярод 125 партрэтаў выявы трох Радзівілаў: Мікалая Чорнага, яго стрыечнага брата Мікалая Рудага і яго сына, Мікалая Крыштафа Сіроткі. У Ам-

[177] *Pietryk Z.* W kręgu Strasburga. Z peregrynacji młodzieży z Rzeczypospolitej Polsko-Litewskiej w latach 1538—1621. Kraków, 1997. S. 252, 254—255.

[178] Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года: Прадмова, старабеларускі тэкст, рускі пераклад, каментарыі, даведнік. Мн., 1989. С. 120.

[179] *Мыльников А. С.* Ф. Скорина — житель Великого княжества Литовского // Франциск Скорина и Вильнюс. Вильнюс, 1991. С. 68—72.

[180] *Wojtkowiak Z.* Maciej Stryjkowski — dziejopis Wielkiego Księstwa Litewskiego: Kalendarium życia i działalności. Poznań, 1990.

[181] *Barycz H.* Szlakami dziejopisarstwa staropolskiego. Wrocław, 1981. S. 86—91.



*Партрэт заснавальніка Брэсцкай пратэстанцкай друкарні, віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага з Амбразскага альбома.*

бразскім замку былі таксама даспехі Крыштафа Перуна, але яго партрэт па нейкай прычыне не ўключаны ў альбом[182].

У залежнасці ад канфесійнага прызначэння кнігі прывозіліся з розных краін: з Польшчы — для каталікоў, з Усходняй Прусіі — пратэстанцкая літаратура на польскай і літоўскай мовах, з Маскоўскай Русі і Украіны — кнігі для праваслаўных, з Заходняй Еўропы — кнігі па ўсіх галінах ведаў, у тым ліку з прысвячэннямі магнатам ВКЛ, а таксама выдадзеныя ў Еўропе кнігі аўтараў літоўскага і беларускага паходжання.

Яшчэ ў 1545 г. герцаг Альбрэхт I Гогенцолерн паставіў перад кансісторыяй лютэранскай царквы Прусіі пытанне аб неабходнасці выдаваць лютэранскія кнігі і біблейскія тэксты на польскай, рускай і літоўскай мовах. Акрамя ўсяго, мелася на ўвазе дастаўка гэтай літаратуры адзінаверцам у Кароне і Вялікім Княстве. Аднак планы гэтыя здзейсніліся толькі часткова. У 1551—1553 гг. у Кёнігсбергскай друкарні А. Аўгездзецкага (збеглага з Чэхіі прыхільніка табарытаў) быў надрукаваны ў дзвюх частках Новы Запавет на польскай мове ў перакладзе С. Муржыноўскага і пад рэдакцыяй Я. Секлюцыяна. Да выхаду Брэсцкай Бібліі 1563 г. гэтае выданне было асноўным біблейскім тэкстам для пратэстантаў ВКЛ. Падрыхтоўка літоўскіх кніг была даручана прафесару толькі што створанага Кёнігсбергскага універсітэта Станіславу Рапалёнісу і яго вучню Марціну Мажвіду (Мажвідасу). Характэрна, што дагэтуль кніг на літоўскай мове не было ўвогуле — нечаканая смерць Рапалёніса ўскладніла вырашэнне гэтай задачы, аднак у 1545 г. з'явіўся Катэхізіс на прускай, а ў 1547 г. — на літоўскай мовах. У 1579 г. па дамоўленасці з князем і прускай кансісторыяй перакладаць Біблію на літоўскую мову пачаў Ёган Брэтке (Ёнас Брэткунас) — выхаванец Кёнігсбергскага і Вітэнбергскага універсітэтаў, пастар аднаго з літоўскіх прыходаў у Прусіі. Пры перакладзе ён абапіраўся не толькі на Біблію Лютэра, але і старажытнагабрэйскую і грэцкую рэдакцыю тэкстаў Святога Пісьма. Ё. Брэтке імкнуўся да магчыма больш дакладнай перадачы думкі арыгінала, упарта шукаў літоўскія эквіваленты тэрмінаў, дбаў аб правільнасці мовы перакладу. Яго перакладам адразу ж зацікавілася кіраўніцтва рэфармацкай царквы ў ВКЛ: у Прусію быў накіраваны спецыяльны прадстаўнік, які пасля ўважлівага знаёмства з тэкстам заявіў, што ён можа быць выкарыстаны кальвіністамі ў Вялікім Княстве. Ё. Брэтке, загружаны прыходскай і літаратурнай працай (падрыхтаваў «Пасцілу» і шэраг іншых выданняў), змог закончыць пераклад Бібліі толькі у 1590 г. У тым самым годзе па загадзе прускага князя Георга Фрыдрыха была створана камісія пастараў-літоўцаў для вызначэння адэкватнасці перакладу. Былі ўнесены неабходныя змены, а ў 1592 г. прызначана новая камісія. Да вы-

[182] *Ткачэнка М. І.* Амбразская калекцыя даспехаў і гравіраваныя партрэты Радзівілаў // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мн., 1994. С. 54—62.

дання справа так і не дайшла. Пасля смерці Ё. Брэтке рукапіс быў перададзены бібліятэцы Кёнігсбергскага ўніверсітэта[183].

Яшчэ адна спроба перакласці і выдаць Біблію на літоўскай мове была зроблена Станіславам Хілінскім, выхадцам з ВКЛ, які быў накіраваны ў Галандыю ў Фрэнсарскі, а потым у Англію ў Оксфардскі універсітэт завяршыць тэалагічную адукацыю. Убачыўшы ў Англіі вялікую цікавасць да перакладу Бібліі на мовы свету, ён пераканаў некалькіх ўплывовых прадстаўнікоў англійскага «біблійнага руху» ў неабходнасці перакладу Бібліі на літоўскую мову. Атрымаўшы для здзяйснення гэтага праекта неабходную маральную і матэрыяльную падтрымку, С. Хілінскі ўжо ў 1659 г. паведаміў англійскім мецэнатам, што праца над перакладам закончана. У Оксфардзе была створана камісія з пятнаццаці вучоных, якія дасканала ведалі Біблію, але не ведалі літоўскай мовы. Нягледзячы на гэта, камісія ацаніла пераклад станоўча; лонданская друкарня Івена Тэйлара ў канцы 1660 ці пачатку 1661 г. пачала яго друкаваць. Але тут у справу ўмяшаўся літоўскі пратэстанцкі (рэфармацкі) сінод, які запатрабаваў надрукаваную частку Старога Запавету на рэцэнзію. Яна была даручана вопытным тэолагам Я. Бажымоўскаму і Ю. Скродскаму. Тыя абвесцілі, што пераклад Хілінскага мае мноства прынцыповых памылак і ў такім выглядзе ніяк не можа быць прыняты да карыстання. Выявілася, што Ян Бажымоўскі меў у гэтай справе асабістую зацікаўленасць, паколькі сам падрыхтаваў пераклад Новага Запавету і меркаваў надрукаваць яго замест перакладу Хілінскага. Спрэчка паміж Хілінскім і літоўскімі пратэстантамі выклікала раздражненне ў англічан. Увесь наклад Бібліі быў забраны з друкарні і перададзены на захаванне ў Лонданскую галандскую кірху, дзе праляжаў дваццаць гадоў, а потым быў прададзены як макулатура, за выключэннем выпадкова ацалелых няпоўных друкаваных паасобнікаў і самога рукапісу.

Найбольш поўны паасобнік Бібліі Хілінскага (416 с.) падараваў у 1805 г. бібліятэцы Віленскага універсітэта генерал-ад'ютант літоўскага войска Е. Гужэўскі. Пасля закрыцця універсітэта гэты паасобнік трапіў у бібліятэку Віленскай рымска-каталіцкай акадэміі, захоўваўся ў ёй і пасля таго, як акадэмія была пераведзена ў Санкт-Пецярбург. У 1918 г. сляды Бібліі Хілінскага згубіліся. Другі паасобнік Бібліі (384 с.) у 1681 г. быў падараваны самім перакладчыкам нямецкаму тэолагу А. Мюлеру, які, у сваю чаргу, перадаў кнігу Шчэцінскай гімназіі.

У 1894 г. кнігу купіла Пруская дзяржаўная бібліятэка. Поўны рукапіс літоўскага перакладу Новага Запавету з маргіналіямі і заўвагамі перакладчыка быў адшуканы ў адным з правінцыяльных антыкварыятаў у Англіі і куплены Брытанскім музеем. У 1958 г. ён вы-



*Аркуш з кнігі «Полустав великий... благословением святейшого вселенскаго патриархи константинополскаго, тщанием же братии при храме Сошествия пресвятаго и животворящаго духа, в типографии совершенно изданно, в Вилни в лето от воплощения господня 1646.» з гравіраванай выявай Спаса.*

[183] *Falkenhahn V.* Der Übersetzer der litauischen Bibel Johannes Bretke und seine Helfer. Königsberg, 1941.

дадзены ў Познані Ч. Кудзіноўскім і Я. Астрэмбскім[184].

Пасля рашэння Віленскага рэфармацкага сінода аб тым, што пераклад Хілінскага не можа быць апублікаваны, рыхтаваць выданне Новага Запавету ўзяўся Ян Бажымоўскі. Для дапамогі перакладчыку з Кёнігсбергскай кансісторыі быў прывезены рукапіс Ёгана Брэтке. Пасля смерці (у 1673 г.) Бажымоўскага яго справу працягвалі сын Ян Бажымоўскі-малодшы і Самуіл Бітнер. Па прапанове сінода да гэтай працы далучыліся таксама пастары Станіслаў Манкевіч (Манкявічус) і Самуіл Ліпскі (Ліпскіс). У 1631 г., калі ўсё набліжалася да завяршэння, здарыўся пажар у Біржах, пад час якога згарэлі ўсе рукапісы, і працу прыйшлося пачынаць спачатку. Да 1690 г. пераклад Новага Запавету быў закончаны, але апрабацыю рэфармацкага сінода ён атрымаў толькі ў 1697 г. Сродкі выдаткаваў прускі герцаг Фрыдрых Вільгельм з умовай, што кніга будзе прыстасавана для патрэб прусаў. Да рэдагавання быў далучаны прускі пастар Фрыдрых Шустэр. Вынікам яго працы сталі дапісаныя (у дужках) пруска-літоўскія сінонімы тых слоў і выразаў, што маглі быць незразумелыя для прускага чытача. Кнігу выпусцілі ў двух варыянтах: адзін для распаўсюджвання ў ВКЛ, другі — для Прусіі. У першым выданні тытульны аркуш выдрукаваны лацінскім шрыфтам на літоўскай мове, у выданні для Прусіі — лацінскім шрыфтам на лацінскай мове і готыкай па-літоўску. Адрозніваюцца адна ад адной і прадмовы ў абодвух выданнях. У астатнім іх тэксты ідэнтычныя. Абодва выданні былі надрукаваны ў 1701 г. кёнігсбергскай друкарняй Ройснера. У наш час выданне для летувісаў вядома ў 12 паасобніках, для прусаў — у 14, што сведчыць аб даволі вялікім накладзе[185].

Паслядоўнікі «швейцарскай веры» ў ВКЛ — кальвіністы — падтрымлівалі пастаянныя сувязі не толькі з Кёнігсбергам і іншымі германскімі цэнтрамі, але і з Базэлем. Прысвячэнні Мікалаю Радзівілу Чорнаму змешчаны ў кнігах, якія выпушчаны прафесарам грэцкай мовы і вядомым базэльскім выдаўцом І. Апорыным[186] (друкарня базэльскага выдаўца Пятра Перны[187]); Радзівілам прысвяціў кнігі паслядоўнік П. Перны К. Вальдкірх[188]. Падарожнічаў і вучыўся ў Еўропе сын князя Юрыя Слуцкага (вядомага перапісчыка Евангелля) Аляксандр — яму прысвечаны твор Й. Штурма «Аб выхаванні князя»[189]. Базэльскі выдавец Ёган Якуб Грасер у 1615 г. надрукаваў у адным зборніку творы Міхалона Літвіна «Аб звычаях татараў, літоўцаў і масквіцян» і Яна Ласіцкага «Аб багах Жамойці», прысвяціўшы выданне сыну троцкага кашталяна князю Актавіяну Аляксандру Пронскаму[190]. У прысвячэнні Грасер праслаўляе старажытны род князёў Пронскіх, што бярэ свой пачатак ад Рурыка, прыводзіць факты біяграфій найбольш славутых членаў рода. Так, заслугай бацькі Актавіяна, Аляксандра Пронскага, было актыўнае ваеннае супрацьстаянне татарам, дапамога Стэфану Баторыю пад Полацкам і Псковам, куды ён прывёў вялікае, узброенае на ўласныя сродкі войска. Амаль усё сваё юнацтва князь Аляксандр правёў пры двары французскага караля Карла IX, «аддаўшыся прыроднай схільнасці да вывучэння моў, прыгожых мастацтваў і звычаяў і розных дабрадзействаў, а таму быў усё жыццё мецэнатам і пратэктарам не толькі прыгожага пісьменства, але і ўвогуле любой карыснай навукі, чым выклікаў усеагульнае захапленне». Вярнуўшыся на Радзіму, Аляксандр быў троцкім кашталянам (1590 г., займаў гэтую пасаду да сваёй смерці ў 1596 г.). «Вартыя вялікай пахвалы сляды, што пакінулі продкі твае, каб ты ішоў па іх да жаданай тваёй мэты, — гаворыць аўтар прысвячэння, звяртаючыся да Актавіяна Пронскага. — А паколькі, святлейшы князь, па вяртанні тваім на Радзіму, аб якім ты зараз думаеш, табе на-

[184] Biblia litewska Chilińskiego. Nowy Testament. T. 1—2. Poznań, 1958.

[185] *Владимиров Л. И.* Издания и переводы Библии в идеологической борьбе в Великом княжестве Литовском // Федоровские чтения 1981: Сборник научных трудов. М., 1985. С. 44—47.

[186] Demetrius Phalerius. De elocutione liber. Basiliae, 1557.

[187] *Ohino B.* Dialogorum liber secundus. Basiliae, 1563.

[188] Chrzastovius. Duo libelli de opificio Misse. Basiliae, 1594; Epicedia in illustrissimi et magnanimi principis dn. domini Christophori Radziwilli Birzarum et Dubinki dynastae... obitum. Basiliae, 1603.

[189] *Sturm J.* Epistola ad illustrissimum principem Alexandrum, ducem Sluciensem, de educatione principum. Argentorati, 1581.

[190] Michalonis Litvani De moribus Tartarorum, Litvanorum et Moschorum, fragmina X multiplici Historia referta, et Iohan. Lasicii Poloni De diis Samagitarum. Basileae, 1615.

пэўна прыйдзецца змагацца часам з татарамі і масквіцянамі, пажадаў я твор гэты, у якім апісваецца жыццё гэтых ворагаў, адрасаваць і прысвяціць слаўнаму твайму імені. Першая кніжачка выйшла ў 1550 г. для польскага караля Жыгімонта Аўгуста, другая была набрана ў 1580 г. для князя слуцкага Аляксандра. Абодва рукапісы аказаліся ў аднаго прыяцеля сярод самых вядомых твораў, што прыслалі некалі з Польшчы для выдання нашаму друкару Пятру Перне. Прымі ж муз, што некалі прысвечаны вялікаму каралю і князю, сваяку твайму, прымі муз, што некалі былі пасланыя з Польшчы ў Базэль, каб яны ўбачылі свет і ўваскрэслі»[191].

Палеміка з антытрынітарыем Сымонам Будным, які жыў у беларускіх землях, прымусіла працаваць друкарскія варштаты ў многіх гарадах Еўропы — Неапалі, Цюрыху[192], Кракаве[193]. Галоўным пастаўшчыком у ВКЛ польскіх рэфармацыйных выданняў у XVII ст. стаў гданьскі выдавец і друкар Андрэй Гюнефельд. Акрамя богаслужбовай літаратуры і кніг Біблii, з краін Захаду паступалі гістарычныя, навуковыя кнігі, апісанні падарожжаў у недаследаваныя альбо малавядомыя землі, гістарычныя творы, мастацкая літаратура. Сярод іх былі і шматлікія кнігі з прысвячэннямі магнатам Вялікага Княства[194].

У 1601 г. у езуіцкім калегіуме ў Брунсбергу быў выдадзены лацінскі пераклад (зроблены вармінскім канонікам Тамашом Трэтэрам) кнігі Мікалая Хрыстафора Радзівіла Сіроткі «Hierosolymitana peregrinatio...» («Вандроўкі ў Ерусалім») пра падарожжа з Нясвіжа ў Святую Зямлю[195]. Польскі гісторык Станіслаў Александровіч выказаў думку, што для вырабу гравюр-ілюстрацый да гэтага выдання ў Брунсберг прыязджаў нясвіжскі гравёр Тамаш Макоўскі[196], хоць існуе і іншая думка — быццам ілюстрацыі выканаў перакладчык Тамаш Трэтэр, выдатны мастак і гравёр[197]. У 1603 г. з'явіўся пераклад «Hierosolymitana peregrinatio...» на нямецкую, а ў 1607 г. — на польскую мову. У 1614 г. лацінскі варыянт быў перавыдадзены ў друкарні Плантэнаў у Антверпене. З польскай і лацінскай былі зроблены пераклады на рускую мову — зараз вядома 13 спісаў рускіх перакладаў XVII — першай трэці XVIII ст. Як паказалі сучасныя даследаванні, частка тэкстаў «Вандроўкі ў Ерусалім...» рабілася відома чытачу-маскавіту праз «Хроніку Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні і кнігу Іянікія Галятоўскага «Лебедзь са сваім пер'ем...»; у апошняй аўтар разглядае прычыны, «чаму шмат народаў прынялі Магаметаў закон»[198].

Кніга ўладальніка маёнтка Шарашова, надворнага (а з 1598 г. вялікага) маршалка Хрыстафора Манівіда Дарагастайскага «Гіпіка» выдадзена ў Кракаве ў 1603 г. (з ілюстрацыямі нясвіжскага гравёра Тамаша Макоўскага) і ў 1620 г. у Познані[199]. У варшаўскай друкарні Георгія Ферстэра выдаў у 1655 г. сваю кнігу «Elogium. Duodecim virtutum, sine labe concepta Deiparae Virg. Mariae» Альбрэхт Станіслаў Радзівіл. Прыклады друкавання твораў ліцвінаў за мяжой можна множыць і множыць. Прычыны гэтаму былі, напэўна, самыя розныя — ад эканамічных да палітычных.

Адным з найбольш вядомых лацінамоўных еўрапейскіх паэтаў першай паловы XVII ст. быў віленскі езуіт Мацей Казімір

[191] *Михалон Литвин.* О нравах татар, литовцев и москвитян. С. 58–61.

[192] *Simler J.* Assertio ortodoxae doctrinae de duabus naturis Christi [...] opposita blasphemiis et sophismatis [...] Simonis Budnaei nuper ab ipso in Lithuania evulgatis. Tiguri, 1575.

[193] *Cichowius M.* Pogrom diabla ariańskiego. Kraków, 1659.

[194] М. І. Ткачэнка ў выступленнях на навуковых канферэнцыях паведаміла пра некалькі (больш за 30) выданняў, прысвечаных Мікалаю Радзівілу Сіротку, з партрэтамі, у ліку іх аўсбургскае выданне «Viridarium sanctorum» 1604 г. з групавым партрэтам трох сыноў Сіроткі, кніга з партрэтам самога Сіроткі, калі той быў яшчэ маленькі.

[195] Hierosolymitana peregrinatio Illustrissimi Domini Nicolai Christophori Radzivili [...] IV Epistolis comprahensa. Ex idiomate Polonico in Latinam linguam translata et nunc primum edita. Thoma Tretero Custode Varmiensis interprete [...]. Brunsbergae, [1601]. — Існуюць тры друкарскія варыянты гэтага выдання.

[196] *Alexandrowicz S.* Stanowisko Tomasza Makowskiego na dworze nieswieskim (przyczynek do biografii artysty) // BHSz. 1967. № 4. S. 522–531.

[197] *Chrzanowski T.* Działalność artystyczna Tomasza Tretera. Warszawa,1984.

[198] *Федорова И. В.* «Путешествие в Святую Землю и Египет» князя Николая Радзивилла в русской литературе XVII — начала XVIII века. Автореф. дис. ... канд. филол. наук. СПб., 2000.

[199] *Дарагастайскі К. М.* Гіпіка, альбо Кніга пра коней / Крыштаф Монвід Дарагастайскі; уклад. С.А.Ішчанка, В.Л.Дубоўскі. — Мінск, 2007.

Сарбеўскі (1595—1640), якога сучаснікі называлі «Horacius Sarmaticus» альбо «Pindarus Sarmaticus». Сваю паэтычную кар'еру ён пачаў у Рыме, пад час элекцыі кардынала Матэо Барберыні на папу Урбана VIII у верасні 1623 г., калі быў вянчаны лаўровым вянком за вершы ў гонар гэтай падзеі. Творы Сарбеўскага распаўсюджваліся ў спісах і шматразова (больш за 60) выдаваліся ў розных еўрапейскіх друкарнях на працягу XVII і XVIII стст.[200] Па заказе друкарні Плантэнаў у 1634 г. франтыспіс для кнігі вершаў Сарбеўскага «Liricorum libri IV» выканаў Пітэр Пауль Рубенс (з гэтым жа франтыспісам выданне было паўторана ў 1634—1682 гг. у Антверпене, Медыялане, Рыме і Кёльне 7 разоў)[201].

Найбольш прывазных кірылічных кніг трапляла ў ВКЛ з друкарняў Кароны Польскай. Ужо ў трэцяй чвэрці XVI ст. іх выданне каардынавалі паміж сабой Віленскае і Львоўскае брацтвы.

Часткаю кніжнай культуры Вялікага Княства, безумоўна, з'яўляліся астрожскія выданні. Астрог разам з Валынню стаў пасля 1569 г. часткай Кароны, аднак як самі валыняне (тыя ж астрожскія), так і іх адзінаверцы і браты, што «засталіся» ў ВКЛ, заўсёды лічылі сябе за адзінае цэлае. Наглядна ілюструе гэта перапіска Мікалая Радзівіла Сіроткі з князем Астрожскім наконт сумеснай працы над картай ВКЛ, пазней вядомай як Радзівілаўская карта 1613 г. Усе астрожскія выданні Івана Фёдарава шырока распаўсюджваліся ў Вялікім Княстве. Гэта «Азбука» 1578 г., Псалтыр і Новы Запавет 1580 г., «Кніжка сабранне найпатрэбнейшых рэчаў» 1580 г., «Храналогія» Андрэя Рымшы 1581 г. і Астрожская Біблія 1580—1581 гг.

У XVII ст. асноўным кіраўніцтвам для набажэнства ў праваслаўнай царкве ВКЛ стаў Трэбнік мітрапаліта Пятра Магілы, выдадзены ў Кіеве ў 1646 г. Гэтая вялізная — 1621 аркуш — кніга багата ілюстравана — 20 гравюр, работы лепшых кіеўскіх майстроў на чале з Іллёй. Шырокае распаўсюджанне мела таксама кніга беларускага (мсціслаўска-аршанскага) епіскапа Сільвестра Косава «Пацерыкон», выдадзеная ў Кіеве ў 1635 г. на польскай і ў 1678 і 1702 гг. на царкоўнаславянскай мове.

Даўняе адзінства кніжнай прасторы Вялікага Княства і ўкраінскіх зямель, якія былі далучаны да Польшчы, сімвалізуе дзейнасць праваслаўных друкароў — выхадцаў з ВКЛ на Украіне. Гэта перадусім львоўскі друкар Міхаіл Слезка, родам з Наваградка, і кіеўскі друкар Спірыдон Собаль, родам з Магілёва. Сюды ж можна далучыць і гравёраў кніжных ілюстрацый братоў Тарасевічаў, родам са Случчыны, якія значную частку лепшых сваіх творчых прац стварылі для друкарняў Кіева і Чарнігава.

У адзначаны час пачалі з'яўляцца на беларускіх землях ВКЛ кнігі, што выходзілі з маскоўскага друкарскага двара — гэта першыя выданні Івана Фёдарава з Пятром Мсціслаўцам, Андроніка Цімафея Нявежы і інш.

Сучасны польскі даследчык Ежы Тапольскі выказаў даволі супярэчлівае меркаванне аб тым, што «інтэлектуальна актыўнае асяроддзе ў Вялікім Княстве Літоўскім XVI — першай паловы XVII стагоддзя складалася галоўным чынам з польскага чынніка, хоць былі ў ім і тыя, што прыйшлі з Масквы, Львова, Кіева, а таксама пісьменнікі і друкары з краін Заходняй Еўропы. Сярод пісьменнікаў, што працавалі на гэтых землях, 80% былі выхадцы з Кароны»[202]. У сапраўднасці інтэлектуальна актыўнае асяроддзе складалася найбольш з жыхароў ВКЛ — манахаў-кнігапісцаў, складальнікаў чэцціх зборнікаў, магнатаў з універсітэцкай адукацыяй, сярэдняй шляхты і гараджан, з асяроддзя якіх вылучыліся такія яркія асобы, як Багуслаў Уніхоўскі, Фёдар Еўлашоўскі, Кузьма і Лука Мамонічы ці Міхалон Літвін (Венцаслаў Мікалаевіч). Некаторыя з іх карысталіся польскай і лацінскай мовамі, колькасць такіх людзей павялічвалася. Выхадцы з Кароны — пераважна ураджэнцы параўнальна позна далучаных суседніх з ВКЛ зямель — Мазовіі і Вармії; палякі з Вялікай і Малой Польшчы пераважалі сярод пратэстантаў. Гэта толькі невялікая частка людзей, якіх даволі ўмоўна мы можам назваць інтэлігенцыяй той эпохі.

[200] *Narbutas S.* Sarbievijaus poezijos leidimai XVII amžiuje // Mathias Casimirus Sarbievius in cultura Lithuaniae, Poloniae, Europae: Materies conventus scientifici internationalis anniversario quadringentesimo a die natali Poetae dedicati. Vilnae, 1995. P. 289—307.

[201] *Chróscicki J.* «Horacius Sarmaticus». Dwa antwerpskie wydania «Liricorum» Sarbiewskiego z frontispisami wedle projektów Rubensa // O ikonografii świeckiej doby humanizmu. Warszawa, 1977. S. 281—333.

[202] *Topolski J.* Polska w czasach nowożytnych. S. 294.

# СПРАВЫ ДРУКАРСКІЯ

Псіхалагічна сітуацыя на пачатку эпохі кнігадрукавання не на шмат адрознівалася ад атмасферы пад час іншых вялікіх перамен у гісторыі кнігі — пераходу ад сувоя да кодэкса, ад пергамена да паперы, ад індывідуальнай вытворчасці да калектыўнай працы, змены інструментарыя пісцоў і г. д. Таму для грамадзян ВКЛ кнігадрукаванне не стала рэвалюцыяй. Людзі спакойна прынялі кнігі, што сыходзілі з друкарскага варштата, у тым ліку богаслужбовыя і, што выклікала найвялікшае сумненне, нават абразы. Аднак праблема прыняцця такіх навінак, як адзначыў Аляксандр Наумаў, звязаная хутчэй з прыродай чалавека, чым з тыпам культуры[203]. У прыватнасці, друкаваныя абразы, што з'явіліся ў першай палове XVII ст., не выклікалі адмаўлення. У 1637 г. Афанасій Філіповіч прывозіў у Маскву «образ папировый» Купяціцкай іконы Багародзіцы, «каторы того року першый раз з друку кіевского выдан» [204].

У апошнія дзесяцігоддзі XV ст. у Еўропе надрукавана каля 20 мільёнаў кніг, некаторая іх частка была прывезена ў ВКЛ. Гэта былі галоўным чынам лацінскія кнігі з розных еўрапейскіх друкарняў, а таксама чатыры кірылічныя інкунабулы з Кракава: Актоіх, Часаслоў, Трыёдзь Посная і Трыёдзь Кветная.

Ні кнігапісанне, ні кніжны імпарт не маглі, аднак, цалкам задаволіць попыт на кнігі — патрэбны быў друкарскі варштат, каб друкаваць вялікую колькасць аднолькавых паасобнікаў неабходнай менавіта ў гэты час літаратуры — найперш юрыдычнай, палемічнай, богаслужбовай. Друкарства з'явілася і распаўсюдзілася даволі хутка. У першай чвэрці XVI ст. кнігадрукаванне пачалося ў сталіцы Вялікага Княства — Вільні. Усяго за час існавання Вялікага Княства Літоўскага ў ім дзейнічалі не менш чым 36 друкарняў, якія сваю прадукцыю прызначалі інтарэсам як усёй дзяржавы і ўсяго грамадства, так і асобных, розных паводле веравызнання груп насельніцтва[205]. Праца кожнай была звязана з адной, альбо некалькімі, альбо многімі выдатнымі асобамі — друкарамі, спраўшчыкамі, мастакамі-гравёрамі, аўтарамі-пісьменнікамі. Абудзілася да жыцця цэлая праслойка людзей, якіх звязалі прафесійныя інтарэсы. ВКЛ стала зонай кантактаў друкароў. Практычна ўсе тутэйшыя выдаўцы супрацоўнічалі з гандлярамі кнігамі і друкарамі ў памежных краях. Часцей за ўсё такія кантакты ажыццяўлялі адзінаверцы. Праваслаўныя друкарні Віленскага і Львоўскага брацтваў супернічалі паміж сабой, аднак і супрацоўнічалі, стараючыся не паўтараць адны і тыя ж выданні. Віленскія друкары заказвалі ў Львове шрыфты і нават спрабавалі перацягнуць да сябе спецыялістаў. Пратэстанцкія абшчыны размяркоўвалі заказы на кнігі паміж друкарнямі кароннымі і Вялікага Княства, а пэўную частку замаўлялі ў нямецкіх, перш за ўсё гданьскіх і кёнігсбергскіх, выдаўцоў. Цесныя сувязі кнігадрукарства ВКЛ з маскоўскім пачаліся з вандроўнай друкарні Івана Фёдарава (Масква — Заблудаў — Астрог — Львоў) і актыўна ажыццяўляліся ў першай палове XVII ст.: «Кантакты ў другой палове 30-х гадоў XVII ст. паміж друкарамі, якія належалі да двух розных традыцый, Васілём Бурцавым і Спірыдонам Собалем, несумненна мелі вынікам з'яўленне ў выданнях Бурцава друкарскіх асаблівасцей, якія да гэтага ў маскоўскіх выданнях не сустракаліся. Разам з тым можна казаць і пра іншы ўплыў, які, прынамсі, заўважаецца ў з'яўленні ў выданні Псалтыра, што зрабіў Собаль у 1637—1638 гг., дадатковых прыпеваў да 9-й песні канону на Грамніцы. Крыніцай гэтага дадатку, без усялякага сумнення, стала альбо трэцяе бурцаўскае выданне Псалтыра (1637), альбо Псалтыр, надрукаваны ў тым жа годзе «Печатным двором», які Спірыдон Собаль таксама меў магчымасць бачыць»[206].

[203] *Naumow A.* Teologiczny aspekt druku (na materiale najstarszych wydań cerkiewnosłowiańskich) // Najstarsze druki cerkiewnosłowiańskie i ich stosunek do tradicji rękopiśmiennej: Materiały z sesji. Kraków, 7—10 XI 1991. Kraków, 1993.

[204] *Коршунов А. Ф.* Афанасий Филиппович. Жизнь и творчество. Мн., 1965. С. 106.

[205] *Пічэта У. І.* Друк на Беларусі ў XVI і XVII сталецьцях // Чатырохсотлецьце беларускага друку. Мн., 1926. С. 228—261.

[206] *Вознесенский А. В.* Служебная Псалтирь в восточнославянском книгопечатании XVI—XVIII вв. С. 218—219.

**Друкарні і друкары ВКЛ**

*Табліца 4*

| Населены пункт | Друкар (уладальнік друкарні — у дужках) | Час існавання |
|---|---|---|
| Вільня | Францыск Скарына | 1522—1525 |
| Брэст | Бернгард Ваяводка (Мікалай Радзівіл Чорны) | 1543—1544; 1558—1570 |
| Нясвіж | Сымон Будны (Мацей Кавячынскі) | 1562 |
| Заблудаў | І. Фёдараў, П. Мсціславец (Рыгор Хадкевіч) | 1568—1570 |
| Заслаўе | Сымон Будны (Гектар і Альбрэхт Кавячынскія) | 1572 |
| Лоск | Даніэль Ленчыцкі, Ян Карцан (Ян Кішка) | 1572—1589 |
| Вільня | Пётр Мсціславец (Мамонічы) | 1575—1576 |
| Цяпіна | Васіль Цяпінскі | 1570-я |
| Вільня | Ян і Іосіф Карцаны | 1580—1620 |
| Вільня | (Мікалай Радзівіл Сіротка) | 1576—1589 |
| Вільня | Міхал Гарабурда (Мамонічы) | 1580—1582 |
| Вільня | Мамонічы | 1583—1624 |
| Вільня | Якуб Марковіч | 1592—1621 |
| Вільня | (акадэмія) | 1592—1805 |
| Вільня | Даніэль Ленчыцкі | 1594—1600 |
| Вільня | (брацкая) | 1595—1705 |
| Вільня | Саламон Сультжэр | 1596—1603 |
| Вільня | Васіль Малахвеевіч, Станіслаў Вярэйскі (Мельхіёр Пяткевіч) | 1598 |
| Еўе | Гаўрыіл Іаанавіч (брацтва) | 1611—1645 |
| Вільня | Пётр Бластус Кміта | 1611—1612 |
| Любча | Пётр Бластус Кміта | 1612—1656 |
| Ашмяны | | 1615 |
| Вільня | (Троіцкая) | 1628—1800 |
| Куцейна | (брацтва) | 1631—1632 |
| Магілёў | Спірыдон Собаль (брацтва) | 1636—1638 (1693—1771) |
| Буйнічы | Спірыдон Собаль (манастыр Св. Духа) | 1636—1654 |
| Пяршаі | | 1645 |
| Кейданы | Іахім Ротэ (Януш Радзівіл) | 1651—1655 |

Неабходнасць мець у сталіцы Вялікага Княства друкарню, якая б служыла, акрамя ўсяго, і дзяржаўным патрэбам, усведамлялі ўжо ў першай чвэрці XVI ст. Яшчэ да прыняцця Першага Статута, на Віленскім сойме 6 снежня 1522 г., Жыгімонт Стары абяцаў выдаць яго вялікай колькасцю паасобнікаў бітымі літарамі («in numerosis voluminibus excudi literis»)[207]. Рэалізаваць гэты намер не ўдалося, але першая друкарня ў ВКЛ была створана. У 1522 г. у сталіцы, у доме віленскага бурмістра Якуба Бабіча[208], сын полацкага купца Францыск Скарына распачаў ва Усходняй Еўропе новую эру — эру кнігадрукавання. Рэальна ж «пабудову храма друкаванай кнігі» віленчукі пачалі трохі раней, у 1517—1519 гг., за межамі роднага горада, у чэшскай Празе. Там на сродкі сына радцы віленскага магістрата Багдана Онкава Скарына абсталяваў друкарню, заказаў шрыфты, гравюры і іншыя ўпрыгажэнні і пачаў друкаваць свой пераклад Бібліі[209].

Сучасныя мастацтвазнаўцы маюць дзве гіпотэзы адносна паходжання цудоўных ілюстрацый з пражскіх выданняў Францыска Скарыны: адны (Лявон Баразна) перакана-

[207] Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1529. Poznań, 1841. S. 121—123; *Лаппо И. И.* Литовский Статут 1588 года. Т. 1, ч. 2. Каунас, 1936. С. 268.

[208] Эдмунд Гячаўскас выказаў меркаванне, што Якуб Бабіч быў беларусам каталіцкага веравызнання (*Гячяускас Э.* Франциск Скорина — секретарь вильнюсского епископа Иоанна из князей литовских // Федоровские чтения 1982. С. 62—63).

[209] Найбольш падрабязна захаваныя паасобнікі выданняў Скарыны апісаны: *Неміроўскі Я. Л.* Выданні Францыска Скарыны: Зводны каталог і апісанне // Францыск Скарына: Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988. С. 205—310.

ныя, што друкар сам быў аўтарам ілюстрацый, другія (Вальдэмар Дэлюга) даводзяць, што Скарына купіў дошкі ў нямецкіх і чэшскіх друкароў[210]. Важны аргумент на карысць таго, што Скарына браў удзел у ілюстраванні сваіх кніг, знайшоў украінскі даследчык Яраслаў Ісаевіч. Ён паказаў, што выява будынка на 133-м аркушы Трэцяй Кнігі Царстваў нагадвае будынак кракаўскай бурсы для бедных. Паводле тэстаменту яе заснавальніка, выхаванца Пражскага універсітэта Йогана Існера, у бурсу павінны былі прымаць у першую чаргу студэнтаў «з Русі і Літвы». Падабенства малюнка з будынкам бурсы (дзе, па ўсёй верагоднасці, жыў пад час навучання будучы друкар) дае падставы меркаваць, што ён аднавіў яе па памяці, каб надаць рэальныя рысы ілюстрацыі на тэму старазапаветнай гісторыі[211].

Францыск Скарына нарадзіўся ў апошняй чвэрці XV ст. у сям'і полацкага купца. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Полацку, затым працягваў вучобу ва універсітэтах Кракава і Падуі, вывучаючы гуманітарныя навукі і медыцыну. У Падуанскім універсітэце Скарына трапіў у асяродак славян-каталікоў, найперш харватаў, сярод якіх былі Сцяпан Брадарыч, з 1518 г. канцлер венгерскага манарха Ласло Шалкая; Вінцук Прybоевіч (аўтар кнігі «Аб паходжанні і поспехах славян»), дамініканец; паэт Іван Барбула, бенедыкцінец, і паэт патрыятычнага накірунку Марво Ветранавіч. Значнай падзеяй было для палачаніна знаёмства з кнігадрукаваннем на славянскай мове — перш за ўсё венецыянскім выданнем чэшскай Біблії (1506), перакладам на харвацкую мову кнігі «Юдзіф» Марка Маруліча (1501) і інш.

Хто ініцыятар пераносу друкарскай дзейнасці Францыска Скарыны з Прагі ў Вільню — пытанне невысветленае. Магчыма, епіскап Ян, да якога Скарына паступіў на службу пасля прыезду ў сталіцу, а можа, гэта была ініцыятыва самога кнігадрукара, пасля таго як ён знайшоў на айчыне падтрымку ў заможных сталічных мяшчан.

У Вільні Скарына выдаў «Малую падарожную кніжку» (каля 1522 г.), у якую ўвайшлі «Псалтыр», «Акафісты і Каноны», «Шасціднеў». Другім і апошнім віленскім



КНИГИ Е МОИСЕОВЫ
ВЗОРЪ РИЗЪ ЖРЕЧЕСКИХ ЕЖЕ БЫША НА АРОНЕ

ВДЕЛАЮТЪЖЕ ПЛАЩЪ ЖРЕЧЕСКИИ СЪЗЛАТА ТАГНЕНАГО, И СЪ ШОЛКУ СИНЕГО, И ЧЕРВЕЧЕТАГО ПОДВАКРАТЬ КРАШЕНАГО, И СОЛЬНУ БЕЛОГО ПРЕСУКОВАНОГО ДЕЛОМЪ ВЗОРОВАТЫМЪ. ДВА ПОДОЛКИ СПОЕНА ИМЕТИ БУДЕТЬ ПРИКОНЪЦЕХЪ ОБОЕГО БОКУ, ДАБЫ ВОЕДНОСЯ ЗХОЖАЛИ. ТОЕ ПАКЪ СОТКАНИЕ И ВСИ ВЗОРЫ ДЕЛАНЫ БУДУТЬ ОТЗЛАТА

*Убранне найвышэйшага святара Аарона. Гравюра з «Біблії» Францыска Скарыны. 1517 г.*

выданнем Скарыны стаў «Апостал» (1525). У параўнанні з пражскімі віленскія выданні Скарыны ілюстраваны больш сціпла. Сюжэтна-тэматычных гравюраў няма ў «Апостале» 1525 г., у «Малой падарожнай кніжцы» іх пяць. Мастацтвазнавец В. Шматаў паказаў, што дзве з тых пяці — «Хрыстос у храме» і «Хрышчэнне Гасподне» зроблены з арыгінальных клішэ, якія Скарына набыў у нюрнбергскай друкарні Кобургераў, дзе яны перад тым выкарыстоўваліся ў лаціна- і нямецкамоўным выданні «Хронікі ўсяго свету» Гартмана Шэдэля[212]. Да сёння няясныя прычыны,

[210] *Дэлюга В.* Крыніцы і інспірацыі ксілаграфічных ілюстрацый да выданняў Францыска Скарыны // Кантакты і дыялогі. 2000. № 3. С. 3–7.
[211] *Ісаєвич Я.* Українське книговидання. Витоки. Розвиток. Проблеми. Львів, 2002. С. 97.
[212] *Шматов В. Ф.* Искусство книги Франциска Скорины. С. 162–166.

чаму Скарына спыніў выдавецкую дзейнасць і ад'ехаў у Прагу, дзе заставаўся да сваёй смерці. Адной з загадак біяграфіі Скарыны з'яўляецца яго візіт у Маскву і нібыта спаленне там яго кніг. У інструкцыі вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста сваіму паслу пры папе Альберту Крычку сярод іншага, каб паказаць неталерантнасць маскоўскага князя да каталіцызму, даецца такі гістарычны прыклад: «...калі ў часе панавання нашага нябожчыка бацькі адзін ягоны падданы, кіруючыся пабожным жаданнем, пастараўся святое пісьмо рускаю моваю надрукаваць і выдаць дый пайшоў да Масквы, кнігі ягоныя на загад Князя публічна былі там спаленыя дзеля таго, што належаў ён да Рымскае царквы дый што кнігі выдадзеныя былі ў месцах, што падлягаюць яе зверхнасці...»[213].

Аналіз дакумента дазволіў беларускаму даследчыку С. Брагу пераканацца ў яго аўтэнтычнасці[214]. Тым часам маскоўскія дакументы пачатку XVI ст. (даволі багатыя) не даюць звестак пра прыезд Скарыны у Маскву і спаленне яго кніг. Больш таго, традыцыяй расійскай гістарыяграфіі з'яўляецца лічыць Скарыну пратэстантам, а свабодны гандаль кнігамі ВКЛ з Масквой падтрымліваўся хіба не да 1627—1628 гг., калі па хадайніцтве маскоўскага патрыярха цар забараніў прывозіць, чытаць і захоўваць кнігі «літоўскага» друку.

Што было прычынай спынення скарынаўскага кнігадрукавання — адмова праваслаўных прымаць прадукцыю іншаверца ці канчатковая адмова каталікоў ВКЛ ад кірыліцы, або прычыны былі толькі эканамічныя і прыватныя — невядома. Тым не менш фактам стала тое, што пасля спынення (у 1525 г.) дзейнасці друкарні Францыска Скарыны рэалізаваць выданне Першага Статута не было каму, хоць друкарскае абсталяванне Скарыны заставалася ў сталіцы ВКЛ і ў далейшым выкарыстоўвалася ў друкарні Мамонічаў. Скарына ж апошнія гады жыцця працаваў толькі як медык.

Кнігі Скарыны да выхаду Астрожскай Біблії заставаліся адзіным тыражаваным перакладам Біблії ва ўсходнеславянскім арэале — аб папулярнасці іх сведчаць шматлікія спісы. Прынамсі, вядома дзевяць спісаў з «Апостала»: чатыры з іх у бібліятэках Украіны (Львоў, Харкаў і Кіеў), тры — у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, куды яны паступілі з бібліятэкі грэка-каталіцкага капітула ў Перамышлі (адзін датаваны 1619 г., астатнія — другой паловай XVI ст. ), адзін пасобнік у Санкт-Пецярбурзе (РНБ) і адзін нядаўна знойдзены Ф. Сокалавай у Славянскай бібліятэцы ў Празе[215].




*Лагер іудзеяў (дванаццаць каленаў Ізраіля). Паменшаная копія гравюры з Брэсцкай Біблії. «Figure de la Biblia» Габрыэля Сімеонэ. Ліён, 1565 г.*

[213] *Fiedler J.* Ein Versuch der Vereinigung der russischen mit der römischen Kirche im sechzehnten Jahrhunderte // Sitzungsberichte der Philosophisch-Historischen Classe der [Österreichischen] Kaiserlichen Akademie der Wissenschaften. 1862. H. 1. S. 110.
[214] *Брага С.* Доктар Скарына ў Маскве. Мн., 1993.
[215] *Сокалава Ф.* Рукапісны спіс скарынаўскага Апостала // Голас Радзімы. 1995. 26 кастр. С. 1, 6.

*← Брэсцкая Біблія 1563 г. Лагер іудзеяў (дванаццаць каленаў Ізраіля).*


Pierwsze Księgi Moizeszowe / ktore zową ięzykiem Greckim Genesis / á po polsku / Początkiem álbo Rodzáiem.

Argument tych Ksiąg.

Kapitulá I.

*Брэсцкая Біблія 1563 г. Пачатак Першай кнігі Майсея.*
*Складаны набор (у 4 слупкі) і выкарыстанне багата аздобленых заставак і ініцыялаў — характэрныя для другой брэсцкай друкарні.*

**Брэсцкія друкарні.** У сярэдзіне XVI ст. дзяржаўным чыноўнікам, які адказваў за распаўсюджанне афіцыйных дакументаў ВКЛ, быў канцлер Мікалай Радзівіл Чорны. Ён атрымаў гэты ўрад адначасова з вышэйшай дзяржаўнай пасадай — віленскага ваяводы — у снежні 1550 г. Ужо праз два гады ён арганізаваў у Брэсце друкарню, якая стала другой у Вялікім Княстве Літоўскім па часе заснавання (пасля віленскай Ф. Скарыны).

Галоўнай дзейнай асобай ад пачатку працы друкарні (1553) стаў Бернгард Ваяводка — кракаўскі друкар, які прыехаў са сваімі шрыфтамі і неабходным друкарскім абсталяваннем. Зараз вядомы чатыры яго выданні: пераклады пратэстанцкіх прапаведнікаў К. Імлера і У. Рэгіўса, а таксама «Віды мовы» і «Брэсцкі Катэхізіс» у перакладзе М. Рэя, С. Заціўша і самога Ваяводкі. У ліпені 1554 г. Ваяводка ўтапіўся ў рацэ Мухавец. Ёсць дзве версіі абставін яго смерці. Адна абапіраецца на інфармацыю з ліста Лукаша Аквілінуса да Гозія, дзе гаворыцца, што Ваяводка ўтапіўся, купаючыся ў «рацэ брэсцкай». Аднак у выдадзенай годам пазней кнізе Мікалая Рэя «Żywot i sprawy poczciwego szlachcica M. Reja» паведамляецца, што разам з Ваяводкам патанула шмат кніг — на гэтыя звесткі абапіраюцца прыхільнікі другой версіі, якія падазраюць не няшчасны выпадак, але акцыю супраць кнігавыдаўца-пратэстанта. Маёмасць, што засталася пасля Ваяводкі, атрымала ў спадчыну ўдава — Дарота. Яна прадала абсталяванне друкарні ў Кракаў друкару Марціну Віжбенце.

Брэсцкая друкарня была створана далёка ад сталіцы і аддадзена прадстаўнікам мала распаўсюджанага пратэстантызму; яна выдавала кнігі лацінскім алфавітам на польскай, пакуль што малазнаёмай мове суседняй дзяржавы. Прычынай яе нядоўгага існавання стала, верагодна, відавочная неадпаведнасць прадпрыемства Мікалая Радзівіла Чорнага грамадскім патрэбам.

Кнігадрукаванне ў Брэсце аднавілася толькі праз 4 гады пасля смерці Бернгарда Ваяводкі. Рухавіком яго былі пратэстанты, што прыбывалі галоўным чынам з Польскага Каралеўства пад апеку магутных (на той час парадненых з каралём) Радзівілаў. Праіснавала яна каля чвэрці стагоддзя (1558—1570), выдаўшы больш за 30 назваў кніг. У адрозненне ад паўднёваславянскай пратэстанцкай друкарні Прыможа Трубара ў г. Уры пад Цюбінгенам, якая прыкладна ў той жа час (ад 1561 да 1565 г.) выдала дзевяць кірылічных кніг, а таксама Малы Буквар глагалічнай, кірылічнай і лацінскай азбукай (1564)[216], Брэсцкая друкарня мела толькі лацінскія шрыфты і выпускала толькі польска- і лацінамоўныя кнігі. Магчыма, гэта было звязана з тым, што ініцыятарам кнігавыдавецкай дзейнасці ў Брэсце была полька — жонка Мікалая Радзівіла Чорнага Эльжбета з Шыдлоўца.

Новая друкарня ў Брэсце створана на «немалыя сродкі» брэсцкага старасты Мікалая Радзівіла Чорнага з мэтай служыць «усім

[216] *Чорчић П.* Историја српске ћирилице: Палеографско-филолошки прилози. Београд, 1987. С. 191—193.



Cerymonie — Wtore Kśięgi Mojżeszowe. — List. 45.

Stoł chlebow pokładnych.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| A | A | Dłuża dwá łokćiá. | K | Drąſki z drzewá Sittim. |
| A | C | Szerza ná łokieć. | L | Miſy ná kthorych kłádźiono chleby. |
| D | C | Wyżſza ná półtora łokćiá. | M | Chleby pokładne. |
| E | | Kraniec ná dłoń ſzeroki. | N | Kubki ktoremi chleby nákrywano. |
| G | | Liſthwy złote ná krańcu od ſpodku. | O | Kádźidlnice w ktorych kádźidło kłádźiono. (dźilnice. |
| H | | Liſthwy złote ná krańcu od wierzchu. | P | Czáſzki albo Pokrowy ná ká |
| I | | Kolcá złote. | | |

31. Spráwiſz też lichtarz z złothá ſzczerego breytowánego / kthorego ſłupiec / y prety / z czáſzkámi / y z gałkámi / y z kwiáty / z iedney máteryey bedą.

32. A poydą ſześć pretow z bokow ſłupcá onego / trzy z iedney ſtrony lichtarzá / á trzy z drugiey.

33. Ná iednem precie bedą po trzy czáſzki / ná kſztałt czáſzki migdałowey / y gałká z kwiátem / á ná drugiem precie trzy czáſzki ná thenże kſztałt / y gałká z kwiátem / y tákże o ny wſzytki ſześć pretow v lichtarzá ſpráwione być máią.

34. A ná ſámem też ſłupcu bedą czte ry czáſzki / ná kſztałt czáſzki migdá łowey z gałkámi y z kwiáty ſwemi.

35. Y bedźie iedná gałká pod dwiemá pierwſzemi prety z niego wychodzacemi / thákże druga gałká pod drugiemi dwiemá / thákże y trzecia gałká pod trzećiemi dwiemá / A ten kſztałt bedźie wſzythkich ſześći pretow v lichtarzá.

36. Gałki / y prety z niego wychodzace / wſzytki bedą iedna robota z złotá ſzczerego breytowánego.

37. Vczyniſz też ná niem ſiedm lamp / á poſtáwiſz ie ná wierzchu iego / áby káżda ſwiećiłá ná ſwey ſtronie.

38. Nożyczki też do niego / y kágánki gdźie kłáść bedą knoty zgáſzone z złotá ſzczerego.

H iij Sprá




краінам пад праўленнем польскага караля пана нашага, дзе царква хрысціянская словам Божым будуецца». Галоўным майстрам быў запрошаны кракаўскі друкар Станіслаў Мурмеліус.

Дакладна вядома першае выданне новай Брэсцкай друкарні. Гэта канцыянал Станіслава Зарэмбы «Piesni chwał boskich». У прысвячэнні аўтара падскарбію Радзівілаў, Станіславу Пякарскаму (прысвячэнне датавана 1. 11. 1558 г.), гаворыцца, што канцыянал — першае выданне новай друкарні, «спроба» новага брэсцкага друкара паказаць сваё майстэрства і магчымасці друкарні. Акрамя канцыянала вядома яшчэ 15 выданняў Мурмеліуса, з якіх 10 маюць яго сыгнет (існавалі тры варыянты сыгнету, прымяняльныя для выданняў рознага фармату). Час, калі спынілася дзейнасць Мурмеліуса, дакладна невядомы. Самай позняй кнігай, дзе ён называецца як друкар, стала выданне палемікі паміж папскім нунцыем у Польшчы А. Ліпаманам і пратэктарам Брэсцкай друкарні Мікалаем Радзівілам Чорным. Датуецца яно 1559 г. Аднак магчыма, што Мурмеліус працягваў працаваць да 1565 г. (год смерці Радзівіла). Адсутнасць імя друкара на выданнях Брэсцкай друкарні некаторыя даследчыкі тлумачаць тым, што выдадзеныя на той час кнігі мелі выразна акрэсленую антыкаталіцкую накіраванасць[217] альбо былі надрукаваны на шкоду іншым выдаўцам[218].

*Брэсцкая Біблія 1563 г. Стол, на ім хлябы.*

*Габрыэль Сімяонэ. «Figure de la Biblia». Стол з хлябамі. Паменшаная копія гравюры з Брэсцкай Біблії. Ліён, 1565 г.*

[217] Напр., «Historia o papierzu Janie III, który był Gilberta białogłowa» (1560 г.) альбо твор Марціна Рэмігія з Хэлма, што меў шумны рэзананс, «List do księdza Brzechwy, ministra na Tyńcu» разам з «Pieśnią o lotrowskim stanie mnichów i mniszek» з нотамі на чатыры галасы (выдадзена пасля 10 студзеня 1560 г.).

[218] У Брэсце выйшлі чатыры кнігі Барталамея Граіцкага, права (каралеўскі прывілей) на выданне якіх меў кракаўскі друкар Лазар Андрысовіч.

# Biblia ſwięta/

Tho ieſt/

## Kſięgi Stárego y Nowego Zakonu/ właſnie z Zydowſkiego/ Greckiego/ y Łáćińſkiego/ nowo ná Polſki ięzyk z pilnośćią y wiernie wyłożone.




Cerymonie Wtore Księgi Moizeszowe. List. 48.

ná ná dwudźiestu łokiet/spráwio/na z Hiácyntu/z szárłatu/z iedwabiu czerwonego/ze lnu kręconego/robota háwtárska/z cztermi Słupy/y z cztermi Podstáwki.

17 A wszytki ty Słupy około Sieni będą othoczone Okrácániem srebrnem/ máiąc Wierzchy srebrne/á Podstáwki miedźiáne.

18. Dłużá tey Sieni będźie ná stu łokiet/á szerzá ná piąćdźiesiąt/á wyższa ná piąćiu łokiet będźie: Z kręconego lnu/á podstáwki iey miedźiáne.

19. Wszytki Naczynia ku Przybytku należące/ktoremi w niem służyć będą/y wszytki Kołki/ták około niego iáko około Sieni będą miedźiáne.

20 Tedy ty roskażesz Izráelitom/áby ć przynieśli czysthey wyćiśnioney oliwy ku świeceniu / iżby vstáwicznie lámpy zápalone gorzały.

21. W przybytku zgromádzenia przed Zasłoną / zá ktorą iest postáwioná Skrzyniá przymierza/gdźie Aaron y synowie iego stáwiáć ie będą przed oblicznośćią Páńską / od wieczorá áż do poránku : A ten obchod wiecznie zostánie między potomstwem Izráelskiem.

Kápitu. 28.

1. Aaron obran iest kápłanem z swemi syny/ktorych odźienie y poświęcenie wszytko to Kápit. wypráwuie.

Vbior nawyższego Kápłaná.

A Efod/ to iest/ sukienká krothká bez rękawow.
BC Dwá humeráty Efodu.
D Brzam Efodu.
E Dwá kámienie Onychiny / ná ktorych były wyryte imioná. 12. Synow Izráelskich.
F Strefy złote.
G Łáncuski złote
H Napiersnik sądu/ná ktorem było. 12. kámieni/ná ktorych były wyryte imioná. 12. Synow Izráelskich.
I Haczki v stref złotych.
K Obrączki złote ná końcoch Napierśniká sądu.
L Obrączki złote ná bokoch vmerálow Efodu.
M Taśmá hiácyntowa.
N Szátá ktora bywáłá pod Efodē/ v ktorey był v wierzchu rospor/ przez ktory głowę wyimował Kápłan.
O Dzwonki złote.
P Pomagránaty.
Q Blachá ktorą táśmą hiácyntową przywiązowano do czapki.
R Szátá z płotná cienkiego.
S Czapká lniána.
T Pas háwtowány.

wrowiesz

*Брэсцкая Біблія 1563 г. Убранне найвышэйшага святара. Мастак рэканструяваў гэты гістарычны касцюм інакш, чым Францыск Скарына ў 1517 г.*

Можна, аднак, меркаваць, што пасля 1559 г. (альбо 1565) Мурмеліус з'ехаў з Брэста. Кіраваць працай друкарні ў той час мог служка Радзівілаў Кіпрыян Базылік, альбо «жыд-друкар», які жыў побач з друкарняй — яго ўпамінае люстрацыя Брэста ў 1566 г.[219] Якраз на перыяд працы «невядомага друкара» прыпадае стварэнне найбольш значнага выдання Брэсцкай друкарні — «Biblia swięta, to jest księgi Starego i Nowego zakonu wlasnie z żydowskiego, greckiego i lacinskiego nowo na polski język z pilnoscią i wiernie wyłozone» 1563 г. — поўны пераклад Бібліі на польскую мову, самае буйное па аб'ёме друкаванае выданне XVI—XVIII стст. у Вялікім Княстве Літоўскім. «Не тое што насіць — вазіць цяжкавата», — з'едліва сказаў пра гэты фаліянт арыянін Сымон Будны.

Пераклад са старажытнагабрэйскай, грэцкай і лацінскай моў зрабілі спецыяльна запрошаныя з Малой Польшчы кальвінісцкія тэолагі і літаратары (сярод іх Ян Ласкі, якога лічаць ініцыятарам выдання, Рыгор Орсацывуш (Оршак), Францыск Сканкор, Пётр Статорыус (Стоіньскі), Андрэй Тшэцецкі, Георг Шоман, Якуб Любельчык, Францішак Лізманін, Бернард Охін)[220]. Перакладчыкі выкарысталі тэксты Бібліі на жывых мовах — нямецкай, французскай. У падрыхтоўцы выдання Брэсцкай Бібліі ўдзельнічаў адзін з буйнейшых арыянскіх пісьменнікаў і тэолагаў таго часу Павел з Бжэзін (каля 1525—1591 г.). Пасля заканчэння друкавання накладу Бібліі ў 1564 г. Брэсцкая друкарня асобнымі выданнямі выпусціла адразу тры яго творы: «Аб цяперашніх разыходжаннях», «Аб спавяданні веры ксяндза Сарніцкага» і «Тлумачэнне Слоў Святога Паўла». Асаблівасцю складу Брэсцкай Бібліі з'яўляецца адсутнасць Трэцяй кнігі Макавеяў і змяшчэнне сярод асноўных тэкстаў Старога Запавету апакрыфічнай «Малітвы караля Манасіі». У Прысвячэнні Жыгімонту Аўгусту «Жычлівы служэбнік, паслушны падданы і верная рада Мікалай Радзівіл etcet.» адзначае «...пад хвалебным імем В.К.М. загадаўшы гэты падарунак выдрукаваць В.К.М. свайму міласціваму прыроджанаму пану до лібрарыі В.К.М. дарую якая ведаю вялікая ёсць...».

Увагу кожнага, хто браў у рукі важкі том Бібліі 1563 г., прыцягвае аздоба: два гравіраваныя тытульныя аркушы (асобныя для Старога і Новага Запаветаў), гравюры-ілюстрацыі да першых частак Старога Запавету (кнігаў Быцця і Зыход), прыгожы, добра чытальны гатычны шрыфт і рознага памеру ініцыялы.

Гравюры-ілюстрацыі выканаў высакакласны майстар, верагодна, запрошаны толькі для гэтай мэты, — ні да, ні пасля Бібліі 1563 г. у кніжнай прадукцыі друкарняў ВКЛ яго працы не сустракаюцца. Аднак вельмі падобныя і па кампазіцыі і па тэхніцы выканання (хоць і меншыя па памерах) медзярыты можна бачыць, напрыклад, у кніжцы слыннага італьянскага паэта Габрыэля Сімяонэ «Figure de la

*←
Тытульны аркуш Брэсцкай (Радзівілаўскай) Бібліі.
Брэст, 1563 г.*

[219] *Бершадский С. А.* Литовские евреи. С. 409.
[220] Fr. S. Wiadomość o przekładach Biblii w języku polskim. S. 36—60.


Synái ábo Orzeb. EXODVS. Cerymonie

C Kámień ten podobny iest páznokćiowi człowieczemu/ ktory po Grecku zową Onyx.
D Pátrz niżey w. 28. Káp. v. 15.
E To iest przybytek/ A tho też słowo znáczy Kościoł od Salomoná zbudowány.
* Niżey. 26. v. 30.

7. Kámienie C Onychiny/ y kámienie ku osádzeniu D Efodá/ y napierśniká.
8. Spráwią mi też E Mieysce Swięte/ y będę mieszkał miedzy niemi.
9. * A iáko ia tobie vkáżę kształt Przybytku/ y wszytkiego sprzętu iego/ tedy ták niechay będźie.
10. Spráwią też y Skrzynię z drzewá Sytym/ ktora będźie wzdłuż ná pułtrzećia łokćiá/ á wszerz ná pułtorá łokćia/ tákże też y ná wzwyż.
11. Te złothem szczerem opráwisz z wierzchu/ y we wnątrz/ á listwę złotą około niey vczynisz.
12. Vlieiesz też cztery Kolcá złote/ á wprawisz ie v czterech końcow iey/ dwie po iedney/ á dwie po drugiey stronie.
13. Spráwisz thesz Drążki z drzewá Sytym/ ktore opráwisz złotem.
14. A záłożysz ie w one kolcá po obu stron skrzynie/ żeby ia ná nich noszono.
15. Ták iżby w kolcách v skrzynie były/ á z támtąd áby ich nie wyimowano.
16. W tę skrzynię Swiádectwo ktore tobie dam schowasz.
17. Spráwisz też y F Wieko ze złotá szczerego/ ná pułtrzećia łokćiá wzdłuż/ á wszerz ná pułtorá.
18. Y spráwisz też dwá G Cherubiny z złota breytowánego/ á postáwisz ie ná obu końcu wieká.
19. Jednego Cherubá vczynisz ná iedne stronę/ á drugiego ná drugą stronę Wieká/ gdźie oni stáć będą po dwu stron iego.
20. Ci Cherubini niech skrzydłá ku gorze rosćiągnione máią/ á iemi niechay okryią Wieko/ ieden ku drugiemu máiąc obrocona twarz nád wiekiem.
21. To Wieko położysz ná wierzchu Skrzynie/ á w Skrzynię włożysz Swiádectwo ktore dam tobie.
22. Z támtąd sie ia tobie vkázowáć y rozmáwiáć z tobą będę/ y podam ći wszyki roskazánia ludowi Izráelskiemu/ z tego Wieká ktore iest miedzy dwiemá Cherubiny/ ná Skrzyni świádectwá.

F To było iáko podniebienie/ ktorem przykrywano skrzynię/ gdźie sie Pan z mieysca onego okázował y wołał obiáwiał/ A Láćinnicy tho zową Propiciatorium/ A my Polacy názwáć to możemy Vbłagániem.
G Iozefus pisze iż Cherubini znáczą kształt niewidomych osob/ A drudzy powiedáią/ iż znáczą zmyślony obráz.

Skrzyniá Swiádectwá.

AB Dłużá ná pułtrzećia łokćiá.
AC Serzá ná pułtorá łokćiá.
AD Wyższá ná pułtorá łokćiá.
E Listwá złota.
F Kolcá złote.
G Drążki/ ktorych końce widáć było przed wiekie/ iáko o tym mamy. 2. Kronik. 5. v. 9.

H Wieko vbłagánia/ ktorem skrzynię nakrywano/ teyże długośći y szerokośći z skrzynią. Ale Malarz vmyślnie wyniosł ie ku gorze/ áby tym nád skrzynią podnieśieniem láćniey mogło być obaczono iákie było Gdyż właśnie miedzy temi listewkámi złotemi leżeć by miáło.
I Cherubinowie ktorzy Wieko nákrywali.

23. Spráwisz też ieszcze y Stoł z drzewá Sytym/ wzdłuż ná dwá łokćiá/ á w szerz ná łokćiu/ á ná wzwyż pułtorá łokćiá.
24. Ktory szczerem złotem opráwisz: A Listwy złote około niego poczynisz.
25. Spráwisz też złoty Kraniec około niego/ szeroki ná dłoń/ ná ktorym Krańcu przyprawisz Listwy złote.
26. Vczynisz też cztery kolcá złote/ á przybiyesz ná czterech końcoch/ czterech nog iego.
27. A ty Kolcá będą pod Krańcem/ gdźie záłożą Drążki ku noszeniu stołu.
28. Ty Drążki spráwisz z drzewá Sytym/ á powleczesz ie złotem/ ná ktorych nośić będą ten Stoł.
29. Poczynisz też Misy y Kádźielnice do niego/ Czászki/ y Kubki ze złotá szczerego.
30. Y będźiesz przedemną vsthawicznie kładł Chleby/ H Pokłádne ná onem stole.

H Ten chleb był poświęcony y poślubiony Pánu/ á záwżdy leżał ná stole onem/ A dla tegoż był zwan Pokłádnem Chlebem

Sprá-

*Брэсцкая Біблія 1563 г. Анёлы трымаюць крышку скініі.*

у працах гісторыкаў мастацтва і кнігазнаўцаў[221].

Для даследвання гэтай кнігі патрэбна інфармацыя пра ўсе захаваныя паасобнікі. Наколькі разнастайны і цікавы іх лёс, можна ўявіць па асобніках Радзівілаўскай Біблії ў Санкт-Пецярбурзе (тры з іх мае БАН, два РНБ і адзін — Расійскі дзяржаўны архіў Ваенна-Марскога Флоту)[222]:

*Бібліятэка Расійскай Акадэміі навук.* Шыфр: 2187.f.max./2152. Паасобнік поўны, захаванасць здавальняючая. Тытульны аркуш расфарбаваны, пад тытулам надпіс: «Heretycka». На першым аркушы надпіс «Biblia Polonica» і штамп бібліятэкі Віленскай акадэміі. Тут і стары шыфр: 1.4.1. На рэстаўрацыйнай паперы, падклеенай да тытула, запіс: «z Biblioteki akademii Wilenskiey darem Jw. Tadeusza Czackiego Taynego Sowietnika i Czlonka honorowego tojie akademii 1829». У тэксце шматлікія падкрэсліванні кінаварам (чырвонымі чарнiламі).

*РНБ.* Шыфр: 17-а.14.1.19. Захаванасць здавальняючая. Гэты паасобнік цікавы тым, што ўсе часткі Біблії падпісаны ад рукі славянскай мовай, кірыліцай, таксама кірыліцай прастаўлена нумарацыя псальмоў у Псалтыры.

*Архіў Ваенна-Марского Флоту Расіі.* Шыфр: ф.9 Дубасов, N 1496. Паасобнік выдатнай захаванасці ў шыкоўным пераплёце XIX ст. працы берлінскага майстра Карла Лемана. На пераплёце — герб «Наленч». На ўнутраным баку верхняй крышкі надпіс пяром: «Ex libr. Stanislaw Radziwil 859» і намалявана пяціканцовая зорачка. Асаблівасці яго ў шматлікіх маргіналіях XVI—XVIII стст., зробленых на беларускай, польскай і арабскай мовах. Арабскія прыпіскі знаходзяцца ў тых месцах, дзе Біблія апавядае пра ліхвяроў, свіней, чужых багоў (балванаў) і інш. Не выключана, што гэты паасобнік звязаны з усходазнаўцам і падарожнікам па Турцыі і Блізкім Усходзе Вацлавам Жэвускім (гербу «Наленч») і апынуўся ў адмірала Дубасава разам з маёнткамі ў Староканстанцінаве на Валыні. Калі гэтая кніга трапіла да Станіслава Радзівіла — невядома.

У 1569 г. у Брэсцкай друкарні выйшла кніга М. Барлецыуса «Historia o Żywocie ...Jerzego Kastriota...», у выходных звестках значылася: «z Drukarni Cypriana Bazylika». У

Biblia, illustrate de stanze tvscane» ў ліёнскім (друкарня Gvilielmo Rovillio) выданні 1565 г.

Як ні парадаксальна, але Брэсцкая (Радзівілаўская) Біблія — шэдэўр кнігадрукавання ВКЛ XVI ст. — вывучана вельмі слаба. У 1865 г. папячыцель Віленскай навучальнай акругі Іван Пятровіч Карнілаў сабраў і рыхтаваў да выдання «Віленскі вучэбна-літаратурны зборнік», у якім меркавалася змясціць «Апісанне Радзівілаўскай Біблії». Аднак зборнік не быў надрукаваны і невядома, ці захаваўся яго рукапіс. З таго часу Брэсцкая Біблія толькі коратка ўпамінаецца

[221] *Нікалаеў М. В.* Шэдэўр Брэсцкай друкарні // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. С. 144—149.

[222] *Нікалаеў М. В.* Экзэмпляры Радзівілаўскай Біблії 1563 г. у пецярбургскіх сховішчах // Badania księgozbiorów Radziwiłłów: Materiały międzynarodowej sesji. Olsztyn, 6—7 października 1994 r. Warszawa, 1995. S. 95—100.

гэтай жа кнізе быў надрукаваны прывілей караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, дадзены ў Любліне 27.3.1569 г. Прывілей абараняе новыя выданні, якія з'явяцца ў друкарні, адначасова канстатуе, што кнігадрукар не мае права выдаваць кнігі, накіраваныя супраць каталіцкай веры.

Апошняе вядомае выданне Брэсцкай друкарні — гістарычны панегірык Яна Каханоўскага «Pamiątka Janowi ... z Trzczyna» (1570). Нягледзячы на смелае (у прадмове да гэтай кніжкі) сцвярджэнне Кіпрыяна Базыліка аб Брэсцкай друкарні як аб «сваёй» і нават выраб уласнага сыгнету, варштат належаў Радзівілам.

Мікалай Радзівіл Сіротка, які атрымаў у спадчыну ад свайго бацькі, Мікалая Чорнага, сярод іншай маёмасці добра абсталяваную друкарню, загадаў перанесці яе ў Вільню. Вывезенае з Брэста абсталяванне нядоўга прастаяла без ужывання. Новая друкарня, якая мела лацінскія шрыфты, стала спачатку добрым дапаўненнем, а пазней і моцным канкурэнтам беларускім віленскім друкарням. Друкаром Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка запрасіў Даніэля Ленчыцкага. Адным з першых і найбольш значным выданнем адноўленай друкарні сталі «Жыцці святых» Пятра Скаргі (1577). На друкаванне гэтай кнігі і на абсталяванне варштату Сіротка выдаткаваў 1000 злотых. Па падліках М. Тапольскай, кошт выдання твораў Скаргі склаў каля 600—750 злотых[223]. На тытульным аркушы пазначана, што кніга пісалася супраць тэолага-пратэстанта Андрэя Валана «Contra Andream Volanum huius Haeretica pestis in Lituania Archiministrum Authore Petro Scarga Praesbitero Societatis Jesu». У «Прысвячэнні» Ганне Ягелонцы Скарга адзначаў, што адной з прычын пісання «Жыццяў» была «вялікая любоў да Пана Бога Мікалая Крыштафа Радзівіла, заснавальніка друкарні, які аплаціў выдаткі на выданне працы»[224].

Некаторыя выдадзеныя ў друкарні Радзівіла Сіроткі кнігі маюць указанне: «Ioannes Slenski excudebat» — «выдаў Іаан Сленскі»[225]. Ці гэта азначае, што ў Радзівілаўскай друкарні заказаў выданне нейкі Іаан Сленскі, альбо гэта імя друкара (можа, Даніэль Ленчыцкі быў са Шлёнска?) і слова excudebat трэба разумець літаральна? — для адказу на гэтае пытанне патрэбна спецыяльнае даследаванне.

«Жыцці святых» Скаргі паўторна выдадзены ў 1582 г. У 1585 г. друкарня была афіцыйна перададзена акадэміі (універсітэту), аднак да 1589 г. выкарыстоўвала выхадныя звесткі «typis Nicolai Christophori Radivilli»; усяго за перыяд 1577—1589 гг. выйшла каля 60 назваў кніг[226].


EXODVS.
Lichtarz złoty Przybytku Páńskiego.

A. Słupiec Lichtarzá.
B. Prętow ſześć.
C Czáſzek dwie y dwádzieśćiá.
D Gałek iedennaśćie.
E Kwiátow dziewięć.
F Lámp ſiedm.

39 Spráwiſz gi ze wſzythkiem naczyniem náleżącem k niemu/ z iednego[1] talentu złotá.
40 * A thák pátrzay ábyś wſzytko ſpráwił na ten kſztałt/ iákiś tu widział ná gorze.

1 Pospolity tálent ważył ſześć ſet czerwonych złotych/ále tálent kościelny dwá kroć więcey ważył.
* Dziei. 7. v. 44. Żyd. 8. v. 5.

Kapitu. 26.

Kſztałt opon/ y Wierzchu/ thákże inych rzeczy należących ku ſpráwieniu przybytku/ y ochędoſtwá iego.

1. NAd to ſpráwiſz przybytek z dzieſiąci opon lnu kręconego/ z Hiácyntu/ z ſzárłathu/ z iedwabiu czerwonego/ y tám zdziáłaſz Cherubiny háftowáne.
2. Opona iedná będzie ná dwudzieſtu y ná osmi łokiet ná dłużą/ á ná ſzerzą cztery łokćie/ y będą wſzytki opony pod iedną miárą.
3. Pięć opon będą ſpinane iedná z drugą/ á drugie pięć tákże.
4. Y będą do nich petlice Hiácyntowe/ po kráioch káżdey opony przypráwione ku zápinániu/ rowno iedná ku drugiey.
5. A vczyniſz po pięćdzieſiąt petlic do nich/ áby ſie opony ſpináły iedná ku drugiey/ á petlice ony áby były rowno iedná przećiw drugiey/ po kráioch ich.
Vczy-

*Брэсцкая Біблія 1563 г. Сямісвечнік. Набор тэксту і тлумачэнняў у тры слупкі.*

[223] *Topolska M. B.* Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Wrocław, 1984. S. 148.
[224] *Skarga P.* Żywoty świętych. Wilno, 1579.
[225] Varsevitius Paradoxa. Vilnae 1579; шыфр РНБ 16.59.2.32.
[226] *Bernatowicz T.* «Biblioteka jest jedna ozdoba...»: Mikołaj Radziwiłł Sierotka i książki // Badania księgozbiorów Radziwiłłów. S. 47—48.


Освецоным княжатъ и пановъ, и милости пановъ Николаевъ Радивиловъ, Княжати на Олыце и Несвижу, Воеводы Виленьского, найвышшего Маршалка и канцлера великого Князьтва Литовъского и далей: А Княжати на Дубнику и Бержахъ, Воеводы Троцкого, Великого Гетьмана великого князьтва Литовъского, и далей.

Сыномъ перворожонымъ ихъ милостямъ, Княжатомъ молодымъ, панамъ Николаемъ Миколаевичамъ Радивиламъ, отъ Бога Отца черезъ Христа единого Сына его въ Духу Святомъ Утешителю, Ласки, покою, и вечного благословенья верного Христового збору братья, а слуги ихъ Княжацъких милости верне жедають.

Богъ всемогучый, освецоные а милостивые Княжата, потому ся всегды напротиве грешному человеку заховал, ижъ хотяжъ самъ от него отходилъ, пресъ его дивным

Пратэстанцкі Катэхізіс. Нясвіж, 1562 г. Прысвячэнне выдаўцоў (Мацея Кавячынскага, Сымона Буднага і Лаўрэна Крышкоўскага) сваім патронам: Мікалаю Радзівілу, ваяводзе троцкаму, Мікалаю Радзівілу, ваяводзе віленскаму і Мікалаю Радзівілу, сыну апошняга.

**Кнігадрукаванне ў Нясвіжы.** У Нясвіжы — рэзідэнцыі багацейшага магнацкага роду Вялікага Княства Літоўскага — князёў Радзівілаў — друкарскі варштат пачынаў працаваць двойчы. Першая друкарня належала нясвіжскаму аканому, выпускніку Вітэнбергскага універсітэта Мацею Кавячынскаму (каля 1520—1572 гг.). Праз яго і нясвіжскага прапаведніка Лаўрэна Крышкоўскага намаганні ў 1562 г. арганізавана кнігадрукаванне (пры безумоўнай пратэкцыі гаспадара Нясвіжа, пратэстанта, заснавальніка Брэсцкай друкарні Мікалая Радзівіла Чорнага). Першай нясвіжскай друкаванай кнігай быў кірылічны «Катихисис то ест наука стародавная христианъская от светого писма для простых людей языка руского, в пытаниах и отказех събрана», напісаны клецкім прапаведнікам Сымонам Будным на ўзор «Вялікага Катэхізіса» Марціна Лютэра (1529). Перад тэкстам было набрана прысвячэнне Мікалаю Радзівілу, ваяводзе троцкаму, Мікалаю Радзівілу, ваяводзе віленскаму, і Мікалаю Радзівілу, сыну апошняга, а таксама прадмова, якую Сымон Будны напісаў 10 чэрвеня 1562 г. у Клецку. У прысвячэнні сярод іншага ёсць рэкамендацыя Радзівілам вывучаць асновы хрысціянства не толькі на чужых мовах, але і на роднай славянскай. У прадмове са спасылкай на Апостал і Евангелле праводзіцца думка аб неабходнасці вывучаць асновы веры, бо нельга выратаваць душу толькі выкананнем царкоўных абрадаў і падарункамі духавенству. Патрэбны адпаведныя падручнікі, і аўтар прадмовы прапануе чытачам пакуль малую кнігу, спадзеючыся ў далейшым падрыхтаваць больш падрабязнае выданне. Зараз вядома пра 11 захаваных паасобнікаў «Катэхізіса»: у музеі Чартарыйскіх у Кракаве і ў бібліятэцы Маскоўскага універсітэта — па адным, у ДзГМ, РДзБ і Нацыянальнай бібліятэцы ў Празе — па два, у РНБ — тры[227]. На двух з іх захаваліся прыпіскі, якія сведчаць, што бытавалі гэтыя кнігі на беларускіх альбо ўкраінскіх землях[228].

Наступным выданнем Нясвіжскай друкарні была таксама кірылічная кніга — твор Сымона Буднага «Аб апраўданні грэшнага чалавека перад Богам», выдадзеная 11 кастрычніка 1562 г.[229] Кніга да нашага часу не захавалася, хоць была вядома бібліёграфам XIX ст.; факт яе выхаду пацвярджае таксама палеміка Буднага са старцам Арцеміем вакол гэтага твора. Ён быў прысвечаны Астафею Валовічу — земскаму падскарбію ВКЛ, які ўклаў свае сродкі ў Нясвіжскую друкарню: «...початок сее друкарни нашее твоей милости наклады исперва еще, яко некое основание уготовали и укрепили», — пісаў Будны ў прысвячэнні[230]. Відавочна і тое, што земскі падскарбі альбо не хацеў, альбо не мог размясціць пратэстанцкую друкарню ў сталічнай Вільні.

У канцы 1562 г. у друкарні пачаў працаваць друкар Даніэль Ленчыцкі. Верагодна, новы рамеснік не валодаў ні рускай (старабеларускай), ні царкоўнаславянскай мовамі — пасля яго з'яўлення і да моманту спынення дзейнасці друкарні кірылічныя кнігі тут больш не выходзілі. Праўда, гэтаму можа

[227] *Лабынцев Ю. А.* Описание изданий Несвижской типографии и типографии Василия Тяпинского. С. 16—20.
[228] *Голенченко Г. Я.* Идейные и культурные связи... С. 261.
[229] Кніга Беларусі 1517—1917. № 5.
[230] Тамсама. С. 56.

быць і іншае тлумачэнне. Пачаўшы выданне кірылічных кніг на старабеларускай мове, Сымон Будны хацеў павялічыць колькасць сваіх прыхільнікаў за кошт праваслаўнага насельніцтва ВКЛ. Аднак ён сустрэў рэзкае супраціўленне, у прыватнасці з боку старца Арцемія, які жыў пры двары слуцкага князя Юрыя Алелькавіча. Швейцарскаму тэолагу Генрыху Булінгеру Будны пісаў пра вынікі палемік: «Вашыя... довады разбіваюцца»[231]. Цалкам магчыма, што пратэстанты адмовіліся ад друкавання сваіх твораў на кірыліцы не столькі з-за адсутнасці падрыхтаваных друкароў і прапаведнікаў, колькі з-за прычынаў тактычных — каб не весці «вайну на два франты». Яны засяродзіліся на антыкаталіцкай прапагандзе, што зручней было рабіць на лацінскай і польскай мовах. Гэта паклала пачатак традыцыі супрацоўніцтва праваслаўных і пратэстантаў у ВКЛ.

Перыяд найбольшай выдавецкай актыўнасці першай Нясвіжскай друкарні прыпадае на 1563—1564 гг. — восем назваў. У 1563 г. выйшаў, у прыватнасці, «Катэхізіс» Сымона Буднага на польскай мове, у наступным, 1564-м, — «Гутаркі святога Юстына філосафа і пакутніка з іудзеем Трыфанам» у перакладе таго ж С. Буднага. Як і Брэсцкая друкарня, Нясвіжская выпусціла ў 1564 г. тры кнігі Паўла з Бжэзін: «Адрозненні ў веры Станкаравых вучняў», «Кароткае апісанне падзей, якія адбыліся ў 1563 г. у Кракаве і Пінчове» і «Супраць артыкулаў новай веры, што выказаў Сарніцкі ў Варшаве».

Потым быў перапынак да 1568 г. (калі перавыдалі Новы Запавет у перакладзе С. Буднага), два выданні выйшлі ў 1570 г. (Апокрыфы і Новы Запавет). У 1572 г. пачалося друкаванне новага перакладу Старога Запавету. У прадмове Сымон Будны пісаў пра мову свайго перакладу: «Знойдзеш тут словы вялікапольскія, знойдзеш кракаўскія, мазавецкія, падляшскія, сандамірскія, а за малым і рускія. Бо глупства мовай адной краіны грэбаваць, а словы другой узносіць пад нябёсы». Аднак на той час гаспадаром Нясвіжа ўжо стаў Мікалай Радзівіл Сіротка, які вызнаваў каталіцызм. Ён актыўна перашкаджаў дзейнасці пратэстантаў; існуе паданне, што Сіротка выкупляў паасобнікі выданняў Брэсцкай друкарні і паліў іх у двары Нясвіжскага замка. Сымону Буднаму працаваць у такіх умовах было немагчыма. Тады друкарню выкупіў магнат-пратэстант Ян Кішка — яна была перанесена ў Лоск, дзе і закончана друкаванне Старога Запавету.


IN STEMMA M. D. DEMETRII CALECKI.

Nobile DEMETRII, positum graphica arte, CALECKI:
Stemma vides: ab auis, hoc habet Ipse suis,
Magnanimis ab auis, quorum hunc insignia præter,
Martia uis, pietas, ac Themis æqua beant.
Martia uis iaculis, cruce trinoq; amne notantur
Et Fidei & trini cultus amorq; Dei.
Falcibus æquantur segetes: studiosus hic æqui,
Quàm sit, thesauri credita cura probat.
Vince CALECIADûm iubar, opto Calebia lustra,
Quodq; agis Empyreas, conde superstes opes.
Franciscus CAlecki nepos.

*Адной з першых гербавых гравюр у тэхніцы медзяры-ту стала выява на адгорце тытульнага аркуша ў прысвечанай вялікаму падскарбію ВКЛ Дзімітрыю Халецкаму кнізе Яна Твардоўскага Examen fidei sectariorum seu notae. «In Officina Typographica Academiae Societatis Jesu. 1594».*

У гісторыі друкавання ў ВКЛ былі тры друкарні, кожная з якіх праіснавала больш за сто гадоў: акадэмічная (1592—1805), віленская брацкая (1595—1705) і віленскіх базыльян (Троіцкая, 1628—1800).

**Віленская акадэмічная друкарня.** Віленскі універсітэт (акадэмія) быў заснаваны Стэфанам Баторыем у 1578 г. Больш за 200 гадоў існавала пры ім друкарня. Яна засталася ў гісторыі як найбольш доўгачасовае выдавецкае прадпрыемства ў Вялікім Княстве Літоўскім. Значэнне яе большае, чым толькі выданне неабходных для выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта кніг. Тут упершыню стаў рэгулярна выходзіць каляндар на наступны год, упершыню былі выдадзены газеты. Пас-

[231] *Парэцкі Я. І.* Сымон Будны. Мн., 1975.

ля 1693 г. універсітэт і яго друкарня выконвалі функцыі дзяржаўнага выдавецтва: рыхтавалі перавыданні зводу законаў Вялікага Княства — Статута. Акрамя выкарыстання звычайных для друкарняў ВКЛ моў (польскай, лацінскай, іншых еўрапейскіх) акадэмічная друкарня да XIX ст. была адным з вельмі нешматлікіх цэнтраў, дзе выдаваліся кнігі на літоўскай і латышскай мовах. Хоць ад пачатку існавання Віленскага універсітэта ў ім выкладалася «руская» мова, цэнтрам «рускага» кнігавыдання яго друкарня так і не патрапіла стаць, нягледзячы на планы некаторых іерархаў касцёла[232]. Складальнік бібліяграфіі прадукцыі друкарні Віленскага універсітэта Ірэна Петраўскене занатавала 3018 выданняў (лічачы перыёдыку гадавымі камплектамі), што супастаўляльна з аб'ёмам прадукцыі буйнейшых еўрапейскіх друкарняў — Андрэя Пётркоўчыка і Мацея Віжбенты ў Кракаве альбо галандскага выдавецтва Эльзевіраў. Доля прадукцыі акадэмічнай друкарні ў агульнай вытворчасці друкаваных кніг у Вялікім Княстве Літоўскім у XVI—XVII стст. складае больш за 70% (па падліках І. Петраўскене — 78,1%)[233].

Пачатак Віленскай акадэмічнай друкарні звязаны з перадачай ордэну езуітаў друкарні Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Калі гэта адбылося, дакладна не вядома[234]. Самая позняя кніга з выхаднымі звесткамі «Typis Nikolai Chr. Radzivili» датуецца 1589 г. («Gratulationes Sigismundo III in... Vilnam adventu...»), а найбольш ранняя кніга з выхаднымі звесткамі акадэміі — 1592 г.: Grodzicki St. «Ewanielik... w Drukarniej Akademii Societatis Jesu». Першым друкаром быў Даніэль Ленчыцкі, які працаваў у гэтай друкарні і раней, пакуль яна належала Мікалаю Радзівілу. У 1591 г. Даніэль з кальвінізму перайшоў у каталіцызм. На езуітаў ён працаваў да 1594 г., а потым купіў уласную друкарню і займаўся кнігавыданнем да самай смерці (памёр у 1600 г.). Для нагляду над прадукцыяй друкарні з ліку найбольш вучоных прафесараў ордэн прызначаў «прэфекта». Першым вядомым прэфектам (пастаўлены ў 1595 г.) быў член калегіума Валянцін Русконіус. Гэтыя абавязкі ён выконваў да свайго ад'езду з Вільні ў 1597 г. У XVII—XVIII стст. (да ліквідацыі ордэна) друкарня мела 47 прэфектаў (некаторыя манахі займалі гэтую пасаду па некалькі разоў) (табл. 5).

У першы перыяд дзейнасці друкарні (1589—1610) прадукцыя яе была невялікая, набор шрыфтоў абмежаваны. У прыватнасці, падручнік грэцкай граматыкі Якуба Грэтсера «Institutionum linguae Graecae libri tres» з-за адсутнасці грэцкіх шрыфтоў аддалі друкаваць у віленскае прадпрыемства Яна Карцана (у 1604 г.). Часта мяняліся друкары. Вядомы імёны майстроў Вольбрама (1594—1596), Голда (1596), Тамаша Лявіцкага (1604—1606). Сярод выданняў гэтага перыяду вылучаецца першы ў Вялікім Княстве друкаваны дапаможнік для ўсіх, хто займаецца гандлем:

**Прэфекты друкарні ў 1642 — 1666 гг. (паводле І. Петраўскене)** *Табліца 5*

| Час працы (гады) | Прэфект |
|---|---|
| 1642—1644 | Ян Хандзінскі, прафесар маральнай філасофіі і габрэйскай мовы |
| 1644—1645 | Хрыстафор Венславовіч |
| 1645—1647 | |
| 1647—1651 | Якуб Пазуркевіч |
| 1651—1652 | |
| 1652—1654 | Данііл Рачынскі |
| 1654—1663 | |
| 1664—1665 | Мікалай Дамброўскі, прафесар граматыкі |
| 1665—1666 | Мікалай Цяльшэўскі, прафесар логікі |

[232] Fałowski A. Rola jezuitów wileńskih w rozwoju szkolnictwa, języka i pismiennictwa zachodnioruskiego w XVI w.// Krakowsko-Wileńskie studia slawistyczne T. 3. S. 193—214.

[233] *Петраускене И. С.* Типография Вильнюсской академии — центр литовской печати в XVI—XVIII веках // Knygotyra. 1979. № 7(14). P. 67.

[234] Гісторык Віленскага універсітэта гаворыць аб прывілеі Жыгімонта Аўгуста 1559 г., які замацоўвае за друкарняй дом побач з калегіяй св. Яна (*Bieliński J.* Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 1. Kraków, 1899/1900. S. 121), аднак гэта, хутчэй за ўсё, памылка, бо абсталяванне было тады ў Брэсце.

«O lichwie y trzech przednieyszych kontrakcięch: wyderkowym, czynszowym y Towarzystwa kupieckiego, nauka krotka» («Пра працэнт і тры найважнейшыя кантракты: гандлёвы, чыншавы і купецкага таварыства. Кароткая навука»). Аўтарам быў прафесар універсітэта Марцін Сміглецкі, вядомы сваімі палемічнымі выступленнямі супраць пратэстантаў.

Карпарацыя купцоў ў Вялікім Княстве была даволі шматлікая, багацейшыя мелі вялікія абароты і прыбыткі ад гандлю з Масквой, Кёнігсбергам, Гданьскам, Рыгай, польскімі гарадамі. Падручнікаў па правільным вядзенні купецкіх і бухгалтарскіх спраў не хапала. Кнігі класікаў — Лукі Пачыёлі, Даменіка Манчыні, Ёгана Готліба, Вольфганга Швайкера, Джыралама Кардана і іншых былі дэфіцытам дый напісаныя на нямецкай, лацінскай ці італьянскай мовах, якія разумелі далёка не ўсе купцы Вялікага Княства. Прафесар Марцін Сміглецкі напісаў свой трактат на славянскай — польскай — мове. Кніга аказалася настолькі ўдалая, што адразу пасля яе выхаду (у 1596 г.) у Вільні была перавыдадзена ў Кракаве. Пасля яна перавыдавалася яшчэ некалькі разоў (сёмае перавыданне ў 1641 г.). Прычына папулярнасці гэтай працы названа самім аўтарам у прадмове: «...Усялякага кшталту таргі і дагаворы, грашовыя дачыненні атрымалі шырокае распаўсюджанне, а дапаможніка, як рабіць справы, — няма. А маючы гэтую кніжку, маеш інструкцыю і навуку ў гэтай галіне... Пры тым я намагаўся твор не расцягваць, бо кароткае пісанне мілей чытаць»[235].

Дынаміка выдавецкай дзейнасці універсітэцкай друкарні ў першы перыяд: пяць гадоў (1590, 1591, 1601,1607, 1609) ніводнай кнігі, чатыры гады (1597, 1598, 1608, 1610) па адной кнізе, чатыры гады (1589, 1602, 1603, 1606) па дзве кнігі, тры гады (1592, 1600, 1605) па тры кнігі, два гады (1593, 1595) па чатыры, адзін год (1596) пяць і адзін год (1604) шэсць кніг. Усяго, такім чынам, 49 кніг. Акрамя гэтага бібліёграф І. Петраўскене называе 44 пазіцыі верагодных выданняў, аднак тыя могуць быць прадукцыяй і іншых віленскіх прадпрыемстваў.

Пасля вялікага віленскага пажару 1610 г. друкарня, хутчэй за ўсё, спыніла работу. Пра гэта сведчаць як адсутнасць кніг з яе выхаднымі звесткамі, так і заказы езуітаў на выданне сваіх твораў у іншых друкарнях: у прыватнасці, твор Пятра Скаргі «Wzywanie do jednej zbawiennej wiary» быў аддадзены ў 1611 г. у друкарню Іосіфа Карцана.

Другі перыяд выдавецкай дзейнасці акадэмічнай друкарні пачаўся пасля 1616 г. і працягваўся да канца 1640-х гадоў. Адна з першых кніг гэтага перыяду — зборнік панегірычных казанняў і вершаў выкладчыкаў і студэнтаў акадэміі (Мікалая і Хрыстафора Завішаў, Георгія Драслаўскага, Ладыслава Войны, Эгідзіюса Казіміра Астравуха і інш., усяго 28 аўтараў), прысвечаны віленскаму епіскапу Астафею Валовічу. Кніга надрукавана вельмі прафесійна: акуратны набор рознымі кеглямі і шрыфтамі (лацінскімі і грэцкім), фігурны набор, гравюра-дрэварыт з


AVSPICATISSIMVS
Ill.mi ac R.mi in CHRISTO Patris,
ac Domini,
D. EVSTACHII
WOLOWICZ,
D. G.
EPISCOPI VILNENSIS,
PRÆSVLARIS
ENTHRONISMVS,
A
PRÆNOBILI IVVENTVTE
Academica Vilnensi, Societatis
IESV,
summo gratulandi studio,
ΑΜΕΤΡΩΣ ΚΑΙ ΕΜΜΕΤΡΩΣ
adornatus.
A. D.
Intrat VoCatVs à Deo tanqVaM Aaron. Hebr. 5.
VILNÆ
In Typographeo academiæ S. I.



*Auspicatissimus ... d. Eustachii Wolowicz, D.g. episcopi Vilnensis... a praenobili iuventute Academica Vilnensi, Societatis Iesu, summo gratulandi studio,* ΑΜΕΤΡΩΣ ΚΑΙ ΕΜΜΕΤΡΩΣ *adornatus. A.D. Intrat VoCatVs a Deo tanqVaM aaron. Vilnae. In tipographeo Academiae S.J. Тытульны аркуш. Дата [1616] складаецца з вылучаных літар у фразе «Intrat VoCatVs a Deo tanqVaM aaron».*

[235] Цыт. па: *Анушкин А.* На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 159; гл. таксама: *Gargas Z.* Marcin Smiglecki i jego traktat o lichwie // Przewodnik naukowy i literacki. 1897.


Cum Chirone ſuos Dictynna redintegrat arcus,
Illocat vt Cathedræ Vilna VOLOVICIVM.
Tela, ait Areitenens, vltro tibi cedo, VOLOVICZ;
Affectare doces Astra, pauere Stygem.

PERge vero, ni moleſtum, Reuerendiſſime ac Illuſtriſſime Præſul, cœpto Felicitatis ac Humanitatis gradu, HVMANIORIS LITERATVRÆ Cultores ne ledignare. Arpinatia in Honoris Tui PRæſularis templo, ſuſpenſa HONORARIA animo placidiſſimo expendiſti, oculis fauentiſſimis Perluſtraſti, Maieſtatis Tuæ fulgore, minus e tbolis nitentia illuſtraſti. Pernouiſti, opinor, quanti faciat ſtirpe Tuam Academica Iuuentus, quo affectu Sapientiam, Virtutem, Dignitatem amet, æſtimet, colat. Non immemor Socratici illius:
Diis thura, laudes viris probis
deberi. Te, profecto, ſi non tam virum probum, quam ipſam probitatem indigitauero, nullus mentiar. In Tuum ſiquidem ſinum tam variæ tam eximiæ Dignitates conuolarunt, vt eas non quiſq; impuliſſe, ſed, vt Andromadas aurum, ipsa Virtus attraxiſſe videatur. VIRTVTEM VESTIGAT HONOS VT ADORNET EANDEM. Hinc ſcitê admodum Romani, Rerum Domini Fana Honoris, ita Fano adſtruxerunt Virtutis, nemini vt aditum ad Honoris Adyta, niſi per Virtutis Delubrum, ſtatis religionibus cultum, patere voluerint. Hac ſcilicet ſymbolicâ ædium ſacrarum conſociatione teſtati, tum demum Reipub. incrementum ſartum tectum fore, ſi ſoli VIRTVTI HONOR decernatur. Decreti ſane huius, quod, ſi honores ambientium & quâ prece quâ precio eblandientium importunitati mos gerendus, ſeruatu eſt perquam difficile: ſi æquitati Reiq; CHriſtianæ rectê conſulendum, cumprimis laudabile: retinentiſſimũ eſſe S. R. N. SIGISMVNDVM III & videmus & vero gaudemus: neminem hic æquiſſimus officiorum æſtimator niſi probatiſſimum quemq;, Purpuratis atq; Mitratis Patribus accenſendum cenſet. quorum in album Te A: R: albo Regiæ Prudentiæ calculo adoptatum, ſumma PONTIFICIS MAXIMI PAVLI V. voluntate, authoritateq; confirmatum, omnium ordinum fauſtis acclamationibus comprobatum
G 3

*Auspicatissimus ... d. Eustachii Wolowicz, D.g. episcopi Vilnensis... a praenobili iuventute Academica Vilnensi, Societatis Iesu, summo gratulandi studio,* ΑΜΕΤΡΩΣ ΚΑΙ ΕΜΜΕΤΡΩΣ *adornatus. A.D. Intrat VoCatVs a Deo tanqVaM aaron. Vilnae. In tipographeo Academiae S.J. Разгорт з гербам Астафея Валовіча (дрэварыт з датай: 1616 і літарамі «EV EV»), на старонцы з тэкстам панегірыка Станіслава Войны ініцыял «P».*

датай (1616) і гербам Астафея Валовіча (два варыянты).

Акрамя зборніка панегірыкаў у 1616 г. выйшла маленькая (in 8°), надрукаваная ў два колеры «Agenda parva. In commodiorem usum Sacerdotum Provinciae Poloniae conscripta» з цэнзурным дазволам на тытуле (захаваны ў Бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук паасобнік мае на тытульным аркушы памету: «Ex libr. Residencae Grodnensis S. J.»). У 1619 г. езуіты атрымалі ад Жыгімонта III прывілей, які легалізаваў дзейнасць друкарні (да гэтага часу яна называлася ў дакументах «хатняй»); адначасова каралеўскі прывілей забараняў передрук яе выданняў.

Дзякуючы пратэкцыянізму ўлад выдавецкая прадукцыя пачала ўзрастаць — у 1630—1640-х гг. яна дасягала 15 назваў штогод. Ад 1631 г. друкарня месцілася ў асобным будынку на вуліцы Святога Яна (Свентаянскай). З друкароў гэтага перыяду мы ведаем толькі аднаго — Мікалая, які ў 1622 г. ажаніўся з дачкой віленскага пераплётчыка Матыся Якімовіча Юстынай.

Акадэмія дбала аб прывабнасці сваіх выданняў, і з гэтай мэтай езуіты запрашалі да працы лепшых мастакоў. Прынамсі, пра добры густ і высокае ўмельства мастака сведчыць (на жаль, ананімная) гравюра з гербам Сангушкаў, змешчаная ў панегірыку на смерць жонкі Самуэля Любартовіча Сангушкі Ганны. Князі Сангушкі былі адным з найстарэйшых родаў на Літве (родавыя маёнткі Абольцы, Смаляны і Ковель) і выкарыстоўвалі дзяржаўны герб ВКЛ як свой родавы. Асаблівасцю мастацкага вырашэння аркуша з гербам у дадзеным выданні з'яўляюцца выразна намаляваныя фігуры двух анёлаў, якія сядзяць, і двух пуцці, што стаяць на каленях сярод рэльефаў гербавага картуша. На тытуле паказана, што казанне прамаўлялася 1 кастрычніка 1619 г., але прадмова-зварот да мужа нябожчыцы, князя Самуэля Любартовіча падпісана ўжо 4 лютага 1620 г. Звесткі аб месцы друку «W Wilnie. W Drukarni Akademiey Societatis Jesu» знаходзяцца на адгорце апошняга аркуша кнігі. Побач з гербам — шасціpадковы панегірычны верш «На герб Сангушкаў». У прадмове «Да яго княжай міласці» аўтар (ксёндз Мікалай Сівіцкі) гаворыць, што найбліжэйшы да Смалянаў касцёл ёсць у Абольцах, і калі з'явілася патрэба, ён з Абольцаў хутка прыбыў выканаць функцыі духоўнага спаведніка, а кнігу рыхтуе пазней «дзеля вялікай колькасці люду, якія першага казання не чулі».

У канцы 30-х — 50-я гады XVII ст. для друкарні шмат працаваў віленскі гравёр Конрад Гётке: ён аздобіў тытуламі, франтыспісамі, ілюстрацыямі і застаўкамі каля 20 выданняў.



SEPTEM CHODKIEWICII HEROES
EXERCITVS LITHVANICI DVCES
ILLVSTRISSIMVM ac MAGNIFICV
Dnum. D. CHRISTOPHORVM
CHODKIEWICZ PALATINVM
VILNENSEM COMITEM IN
SZKLOW et BIICHOW. CAPITANE
KREVENSEM BIELOCENSEM,
WISNIEVIENSEM &c. &c. Solenni
pompâ ad capessendos Palatinatus Vilnensis
fasces Vilnam in gredientem suis sub tentorijs
gratulatione excipiunt.
Quam
Petrus Casimirus Lacki Castellanides
Samogitiæ, Orator Academiæ Vilnensis
Societatis IESV calamo complexus, eidem
ILLVSTRISSIMO PALATINO
VILNENSI totâ Academiâ applaudente.
D.D.
Anno Domini M.DC.XLII.

Conradg. Götke sculp: Vilnæ.

*Lacki Petrus Casimirus. «Septem Chodkiewicii heroes...» Пётр Ляцкі. Сем герояў Хадкевічаў. Панегірык з прысвячэннем Хрыстафору (Крыштафу) Хадкевічу — графу на Шклове і Быхаве, гаспадару Крэва з нагоды атрымання ім пасады віленскага ваяводы. Тытульны аркуш. Гравюра Конрада Гётке. Вільня, акадэмічная друкарня, 1642 г.*



Ná Herb Sánguszkow.

ZA kim pedziß Rycerzu? zá mestwem y sławą/
Zá Cnotali Sánguszkom zwyczáyna zábáwa:
O raz zá aduersarzem y zá sławą goniß/
Iz cie Honor doscignie/ rychło go nákkoniß.
Dogániay Cna Pogoni. Gdyż przy tobie cnotá,
Mestwo/ madrość y sławá stanąć miásto złotá.

*Казанне на пахаванне слаўнай памяці яе міласці Анны Завішанкі..., што чыніў абалецкі плябан кс. Мікалай Сівіцкі ў Смалянах 1 кастрычніка 1619 г. Гравюра-дрэварыт на адгорце тытульнага аркуша з гербам князёў Сангушкаў. Вільня, акадэмічная друкарня [1620].*

Конрад Гётке шырока ўводзіў у практыку ілюстрацыі выяву герба сярод побытавай атрыбутыкі. Як тыповы прыклад можна назваць гравіраваны тытул кнігі Пятра Ласкага «Septem Chodkiewicii heroes» («Сем герояў Хадкевічаў». Vilno, S.J., 1642). Набліжаючы сімвалы да рэальнасці, мастак імкнуўся ў гэтым медзярыце дасягнуць прапорцыі паміж умоўнасцю і рэчаіснасцю. Асноўны элемент тытула — ваенны шацёр, які паўтараецца сем разоў, прычым кожны член роду сядзіць пад сваім шатром. Тры фантастычныя істоты з крыламі арла, тулавам ільва і капытамі быка сімвалізуюць рысы характару Хадкевічаў: агрэсіўнасць, смеласць і цярплівасць.

Рэпертуар выданняў акадэмічнай друкарні вызначаўся галоўным чынам задачамі самога ордэна езуітаў. У першую чаргу, барацьба з некаталікамі, потым — патрэбы акадэміі. Нельга пагадзіцца з А. Кавецкай-Грычовай у тым, што універсітэт і яго друкарня павінны былі стаць базай палітычнай экспансіі на Маскву[236] — у рэпертуары выданняў універсітэта «маскоўская» тэма вельмі нязначная, а друкарня ніколі не мела кірылічных шрыфтоў і не выпусціла ні адной славяна-рускай кнігі; адзначаныя ў бібліяграфіі два царкоўна-славянскія выданні Віленскай акадэміі другой паловы XVIII ст.[237] маюць, па ўсёй верагоднасці, непраўдзівыя выхадныя звесткі[238]. Тэма злучэння цэркваў займала, аднак, сталае і даволі значнае месца ў рэпертуары — акадэмічная друкарня выдавала кнігі членаў базыльянскага ордэна. Прыкладам могуць быць пахавальныя «Казанні» Аляксея Дубовіча, прамоўленыя ў віленскай царкве Св. Тройцы пры пахаванні жонкі троцкага ваяводы Варвары Скумін-Тышкевіч (1627) і віленскага земскага пісара Івана Каляды (1637). Не пакідалі езуіты-выдаўцы па-за сваёй увагай праваслаўных магнатаў. У 1649 г. выйшаў панегірык у гонар памерлага троцкага падкаморыя, пратэктара праваслаўя (у тым ліку Еўеўскай друкарні) Багдана Агінскага. Каб падкрэсліць значнасць асобы нябожчыка, аўтары-езуіты напісалі вершаваныя «Трэны» («Плачы») ад імя ўсяго ВКЛ (Трэн Вялікага Княства Літоўскага) і Троцкага ваяводства (Трэн Троцкага ваяводства).

Вялікія намаганні езуіцкага ордэна былі скіраваны на развіццё тэалогіі. Акадэмія сама выдавала творы славутых палемістаў і багасловаў, якія працавалі на факультэце тэалогіі: Пятра Скаргі, Марціна Сміглецкага, Мікалая Ленчыцкага (сына друкара Даніэля Ленчыцкага), Эмануэля Вегі. Пазней — Мацея Бембуса і Якуба Альшэўскага. Некаторыя з палемічных выданняў былі адказам на выданні пратэстантаў, напрыклад Марціна Сміглецкага «Opisanie disputaciey Nowogrodzkiej ktura mial Marcin Smiglecki S. J. z Janem Licyniuszem, ministrem nowokrzczenskim... 24 y 25 Januarii w r. 1594...» («Апісанне Нава-

[236] *Kawecka-Gryczowa A.* i in. Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław; Kraków, 1959. S. 13—34.

[237] Кніга Беларусі 1517—1917. № 264, 343.

[238] *Вознесенский А. В.* Кириллические издания старообрядческих типографий... № 230, 231; Он же. Предварительный список старообрядческих кириллических изданий XVIII века. СПб., 1994. № 159, 187.



CHORAGIEW
NA POGRZEBIE
Wielmożnego Jego Mośći Pana
P. BOGDANA
OGINSKIEGO
Kośćielska Chorążego Nadwornego
Wielkiego Xięstwa Litewskiego
Wystawiona.
A
Jaśnie Wielmożnemu Panu/
P. ALEXANDROWI
OGINSKIEMU
Kośćielska Kasztelanowi Trockiemu/ Starośćie
Korsuniskiemu Żałosnemu Rodzicowi
Ofiarowana.
Przez
SYMONA KAZIMIERZA BVRNIEWICZA
Akademika Wilenskiego.
W Wilnie w drukarni Akademickiey Societatis IESV.
Roku Pańskiego 1649.

Сымон Казімір Бурневіч, віленскі акадэмік. Харугва на пахаванне вяльможнага яго мосьці пана Багдана Агінскага. Тытульны аркуш. Вільня, акадэмічная друкарня, 1649 г.




Герб Багдана Агінскага з кнігі «Харугва на пахаванне... п. Багдана Агінскага». Вільня, акадэмічная друкарня, 1649 г.

градскага дыспуту, які меў езуіт Марцін Сміглецкі з новаахрышчаным міністрам Янам Ліцыніем... 24 і 25 студзеня 1594 г.»), некаторыя мелі наступальны характар і былі ініцыятывай саміх езуітаў[239]. Узорам такога выдання можа быць кніга Фёдара Скуміновіча «Przyczyny porzucenia dizuniey przeslawnemu narodowi ruskiemu podane...» (1643) (шыфр РНБ 13.8.7.27). Гэты аб'ёмны твор складаецца з 6 раздзелаў і 32 параграфаў. На адгорце тытульнага аркуша змешчаны герб віленскага епіскапа Абрама Войны «Тры трубы», у картушы якога ёсць мітра, епіскапскі посах і меч. У прысвячэнні «мітрапаліту і свайму дабрадзею» Фёдар Скуміновіч заўважае, што перад адной з труб епіскапскага герба Кальвін з горада (верагодна, Вільні) мусіў быў пайсці, другой трубы баіцца Лютэр, а дызунія (праваслаўе) павінна скарыцца перад трэцяй. У прадмове «Да чытача» Скуміновіч паведамляе, што ён нядаўна прыехаў у Вільню, перайшоў у каталіцызм з праваслаўя і пісаў перад гэтым аб прычынах змены свайго веравызнання «яго міласці айцу Магіле» (кіеўскі праваслаўны мітрапаліт) з Валыні і з Кіева. Аўтар паказвае добры досвед славянскіх кніг. Ён называе «Камень веры» (гімны рускія), Пралог славенскі, «рускія летапісцы». Піша ён для людзей «Русі», «у якіх розум у галаве, а ў руках кніга нярэдкі госць, але не той Русі, што ідзе за прыдумкамі сучаснай «Туркагрэцыі»». Імя аўтара — Фёдар (Тэадор) Скуміновіч — такое самае, як і ў памерлага некалькі гадоў назад наваградскага ваяводы. Што гэта — гістарычнае супадзенне ці «езуіцкая хітрасць» — цяжка сказаць. Як бы там ні было, сучасная бібліяграфія называе, следам за Эстрайхерам, поўнае імя аўтара: Фёдар Скумін Тышкевіч[240].

Паралельна з тэалагічнымі і палемічнымі працамі друкарня выпускала кнігі па цар-

[239] Пратэстанты ВКЛ скардзіліся на сойме 1601 г., што езуіты, акрамя ўсяго, «перашкаджаюць прывозу і продажу пратэстанцкіх кніг, ...выдаюць абуральныя брашуры».
[240] *Čepiené K., Petrauskiené I.* Vilniaus akademijos spaustuvés leidiniai 1576—1805. № 948.

коўным праве, жыцці святых, панегірычныя творы. Ніколі не друкуючы асобна «рускіх» кніг, акадэмічная друкарня час ад часу падтрымлівала кнігамі літоўскамоўных каталікоў. Як антыподы кёнігсбергскім пратэстанцкім выданням выходзілі каталіцкія кнігі: перакладзеная жмудскім канонікам Мікалаем Даўкшам на літоўскую мову «Пасціла» Якуба Вуйка (1599)[241] і «Kathechismas arba mokslas kiekwienam krikszczionii priwalus...» езуіта Якуба Ледэсме (1605, першае выданне без упамінання друкарні ў 1595 г.). Прафесар акадэміі Канстанцін Шырвід для літоўскамоўных жыхароў Вялікага Княства падрыхтаваў «Пасцілу», двойчы (у 1629 і 1644 гг.) выдадзеную акадэмічнай друкарняй.

Пасля таго, як кафедру матэматыкі заняў Освальд Кругер, акадэмічная друкарня выпусціла яго папулярныя навучальныя і практычныя дапаможнікі: «Illustriora theoremata et problemata mathematica ex opticis geometria, astronomia, sphera elementari computo ecclesiastico» (1633), «Arithmetica practica» (1635), «Dissertacio de vacuo» (1648), «Paralella horoscopa ad bellicorum tormentorum directionem recens inventa et practica probata» (1636, аб спосабах кіраванння артылерыяй). Годным папаўненнем прыродазнаўчага рэпертуару друкарні стала кніга другога віленскага матэматыка — Альберта Дублінскага «Centuria astronomica» (1639); у 1707 г. яна была перакладзена ў Маскве Васілём Кіпрыянавым пад назвай «Сотня астрономская»[242]. Па правазнаўстве выдадзена адна праца — «Assertiones ex iuris prudencia» Арона Аляксандра Алізароўскага (1647).

Выданні Мацея Сарбеўскага, Канстанціна Шырвіда і Саламона Славачынскага паказваюць развіццё ва універсітэце «свабодных мастацтваў». Акрамя «Граматыкі літоўскай мовы», паасобнікі якой не захаваліся (ёсць упамінанне пра яе выданне ў 1630 г.), Шырвід падрыхтаваў і выдаў у 1629 г. «Dictionarium trium linguarum in usum studiosae iuventutis» (перавыдадзены ў 1631, 1642, пятае выданне — у 1713 г.). Гэты трохмоўны слоўнік карыстаўся трывалым попытам.

Таленавіты паэт Мацей Казімір Сарбеўскі пасля заканчэння Віленскага універсітэта за-

**Дынаміка выданняў у другі перыяд дзейнасці друкарні (паводле І. Петраўскене)**

*Табліца 6*

| Год | Колькасць назваў | Год | Колькасць назваў |
|---|---|---|---|
| 1616 | 2 | 1634 | 10 |
| 1617 | 4 | 1635 | 8 |
| 1618 | 6 | 1636 | 15 |
| 1619 | 4 | 1637 | 12 |
| 1620 | 2 | 1638 | 7 |
| 1621 | 2 | 1639 | 13 |
| 1622 | 6 | 1640 | 10 |
| 1623 | 1 | 1641 | 5 |
| 1624 | 6 | 1642 | 10 |
| 1625 | 0 | 1643 | 16 |
| 1626 | 0 | 1644 | 16 |
| 1627 | 4 | 1645 | 14 |
| 1628 | 3 | 1646 | 7 |
| 1629 | 5 | 1647 | 12 |
| 1630 | 6 | 1648 | 12 |
| 1631 | 6 | 1649 | 8 |
| 1632 | 4 | 1650 | 11 |
| 1633 | 4 | | |
| Усяго | | | 250 |

стаўся ў alma mater і стаў дэканам факультэта тэалогіі і філасофіі. Друкарня выпусціла яго панегірычныя творы: «Hymenodora dla Jana Stanislawa Sapiehy» (1620), «Echo lirika, carmen glaturatorium Abrahamo Woyna Episcopo Vilnensi» (1631), «Laska marszalkowska na pogrzebie Jana Stanislawa Sapiehy» (1635, перавыдадзена на лацінскай мове ў 1645 г.). У акадэмічнай друкарні надрукаваны і вершы Сарбеўскага, за якія ён атрымаў тытул «хрысціянскага Гарацыя» — «Lyricorum libri tres. Epigrammatum liber unus» (1628). «Няма прарока ў сваёй Айчыне» — гэтае выданне выйшла праз тры гады пасля першага, замежнага (кёльнскага). Да раздзелу свабодных мастацтваў можна залічыць і спеўнік Саламона Мозеркі Славачынскага «Giesmes tikiemuy katolikam pridiarancias» (1646).

Нават калі не ўлічваць 147 спрэчных выданняў, плён працы акадэмічнага выдавецтва паказвае на яго сталасць і моц.

[241] *Лебедис Ю.* Микалоюс Даукша. Начальный этап формирования литовской письменности и литовского литературного языка на территории Великого княжества Литовского в XVI столетии: Автореф. дис. ... д-ра филол. наук. Вильнюс, 1965.

[242] Пераклад В. Кіпрыянава не быў надрукаваны; рукапіс захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў РНБ (шыфр: Разн.Q.IX.3).



*Разгорт панегірыка з гербам Халецкіх, грэцкім вершам на герб і пачаткам звароту на лацінскай мове да «Слаўнага гаспадара і патрона», наваградскага ваяводы Хрыстафора Халецкага. Подпіс: «Tuae Obligata Residentia Nouogrodensis Societ. Iesu» (Табе абавязаная наваградская рэзідэнцыя Таварыства Ісуса). Верш уяўляе з сябе акраверш — першыя літары кожнага радка складаюць імя «Халецкі». У паасобніку РНБ (6.4.2.1174.) герб намаляваны ад рукі, пры гэтым картуш адрозніваецца ад малюнка таго ж герба ў асобніку БАН Летувы*[243].

Т р э ц і   п е р ы я д   дзейнасці друкарні ахоплівае 1651–1665 гг., часы войнаў і эпідэмій, акупацыі Вільні рускім і шведскім войскам. У 1657–1658 і 1662 гг. друкарня не працавала, у астатнія гады колькасць прадукцыі рэзка зменшылася – да 1–2 назваў. На той час яна мела не толькі лацінскія, але і грэцкі шрыфты. Апошні ўжыты ў панегірыку наваградскаму ваяводзе Хрыстафору Халецкаму (1651), у грэцкім акравершы на герб Халецкага (пераклад Ірыны Базылевай):

Піндаравы вусны, якія калісьці салодка
ўсхвалялі Ахіла,
Зараз свабодна з'явіце вершаў мудрых
патокі,
Хто не жадаў сярод высакародных магутнай
стралы, але толькі Халецкі
Выцягнуў з лука і абмывае кроўю
смяротных.
Ты аглядаеш знак перамогі. Даволі
Яго аднаго, а калі прыйдзе бітвы час грозны
Ствары гэты вобраз ізноў прад вачыма,
і вораг
Славутай Радзімы хутка адолены будзе.

*Табліца 7*

**Дынаміка выданняў у трэці перыяд дзейнасці друкарні**

| Год | Колькасць назваў | Год | Колькасць назваў |
|---|---|---|---|
| 1651 | 9 | 1659 | 2 |
| 1652 | 5 | 1660 | 0 |
| 1653 | 6 | 1661 | 2 |
| 1654 | 4 | 1662 | 0 |
| 1655 | 3 | 1663 | 2 |
| 1656 | 2 | 1664 | 2 |
| 1657 | 0 | 1665 | 5 |
| 1658 | 0 | | |
| Усяго | | | 42 |

Нават калі да пералічаных у табліцы дадаць усе кнігі, выдадзеныя ў Вільні без паказання друкарні (21 назва), то і ў гэтым выпадку параўнанне з папярэднім перыядам паказвае, наколькі значны быў спад у кнігадрукаванні.

[243] *Liškevičienė J.* XVI–XVIII Amžiaus knygų grafika: herbai senuosiuose lietuvos spaudiniuose. Vilnius, 1998. С.158.



*«Граматыка» Лаўрэнція Зізанія. Тытульны аркуш. Вільня, брацкая друкарня, 1596 г.*

**Віленская брацкая друкарня.** Віленскае праваслаўнае брацтва аб'яднала ў другой палове XVI ст. прадстаўнікоў розных сацыяльных слаёў сталіцы Вялікага Княства. Старэйшым брацтва быў адзін з багацейшых магнатаў ВКЛ наваградскі ваявода Фёдар Скумін-Тышкевіч, членамі — князь Фёдар Палубінскі, віленскі бурмістр Іван Ерамеевіч, рыбнік Аляксей Лукашэвіч, шавец Андрэй Цімафеевіч, «пападзя быўшая старая» Аўгіння і інш. Усіх гэтых прыхаджан царквы Св. Духа аб'ядноўвалі праваслаўная вера і руская («простая») мова. Юрыдычнай асновай існавання друкарні віленскага Свята-Духава брацтва сталі прывілеі мітрапаліта Кіеўскага Анісіфара 1587 г. і канстанцінопальскага патрыярха Іярэміі II 1588 г., якія дазвалялі віленскаму брацтву друкаванне неабходных кніг, а таксама два прывілеі Жыгімонта III (1589 і 1592 гг.): «...книги всякія старого и нового закону так в науце школьной яко и в церкви потребные по кгрецки по словацки по руски и по польски друковати им дозволяем ...»[244]

У маі 1588 г. віленскія братчыкі пасылалі ў Львоў, у праваслаўнае брацтва пры храме Успення Багародзіцы, «...трыдзесят кніг Парадкаў альбо Чыну брацтва нашага...»[245] Ні адна з іх не захавалася. Можна толькі меркаваць, што гэтыя выданні наўрад ці былі прадукцыяй уласнай (толькі што задуманай) друкарні. Больш верагодна, што «Чын брацтва» выйшаў з друкарні братчыкаў — Мамонічаў. Вядома адна польскамоўная кніга 1594 г., што магла быць першым выданнем Віленскага брацтва, «Брацтва імя Божага, заснаванага ў Вільні пры касцёле Св. Духа ў 1590 г.», — кніга Мельхіёра Варэцкага з прысвячэннем канцлеру Льву Сапегу[246]. Аднак паколькі імя друкара (К. Вольбрамчык) звязана з віленскімі езуітамі, прынята лічыць яе акадэмічным выданнем. Зараз першай кнігай брацкай друкарні лічацца «Малітвы ўсядзённыя»: (в лето ... 1595 месяца іюля дня 25 водлуг старожитного... календаря). Усе вядомыя бібліёграфам паасобнікі гэтага выдання пашкоджаныя, адсутнічае тытульны аркуш, аднак частка выдавецкага прысвячэння з датай захавалася ў рукапісе наўгародскай Сафійскай бібліятэкі (зараз у зборах Аддзела рукапісаў РНБ, шыфр Соф. 1094.). Размяшчалася брацкая друкарня на тэрыторыі манастыра Св. Духа, у асобным (магчыма, разам са школай) будынку. Ад самага пачатку сваёй дзейнасці яна, як і манастыр Св. Духа, была ў руках праціўнікаў царкоўнай уніі. Частка яе прадукцыі распаўсюджвалася ў праваслаўнай Маскве. На гэта паказвае, у прыватнасці, захаваны да сёння ў каледжы Св. Тройцы ў Оксфардзе паасобнік брацкага выдання «Часоўніка» з «Азбукай» 1596 г. Кнігу купіў у Маскве доктар на рускай службе Марк Рыдлі і падараваў магістру каледжа Тамашу Невілу[247]. Акрамя «Азбукі» ў тым жа 1596 г. друкарня брацтва выдала падручнік для вучняў больш высокай ступені — гэта была «Грамматика словенска съверъшенънаго искуства осми частий слова, и иных нуждных»

[244] АЗР. Т. 4. С. 24. — Звяртае ўвагу той факт, што славянская мова названа «славацкай» (як і ў прывілеі Уладзіслава IV ад 12 ліпеня 1633 г.).
[245] Тамсама С. 5—6.
[246] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 115.
[247] *Голенченко Г. Я.* Идейные и культурные связи... С. 276—278.

Лаўрэнція Зізанія. У ёй акрамя спецыяльна зробленай аздобы былі выкарыстаны віленскія дошкі Францыска Скарыны — сведчанне таго, што друкарня першадрукара не загінула ні ў адным з віленскіх пажараў (у тым ліку 1525 г.).

Выданнем у 1596 г. кнігі Мялета Пігаса «Дыялог» на грэцкай мове брацкая друкарня засведчыла не толькі сваю добрую тэхнічную абсталяванасць (наяўнасць грэцкіх шрыфтоў), але і магчымасці Свята-Духава манастыра як інтэлектуальна моцнага выдавецкага асяродка. Адзіны вядомы нам паасобнік «Дыялога» знаходзіцца ў Лондане. Звесткі пра яго ёсць у «Bibliographie Hellenique ou Description raisonńe des ouvrages publiés en grec par des grecs aux XV et XVI ss.» (Paris, 1888, p. II).

Супраціўленне уніі і добрыя дачыненні брацтва з адзінаверцамі ў варожай Маскоўскай дзяржаве выклікалі шаленства езуітаў. На Вялікдзень 1598 г. студэнты-езуіты на чале з ксяндзом Ільяшэвічам (Гельяшэвічам) напалі на Свята-Духаў манастыр, пасля чаго брацкія старасты паказвалі судовым дазнаўцам «знаки кгвалту починенного, то есть порубанье ворот, побитье в школе и в друкарне окон... потолченье на друкарни даху...»[248].

Першы перыяд дзейнасці друкарні працягваўся да 1610 г. Галоўнае месца ў рэпертуары тагачасных выданняў займаюць падручнікі («Азбука», «Граматыка славенская») і малітоўнікі («Псаломніца», «Малітвы штодзённыя»). Асаблівае значэнне мела надрукаваная ў 1596 г. «Наука ку читаню и розуменю писма словенского...» Лаўрэнція і Стэфана Зізаніяў. Як частка гэтай кнігі выйшла праца Лаўрэнція Зізанія «Лексіс сіреч реченія, въкратъце събранны і з словенскаго языка на простый рускій діялект істолкованы Л.Z.» — першы друкаваны слоўнік, які сродкамі старабеларускай мовы тлумачыў 1601 царкоўнаславянскае слова. Вялікі рэзананс у грамадстве выклікалі выдадзеныя брацтвам палемічныя кнігі, у прыватнасці «Катэхізіс» Стэфана Зізанія (ні аднаго паасобніка да нашага часу не захавалася; за выданне гэтай кнігі Навагрудскі сабор 1596 г. адлучыў С. Зізанія ад царквы) і дзвюхмоўнае (тэкст набраны на старабеларускай мове кірыліцай і па-польску лацінкай) «Казанне Св. Кірылы Іерусалімскага аб Антыхрысце» (1596). Апошні твор пабудаваны, як паказаў К. Студзінскі, на аснове кнігі Люберта Зібранда «De Papa Romano»[249], якая выйшла ў 1594 г. Зізаній істотна перайначыў і наблізіў да сучаснасці «Казанне Св. Кірыла Іерусалімскага», паказаўшы ў вобразе антыхрыста папу рымскага. Кніга зрабілася настолькі папулярнай ў праваслаўным свеце,


Девѧтый.

Начало девѧтаго часа.

*Пачатак дзявятай гадзіны ў кнізе «Полустав великий, имеяй в себе всю службу церковную, дневную и нощную... тщанием же братии при храме Сошествия пресвяьаго и животворящаго духа, в типографии совершенно изданно, в Вилни в лето от воплощения господня 1646».*

[248] АВАК. Т. 8. Вильна, Док. 14.

[249] *Студінський К.* «Пересторога» — руські помнік початку XVII віка: Історічно-літературна студія. Львів, 1895. С. 162–166.




*Казанне Полацкага ахіепіскапа, уладыкі Віцебскага і Мсціслаўскага Мялета Смятрыцкага на пахаванні віленскага архімандрыта Лявонція Карповіча. Тытульны аркуш. Вільня, брацкая друкарня, 1620 г.*

што была перавыдадзена ў Маскве ў 1644 г. Сучаснік (аўтар «Гармоніі», 1608 г.) сведчыць, што «Зизанія книжкам баламутным лепей, ниж евангелии верят»[250]. Вялікі ўплыў зрабіў гэты твор на фарміраванне ідэалогіі стараверства ў Расіі[251].

Значны рэзананс у тагачасным грамадстве мелі напісаныя па законах рыторыкі палемічныя творы Мялета Смятрыцкага на польскай мове: «Antigrafe abo odpowiedz na script uszczypliwy, ktoremu tytul Hereziae, Ignoranciae» (1608) і «Θρηνοσ to iest Lament iedyney i Powszechney Apostolickiey wschodniey Cerkwie... w Wilnie, Roku Pańskiego» (1610), якія неўзабаве пасля кніг Зізанія былі надрукаваны ў брацкай друкарні[252], а таксама яго брашура «Катэхізіс, альбо вызнанне веры святое Апостальскае ўсходняе царквы» (1610)[253]. Палемічныя выданні Віленскага брацтва выклікалі рэзкае супраціўленне каталіцкіх і уніяцкіх колаў. Праблему абвастрыла вайна з праваслаўнай Маскоўскай дзяржавай. Асобным дэкрэтам, падпісаным 7 мая 1610 г. у абозе пад Смаленскам, кароль Жыгімонт III забараніў чытаць і распаўсюджваць «różne pisma po rusku, w drukarni ruskiej wileńskiej wydrukowane (характэрна, што тут абмінаецца пытанне пра не менш злосныя антыкаталіцкія выданні брацкай друкарні на польскай мове. — *М. Н.*), które ostatnie są pasquilluse i bunty przeciw zwierzchności duchownej i swieckiej» — усё гэта пад страхам штрафу 5000 чырвоных злотых. Адначасова было загадана віленскаму ваяводзе і гарадскім уладам Вільні арыштаваць друкароў і «карэктара» (Лявонція Карповіча), а «пасквілі і падазроныя кнігі» спаліць. Што і было зроблена — Лявонцій Карповіч пасаджаны ў астрог, а кніжная прадукцыя разрабавана. Праз некалькі тыдняў пасля гэтых падзей старасты Віленскага брацтва Быхавец і Кроль падалі пратэст у суд ад свайго імя і ад імя брацтва на бурмістраў, радцаў і лаўнікаў, якія захапілі 36 царкоўных кніг у пераплётчыка[254]. Можа, з гэтымі канфіскацыямі звязана судовая справа брацтва з віленскімі райцамі Пятром Капцэвічам, Лявонам Мамонічам і мешчанінам Ігнатам Дубовічам «...пра нейкія друкі, рэестры і брацкія прывілеі» (...o jakie drukie, regestra i przywileja brackie)[255]. Праваслаўныя братчыкі патрабавалі вызваліць архімандрыта віленскага манастыра Св. Духа Лявонція Карповіча з вязніцы, паколькі ён быў шляхецкага роду, а да шляхціца заключэнне ў астрог непрымяняльнае. Адказваючы на гэтыя просьбы, дзяржаўныя ўраднікі сцвярджалі, што Карповіч не быў шляхціцам. У лісце ад

[250] РИБ. Т. 17. С. 180.
[251] *Бубнов Н. Ю.* Старообрядческая книга в России во второй половине XVII в. Источники, типы и эволюция. СПб., 1995. С. 78—81.
[252] *Frick D. A.* Meletij Smotryc'kyj's Threnos of 1610 and its rhetorical models // HUS. XI. P. 462.
[253] З чатырма выданнямі віленскага брацтва палемізуе ў сваёй рукапіснай кнізе «Аб скажэнні славенскіх кніг» іераманах віленскага Свята-Троіцкага манастыра Іясафат Кунцэвіч у 1611 г. (*Жукович П. Н.* О неизданных сочинениях Иосафата Кунцевича. СПб., 1910. С. 8—9).
[254] *Смирнов Ф.* Виленский Свято-Духов монастырь: Историческое описание. Вильна, 1888. С. 30.
[255] АСД. Т. 10. Вильна, 1874. С. 233.

19 студзеня 1611 г. дзяржаўны канцлер Леў Сапега паведаміў, што Карповіч «родам з горада Пінскага. Яго бацька быў пратапопам у Пінску, але з-за сваіх злых учынкаў быў зняты пінскім уладыкам з пратапопства і... памёр, бадзяючыся. А гэты Карповіч заўсёды быў віленскі мешчанін, дакладна аб гэтым знойдзеце ў мейскіх кнігах»[256]. Усё ж у наступным, 1612 г. Лявонція Карповіча з вязніцы вызвалілі, і ён працягваў працаваць на кніжнай ніве — перакладзены ім з грэцкай «Выклад на Отче наш» Іаана Златавуснага быў выдадзены ў год яго смерці (1620).

Рэпрэсіі ўрада і таксама вялікі віленскі пажар 1611 г. прымусілі спыніць выдавецкую дзейнасць у сталіцы. Друкарня была перанесена ў Іўе, дзе і працавала некаторы час .

Д р у г і (пасля перапынку) п е р ы я д (1617—1697) адзначаны аднаўленнем кнігавыдання ў Вільні. Перыядычна выдаваліся неабходныя для багаслужэння «Малітоўнікі» і «Трэбнікі» (1617, 1618, 1621, 1622, 1624, 1626, 1635), надрукаваны пераклад з грэцкай мовы «Духоўных гутарак» Макарыя Егіпецкага (1628), шматлікія палемічныя творы Мялета Сматрыцкага.

У 1620 г. друкарня выпусціла дзве кнігі на смерць першага архімандрыта манастыра Св. Духа і фактычнага кіраўніка брацкай кнігавыдавецкай дзейнасці Лявонція Карповіча. Абодва выданні былі кірылічныя, напісаныя на славянскай мове: адно выйшла ананімна (вершаваны «Лямэнт» — («Плач») (на смерць), другое — аўтарскае, пяра Мялета Сматрыцкага[257]. Больш Сматрыцкі на царкоўнаславянскай мове кніг не выдаваў, аддаючы перавагу мове польскай. Перш чым айцец Мялет разарваў усе свае сувязі са Свята-Духавым манастыром, брацкая друкарня выпусціла некалькі яго кніг: «Verifikatia niewinności», «Obrona verifikacyei», «Justificacia niewinności», «Elenchus pism», «Supplicacia» (1621—1622).

З боку эстэтычнага і тэхнічнага кнігі брацкай друкарні адрозніваліся добрым выкананнем і асаблівым густам у падрыхтоўцы макета. Узорам можа быць «Службоўнік» (Устав божественныя литургия...) 1624 г. У тэксце «Службоўніка» змешчаны апісанне дзеянняў пад час багаслужбы (набрана малым кеглем) і тыя словы, якія прамаўляюцца (набрана




*Паўустаў, што мае ночную і дзённую службу на ўвесь год. Тытульны аркуш з гравіраванымі выявамі Багародзіцы і Іаана Багаслова. Вільня, брацкая друкарня, 1695 г.*

большым кеглем). Пачатак чыну кожнай іншай літургіі адзначаны загалоўкам і заставкай. Кожная з трох заставак мае ў цэнтры акруглы медальён з выявамі Ісуса Хрыста, Св. Тройцы і Укрыжавання з двума прадстаячымі, аточаны раслінным (кветкі і вазоны) арнаментам. На суседніх (левых) старонках выява кожнага з трох аўтараў чыну літургіі — Васіля Вялікага, Іаана Златавуснага і Грыгорыя Дваяслова. Экспрэсію службы Вялікай вячэрні для карыстальніка «Службоўніка» ўзмацняе гравюра са сцэнай «Уваскрэшанне з мёртвых». Дзве гравюры-ілюстрацыі паказваюць убранне стала для паследавання вялікай вячэрні і выяву дыскаса з прасфорамі (надрукавана чырвонай фарбай). На адгорце тытульнага аркуша адбіты тонка

[256] *Мыцык Ю. А.* Новые источники по истории церкви и культуры ВКЛ и Белоруссии XVI—XVIII вв. // Наш радавод. Кн. 4, ч. 1. Гродна, 1992. С. 205.
[257] *Маслов С. И.* Казанье Мелетия Смотрицкого на честный погреб о. Леонтия Карповича. Киев, 1908.



*Паўустаў, што мае начную і дзённую службу на ўвесь год. Разгорт з пачаткам паследаванняў і фіналікам у выглядзе галавы анёла. Вільня, брацкая друкарня, 1695 г.*

выкананы дрэварыт са сцэнай Укрыжавання з чатырма прадстаячымі. Усе ілюстрацыі, вывы святых і ініцыялы (за выключэннем «Е» і «М») надрукаваны з новых дошак[258].

Пры канцы 1632 г. альбо на пачатку 1633 г. друкарня выдала на польскай мове антыкаталіцкі юрыдычна-палітычны трактат «Rzym albo stolica rzymska jesli co ma do praw Korony Polskiej y Wiel.X. Litewskiego polityckich krotkie uwazenie roku 1633 stanom koronnym na seym koronatiey podane» — гэтую брашуру праваслаўная мітраполія падрыхтавала для раздачы на каранацыйным сойме (пачаўся 14 лютага 1633 г.)[259], у тым жа годзе кароль Уладзіслаў IV пацвердзіў Віленскаму праваслаўнаму брацтву дадзеныя раней Жыгімонтам III прывілеі на кнігадрукаванне.

У хуткім часе друкарня выдала «Малітвы штодзённыя» (1635). На адгорце тытульнага аркуша — гравіраваны герб Кісялёў, далей прысвячэнне падкамораму «ўкраіны тамтай Задняпроўскай» Адаму Кісялю з Брусілава, які атрымаў свой урад «пасля свежай маскоўскай экспедыцыі...» ад «...наяснейшаго не звытяжоного короля его М. Владыслава Четвертаго Пана ... нашего...»[260]. Для ўпрыгожання гэтай кнігі выкарыстана гравюра «Укрыжаванне» з чатырма прадстаячымі (да гэтага яна ўжо была надрукавана ў «Службоўніку» 1624 г.).

Удар па Віленскай брацкай друкарні нечакана быў нанесены праваслаўнай уладай. У 1640 г. мітрапаліт Пётр Магіла ўсе царкоўныя выданні падпарадкаваў сваёй цэнзу-

[258] *Лукьяненко В. И.* Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI–XVII вв. Вып. 2. Л., 1975. С. 96.

[259] *Ісаєвич Я.* Українське книговидання. Витоки. Розвиток. Проблеми. Львів, 2002. С. 189.

[260] Найлепш захаваны да сёння паасобнік гэтага выдання належаў да «харомных» кніг царэвіча Аляксея Пятровіча (зараз у Аддзеле рукапісаў БАН; шыфр: П.I.50).



*Паўустаў, што мае начную і дзённую службу на ўвесь год. Разгорт з гравіраваным гербам Красінскіх і пачаткам прадмовы віленскіх інакаў да паноў Васіля Красінскага, смаленскага харужага і прапойскага старасты, і Цімафея Красінскага, гомельскага старасты. Вільня, брацкая друкарня, 1695 г.*

ры. Гэтае рашэнне, спрыяльнае для Кіеўскай друкарні (мітрапаліт жыў пераважна ў Кіеве), паставіла Віленскае брацкае выдавецтва ў цяжкія ўмовы. Свята-Духаў манастыр заставаўся невялікім востравам праваслаўя ў сталіцы, у атачэнні каталіцтва і уніі. Як і ў Магілёве, дзе праваслаўнае насельніцтва стварала пастаянны попыт на богаслужбовую і чэццю праваслаўную кнігу і дзе на адносна невялікай адлегласці паміж сабой працавалі дзве друкарні (Магілёўская і Куцеінская), Віленская брацкая друкарня таксама доўгі час мела дублёра-канкурэнта — друкарню Еўеўскую. Некаторыя выданні адначасова выходзілі ў Вільні і ў Еўі, але з рознымі тытульнымі аркушамі, рознымі прадмовамі і прысвячэннямі. Сярод нешматлікіх вядомых друкароў брацкай друкарні – «айцец Самуіл, што з Вільна, немец, друкар», «Самоил Рогаля, друкар братства виленского»[261] (магчыма, гэта адна асоба). Адным з кіраўнікоў друкарні мог быць еўеўскі ігумен, друкар Гаўрыла Іванавіч. Разам Віленская і Еўеўская друкарні забяспечвалі патрэбы ў кнігах паўночна-заходняй часткі ВКЛ. Магчымасці продажу ў Расію ўвесь час пагаршаліся — як з прычын палітычных (войны), так і канкурэнцыі маскоўскіх выдаўцоў. З паляпшэннем пазіцый уніі патрэба ў праваслаўных кнігах змяншалася і друкарні хіліліся да заняпаду. Але на якасць выданняў гэта не ўплывала — кнігі Віленскага брацкага друку сярэдзіны XVII ст. з'яўляюцца прыкладам дасканалага набору, густоўнага выкарыстання шматлікіх элементаў аздобы (рознага малюнка і кегля шрыфтоў, ініцыялаў, заставак, канцовак, гравюр-дрэварытаў). Як і іншыя друкарні, брацкая выпускала акрамя кніг і ліставыя гравюры з абразоў, напрыклад «выява Абраза цудатворнай

[261] Яраслаў Ісаевіч зазначае, што гэтыя друкары былі таксама звязаны з кіеўскімі і львоўскімі праваслаўнымі друкарнямі: *Ісаєвич Я.* Українське книговидання. Витоки. Розвиток. Проблеми. Львів, 2002. С. 196.



*Паўустаў, што мае ночную і дзённую службу на ўвесь год. Пачатак Акафіста Ісусу Хрысту і гравюра з выявай Спаса. Вільня, брацкая друкарня, 1695 г.*

Багародзіцы кангрэгацыі Студыцкай у царкве Брацкай Праваслаўна Кафаліцкай С. і Ажыўляючага Духа ў Вялебных айцоў базыльянаў у Вільні» (1687 г.) гравіравана адным з лепшых мастакоў свайго часу Лявонам Тарасевічам[262].

Праваслаўнае кнігавыданне ў Вільні ў канцы XVII ст. падтрымалі гомельскі староста Цімафей Красінскі («Малітваслоў трохакафісны», 1693) і смаленскі харужы, староста прапойскі Васіль Красінскі («Паўустаў», 1695). Друкарня выканала гэтыя кнігі вельмі дбайна, упрыгожыўшы, згодна з традыцыяй, гравюрай з гербам мецэнатаў, а таксама адрасавала гомельскаму старасту Цімафею Красінскаму і смаленскаму харужаму, прапойскаму старасту Васілю Красінскаму прадмову. «Паўустаў» мае традыцыйныя для гэтага выдання гравюры-дрэварыты з выявамі Спаса і Багародзіцы ў выдатным мастацкім выкананні. Аднак мецэнацтва ўсходнебеларускай шляхты не вырашала праблемы забеспячэння друкарні заказамі. 7 студзеня 1700 г. брацтва паслала ліст з просьбай аб апекаванні маскоўскаму патрыярху. Да ліста як узор выдавецкіх магчымасцей друкарні быў прыкладзены «Трэбнік» 1697 г. выдання. Аднак заказа з Масквы не прыйшло; «Трэбнік» 1697 г. застаецца апошнім вядомым нам выданнем брацкай друкарні.

Усяго за час свайго існавання яна выпусціла больш за 40 кірылічных выданняў і некалькі дзесяткаў польскамоўных кніг, пераважна панегірыкаў.

[262] Дошка з гэтай гравюрай захоўвалася да канца XIX ст., і адбітак з яе быў надрукаваны: Pomniki rytownictwa krajowego. Oddział 1. Odbitki z blach mniejszych, znajdujących się w bibliotece łohojskiej Konstantego hrabi Tyszkiewicza. Wilno, 1858. № 108.

**Друкарня віленскіх базыльян** знаходзілася ў манастыры Св. Тройцы, «на злучэнні дзвюх ліній (манастырскіх пабудоў. — *М. Н.*): паўднёвай і заходняй». Абсталяванне друкарня атрымала, верагодна, ад кнігавыдаўца Лявона Мамоніча, які прыняў у 1614 г. унію. Першае вядомае выданне базыльян — «Наука яко верити мает каждый, которыи шчитится нареченіем православія, ...выдана в Вильне... року тисеча 628». У праваых дачыненнях Віленская базыльянская друкарня лічылася пераемніцай даўніяцкай брацкай друкарні. У 1633 г. кароль Уладзіслаў IV даў манастыру пацвярджальны прывілей на кнігадрукаванне. Сярод прадукцыі друкарні ў 1640-я гады шмат панегірычных казанняў святатроіцкага архімандрыта Аляксея Дубовіча — таленавітага базыльянскага прапаведніка. Як прыклад можна назваць яго панегірычныя казанні на памінанне віленскага ваяводы Яна Скуміна Тышкевіча (1642) і жонкі лідскага харужага Кунцэвіча Алены Сапяжанкі (1645) у царкве Св. Тройцы, выдадзеныя «ў друкарні манастыра віленскага Св. Тройцы»[263]. Манастыр клапаціўся, каб папера ў кнігах была добрай, а набор якасны, выкананне ілюстрацый даручалі лепшым віленскім мастакам-гравёрам. Прынамсі, адна з першых вядомых прац гравёра нямецкага паходжання Конрада Гётке з'явілася ў выданні манастыра Св. Тройцы — гэта партрэт віленскага ваяводы і браслаўскага старасты Яна Скуміна Тышкевіча. Нябожчык паказаны ў вобразе ваяра, перад паходным намётам (шатром). На століку побач — булава военачальніка, механічны гадзіннік і кніга; за намётам сцягі, страляе батарэя гармат (у пярэдняй гарматы няма пярэдняй часткі дула), конны атрад рыцараў. На пярэднім плане, ля ног Яна Скуміна, — вайсковыя бубны і ручная зброя, а таксама рыцарскія даспехі.



*Віленскі ваявода Ян Скумін Тышкевіч на фоне паходнага намёта, войска, зброі і атрыбутаў улады. Адварот тытульнага аркуша казання архімандрыта віленскага базыльянскага манастыра Аляксея Дубовіча ў царкве св. Троіцы 24 кастрычніка 1642 г. Гравюра Конрада Гётке.*

Пачынаючы з 1667 г. на некалькіх кангрэгацыях ордэна ўздымаецца пытанне аб друкаванні кніг. Віленская (XVII) кангрэгацыя пастанавіла ў 1667 г.: «...(за) друкарняй, катэхізмам, паправай кніг і трэбнікаў і службоўнікаў у кожным манастыры хай назірае старэйшы, каб не меў хлопчыкаў на прыслужэнні...»[264], а Наваградская (XVIII) кангрэгацыя пастанавіла ў 1671 г.: «...друкаванне працягваць у Вільні, аднак кожную рэч, якая ідзе ў друк, даць праглядзець яго міласці ксяндзу Агілевічу»[265]. Доктар тэалогіі Агілевіч на той час — протаархімандрыт ордэна; такім чынам, гэтым рашэннем уводзілася цэнзура протаархімандрыта над усёй друкаванай прадукцыяй.

Акрамя кніг друкарня выпускала і ліставыя выданні. Вядома, у прыватнасці, гравюра Лявона Тарасевіча «Апосталы Пётр і Павел з цудатворным Жыровіцкім абразом Багародзіцы», выкананая паводле малюнка Паўла Бацэвіча і надрукаваная манастырскай друкарняй у 1682 г.[266]

Пры уніяцкім мітрапаліце Кіпрыяне Жахоўскім у 1690 г. друкаром працаваў манах-

[263] Значная частка гэтых панегірыкаў захавалася ў двух канвалютах з бібліятэкі Жыровіцкага манастыра, які зараз знаходзіцца ў БАН СПБ.
[264] АСД. Т. 12. Вильна, 1900. С. 99.
[265] Тамсама. С. 104.
[266] *Степовік Д. В.* Левонтій Тарасевич і українське містецтво барокко. Київ, 1986. С. 61—63.

# ΛΕΙΤΟΥΡΓΙΚΟΝ

си єсть

# СЛУЖЕБНИКЪ:

Содержащъ в себѣ чинъ Стыѧ Восточныѧ Црькви Литургїи, Їже во Стыхъ Ѡтцъ нашихъ Їѡанна Златоустаго, Васїлїа Великаго, и Григорїа Двоеслова Папы Римскаго, со всеми службами, Недѣльными и Праздничными.

**в Вилни**

Первое Тупомъ издадеся, въ Ѡбители Стыѧ Живоначальныѧ Троицы, Чину Стого Васїлїа Ве: в Лѣто ѿ Рождества Хва.

АХЧВ.

Со страхомъ Бжїимъ и с вѣрою приступите.



*Псалтыр з Часаслоўцам. Разгорт. Друкар Іван Фёдараў. Заблудаў, 1570 г.*

базыльянін Дамаскін Гербест[267]. Прыкладна ў той час пачалася падрыхтоўка вялікай богаслужбовай кнігі «Леітоургікон, си ест Служебник съдержащ в себе по чину святыя восточныя церкви литургии, иже в святых отец наших Иоанна Златоустаго, Василиа Великаго и Григория Двоеслова папы римскаго, с всеми службами недельными и праздничными». Выданне было задумана раскошнае: памер — у вялікі аркуш, двухколерны друк, рамку тытульнага аркуша заказалі Лявону Тарасевічу. Прадмову і прысвячэнне новаму падканцлеру (з 1690 г.) ВКЛ Каралю Станіславу Радзівілу напісаў сам мітрапаліт Кіпрыян Жахоўскі. Лявону Тарасевічу для гэтага выдання быў таксама заказаны гравіраваны партрэт новага падканцлера. Аднак па невядомых прычынах у 1692 г. друкаванне «Літургікона...» было спынена, мітрапаліт загадаў частку абсталявання друкарні перадаць у Супрасльскі манастыр, што і было зроблена. Віленскія манахі неаднаразова хадайнічалі аб вяртанні вывезенай у Супрасль маёмасці. Прынамсі, 3 жніўня 1694 г. на трэцяй сесіі Жыровіцкай кангрэгацыі базыльянаў, калі святатроіцкім манахам прапанавалі выказаць свае праблемы, яны ў першую чаргу запыталі: «Ці хто цікавіцца друкарняй, перанесенай з Вільні ў Супрасль светлай памяці мітрапалітам (Кіпрыян Жахоўскі да таго часу ўжо памёр)?». Айцец-сакратар ордэна адказаў, што «тая друкарня ёсць віленская ў большыні сваёй, як «спраўленая» з грошай віленскага манастыра, і мае віленскія матрыцы, пунсоны, адзін прэс і ў большай частцы «druku materia», і ўсё гэта віленскі манастыр хацеў бы вярнуць... Якая рэквізіцыя (на карысць) віленскага манастыра на другі час адкладзена...»[268]. У Супраслі ж у той час ішла праца над заканчэннем выдання «Літургікона...» (Службоўніка), якая была завершана ў 1695 г. Першы перыяд дзейнасці Троіцкай друкарні закончыўся яе закрыццём на працяглы час.

**Друкарня ў Заблудаве.** Да канца няясна, чаму віленскі кашталян і вялікі гетман Рыгор Аляксандравіч Хадкевіч, запрасіўшы ў 1568 г. з Масквы друкароў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, накіраваў іх для працы менавіта ў Заблудаў — адзін са сваіх аддаленых маёнткаў. У некалькіх кіламетрах ад Заблудава, у Гродзенскім павеце Троцкага вая-

← *Літургікон... Тытульны аркуш работы Лявона Тарасевіча. Вільня, базыльянская друкарня, 1692—1695 гг.*

[267] *Диковский Н.* Базилиянский орден и его значение в западнорусской униатской церкви в XVII и начале XVIII столетия — до Замойского провинциального собора 1720 г. // Гродненские епархиальные ведомости. 1906. № 31/32. С. 874.

[268] АСД. Т. 12. С. 132.

водства, знаходзіўся дзейны кніжны цэнтр — Супрасльскі манастыр. Паколькі Хадкевічы былі кцітарамі гэтага манастыра, то Рыгор Аляксандравіч мог прывезці запрошаных кнігадрукароў у Супрасль. Для яго — віленскага кашталяна, дзяржаўцы гродзенскага і магілёўскага, не было б цяжка арганізаваць друкарню і ў адным з вялікіх гарадоў Вялікага Княства. Магчыма, выбар Заблудава быў вызначаны менавіта тым, што Хадкевіч (альбо яго дарадцы) не жадалі якога-небудзь уплыву на друкарню «звонку». Бо зробленыя ў Заблудаве выданні былі нават па мове не такія, якія задумваліся напачатку, пра што Хадкевіч гаворыць у прадмове да Евангелля вучыцельнага[269].

Друкары, як сведчыць прадмова, пачалі працаваць над выданнем першай кнігі ў Заблудаве 8 ліпеня 1568 г. і закончылі яе 17 сакавіка 1569 г. Прадукцыя новага, Заблудаўскага выдавецтва рыхтавалася па ўжо прынятых у Вялікім Княстве кніжных канонах. Адно з пацверджанняў гэтага — прыхаванае цытаванне у тэксце Хадкевіча «Прадмовы» Францыска Скарыны да «Кнігі Царстваў», якое знайшоў амерыканскі гісторык Вітаўт Тумаш[270]. Друкар «Евангелля вучыцельнага» — Іван Фёдараў — у пасляслоўі звяртаўся не толькі да тых, хто хоча «прочитати», але і да тых, хто жадае перапісаць гэтую кнігу[271]. На адгорце першага аркуша першай заблудаўскай кнігі была гравіраваная выява (дрэварыт) герба Хадкевіча ў арнаментальнай рамцы. Герб «падпісаны» двойчы: абрэвіятурай з лацінскіх літар «GAC» што, верагодна, можна прачытаць як Grygory Alexandrovicz Chodkewicz і друкаваным чырвонай фарбай надпісам кірыліцай: «Григореи Александрович Ходкевича пан виленьскіи гетман наивышшіи Великаго Князьства Литовскаго староста городеньскіи и могилевскіи». З 50 захаваных (падлічаных бібліёграфамі) паасобнікаў «Евангелля вучыцельнага» 17 маюць прыпіскі чытачоў XVI—XVII стст., якія сведчаць пра вельмі шырокі арэал распаўсюджвання: ад блізкага да Заблудава Супрасля да расійскіх гарадоў Тулы, Яраслаўля, Усцюга[272]. У практычным выкарыстанні паасобнік «Евангелля вучыцельнага» найдаўжэй заставаўся ў стараверў усходнебеларускага паселішча Ветка[273].

Наступнае заблудаўскае выданне, «Псалтыр з Часаслоўцам», Іван Фёдараў друкаваў ужо адзін, распачаўшы працу над ім 26 верасня 1569 г. і закончыўшы 23 сакавіка 1570 г. Пётр Мсціславец пакінуў свайго калегу і дасюль невядома, дзе ён знаходзіўся на працягу наступных пяці гадоў да з'яўлення восенню 1574 г. у Вільні, са сваім друкарскім варштатам — яго ў якасці друкара нанялі віленскі бурмістр Зарэцкі і багатыя купцы Мамонічы.

Сёння вядомыя чатыры паасобнікі «Псалтыра з Часаслоўцам» 1570 г. Адзін з іх, найбольш пашкоджаны, быў у 1844 г. куплены М. Пагодзіным на ніжнегародскай ярмарцы і ў 1852 г. паступіў у Санкт-Пецярбургскую імператарскую публічную бібліятэку (зараз у фондзе рэдкай кнігі РНБ: 1.5.3). Другі, таксама пашкоджаны, адшуканы ў 1864 г., у сяле Тырава Валошская паблізу горада Санок на Лемкаўшчыне і знаходзіцца цяпер у Львоўскім музеі ўкраінскага мастацтва (СДК Q 332). Найбольш поўнае ўяўленне пра кнігу дае выдатна захаваны паасобнік, які знайшоў у 1968 г. Дж. С. Г. Сіманс у бібліятэцы лонданскага палаца Ламбет — рэзідэнцыі кентэрберыйскіх епіскапаў у Англіі. На пераплёце кнігі суперэкслібрыс архіепіскапа Рычарда Бенкфорта (1544—1610). У пачатку «Псалтыра», таксама як і ў папярэднім заблудаўскім выданні, змешчаны герб Хадкевіча. Гэтая гравюра адбіта ўжо з іншай дошкі і зроблена больш прафесійна. Надрукавана кніга з вялікім густам: яе аздабляюць дзве гравюры (герб Хадкевіча і выява цара Давыда), а таксама шматлікія гравіраваныя ініцыялы і застаўкі. На жаль, даступны нам для капіравання паасобнік з РНБ хоць і клапатліва адрэстаўрыраваны пазнейшым (у XVIII ст.) пераплётчыкам, але тады ж ён быў моцна пашкоджаны — пры пераплёце кніга так абрэзана, што амаль не захаваліся верхнія

[269] Прадмова Хадкевіча надрукавана фотатыпічна. Гл.: Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны. Мн., 1991. С. 29—33, 131—139.

[270] *Тумаш В.* Гетман Рыгор Хадкевіч і ягонае выдавецтва // ЗБІНМ. 1976. Кн. 14. С. 3—39.

[271] *Розов Н. Н.* О культурно-историческом значении рукописной книги после введения книгопечатания // Русские книги и библиотеки в XVI — первой половине XIX века: Сборник научных трудов. Л., 1983. С. 13—22.

[272] *Немировский Е. Л.* Джон Симмонс и мировой фонд изданий Ивана Фёдорова // Solanus. Vol. 19. 2005. С. 67—72.

[273] *Нячаева Г. Р.* і інш. Веткаўскі музей народнай творчасці. 2-е выд. Мн., 1999. С. 18.



Andrzeiá Fryczá Modrzewskiego O popráwie Rzeczypospolitey kśięgi czwore.

Pierwsze O Obyczáioch.
Wtore O Státućie.
Trzećie O Woynie.
Czwarte O Szkole.

Do świętey pámięći Monárchy Zygmuntá Augustá Krolá Polskiego etc. do Senatu/ do stanu Rycerskiego/ y w obec do wszech ludźi Sármatskich/ ięzykiem Láćinskim nápisáne: á teraz

Nakłádem Wielmożnego Páná/ iego Miłośći páná Mikołáiá Olechnowiczá Moniwidá Dorohostáyskiego/ Woiewody Połocskiego/ Stárosty Wolkowiskiego y Lepelskiego etc. etc.

Przez Cypriáná Bázyliká z Láćińskiego ná Polskie przetłumáczone/ y ná wielu mieyscách trudnych Przypiskámi y kotizácyámi po kráioch obiáśnione.

Drukowano w Łosku w Drukárni Wielmożnego Páná/ iego miłośći páná Janá Kiszki Kráyczego w Wielkiem Kśięstwie Litewskiem.

Nakłádem tegoż Páná Woiewody Połocskiego etc.

Przez Janá Kárcaná z Wieliczki/ Mieśiącá Páźdźierniká. Roku od národzenia Syná Bożego/ 1577.

*Андрэй Фрыч Маджэўскі. «Аб паляпшэнні Рэчы Паспалітай кнігі чатыры. Першая аб звычаях. Другая аб Статуце. Трэцяя аб вайне. Чацьвёртая аб школе. Да святой памяці манарха Жыгімонта Аўгуста караля Польскага etc. да Сената (да рыцарскага саслоўя) і ўвогуле да ўсіх сармацкіх людзей лацінскай мовай напісаныя, а зараз накладам Вяльможнага Пана яго міласці пана Мікалая Аляхновіча Манівіда Дарагастайскага Полацкага ваяводы, Ваўкавыскага і Лепельскага старасты etc. Кіпрыянам Базылікам на польскую перакладзеныя і ў шмат якіх цяжкіх месцах прыпісамі па краях растлумачаныя. Друкавана ў Лоску ў друкарні Вяльможнага Пана яго міласці пана Яна Кішкі крайчага ў Вялікім Княстве Літоўскім накладам таго ж Пана ваяводы Полацкага etc. Янам Карцанам з Вялічкі месяца кастрычніка году ад нараджэння Сына Божага 1577».*

гравіраваныя рамкі, у якія быў устаўлены нумар кафізмы. Аднак нават у такім выглядзе гэты паасобнік «Псалтыра» захоўвае і перадае высокі ўзровень мастацтва знакамітага друкара Івана Фёдарава.

Пасля заканчэння працы над гэтай кнігай Іван Фёдараў выехаў у Львоў, дзе пачаў эру кнігадрукавання на Украіне.

Роля заблудаўскага выдавецтва для культуры заходніх зямель Вялікага Княства Літоўскага вельмі значная, што падкрэслівае праваслаўная царква ў Польшчы. Пра гэта, прынамсі, гаварыў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі (пазней мітрапаліт усяе Польшчы) Сава на навуковай канферэнцыі, прысвечанай тысячагоддзю хрышчэння Русі.

**Друкарня ў Лоску.** Друкарскае абсталяванне для арганізацыі «замкавай друкарні» ў Лоску набыў у 1572 г. крайчы ВКЛ, пазней жмудскі стараста, віленскі кашталян і, нарэшце, брэсцкі ваявода, арыянін Ян Кішка. Першым друкаром у Лоску быў Даніэль з Ленчыцы, які ў 1573—1574 гг. надрукаваў Новы Запавет. Наступным выданнем была кніга Сымона Будната «Аб двух прыродах Хрыста». Да нашага часу ні аднаго паасобніка гэтага выдання не захавалася, але пра яго добра вядома з крытычнага разбору твора Будната, які зрабіў цюрыхскі прафесар тэалогіі І. Сімлер. Між іншым, ён паведамляе, што твор Будната меў прысвячэнне мінскаму кашталяну Івану (Яну Янавічу) Глябовічу. Гэта цалкам можна дапусціць і таму, што ў 1580-я гг. у Вільні пад пратэкцыяй Яна Глябовіча дзейнічала друкарня, у якой працаваў Даніэль Ленчыцкі. У ёй, у прыватнасці, выдадзена кніга «Typis et sumtibus Illustris ac Magnifici Domini Do. Ioannis Hlebouicij, Castellani Minscensis MDL supremi Thesaurarij, Vpitensis Capitanaei etc. Per Danielem Lancicium, Vilnae, A.D. 1584.» з гравіраваным гербам Глябовіча.

Пасля ад'езду Даніэля Ленчыцкага ў Вільню месца друкара ў Яна Кішкі заняў Ян Карцан. Сваю дзейнасць у Лоскай «замкавай друкарні» ён пачаў выданнем у 1576 г. твора Сымона Будната «Аб артыкулах веры». У тым жа годзе Карцан друкуе працу Цыцэрона «Аб павіннасцях» у перакладзе на польскую мову Станіслава Кашуцкага. Усяго ў Лоску з 1576 па 1580 г. Карцан выдаў сем кніг — дзве на лацінскай і пяць на польскай мове[274]. Адным з важнейшых выданняў гэтага перыяду стала кніга Андрэя Фрыча Маджэўскага «De Respublika emendanta libri quinque» ў перакладзе на польскую мову Кіпрыяна Базыліка, надрукаваная ў кастрычніку 1577 г. Узорам для перакладчыка стала базэльскае (Іаана Апорына) выданне 1559 г.

Пераклад і выданне фінансаваў полацкі ваявода Мікалай Монівід Дарагастайскі (пам. у 1597 г.) — кальвініст, які ўвайшоў у гісторыю як член кадыфікацыйнай камісіі, што падрыхтавала рэдакцыю II Статута Вялікага Княства Літоўскага. Як адзначыў польскі гісторык Ю. Бардах, гэтым выданнем Дарагастайскі імкнуўся сфармаваць самасвядомасць у народа Вялікага Княства. Для гэтых мэт патрэбны былі і тэкст кнігі Фрыча Маджэўскага, і ўступныя тэксты: лацінскі верш Сымона Будната і польскі Мацея Стрыйкоўскага[275]. Апошні меў строфы, «чароўныя няўклюднай наіўнасцю» (вызначэнне Я. Кшыжаноўскага):

A dla ozdoby Rzeczypospolitej,
By i z ksiąg w sławie kwitnęła obfitej,
Moniwid niniejszy kilka set nalożył,
Aby Frycz ożył.

А для аздобы Рэчы Паспалітай,
Каб і з кніг у славе цвіла самавітай,
Монівід цяперашні колькі сот паклаў,
Каб Фрыч загучаў.

Пасля пераезду Яна Карцана ў Вільню (верасень 1580 г.) друкарня працавала менш інтэнсіўна. Лоскім выданнем прынята лічыць кнігу «Абарона супраць непраўдзівага абвінавачвання...» (1583), якую падпісаў Аляксей Радзецкі, назваўшы сябе «друкар Яна Кішкі»[276]. Дзве кнігі выйшлі з упамінаннем друкара Феликса Балямоўскага: «In Evangelii secundum Iohannem primum caput meditatio. I.V. interprete. Eiusdem Alexandri Scriptum de peccato in Spiritum Sanctum I.V. [Io. Voelkel] interprete. Losk, in typographia Iohannis Kiscae, eiusdem impensis, per Felicem Bolemovium impressum. 28.XII.1586.» і «Sententiae ad communem vitae usum propter

[274] *Анушкин А.* На заре книгопечатания в Литве. С. 81.
[275] *Бардах Ю.* Літоўска-«руская» эліта эпохі Адраджэння і польскі пераклад «De Respublica emendanta» А. Фрыча Маджэўскага // Кантакты і дыялогі. 1996. № 7/8. С. 34—41.
[276] *Kawecka-Gryczowa A. i in.* Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. S. 145.

faciliorem perceptionem in Latinos, Polonicos et Germanikos versus redactae» (1589)[277]. Дакладна невядома, да якога часу працавала друкарня ў Лоску — магчыма, да смерці Яна Кішкі ў 1592 г.

**Друкарня,** што існавала **ў Цяпіне** (18 кіламетраў ад Лепеля) — маёнтку Васіля Цяпінскага, дробнага шляхціца, які перайшоў з праваслаўя ў пратэстантызм, — вядомая толькі адным выданнем — гэта «Евангелле»[278] з паралельнымі царкоўнаславянскім і старабеларускім тэкстамі. Ніводная праца па гісторыі мовы, культуры і літаратуры ВКЛ не можа абмінуць гэтай выбітнай з'явы — тытанічнай філалагічнай і арганізацыйна-тэхнічнай працы, што абапіралася на энергію неафіта. Нарадзілася значная літаратура[279], грунтоўны агляд якой паказвае, між іншым, на шматлікія памылкі і недакладнасці, што вандруюць з кнігі ў кнігу. Партрэт Цяпінскага быццам бы знайшлі ў XIX ст. укладзеным у адзін з паасобнікаў Брэсцкай Бібліі 1563 г. Дзе зараз захоўваецца арыгінал і ці гэта сапраўды тагачасная выява — невядома[280]. Кніга не была надрукавана цалкам, пра што сам выдавец паведамляе ў прадмове: «Евангелия писаня святого Матфея и святого Марка и початок Луки есть в тои убогои моеи друкарни от мене им выдруковано»[281]. Выданне не мае выхадных звестках, яно ўмоўна датуецца 1570-мі гг. Сама прадмова дайшла дзякуючы працы праваслаўнага манаха, архідыякана Яўстафія. Ён спісаў у Супрасльскім манастыры вялікі зборнік, у якім большасць тэкстаў прысвечана дачыненням праваслаўя і іншых вызнанняў. Тут былі сярод іншых твораў «Спрэчкі архіепіскапа Грыгорыя з Ерванам, законанастаўнікам юдзейскім», «Слово некогда давно на римян у старых кроиниках писано. О их отщепенстве и о их папах блудных, Петре гугнивомъ и яко жона нечистая папою бысть», «Послание Антиохийское к арцибискупу Венаицкому», слова «О Махмете от кого он и яко и якимъ обычаемъ к тому пришол закон бусурменъски туркомъ заложилъ». На старонках 267 адв. — 271 тым жа почыркам, што і ўся кніга, спісана «Прадмова» Васіля Цяпінскага — здаецца, што супрасльскі архідыякан Яўстафі ўпадабаў патрыятычныя думкі і разважанні пратэстанта-неафіта з-пад Лепеля: «...я не одному которому але всим из с тою потребою отчизны вашое, богобоино и пилности, ростропности и верности поручаю и заставую просечи Пана абых был готов если она до конца згинет, з нею згинуть. Або если через ваш ретунок будет выдвигнена, з вами и з нею выбринуть... Жебы митрополита вашего, владык и учите-



*Васіль Цяпінскі. Пачатак Евангелля ад Марка. У цэнтральных слупках паралельныя славянскі (пачынаючы з ініцыяла «З» — Зачало) і беларускі (пачынаючы з ініцыяла «П» — Початок) тэксты. У бакавых слупках — загалоўкі зачалаў, нумарацыя раздзелаў і паралельныя месцы. Цяпіна, 1570-я гг.*

[277] Абодва выданні ёсць у бібліятэцы Вроцлаўскага універсітэта.
[278] Кніга Беларусі 1517—1917. № 12.
[279] *Клімаў І. П.* Нарыс бібліяграфіі аб Васілю Цяпінскім // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. [Вып. 1]. С. 60—114.
[280] *Галенчанка Г. Я.* Партрэты першадрукароў // ПГКБ. 1972. N 1. С.26—29.
[281] Кніга Беларусі 1517—1917. С. 61.


ПЕРВАЯ ЧАСТЬ НОВОГО ЗАВЕТА АБО ТАЯ
спимейть. подлуг словенского разделенья. тое
от чотырех евангелистов стое евангеліе іся
хя списаное. в которыхъ іжъ одно пісмо е
ваньгелское. прото одным словом
его назвали
ЕВАНГЕЛІЕ.

Слова Хрыстовы.

Непріймаючій мов моихъ. маеть осужаючого его. с
которое мовілом. тое осудит его в последній ден
Іоан. ві. с. мн.

Ято есть суд. іжъ свеїло пріш
люди большей темность

Евангелле друку Васіля Цяпінскага. Першы аркуш. Цяпіна, 1570-я гг.

з'яўлення друкарняй у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага была друкарня братоў Мамонічаў. Яны займаліся кнігавыданнем больш чым паўстагоддзя — ад 1574 да 1624 г. Бібліяграфічнае вывучэнне гэтага феномену яшчэ як след не зроблена: калі даваенны аўтар, Фёдар Ільяшэвіч, абапіраўся на 54 вядомыя яму кнігі на царкоўнаславянскай, старабеларускай і польскай мовах, што выйшлі ў 1575—1623 гг.[283], то сучасныя бібліёграфы налічваюць прыкладна столькі ж адных толькі кірылічных выданняў[284]. Кнігі Мамонічаў склалі цэлую эпоху. Яны шырока разышліся па тагачасным свеце, пра што сведчаць шматлікія прыпіскі на захаваных пасобніках — 114 такіх прыпісак, датаваных XVI—XVII стст., налічыў Г. Галенчанка. Геаграфія іх распаўсюджання вельмі шырокая і ахоплівае ўсю Усходнюю Еўропу[285].

Праз чвэрць стагоддзя пасля спынення дзейнасці Францыска Скарыны, на Віленскім сойме 1551 г., шляхта паўтарыла просьбу аб тым, каб «Статут права посполітого земъского был поправлен а выдрукован». Вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст адказаў на яе абяцаннем, што ён «будет рачыл росказати оный Статут выдруковати и битым писмом выбити...»[286] Выканаўцамі волі вялікага князя і сойма ў справе арганізацыі кнігадрукавання сталі браты Зарэцкія: Іван, які займаў пасаду скарбнага Вялікага Княства Літоўскага, і бурмістр Вільні Зянон. Іван Сямёнавіч Зарэцкі быў не толькі знакаміты дзяржаўны дзеяч — князь Андрэй Курбскі прызнаваў яго найбольш аўтарытэтнай асобай сярод віленскай праваслаўнай абшчыны. У адным з пасланняў да Кузьмы Мамоніча Курбскі пісаў: «...а такъ, естъли бы ся здало вашей милости, прочти то посланейцо в дому пана Зарецкаго и всем во правоверіи стоящим Виленским мещаном»[287].

Практычнымі стваральнікамі друкарні сталі сыны віленскага купца з Магілёўшчыны Івана Мамоніча — Кузьма і Лукаш. Хоць бацька іх быў нешляхецкага паходжання, Мамонічы як члены сталічнага гарадскога самакіравання лічыліся шляхціцамі — такі

леи ваших до того прозбами вашими вели». Існуе гіпотэза, што абсталяванне для друкарні, у тым ліку кірылічныя шрыфты, Цяпінскі купіў у Лаўрэна Крышкоўскага ў Нясвіжы. Паводле Ю. Лабынцава, друкарня Цяпінскага магла быць перасоўнай[282].

**Выдавецкае прадпрыемства дома Мамонічаў.** Другой (пасля Скарыны) па часе

[282] *Лабынцев Ю. А.* Описание изданий Несвижской типографии и типографии Василия Тяпинского. С. 6, 20, 55—60.

[283] *Iljaszewicz T.* Drukarnia domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622). Wilno, 1938. S. 105—141.

[284] Кніга Беларусі 1517—1917. С. 574.

[285] *Голенченко Г. Я.* Идейные и культурные связи... С. 267—276.

[286] РИБ. Т. 30. Стб.184.

[287] Тамсама. Т. 31. Стб. 426.

прывілей давала магдэбургскае права. Кузьма Мамоніч пасля абрання яго ў 1568 г. у магістрат горада Вільні купіў частку неабходнага абсталявання, частку прывёз з сабой з Заблудава друкар Пётр Мсціславец. Прадпрыемства размяшчалася ва ўласным доме Мамонічаў, на Вялікай вуліцы. Непасрэдна перад пачаткам працы друкарні Мамонічы двойчы пасылалі свайго «служэбніка» Аляксея ў Маскву. Невядома, ці датычыла паездка Аляксея арганізацыі кнігадрукавання, аднак тое, што ён знаходзіўся ў Аляксандраўскай слабадзе, дзе масковец Андронік Цімафееў Нявежа рыхтаваў да працы новую маскоўскую друкарню, дазваляе меркаваць, што гэта магло быць. Звесткі аб прыездзе Аляксея ў Маскву і назад у ВКЛ знаходзім у допісах аршанскага старасты Філона Кміты Чарнабыльскага.

Першым выданнем мамоніцкай друкарні стала напрастольнае Евангелле, якое пачалі друкаваць 14 мая 1574, а закончылі 30 сакавіка 1575 г. Друкаром быў Пётр Цімафеевіч Мсціславец.

Ёсць меркаванне, што праца па падрыхтоўцы пачалася ў 1569 г. — Мсціславец пакінуў Івана Фёдарава ў Заблудаве, а сам па запрашэнні Зарэцкіх пераехаў у Вільню і амаль пяць гадоў займаўся рознымі падрыхтоўчымі справамі: вырабам абсталявання, адліўкай шрыфтоў і да т. п. У пасляслоўі да першай надрукаванай кнігі ён гаворыць: «...и начях сію святую книгу... умышленіем и промышленіем его милости пана скарбнаго, старосты Упицкаго Івана Семеновичя Зарецкаго и брата его пана Зенова, бурмистра места Виленскаго». Аўтар пасляслоўя просіць усіх, «ашче кали прылучится кому в сію святую книгу еуангельскую вникнути», аддаць падзяку «их милости пану Іоану и пану Зеновію, также и Козме и Лукашу Мамоничям, с благоволеніем нас приемлющим... Но мовим вы, и нас не забывайте трудившихся, многогрешнаго Петра Тимофеева сына Мъстисловца, але и тому мещите уломки даровании ваших духовных, и здалечя стоящу и алчющу аггельскаго хлеба и жаждущу духовнаго сего пива...»[288].

Шматлікія запісы пазнейшых гаспадароў кнігі паказваюць папулярнасць гэтага Евангелля: на захаваных паасобніках маюцца 26 запісаў XVI—XVII стст.; зроблены яны ў Беларусі, Украіне і ў Маскоўскай Русі[289]. Такое шырокае распаўсюджанне было, на нашу думку, адной з прычын добрай захаванасці многіх паасобнікаў гэтай кнігі (большасць іх паходзяць з маскоўскіх «пределов»).



*Каталіцкі Катэхізіс Пятра Канізея. Вільня, друкарня Мамонічаў, 1585 г.*

Адзін знаходзіўся ў бібліятэцы бібліяфіла XIX ст. Івана Пракоф'евіча Каратаева (цяпер у фондзе рэдкай кнігі РНБ) і мае пераплёт маскоўскай работы; кніга доўгі час знаходзілася ў нейкім невядомым нам манастырскім кнігазборы і таму добра захавалася (праўда, з-за кепскай якасці выкарыстаных для шыцця пераплёту вяровак верхняя крышка кнігі зараз адарваная). Гэты паасобнік лепш за іншыя захаваў прапорцыі набору Пятра Мсціслаўца, а невядомы пераплётчык, відаць, не шкадаваў дошак і скуры для абкладу і мінімальна абрэзаў друкаваныя аркушы. Пры аднолькавай велічыні паласы набору памеры гэтага паасобніка (340×205 мм) адносна памераў большасці іншых (напрыклад, экзэмпляр са збораў Ф. Талстога 305×195 мм) надаюць выданню асаблівую эстэтычную дасканаласць.

[288] Евангелле. Вільня, 1575. Арк. 394 адв.
[289] *Голенченко Г. Я.* Идейные и культурные связи... С. 263—266.



*Малітва «Ад сна ўстаўшы» ў віленскім Часаслоўцы мамоніцкага друку. 1617 г. Разгорт арк. 2 адв.—3.*

Наступным пасля Евангелля выданнем стаў «Псалтыр». Гэтая кніга датавана ад стварэння свету 7083 (1575) г., а ад Раства Хрыстова — 1576 г. Прынята лічыць, што сапраўдная дата выдання — 16 студзеня 1576 г. Нядаўна заснаваная друкарня наўрад ці змагла б друкаваць у 1575 г. адначасова дзве вельмі вялікія па аб'ёме кнігі. У пасляслоўі да другой кнігі мамоніцкага друку Пётр Мсціславец піша: «...по всяму повинуяся вашему повеленію, но милостивы ми будите, богопочтеннии, милостивый пане скарбный и пане Зенове Зарецъкий, молюся, вашим заповедем покорившуюся и приемлющу послушаниа, напечатах сию книгу... в славном месте Виленьскомъ, пребываючи в дому благочестивых мужей Козмы и Лукаша Мамоничовъ, яко и от своих им стежании изобилно в всем нас довольствовати».

Услед за «Псалтыром» было паўторана выданне маскоўскага (1564 г.) «Апостала»; на апошнім аркушы выдання надрукаваны тэкст каралеўскага прывілея Мамонічам; з гэтай прычыны бібліяфілы назвалі яго «Апостал з прывілеем».

Пасля выдання яшчэ адной кнігі, «Часоўніка» (да 1576 г.), Кузьма Мамоніч разышоўся з Пятром Мсціслаўцам. Прычына канфлікту няясная — можна толькі меркаваць, што Пётр Мсціславец атрымаў запрашэнне распачаць кнігавыданне ў маёнтку князя Астрожскага і прыняў гэтую прапанову. Друкарня, якая каштавала Мамонічам столькі высілкаў, павінна была спыніць працу ў Вільні.

Згодна з рашэннем суда, Кузьма Мамоніч вымушаны быў да 25 сакавіка 1577 г. аддаць друкару абсталяванне друкарні і выплаціць яму 30 коп літоўскіх грошаў (адна капа = 16 грошаў), а сабе пакінуць наклады выдадзеных кніг: Евангелляў, Псалтыроў і Часоўнікаў. Характэрна, што «Апостал» у дакументах не ўпамянуты — можа, друкаванне яго яшчэ не было закончана. У 1579 г. Пётр Мсціславец падаваў апеляцыю на рашэнне лаўнічага суда ў Віленскі магістрат, аднак прайграў працэс — суд абавязаў друкара пад прысягай пацвердзіць, што ён перадасць адказчыку — Кузьме Мамонічу 22 друкаваныя «ў аркуш» Евангеллі, а таксама выканае іншыя звязаныя з гэтай справай абавязацельствы. Мсціславец такую прысягу даць адмовіўся[290]. Больш у віленскіх выданнях друкарскія матэрыялы Мсціслаўца не выкарыс-

[290] *Немировский Е. Л.* Новый документ о Петре Тимофееве Мстиславце // Федоровские чтения 1982. С. 33–41.

тоўваліся. Існуе гіпотэза, што пасля судовага працэсу ў Вільні Мсціславец з'ехаў у Астрог, забраўшы з сабой увесь друкарскі матэрыял[291]. Друкарня (калі ад яе ў віленскім доме Мамонічаў што-небудзь засталося) некалькі гадоў нічога не выдавала.

Аднавіць кнігавыданне Мамонічам удалася толькі праз пяць гадоў. У 1582 г. яны запрасілі ў сваю друкарню вучня Івана Фёдарава і супрацоўніка яго Астрожскай друкарні Грыня Іванавіча — гравёра, ліцейшчыка і друкара ў адной асобе. Грынь выехаў у Вільню да 19 сакавіка 1582 г., бо ў той дзень Іван Фёдараў падаў у львоўскі гарадскі суд афіцыйны пратэст, абвінавачваючы свайго чаляднік ў парушэнні дагавору, які забараняў Грыню працаваць з іншымі друкарамі. З Грынем Іванавічам, магчыма, звязаны застаўкі «Службоўніка», выдадзенага ў Мамонічаў у 1583 г. з літарамі «БОЖ» у цэнтры кампазіцыі — дакладная копія венецыянскіх заставак з Службоўнікаў 1519 і 1547 гг., надрукаваных па заказе чарнагорскага ваяводы Бажыдара Вукавіча.


ГЕНАДІЙА ПА

*«Генадзія, патрыярха канстанцінопальскага, па нарачэнні Скалярыса, дыялог, альбо само друга размова». Кніга з друкарні Мамонічаў, у якой упершыню ўжыты новы шрыфт — курсіў. У прысвячэнні, якое адрасавалі дзяржаўнаму канцлеру ВКЛ і віленскаму кашталяну Астафію Валовічу «на меншие и верне зычливые слуги Козма и Лукашъ Мамоничы» ёсць і выдавецкая анатацыя: «...иже сих недавно прошлых часовъ до маломожное друкарни досталися книжки хотя же коротко але звязне писаные, а людем християнским потребные...» Вільня, 1585 г.*

Пад час знаходжання ў Вільні Грынь Іванавіч адліў для Мамонічаў два шрыфты: царкоўнаславянскі курсіў новага малюнка і тэкставую кірыліцу (паводле ўзору той, што ўжо мелася). Абодва гэтыя шрыфты былі ўпершыню ўжытыя ў «Зборніку павучанняў» (1585). Прыблізна праз год, у лютым 1583, Грынь вярнуўся ў Львоў і памірыўся са сваім майстрам Іванам Фёдаравым. «Зборнік павучанняў» 1585 г. стаў выдатнай з'явай у кніжнасці свайго часу. Кніга змяшчала вельмі актуальныя для грамадства тэксты — дыялог канстанцінопальскага патрыярха Генадзія з магаметанінам аб сутнасці веры — тэма злабадзённая, маючы на ўвазе пастаянную турэцкую і татарскую ваенную пагрозу. У гэтай жа кніжцы Кузьма і Лукаш Мамонічы выступілі як аўтары — яны надрукавалі прысвячэнне канцлеру ВКЛ Астафію Валовічу; побач яшчэ адзін панегірык Валовічу на старабеларускай мове аўтарства Андрэя Рымшы. Заканчваецца гэтая маленькая (8°) кніжка «Словам аб цярпенні і дабрахваленні» Іаана Златавуснага.

У сакавіку 1586 г. Стэфан Баторы падпісаў у Гродне прывілей Мамонічам на выданне кніг. Унесены ў Літоўскую Метрыку тэкст прывілея на лацінскай мове, што ўскосна сведчыць пра асабісты ўдзел караля ў абмерkаванні праблемы арганізацыі «рускай друкарні» — венгр Іштван Баторый тагачаснай старабеларускай мовай не валодаў. Кароль, згодна з тэкстам прывілея, некалькі гадоў таму заснаваў рускую друкарню і клопат аб ёй даручыў віленскім гараджанам, «дастойным мужам» Казьме і Луку Мамонічам. І паколькі гэтыя мужы заўсёды вылучаліся вернасцю ў выкананні даручаных ім абавязкаў, то цяпер яны атрымліваюць выключнае права на друкаванне рускіх, славянскіх і грэцкіх кніг на ўвесь час іх жыцця, а таксама права продажу сваіх выданняў у Рэчы Паспалітай і за яе межамі беспадаткова.

Тым часам памёр (у 1585 г.) скарбны Вялікага Княства Іван Зарэцкі. Гэтую пасаду заняў Лукаш Мамоніч. Ён жа па сваіх службовых абавязках, маёмасным становішчы і роднасных сувязях быў галавой «выдавецкага дому Мамонічаў». Лукаш Мамоніч ажаніўся з Варварай, дачкой мсціслаўскага кашталяна Сямёна Войны, якому Мамонічы прысвяцілі адно з капітальных сваіх выданняў — Евангелле вучыцельнае 1595 г. Пры-

[291] *Зернова А. С.* Первопечатник Петр Тимофеев Мстиславец // КИМ. 1964. Сб. 9. С. 103—109.

*Зборнік павучанняў.
Разгорт з гербам віленскага кашталяна, найвышшага канцлера Вялікага Княства Літоўскага, берасцейскага і кобрынскага старасты Астафія Валовіча і панегірыкам Андрэя Рымшы на яго герб.
Вільня, 1585 г.*



свячэнне падпісаў брат Лукаша — Кузьма. Яно з'яўляецца панегірыкам мсціслаўскаму кашталяну — «паче инех божественных писаній любителю и искуснейшому церкви святое словенского языка...» Кузьма Мамоніч падкрэслівае, што Война «...великой памети годных прародителей своих, святое православіе держати и... веру свою, уфундовавши на заложеном камени и фундаменте оном Ісус Христе, непоколебимо заховати рачыл...»[292]. У гэтай сям'і мы бачым звычайную для ВКЛ поліканфесійнасць: з дзядзькоў Варвары (братоў праваслаўнага Сямёна) як найменш двое — каталікі: Бенядыкт Война, троцкі пробашч, будучы віленскі каталіцкі епіскап; Гаўрыла Война, падканцлер Вялікага Княства; невядома канфесійная прыналежнасць Грыгорыя Войны, брэсцкага кашталяна[293].

Друкарня Мамонічаў павінна была задавальняць патрэбы дзяржаўных чыноўнікаў аднолькавымі і вывeранымі паасобнікамі юрыдычных дакументаў — г. зн. выконвала функцыі ўрадавай друкарні (у Кароне Польскай такія функцыі выконвала на той час Кракаўская друкарня).

Першым афіцыйным выданнем стаў «Трибунал обывателям Великого князства Литовского на сейме варшавском даны. Року 1581», надрукаваны ў 1586 г. Пасля смерці Стэфана Баторыя (1587) Мамонічы атрымалі ад нова-абранага караля Жыгімонта III новы прывілей — на друкаванне Статута Вялікага Княства Літоўскага. Права ж на выданне было дадзена каралеўскім прывілеем 11.II.1588 г. падканцлеру Льву Сапегу, які кіраваў працамі па складанні Статута. Такім чынам, мы ўпершыню сустракаемся з заканадаўча аформленым падзелам друкарскіх і выдавецкіх функцый.

Для задавальнення патрэб усіх дзяржаўных устаноў і чыноўнікаў Статут (аб'ёмам больш за 600 аркушаў) неабходна было выдаць вялікім тыражом. Дзеля гэтага Мамонічы вырашылі павялічыць магчымасці сваёй друкарні.

[292] Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны. С. 43–44, 175–176.
[293] *Спрогис И. Я.* Духовное завещание мстиславского каштеляна Семена Войны 1599 г., 1-го марта. Киев, 1897.

Практычна арганізацыяй працы друкарні займаўся брат Лукаша Мамоніча Кузьма з сынам Лявонам (Львом). У лютым 1588 г. Кузьма Мамоніч купіў у Львове два камплекты абсталявання ў мясцовых друкароў Сенькі Карункі і Сацка Сеньковіча. Па дамоўленасці гэтыя друкары саступілі яму друкарню, якая знаходзілася ў Канстанцінаве на Валыні, у князя Астрожскага, і абавязаліся да чэрвеня таго ж года даставіць другую. Першая была ў камплекце, у другой, згодна з дагаворам, не хапала дзвюх медных рам. У абсталяванне ўваходзілі «officinae impressioriae ruthenicae». Яшчэ былі дадзены 60 паасобнікаў Бібліі (верагодна, нераспрададзеная частка Астрожскай Бібліі 1580/81г.), з якіх 40 — недадрукаваных. Я. Дз. Ісаевіч дапускае, што «віленскія лісты» былі надрукаваны Сацкам Сеньковічам і Сенькам Карункам у Львове, а потым прададзены, разам з друкарскім абсталяваннем, Кузьме Мамонічу[294]. Ён павінен быў аддаць сваім контрагентам 63 пераплеценыя паасобнікі «Псалтыра» і 200 «Часоўнікаў», а таксама выплаціць 120 польскіх злотых срэбнай манетай.

Такім чынам, да ліпеня 1588 г. друкарня Мамонічаў валодала па меншай меры трыма варштатамі, неабходнымі шрыфтамі і іншым абсталяваннем і была гатова выконваць вялікія аб'ёмы друкарскіх работ. 1 снежня гэтага ж года была закончана падрыхтоўка да друкавання трэцяга Статута — Леў Сапега падпісаў прысвячэнне Жыгімонту III. Вывучэнне захаваных паасобнікаў Статута прывяло да некалькіх бібліяграфічных гіпотэз пра час выхаду яго перавыданняў. І. Лапо сцвярджаў, што выданне Статута было адзінкавым (але з паралельным наборам)[295]. Выкарыстаўшы метад паэкзэмплярнага вывучэння выданняў Статута, прынамсі асаблівасцей набору, А. Зярнова высунула гіпотэзу аб трох кірылічных перавыданнях — 1588, 1592/93 і 1594/95 г.[296] У наш час гэтая гіпотэза ўяўляецца найбольш абгрунтаванай, яе падзяляе большасць даследчыкаў, у тым ліку Г. Галенчанка, В. Лук'яненка, В. Раўдэлюнас і інш.[297] Падобнае выданне падыходзіць пад вызначэнне «Dreitterdruck» — па аналогіі з тэрмінам «Zwitterdruck». З «двухвыданнем»



Старонка з мамоніцкага выдання «Граматыкі» з ілюстрацыяй да восьмага псальма цара Давіда. Вільня, 1621 г.

(«трывыданнем») мы сустракаемся, калі друкар пад час друкавання вялікай кнігі раптам па якой-небудзь прычыне вырашае значна зменшыць яе наклад, а пазней, перачакаўшы пэўны час, дадрукоўвае рэшту[298].

Выданні адрозніваюцца наборам, аднак на ўсіх ставіўся адзін і той жа год — 1588-ы. А. Кавецка-Грычова лічыць, што прычынай гэтага магло быць незадавальненне польскай шляхты і караля тым, што Сапега не змясціў у выданні Статута акта Люблінскай уніі.

Акрамя Статута друкарня выдавала іншыя афіцыйныя дакументы — напрыклад «Гаспадарскі ліст» (1589) Жыгімонта III канстанцінопальскаму патрыярху Іярэміі на знаходжанне ў землях Вялікага Княства і права «духовенства дозрети», у тым ліку і судзіць сваіх падначаленых — архіепіскапаў, епіскапаў, архімандрытаў, ігуменаў, папоў і дыяканаў. Неабходнасць у вялікай колькасці па-

[294] *Исаевич Я. Д.* Последние годы деятельности Ивана Федорова // КИМ. 1974. Сб. 29. С. 96.
[295] *Лаппо И. И.* Литовский Статут 1588 года. Т. 1, ч. 2.
[296] *Зернова А. С.* Типография Мамоничей в Вильне (XVII век). С. 191—196.
[297] Кніга Беларусі 1517—1917. № 21.
[298] *Doghard M.* Der Begriff des Doppeldruckes // Jahrbuch des Freien Deutschen Hochstift. S. 1973. S. 440—457.



*На адвароце тытульнага аркуша першага выдання Статута ВКЛ быў змешчаны партрэт караля і вялікага князя Жігімонта III Вазы, на суседняй старонцы — гаспадарскі ліст з пастановай аб надрукаванні Статута. Вільня, друкарня Мамонічаў, 1588 г.*

асобнікаў (безумоўна, аднолькавых) вынікае з самога абвяшчэння: «...аб тым кожны ўрад у той дзяржаве нашай Вялікім Княстве Літоўскім... у замках, местах і мястэчках і сёлах нашых гаспадарскіх і княскіх, панскіх і зямянскіх... А каб усім (гэтая навіна) да ведамасці прыходзіла, хочам, каб панове ваяводы, старасты, і дзяржаўцы нашы, а намеснікам іх загадваем, каб гэты наш ліст усюды, дзе патрэбна будзе, абвясцілі. І копіі з яго спісуючы на торгох і пры касцёлах і цэрквах прыбіваць загадалі канечне». У тэксце ўжыта традыцыйная формула для тыражаванага (дзеля вывешвання ў людных месцах) ліста: «копіі ... спісуючы». Заўважым, што спосаб тыражавання на адным з першых друкаваных лістоў названы традыцыйны — рукапісная копія.

Мамонічы друкуюць Канстытуцыі вальных соймаў, што адбываліся ў Варшаве, на польскай мове — каб іх набіраць, друкарня набыла лацінскі шрыфт тыпу швабах.

Канцлер Вялікага Княства Леў Сапега быў звязаны з Мамонічамі не толькі выданнем Статута. Выхадцы з купецкага саслоўя, Мамонічы без яго падтрымкі не маглі б атрымаць шляхецкі герб «Ліс» — той самы, да якога належаў і сам Сапега. Нядзіўна, што унію, адным з творцаў якой быў дзяржаўны канцлер ВКЛ, Мамонічы прынялі адразу.

Калі «за волею і позволенем ясневельможнага пана яго міласці пана Льва Сапегі, канцълера...» у 1617 г. была выдадзена кніга «Служэбоўнік», Лявон Мамоніч напісаў у прысвячэнні, што канцлер «о друкованью книг церковных помышлять почал, а потом возвавши мене, наименьшаго слугу своего, друковать расказати рачил, наипервей Служебники, а потом иншие книги, до отправованья хвалы Божое и порядного шафованья тажин церковных потребные, важивши на то з побожности своее а з щодробливости паньское кошту своего так много, иле потреба бы-

ла, за чым тот светобливый замысл вашей милости до скутку прыходитъ. Вышли Служебники на весь час... Зараз друкованье Трэбников... начинаю...» Тут не называецца Евангелле, што закончана друкам у Мамонічаў 17 ліпеня 1600 г. «за волею і позволенем ясневельможнага пана яго міласці пана Льва Сапегі...»

Такім чынам, дзяржаўны канцлер (сам па веравызнанні каталік) не толькі кіруе выданнем цэлага комплексу богаслужбовых кніг для патрэбы падданых дзяржавы (праваслаўных і уніятаў), але і выдаткоўвае на гэта сродкі — «так многа, колькі было неабходна». Гэты факт, як і тое, што выдаўцы называюць канцлера «звірхнім паном друкарні» («Псалтыр» 1592 г.), яшчэ раз пацвярждае дзяржаўнае значэнне друкарні Мамонічаў. Яна стваралася пры дапамозе дзяржаўнага канцлера, праца яе была падначалена канцлеру. Друкарня павінна была вырашаць часткова тыя ж задачы, што і канцылярыя — прадукаваць аднолькава правільныя паасобнікі законаў і іншых дакументаў.

Па сваёй пасадзе канцлер, хавальнік дзяржаўнай пячаткі, быў асобай, набліжанай да манарха. Прыкладаючы пячатку да дакумента, ён не толькі зацвярджаў яго, але і гарантаваў несупярэчнасць дадзенага акта правам і інтарэсам Вялікага Княства Літоўскага. Нават калі пад тэкстам знаходзіўся ўласнаручны подпіс караля, без дзяржаўнай пячаткі акт не меў належнага значэння. Выпадкі адмовы канцлера выканаць жаданне манарха і змацаваць выяўленне яго волі прыкладаннем дзяржаўнай пячаткі добра вядомыя. Так, напрыклад, у 1597 г. Леў Сапега, нягледзячы на настойлівасць Жыгімонта III, не прыклаў пячатку Вялікага Княства да намінацыі (назначэння) паляка (біскупа Бернарда Мацэеўскага) на Віленскае біскупства, і яна не атрымала сілы[299].

У 1606 г. памёр Лукаш Мамоніч, а ў 1607 — яго брат Кузьма. Апошнім выданнем, якое мае выдавецкі адрас «В друкарні дому Мамонічаў», стала кніга «Uniwersal poborowy i wreszcie trzecia Konstytucja sejmu walnego koronnego w Warszawie roku panskiego 1607» (Пастановы Варшаўскага вальнага сойма 1607 г.). Усе наступныя, пачынаючы са «Службоўніка» 1607 г., выходзілі пад імем Лявона Мамоніча, які ў 1614 г. атрымаў тытул «друкара яго каралеўскай міласці».



*Герб Льва Сапегі з эпіграмай «на праслаўныя і старавечныя кляйноты альбо гербы» з першага выдання Статута Вялікага Княства Літоўскага. Вільня, друкарня Мамонічаў, 1588 г.*

За час кіраўніцтва друкарняй Лявон Мамоніч выдаў не менш чым 58 вядомых бібліёграфам назваў, з якіх каля 20 кірылічных (на славянскай і старабеларускай мовах), чатыры з іх мелі яго ўласныя прадмовы і прысвячэнні: «Псалмы Давыда Пророка» (1593), «Малітвы штодзённыя» (1601), «Трыёдзь кветная» (1609) і «Службоўнік» (1617). Шырока выкарыстоўваў Лявон Мамоніч працу мастакоў-гравёраў — прынамсі ў яго выданні «Часаслоўца» 1617 г. выкарыстана 12 гравюр-дрэварытаў. Мастакі стваралі кніжную аздобу, абапіраючыся на старыя

[299] *Лаппо И. И.* Литовский Статут 1588 года. Т. 1, ч. 1. Каунас, 1934. С. 439.

традыцыі, некаторыя ініцыялы выкананы ў тэраталагічным стылі.

Друкарня Лявона Мамоніча працягвала выпуск афіцыйных выданняў (Статут на польскай мове ў 1614 і 1619 гг., канстытуцыі соймаў), падручнікаў, уніяцкіх палемічных твораў, богаслужбовых кніг, прыдатных да богаслужэння як праваслаўным, так і уніятам, а таксама панегірыкаў да розных падзей у жыцці найбольш вядомых родаў Вялікага Княства. З друкарняй супрацоўнічаюць (працуюць у ёй?) добрыя мастакі — мамоніцкія кнігі часта маюць ілюстрацыі: гравюры-дрэварыты.

Сярод апошніх датаваных выданняў Лявона Мамоніча пазначаных 1622 г. — «Obrona Verifikacji...» мітрапаліта-уніята Іосіфа Руцкага і тры панегірыкі, сярод якіх «X. Jakuba Hasiusza Kazanie na exequie J.W.P. Mikolaja Boguslawa Bratoszyna Zenowicza z domu Deszpotow, Kasztelana Polockiego, miane w Smorgonskim Kosciele»[300].

У канцы першай чвэрці XVII ст. Лявон Мамоніч, член уніяцкага брацтва св. Тройцы, перадаў сваю друкарню віленскім базыльянам. Пасля перадачы друкарня пераехала з мураванага дома Лукаша Мамоніча на Вялікай вуліцы ў Свята-Троіцкі манастыр.

Пасля разрыву Пятра Мсціслаўца з Зарэцкімі і Мамонічамі кірылічнае кнігадрукаванне ў сталіцы Вялікага Княства працягваў Васіль Гарабурда. Васіль Міхайлавіч Гарабурда быў вядомы ў Вільні як праваслаўны дзеяч, яго імя называе ў сваіх лістах да Кузьмы Мамоніча князь Андрэй Курбскі.

Вынікам працы Гарабурды сталі дзве кнігі: «Евангелле вучыцельнае» і «Асьмагласнік». Першая з іх надрукавана каля 1580 г. як паўтор Заблудаўскага; адрозніваецца ад яго наяўнасцю заключнай малітвы, набранай у выглядзе трохкутніка вяршыняй уніз. 4 жніўня 1582 г. Васіль Гарабурда закончыў друкаванне «Асьмагласніка». У выхадных звестках у канцы кнігі адзначана, што яна надрукавана «у преименитом и славном месте Виленском за пнованья господаря нашого Стэфана [Баторыя]...». Пасля 1582 г. імя Васіля Гарабурды ў выхадных звестках надрукаваных у ВКЛ кніг не з'яўляецца. Яго выданні шырока разышліся ў ВКЛ і Маскоўскай дзяржаве, прынамсі на захаваных паасобніках «Асьмагласніка» і «Евангелля вучыцельнага» занатавана 17 укладных запісаў XVI—XVII стст. з расійскіх гарадоў, і толькі адзін з Беларусі — з Віцебска[301].

**Друкарня Яна Карцана.** Сярод друкароў вялікапольскага паходжання, што пераехалі ў Вялікае Княства Літоўскае ў канцы XVI — першай чвэрці XVII ст., асабліва становішча займае ўраджэнец Вялічкі (гарадок блізка ад Кракава) Ян Карцан. Упершыню мы сустракаемся з ім у Лоскай друкарні Яна Кішкі, адкуль (у 1580 г.) Карцан перабраўся ў сталіцу Вялікага Княства. Першымі яго віленскімі выданнямі сталі «Wyklad na modlitwie» міністра Віленскага кальвінскага збору Станіслава Судровіўса і Новы Запавет. У 1598 г. Карцан надрукаваў Катэхізіс «накладам яго міласці пана Яна Абрамовіча на Варнянах, ваяводы Смаленскага, прэзідэнта Дэрптскага, старасты Лідскага і Вендэньскага і г. д.» Выданне мае прадмову, якая пачынаецца словамі звычайнай прэамбулы юрыдычных дакументаў: «do wszytkich wobec y do kazdego zosobna...» Напісаная ад імя Віленскага збору прадмова тлумачыць прычыны падрыхтоўкі новага выдання: паколькі «Катэхізмаў, перад гэтым у Нясвіжы друкаваных», у зборы не хапае, то спявалі па іншых кнігах, якія друкавалі і выпраўлялі як хацелі тыя, хто мелі друкарню ў сваім распараджэнні, з чаго не па сваёй віне прыйшлі ў арыянства альбо македаніянства. Каб дасягнуць узаемаразумення з польскімі і нямецкімі зборамі, Катэхізіс 1598 г. быў адрэдагаваны; з кракаўскага выдання ўзяты тэксты і ноты песняў. У кнізе ёсць гравюра з гербам Радзівілаў, прысвячэнне віленскаму ваяводзе Мікалаю Радзівілу, князю на Біржах і Дубінках, і панегірычны верш на герб, падпісаны ініцыяламі «М. J.». Характэрна, што ананімны аўтар прадмовы з'яўляецца прыхільнікам нядаўна заключанай уніі Польшчы і Вялікага Княства. Выданне мае акуратны набор, старонкі пазначаны літарамі, тэкст заключаны ў падвойную рамку, у канцы кнігі змешчаны прадметны паказальнік — гэта наогул уласціва выданням друкарні Карцана.

З віленскіх актавых кніг вядома, што Карцан летам 1599 г. купіў у мешчаніна Захара Амуратавіча дом (раней належаў Даніэлю Ленчыцкаму) на Бернардзінскай вуліцы. У студзені 1601 г. ён прадаў гэты дом ашмян-

[300] *Iljaszewicz T.* Drukarnia domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622). S. 79.
[301] *Голенченко Г. Я.* Идейные и культурные связи... С. 266—267.

скаму земскаму падсудку Андрэю Беліковічу[302].

Усяго за час сваёй дзейнасці друкарня Яна Карцана, якога А. Анушкін называе «віленскім Альдам», выпусціла 101 выданне, у тым ліку 11 тамоў твораў антычных аўтараў, чатыры кнігі на маральна-этычныя тэмы, сем назваў навукова-вучэбнай літаратуры, тры медыцынскія, дзесяць твораў на палітычныя тэмы, тры апісанні падарожжаў і тры календары, дзевяць назваў палемічных твораў, дваццаць два панегірыкі, дваццаць адну кнігу тэалагічнага характару і восем — на іншыя тэмы[303]. Асабліва вялікай папулярнасцю карысталася кніга «Апафегматы», складзеная Беняшом Будным і выдадзеная Карцанам у 1599 г. Набіраў і друкаваў яе малады друкар Пётр Бластус Кміта, які праз некаторы час ажаніўся з дачкой Яна Карцана і, атрымаўшы ў пасаг частку друкарскага абсталявання, распачаў кнігавыдавецкую дзейнасць у Любчы (прынамсі ў Любчы, у 1614 г., ён перавыдаў «Апафегматы» са сваімі дапаўненнямі)[304].

Пасля смерці Яна Карцана яго друкарня перайшла да сына Іосіфа, што ўпершыню засведчана на тытульным аркушы кнігі Пятра Скаргі «Wyzwanie do jednej zbawiennej wiary» (Wilno, 1611). Стараннем Іосіфа з друкарні выйшла каля 40 выданняў, пераважна каталіцкай палемічнай літаратуры. Характэрным узорам з'яўляецца «Relatia Prawdziwa disputaciey Nowogrodzkiej ktora spędziala dnia 9 stycznia Roku Pańskiego 1616 y wyraznie okazanie wielkiej nieszczyrośći Lukasza Wądłowskiego w opisaniu tey disputaciey. Wydana przez X. Marcina Gradowskiego Commendarza Nowogrodzkiego» (РНБ, шыфр: Культы. 17в.11.7.17.) з прысвячэннем брэсцкаму ваяводзічу Мікалаю Зяновічу. Апошняе вядомае бібліяграфіі выданне Іосіфа Карцана выйшла ў 1620 г., і першыя тры словы назвы гучаць сімвалічна: «Слова пра шчаслівае скананне...» («Mowa o szczęśliwym skonaniu człowieka»).

**Друкарня кальвінскага збору.** Багатаму і ўплывоваму Віленскаму кальвінскаму збору належала абсталяванне, на якім працаваў Даніэль з Ленчыцы (1580—1584), потым друкарня мела розныя назвы: Яна Глябовіча, Андрэя Волана, Саборная.


Katechism álbo Krotkie w iedno mieysce zebránie wiáry y powinnośći Krześćijáńskiey / z Pásterstwem Zborowym y domowym / z Modlitwámi / Psálmámi / y Piosnkámi / ná cześć á chwałę Pánu Bogu / á Zborowi iego ku zbudowániu. Teraz znowu zá pilnym przeyrzeniem y popráwieniem wydány. Nakłádem Jego M. Páná Janá Abráámowicżá / ná Worniánach / Wojewody Smoleńskiego / Presidentá Derptskiego / Stárosty Lidskiego / y Wendeńskiego / etc. W Wilnie W Drukárni Janá Kárcaná / Roku Páńskiego 1598.

*Катэхізіс. «Накладам яго міласці пана Яна Абрамовіча на Варнянах, смаленскага ваяводы, прэзідэнта Дэрпта, Старасты лідскага і вендэнскага». Тытульны аркуш. Двухколерны друк. Вільня, у Яна Карцана, 1598 г.*

У 1592 — 1606 гг. друкаром друкарні кальвінскага збору працаваў Якуб Марковіч; дзейнасць яго склала своеасаблівую эпоху ў віленскім кнігавыдавецтве — эпоху трохмоўнай (польска-літоўска-нямецкай) палемікі пратэстантаў з каталікамі.

У выхадных звестках першых надрукаваных ім кніг ён называе сябе «слуга і друкар Крыштафа Радзівіла, віленскага ваяводы» («sługa i drukarz Krzysztofa Radziwiłła, wojewody wilenskiego»).

Друкарня дзейнічала (з невялікімі перапынкамі) з 1592 да 1606 г. Больш познія выданні Якуба Марковіча невядомыя, хоць некаторыя даследчыкі лічаць, што ён мог працаваць да 1611 г., калі студэнты-езуіты разбілі збор разам са школай і дамамі міністраў.

Якуб Марковіч, у параўнанні з іншымі віленскімі друкарамі, кніг выдае мала; пара-

[302] АВАК. Т. 20. С. 159—161, 165, 537.
[303] *Анушкин А. И.* На заре книгопечатания в Литве. С. 80.
[304] *Анушкин А. И.* «Апофегматы» Беняша Будного // КИМ. 1971. Сб. 22. С. 127—135.

*Катэхізіс. Адгорт тытульнага аркуша з гербам віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла і пачаткам прадмовы. Вільня, у Яна Карцана, 1598 г.*



Ná Herb Jáśnie Wielmożnego Páná/ Páná Mikołáiá Rádziwiłá/ Kśiążęciá ná Bierżách/ y Dubinkách/ Woiewody Wileńskiego/ etc.

Trąbcież wy miłe trąby/ niech kto co chce plecie/
Wam przystoi prawdą brzmieć/ błąd tłumić (ná świecie.
Niech sie ná wáś głos mury/ Jerychá złosnego
Obáláią/ ku sławie krolá niebieskiego.
By sie ludźie poczuli prawdę przywitáli/
Ktorey z obietnic Páńskich/ iuż sie doczekáli.
M. J.

Przedmowá do wszytkich wobec/ y do káżdego zosobná pobożnego Krześćijániná.

Łáski y pokoiu/ wiáry żywey/ miłości prawdziwey/ sumnienia dobrego/ żywotá pobożnego/ y zbáwienia wiecznego. Z przeyrzenia Bogá Oycá/ ku świątobliwości duchá/ przez posłuszeństwo y pokropienie krwie Jezusá Krystusá/ uprzeymie/ y wiernie życzy Zbor vbogi/ ktory iest w Wilnie/ w Ewánieliey Bożey odrodzony.

Nie trzebá sie wiele zálecáć Krześćiáninie miły z kśiążkámi temi/ Boć nic w nich nowego nie podáiemy/ iedno coć z przodku ná ich tytule obiecuiemy. Podáiemyć bowiem oto zá pomocą Duchá Páńskie

лельна ён займаецца пераплётам. Да найбольш ранніх выданняў друкара належаць палемічныя творы «X. Stanislawa Psychotopia abo czysciec Grodzickiego...» (1592) і «Obrona prawdziwego szafunku Wieczerzy Pańskiej» (1594) кальвінскага міністра Андрэя Хшанстоўскага. «Пасціла» Мікалая Рэя надрукавана ім па-польску ў 1594 г. Пасля таго, як езуіты выдалі на літоўскай мове «Катэхізм» Ледэсмы і «Пасцілу» Вуйка ў перакладзе Даўкшы (1599), кальвінісцкая друкарня Якуба Марковіча выпусціла «Пасцілу» Рэя на літоўскай мове (1600).

Ён выдаў кальвініcцкія «Катэхізм» і «Канцыянал» (1600), таксама малітоўнік Хрыстафора Краінскага «Dziennik, to jest modlitwy krzesciańskie...». Марковіч друкаваў кнігі і на нямецкай мове, у прыватнасці «Апалогію» Марціна Кравіцкага («Apologia das ist Verantwortung und Verthedigung der wahrhafftigen lehre...» (1602) у перакладзе Кіпрыяна Молера з прысвячэннем гарадскому савету горада Рыгі, а таксама «Drey Predigten von H. Abendmahl» Іяхіма Вендланда (1602).

У адказ на нападкі арыян міністр-прапаведнік Павел Гілоўскі, які служыў у зборы ў маёнтку Дароты Завішы Жэймы, напісаў працу «Odprawa przeciwko jadowitym potwarzom Marcina Czechowica». Яна выдадзена Марковічам разам з «Выкладам Катэхізісу» гэтага ж аўтара, з указаннем выхадных звестак: «Zejmy, 1605». Да гэтай кнігі Якуб Марковіч напісаў прадмову: «Do wiernego czytelnika Typograph», дзе, між іншым, просіць у чытача прабачэння за памылкі, якія заўсёды з'яўляюцца між волі друкара. Годам раней быў надрукаваны твор Ш. Турноўскага «Zwierciadlo nabozenstwa krzescianskiego», дзе ў выхадных звестках пазначана: «Upita». Маленькія мястэчкі Упіта і Жэймы маглі быць месцам працы перасоўнай друкарні Марковіча, але хутчэй за ўсё былі месцам пражывання мецэнатаў.



*Адгорт тытульнага аркуша з гравюрай (сыходжанне Св. Духа) і першая старонка (пачатак нядзельнай службы) Еўеўскага Ірмалоя, Брацкая друкарня, 1642 г.*

Бібліяграфіі вядома толькі адно выданне, у якім у выхадных звестках называюцца Ашмяны. Гэта праца ашмянскага кальвінісцкага прапаведніка Войцэха Салінарыуса, якая выйшла ў 1615 г.: «Цэнзура, альбо Разважанне аб канфесіі тых людзей, якія паспалітым імем называюцца арыяны, а па сутнасці з'яўляюцца сацыніянамі... У Ашмяне яго М[іласці] свайго пана маршалка В. К. Літ.» («Drukowano w Osmianie Je.M. Pana C. M. Marshalka W.X.Litewskiego Roku 1615»). Маршалкам Вялікага Княства Літоўскага на той час быў Крыштаф Манівід Дарагастайскі, вядомы пратэктар кальвінізму. Верагодна, ён фінансаваў выданне[305].

Аздоба і шрыфты кнігі Салінарыуса ідэнтычныя любчанскім Пятра Кміты. Магчыма, Кміта пасылаў у Ашмяны друкара і неабходныя матэрыялы, але магчыма, што кніга друкавалася ў Любчы, а ў выхадных звестках Ашмяны названы для таго, каб схаваць месца выдання палемічнага твора. Імя вядомага магната (які, да таго ж, памёр у тым самым годзе) магло быць выкарыстана як прыкрыццё. Вывучэнне мінскага паасобніка гэтай кнігі (унікальны паасобнік з захаваным выдавецкім пераплётам захоўваецца ў НББ, шыфр 094/3626.) дазволіла Т. Рошчынай лакалізаваць месца яго выдання любчанскай майстэрняй[306].

**Друкарня ў Еўі.** Рэпрэсіі пачатку XVII ст. прымусілі Віленскае брацтва пры царкве Св. Духа ў 1611 г. перанесці выдавецкую дзейнасць у Еўе, якое належала князям Агінскім. Тут пад высокай абаронай троцкага падкаморыя Багдана Агінскага ў манастыры Успення

[305] *Jankowski Cz.* Powiat oszmiański: Materiały do dziejów ziemi i ludzi. Cz. 1. Petersburg, 1896. S. 336.
[306] У дакладзе на III Міжнародным кангрэсе беларусістаў (Мінск, 23 мая 2000 г.).

Багародзіцы была арганізавана друкарня. Называлася яна «Друкарня Віленскага брацтва» і на тытулах сваіх кніг заўсёды падкрэслівала, што выданне зроблена «Працею и старанем иноков Общого житїа Монастыря Братского Виленского Съшествїя Святого и Животворящого Духа». Хутчэй за ўсё гэта была абавязковая формула з-за адсутнасці ў еўеўскіх манахаў спецыяльнага каралеўскага прывілея на кнігавыдавецкую дзейнасць, і ў сваёй дзейнасці друкарня арыентавалася на праваслаўных як Вялікага Княства, так і ўсяго ўсходнеславянскага рэгіёну. Першымі выданнямі ў Еўі былі «Новы Запавет з Псалтыром» (1.VIII.1611) і «Малітвы штодзённыя» (1611). Абедзве кнігі надрукаваны «коштом і накладом» князя Багдана Агінскага, троцкага падкаморыя. Да «Малітваў штодзённых» была прыкладзена «Предмова ігумена Паўла з Крон, скіраваная да Елісея Плецінецкага, архімандрыта Кіеўскага Пячорскага і Пінскага Ляшчынскага манастыроў», а да Новага Запавету — гравюра герба Багдана Агінскага і эпіграма на герб. Гэтымі выданнямі выгнаныя са сталіцы праваслаўныя дэкларавалі сваю рэлігійна-культурную і палітычную незалежнасць. У наступным, 1612 г. еўеўская друкарня выдала «Дыёптру»: «Діоптра альбо Зерцало и выражене живота людского на том свете». Пра перакладчыка кнігі іерадыякана Віталія сказана, што ён «дзень і ноч працаваў грэцкай і лацінскай мовы кніг перакладу»[307]. Кніга аказалася настолькі папулярнай, што яе перавыдалі некалькі разоў — у 1642 г. адначасова ў Вільні і Еўі, у 1651 г. у Куцеінскім манастыры, у 1698 г. — у Магілёве.

Еўеўскія выданні першых гадоў даюць багаты матэрыял для вывучэння гісторыі праваслаўнай публіцыстыкі на царкоўнаславянскай, беларускай і польскай мовах. Гэта датычыць, прынамсі, надрукаваных у 1615 г. «Казанняў» Лявонція Карповіча, якія прысвечаны карэцкай княгіні Ганне Хадкевіч, і выдадзеных у тым самым 1615 г. «Малітваў штодзённых» (кніга прысвечана Дар'і Валовіч Янавай Абрамовічавай, смаленскай ваяводзіне). Апошняя кніга, акрамя Малітоўніка, мае напісаныя насуперак «лацінікаў» раздзелы «Наука о лунніку», «Сказание о римской пасце», а таксама пасхалію і «кароткі летапісец»[308].

Важнай падзеяй стаў выхад «Евангелля вучыцельнага». Віленскае брацтва падрыхтавала выданне гэтай вельмі папулярнай кнігі ў перакладзе на простую «рускую» мову, бо, як тлумачыцца у прадмове, славянская мова для большасці стала ўжо незразумелай. Было некалькі варыянтаў выдання. Адзін з гербам (на адгорце тытульнага аркуша) роду Саламярыцкіх — тут жа вершы на герб і прадмова Мялета Сматрыцкага, адрасаваная крычаўскаму старасцічу, князю Багдану Саламярыцкаму (падпісана: Максентій Смотрискій), другі варыянт — тая ж (са зменамі) прадмова, адрасаваная княгіні карэцкай Ганне Хадкевіч. Адпаведна на адгорце тытульнага аркуша прысутнічае герб Хадкевічаў. Прадмова падпісана «Иноци общого жития монастыря церкви Сшествия святого и животворящого духа, братства церковного виленского»[309]. У трэцім варыянце на тытульным аркушы паведамляецца, што «кніга надрукавана коштам вяльможнага пана, князя яго міласці Багдана Агінскага, троцкага падкаморага, дзяржаўцы дарсунскага і кармялаўскага і яго жонкі, пані Раіны Валовіч» (у першых двух варыянтах замест гэтай фразы друкавалася віньетка). На адгорце тытула — злучаны герб Агінскіх і Валовічаў і эпіграма на герб. Кніга атрымалася вельмі прыгожай. Гэтаму спрыяюць не толькі геральдычныя гравюры і вобраз святога Каліста ў наборнай арнаментальнай рамцы, але і акуратны друк у дзве фарбы, разнастайныя застаўкі-дрэварыты з раслінным арнаментам, канцоўкі і ініцыялы. Цытаты з Евангелля набраны драбнейшым кеглем, тлумачэнні — буйнейшым. У канцы кнігі, пасля рэестру, змешчаны традыцыйны зварот з просьбай выбачаць за зробленыя памылкі: «До чительника. Помылки, которыи ся з трафунку стали, чительнику ласкавый так направиш: На листе 26, до посполитог, читай до посполитого. На листе 53, много,

→
*Евангелле. Тытульны аркуш. Еўе, брацкая друкарня, 1644 г.*

[307] У старажытнарускім пісьменстве з XIV ст. вядомая перакладная кніга з такой самай назвай; еўеўскае выданне — зусім іншы твор.

[308] Ёсць даследчыкі, якія называюць польскія тэксты еўеўскіх (і віленскіх) выданняў «польскамоўнай украінскай паэзіяй» (Radyszewskyj R. Polskojęzyczna poezja ukraińska od końca XVI do początku XVIII wieku. Cz. 1. Kraków, 1996. S. 101—102, 110—111).

[309] Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны. Мн., 1991. С. 64—75, 235—250.

# Еѵ҃лїе

сирѣчь:

# Бл҃говѣстїе бг҃о дх҃новенныхъ Еѵ҃листъ.

Бл҃свенїе ст҃ѣйшаго Патрїа́рхи Кѵр Парѳе́нїа.

Тща́нїемъ Бра́тства Ставро҃: Хра́ма Сошє́ствїа Ст҃а́го Дх҃а.

в Вилни.

в Лѣто

Ѿ Рожества Хв҃а, ахмд. Декаб: ка.

H·V· 1593

† Лѣⷮ ҂ахн мцⷭа Іюлїа кг днѧ


КО ЧИТАТЕЛЮ.

Исправленїя поползновенїй въ книзѣ сей, Чатателю возлюбленне сице исправиши.

Матфей.

Зача: мд. вѣдали чти вѣдѣли

Зача: на. рѣша чти рекоша

Зача: нз. наблюде чти наблюдѣ

Марко.

Зача: нз. имаше чти имяше

Лука.

Зача: нє. молящеся чти молящуся

Зача: пз. будета чти будетѣ

Зача: чє. и возвергша чти и возвергше

Зача: рі. галілеанинъ чти галілеаниинъ

Сїе и аще бы ся болѣе что сицево изобрѣло, не нерадѣнїю нашему, но паче немощи человѣчестїй причетши нам: Трудившимся всѣм вѣщи, да сподобите прощенїя просит: да и сами прощенїе получите, отъ Ха Бга во днь судный.

Гаврїилъ Іоанновичъ,
Игуменъ Евейскїй,
Тупографъ общаго
Житїа.

Царю вѣкомъ, безсмертному, невидимому, единому премудрому Бгу, честь и слава во вѣки вѣкомъ, Аминь.

*«Ко читателю. Исправленія поползновеній въ книзе сей. Читателю возлюбленне сице исправиши» — спіс памылак друку на адным з апошніх аркушаў Еўеўскага Евангелля 1644 г. Подпіс друкара: «Гавріил Іоанновичъ Игуменъ Евейскій, тыпографъ общего житиа».*

читай многого. На листе 63, пан своего, читай пана своего. На листе 109, гетмам, читай гетман... Тое все и щоколвек бы ся болш наити мело, не недозорству нашему, але рачей кревкости людской причитавши, намъ, которыисмо в том працовали, ласкав быти рач».

Пасля спынення рэпрэсій і аднаўлення дзейнасці друкарні брацтва ў Вільні (1617) Еўеўская друкарня не спыніла кнігавыдання і дзейнічала да 1649 г., пакуль не памёр яе дабрадзей, троцкі падкаморы Багдан Агінскі[310]. Друкарня мела кірылічныя, грэцкія і лацінскія шрыфты і выпусціла каля трох дзесяткаў богаслужбовых, чэцціх і навучальных кніг, а таксама казанняў і панегірыкаў. Фармат выданняў самы розны — ад маленькага Ірмалоя ў 12-ю долю аркуша да Евангелля памерам у вялікі аркуш.

Пры гэтым усе выданні вылучаюцца акуратным (часта рознага кеглю на адной старонцы) наборам і выкарыстаннем разнастайных ініцыялаў, заставак, гравюр-дрэварытаў. Багата было выдадзена вялікага фармату Евангелле 1644 г. Тытульны аркуш і пачаткі Евангелляў друкаваліся ў два колеры (чорны і чырвоны) і аздоблены гравюрамі добрай работы. На адным з апошніх аркушаў спіс памылак друку і подпіс друкара: «Гавріил Іоанновичъ Игуменъ Евейскій, тыпографъ общего житіа».

Усе выдадзеныя ў Еўі кнігі маюць прысвячэнні членам знатных сем'яў Вялікага Княства Літоўскага, якія падтрымалі асобныя выданні: Багдану Агінскаму («Кніга Новага Запавету» 1611 г.), Багдану і Яну Агінскім («Дыёптра» 1612 г.), Ганне Хадкевіч (частка накладу «Евангелля вучыцельнага» 1616 г.), Багдану Саламярыцкаму (частка накладу «Евангелля вучыцельнага» 1616 г.), Багдану Агінскаму і Раіне Валовіч (частка накладу «Евангелля вучыцельнага» 1616 г.), Аляксандру Агінскаму («Новы Запавет» 1641 г.). Прыпіскі XVI—XVII стст. на захаваных пасобніках (17 прыпісак) сведчаць пра шырокае распаўсюджанне еўеўскіх друкаў як у Вялікім Княстве, так і ў Маскоўскай дзяржаве[311].

Феномен **Любчанскай друкарні** яшчэ доўга будзе прадметам увагі даследчыкаў культуры, бо ні адна пратэстанцкая друкарня ў Вялікім Княстве Літоўскім не існавала так доўга, як гэтая. Выконваючы заказы пераважна кальвіністаў і лютэран, яна ў часы свайго росквіту выпусціла значную колькасць свецкіх выданнняў. Імя заснавальніка Любчанскай друкарні, Пятра Бластуса Кміты, упершыню называецца ў 1606 г.: у прадмове да віленскай кнігі Мікалая Рэя «Люстэрка» ён звяртаецца да князёў Радзівілаў з просьбай «абы быў залічаны ў

[310] Панегірык на смерць Багдана Агінскага выпусціла не Еўеўская друкарня, а Віленская акадэмічная. Аўтар — прафесар Сымон Казімір Бурневіч, кніга называлася «Харугва на пахаванне вяльможнага яго мосці пана Багдана Агінскага...».

[311] *Голенченко Г. Я.* Идейные и культурные связи... С. 279—280.

шэраг (іх) найніжшых служэбнікаў...»[312]. Да 1612 г. Кміта выдаў у сталіцы некалькі кніг, а летам 1612 г. пераехаў у мястэчка Любча (мястэчка і мураваны замак у ім належалі Радзівілам біржайскай лініі). У выхадных звестках аднаго з выданняў Пётр Кміта называе сябе «слуга князя яго міласці Крыштафа Радзівіла, польнага гетмана Вялікага Княства Літоўскага». «Тыпографам Радзівіла» называлі яго сучаснікі. Аднак не зусім зразумела, у якіх дачыненнях Пётр Кміта быў з Радзівіламі: абсталяванне друкарні належала, верагодна, асабіста яму — гэта быў пасаг яго жонкі, дачкі віленскага друкара Яна Карцана. Адным з пратэктараў Кміты быў гаспадар суседніх Шчорсаў Адам Храптовіч, якому адрасавана прысвячэнне ў кнізе «Апафегматы», пазначанае 26 красавіка 1614 г.

Любчанская друкарня, нягледзячы на тое што падтрымлівалася пратэстантамі, з самага пачатку не прыняла (і не прымала пазней) такога парадку, каб служыць інтарэсам толькі адной канфесіі. Першае яе выданне, датаванае 14.10.1612, было кнігай каталіцкай «Sześć skszydel serafimowych» Св. Банавентуры з прысвячэннем віленскаму епіскапу Бенядыкту Война.

Дзейнасць Любчанскай друкарні можна падзяліць на тры перыяды — па гадах працы трох вядомых яе друкароў: Пятра Бластуса Кміты (1612—1631), Яна Даніэля Кміты (1631—1646) і Яна Лангэ (1646—1656).

П е р ш ы п е р ы я д быў найбольш працяглы і выніковы. Ад 1612 да 1631 г. выдадзена больш за 52 назвы — у сярэднім 2—3 назвы штогод. На пачатку сваёй любчанскай дзейнасці Пётр Бластус Кміта падрыхтаваў чацвёртае выданне папулярнага твора Беняша Буднага «Кароткія і зразумелыя аповесці, якія па-грэцку называюцца Апафегматы чатыры кнігі» (1614). У тым жа 1614 г. выйшлі падрыхтаваныя Саламонам Рысінскім «Псальмы з гімнамі» і кніжка панегірычных вершаў у жанрах эпітомій (кароткі выклад) і эпітафій (надмагільны надпіс) — большасць з іх прысвечана членам сям'і Радзівілаў. Творы пратэстантаў выходзілі ў Любчы рэгулярна. Перш за ўсё гэта былі кнігі Яна Зыгровія — сеньёра навааградскага дыстрыкта. Усё, што ён напісаў, жывучы ў Вялікім Княстве, было выдадзена Кмітам — пачынаючы ад першага казання на пахаванне Манівіда Дарагастайскага (1616) і канчаючы апошнім вядомым казаннем — на скон Яна Радзівіла (12.1.1621). На працягу 5 гадоў выйшла яшчэ чатыры казанні (адно ў 1618 г. і тры ў 1619 г.). З асобай Зыгровія звязаны дзве публікацыі «Катэхізіса з канцыяналам»: першае (1618) было знішчана па рашэнні выдаўцоў, каб не даваць арыянам аргументаў у спрэчцы аб дагмаце св. Тройцы. Забароненае цэнзурай выданне 1618 г. некаторы час ляжала, запячатанае, у склепе пры друкарні — пазней высветлілася, што «некалькі дзесяткаў экзэмпляраў» адтуль невядома як прапала[313]. Другое выданне «Катэхізіса», перапрацаванае аўтарам, выйшла ў 1621 г. і тады ж было ўхвалена Віленскім сінодам.

Вялікі рэзананс выклікала кніга «Dysputacja Nowogrodzka odprawowana R.P. 1616 d. 9 stycznia, szczerze wydana przez Lukasza Wądłowskiego» — апісанне дыспута, што адбыўся ў Наваградку паміж пратэстанцкім міністрам Янам Зыгровіем і нясвіжскім езуітам Бенядыктам Брывіліем. У адказ на гэтую публікацыю Віленская акадэмічная друкарня выдала кніжку з супрацьлеглым поглядам на ход вучонай спрэчкі і на пераможцу ў дыспуце.

Сярод выданняў Пятра Кміты таксама каментары да кнігі Кальвіна «Навука аб сакрамэнтах» (1626), якія напісаў рэктар Віленскай пратэстанцкай школы Пётр Сестранцэвіч, працы прапаведнікаў Андрэя Венгерскага (1625) і Балтазара Лабецкага.

У выдавецкай палітыцы Пятра Бластуса Кміты прысутнічаюць шматлікія назвы твораў і імёны, якія сведчаць пра яго інтарэсы і амбіцыі, яго ўменне захоўваць баланс паміж выданнямі свецкімі і рэлігійнымі, сумяшчаць задачы пратэстанцкай друкарні са служэннем Кліо і Каліёпе. Для практычнага ўжытку самым шырокім колам чытачоў розных веравызнанняў (а таксама для атрымання трывалага прыбытку ад продажу) былі выдадзены «Vademecum chimicum, альбо Апісанне, як ужываць лякарствы» (1624) Р. Швертнера, «Хатнія лякарствы» (1616, 1622), «Аб тым, як выбіраць і вучыць коней, пры тым лякарствы на... конскія хваробы» (1617, 1627). Для патрэб пратэстанцкіх школ Любчанская друкарня выпускала навучальныя дапаможнікі.

312 *Jarczykowa M.* Książka i literatura w kręgu Radziwiłłów birżańskich w pierwszej połowie XVII wieku. Katowice, 1995. S. 61.

313 *Buchwald-Pelcowa P.* Cenzura w dawnej Polsce: między prasą drukarską a stosem. Warszawa, 1997. S. 184—185.




*«Ordo scholae Slucensis...». Статут Слуцкай школы з прысвячэннем Крыштафу Радзівілу. Тытульны аркуш. Паасобнік, які прывезены ў Санкт-Пецярбург (імператарскую Публічную бібліятэку) з Варшавы, з бібліятэкай Залускіх. Да Залускіх трапіў з базыльянскага манастыра ў Барунах. Любча на Нёмане, друкарня Пятра Бластуса Кміты. 1628 г.*

Выдатным помнікам арганізацыі адукацыі на беларускіх землях Вялікага Княства з'яўляецца надрукаваны Кмітам у 1628 г. Статут Слуцкай школы. Аўтарам гэтага Статута некаторыя называюць Рэйнольда Адамі (напрыклад, А. Кавецка-Грычова), аднак у пасобніку РНБ рукой вядомага бібліёграфа і кнігазнаўцы, бібліятэкара графоў Залускіх Станіслава Яноцкага ўпісаны іншы аўтар — Андрэй Мусоній (шыфр кнігі 36.87.3.54.). Акрамя літаратуры для навучання выдавалі і працы вучняў, у прыватнасці «Monumentum exeqvale Suprem. Honoribus Generosi ac Magnifici viri Dn. Georgii Kapaszczewski...» (1625)[314] — невялікі зборнік напісаных па-лацінску панегірычных вершаў. Пасля кароткага ўступу рэктара Слуцкай школы Андрэя Мусонія змешчаны творчыя працы слуцкіх «студыёзусаў» на зададзеную тэму — на памінанне вядомага ў Слуцку чалавека, мецэната школы — «in memoriam Георгію Капашчэўскаму». Сярод аўтараў студэнты Самуіл Галаўчынскі, Іван Абрагамовіч, Аляксандр Бянецкі, Міхал Каляда, Іеранім Станкевіч, Пётр Ранішоўскі, Габрыэль Зыгровій, Іван Тышкевіч і Іван Дабранскі. Ва ўсіх вершах — зварот да нябожчыка Георгія Капашчэўскага, за адным выключэннем: Аляксандр Бянецкі звярнуўся «Ad Sluciam» — да Слуцка. Паэтычныя практыкаванні маладых аўтараў з гекзаметрам і лацінскай мовай — не вельмі складныя, але жывыя сведчанні эпохі, — цікавыя і сёння. Іх лаціна падобная хутчэй на класічную, чым на сярэднявечную, а мастацтва барока дазваляе аўтарам такія пасажы, якія ў іншыя часы палічылі б блюзнерствам, напрыклад «Дыке святая»: «святой» названа багіня грэцкага язычніцкага пантэону. Дзеля прыкладу мы падаем верш Аляксандра Бянецкага «Да Слуцка» ў перакладзе пецярбургскага беларусіста В. Антонава:

Калі ты, Слуцк, пад арктычным сузор'ем славуты,
Калі ты лічыш сябе дыядэмай саміх Радзівілаў,
Калі, багаты на землі і золата поўны, квітнееш,
Першы сярод зайздросных суседзяў тваіх —
Засцеражыся ж; пашаны, заслугі, трыумфы,
Вартыя рымскіх часоў, ты, ганарлівец, пакінь.
Большую славы і лепшую гонару частку ты страціў
Сёння, прыгнечаны горам, над трунай ахоўцы свайго
Высакароднага, хто перад прынцэпса тварам,
Як і бліжэйшых паміж, да Феміды падобны стаяў,
Што ў трыбуналах, узняўшы бясстрасныя шалі,
Зло і бязвіннасць дакладна паказвае ўсім.
Так ён, нязломны, пражыў лепшыя тэрміны часу
Тут, у табе, Слуцк — гадаванец багоў.
Помні, о горад шчаслівы, пра сціпласць у справах вышэйшых,
Годнасць і сілу свае не стаўляй напаказ.
Калі настануць у мурах і літасць, і Дыке святая,
Тым пераможам адным, Слуцк, табе я кажу!

З першых гадоў свайго існавання Любчанская друкарня выпускала і літаратурныя творы — выйшлі кнігі вершаў Адама Уладзіславія, паперніка, які выехаў у Вялікае Княства з Кракава, Іосіфа Даманеўскага, даўняга прыяцеля Сымона Буднага, паэмы на старазапаветныя сюжэты Самуіла Доўгірда «Пра Сюзану» (1624) і «Пра Язэпа, якога прадалі ў Егіпет» (1625). Выдаў Кміта і

[314] Мы карысталіся паасобнікам РНБ, шыфр 6.4.2.615.

некалькі гістарычных твораў: «Генеалогія, альбо Кароткае апісанне вялікіх князёў літоўскіх...» (1626) Самуіла Доўгірда, «Compendium... князёў і каралёў польскіх» (1625) П. Дземітровіча і «Гісторыя аб жыдоўскай вайне» (1617) Іосіфа Флавія. У некаторых выданнях Пётр Бластус паказаў і ўласныя аўтарскія здольнасці. Першы раз як складальнік, са сваімі дадаткамі да «Апафегматаў» Беняша Буднага (у 1614 г.), потым як аўтар вершаванай прадмовы-звароту да Саламона Рысінскага ў парэміялагічным зборніку 1618 г. і, нарэшце, як перакладчык у выданні «Prognosticon astrologicum... na rok 1621» — пераклад твора кракаўскага астролага Станіслава Герца, надрукаваны з прысвячэннем Хрыстафору Нарушэвічу, земскаму падскарбію Вялікага Княства Літоўскага (датавана ў Любчы, 19.X.1620). У лютым 1618 г. Пётр Бластус Кміта зрабіў запіс ў альбом (Sztambuch) вядомага арыянскага дзеяча Андрэя Лубянецкага. Аўтограф захаваўся, напісаны ён часткова на польскай, часткова на літоўскай мове[315].



Трыфалагіён. Гравіраваны тытульны аркуш. Друк у два колеры. Куцейна, 1647 г.

Няма звестак пра тое, хто былі наборшчык і друкар у Любчанскай друкарні — магчыма, набіраў тэксты сам Пётр Бластус Кміта. Некаторыя асаблівасці набору сведчаць аб вялікай фантазіі і немалых ведах наборшчыка. Напрыклад, на тытульным аркушы памянёнай ужо кнігі «Monumentum exeqvale Suprem. Honoribus Generosi ac Magnifici viri Dn. Georgii Kapaszczewski...» дата набрана наступным спосабам: «Anno beatI sVnt qVIIn DoMIno reVIesCVnt», што можна прачытаць і як сентэнцыю на лацінскай мове: «Год добры для тых, хто ў Госпадзе спачывае», і як дату, напісаную лацінскімі літарамі, што вылучаны пры наборы: M=1000 + D+C=1600 +(I+V+VII+I+VI+V=25) = 1625 (год).

Самыя познія выданні, якія маюць у выхадных звестках імя друкара Пятра Бластуса Кміты, датаваны 1629 г. У пазнейшых выданнях назва друкарні фармулюецца наступным чынам: «Drukarnia Kmitow» — да справы падключыўся сын Ян Даніэль: яго імя з'яўляецца ў выдавецкім адрасе на мяжы 1632 і 1633 гг.

Пад яго кіраўніцтвам (д р у г і п е р ы я д) накірунак дзейнасці друкарні значна змяніўся. З любчанскіх варштатаў выходзілі пераважна выданні евангелічнай царквы. Аўтарамі і перакладчыкамі былі міністры Балтазар Лабецкі, Ян Астроўскі, Самуіл Тамашэўскі і інш. Акрамя таго, выходзілі кнігі кальвіністаў; вядома, што тут надрукавана арыянская кніга «Responsio ad Meisueri libros» (1639, частка паасобнікаў мела на тытульным аркушы дату 1637). У бібліяграфіі любчанскіх выданняў гэтага перыяду маюцца значныя лакуны. Іх можна патлумачыць як тым, што кнігі не захаваліся, так і тым, што яны ўвогуле не выходзілі (прынамсі, у 1634, 1636/37, 1639/40 гг.). Усяго ж вядома 23 выданні Яна Кміты: з іх 4 выдадзеныя на латыні і 19 на польскай мове.

Апошні, т р э ц і п е р ы я д працы Любчанской друкарні звязаны з Янам Лангэ. Эмігрант з Польшчы, ураджэнец шлёнскага Ключборка, лютэранін, чалавек адукаваны, пісаў вершы на лацінскай мове. Вядомыя

[315] Рукапісны «Sztambuch» Андрэя Лубянецкага захоўваецца сёння ў Кракаве, у бібліятэцы Чартарыйскіх (шыфр RpS. 1403).



*Трыфалагіён. Старонка з гравюрай «Увядзенне Багародзіцы». Куцейна, 1647 г.*

толькі два выданні з імем Лангэ ў выхадных звестках. Гэта «Гадзіннік, альбо Памятка... пакуты і смерці збавіцеля» Мацея Гласкоўскага і каляндар «Кнігі гадавіка, першая частка, гэта значыць стары і новы каляндар гадавых свят», складзены Стэфанам Фурманам. Лангэ называе сябе «Друкар яго Княжацкай Міласці» (маецца на ўвазе, верагодна, друкар Януша Радзівіла). А. Кавецка вызначае перыяд працы Лангэ ў Любчы з 1646 па 1656 г. зыходзячы з таго, што пасля 1641 г. імя Яна Кміты не сустракаецца ў выхадных звестках. Каляндар, на першым выпуску якога (1653) стаяла імя Лангэ, выходзіў да 1656 г., не называючы друкара. У інвентары маёнтка Любча 1651 г. знаходзім імёны памочнікаў друкара Яна Лангэ, верагодна, гэта мясцовыя жыхары, «друкарчыкі» Ждан Вайцэховіч і Юрка Лукашэвіч[316].

Эпідэміі і войны сярэдзіны XVII ст. разбурылі Любчу; з таго часу выданне кніг у ёй не аднаўлялася.

**Куцеінская друкарня.** У 1623 г., у двух кіламетрах ад горада Оршы, пры ўпадзенні ракі Куцеінкі ў Дняпро, мсціслаўскі падкаморы Багдан Сцяцкевіч заснаваў праваслаўны мужчынскі манастыр Богаяўлення, які дзейнічаў таксама як кніжны асяродак. У манастырскай друкарні выдадзена не менш чым 18 кніг. Частка з іх — кананічныя богаслужбовыя тэксты, выданне якіх патрабавала толькі ўважлівасці і дакладнасці. Арыгінальныя ж пераклады ці складзеныя сучаснікамі зборнікі вымагалі творчага падыходу. Напэўна, на друкарскі варштат трапілі не ўсе падрыхтаваныя манахамі-кніжнікамі зборнікі.

Перад пачаткам Другой сусветнай вайны ў Дзяржаўным музеі Беларусі захоўваўся зборнік, складзены ў 1641 г. у Куцейне: «Колляція альбо розмова духовная, сіречь беседы преподобнаго Моісея». Кніга не мела канца і абрывалася на 328-й старонцы. У склад гэтага зборніка была ўключана «Кніга преподобнаго отца нашего Касіяна Римлянина»[317] — прадукцыя манастырскіх кніжнікаў, якую, не дачакаўшыся друкавання, распаўсюджвалі ў спісах. Спынілася праца ў куцеінскім скрыпторыі пасля пераводу манахаў на чале з ігуменам Іаілем Труцэвічам у Іверскі манастыр у сярэдзіне XVII ст. Толькі праз рукапісанне тыражавалі ў Куцейне Ірмалоі. Яны вылучаюцца прафесійнасцю выканання і вясёлай шматколернай аздобай, у сюжэтах якой можна заўважыць уплывы каталіцкай іканаграфіі.

Куцеінская друкарня пачала працаваць у 1630 г., калі ў манастыр ў якасці друкара быў запрошаны ўраджэнец Магілёва, сын магілёўскага бурмістра Багдана Ігнатавіча Собаля — Спірыдон Собаль[318]. Выдавецкую дзейнасць Спірыдон Собаль пачынаў у Кіеве, дзе ў 1628—1630 гг. выдаў пяць кніг — «Ліма-

[316] *Іванова Л.* Рэфармацыйны рух на Наваградчыне ў другой палове XVI — першай палове XVII стст. // Памяць. Навагрудскі раён. Мн., 1996. С. 141.

[317] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета... С. 192.

[318] Старэйшы сын Багдана Ігнатавіча Собаля Цімафей жыў у Кіеве, быў каралеўскім сакратаром і слугой кароннага канцлера Юрыя Асалінскага; нерухомасць у Магілёве атрымаў у спадчыну малодшы — Спірыдон (Зернова А. С. Белорусский печатник Спиридон Соболь // КИМ. 1965. Сб. 10. С. 128—138).

нар», «Мінею», «Актоіх» (два выданні) і «Апостал»[319]. Першае кіеўскае выданне — «Лимонарь сиречь цветникъ, иже во святых отца нашего Софронія патріархи іерусалимскаго... издан типом в дворе іова Борецкаго метрополиты К. во граде Кіеве, Спиридоном Соболем типографомъ, в року от Рождества Христова 1628» — стала такім папулярным, што яго часта перапісвалі манахі розных (у тым ліку базыльянскіх) манастыроў[320]. У 1631 г., пасля смерці мецэната Собаля, кіеўскага праваслаўнага мітрапаліта Іова Барэцкага, друкар прыняў прапанову Багдана Сцяцкевіча пераехаць у Куцейна. Пераезд быў вымушаны: як абвясціла кіраўніцтва друкарні Кіева-Пячэрскай лаўры, яе канкурэнт — прыватная друкарня Спірыдона Собаля — «старательством Кіевопечерскія лавры истреблена»[321]. Вядомы чатыры куцеінскія выданні Спірыдона Собаля: «Букварь сиреч начало ученія...» (1631, у выданні выкарыстана гравюра з датай «Року АХКН», г. зн. 1628 г.), «Малітвы штодзённыя» (1631), «Часаслоў» (1632) і «Апостал» (1632); яшчэ два выданні 1630-х гадоў дакладна не лакалізаваны — («Актоіх» Іаана Дамаскіна і «Ліманар» Іаана Мосха) — магчыма, што месцам іх выхаду былі Куцейна альбо Буйнічы, куды Спірыдон Собаль пераехаў каля 1632 г. Цяжка сказаць, чаму Собаль пакінуў Куцейна. Магчыма, таму, што змянілася кіраўніцтва манастыра, пра што ў 1643 г. пісаў Фёдар Скуміновіч: «...у Куцейне ab oге ігумена свайго яшчэ жывога pendent...»[322].

Пасля пераезду Собаля ў Буйнічы куцеінскія манахі працягвалі кнігадрукаванне: у 1636—1654 гг. выйшла не менш за 14 выданняў. Сярод іх былі: «Псалтыр» (1642), «Трыфалагіён, альбо Цветаслоў» (1647), «Актоіх» (1646), перавыданне еўеўскай «Дыёптры» (1651). У выхадных звестках большасці з іх запісана: «З друкарні манастыра обшчэжыцельнаго Куцеінскага царквы Богаяўлення».




*Трыфалагіён. Старонка з гравюрай «Грамніцы». Куцейна, 1647 г.*

Акрамя богаслужбовых і навучальных кніг куцеінскія манахі рыхтавалі і выдавалі жыційную і вучыцельную (павучальную) літаратуру. Да такіх выданняў можна залічыць «Дзідаскалію» Сільвестра Косава (1637), «Брашна духоўнае» (1639). Апошняя была па сутнасці тлумачальным Псалтыром: аўтарам барокавай іншасказальна-ацэначнай назвы, таксама як і складальнікам гэтай кнігі, быў, верагодна, сам Спірыдон Собаль[323]. Сярод іншых выданняў варта вылучыць упер-

[319] *Запаско Я. П., Ісаевіч Я. Д.* Пам'яткі книжкового мистецтва. Каталог стародруків, виданих на Україні. Кн. 1. № 172—174, 189, 203.

[320] У калекцыі былой Віленскай публічнай бібліятэкі захоўваюцца спісы з Жыровіцкага і Віцебскага Маркавага манастыроў (*Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 244, 245).

[321] *Исаевич Я. Д.* Преемники первопечатника. М., 1981. С. 71.

[322] *Skuminowicz Th.* Przyczyny porzucenia dizuniey przezacnemu narodowi ruskiemu podane. Wilna, 1643. Rozdzial V, paragr. 1.

[323] *Зернова А. С.* Белорусский печатник Спиридон Соболь. С. 137.



*«Гісторыя Варлаама і Іасафа». Тытульны аркуш з выявамі Антонія Вялікага, Іаана Дамаскіна, Варлаама, Іасафа, цара Авеніра і цара Канстанціна. Куцейна, 1637 г.*

шыню друкаваную кірыліцай і «нова з грэцкай і славенскай на рускую мову пераложаную» «Гісторыю Варлаама і Іасафа» (1637) — да чытачоў Вялікага Княства прыйшоў літаратурны твор з жыццяпісам Буды. Арабіст Ігнат Крачкоўскі так сказаў пра гісторыю гэтага твора: «як снежны камяк з горнай вяршыні, ён каціўся з высотаў Індыі на Захад, разрастаючыся і прымаючы іншае аблічча». Пераклад грэцкай рэдакцыі гэтай аповесці вядомы яшчэ Кірылу Тураўскаму; самая старажытная рукапісная кніга з яе тэкстам датуецца XIV ст. і паходзіць з Наваградскага базыльянскага манастыра[324]. Існуюць тры варыянты гэтага выдання. У першым на адгорце тытульнага аркуша змешчаны герб Магілаў, а прысвячэнне адрасавана мітрапаліту Пятру Магіле. У другім прысвячэнне адрасавана епіскапу Беларускай епархіі Сільвестру Косаву і надрукаваны яго герб. У трэцім варыянце прысвячэнне адсутнічае, а на адгорце тытула замест герба надрукаваны цытаты са Старога і Новага Запаветаў. Перакладчык — намеснік брацкага Магілёўскага манастыра Іасаф Палоўка пачынае прысвячэнне разважаннямі аб тым, што шмат хто з выдатных і мудрых вернікаў разумеў марнасць людскога жыцця, але не мог ажыццявіць ідэал хрысціянскага аскетызму. У гэтым усіх пераўзыходзіць індыйскі царэвіч Іасаф. Акрамя панегірыка вышэйназваным асобам у прадмове праслаўляецца мсціслаўскі падкаморы Багдан Сцяцкевіч і куцеінскі ігумен Іаіль Труцэвіч, упамінаюцца цяжкія падаткі і розныя прыцясненні праваслаўных у «Беларускім краі» — упершыню ў друкаванай кірыліцай кнізе ўжываецца тэрмін «Беларусь», пад якім разумеюцца землі, што ўваходзілі ў склад праваслаўнай Беларускай епархіі. У прадмове таксама адзначана, што гісторыя пра Варлаама і Іасафа у славянскім перакладзе надрукавана ўпершыню. Ухваленая на сёмым Усяленскім саборы (787) і пасля перакладзеная на лацінскую і славянскую мовы, яна толькі цяпер выкладзена «простым руским языком для снаднейшего понятия». Між іншым, гаворыцца пра адпаведнасць дадзенага перакладу тэксту аўтарытэтнага выдання «парыжскага друку».

Невялікае па фармаце (4°) куцеінскае выданне надрукавана з упрыгажэннямі: на тытульным аркушы выявы пяці асоб: з левага боку Антоні Вялікі, св. Варлаам і цар Авенір, з правага — Іаан Дамаскін, Іасаф і цар Канстанцін, у рамцы загаловак: «Гистория албо правдивое выписание святого Иоанна Дамаскина о житии святых преподобных отец Валаама и Осафа и о навернении индиян, станием и коштом иноков общежительного монастыря Кутейнского, ново з грецкого и словенского на руский язык преложена. В типографии той обители. Року 1637 июня 22 дня». Акрамя таго, перад пачаткам тэксту ўплецены асобны аркуш з гравюрай, на якой адлюстраваны Варлаам і Іасаф ў палацы царэвіча. У 1680 г. гэтае выданне ўзяў за аснову для падрыхтоўкі свайго перакладу на рускую мову Сімяон Полацкі[325].

[324] *Лебедева И. Н.* Повесть о Варлааме и Иоасафе. Л., 1985.
[325] *Сидорова Л. П.* «Повесть о Варлааме и Иоасафе» в издании Симеона Полоцкого//Симеон Полоцкий и его книгоиздательская деятельность. М., 1982. С. 134—148.

Адным з найпрыгажэйшых выданняў Куцеінскай друкарні стаў «Трыфалагіён, альбо Цветаслоў» — выбраныя службы з усяночнымі на гасподскія святы. Кніга выйшла ў 1647 г. з дабраславення былога беларускага архіепіскапа, а цяпер Кіеўскага праваслаўнага мітрапаліта Сільвестра Косава. Друкары шырока карысталіся мастацкім прыёмам свабоднага размяшчэння ілюстрацый пасярод тэксту паралельна з традыцыйным спосабам — асобная ілюстрацыя на ўсю старонку. Усяго ў кнізе 19 гравюр-дрэварытаў, адціснутых з 17 дошак.

Акрамя падрыхтоўкі арыгінальных выданняў куцеінскія манахі перавыдавалі неабходныя кнігі. У 1651 г. тут была передрукавана «Дыёптра», якая першы раз выйшла ў Еўі ў 1642 г. Перавыданне адрозніваецца, у прыватнасці, маленькай гравюрай «Хрышчэнне» («Вадохрышча»), змешчанай на адгорце тытульнага аркуша. 5 жніўня 1652 г. манастырская друкарня закончыла друкаванне кнігі «Новы Запавет госпада нашага Ісуса Хрыста ў ім жа і Псалтыр...» Як і іншыя куцеінскія выданні, гэтае мела як найменш два варыянты: адзін з прысвячэннем епіскапу Віцебскаму, Мсціслаўскаму, Аршанскаму і Магілёўскаму Іосіфу Гарбацкаму і з гербам Гарбацкіх. Упамінанне ў тытулатуры Гарбацкага «экзаршаства фрону (трону) Канстанцінопаля» сведчыць аб тым, што куцеінскія манахі былі супраць перападпарадкавання маскоўскаму патрыярху. Другі варыянт змяшчае прысвячэнне пану на Любавічах і Баркалабаве, наваградскаму кашталянічу Міхаілу Сцяцкевічу і, адпаведна, герб Сцяцкевічаў на адгорце тытульнага аркуша. Урачысты і святочны выгляд надаюць кнізе багата гравіраваны тытульны аркуш, гравіраваныя ініцыялы, застаўкі, гербы, выявы евангелістаў і, перад пачаткам Псалтыра, гравюра з царом Давідам.

Уся аздоба выканана ў тэхніцы дрэварыту выдатным майстрам, на жаль, імя яго нам невядомае. Варта адзначыць, што ў заключнай малітве да гэтай кнігі выразна выяўляюцца мясцовыя моўныя асаблівасці: «Богу единому в неразделной и не изреченной Троицы славимому, Отцу и Сыну и Святому Духу давшему сію книгу Тестаментъ, начати и свершыти, да будет ему от нас трудившыхся честь, слава, поклонение и вечное благодарение...» — беларускае «ы» замест «и», паланізм «Тестамент», шырока распаўсюджаны ў той час як сінонім слова «Запавет».




*Пустэльнік Варлаам у палацы царэвіча Іасафа. Гравюра з кнігі «Гісторыя Варлаама і Іасафа». Куцейна, 1637 г.*

У 1653 г. манахі перавыдалі «Лексікон славяна-роскі» Памвы Бярынды, які адрэдагаваў куцеінскі ігумен Іаіль Труцэвіч.

Адным з апошніх выданняў Куцеінскай друкарні стаў «Букварь языка славеньска», які і па змесце і па аздобе належыць да беларускай традыцыі, што стварылася ў 1630-я гады. Што датычыць тэксту, то ён нічым не адрозніваецца ад сваіх папярэднікаў: рэлігійныя тэксты пераважаюць над тэкстамі граматычнымі. У ім быў надрукаваны новы для Куцейна дрэварыт з выявай св. Грыгорыя Багаслова. Найлепш захаваны паасобнік гэтай кнігі знаходзіцца ў Дубліне і апісаны англійскім даследчыкам Джонам Сімансам[326].

[326] *Симмонс Дж. С. Г.* О некоторых старопечатных кириллических книгах в Дублине // КИМ. 1963. Сб. 8. С. 247–253.


НАСТАРОЖИТНЫЙ Гербъ ихъ Мл. Пановъ СТЕТКЕВИЧОВЪ, ЕПИГРАММА

ВЕЛМОЖНОМУ ЕГО МЛ. ПАНУ МИХАЛУ ВЛОДИМЕРУ СТЕТКЕВИЧУ.

*«Новы Запавет господа нашага Ісуса Хрыста ў ім жа і Псалтыр...». Разгорт з гербам Сіцкевічаў і пачаткам прысвячэння «пану на Любавічах і Баркалабаве, наваградскаму кашталянічу, фундатару і дабрадзею Куцеінскага манастыра Міхалу Сіцкевічу». Куцейна, 1652 г.*

Паасобнікі куцеінскіх выданняў XVI—XVII стст. з запісамі (усяго, паводле Г. Галенчанкі, захавалася 15 датаваных гэтым часам прыпісак) паказваюць, што яны распаўсюджваліся як у ВКЛ, так і ў Маскоўскай Русі[327].

У 1654 г. Куцейна захапіла войска маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча. Паводле загаду патрыярха Нікана значная частка манахаў на чале з Іаілем Труцэвічам, разам з маёмасцю, была пераведзена ў новазаснаваны Іверскі манастыр на Валдаі[328]. Пад час пераезду ў сяле Болдзіне памёр Іаіль Труцэвіч. Кнігавыдавецкая і кнігапісная дзейнасць куцеінскіх манахаў (ігуменам быў абраны Дзіянісій) аднавілася, стаўшы з таго часу часткаю кніжнай культуры Маскоўскай Русі[329]. Незакончаныя друкам у Куцейне і прывезеныя разам з іншай маёмасцю на Валдай кнігі, у прыватнасці Псалтыры, былі прызнаны за непрыгодныя: «...мы, великий государь, ...тех кутеинских недопечатанных псалтирей допечатываць не показали, потому что те псалтыри неисправны...», — паведамляе грамата патрыярха Нікана ігумену Дзіянісію, датаваная чэрвенем 1658 г.[330]

У лістападзе 1665 г. патрыярх Нікан загадаў архімандрыту Іверскага манастыра Філафею «прислать из Иверского монастыря стан и шуруп и азбуку, чем книги печатают, и азбуки печатные... в Воскресенский монастырь... а как у нас снимут слова, и станы, и тиски сделают, и мы к вам пришлем назад стан и тиски»[331]. Атрымаўшы гэты загад, у снежні таго ж года Філафей паслаў друкарскія прылады, прыклаўшы вопіс — «Роспись друкарского заводу». Гэты вопіс захаваўся, ён дае ўяўленне аб друкарскіх прыладах Куцеінскай

[327] *Голенченко Г. Я.* Идейные и культурные связи... С. 280—281.

[328] А. Кавецка-Грычова памылкова паказвае, што манастыр пераведзены ў Цвер (*Kawecka-Gryczowa A. i in.* Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. S. 141).

[329] *Белоненко В. С.* Из истории книгопечатания Иверского Валдайского монастыря // Исследование памятников письменной культуры в собраниях и архивах Отдела рукописей и редких книг: Сб. науч. трудов. Л., 1988; *Ён жа.* Из истории книжности Иверского Успенского монастыря на Валдайском озере в XVII столетии // Литература Древней Руси. Источниковедение. Л., 1988.

[330] Русско-белорусские связи: Сб. документов (1570—1667 гг.). Мн., 1963. С. 393.

[331] РИБ. Т. 5. Стб. 552—553.



*«Новы Запавет господа нашага Ісуса Хрыста ў ім жа і Псалтыр...». Разгорт з гербам Гарбацкіх і пачаткам прысвячэння епіскапу віцебскаму, мсціслаўскаму, аршанскаму і магілёўскаму Іосіфу Гарбацкаму. Куцейна, 1652 г.*

(пазней Іверскай) друкарні: «...станок с шурупом медным, и с доскою медною, и с тынглем медным и с крюком железным, четверо шурубов железных, коловротик медной с зубцами, доска с поддосками железными. Метрицес псалтырного писма, той три азбуки, началная, строчная, верхняя. Два станки медные: один псалтырной, а другой швабахеровый, винкеляк медный»[332]. Гісторык беларускай праваслаўнай царквы Іаан Грыгаровіч паведамляе, што яшчэ ў 1830-я гг. у Куцеінскім Богаяўленскім манастыры знаходзіліся некалькі скрынь са свінцовымі літарамі (шрыфтамі). Невядома, ці іх пакінулі, схаваўшы, вывезеныя манахі, ці набылі пазней, з мэтай аднавіць кнігадрукаванне[333].

Толькі адна кніга мае выхадныя звесткі з указаннем месца выдання **Буйнічы**. Гэта Псалтыр, выдадзены Спірыдонам Собалем у 1635 г. Аднак кнігадрукаванне магло пачацца ў Буйніцкім Богаяўленскім манастыры значна раней, адразу пасля пераезду туды (каля 1632 г.) з Куцейна Спірыдона Собаля. Г. Галенчанка дапускае, што ў Буйнічах (альбо Куцейне) маглі быць выдадзены Спірыдонам Собалем яшчэ і «Актоіх» Іаана Дамаскіна (каля 1632 г.) і «Ліманар» Іаана Мосха (сярэдзіна 1630-х гг.),[334] на тытульных аркушах якіх месцам выдання названы Кіеў. Гэта стварала неразбярыху пры экспарце кніг. Так, у 1633 г. на мяжы Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскага царства быў затрыманы купец, які вёз у Маскву «Молітвеннік — літовская, кіевская печать Богоявленского монастыря і братства»[335].

**Магілёўская друкарня.** Пачатак кнігадрукавання ў Магілёве (1636—1638) звязаны з Спірыдонам Собалем, які прыехаў сюды з Буйніч. Ён надрукаваў чатыры кнігі: «Букварь языка славеньска» (1636), «Псалтыр» (1637), «Апостал» (1638) і «Тэстамент цара грэцкага Васілія» (1638). Да магілёўскага перыяду дзейнасці Собаля належыць таксама перавыданне падрыхтаванага ў Кіеве «Актоіха» Іаана Дамаскіна (Кіеў, 1629; 3-е выд.: Магілёў, пасля 1638 г.). Частка гэтай кнігі была надрукавана ў Кіеве, заключную частку

[332] РИБ. Т. 5. Стб. 559—561.
[333] *Грыгаровіч І. І.* Беларуская іерархія. Мн., 1992. С. 75.
[334] Кніга Беларусі 1517—1917. № 118, 121.
[335] *Каманин И.* Еще о древности братства и школы в Киеве // ЧОИДР. 1895. С. 181.

Собаль дадрукаваў у Магілёве. «Актоіх» выйшаў коштам мсціслаўскага падкаморыя Багдана Сцяцкевіча і змяшчае яго герб з панегірыкам, а таксама прысвячэнне, якое напісаў Спірыдон Собаль.

Магілёўскія выданні прадаваліся не толькі ў Вялікім Княстве, але і ў суседняй Маскве. У 1637 г. Спірыдон Собаль, паехаўшы туды па гандлёвых справах, прадаў маскоўскаму друкару Васілю Бурцаву матрыцы трох відаў шрыфту, а таксама пазычыў у яго грошы пад заклад чатырох друкаваных кніг. Пакуль гэта былі адносіны супрацоўніцтва двух будучых канкурэнтаў. У 1639 г. Собаль зноў паехаў у Расію, на гэты раз з намерам арганізаваць друкарню, якая магла б друкаваць кнігі на замежных мовах, а таксама наладзіць навучанне дзяцей па-грэцку, па-лацінску і па-польску. Ён вёз на продаж рукапісныя і друкаваныя (свайго друку) кнігі, а таксама «слова печатныя... к печати греческаго, латинскаго и немецкаго письмены приточны, чтобы были ко выданию книг в отчине царского твоего величества двема, трема или четырма языкома...»

Собаля затрымалі ў памежным горадзе Вязьме, а тым часам Пасольскі прыказ у Маскве збіраў звесткі пра іншаземца Собаля. Распытвалі маскоўскага майстра кніжнай і друкарскай справы Васіля Бурцава, які паказаў, што Собаль «грамотам умеет эллино гречаскаго и латинского языков и по польски и по руски, а з тех языков на руский язык умеет перакладати достаточно». Далей Бурцаў паведаміў, што «...тому де могилёвцу Спиридону Соболю к Москве прыезжати он не веливал, и слова книжные литые никакіе ему не надобны, потому что послал для того за море. А про то он слышел, што Пётр Могила, кому тот Спиридон Соболь служил, благочестивые православные хрестьянскіе веры отпал и приступил к рымской вере, и ныне де он униат». Апошняя інфармацыя пра непажаданага для Бурцава канкурэнта сталася, верагодна, вызначальнай для тых, хто прымаў рашэнні: «...государь показал: того могилёвца Спиридона Соболя из Вязьмы отпустить назад в Литву, а к Москве ево отпушчать не велел, штоб в ево ученье и в книгах смуты не было, да и для того, што он служил кіевскому митрополиту Петру Могиле, а Пётр Могила от православия крестьянскія веры отпал и приступил к Рымской вере, и ад нево б, Спирыдона, якая ересь не объявилася»[336].

У 1640 г. (магчыма, у 1644 г.) Спірыдон Собаль пакінуў Магілёў і зноў ад'ехаў у Кіеў. Там ён прыняў манаскі пастрыг у Кіева-Пячэрскім манастыры пад імем Сільвестр і стаў працаваць як кнігадрукар у лаўрскай друкарні. У пераліку членаў Магілёўскага брацтва ён названы «друкаром з лаўры». Для падтрымкі выдавецкіх пачынанняў валашскага гаспадара Мацея Бесараба Спірыдон Собаль паехаў у Валахію (верагодна, па даручэнні мітрапаліта Пятра Магілы). Там ён і памёр у канцы 1645 г.[337] Вядомы яго тэстамент (завяшчанне), напісаны ў Магілёве на пачатку лютага 1645 г. Двум сваім старэйшым сынам, якія жылі ў Кіеве, Спірыдон пакідаў розныя сумы грошай, а двум малодшым— яшчэ непаўналетнім Івану і Лявонцію — «дом з пляцам на Ільінскай гары ў Магілёве, 4 валокі зямлі і дзве сенажаці над Дняпром», а таксама па 600 паасобнікаў незакончанага друкам «Апостала» (усяго, такім чынам, 1200). Эдвард Ружыцкі, які знайшоў у архіве тэстамент, лічыць, што памянёны незакончаны «Апостал» быў другім накладам «Апостала» 1638 г.[338].

У тэстаменце Собаля паведамляецца аб ліквідацыі пазыкі ў 300 коп літоўскіх грошаў срэбрам ігумену Куцеінскага манастыра Іаілю Труцэвічу. Гэта магло стаць прычынай разрыву Собаля з Куцеінскай і Буйніцкай друкарнямі, але магло быць і вынікам разрыву. Я. Ісаевіч лічыць, што куцеінскі ігумен Іаіль Труцэвічануляваў пазыку Собаля за работу па арганізацыі друкарні[339].

Акрамя Спірыдона Собаля ў брацкай друкарні працаваў яго вучань, магілёвец Фёдар Грышановіч. Вынікам іх дзейнасці стала надрукаванае ў пачатку 1640-х гадоў «Брашно духовное» (адзіны пашкоджаны паасобнік у РНБ: Х.5А.2.).

У 1645 г. Казімір Готфрыд Абрынскі выдаў казанне «Светлая паходня дасканаласці. Пры

[336] Цыт. па.: Русско-белорусские связи. С. 156—160.

[337] *Исаевич Я. Д.* Новые материалы об украинских и белорусских книгопечатниках первой половины XVII в. // КИМ. 1977. Сб. 34. С. 152.

[338] *Różycki E.* Nieznane szczegóły z życia białoruskiego drukarza Spiridona Sobola // Rocznik Biblioteki Narodowej. Warszawa, 1973. S. 287—294.

[339] *Исаевич Я. Д.* Преемники первопечатника. С. 72—73.

хабіце законным як бы ў цені, на кшталт слупа, як Люд Божы высяляўся, што ў ночы відны, а ў дзень аблачысты і пахмурны, пры пасвячэнню паненак законных Нясвіжскага і Мінскага кляштараў ордэна святога Бенедыкта пастаўлена». Месца друку названа: **«Perszaje»**. У той час Пяршаі (зараз Валожынскі раён Мінскай вобласці) былі ўласнасцю віленскіх епіскапаў, а Абрынскі выконваў там абавязкі капелана. Іншыя вядомыя працы гэтага аўтара былі выдадзены ананімна (без паказання месца друку). Магчыма, «Светлая паходня дасканаласці» надрукавана ў малой (перасоўнай) друкарні, якую епіскап Аўраам Война меў у сваім маёнтку.

**Друкарню ў Кейданах** фінансаваў апошні вяльможны абаронца пратэстантаў у ВКЛ князь Януш Радзівіл. Для арганізацыі прадпрыемства ён запрасіў з Данцыга друкара Іяхіма Ротэ. Вядомы два выданні гэтай друкарні, абодва 1653 г., — адна кніга на літоўскай мове («Канцыянал і Малітоўнік», з прысвячэннем князю Янушу Радзівілу на польскай мове) і надрукаваная па-польску для патрэб адміністрацыі двара Радзівіла «Punkta Miastu Kiejdańskiemu od Wojewody Wileńskiego Het.Pol.W.X.Lit. postanowione i podane w czerwcu 1653 г.». Пасля смерці Януша Радзівіла маёмасць друкарні некаторы час знаходзілася ў Кейданах, а потым (каля 1670 г.) была перададзена ў Слуцк.

* * *

Як падлічыў А. Анушкін, за першыя сто гадоў існавання кнігадрукавання (1525 — 1625) у Вялікім Княстве выдадзена 698 назваў кніг, у тым ліку на мовах: старабеларускай (рускай) — 106, літоўскай — 5, польскай — 316, нямецкай — 6, латышскай — 1, італьянскай — 1, грэцкай — 1, лацінскай — 258. Адначасова на некалькіх мовах выдадзены 4 кнігі. Па змесце выдавецкі план выглядае наступным чынам: кніг богаслужбова-тэалагічнага характару выдадзена 170, палемічных твораў — 126, панегірыкаў — 274, на тэмы маральна-этычныя — 32, палітычныя — 46, эканамічныя — 4, юрыдычныя — 35, медыцынскія — 5, гістарычныя — 2, навукова-навучальнай літаратуры — 43, апісанняў падарожжаў — 4, календароў — 3, розных іншых свецкіх выданняў — 33[340].

Паводле падлікаў М. Тапольскай, у XVI і першай палове XVII ст. выданні рэлігійнага зместу складалі каля 43%, літаратурныя — каля 40%, навуковыя — каля 17%[341]. Што датычыць статыстыкі выданняў па мовах, то М. Тапольска падае яе наступным чынам: з кнігаў, выдадзеных у ВКЛ, каля 46% напісаны па-польску, 38% на латыні, каля 10% на царкоўнаславянскай і старабеларускай мовах. Акрамя таго, 20 кніг па-літоўску, 8 на нямецкай, 3 на італьянскай і 1 кніга на латышскай мове. Гэтыя лічбы з кнігазнаўчых даследванняў перайшлі ў гістарычныя працы, прынамсі ў тыя раздзелы, дзе характарызуецца культура і інтэлектуальны стан грамадства, і сталі грунтам для сцверджанняў аб паланізацыі ВКЛ ужо ў XVI ст.[342] З такой інтэрпрэтацыяй нельга, аднак, пагадзіцца. У дадзеным выпадку разглядаецца толькі частка друкаванага рэпертуару і зусім абмінаецца створаная і назапашаная за многія стагоддзі рукапісная кніга, а гэта істотна скажае сапраўдную карціну. Акрамя таго, не ўлічвалася, што ў кніжнасці ВКЛ прадмовы да богаслужбовых кніг паводле зместу часта выходзяць далёка за межы чыста рэлігійных тэкстаў. Перадусім гэта помнік літаратуры і публіцыстыкі свайго часу[343]. Што датычыць самой методыкі даследвання, то не заўсёды яна служыць праўдзе. Да прыкладу, М. Тапольска лічыць, што Леў Сапега і Андрэй Рымша друкавалі свае творы толькі на польскай мове, а Рыгор Хадкевіч — лацінамоўны пісьменнік[344]. Аднак вядома, што Леў Сапега з'яўляецца адным з аўтараў беларускамоўнага Статута ВКЛ, Андрэй Рымша пісаў па-беларуску вершаваныя эпіграмы. Рыгор Аляксандравіч Хадкевіч напісаў на беларускай мове прадмову да заблудаўскага выдання «Евангелля вучыцельнага», у якой паведамляе, што ён

[340] *Анушкин А. И.* На заре книгопечатания в Литве. С. 13.
[341] *Topolska M. B.* Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. S. 121, 124.
[342] *Topolski J.* Polska w czasach nowożytnych. S. 294.
[343] *Итигина Л. А.* Белорусские старопечатные предисловия XVI — первой половины XVII в. (просветительские тенденции) // Русская старопечатная литература (XVI — первая четверть XVIII в.). Тематика и стилистика предисловий и послесловий. М., 1981. С. 27—44.
[344] *Topolska M. B.* Środowisko twórcze w WKL w XVI wieku (autorzy publikowani) // Studia nad gospodarką, społeczeństwem i rodziną w Europe późnofeudalnej. Lublin, 1987. S. 195—216.

**Рэпертуар кірылічных выданняў у XVI ст.** *Табліца 8*

| Друкарня | Літургічныя кнігі | | | | | | | | | | Іншыя рэлігійныя | | Падручнікі | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Евангелле | Псалтыр | Службоўнік | Часаслоў | Актоіх | Апостал | Акафіст | Малітоўнік | Часоўнік | Катэхізіс | Філасофія | Палеміка | Буквар | Граматыкі | Логіка | Гісторыя | Права | |
| Нясвіж | | | | | | | | | | 1 | | 1 | | | | | | 2 |
| Заблудаў | 1 | 1 | | | | | | | | | | | | | | | | 2 |
| Цяпіна | 1 | | | | | | | | | | | | | | | | | 1 |
| Вільня | 3 | 11 | 3 | 1 | 1 | 3 | 1 | 1 | 1 | 3 | 6 | 5 | 4 | 2 | 1 | 2 | 3 | 52 |
| Усяго назваў | 5 | 12 | 3 | 1 | 1 | 3 | 1 | 1 | 2 | 4 | 6 | 6 | 4 | 2 | 1 | 2 | 3 | 57 |

збіраўся друкаваць усё Евангелле «простай мовай», г. зн. па-беларуску, і толькі парады «вучоных людзей» змянілі яго рашэнне і кніга надрукавана на славянскай мове (якой віленскі ваявода таксама несумненна валодаў).

Базыльяне — найбольшае па колькасці згуртаванне манахаў у ВКЛ — лічылі ўжыванне «рускай» мовы абавязковым. Віленская (VI) 1636 г. кангрэгацыя ордэна замацавала гэта сваім рашэннем на 15-й сесіі, што прайшла 2 жніўня: «У аўторак чытаў ягомосць айцец мітрапаліт пункты, што ад брацііі да ўпаважнення пададзены, паміж якімі першы здаўся быць, які аб патрэбе ўжывання мовы рускай у казаннях нашых, і асабліва ў цэрквах. Аб гэтым вельмі пільна ягамосць з іншымі айцамі пастанавіў, абы айцы і брацыя закону нашага ў цэрквах не іншай, але толькі рускай мовай апавяданні слова Божага чынілі...»[345].

У XVI ст. большасць друкарняў вядомыя па публікацыі толькі адной альбо двух кніг (віленская друкарня Францыска Скарыны, друкарні ў Нясвіжы, Заблудаве, Цяпіне). Толькі тры віленскія друкарні: прадпрыемства Мамонічаў, брацкая друкарня і друкарня універсітэта змаглі працягваць працу і ў наступным стагоддзі.

Вялікую частку кірылічнай прадукцыі друкарняў Вялікага Княства ў XVI ст. склалі літургічныя кнігі, а таксама грэцкія рэлігійна-філасофскія трактаты ў новых перакладах («Маргарыт» Іаана Златавуснага 1588 г.)[346]. Значнае месца ў рэпертуары (10,5%) займаюць вучэбныя кнігі — буквары і граматыкі (гл. табл. 8).

Сярэдні наклад кнігі складаў у гэты перыяд 500—700 паасобнікаў для лацінскіх і польскіх кніг і 1000 — для кірылічных славянскіх і «рускіх».

На пачатку XVII ст. пашырылася дзейнасць друкарняў, якія выдавалі кірылічныя кнігі — акрамя двух ужо існаваўшых віленскіх прадпрыемстваў (Мамонічаў і брацтва Св. Духа) узніклі новыя: у Еўі (пад пратэкцыяй Багдана Агінскага), якая працавала з 1610 да 1646 г., а таксама ў Магілёве, Куцейне і Буйнічах. Віленскія базыльяне прынялі друкарню Мамонічаў і змаглі наладзіць сваё кнігавыданне. Ёсць падставы меркаваць аб дзейнасці друкарняў у Мінску і Полацку — вядома па адным выданні, магчыма, надрукаваным у гэтых гарадах. Усяго ў XVII ст. на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага выдадзена 148 кірылічных кніг, з якіх 68 у сталіцы — Вільні, 31 у Магілёве, 24 у Еўі і 19 у Куцейне. Багатая аздоба многіх з іх зроблена

[345] АСД. Т. 12. С. 43.

[346] Аднак у гэтую групу не выпадае ўключаць «Казанне святога Кірылы патрыярхі іерусалімскага аб антыхрысце...», што выдадзена брацкай друкарняй у Вільні ў 1596 г. (*Chodurska H.* Ogólna charakterystyka druków Wielkiego Księstwa Litewskiego // Najstarsze druki cerkiewnosłowiańskie i ich stosunek do tradicji rękopiśmiennej: Materiały z sesji, Kraków, 7—10 XI 1991. Kraków, 1993. S. 192), бо названая кніга з'яўляецца аўтарскім творам і належыць пяру віленскага прапаведніка Лаўрэнція Зізанія (Кніга Беларусі 1517—1917. № 41).

**Рэпертуар кірылічных выданняў у XVII ст.** *Табліца 9*

| Друкарня | Літургічныя кнігі | | | | | | | | | | | | | Іншыя рэлігійныя | | | | Падручнікі | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Евангелле | Псалтыр | Службоўнік | Часаслоў | Актоіх | Акафіст | Малітоўнік | Трыёдзь | Паўустаў | Устаў | Новы Запавет | Евангел. вучыцельн. | Катэхізіс | філасофія | палеміка | Жыцці святых | Прапаведніцкая л-ра | Буквар | Граматыка | Слоўнікі | |
| Вільня | 2 | 7 | 10 | 4 | | 2 | 14 | 2 | 3 | | 3 | 1 | 1 | 10 | 2 | | 2 | 1 | 4 | | 68 |
| Еўе, брацкая | 1 | 3 | | 2 | 1 | | 2 | | 2 | 1 | 4 | 1 | | 3 | | | 3 | | 1 | | 24 |
| Магілёў | | 6 | 2 | 3 | 3 | 3 | 3 | | | | | 1 | 1 | 6 | | 1 | 1 | 1 | | | 31 |
| Мінск, брацтва | | | | | | | | | | | | | | | | | 1 | | | | 1 |
| Куцейна | | 5 | 1 | 1 | 1 | | 1 | | | | 3 | | | 5 | | 1 | | | | 1 | 19 |
| Буйнічы | | 1 | | | | | | | | | | | | 1 | | | | | | | 2 |
| Супрасль | | | 1 | | | | | | | | | | | 1 | | | | | | | 2 |
| Усяго назваў | 3 | 22 | 14 | 10 | 5 | 5 | 20 | 2 | 5 | 1 | 10 | 3 | 2 | 27 | 2 | 2 | 7 | 2 | 5 | 1 | 148 |

пад уплывам украінскіх выданняў: гэта Малітвы (Еўе, 1615 г.), два Службоўнікі, Часаслоў і Трэбнікі друкарні Л.Мамоніча, Новы Запавет друку Віленскага брацтва 1623 г.; гравюра «Грыгорый Багаслоў» куцеінскага Буквара 1653 г. і інш.[347]

Сярод выданняў XVII ст. асноўную частку складаюць літургічныя кнігі. Іх надрукавана больш за 100, пры гэтым найбольш малітоўнікаў — 20 выданняў, затым ідуць Псалтыры — 22, Службоўнікі — 14 і поўны тэкст Новага Запавету — 10 перавыданняў. Большасць з кніг, што выйшлі на пачатку стагоддзя, выдадзены пры непасрэднай падтрымцы дзяржаўнага канцлера Льва Сапегі. Акрамя таго, перакладзены і выдадзены некалькі грэцкіх і лацінскіх філасофскіх трактатаў — «Дыёптра» (1612), «Выклад на Отче наш» Іаана Златавуснага ў перакладзе Лявонція Карповіча (1620), «Вера св. Кафолическая у Апостальской царкве» (1625), «Духоўныя гутаркі» Макарыя (1627), «Тэстамент Васіля цара грэцкага» (1638), «Аб наследаванні Хрысту» Фамы Кемпійскага (1681). У канцы стагоддзя ў Магілёўскай друкарні Максіма Вошчанкі перавыдадзены літаратурныя творы двух славутых кіеўскіх аўтараў: Іянікія Галятоўскага («Неба новае», 1699 г.) і Кірылы Транквіліёна («Перло шматкаштоўнае», 1699 г.).

Папулярнай выдавецкай прадукцыяй у XVII ст. былі казанні. Сярод іх можна сустрэць і пераклад грэцкіх гамілій («Слова зело душеполезное ко уміленію і покаянію прыводяшчее», Евье, 1643 г.), і арыгінальныя тэксты, напісаныя альбо да вялікіх свят («Казанне на Праабражэнне Гасподне і на Успенне Багародзіцы», Еўе, 1615 г.), альбо панегірычныя («Казанне на пахаванне Лявонція Карповіча» Мялета Сматрыцкага (Вільня, 1620 г.), «Казанне на памінанні па спачыўшым яго міласці пане Аляксандры Фёдаравічы Шэптыцкім» Паўла Лютковіча (Мінск? 1622 г.). Больш за ўсё такіх выданняў выйшла з брацкай друкарні ў Еўі.

Школьныя падручнікі складаюць каля 5% выданняў. У гэтай групе знаходзяцца тры буквары (Спірыдона Собаля 1636 г., Віленскай брацкай друкарні 1652 г. і Куцеінскі 1653 г.) а таксама не менш як тройчы выдадзеная «Граматыка, альбо Складанне пісьма для тых, хто хоча вучыці славенскай мовы» (Вільня, 1611, 1618, 1621 гг.). Найбольш значнай падзеяй у выданні навучальный літаратуры стала кніга «Граматыкі славенскія правілное сьнтагма» Мялета Сматрыцкага (Еўе, 1619); яна мела 247 аркушаў in 8°, была вельмі папулярная, пра што сведчаць шматлікія спісы з яе. У розных краях яна выкарыстоўвалася для навучання сла-

[347] *Ісаєвич Я.* Українське книговидання. Витоки. Розвиток. Проблеми. Львів, 2002.

вянскай мове больш як паўтара стагоддзі і «Лексікон славенароскі» Памвы Бярынды з папраўкамі Іаіля Труцэвіча (Куцейна, 1653 г.). Рэпертуар кірылічнай кнігі ў XVII ст. пададзены ў табл. 9.

З табл. 9 вынікае, што па-ранейшаму цэнтрам кірылічнага кнігадрукавання была Вільня, а разам з блізкім па адлегласці Еўем яна давала больш за 50% ўсіх выданняў. Другі цэнтр склаўся на Усходзе ВКЛ — гэта Магілёў і Куцейна, сумесная прадукцыя якіх складала прыкладна трэцюю частку ад цэлага.

У першай чвэрці XVII ст. кірылічная прадукцыя друкарняў ВКЛ шырока вывозілася ў Маскоўскую дзяржаву. Аднак у 1627 і 1628 гг. у Маскве па просьбе патрыярха цар забараніў прывозіць, чытаць і захоўваць кнігі «літоўскага» друку. Прычыны забароны былі як эканамічныя (здымалася канкурэнцыя маскоўскаму «Печатному двору»), так і ідэалагічныя. Адной з першых ахвяр падазронасці маскоўскіх царкоўных улад стаў Лаўрэнцій Зізаній, вучоны філолаг, аўтар «Граматыкі славенскай» і «Навукі да чытання», надрукаваных у 1596 г. Віленскай брацкай друкарняй. У 1626 г. ён прывёз у Маскву рукапіс «Катэхізіса» — кіраўніцтва па дагматычнаму багаслоўю — і прапанаваў надрукаваць яго. Перакладзены на славяна-рускую мову «Катэхізіс» быў хутка надрукаваны, але з такімі сур'ёзнымі цэнзурна-рэдактарскімі выпраўленнямі, што Зізаній запатрабаваў тлумачэння. Патрыярх маскоўскі Філарэт, галоўны рэдактар выдання, загадаў спраўшчыкам — ігумену Іллі і пратапопу Грыгорыю Анісімаву — у Кніжнай палаце (у прысутнасці баярына князя Б. Чаркаскага і думнага дзяка Ф. Ліхачова) вытлумачыць аўтару прычыны, па якіх яны палічылі неабходным зрабіць выпраўленні ў яго кнізе. Спрэчка Лаўрэна Зізанія з маскоўскімі спраўшчыкамі працягвалася тры дні, і аўтар, асцерагаючыся абвінавачання ў «ерасі», згадзіўся з большасцю заўваг і адзначыў толькі некаторыя памылкі ў перакладзе. Між іншым яму ставілася ў віну тое, што ён адышоў ад звыклых астралагічных тлумачэнняў некаторых з'яў прыроды — камет, зацьменняў сонца і месяца, навальніцы і г. д. Спрэчка была падрабязна запратакаліравана і потым распаўсюджана ў шматлікіх рукапісных копіях. Па ўсёй верагоднасці, маскоўскія царкоўныя дзеячы надавалі вялікае значэнне гэтаму дакументу: ён павінен быў стаць наглядным доказам таго, што ў пытаннях багаслоўя маскоўскія кніжнікі больш аўтарытэтныя за «літоўскіх»[348].

У XVII ст. шырока ўжывалася практыка перавыдання папулярных кніг «літоўскага друку» ў маскоўскіх друкарнях. Так, у 1634 і 1637 гг. Васіль Бурцаў перадрукаваў віленскае выданне «Буквара» 1621 г., у 1648 г. у «Печатном дворе» перавыдадзена славянская граматыка Мялета Сматрыцкага, у 1681 г. у маскоўскай «Верхняй друкарні» было перавыдадзена куцеінскае выданне «Гісторыі пра Варлаама і Іасафа».

У XVII ст. ў Вялікім Княстве значна вырасла вытворчасць кніг на польскай і лацінскай мовах. Яны шырока распаўсюджваліся не толькі ў ВКЛ, але і ў сумежных краінах. Напрыклад, у бібліятэцы маскоўскага пад'ячага Сільвестра Мядзведзева ў 1691 г. толькі віленскіх выданняў на лацінскай і польскай мовах было 57 назваў[349].

[348] Булычев А. А. История одной политической компании XVII века: Законодательные акты второй половины 1620-х годов о запрете свободного распространения «литовских» печатных и рукописных книг в России. М., 2004.

[349] *Долгова С. Р.* Виленские издания в библиотеке Сильвестра Медведева // Федоровские чтения 1982. С. 140—149.

# ПЕРАПЛЁТ І ГАНДАЛЬ

Нягледзячы на значнае павелічэнне ад XVI ст. колькасці кніг на рынку, кнігадрукаванне не знізіла цэны на гэты тавар. Наадварот, друкаваная кніга каштавала даражэй, чым рукапісная. «Апостал» 1639 г. з львоўскай друкарні Слёзкі, напрыклад, прадаваўся па 12—15 польскіх злотых, у асобных выпадках да 36 злотых, а рукапісны Апостал у сярэдзіне XVII стагоддзя каштаваў 6—10 польскіх злотых. Евангелле 1636 г. фактычна прадавалася за 24—30 злотых, а рукапісныя Евангеллі куплялі па 5, 12, 13, 15 злотых. Гандаль друкаванымі кнігамі прыносіў вялікія прыбыткі, паколькі прадажныя цэны значна перавышалі сабекошт. Напрыклад, сабекошт паасобніка львоўскага «Апостала» ў другой чвэрці XVII ст. складаў каля 3,5 злотых польскіх (1,5 злотых папера і 2 злотыя – рэштка выдаткаў), а прадавалі яго па 12—15 злотых і больш. Нават мінімальны кошт продажу складаў 300% сабекошту[350]. Літоўскія злотыя былі амаль удвая даражэй за польскія, але цэны на кнігі ў Вільні былі трошку ніжэйшыя, чым у Львове. У Маскве сярэдняя нацэнка складала 50—70%, а вышэйшага ўзроўню (да 360%) дасягала рэдка[351]. З такой жа высокай нацэнкай прадаваліся і іншыя літургічныя кнігі. Найбольш ранція звесткі аб кніжным гандлі ў ВКЛ належаць да пачатку XVI ст. — у 1512 г. познаньскі кнігагандляр Францыск Клош заключыў дамову з нейкім «Воткам Літвінам»; той самы Клош меў гандлёвыя справы з Гаўрылам з Вільні ў 1519 г. У 1522 г. ён заключыў дамову з другім віленскім контрагентам — Ферманам Літвінам. У 1566 г. кракаўскі друкар Мацей Вежбента даручыў прадстаўляць яго інтарэсы ў ВКЛ віленскаму мешчаніну Яну Кацерлу; у 1579 г. у сталіцы Вялікага Княства існуе кніжны гандаль Войцэха Фрэліха і Станіслава Багдановіча, якія, прынамсі, прадавалі кнігі, што пастаўляў познанскі купец Хрыстафор Патрус. У XVI ст. у Вільні львоўскія друкі Івана Фёдарава распаўсюджваў Якуб Максімовіч, і наадварот, у Львове віленскімі выданнямі гандлявалі сын Івана Фёдарава Іван і мешчанін Марцін Галубніковіч[352].

Аналіз дакументаў (судовых актаў і вопісаў маёмасці) паказвае, што часта кніжным гандлем займаліся пераплётчыкі, прынамсі ў канцы XVI ст. кнігамі гандляваў вядомы віленскі друкар і пераплётчык Якаў (Якуб) Марковіч. Акрамя мясцовых выданняў Марковіч купляў, пераплятаў і прадаваў прывазныя кнігі — вядома пра яго кантакты з познанскім кнігагандляром Стэфанам Вінклерам. Другі віленскі кнігавыдавец, Ян Карцан, сумесна з купцом Станіславам Багдановічам супрацоўнічаў з кракаўскімі прадпрымальнікамі Якавам Зібенэйхерам і Янам Шафенбергам. Прафесар Віленскага універсітэта гісторык С. Растоўскі паведамляе аб існаванні ў 1600 г. у Вільні некалькіх кніжных лавак[353]. У Вільні і іншых гарадах і мястэчках ВКЛ гандляваў кнігамі Кузьма Мамоніч, у тым ліку Астрожскай Біблііяй 1581 г. з дадрукаванымі ў 1588 г. у Вільні аркушамі. Традыцыі Кузьмы, прынамсі ў кантактах з Львовам, працягваў яго сын Лявон Мамоніч. Захаваліся дакументы 1628 г. аб судовай справе Лявона Мамоніча з брэсцкім габрэем Ёхімам Рафаловічам. Віленскі друкар наняў яго прывезці ў Львоў 37 паасобнікаў Евангелля і 7 Трыёдзяў, якія той павінен быў перадаць у Львове Базылю Баярскаму[354]. Па вопісе маёмасці віленскага кнігагандляра Казіміра Вяжбоўскага († 1660 г.) можна атрымаць уяўленне пра асартымент кніжнай лаўкі таго часу: 150 назваў агульнай колькасцю 1070 паасобнікаў, пераважная большасць — на лацінскай, польскай і грэцкай мовах. Акрамя Малітоўнікаў у продажы меліся выданні класікаў антычнай літаратуры (Цыцэрон, Авідзій), а таксама падручнікі: буквары і граматыкі. Цэны на кнігі былі даволі высокія — пераплецены паасобнік Статута ВКЛ кашта-

[350] *Ісаєвич Я.* Українське книговидання. Витоки. Розвиток. Проблеми. Львів, 2002. С. 303—304.

[351] *Луппов С.П.* Книга в России в XVII в. Ленинград, 1970. С. 60.

[352] Першодрукар Іван Федоров та виникнення друкарства на Україні (XVI — перша половина XVII стст.): Збірник документів. Київ, 1975. № 14, 35.

[353] *Rostowski S.* Litanicarum Societatis Jesu historiarum provincialium pars I. Vilnae, 1768. P. 192.

[354] *Różycki E.* Z dziejów książki we Lwowie w XVII wieku: Studia nad introligatorstwem i handlem książką. Katowice, 1991. S. 202—203.



*Абклад Лаўрышаўскага Евангелля. У цэнтры — металічная планкетка з выявай воіна (вераг. Дзімітрый Салунскі. В. Ластоўскі лічыў яе выявай св. Лаўрыша-Войшалка). Для ўпрыгожання абкладу кнігі ўжытыя каштоўныя камяні. Навагрудак, пачатак XVI ст.*

ваў 7 злотых 15 грошаў (параўн.: шабля са срэбнай насечкай — 6 злотых, мушкет — 3 злотых)[355].

Асобнымі шляхамі ішоў гандаль габрэйскімі кнігамі, якія паступалі з Заходняй Еўропы праз Кракаў і Познань і з Канстанцінопаля — праз Львоў.

**Пераплёты і абклады**. Першае ўяўленне пра кнігу, таксама як і першае ўражанне ад яе, залежыць ад пераплёту. Тэхналагічна пераплёт — гэта той элемент канструкцыі, які служыць для злучэння аркушаў (сшыткаў) і захавання іх ад забруджвання і пашкоджанняў. Гэта звычайна верхняя і ніжняя крышкі, спінка, форзац, матэрыял для мацавання (папера, каптал, ніткі). Вывучэнне пераплёту непасрэдна належыць да кнігазнаўства, хоць заўсёды стаіць крыху асобна. Часткова гэта тлумачыцца тым, што пераплётная справа з'яўляецца самастойным рамяством і апраўдана залічваецца ў раздзел дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Першымі пераплёт атрымалі пергаменныя кнігі, якія мелі форму кодэкса (збрашураваных паміж сабой сшыткаў), абавязковымі элементамі былі дашчаныя крышкі і зашпількі альбо завязкі, якія не давалі пергамену карабаціцца. Тэхніка пераплёту старых кніг амаль да дробязяў супадае з той, што і зараз прымяняецца пры ручным пераплёце: перапісаныя сшыткі (секстэрны) майстар падбірае ў блок, потым акуратна выраўноўвае і, заціснуўшы ў прас (струбцыну), робіць уздоўж тарцавога боку некалькі (2—6) надрэзаў. Праз надрэзы прапускаецца вяроўка — яна змацоўвае сшыткі паміж сабой і з крышкамі пераплёту. Працэс працы пераплётчыка неаднаразова ў дэталях паказаны на заходнееўрапейскіх гравюрах XVI—XVIII стст. Пергамен выраблялі ў майстэрнях па апрацоўцы скур у гарадах Вялікага Княства Літоўскага, а таксама прывозілі з-за мяжы. Так, мытная кніга Брэсцкай каморы (мытні) за 21 лютага 1583 г. адзначае, што ў ВКЛ прывезены гатовы пергамен, які мерацца «ў кніжках»: «Марцін Шлегель, вольневец, меў тавар свой з Любліна праз прыяцеля свайго Бацлера... кніжак пергаменовых тузінаў 14»[356].

Створаныя ў ВКЛ у XIII—XIV стст. кнігі не захавалі аўтэнтычных пераплётаў і абкладаў. Мы можам толькі меркаваць, у тым ліку па зашпільках з археалагічных раскопак, што па канструкцыі і знешнім выглядзе яны знаходзіліся ў плыні ўсходнееўрапейскай традыцыі, якая бярэ пачатак у эпоху Старажытнай Русі.

У XV ст. распаўсюдзіўся гатычны тып пераплёту. Канструктыўна ён уяўляў дашчаныя крышкі, абцягнутыя скурай, абрэзаныя на адным узроўні з блокам кнігі. Зашпількі выконваліся ў выглядзе металічных колцаў на скураных раменьчыках, якія накідваліся на медныя цвікі, забітыя ў абрэз верхняй крышкі. У першай палове XV ст. у ВКЛ з'явіліся кнігі на паперы, але масавае іх распаўсюджанне супала з пачаткам тут кнігадрукавання і прыпадае на пачатак XVI ст. Пры гэтым вытворчасць пергаменных ру-

[355] АВАК. Т. 40. Вільна, 1915. С.
[356] АСД. Т. 3. С.289—322.

капісных кніг значна паменшылася[357]; выключэнне складалі толькі габрэйскія кнігі-сувоі са спісамі Торы — традыцыя і тэхналогія іх вырабу не змянялася да канца XVIII ст., пераплёт для іх не рабілі.

Скура пераплёту часам мае цісненне; сабраны з асобных элементаў альбо цэльнаметалічны абклад мацаваўся на верхняй крышцы — навугольнікі няправільнай рамбічнай формы па краях, у цэнтры часта рабілі сярэднік, на ніжняй крышцы пераплёту — металічныя пуклі («жукі», «гузы»). Для асабліва каштоўных пераплётаў рабіўся абклад, які складаўся з суцэльных альбо фрагментарных металічных частак. Для абкладаў выкарыстоўвалі каштоўныя камяні і металы, што стала прычынай іх знішчэння пад час войнаў.

У канцы XV ст. у канструкцыі пераплёту з'яўляюцца тыя прыкметы, якія зробяцца дамінантнымі ў XVI ст. Абрэз рабілі не на адным узроўні з блокам кнігі, ён выходзіў на 2—3 мм за блок, край яго пачалі зразаць на вугал. Змяняецца канструкцыя зашпілек. Цяпер іх выраблялі ў выглядзе пары металічных зашчэпак. Адна мацавалася на правым баку верхняй дошкі пераплёту ў выглядзе накладкі, другая — да раменьчыка і ніжняй дошкі. Характэрным прыкладам першых рэнесансавых пераплётаў мяжы XV і XVI стст. з'яўляюцца пераплёты месячных Міней, зробленыя ў Слуцку альбо Вільні (БАНЛ, F19-156, F19-161). Добра выробленая, упрыгожаная рознымі цісненнямі скура пакрывае дзве трэці верхняй дошкі, спінка амацуецца да паласы тоўстай шэрай скуры, якая ўсутык злучана з ціснёнай. Аналагі такой наборнай канструкцыі можна знайсці сярод нямецкіх і польскіх пераплётаў таго часу.

Своеасаблівага мастацкага эфекту дасягнулі майстры, якія замест металічных навугольнікаў і сярэдніка рабілі падобнае цісненне на скуры пераплёту: на вонкавым баку верхняй крышкі золатам, на ніжняй крышцы — срэбрам. Для такой работы ўжывалі штампы; вырабляліся яны прафесійнымі залатарамі, сярод іх — галоўны мюнцмайстар віленскага манетнага двара Ганс Трыльнер і іншыя вядомыя майстры[358].

**Пераплётных спраў майстры**. Першыя ўпамінанні пра пераплётчыкаў належаць да XVI ст.; па звестках Э. Лаўцявічуса, з нашымі невялікімі дапаўненнямі, можна гаварыць не менш чым пра 127 пераплётчыкаў, якія працавалі ў ВКЛ ад XVI да XVIII ст. Добра захавалася інфармацыя пра майстроў віленскага цэха пераплётчыкаў. Кожны майстар мог мець памочнікаў — падмайстраў. Каб стаць майстрам, падмайстар рабіў 12-тыднёвае падарожжа (вандроўку). Ёсць звесткі аб знаходжанні ў 1586 г. у Кракаве некалькіх віленскіх мяшчан; двое з іх паведамілі, што навучаліся свайму рамяству ў Вільні[359]. Пасля вандроўкі прэтэндэнт паказваў цэху «штуку» — некалькі сваіх лепшых, розных па фармаце пераплётаў, а таксама наладжваў баль. Цэхавы храм, вакол якога ў гэты перыяд групуюцца пераплётчыкі, — сабор Св. Яна (універсітэцкі касцёл). Тут яны бяруць шлюб, хрысцяць дзяцей. Габрэі-пераплётчыкі ўпамінаюцца асобна. Э. Лаўцявічус гаворыць пра пераплётны цэх, што дзейнічаў пры праваслаўнай мітраполіі[360]. Магчыма, што ў ім было раскошна пераплецена напрастольнае Евангелле, якое член віленскага магістрата, райца Якаў Іванавіч уклаў у царкву Прачыстай Багародзіцы ў Вільні ў 1594 г. Кніга гэтая захавалася, але пераплёт страчаны. Якім ён быў, даведваемся з укладнога запісу: «...евангелле... на паперы александрыйскай пісанае і аксамітам чырвонавішнёвым крытае і срэбрам пазлацістым з абодвух бакоў, а на вянцох з каменнем і перлы апраўнае...»[361] Віленскае брацтва мела свайго пераплётчыка, у якога на дзень тумулта 1611 г. у працы знаходзілася 35 кніг (аб крадзяжы іх была пададзена пратэстацыя ў магістрат). Мала інфармацыі пра пераплётчыкаў, што жылі па-за сталіцай — напэўна ж не адзін іерэй Парфірый з Любчы (упамінаецца ў 1512 г.) мог пераплятаць кнігі, аднак іншых імёнаў мы не ведаем.

Пераплётчык (інтралігатар) у дакументах часта яшчэ называецца «бібліяпола». Ва ўсіх пяці выданнях слоўніка Шырвіда (ад 1629 да 1713 г.) можна знайсці такія азначэнні пераплётчыка і кнігагандляра (лацінскі і польскі

[357] Выраб актаў на пергамене працягваўся да XVIII, а ў некаторых выпадках і да XIX ст.
[358] *Laucevičius E.* Knygų irišimai Lietuvos bibliotekosė. Vilnius, 1976.
[359] *Topolska M. B.* Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. S. 158—159.
[360] *Laucevičius E.* Knygų irišimai Lietuvos bibliotekosė. № 74—86.
[361] *Никольский А. И.* Описание рукописей, хранящихся в архиве Святейшего Правительствующего Синода. Т. 1. С. 13—14.

артыкулы з «Dictionarium trium linguarum in usum studiosae iuventutis» R. P. Constantino Szyrwid S. J. Vilnae, MDCCXIII):

***Пераплётчык**: Introligator.* Librorum compactor, bibliopegus. *Kniginikas, knigu apdaritoias.*

***Кніжнік-прадавец кніг**: Książnik, kramarz ksiąg.* Bibliopola, librarius. *Tawornikas knigu, pardaweias knigu.*

Некаторыя дакументы (часта дакументы судовыя) называюць нам імёны майстроў і высвечваюць факты іх біяграфій. На жаль, пераважная большасць пераплётаў з тых соцень і тысяч, што захаваліся, не падпісаны імем пераплётчыка. Вельмі цяжка вызначыць, быў той ці іншы пераплёт зроблены ў Вялікім Княстве альбо прывезены разам з кнігай (калі кніга немясцовага паходжання). Праўда, у некаторых выпадках гэта зрабіць можна. Прынамсі тады, калі пераплётчык ужывае штэмпелі, выробленыя на віленскім манетным двары. Да такіх, між іншым, адносіцца серыя штэмпеляў з выявай (у профіль) Ісуса Хрыста і надпісам «IESVS CHRISTVS FILIVS DEI VIVI SALVATOR MVNDI REX REGUM DOMINUS DOMINANTIVM» (варыянты: невялікія адрозненні ў выяве Хрыста і напісанні апошняга слова: dominantivm, dominanti, dominant, domina); некалькі пераплётаў з выкарыстаннем такіх штэмпеляў знаходзіцца сёння ў віленскіх бібліятэках[362]. У Бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук захоўваецца кніга з пераплётам такога тыпу (надпіс цэнтральнай планкеткі адрозніваецца ад апісаных Лаўцявічусам тым, што два апошнія словы скарочаныя: «...DOMIN. DOMIN»). Гэта выдавецкі канвалют кёльнскай друкарні Брыкмана: «Polonia: sui de origine et rebus gestis polonorum libri XXX» Марціна Кромера, «Sigismundi Senioris Regis Poloniae res gestas» Бернарда Вапоўскага, «De bello moscovitico commentariorum libri tres» Рэйнольда Гейдэнштэйна і некалькі драбнейшых твораў[363]. Калі прыняць пад увагу, што пераплёт гэтай кнігі акрамя цэнтральнай планкеткі мае выціснены загаловак і дату: «CHRONICA CROMERI 1589», а кніга выдадзена таксама ў 1589 г., то можна казаць пра аператыўны прывоз у ВКЛ прадукцыі розных еўрапейскіх друкарняў і перапляценне гэтых кніг у Вільні. Далейшае распаўсюджанне перапледеных паасобнікаў можна прасачыць па ўладальніцкіх запісах на кнігах: гэта Bibliotheka Magna Віленскай акадэміі, бібліятэкі Слуцкага канвента ордэна мінарытаў, Крожскай езуіцкай калегіі, святара-дамініканца Дамініка Сівіцкага з Гродна. Пецярбургскі паасобнік перапленага у Вільні «Хронікі» Кромера дайшоў да Маскоўскай дзяржавы — ён мае шматлікія запісы маскоўскім скорапісам XVI—XVII стст., сярод іх паведамленне, што кніга была ўласнасцю вядомага дыпламата і перакладчыка пасольскага прыказа Спафарыя.

Як высокамастацкую залаташвейную працу можна характарызаваць аксамітны, з вышытым залатымі і срэбнымі ніткамі суперэкслібрысам Мікалая Радзівіла Чорнага пераплёт кнігі «Гісторыя Багеміі» 1552 г. Лацінскі надпіс, вышываны на верхняй крышцы, датычыць герба Радзівілаў: «Juppiter expansis aquilae laetatur in alis te deus at tu nos dilige quaeso tuos» — «Юпітэр радуецца распасцёртым крылам арла. Цябе ж, о Божа, я прашу, каб ты любіў нас тваіх...»[364]

Прафесія пераплётчыка была дастаткова рэдкай і дэфіцытнай. Дакументамі зафіксавана, як аднойчы гэты «дэфіцыт» выкарыстаў аматар лёгкай нажывы. У 1645 г. у Магілёўскі брацкі манастыр быў прыняты пераплётчык Аляксандр, выхадзец з Кіева. Ён набраў кніг у вучняў брацкай школы, манахаў і нават у мясцовага харужага, а потым нечакана знік[365].

Выдатны пераплётчык, што зрабіў абклад для куцеінскага 1647 г. «Трыфалагіёна», працаваў напярэдадні маскоўскай вайны ў Оршы ці Куцейне. У яго распараджэнні было багата інструменту, прынамсі авальны штэмпель з выявамі сцэны Хрышчэння, чатыры штэмпелі з выявамі евангелістаў, некалькі бардзюрных штэмпеляў рознага малюнка. Характэрна, што на адным пераплёце выка-

[362] Э. Лаўцявічус паказаў на безумоўна віленскае паходжанне пераплётаў з такімі штэмпелямі (*Laucevičius E.* Knygų irišimai Lietuvos bibliotekosė. № 353, 354, 357, 359). Усе кнігі ў такіх пераплётах — еўрапейскія выданні (Парыж, Антверпен, Франкфурт, Нюрнберг, Страсбург) 1570—1590-х гг.

[363] БАН СПб. Фонд рэдкай кнігі. Шыфр 9f/2682—2683.

[364] За прачытанне надпісу дзякуем супрацоўніку РНБ Юрыю Аляксеевічу Палуэктаву.

[365] Г. Галенчанка знайшоў гэты цікавы дакумент у ЦДГА Беларусі ў Мінску (ф. 1828, воп. 1, спр. 12, арк. 503 адв.).



*Пераплёт гістарычнай хронікі чэшскага гуманіста Яна Дубравіўса (Jan Skála z Doubravky, 1486–1553) Historia regni Bohemiae (1552). Надпіс, арнаменты і герб Мікалая Радзівіла Чорнага вышытыя на аксаміце срэбнымі і залатымі ніткамі. Кніга з Нясвіжскай ардынацкай бібліятэкі, зараз знаходзіцца ў Санкт-пецярбургскай бібліятэцы Акадэміі навук.*

рыстаны штэмпелі з надпісамі на польскай (лацінкай) і славянскай (кірыліцай) мовах.

У XVII ст. у ВКЛ склаўся свой, адметны тып пераплёту, які атрымаў назву «літоўскага». У прыватнасці, у вопісе Свіяжскага Багародзічнага манастыра названыя чатыры друкаваныя кнігі (верагодна, віленскага альбо магілёўскага друку) «в литовских переплётах»[366].

Асобныя пераплётныя майстэрні меліся пры буйных друкарнях: братоў Мамонічаў, манастыра Св. Духа. На пераплётах, што выходзілі з друкарні універсітэта традыцыйна рабілася цісненне выдавецкай маркі ў выглядзе палаючага крыжа і трох літар: «IHS», за якімі можна бачыць першыя літары выказвання імператара Канстанціна (паспяхова ваяваў супраць арыян у 313 г.): «In Hok Signo» — «Гэтым знакам [пераможам]»; можна прачытаць гэтую абрэвіятуру як «Iesus Hominum Salvator» (Ісус — выратавальнік людзей)[367].

Вось кароткія біяграфіі вядомых сёння пераплётчыкаў XVI ст. (паводле Э. Лаўцявічуса).

1. Аскола Ян. У 1575 г. у віленскага пераплётчыка Я. Марковіча працаваў пераплётчык Я. Аскола з Кракава. Адпраўляючыся ў Вільню, гэты падмайстар застаўся вінаваты кракаўскаму пераплётчыку М. Кекулу 30 флорынаў. У тым жа годзе, прыехаўшы ў Кракаў, Марковіч запісаў у кнізе цэха кракаўскіх пераплётчыкаў абяцанне вылічваць штомесяц частку заробку Яна Асколы і пасылаць у Кракаў. У 1577 г. у той жа кнізе запісана, што М. Кекула атрымаў ад Я. Марковіча ўвесь доўг і больш не будзе мець да яго ніякіх прэтэнзій.

366 *Сапунов Б. В.* Из истории международных книжных связей Московской Руси XVI–XVII веков // КИМ. 1971. Сб. 22. С. 115.
367 *Бунин П.* Иезуиты. Л., 1990. С. 16.

2. Багдан (Багдановіч, Багдановік) Станіслаў. У 1580—1583 гг. гандляваў кнігамі і быў пераплётчыкам. У 1582 г. уступіў у брацтва св. Ганны. Кнігі атрымліваў ад К. Патруса з Познані. Быў жанаты на дачцэ пераплётчыка Грыгера. Памёр «bibliopola Vilnensis» Станіслаў Багдан у 1591 г.

3. Балтазар. У канцы XVI ст. пераплётчык у Познані. Да таго працаваў у віленскага пераплётчыка Марковіча.

4. Брэтнер Давыд. У 1598 г. у брацтва св. Ганны запісаўся Д. Брэтнер, «bibliopola Vilnensis».

5. Войцэх Літвін. У сакавіку 1512 купец з Познані Ф. Клос меў справы з віленскім купцом і пераплётчыкам Войцэхам Літвінам.

6. Гаўрыла. У 1519 г. кнігагандляр з Познані судзіўся з віленскім кнігагандлярам Гаўрылам.

7. Грыгер. У 1586 г. у цэх кракаўскіх пераплётчыкаў запісаўся пераплётчык Маціс, які вучыўся ў віленскага пераплётчыка Грыгера. У 1586 г. у брацтва св. Ганны запісалася дачка пераплётчыка Грыгера Ганна, якая выйшла замуж за «бібліяполу» С. Багдана. 10 лютага 1613 г. пераплётчык Грыгер выступаў як сведка ў судзе.

8. Мігдалоўскі Паўлюк. У 1595 г. у кнізе пераплётчыкаў, якія прыехалі ў кракаўскі цэх на практыку, запісана, што з Вільні прыбыў падмайстар Мігдалоўскі, які вучыўся ў віленскага майстра Марковіча.

9. Марковіч Якуб. У 1579 г. вядомы друкар Якаў Марковіч называе сябе пераплётчыкам на службе Мікалая Зяновіча.

10. Матысь Інтралігатар. У 1587 г. у цэхавай кнізе кракаўскіх пераплётчыкаў значыцца падмайстар Матысь з Вільні, які вучыўся ў пераплётчыка Грыгера. Вярнуўшыся на радзіму, у 1604, 1611 і 1612 гг. віленскі пераплётчык Матысь распісваўся як сведка пры шлюбах ў прыходскіх кнігах.

11. Парфірый. На ніжняй крышцы рукапіснага Пралога (БАНЛ, F19-95) ёсць прыпіска: «Пераплётена быс сіа кніга рукою іярэя Пръфіріа іж у Любчі 1512 жн 20».

12. Радзішэўскі Анісім. У 1588 г. з Літвы ў Маскву прыбыў пераплётчык Анісім Міхайлаў сын Радзішэўскі, атрымаў у Маскве ад цара дом, працаваў пераплётчыкам у дзяржаўнай друкарні.

13. Сеніцкі Станіслаў. У 1569 г. віленскі пераплётчык С. Сеніцкі меў свой дом «за рэчкай», на зямлі капітулы, і плаціў за яго падаткі (апошняе ўпамінанне ў 1573 г.).

14. Ферман Літвін. У 1522 г. познанскія кнігагандляры мелі справы з Ферманам Літвінам з Вільні.

15. Францыск (Franc, introligatores Francisco). У 1569 г. кнігі для віленскай капітулы пераплятаў майстар Францыск. На зямлі капітулы «за ракой» ён меў дом і плаціў арэнду. У 1581 г. жонка віленскага пераплётчыка Францыска Сафія запісалася ў брацтва св. Ганны.

16. Фроліх Войцэх. У 1586 г. у Вільні жыў гандляр кнігамі і пераплётчык В. Фроліх. К. Патрус з Познані забяспечваў яго кнігамі.

17. Ясклоўскі Ян. У 1595 г. у цэхавых кнігах кракаўскіх пераплётчыкаў запісана, што Ян Янкоўскі навучаўся рамяству ў віленскага пераплётчыка Я. Марковіча.

Кароткія біяграфіі вядомых сёння пераплётчыкаў першай паловы XVII ст. :

1. Аляксандр. У архівах віленскага магістрата захавалася скарга (ад 8 чэрвеня 1648 г.) старэйшага майстра віленскага цэха пераплётчыкаў Аляксандра віленскаму бурмістру на пераплётчыка І. Вяжбоўскага.

2. Базюлевіч Ян. Віленскі пераплётчык. 27 жніўня 1633 г. ажаніўся з Анастасіяй Міцкевіч і атрымаў пасагу 9 коп і 4 грошы.

3. Былінскі Адам. Віленскі пераплётчык. 6 студзеня 1624 г. ажаніўся з Рэгінай Ясенскай.

4. Вітовіч Ян. 9 студзеня 1641 г. ажаніўся віленскі пераплётчык Ян Вітовіч.

5. Вольрабі Іаан. У пачатку XVII ст. меў у Вільні пераплётную майстэрню і кніжную лаўку, а таксама нерухомасць. Да 1633 г. з'ехаў у Амстэрдам, дзе працаваў пераплётчыкам. 21 снежня 1633 г. Уладзіслаў IV прызнаў за А. Пелегрынам вымарачную нерухомую маёмасць «бібліяполы» Іаана Вольрабі.

6. Вычкіс Якуб. 10 мая 1628 г. віленскі пераплётчык Я. Вычкіс ажаніўся з Р. Сапега.

7. Гладзіс Маціяс. У 1645 г. у Кракаў для практыкі прыбыў з Вільні вучань-пераплётчык Маціяс Гладзіс.

8. Гонеч Ян. У кнізе цэха кракаўскіх пераплётчыкаў за 1602 г. запісана, што Ян Гонеч навучыўся пераплётнаму майстэрству ў Вільні ў Марковіча; пачынаў працаваць у Познані.

9. Грудзінскі Юры. Віленскі футалярщчык і пераплётчык Юры Грудзінскі ажаніўся ў 1631 г. з Ганнай Гулевіч.

10. Дубялевіч Мацей. У 1641 г. у Кракаў да пераплётчыкаў І. Моленда і І. Барычковіча прыбыў на практыку пераплётчык-падмайстар Мацей Дубялевіч з Вільні.

→ *Пераплёт кнігі з бібліятэкі Жыгімонта Аўгуста.*

11. Ендрысь Інтралігатар. У 1603 г. віленскі пераплётчык Ендрысь ажаніўся з Я. Мілеўскай, сведкам быў пераплётчык Якуб Марковіч. У 1603 і 1610 гг. Ендрысь выступаў як сведка на вяселлях.

12. Мірк Войцэх. 16 лютага 1627 г. віленскі пераплётчык Войцэх Мірк ажаніўся з Эльжбетай.

13. Міхал Інтралігатар. 23 студзеня 1611 г. віленскі пераплётчык Міхал запісаны як сведка пры рэгістрацыі шлюбу.

14. Макрыцкі Крыштаф. У 1623 г. віленскі футаляршчык і пераплётчык Крыштаф Макрыцкі ажаніўся з Кацярынай Касціцкай.

15. Маркевіч Міхал. У 1643 г. жыхар Вільні пераплётчык М. Маркевіч меў свой дом, пабудаваны на царкоўнай зямлі.

16. Пянькоўскі Марыян. 21 чэрвеня 1624 г. віленскі пераплётчык М. Пянькоўскі ажаніўся з Ц. Шапаловічавай.

17. Пракаповіч Лявон. У 1677 г. пераплётчык Лявон Пракаповіч разам з жонкай Даротай скардзіліся на пераплётчыка Я. Вяжбоўскага, што той прыйшоў да іх у хату, біўся, сварыўся, называў зладзеямі і г. д. Майстэрня Л. Пракаповіча была ў доме Каткевіча.

18. Рэк Готард. Пераплётчык і гандляр кнігамі. Меў пераплётную майстэрню і кніжную лаўку ў Вільні яшчэ да 1633 г. Пасля яго смерці жонка (Рэкава) працягвала гандляваць кнігамі і ўтрымлівала пераплётную майстэрню. 20 ліпеня 1633 г. Уладзіслаў IV даў ёй прывілей, згодна з якім Рэкава магла купляць кнігі за мяжой, пераплятаць іх і прадаваць ў Вільні і другіх гарадах Вялікага Княства Літоўскага. Ёй таксама дазволена было мець 4 падмайстраў і вучняў. Магістрат абавязаны быў апекаваць Рэкаву і сачыць, каб цэх яе не крыўдзіў.

19. Сымон Інтралігатар. 22 студзеня 1612 г. пераплётчык Сымон ажаніўся з Ганнай Вітапокавай. 3 жніўня 1617 г. у брацтва св. Ганны запісалася жонка пераплётчыка Сымона Ганна.

20. Ховель Горвард (Gothard van Hovel). У 1665 г. працаваў у Вільні пераплётчыкам.

21. Шварц Эндрусь. У 1623 г. працаваў у Вільні пераплётчыкам.

22. Шчурэцкі Ян. 21 красавіка 1614 г. у кнізе рэгістрацыі шлюбаў запісаны сведкам віленскі пераплётчык Ян Шчурэцкі.

23. Якімовіч Матысь. У 1622 г. дачка віленскага пераплётчыка Матыся Якімовіча Юстына выйшла замуж за друкара Віленскай акадэміі Мікалая.

24. Якуб. 2 верасня 1633 г. сінод евангелічнай рэфармаванай царквы скардзіўся бурмістру, што пераплётчык Якуб, які жыве ў доме, што належыць сіноду, п'е, уздымае шум, распачынае бойку, і прасіў выгнаць Якуба з дома. У 1643 г. пераплётчыка Якуба ужо не было ў жывых. У чэрвені 1643 г. генеральная сесія сінода евангелістаў-рэфарматаў дaручыла Р. Грыкавічы праверыць, колькі ва ўдавы Якуба засталося пераплеценых Біблій.

У актавай кнізе Гродзенскага земскага суда за 1578—1579 гг. захаваўся запіс аб памылцы пераплётчыка: «Помылкою интролигатора жида, тут тая секстерна вставлена, якая мела быть нижей на роки о Трох Королях»[368]. Аўтографы пераплётчыкаў на кнігах сустракаюцца досыць рэдка. Вось адзін з іх, датаваны 1610 г.: «Сіе Евангелле напрестольное аз многогрешный Іван Васильевич родом з Пинска зъінтроликговал»[369]. Часам з тэксту прыпіскі незразумела, чый аўтограф — пераплётчыка альбо заказчыка, на чые сродкі выкананы пераплёт.

Прыкладам можа быць прыпіска на супрасльскім «Ірмалоі» Фёдара Семіяновіча: «Сия книга глаголемая Ірмолой интроликгована бысть за старанем честнаго отца Силуяна Кунцевича на тот час будучи наместником монастыря Супрасльскаго року 1644 месяца августа 12 дня», альбо запіс скорапісам XVIII ст. на адгорце верхняй крышкі лемяшэвіцкага Евангелля (РНБ, СПБ ДА А-І. 116): «Року тысяча семсот семдесятага оправилем на име Базилеи Павловичь Лемешевьски на церковь Лемешевицкую Рождества Пресвятои Богородици Богу на честь на хвалу мисяца мая семнадцатого дня». Трэба заначыць, што гэты вельмі прыгожы пераплёт, які мы можам назваць адным з лепшых узораў беларускага «уніяцкага класіцызму» ў мастацтве XVIII ст., парушыў прапорцыі рукапіснай кнігі XVI ст.: пры абрэзе была часткова знішчана багатая арнаментацыя на палях.

[368] *Бершадский С. А.* Литовские евреи. С. 410.
[369] *Щапов Я. Н.* Собрание И. Я. Лукашевича и Н. Я. Маркиевича: Описание. М., 1959. С. 55.

# БІБЛІЯТЭКІ

Аналізуючы кніжную культуру Вялікага Княства Літоўскага XVI—XVII стст., нельга абысці ўвагай такую з'яву, як стварэнне прыватных і царкоўных збораў — бібліятэк.

Найбольш ранні вядомы нам дакумент аб вялікай асабістай бібліятэцы свецкага характару датуецца 1510 г. Гэта запісанае ў Метрыцы ВКЛ апісанне збору, які налічваў 71 кнігу. Большасць з іх (39) — кірылічныя «рускія», крыху менш паловы — лацінскія, а таксама адна польская (кніга пра Аляксандра Македонскага, акантаваная срэбрам) і тры чэшскія (усяго 19 назваў у 27 тамах). Акрамя кніг рэлігійнага зместу ў рускай і лацінскай частках гэтага збору ёсць творы свецкага характару: «Кніга Александрыя», дзве кнігі «Пра Трою», «Польскі Статут», «Летапісец Кіеўскі». Літоўскі гісторык Канстанцін Яблонскіс лічыць занесеныя ў Метрыку кнігі ўласнасцю канцлера і віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштольда. Падставай для гэтага з'яўляецца тое, што ў той самы дзень, што і спіс кніг (8 мая 1510 г.), у Метрыку быў запісаны (той самай рукой) спіс маёмасці ў Дзівінішках і Малых Троках — маёнтках Гаштольда. Пасля смерці Альбрэхта Гаштольда (1539) і яго адзінага сына, наваградскага ваяводы Станіслава (1542), які не пакінуў нашчадкаў, кнігі, як і іншая маёмасць, перайшлі ва ўласнасць вялікага князя Жыгімонта І Старога, які ў 1543 г. перадаў іх свайму сыну Жыгімонту Аўгусту [370]. Згодна з другой гіпотэзай, унесеныя ў Метрыку кнігі належаць Ягелонам і перададзены Жыгімонтам І Старым вялікаму князю Жыгімонту Аўгусту ў 1510 г.[371]

Славутая рэнесансная бібліятэка Жыгімонта Аўгуста, якая збіралася ў Вільні ў 1545—1572 гг., мела 4000 тамоў і змяшчала кнігі па розных галінах ведаў. Большасць кніг каралеўскага збору мелі пераплёт з суперэксклібрысам. Гэтая бібліятэка была адной з самых вялікіх, добра падабраных і добра дагледжаных у Еўропе. Бліжэйшыя суседзі — прускія герцагі таксама стварылі выдатную бібліятэку[372]. Ёсць меркаванні аб наяўнасці добра падабранай бібліятэкі ў першага маскоўскага цара — Івана Грознага[373]. Пасля смерці Жыгімонта Аўгуста бібліятэка была распылена — у наш час польскай даследчыцы А. Кавецкай-Грычовай удалося рэканструяваць значную яе частку.[374] У першыя гады XXI ст. дзякуючы даследаванням Марыі Ткачэнка ў РНБ былі знойдзены 105 кодэксаў з суперэксклібрысам віленскай бібліятэкі караля і вялікага князя літоўскага. Асобным выданнем выйшлі апісанні кніг з бібліятэкі Жыгімонта Аўгуста, якія захоўваюцца ў Бібліятэцы Расійскай Акадэміі навук[375]. Паколькі А. Кавецка-Грычова пецярбургскія знаходкі не выкарыстала, то ў будучым магчыма працягнуць даследаванне гэтага унікальнага кнігазбору.

У XVI—XVII стст. склад прыватных бібліятэк князёў Царквы змяніўся — мы знаходзім у іх побач з богаслужбовымі кнігамі палемічныя, гістарычныя, юрыдычныя, геаграфічныя. Склад такіх кнігазбораў з большай ці меншай паўнатой адлюстравалі тэстаменты і вопісы маёмасці. Характэрным прыкладам можа быць рэестр кніг, што засталіся пасля смерці пінскага епіскапа Грыгорыя, складзены пісарам Сільвестрам Каглобам у 1631 г. Рэестр уключае апісанне 53 кніг на царкоўнаславянскай (славенскай), беларускай і польскай мовах. Лацінскія кнігі называюцца ў канцы спіса без апісання: «лацінскіх кніг 39». У асобную кнігу сабраныя казанні самога епіскапа. Пры складанні рэестра Сільвестр Каглоба называў загаловак кнігі, часам аўтара; адзначаў, друкаваная кніга альбо рукапісная. Адзін раз адзначана наяўнасць пераплёту і адзін раз названы матэрыял, на якім кніга перапісана. Паколькі гэты цікавы помнік не апублікаваны, мы прыводзім яго цалкам, захоўваючы асаблівасці правапісу, уключыўшы вынасныя літары і раскрыўшы тытлы.

[370] *Jablonskis K.* Lietuvių kultura ir jos veikojai. Vilnius, 1973. P. 353—357.
[371] *Gębarowicz M.* Na śladach polskich bibliotek królewskich // Roczniki biblioteczne. 1970. Z. 1/2. S. 113—139.
[372] *Tondel J.* Srebna Biblioteka księcia Albrechta Pruskiego i jego żony Marii. Warszawa, 1994.
[373] *Стеллецкий И. Я.* Поиски библиотеки Ивана Грозного. М., 1999.
[374] *Kawecka-Gryczowa A.* Biblioteka ostatniego Jagellona. Pomnik kultury renesansowej. Wrocław etc., 1988.
[375] *Савельева Е. А.* Книги из библиотеки польского короля Сигизмунда II Августа: Каталог. СПб., 1994.

**Реестръ списаня книгъ его милости небожчика епископа Григорыя Туровского и Піньского пастыра нашого**[376]

Быблеі две словенских острозких
Беседы Апостола Павла и деяния
Правила белооправные великія
Треод посная друкованая
Служебник святительський
Апостолъ старый паркгаменовы
Апостолъ писаный
Прелог писаный на весь рокъ
Книга Кирила Александрейского
Евангелие учителное писаное
Треод посная друкованая
Казания небожчиковские рукописаные
Правила малые
Беседы Іоанна Златоустаго на столпъ Матфев
Синаксар всего лета
Книга святого Великого Василия
Требник старый писаный
Книжъка Анерезыс
Книга Ахванасия Александрейского
Зерцало богословское друкованое
Апостолъ скорописный
Треод цветная писаная
Книжъка о едности православия
Партес фастыкулы звязаныхъ
Постановленикъ на паркгамене
Книжка спор о жидах
Статут московский
Статут Литовский словенский
Констытуция полска сейму варшавскего
Кройника полска
Книжка право саске майдеборске
Книжъка полска о сакраментахъ
Постыля ксендза Скаркги
Собор Флоренский
Псалтырь Кохановского
Ксенъжка на схизматыков
Кройника князства Литовского
Книжка артыкуловъ розмаитыхъ
Наука умираня християнского
Лист до законников виленских Святого Духа
Юстыфикацыя невинносци
Живот светого Игнациуша
Росправа мендзы Апологиею Смотрицкого
Отпис законников виленских Светои Троицы
Тетратка милостивого лета
Казания о светобливом животе
Стежка до милости Божей
Тестаментъ полский
Казаня полске недзелне
Две постыли полских
Братства виленского книжка выдана
Лацинскихъ книг 39

Селивестр Коглоба рукою своею

Пасля смерці ўладальніка такія бібліятэкі звычайна рассыпаліся — кнігі разыходзіліся згодна з апошняй воляй гаспадара. Так, у духоўніцы ўладыкі Луцкага і Астрожскага Кірылы Цярлецкага ёсць распараджэнне палову кніг (колькасць якіх не названа) перадаць цэрквам у Рэчыцы і Пірковічах.

Меншымі, чым у епіскапаў, былі кнігазборы простых святароў. Духоўніца (тэстамент) віленскага святара, іерэя Мацея, складзеная 9 мая 1522 г., называе 17 кніг. Большасць з іх гаспадар пакідае царкве св. Георгія, у якой служыў, астатнія размяркоўвае паміж двума храмамі — віленскім саборам Прачыстай Багародзіцы і браслаўскім св. Мікалая — і сваімі сябрамі, святарамі розных сталічных цэркваў: «А книгу мою Правила светых отец даю в церковь соборную Пречистое Богоматере на память мне и родителем моим, а иньших книжок моих 10, малых и великих, вси тые даю в церковь светого Георгия и вси тыи книги выимянованы суть в Требнику моем, што з крестом, который же дал есми посполу з тыми книгами, а Служебник мой в полдесть, што отласом крыт, то даю в церковь Пречистое Богоматере в город... А отцу моему духовному Перенесенскому Якову... две книжици мои: одна, што небожчик Игнат дьякон писал, будучи архимандрит в Лаврашовом монастыри, а другая книжка поталью крыта, што мне дана по Малаху уставнику... Воскресенскому попу Фёдору выбойная книга Царства... Ивану попу Михаиловскому книга моя в полдесть Монаканон... а дьяку моему Андрейцу... Часословчик в четвертинку...»[377].

Захаваўся тэстамент святара Пакроўскай царквы Іаана Мацвеевіча, які ў 1546 г. ахвя-

[376] Арыгінал захоўваецца ў архіве Пецярбургскага філіяла Інстытута расійскай гісторыі Расійскай Акадэміі навук (ф. 52, воп. 1, № 28, арк. 1—2).
[377] АСД. Т. 6. С. 12—15.

рує гэтаму храму пабудаваны сваім коштам мураваны дом, а таксама «Апостол зуполный не апракос» і восем Міней[378].

Кнігі для царкоўнага ўжытку маглі быць уласнасцю царквы (фундатараў), а часам — святара. У апошнім выпадку, змяняючы месца службы, святар забіраў з сабой патрэбныя кнігі (магчыма, гэта было адной з умоў прызначэння, выбару).

Дакумент 1602 г. фіксуе такі факт: святара Брэсцкага павета Сегеня Семяновіча абрабаваўураднік Шчыгельскі, сярод забраных рэчаў Евангелле, якое каштавала 2 капы грошай літоўскіх, і Актоіх[379].

У 1641 г. ксёндз з Аршанскай езуіцкай калегіі Мікалай Сівіцкі завяшчаў для касцёла ў маёнтку Дабрыно наступныя кнігі: «біблія лацінская, старая, у аркуш, Кірыл Іерусалімскі, у аркуш, Magister sententiarum in quarto, Agendam octawo[380].

**Бібліятэкі Радзівілаў**. Адным з найбольш старажытных і ўплывовых магнацкіх родаў Вялікага Княства быў род Радзівілаў (Осцікавічаў). Родавы герб — тры трубы (альбо тры паляўнічыя рогі) — належыць не да польскіх гербаў, але да нешматлікіх геральдычных помнікаў уласна з Вялікага Княства — як «Пагоня» і «Слупы». Гэты княжацкі род у XVI ст. падзяліўся на дзве лініі: пратэстанцкую — біржайскую і каталіцкую — нясвіжскую. Прадстаўнікі абедзвюх канфесій з таго часу праводзілі розную палітыку, у тым ліку і ў галіне культуры. Характэрнай, аднак, з'явай была верацярпімасць унутры роду і перавага родавых інтарэсаў для членаў роду рознага веравызнання. Некаторыя з Радзівілаў выступалі як аўтары, і аўтары досыць папулярныя. Так, Мікалай Сіротка напісаў запіскі пра сваё падарожжа ў Святую Зямлю — кніга гэтая была выдадзена на лацінскай мове першы раз у Брунсбергу (Бранёве) і потым некалькі разоў перавыдавалася рознымі еўрапейскімі друкарнямі. Альбрэхт Станіслаў Радзівіл выдаў, таксама на лацінскай мове, тры кнігі: дзве ў 1655 г. у Варшаве, у друкара Фёрстэра, а адну ў 1639 г. у Кракаве, у друкарні Пётркоўчыка. Характэрна, што ні аднаго выдання гэтых аўтараў не здзейснілі друкарні ВКЛ.

Радзівілы-каталікі і Радзівілы-кальвіністы шмат зрабілі для развіцця кнігадрукавання ў Вялікім Княстве, часта ўплывалі на профіль друкарняў, над якімі яны апекаваліся. Гэта Брэсцкая, Віленская акадэмічная, Нясвіжская, Слуцкая, Кейданская. Захаваныя інвентары радзівілаўскіх бібліятэк адлюстроўваюць розны падыход да іх камплектавання. Акрамя таго, як біржайскія, так і нясвіжскія Радзівілы спрыялі развіццю асветы, фінансавалі школы, а гэтым ускосна спрыялі развіццю асабістых бібліятэк настаўнікаў і вучняў. Радзівілам часта прысвячалі розныя выданні, у якіх аўтары праслаўлялі мецэнацтва князёў[381].

Пачатак Нясвіжскай замкавай бібліятэкі ўзыходзіць да Мікалая Радзівіла Сіроткі (1549—1616), які не толькі меў уласны багаты кнігазбор, але і па-бібліяфільску аздабляў яго, прынамсі меў уласны суперэкслібрыс[382]. Замкавую бібліятэку Сіроткі папоўнілі кнігі яго бацькі, Мікалая Радзівіла Чорнага, які карыстаўся павагай сярод інтэлектуалаў свайго часу. Сярод гэтых кніг базэльскае 1556 г. выданне папулярнага ў тагачаснай Еўропе твора В. Бальдзані і Дж. П'ерыё «Іерагліфіка». Кожная частка гэтай велізарнай кнігі прысвечана аднаму са славутых людзей Еўропы, у тым ліку 42-я — Мікалаю Чорнаму (у камплементарным прысвячэнні называецца таксама «імператар Жыгімонт, які кіруе Сармацкім каралеўствам»). Пасобнік, што захаваўся ў Нясвіжскай бібліятэцы, мае выдатны кракаўскі пераплёт з суперэкслібрысам Мікалая Чорнага і дара-

[378] АСД. Т. 6. С. 37—38.

[379] Опись документов Виленского центрального архива древних актов. Вып. 10. Вильна, 1913. С. 283—284.

[380] ИЮМ. Вып. 26. Витебск, 1895. С. 117.

[381] *Jarczykowa M.* Radziwiłłowie Birżańscy i Nieświescy wobec książek w XVI i w pierwszej połowie XVII wieku: Zarys problematyki // Badania księgozbiorów Radziwiłłów. S. 15—34.

[382] Суперэкслібрыс Мікалая Сіроткі захаваўся на кнізе езуітаў Іераніма Прада і Джанбатысты Вільяльпандзі «In Ezechielem explanationes et apparatus urbis, ac templi Hierosolymitani commentariis et imaginibus illustratus opus trius tomus distinctum, quid vero singulis contineatur, quarta pagina indicabit» (Romae, 1596—1604). Пераплёт чырвонай скуры з цісненымі золатам лінейнымі рамкамі і суперэкслібрысам М.-Х. Радзівіла на абедзвюх крышках. На форзацы экслібрыс Радзівілаў. На франтыспісе запіс: «Ascriptus catalogo Bibliothecae arcis Nesvisienis». Кніга трапіла ў Бібліятэку Расійскай Акадэміі навук у 1772 г. з бібліятэкай Радзівілаў (шыфр 2001fm/5409R).

вальным запісам яму ад Андрэя Патрыцыўса[383]. Мікалай Сіротка пакідаў бібліятэку сыну Яну Юрыю Радзівілу (1583—1625) і яго спадчыннікам з умовай, каб кнігі не былі расцярушаны.[384] У бібліятэцы Польскай Акадэміі навук у Курніку (шыфр Sygn. 1320) захаваўся інвентар Нясвіжскай бібліятэкі, складзены ў 1651 г. бурграфам Нясвіжскага замка Янам Хановічам для Аляксандра Людвіка Радзівіла, сына Сіроткі, нясвіжскага ардыната ў 1636—1654 гг. Інвентар улічвае 743 назвы і складаецца з дзвюх частак. Першая частка (ад № 1 да 501) змяшчае тэматычны пераліс кніг па 31 раздзеле. Асаблівасць яе ў тым, што сюды ўключаны кнігі, выдадзеныя пераважна да 1616 г. (г. зн. да смерці Мікалая Сіроткі). Ва ўступе адзначана, што такі — тэматычны — каталог пажадаў зрабіць Антоні Пасевін. Другая частка інвентара Хановіча пабудавана ў алфавітным парадку (№ 502—743). На аснове гэтага інвентара Тадэвуш Бернатовіч зрабіў спробу рэканструкцыі кнігазбору Мікалая Сіроткі[385]. Найбольшую колькасць гэтай бібліятэкі складалі кнігі рэлігійнага зместу (160 назваў), якія ўваходзілі ў тэматычныя раздзелы «Biblia Sacra», «Sancti Patres», «Interpretes SS. Scripturae», «Rituales», «Dogmatici», «Controversistae», «Historiae Ecclesiasticae», «Scholastici». Свецкая літаратура знаходзілася ў раздзелах «Iura et decreta», «Imagines variae», «Politici», хоць і сюды трапілі часткова кнігі на рэлігійную тэматыку. У асобны раздзел былі вылучаны «італьянскія манускрыпты». Зацікаўленасць Мікалая Радзівіла Сіроткі ваеннай справай і архітэктурай — ён будаваў мураваны замак у Нясвіжы — выявілася і ў падборы кніг у раздзелах «Militares», «Libri militari», «Mapp, mundsztukow, fortec i innych sztuk abrysy». Тут побач з класічнымі трактатамі Вітрувія і Альберці знаходзіліся шматлікія італьянскія, нямецкія, французскія выданні на гэтую тэматыку, некаторыя з іх багата аздобленыя малюнкамі і чарцяжамі. У раздзеле «Mathematici» знаходзілася «Геаграфія» Пталямея, працы Мажыні, Пітaлі, Тартаглі і інш., кнігі па астраноміі і астралогіі. Шмат у бібліятэцы кніг па гісторыі — як мясцовай (Марцін Кромер, Рэйнольд Гейдэнштэйн, Станіслаў Ажэхоўскі, Гвагніні), так і ўсеагульнай класічнай (Лівій, Плутарх, Фукідзід, Тацыт, Дзіянісій з Галікарнаса, Святоній, Герадот, Пліній, Ксенафонт) і новай (Геснэр, Сігоніўс, Бонсінус, Іёвіўс, Барлетус). Кнігі Платона, Арыстоцеля, Сенекі знаходзіліся ў раздзеле «Philosophici». Папаўняўся гэты раздзел і новымі выданнямі — творамі Раймонда Люлія, Піка дэла Мірандолы.

Свецкая мастацкая літаратура пададзена, акрамя выданняў Тасо, Арыёста, Авідзія і Каханоўскага, у раздзеле «Poetae», галоўным чынам панегірыкамі і «меморыямі» членаў роду Радзівілаў, а таксама знакамітых асоб Вялікага Княства і Кароны. Частку падобных выданняў Ян Хановіч залічыў у раздзел «Oratores» свайго інвентара разам з кнігамі Цыцэрона.

Якія ж кнігі ў зборы Сіроткі мы маглі б назваць калі не рэдкасцямі і рарытэтамі, то асабліва каштоўнымі? Для самога гаспадара гэта былі хутчэй за ўсё выданні, звязаныя з родам Радзівілаў — як увогуле, так і з асобнымі прадстаўнікамі. У бібліятэцы захоўвалася выданне «Гіпікі». Прысвячэнні Мікалаю Радзівілу Чорнаму змешчаны ў кнігах, якія выпушчаны прафесарам грэцкай мовы і вядомым базельскім выдаўцом І. Апорынам[386], друкарняй базельскага выдаўца Пятра Перны[387]; Радзівілам прысвяціў кнігі паслядоўнік П. Перны — К. Вальдкірх[388]. Тут жа стаяць кнігі Радзівілаў-пісьменнікаў: «Перыгрынацыя» Мікалая Сіроткі, «Latinae....» Караля Радзівіла і інш. Для параўнання: у навуковай бібліятэцы другой паловы XVI ст., якая належала англійскаму матэматыку, алхіміку і астролагу Джону Дзі (John Dee, 1527—1608), паводле яго сцвярджэння, з 4000 кніг на долю друкаваных твораў прыпадала толькі тысяча[389].

383 *Bolzani V., Pierio G.* Hieroglyphica sive De sacris Aegyptiorum literis commentarii [...]. Basileae, 1556. — Шыфр 4597f/5032R. У макулатуры, з якой склеены кардон пераплёту, ёсць кавалак друкаванай старонкі з гравюрай (герб Польшчы) і выхаднымі звесткамі: «Cracoviae, Lazarus Andree excudebat MDLIII».

384 *Topolska M. B.* Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. S. 207.

385 *Bernatowicz T.* «Biblioteka jest jedna ozdoba...». S. 43—49.

386 Demetrius Phalerius. De elocutione liber. Basiliae, 1557.

387 *Ohino B.* Dialogorum liber secundus. Basiliae, 1563.

388 Chrzastovius. Duo libelli de opificio Misse. Basiliae, 1594; Epicedia in illustrissimi et magnanimi principis dn. domini Christophori Radziwilli Birzarum et Dubinki dynastae [...] obitum. Basiliae, 1603.

389 *Thornton J. L., Tylly R I. J.* Scientific Books. London, 1971. P. 340.

Як выглядала бібліятэка Нясвіжскага замка ў сярэдзіне XVII ст., дае ўяўленне апісанне яе памяшканняў у інвентары 1658 г., складзеным пры передачы спраў Янам Хановічам Людвіку Смятанскаму: «Ад студні ідучы надворкам да пакояў гараднічага, па правай руцэ сходы, якімі ідуць на вал і да бібліятэкі; перад бібліятэкай — скляпеністая арка, мураваная, што пераходзіць на вал з абодвух бакоў... У той жа браме дзверы ў сені... Сені перад бібліятэкай скляпеністыя; у іх уваход па сходках. У сенях па левай руцэ пакойчык жылы, з новым вакном... Насупраць таго пакойчыка — другі пакойчык з адным акенцам закратаваным... З тых жа сеняў да самай бібліятэкі дзверы вялікія...

У той бібліятэцы алтарык разной работы, стары, папсаваны, і сходы пад алтарыкам старыя, струхнелыя, памост з цёсу пад шпунт, усё выслана, формаў альбо лаваў зялёнафарбаваных для сядзення дзве, пюпітр таксама зялёнафарбаваны для раскладання градуалу адзін; шафаў зялёнафарбаваных, з кратамі зялёнымі, таксама фарбаванымі, у якія кнігі складзены, восем, усе з багатымі дзверкамі на жалезных завесах і з унутранымі замочкамі для замыкання; скрыняў вялікіх... дзве — гэта старыя скрыні, у якія рэшта кніг зложана; скрыняў вялікіх счывелёвых... дзве; скрыняў і скрынак меншых, з рознымі справамі, стаіць восем. Дзевяты кораб вялікі, таксама з рознымі справамі і рэестрамі. Таксама інвентарамі лічэбнымі рознымі пп.ураднікаў.

Заведванне той бібліятэкай і справамі замкавымі на сённяшні час застаецца за ключом пана Хановіча. Вокнаў у той бібліятэцы... шэсць...; у куце камін для агню; пасярод бібліятэкі на жалезным ланцужку вісіць лямпа бляшаная, пабеленая; памяшканні яе шклом маскоўскім выраблены. Крытая бібліятэка шпунтаваным цёсам, па ім бляха жалезная...»[390].

Мы ўжо згадвалі, што 30 снежня 1655 г. у Тыкоціне памёр Януш Радзівіл. Пасля яго засталіся кнігі: скрыня на возе з кнігамі старымі, пісанымі; скрынка доўгая жалезная з кнігамі друкаванымі; шуфляда з кнігамі; дзве шуфляды вялікія з бібліятэкай. Куды дзеліся гэтыя скрыні і шуфляды — невядома.




*Партрэты караля Яна Казіміра і канцлера ВКЛ Альбрыхта Станіслава Радзівіла (з сем'ямі?), якія моляцца да Багародзіцы на правым беразе Віслы, на фоне занятай шведамі Варшавы. Авантытул кнігі Альбрыхта Радзівіла «Elogium duodecim virtutum sine labe conceptae deiparae virginis Mariae». Варшава, друкарня Георгія Форстэра, 1655 г.*

Праз дванаццаць гадоў брат Януша, Багуслаў Радзівіл, складаў свой тэстамент (27 снежня 1668 г.) у Орлі на Падляшшы недалёка ад Тыкоціна. Кнігі ён адпісваў у Кёнігсберг свайму адзінаверцу, курфюрсту Брандэнбургскаму. Пры перадачы ў Прускую Каралеўскую бібліятэку кнігі Багуслава Радзівіла атрымалі адмысловы «данацыйны» экслібрыс, а праз некаторы час і друкаваны каталог[391].

Некалькі кніг з маляванымі пяром вывамі Радзівілаў і іх подзвігаў Багуслаў завяшчаў перадаць у Нясвіж на вечнае захаванне[392]. Гаспадаром нясвіжскай ардынацыі ў гэты час быў прадстаўнік каталіцкай галіны роду Радзівілаў Альбрэхт Станіслаў, дзяржаўны канцлер Вялікага Княства Літоўскага, бібліяфіл, дыпламат, рэлігійны пісьменнік[393].

[390] Цыт. па: *Bernatowicz T.* «Biblioteka jest jedna ozdoba...». S. 48–49.
[391] Series librorum qui bibliothecae in Prussiae Regiąe auqmento Radziviliana post editum hujus anno 1673 catalogum novi accessere. Regiomonti, 1712.
[392] АСД. Т. 8. Вильна, 1870. С. 417.
[393] *Съвяжынскі У.* Пасьлядоўнік Льва Сапегі. Жыцьцё і мэмуары Альбрыхта Станіслава Радзівіла // Спадчына. 1995. № 6 (114). С. 123–169.

У XVIII ст. Радзівілы працягвалі выдаткоўваць на папаўненне бібліятэкі вельмі значныя сродкі. Так, у лісце да вядомага польскага бібліяфіла Іосіфа Андрэя Залускага У. Радзівіл пісаў: «Я сёння паслаў у Галандыю вексель на дзве тысячы флорынаў на кнігі для маёй бібліятэкі»[394]. Значныя папаўненні зрабіў для бібліятэкі Карл Станіслаў Радзівіл. Гэта пераважна французскія кнігі. Але ёсць і лацінскія, як, напрыклад, львоўскае 1734 г. выданне турэцкага аўтара Дуры эфендзі пра пасольства ад турэцкага султана ў Персію ў перакладзе на лацінскую мову Юды Крусінскага. Траплялі да Радзівілаў кнігі з іншых бібліятэк. Напрыклад, выдадзеная ў 1734 г. у Урбіна кніга Пятра Антонія Мафеі «Esercizj spirituali di Sant'Ignazio Lojola...» мае адзнаку, што належала яна базыльяніну, епіскапу Ясону Смагажэўскаму.

Вывучэнне комплексу розначасовых інвентароў радзівілаўскіх бібліятэк, якія захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Беларусі, дало магчымасць Г. Галенчанку вылучыць апісанні кнігазбораў Нясвіжскага замка і палаца ў Бялай, біржайскіх Радзівілаў, а таксама прыватных бібліятэк Саламона Рысінскага і Лукаша Беднарскага[395]. У 1868 г. пяцітамовы каталог бібліятэкі біржайскай ардынацыі (перавезена ў 1867 г. у Востраў) склаў Яўстах Тышкевіч. На той час яна мела 4353 кнігі, у тым ліку 2604 французскія, 1077 польскіх і 150 рускіх[396].

Значныя кнігазборы Радзівілы мелі таксама ў сваім палацы ў Бялай на Падляшшы. Маёнтак Бяла пакінуў Мікалаю Радзівілу Сіротку ў 1568 г. Юры Іллініч, спадчыннік Пятра Іванавіча Кішкі. Сын Сіроткі — Аляксандр Людвік Радзівіл пабудаваў тут палац, які сведчыў аб перамяшчэнні інтарэсаў Радзівілаў да цэнтра Рэчы Паспалітай, быў крокам ад родавай рэзідэнцыі ў Нясвіжы да новай сталіцы — Варшавы[397]. Пасля таго як у 1760 г. Міхал Казімір Рыбанька ад свайго малодшага брата атрымаў у спадчыну Бялу і тытул «графа Бяльскага», ён зрабіў грунтоўны рамонт палаца і рэвізію бібліятэкі. Частка кніг была пераплецена, зроблены цікавыя канвалюты. Адзін з такіх канвалютаў зараз захоўваецца ў Славянскім фондзе Бібліятэкі Расійскай Акадэміі навук (шыфр XXIX/а5063). У адным пераплёце злучана 12 самастойных выданняў (алігатаў), на кожным з якіх рукой князя напісана «З бібліятэкі маёй маці»... «KS.X.R.».

Апошні з нясвіжскіх ардынатаў — сын Міхала Казіміра Рыбанькі Караль Станіслаў (1734—1790), празваны «Пане Каханку», застаўся адной з самых папулярных асоб свайго часу, героем анекдотаў і рамантычных паданняў. У яго руках было сабранае за стагоддзі багацце ўсёй сям'і — буйнейшая маёмасць у Вялікім Княстве. На набыццё новых кніг для бібліятэкі ён штогод выдаткоўваў вялізную суму грошай — 200 злотых. Караль Станіслаў прыняў актыўны ўдзел ў палітычнай барацьбе; яго імя звязана з таямнічай княжзёўнай Тараканавай, праз шлюб з якой «Пане Каханку» сур'ёзна разлічваў стаць расійскім манархам.

У 1772 г. яго маёмасць была секвестравана Расійскай дзяржавай. Бібліятэка, сярод іншых каштоўнасцей, была вывезена з Нясвіжскага замка А. Бібікавым і перададзена Акадэміі навук у Пецярбурзе, у той час калі сам уладальнік знаходзіўся ў вымушанай эміграцыі. Гісторыя бібліятэкі Радзівілаў надзвычай драматычная. Упершыню з родных сцен частка кніг знікла ў 1768 г. у выніку разрабавання замка. «...Падначаленыя разрабавалі арсенал, частку яго запасаў прадалі прусакам, частку пакінулі сабе; у самым жа замку яны не пакінулі ні аднаго дарагога прыбора і аніводнай кнігі ў бібліятэцы», — пісаў Караль Станіслаў у 1772 г. міністру замежных спраў Францыі[398]. Не вельмі зайздросны лёс быў у Нясвіжскай бібліятэкі і ў далейшым.

Вопісы названых бібліятэк захаваліся ў Цэнтральным гістарычным архіве ў Мінску (ф. 694, № 450, с. 1—42). Невялічкая бібліятэчка, якая налічвала 179 назваў на

[394] Цыт. па: *Roszak S.* Środowisko intelektualne i artystyczne Warszawy w polowie XVIII w. Między kulturą sarmatyzmu i Oświecenia. Toruń, 1997. S. 51.

[395] *Голенченко Г. Я.* Описи библиотек и книжных собраний Радзивилов в Национальном архиве Беларуси // Badania księgozbiorów Radziwiłłów. S. 55—61.

[396] БАНЛ. F-31 b NN 1463 [t. 1], 1464 [t. 2], 1467 [t. 3], 1466 [t. 4], 1462 [t. 5].

[397] *Baranowski J.* Pałac w Białej Podlaskiej. Próba rekonstrukcji stanu z XVII w. // Biuletyn historii sztuki. 1967. № 1. S. 39—57.

[398] Korespondencya księcia Karola Stanisława Radziwiłła wojewody wileńskiego «Panie Kochanku» 1762—1790 / Wyd. Kazimierz Waliszewski. Kraków, 1888. S. 83.

лацінскай, польскай і нямецкай мовах, мелася ў XVIII ст. у палацы Радзівілаў у Кейданах[399].

Нясвіжская бібліятэка на момант вывазу ў Пецярбург налічвала каля 22 тысяч кніг. Па еўрапейскіх мерках гэта быў значны, але не вельмі вялікі кнігазбор. Для параўнання: англійскі натураліст і медык Ганс Слоан (1660—1753) меў бібліятэку, у якой акрамя 40—50 тыс. друкаваных тамоў быў збор гравюр, малюнкаў і карцін і да 4000 рукапісаў[400].

Калі вясной 1775 г. Караль Станіслаў Радзівіл прыняў у Венецыі ад расійскага пасла Отта Магнуса фон Штакельберга шэсць мільёнаў злотых выкупу за канфіскаваныя ў яго ўладаннях каштоўнасці, гэта сведчыла, прынамсі, што Нясвіжская ардынацкая бібліятэка перастала быць дзейным культурным асяродкам на беларускіх землях ВКЛ, а яе гаспадар з гэтым пагадзіўся. Фактычна бібліятэка ўжо ад жніўня 1772 г. ляжала запакаваная у 94 скрынях у сутарэннях Акадэміі навук у Пецярбурзе. «Многочисленное собрание книг, хранимое в то время в Несвице, что в Литовском княжестве, перевезено и приобщено к нашему. Дивно, что война, наукам везде зловредная, в России им полезна...» — пісаў бібліятэкар Акадэміі, немец на расійскай службе Іаган Бакмейстэр[401]. Французскі гісторык Кастэра датаваў вываз бібліятэкі 1771 г.: «Сама імператрыца ўдзельнічала ў падзеле здабычы. Славутую бібліятэку князя Радзівіла, скарбонку літоўскай гісторыі, захапілі і адправілі ў Пецярбург; няма сумневу, што яна адтуль больш не вернецца»[402]. Калі з датай Кастэра памыліўся, то меркаванне наконт вяртання гэтага кніжнага скарбу на радзіму спраўдзілася.




*Экслібрыс Нясвіжскай ардынацкай бібліятэкі. На ім наклейка з шыфрам Бібліятэкі Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургзе, у якой зараз захоўваецца кнігазбор Радзівілаў.*

Па распараджэнні Акадэміі навук у цэнтральнай частцы будынка Кунсткамеры, пад вежай, былі зроблены 34 шафы, у якія расклалі нясвіжскія кнігі[403]. І хутка пра іх... забыліся. Падарожны візіцёр у 1791 г. убачыў такі малюнак: «Другое памяшканне, маленькая ратонда, вельмі цёмная, дзе знаходзіцца калекцыя кніг Радзівіла, якія таксама зусім занядбаныя, як і тыя, што былі ў першай зале»[404]. Тым не менш у 1801 і 1841 гг. былі складзены каталогі радзівілаўскай бібліятэкі. Карыстаючыся імі, Э. Вальтэр вызначыў, што ў 1772 г. у Пецярбург прывезены 9673 назвы кніг[405]. У выглядзе асобнага комплексу Нясвіжская бібліятэка не захавалася. Нека-

[399] Каталог гэтых кніг захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага універсітэта (шыфр F. 4. № 17289).
[400] *Thornton J. L., Tylly R I. J.* Scientific Books. P. 345—346.
[401] *Бакмейстер И.* Опыт о библиотеке и кабинете редкостей и истории натуральной Санкт-Петербургской императорской Академии наук. СПб., 1779. С. 43.
[402] *Castera J.* Historire de Catherine II, impératrice de Russie. T. 2. Paris, an VIII [1800]. P. 223—224.
[403] История Библиотеки Академии наук СССР. 1714—1964. М.; Л., 1964. С. 138.
[404] Fortia de Piles. Voyaje de deux fransais en Allemagne, Danemark, Suede, Russie et Pologne fait en 1790—1792. T. 3. Paris, 1796. — Выказваем падзяку Уладзіміру Сомаву, які паказаў нам на гэтую крыніцу, таксама як і на работу Кастэра.
[405] Доклады и отчеты Русского библиологического общества 1915—1916 гг. Пг., 1917. С. 47.

торая частка кнігазбору пакінула Акадэмію: у 1813 г. было адпраўлена 1697 назваў (2545 тамоў) дублетаў у Маскоўскі універсітэт для аднаўлення згарэлай бібліятэкі, а ў 1829 г. частка выданняў тэалагічнага і юрыдычнага зместу была падаравана універсітэту ў Хельсінкі[406]. Кнігі на замежных мовах увайшлі ў сістэматычную расстаноўку так званага «бэраўскага» фонду.

У 1882 г. усе выданні на польскай мове, што былі ў бібліятэцы, у тым ліку і са збору Радзівілаў, увайшлі ў склад Славянскага фонду (які праіснаваў да 1930 г., потым быў закрыты, адноўлены ў 1995 г.). Раней, у 1840—1845 гг., польскамоўныя кнігі Акадэміі навук, у тым ліку Нясвіжскай бібліятэкі (усяго 2636 тамоў), разабраў і апісаў А. Старчэўскі[407]. Ён успамінаў: «Я очутился совершенно в новом мире: передо мною была масса старинных книг, разного достоинства и форматов, хотя кое-где уже погнивших, но это были драгоценные и редкие представители старинной польской литературы и науки, о которых я не имел ни малейшего понятия. Здесь не место распространяться о том, что такое была Несвижская библиотека... Там есть неоцененные сокровища для истории польского права и политической истории Польши XVI и XVII столетий»[408]. Успаміны А. Старчэўскага істотна паўплывалі на грамадскую думку ў Расіі і Польшчы, дзе Нясвіжскую бібліятэку пачалі лічыць «даўнім польскім кнігазборам».

У 1914 г. (што супала з падрыхтоўкай да пераезду бібліятэкі ў новы будынак) супрацоўнікі Славянскага аддзела пачалі працы па выяўленні асабліва каштоўных збораў[409]. Важнейшай задачай лічылася рэканструкцыя Нясвіжскай бібліятэкі. Верагодна, менавіта ў той час на некаторых картках алфавітнага каталога Славянскага фонду з'явілася метка «BR». Па падліках загадчыка Славянскага аддзела Э. Вальтэра, на пачатку XX ст. ва ўсіх фондах Бібліятэкі Акадэміі навук захоўваліся 9673 кнігі з Нясвіжа[410]. Пазней у асобныя фонды адбіралі радзівілаўскія інкунабулы, рэдкія кнігі, карты.

Чарговая кардынальная змена лёсу кнігазбору адбылася ў 1921 г. Непрызнанне на той час Расіяй і Польшчай якіх-небудзь правоў Беларусі прывяло да абмеркавання на пасяджэннях савецка-польскай камісіі па выкананні Рыжскай мірнай дамовы амбіцыёзных прэтэнзій абодвух бакоў на каштоўнасці князёў Радзівілаў, між іншым і на бібліятэку[411]. Рэальным вынікам стала тое, што раптам зніклі карткавыя каталогі 1801 і 1841 гг. — магчыма, былі знішчаны.

Ардынацкая бібліятэка мела не менш як шэсць розных экслібрысаў[412], аднак на шмат якія кнігі экслібрысы не былі наклеены. Вызначыць прыналежнасць кніг без экслібрысаў да Нясвіжскай бібліятэкі (пры наяўнасці ў БАН фондаў дзесяткаў старых прыватных бібліятэк) — задача, якую ў 1920-я гг. не змаглі вырашыць ні кнігазнаўцы, ні палітыкі ад культуры.

Пазбегшы гвалтоўнай «рэвіндыкацыі» радзівілаўскія кнігі ўратаваліся, воляй лёсу, ад пажару Варшавы пад час Другой сусветнай вайны, у якім згарэла значная частка атрыманых Польшчай паводле Рыжскай дамовы старажытных рукапісаў і кніг. Бібліятэку Расійскай Акадэміі навук чакаў свой страшны пажар у лютым 1988 г.

Вызначыць панесеныя страты ад гэтага пажару адразу было проста немагчыма. Прыкладна праз месяц дырэктар бібліятэкі назваў жудасныя лічбы: згарэла каля 400 тысяч кніг, каля 3,5 мільёна пры тушэнні пацярпелі ад вады[413].

Пра тое, што сярод згарэлых былі кнігі «из крупнейшей для своего времени частной библиотеки Радзивиллов, складывавшейся

[406] История Библиотеки Академии наук СССР. С. 197.

[407] Тамсама. С.204.

[408] *Старчевский А. В.* Воспоминания старого литератора // Исторический вестник. 1888. Октябрь. С. 99.

[409] *Ольденбург С. Ф.* Отчет о деятельности Российской Академии наук по отделениям физико-математических наук и исторических наук и филологии за 1916 год. Пг., 1916. С. 45.

[410] Доклады и отчеты Русского библиологического общества 1915—1916 гг. С. 47.

[411] Абставіны абмеркавання лёсу радзівілаўскай бібліятэкі адлюстраваныя ў запісах петраградскага бібліятэкара Дз. Шамрая (Аддзел рукапісаў РНБ, ф.1105, № 15).

[412] *Wittyg W.* Ex-librisy bibliotek polskich XVII i XVIII wieku. Warszawa, 1903. S. 59; Стефанович А. В. Экслибрисы библиотеки Несвижской ординации Радзивиллов в фондах ЦНБ НАН Беларуси // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. Вып. 3. Мн., 1998. С. 23—31.

[413] *Самойлис С.* Тяжелый урок. Пожар в Библиотеке АН СССР: ликвидация последствий // Ленинградская правда. 1988. 27 марта. С. 3.

на протяжении около двух столетий», першы напісаў акадэмік Дз. Ліхачоў[414]. Потым гэта пацвердзіла газета «Советская культура», змясціўшы фотаздымак з экскаватарам, які разбірае гару попелу ад згарэлых кніг вышынёй з двухпавярховы дом[415].

Сёння фонды Радзівілаўскіх бібліятэк знаходзяцца ў розных зборах Расіі, Польшчы, Беларусі і Летувы.

Нядаўна падрыхтаваны першы каталог з апісаннем толькі радзівілаўскіх кніг, але не ўсіх, а толькі часткі на славянскіх мовах.

1. Бібліятэка Расійскай АН.

2. Хельсінскі універсітэт. У бібліятэцы выяўлены 820 радзівілаўскіх кніг на лацінскай і заходнееўрапейскіх мовах. Яны апісаны як асобная калекцыя[416].

3. Мінск, НБ.

4. Мінск, БАН[417].

5. Мінск, Прэзідэнцкая бібліятэка[418].

Тры апошнія пазіцыі — гэта кнігі з пазнейшых (пасля 1772 г.) збораў Радзівілаў.

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў найбольш актыўна вывучаліся тыя кнігі Нясвіжскай бібліятэкі, якія захоўваліся ў фондах Аддзела рэдкай кнігі Бібліятэкі Расійскай Акадэміі навук. Гэтая частка радзівілаўскіх кніг навукова апісана, неаднойчы выкарыстана ў арганізаваных аддзелам выставах. Напрыклад, рарытэты са славутага кнігазбору былі прадстаўлены на кніжных выставах «Польская книга XVI—XIX вв. в фондах Библиотеки Российской Академии наук» і «Литваника» XVI—XX вв. в собрании Библиотеки Российской Академии наук»[419].

Кнігазбор Радзівілаў працягвае заставацца прадметам навуковага вывучэння расійскіх, польскіх і беларускіх даследчыкаў. Апошнім важным крокам стаў каталог (506 апісанняў), падрыхтаваны супрацоўнікамі Славянскага фонду Бібліятэкі Расійскай Акадэміі навук[420].

Сярод уладальніцкіх запісаў вядомыя наступныя:

*«Adscriptus catalogo Bibliothecae Nesvisiensis».*

*«CSNM» — Carol Stanislaw Radziwiłł.*

*«Celsissimus Dux Michal Casimirus Radziwil Elegit horam Undecimam ad Duodecimam die Coenae Domini».*

*«Adscriptus Bibliothecae Arcis Bialensis».*

*«Ill[ustrissi]mo et Reverendiss[imo] Georgio Radivila SRE Cardinali et Episcopo Vilnen[si] D[omi]no colendissimo Add.»*

*«AKR» — Anna Katarzyna Radziwiłł.*

*«Nicolaus Christophorus Radzivil, Dei gratia dux Oliva et Neswiesce, comes Schidlowiecz».*

Нават фрагменты радзівілаўскага кнігазбору даюць каштоўную інфармацыю для даследчыкаў. Радзівілы як прадстаўнікі палітычнай эліты свайго часу вялікую ўвагу аддавалі вывучэнню палітычных і прававых сістэм Польшчы і іншых еўрапейскіх дзяржаў, ваеннай справы, сачылі за ходам рэлігійна-палітычных дыскусій, цікавіліся навінкамі і класічнымі творамі мастацкай літаратуры. Шмат на якіх кнігах маюцца запісы. Напрыклад, на «Тайнах» А. Педэмонці ў перакладзе С. Сляшкоўскага запісаны рэцэпт анісавай гарэлкі. Некаторыя кнігі захоўваюць сляды асаблівай да іх увагі. Сярод такіх карэктурны паасобнік перапрацаванага выдання «Ваенных артыкулаў» М. Радзівіла і «Малітвы Прасвятой Дзеве Марыі» В. Ахабовіча, дапоўненыя рукапісным тэкстам.

Экслібрысы і суперэкслібрысы, раскошныя пераплёты, у тым ліку з унікальнымі фігурнымі зашпількамі, кніжныя закладкі (сярод апошніх — тонкай работы выцінанка ў паасобніку «Жыція Госпада і Бога нашаго...» Банавентуры, а таксама маленькія гравюры з выявамі святых, укладзеныя ў некаторыя кнігі), характарызуюць Нясвіжскую бібліятэку як помнік феадальна-замкавай культу-

[414] *Лихачев Д. С.* Горькие мысли после пожара // Книжное обозрение. 1988. 18 марта. С. 16.

[415] *Потемкин В., Шварц В.* До пожара, после пожара... // Советская культура. 1988. 28 апреля. С. 6.

[416] *Havu S., Lebedeva I.* Collections donated by the Academy of Sciences of St. Petersburg to the Alexander University of Finland in 1829: An annotated catalogue. Helsinki, 1997. P. 249—352.

[417] *Стефанович А. В.* Книги Радзивиллов в коллекциях Библиотеки Академии наук Республики Беларусь // Badania księgozbiorów Radziwiłłów. S. 63—67.

[418] *Герасімаў В. М.* Калекцыя «Бібліятэка Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў» у фондах Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. Вып. 3. С. 16—23.

[419] *Савельева Е. А.* и др. «Литваника» XVI—XX вв. в собрании Библиотеки Российской Академии наук: Каталог выставки. СПб., 1997.

[420] Собрание польских старопечатных книг в славянском фонде БАН. СПб., 1999. Вып. 1. Несвижская ординатская библиотека Радзивиллов // Сост. О. В. Гусева, Е. В. Комиссарова.



*Выцінанка з вывай Укрыжавання, якая была кніжнай закладкай. З бібліятэкі Нясвіжскага замка. XVIII ст.*

ры XVI–XVIII стст. Шматлікія прысвячэнні і даравальныя запісы прадстаўнікам роду Радзівілаў дазваляюць пашырыць уяўленне аб культурным і сацыяльна-палітычным значэнні гэтага магнацкага роду ў гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

У апошнія гады зноў распачалася праца па выяўленні менш вядомых экзэмпляраў «нясвіжскага паходжання» у польскім раздзеле Славянскага фонду. Ініцыятыва належала галоўнаму захавальніку асноўнага фонду бібліятэкі Л. Івановай, паасобнікі з экслібрысамі Радзівілаў адабраныя бібліятэкарам Е. Кофанавай пры дакументальнай праверцы фонду. Некаторыя паасобнікі апісаны на аснове іншых уладальніцкіх прыкмет (уладальніцкія запісы Радзівілаў, характэрныя пераплёты з фігурнымі зашпількамі) альбо паметы «BR» у алфавітным каталогу. Адзін з самых частых уладальніцкіх запісаў – польскі і лацінскі варыянты манаграмы Канстанцыі Сапегі (KSDR, CSDR).

**Іншыя прыватныя бібліятэкі.** У гісторыі ВКЛ значную ролю адыгрывалі прадстаўнікі старажытнага магнацкага роду Тышкевічаў. На жаль, звестак аб кнігах, звязаных з Тышкевічамі, няшмат. Захаваўся спіс вучыцельнага Евангелля, які кнігапісец Іаан зрабіў для смаленскага ваяводы Васіля Тышкевіча. Гэты рукапіс цікавы тым, што пазнейшы чытач перакладаў славянскія словы на мясцовы беларускі дыялект, выкарыстоўваючы кірылічны, лацінскі алфавіты альбо іх сумесь:

сп[а]с[е]ніа (с.67) – sbawienia,

г[оспо]дьствую[т] над ними (с.70) – panuia nad nimi,

Бл[а]гдтію и ч[е]л[ове]колюбіем (с.72адв.) – Ласкою и члко Любіем,

Прославите (с.84) – Выхваля[і]те,

Стеноградіе (с.85адв.) – будоване.

У 1658 г. пад час судовага працэсу паміж братамі Вішнявецкімі было зазначана, што іх дзед, віленскі ваявода Ян Скумін Тышкевіч, пакінуў «księgi różne wielkiej wagi i wielkiego szacunku i biblioteką najmniej na 30 000 zł szacowana»[421].

Багатым і цікавым быў збор Аўрама Кульвы (Кульвецыса) (каля 1510–1545 г.), у якім налічвалася 90 кніг.

Значныя асабістыя бібліятэкі мелі не толькі жыхары сталіцы, але і багатыя мяшчане іншых гарадоў Вялікага Княства. Запісы ў судовай кнізе горада Коўны, напрыклад, паведамляюць, што ў 1545 г. пісар Тамаш перад смерцю адпісаў усе свае кнігі «жакам» (студэнтам). «Барабаншчык яго каралеўскай міласці» Мацей Яновіч у 1568 г. перадаў аднаму ковенскаму гараджаніну скрыню са сваёй маёмасцю – розныя рэчы і пяць кніг, сярод якіх «Сувізжал», гісторыя неапалітанскай каралевы і інш.[422] У мяшчанскім асяроддзі кнігі часам рабіліся аб'ектам судовых спрэчак: у 1539 г. віцябчанін П. Віхроў абвінаваціў гараднічага Р. Герасімовіча ў тым, што ён на працягу 7 гадоў не вярнуў яму летапісы; у 1540 г. гродзенскі мешчанін Б. Фядзьковіч падаў скаргу ў суд на былую жонку, якая прысвоіла 5 кніг.

Інвентары і вопісы маёмасці даюць магчымасць скласці агульнае ўяўленне аб кнігазборах багатых гараджан у XVII ст. Напрыклад,

[421] *Łoziński W.* Życie polskie w dawnych wiekach. S. 35.
[422] Тамсама.

пасля смерці ў 1604 г. віленскага мешчаніна Івана Рабко і яго жонкі Сцефаніды Фёдараўны ў іх мураваным доме пры брацкім праваслаўным манастыры засталіся акрамя хатніх рэчаў: «картынок друкованых паперных пят, книжка друкованая руская, псалтыр Скоринина друку, молитвы Мамоничова друку одны, книжка руская, азбука руская друкованая, миноцыи руские, кройника царства Антиохийского». Мяркуючы па вопісе маёмасці памерлага ў 1649 г. багатага купца і віленскага бурмістра Сцяпана Лябедзіча, у ягоным доме было 113 кніг рознай тэматыкі і на розных мовах. Больш за ўсё — на лацінскай (94). Сярод іх падручнік лацінскй мовы (Альвар), кнігі Арыстоцеля, Цэзара, Цыцэрона, Эразма Ратэрдамскага, апісанне падарожжа ў Святую зямлю Мікалая Радзівіла. У зборы Лябедзіча мелася пяць кніг на польскай мове — дзве Біблії, «Хроніка» Марціна Кромера, Апакаліпсіс і «Testament postarzały». «Рускіх» кніг было дванаццаць. Сярод іх рукапісны Апостал, Астрожская Біблія, «кніга св. Васіля Вялікага астрожскага друку», вучыцельнае Евангелле, «Катэхізм астрожскага друку», Псалтыр, «Малітвы друку мамонічаўскага», Апостал скарынінскага друку, «Малітвы штодзённыя».

Багаты ковенскі мешчанін Фрыдэрык Вангерэн меў у 1641 г. 54 кнігі (у тым ліку 47 нямецкіх і 7 польскіх) і 75 гравюр. Другі багаты ковенскі жыхар, купец Якуб Фрыз, у 1691 г. меў усяго 6 кніг, дзве з іх у дарагім срэбным абкладзе.

Вясной 1661 г. магілёўскі мешчанін Хама Трызніч трапіў, будучы ў Смаленску, у маскоўскі палон. Праз некалькі месяцаў яго адсутнасці гарадскімі ўладамі быў складзены попіс яго рэчаў, сярод якіх былі і кнігі: «книга тестамент руский, книга польская евангелие, книга акафисты, реестр книжка, полуустав Острожский, книга лексикон, книжка святцы»[423].

Галоўная крыніца архіўных звестак пра драбнейшыя прыватныя бібліятэкі — гэта тэстаменты, дзе кнігі пералічваліся разам з усёй маёмасцю чалавека і аддаваліся распараджэнні наконт іх далейшага выкарыстання. Часам у тэстаменце шляхціца маглі фігураваць кнігі, якіх ён ніколі не меў. Так, выпіс з судовых кніг пачатку XVII ст. расказвае, што пад час пасяджэння земскага суда ў Мінску непасрэдна ў зале пачалася сварка паміж віцебскім кашталянам князем Сямёнам Ковельскім і мінскім панам Крыштафам Завішам. Завіша стрэліў у князя, але яго засланіў сабой аддзены шляхціц, землеўладальнік з Віцебскага ваяводства Пётр Чылінскі. Праз кароткі час пасля гэтага цяжка параненны Чылінскі памёр, пакінуўшы сваёй жонцы запавет «...кнігі купіўшы да тае царквы даць, так каб хвала Божая ніколі не спынялася...»[424]. У тэстаменце аршанскага скарбніка Якуба Мікалая Ломскага ад 6 лютага таксама знаходзіцца падрабязнае распараджэнне адносна кніг: «А кнігі мае ... жонка мая мае пры сабе пакінуці, для ўжывання пры набажэнстве, а па сыходзе яе маюць быць кнігі раздадзены да цэркваў убогіх, недастатніх, а іншыя кнігі да тае царквы Куцеінскай, дзе нашы целы ляжаць будуць...»[425].

Заможны земянін Віцебскага ваяводства Рыгор Багамолец у сваёй духоўніцы, напісанай у 1641 г., падзяляе кнігі на тыя, што адыдуць да царквы (жонка і дзеці павінны даваць іх для карыстання кожнаму святару ў іх царкве), і на тыя, якія ён пакідае сваім дзецям: «А книги мои церковные, которые есмо до церкви Погоское Светого Миколы справил своим власным коштомъ, то ест, Евангелия, сребром оправная, и иншие книги, до службы Божое, мает малжонка моя и дети мои, который колвек свещенник будет у той церкви нашой Погоской, на потребу церковную и на службу Божую ужыват и дават мают, и иншые книги мои домовые: Быблия Острожска и псалтыр Кохановского и иншые всякие сыном моим записую»[426].

Адну з найбольш цікавых і значных гуманістычных бібліятэк сабраў у канцы XVI — пачатку XVII ст. Саламон Рысінскі, які служыў Крыштафу Радзівілу «Перуну» (1547—1603), а потым яго сыну Крыштафу (1584—1640). Захаваўся інвентар гэтага кнігазбору, у якім ёсць запісы пра месца і спосабы набыцця кніг, а таксама пра лёс бібліятэкі: «...я даў на перавоз кніг з Нюрнберга — 136 злотых, з Лейпцыгу — 124 і з Базеля — 152. Не ўпамінаю 140 злотых, якія мне каштавала памяшканне ў Слуцку, дзе я

[423] АВАК. Т. 34. Вильна, 1909. С. 200.
[424] ИЮМ. Вып. 22. Витебск, 1891. С. 223—233.
[425] Тамсама. Вып. 25. Витебск, 1894. С. 301.
[426] Тамсама. Вып. 26. С. 129.

захоўваў кнігі на працягу 7 гадоў» (пераклад Я. Парэцкага)[427]. У 1985 г. І. Лукшайтэ выказала гіпотэзу аб тым, што бібліятэка Саламона Рысінскага захоўвалася не ў Слуцку, як лічыў Я. Парэцкі, а ў Вільні, у «Слуцкай камяніцы» — доме на Нямецкай вуліцы, які пабудавалі князі слуцкія і які пасля 1600 г. перайшоў да Радзівілаў[428]. Усяго ў каталогу бібліятэкі Рысінскага ўлічаны 822 назвы, з якіх каля 76% (550 пазіцый) — кнігі свецкага зместу. Усе кнігі ацэнены ў 2136 злотых 6 грошаў. Частка бібліятэкі (кнігі без пераплётаў, асобныя аркушы), ацэненая ў 130 злотых, не распісана.

У бібліятэцы меліся раздзелы граматык, падручнікаў логікі і рыторык (17 кніг), матэматыкі (8), дванаццаць слоўнікаў лацінскай, грэцкай, габрэйскай, нямецкай, польскай, літоўскай моў. Вялікі раздзел класічнай літаратуры (каля 140 пазіцый), значная калекцыя выданняў Новага Запавету, Псалтыроў, а таксама поўнай Бібліі — два выданні Вульгаты, Bibilia hebraica і інш., уключаючы пераклад Сымона Буднага, выдадзены ў Нясвіжы—Заслаўі ў 1571—1572 гг. Кнігазбор Рысінскага быў не толькі навуковым інструментам самога гаспадара, але і служыў усім інтэлектуалам, якія збіраліся пры двары Крыштафа Радзівіла «Перуна» і яго цёзкісына, прынамсі Данілу Набароўскаму, Вінарду Карнеліўсу, Пятру Бластусу Кміце. Гэтая ж бібліятэка, па словах І. Лукшайтэ, «выступае як сімвал каштоўнасцей, якія злучаюць віленскіх пратэстанцкіх літаратараў, што імкнуліся — у сілу сваіх магчымасцей — уліцца ў заходнееўрапейскую культуру»[429].

**Царкоўныя бібліятэкі.** Царкоўныя зборы мелі дваякае прызначэнне: па-першае, яны служылі практычным мэтам, даючы святару неабходныя пры богаслужэнні тэксты і інструкцыі; па-другое, гэтыя кнігі былі галоўнымі (можа, і адзінымі) падручнікамі для навучання грамаце дзяцей прыхаджан. Праўда, далёка не кожная царква мела поўны камплект неабходных кніг. Інвентарныя вопісы XVI—XVIII стст. гэта пацвярджаюць. Так, напрыклад, на 1 чэрвеня 1571 г. у Іллінскай царкве ў Роскім маёнтку (на рацэ Рось) меліся «...на престоле Евангеллія апракос, другая тетро... Устав, Треоди 2, Шестоденец, Октаік старый і Служебнік, Псалтыри 2, Апостол старый» — усяго 11[430]; у старой царкве ў маёнтку Цетчы, што належала да Полацкай архіепіскапіі, мелася 9 кніг: «книга Евангеллие напрестольное оправное серебром с позлотою, книги называемые Треоди два, постная и цветная, книга Менея, книга Охтаец, книга Апостол, Псалтыр, Служебник, книга Устав». Царква Раства Прасвятой Багародзіцы «На Варончы» ў той жа Полацкай архіепіскапіі мела 8 кніг: «Евангеліе напрестольное паркгаминовое, Апостол одын, Псалтыр одын, Охтаики два, Полустав одын, Служебник, Треодь цветная»[431]. У Бельскай Богаяўленскай царкве на час рэвізіі 1637 г. мелася толькі дзве кнігі: «Евангелле тетро писаное, украшеное, Служебник писаный, старый».

Колькасць кніг у розных храмах, як бычым, была розная. Візітацыя 212 уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрáдскага сабораў паказвае, што на 1680—1682 гг. у іх меліся 763 кнігі, у сярэднім 3,6 кнігі на адзін храм. Не менш за 20% з іх рукапісныя[432]. Вялікую колькасць каштоўных рукапісаў мела бібліятэка самага заходняга ў ВКЛ праваслаўнага (пазней уніяцкага) Супрасльскага манастыра, з якіх сёння ў бібліятэках Вільны і Пецярбурга захавалася 113 адзінак[433].

Базыльянскія бібліятэкі хоць і былі спадчынніцамі праваслаўных, але кіраваліся статутам бібліятэк ордэна — бібліятэчныя правілы былі складзены на ўзор езуіцкіх, але з адменамі. Адмены часам тычыліся захаванасці фондаў. Напрыклад Віленская (IV) кангрэгацыя ордэна 1636 г., сесія 14-я,

[427] *Порецкий Я. И.* Соломон Рысинский. Solomo Pantherus Leucorussus. Мн., 1983. С. 15.

[428] *Lukšaitė I.* Biblioteka Salomona Rysińskiego // ORP. 1985. T. 30. S. 193.

[429] Ibidem. S. 206.

[430] АСД. Т. 1. Вильна, 1867. С. 146.

[431] Тамсама. С. 222—223.

[432] Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680—1682 гг.: Зборнік дакументаў. / укладальнік Д. В. Лісейчыкаў. — Мінск, 2009. С. 250.

[433] *Щавинская Л. П.* Литературная культура белорусов Подляшья XV — XIX вв.: Книжные собрания Супрасльского Благовещенского монастыря. Минск, 1998; *Морозова Н. Темчин С.* Древнейшие рукописи Супрасльского Благовещенского монастыря (1500—1532) // Z dziejów monasteru Supraskiego: materialy międzynarodowej konferencji naukowej «Supraski monaster Zwiastowania Przenajświętszej Bogarodzicy i jego historyczna rola w rozwoju społecznosci lokalnej i dzejach państwa». Supraśl — Białystok 10—11 czerwca 2005 r. Białystok, 2005. S.117 — 140.

1 жніўня запісала: «...Пастаноўлена, каб пад страхам смяротнага граху кожны, хто б [браў] кнігу якога-небудзь манастыра без ведама протаархімандрыта нашага, аддаў да якога належыць. Да таго, каб кожны з братоў нашых, які б асмеліўся кнігу якую ўзяць патаемна, без ведама айца протаархімандрыта... пад такую кару пападаў, ад якой ніхто разграшыць не можа, толькі сам протаархімандрыт. Кнігі купленыя ці набытыя як падарункі нягожна трымаць без ведама протаархімандрыта»[434]. Да сёння захаваліся кнігі з Дубенскага і Дэрманскага манастыроў на Валыні, што былі пазычаны віленскім манастыром св. Тройцы ў XVII ст.[435]

Пра стан бібліятэкі Пінскага Ляшчынскага манастыра сведчыць здатачны інвентар манастыра дваранiну Аляксандру Плецянецкаму пасля смерці Пінскага епіскапа Лявонція Пельчыцкага ў 1595 г. Гэта невялікі кнігазбор з 13 адзінак: «настольное Евангелие на чорном аксамите, срыбром оправное золотыстое, защепок нет; Евангелие толковое, одын Соборник; Октаикав два, на осм гласов; Апостол Тетр одын; Трыодь Цветная одна; Статут одын; Прелог одын марцовый; Минея общая; Минея июньская; Суботник одын; Псалтыр одын»[436].

«Monasterium sine armario est quasi castrum sine armamentario» — «манастыр без бібліятэкі, што армія без зброі — гэтая фраза лапідарна вызначае тое значэнне, якое прыпісваў рэлігійнаму чытанню святы Бенядыкт. У каталіцкіх, праваслаўных і уніяцкіх манастырах ВКЛ ніколі не забываліся пра актуальнасць гэтай сентэнцыі і дбалі пра бібліятэкі, папаўняючы іх як прывезенымі здалёк, так і мясцовай вытворчасці кнігамі. Разнастайнасці рэпертуару спрыяла і тое, што манастыр, як і магнацкі і шляхецкі двор, рабіўся месцам літаратурнай дзейнасці, дзе арганізоўвалі запіс, карыстанне, а таксама індывідуальнае і групавое ўспрыняцце твораў. У Вялікім Княстве Літоўскім велічыня манастырскіх бібліятэк была вельмі дыферэнцыраванай, вагаючыся ў межах ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх соцень тамоў, у сярэднім ад 100 да 300 кніг[437]. Падобныя дыспрапорцыі можна заўважыць у межах аднаго ордэна; напрыклад, па меншай меры 14 кніг мелі бернардзінкі ў Слоніме, а багата абсталяваны Львом Сапегам манастыр бернардзінак у Вільні ў XVII ст. налічваў 211 рэлігійных кніг[438].

У 1607 г. Рыгор Трызна — падкаморы і маршалак Слонімскага павета — заснаваў манастыр у сваім маёнтку Быцень, што знаходзіўся ў Слонімскім павеце Наваградскага ваяводства. Аснову бібліятэкі манастыра склалі кнігі яго сына — падскарбія Вялікага Княства Літоўскага Мікалая Трызны. Акрамя Быценя Трызны валодалі і другімі маёнткамі ў Наваградскім ваяводстве: Балочай, Асташынам, Пухавічамі і інш., а таксама двума мураванымі дамамі: у Вільні на вуліцы Святадухаўскай і ў Слоніме на Рынку. Дзе збіралася родавая бібліятэка, невядома; можна меркаваць, што ў віленскім доме, дзе 10 кастрычніка 1640 г. Мікалай Трызна памёр. Запавет бацькі выканаў сын, Тэафіл Трызна, на той час блудзенскі і ваўкавыскі староста. Ён перадаў (12 снежня 1640 г.) у бібліятэку Быценскага манастыра 35 назваў кніг у 58 тамах[439]. Сярод іх Біблії на грэцкай, лацінскай і славянскай мовах, фаліянты з творамі святых і Айцоў Царквы: Аўгусціна, Васіля Вялікага, Кірылы Александрыйскага, Іаана Златавуснага, Іераніма, а таксама працы па гісторыі рымска-каталіцкага касцёла. Усе кнігі (за выключэннем чатырох in quarto) маюць памер folio і пераплецены альбо ў белы, альбо ў чырвоны пергамент. Спіс складзены на лацінскай мове і большасць ахвяраваных кніг — лацінскія: 23 назвы ў 46 тамах. Рускія кнігі (Libri ruthenici) складаюць 12 назваў у 12 тамах. Сярод іх «Псалтыр», «Шасцідзнеў», «Актоіх», «Агульная Мінея», «Маргарыт», «Статуты Святых Айцоў», «Хроніка Руская». Відавочна, што некаторыя з названых кніг былі рукапісныя, аднак якія — дакумент не адзначае. Цікавая акалічнасць — сярод ахвяраваных у манастыр кніг няма ні адной на польскай мове. Аднак польскай мовай ў доме Трызнаў карысталіся — менавіта па-польску

[434] АСД. Т. 1. Вильна, 1867. С. 43.
[435] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... С. 90, 92.
[436] *Миловидов А. И.* Архив упраздненного Пинского Лещинского монастыря. М., 1890. С. 11—12.
[437] *Pidłypczak-Majerowicz M.* Biblioteki i bibliotekarstwo zakonne na wschodnich ziemiach Rzeczypospolitej w XII—XVIII wieku. Wrocław, 1996. S. 47—50.
[438] *Topolska M.B.* Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. S. 194.
[439] *Pełeszowa S.* Dar Mikołaja Tryzny dla biblioteki bazylianów w Byteniu // Nasza przeszłość. 1962. T. 16. S. 241—244.

напісаны панегірык на смерць Мікалая Трызны з прысвячэннем яго сыну, ваўкавыскаму старасту Тэафілу. Казанне напісаў Ян Іосіф Баданові (хутчэй за ўсё памылка друку, і прозвішча аўтара Багдановіч).

Панегірык складаецца з сямі вершаваных песень, кожная з якіх прысвечана аднаму з бакоў дзейнасці памерлага: 1) яго набожнасці і хрысціянскім цнотам, 2) яго слаўным продкам, 3) яго рыцарскай адвазе пад Смаленскам, 4) яго рыцарскай дзейнасці ў Інфлянтах, 5) яго мужнасці пры Бярэзіне, 6) яго выступленням на трыбуналах і соймах і яго дзейнасці як пасла ў Пасольскай Ізбе, 7) Жалобны Трэн (Плач). Згодна з традыцыяй літаратуры барока, назва кожнай пачынаецца са слоў «лілеі бессмяротныя» і апелюе да галоўнага элемента герба Трызнаў — лілеі. Панегірык не мае тытульнага аркуша ў звычайным разуменні гэтага слова. Замест яго — гравіраваны франтыспіс з сімвалічным малюнкам. Кампазіцыя пабудавана ў выглядзе барокавай аркі, пры аснаванні якой паказаны герб Трызнаў, а на ўсіх узроўнях прысутнічае галоўны элемент герба — лілеі. У цэнтры кампазіцыя з чатырох фігур; кожная з іх у адной (левай) руцэ трымае лілею, а ў правай руцэ і ў галаўным уборы мае сімвалы заняткаў памерлага: 1) паходня (на галаве вайсковы шлем), 2) меч (на галаве княжацкая карона), 3) сэрца (на галаве епіскапская шапка), 4) труба (у прычоску ўплецена пер'е павы). Вышэй — Смерць косіць лілеі; памерлы Мікалай Трызна адлятае на аблокі, трымаючы ў руцэ свой гербавы знак. На самым версе аркі паказаны сімвал смяротнасці — чэрап, але той прарос новымі лілеямі — гэтай алегорыяй мастак паказвае, што вырастуць і расцвітуць новыя пакаленні Трызнаў.

Бібліятэка Быценскага манастыра была разрабавана яшчэ за часы скасавання уніі і да нашых дзён не захавалася.

Найбольш багаты царкоўны кнігазбор — бібліятэка Віленскай кафедральнай капітулы. У ёй знаходзіліся не толькі кнігі царкоўнага ўжытку, але і тэалагічная і палемічная літаратура. Пры бібліятэцы захоўваўся таксама архіў кафедральнага сабора і капітулы. І. Ярашэвіч знайшоў у ім дакументы, якія сведчаць, што ў 1603 г. для догляду за сваім кнігазборам капітула ўвяла пасаду бібліятэкара[440]. Бібліятэка капітулы папаўнялася не толькі купленымі кнігамі, але і ахвяраваннямі, і даволі значнымі. Так, у 1603 г. яна атрымала 42 кнігі — збор каноніка Амброзія Вейнарта. У вялікім пажары Вільні 1610 г. бібліятэка згарэла, аднак адразу ж пачалося яе аднаўленне. У 1630 г. некалькі дзесяткаў кніг для капітульнай бібліятэкі падараваў епіскап Валовіч. Паводле падлікаў Л. Уладзімірава, да сярэдзіны XVII ст. яна налічвала каля 200 тамоў пераважна лацінскіх кніг.

Віленская капітула дала пачатак бібліятэцы езуіцкай калегіі (будучага універсітэта). Адбылося гэта ў маі 1570 г., калі па прапанове епіскапа Валяр'яна Пратасевіча езуітам перадалі кнігазбор віленскага суфрагана, бібліяфіла Альбіна, які памёр, не пакінуўшы тэстамента. Арганізавана бібліятэка была гэтаксама, як і іншыя кнігасховішчы ордэна[441]. Паводле тэстамента караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, езуіцкай калегіі адыходзіла значная частка яго знакамітай бібліятэкі: «Кнігі таксама нашы ўсе, якія на гэты час у руках і хаванні Лукаша Гурніцкага, а потым у каго-небудзь будуць, няхай будуць перададзены ў калегіум езуітаў у Вільні, які заснаваў у нядаўнія часы з нашае згоды віленскі біскуп Валяр'ян, акрамя градуалаў, антыфаналаў, агендаў, мшалаў, беатыкаў і іншых кніг да спявання і справе касцельных цырымоніяў прызначаных. Тыя да касцёла св. Ганны, вышэй упамянутага, хочам, каб былі аддадзеныя. Але і тых кніг, якія езуітам аддаем, ёсць не малая і не кепская частка: абавязваем айцоў езуітаў, каб былі за гэта павінны на кожную нядзелю і кожнае свята да касцёла св. Ганны са свайго калегіума добрага прапаведніка слаць казаць і вучыць навукі і волі мілага Бога, паводле статуту сусветнае царквы»[442]. Акрамя каралеўскага падарунка бібліятэку значна папоўнілі збор італьянскіх і іспанскіх кніг Лукаша Краснадубскага і бібліятэка падканцлера Казіміра Льва Сапегі, што захоўвалася ў Ружанах. Бібліятэку гэтую пачаў збіраць яго бацька Леў Сапега і ўсё жыццё працягваў папаўняць Казімір Леў. Спецыяльна складзены пры перадачы каталог налічваў больш за тры тысячы кніг — на тыя часы лічба надзвычай вялікая.

→ *Гравіраваны франтыспіс панегірыка на пахаванне падскарбія ВКЛ Мікалая Трызны ў 1640 г.*

[440] *Jaroszewicz J.* Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji, od czasów najdawniejszych do końca wieku XVIII. T. 2. Wilno, 1844. S. 124.

[441] *Grzebień L.* Organizacja bibliotek jezuickich. Lublin, 1971.

[442] *Kawecka-Gryczowa A.* Biblioteka ostatniego Jagellona. Wrocław, 1988. S. 34.


ILLVSTRISSIMO DOMINO,

D. LEONI
SAPIEHA
PALATINO VILNENSI,
GENERALI EXERCITVVM
MAGNI DVCATVS LITHVA-
NIÆ DVCI, BRESTENSI, MOHILOVI-
ENSI &c. &c. CAPITANEO.

EMMANVEL EVSTACHIVS BRZOSTOWSKI.
Felicitatem.

ANnus se circumegit, Senator Amplissime, vt Tuo nixus patrocinio vestibulum Vniuersitatis ingredi præsumpsi, atq; irradiante celsitudinis Tuæ Sole, sub profundis Physicarum veritatum specubus primos deprehendi fontes, ex quibus tota primùm Vniuersitas manauit. Verùm ipsa Naturæ interiora immensis difficultatum septa aggeribus, Animum ad laboris magnitudinem exhorrescentem, ab vlteriori deterrebant progressu. Neq; tamen ideò eam studiorum meorum designabam metã, à qua primas natura ducit Origines; sed eundum in viscera Vniuersi, effodiendasq; Sapientiæ opes, incentiua bonorum, tua mihi incredibilis persuasit Humanitas: cùm te vniuersi

)( 2

*Дысертацыя аднаго з «акадэмікаў» Віленскага універсітэта з прысвячэннем Эмануэля Яўстафія Бжастоўскага віленскаму ваяводзе Лявону Сапегу. Выданне, невядомае бібліяграфіі. Вільня, акадэмічная друкарня, пачатак XVII ст.*

Часта ахвяраванні на бібліятэку рабіліся не кнігамі, а грашыма. Адным з першых такіх даравальнікаў стаў Адам Вярбіцкі, які ў 1623 г. запісаў на калегіум маёнтак Блоні, з тым, каб з прыбыткаў штогод 100 злотых аддавалася на бібліятэку. Больш як праз сто гадоў, памінаючы свайго дабрачыннага продка, браты Казімір і Міхал Вярбіцкія ў 1746 г. набылі ў Вільні каменны дом, што называўся Ляўданскі, і пляцы на Зарэччы. Гадавы даход з іх, агульнай сумай 368 злотых, аддалі на памнажэнне бібліятэкі — гэта акрамя 16 000 злотых, што яны аднаразова ахвяравалі на рамонт і абсталяванне. Значнай і пастаяннай крыніцай папаўнення бібліятэкі універсітэта быў абавязковы экземпляр выданняў акадэмічнай друкарні.

Пад час шведскай вайны езуіты здолелі вывезці кнігі ў Кёнігсберг, пры гэтым значная колькасць іх згубілася. 21 лютага 1773 г. бібліятэку наведаў Іосіф Залускі — кіеўскі і чарнігаўскі біскуп, вядомы збіральнік кніг і бібліяфіл. З гэтай нагоды студэнты і выкладчыкі напісалі адмысловы «Верш», а універсітэцкая друкарня выдала яго асобнай кнігай. На ўрачыстай цырымоніі прывітання стваральніка польскай нацыянальнай бібліятэкі ніхто не мог і прадбачыць, што славуты кнігазбор Віленскай акадэміі сустрэнецца праз няпоўныя 50 гадоў з бібліятэкай Залускіх на берагах Нявы у Санкт-Пецярбурзе.

Пасля скасавання ордэна ўсе езуіцкія бібліятэкі былі перададзены Галоўнай Літоўскай Школе (у якую быў ператвораны універсітэт). Новаарганізаваны лекарскі факультэт патрабаваў большай колькасці сучаснай медыцынскай літаратуры, і Эдукацыйная камісія набыла для яго кнігазбор прафесара Бісіо; пазней Станіслаў Аўгуст падараваў значную колькасць кніг па медыцыне і натуральнай гісторыі[443].

Цяжка падлічыць, колькі кніг было ў парафіяльных касцёлах, бо не ўсе яны мелі бібліятэкі. Паводле падлікаў Г. Вычаўскага, у Кракаўскай епархіі ў канцы XVI ст. на 528 касцёлаў было 165 бібліятэк[444]. Калі дапусціць, што такія ж суадносіны касцёлаў і бібліятэк былі ў Віленскай і Луцкай дыяцэзіях (епіскапіях), то колькасць каталіцкіх парафіяльных бібліятэк (збораў пераважна невялікіх) толькі ў беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага, што ўваходзілі ў склад Віленскай і Луцкай каталіцкіх епархій, было наступнае (табл. 10, дадзеныя па колькасці парафій паводле Юрыя Туронка[445]).

[443] *Bieliński J.* Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 1. Kraków, 1899/1900. S. 133—135.
[444] *Wyczawski H.* Biblioteki parafialne w djecezji krakowskiej w schilku XVI w. // Polonia sacra. 1933/1934. Z. 2/4.
[445] *Туронак Ю.* Фармаванне сеткі рымска-каталіцкіх парафіяў у Беларусі (1387—1781) // БГА. 1995. Сш. 2. С. 173—194.

*Табліца 10*

**Каталіцкія парафіяльныя бібліятэкі**

| Гады | 1500 | 1550 | 1669 | 1744 | 1781 |
|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць касцёлаў | 90 | 152 | 232 | 244 | 243 |
| Прыкладная колькасць бібліятэк | 28 | 47 | 75 | 76 | 76 |

Характэрным прыкладам бібліяфіла, які жыве далёка ад кнігавыдавецкіх цэнтраў, але пры тым вельмі арганізавана і «планава» збірае кнігі (з 1658 г.), з'яўляецца адданы слуга Багуслава Радзівіла губернатар Слуцкага і Копыльскага княстваў Казімір Клакоцкі. Ён быў добра інфармаваны аб найноўшых французскіх, нямецкіх і італьянскіх выданнях, цікавіўся, на якіх мовах выдаваліся патрэбныя яму творы. Галоўным пасрэднікам у забеспячэнні яго кнігамі быў Збігнеў Морштын Ян Рэйер з Кёнігсберга. У карэспандэнцыі Клакоцкага сустракаюцца шматлікія ўпамінанні пра кнігі і просьбы набыць іх. Клакоцкі прасіў таксама прысылаць навейшыя каталогі кнігагандляроў Кёнігсберга і Франкфурта-на-Одры, а потым адсылаў іх з уласнымі закрэсліваннямі і дапіскамі адсутных у каталогах назваў. Сярод заказаных кніг ёсць рознамоўныя кнігі разнастайнай тэматыкі — рэлігійныя, геаграфічныя, гістарычныя, правазнаўчыя. Клакоцкі вельмі высока ацэньваў узровень гандлю кнігамі ў Гданьску і часцей за ўсё раіў менавіта туды перасылаць ягоныя заказы; сцвярджаў, што ў Кёнігсбергу кепскія «бібліяполы», яны не імкнуцца набываць кнігі «recentiores», новыя, на якія меўся б большы попыт. Для папаўнення свайго збору Клакоцкі прыдбаў рукапісныя і друкаваныя кнігі з бібліятэк двух памерлых у Прусіі арыян: Тэафіла Крэллю-Спіноўскага і Іосіфа Нарановіча-Наронскага. Ёсць думка, што сярод іх кніг, па ўсёй верагоднасці, знаходзіўся вядомы твор Іосіфа Нарановіча-Наронскага «Кнігі навук матэматычных»[446].

Збіральніцкая дзейнасць К. Клакоцкага зрабіла Слуцк значным кніжным цэнтрам не толькі Беларусі. Пра яго цяпер ведалі ў буйнейшых выдавецкіх і кнігагандлёвых прадпрыемствах Заходняй Еўропы.


149 Œconomica, est scientia moralis operationum humanarum in ordine ad priuatam domus, aut familiæ felicitatem assequendam, directiua. Domus, est societas ex coniunctione Domini, & serui, patris, & filii, maris & fæminæ resultans; pagus est conflata ex pluribus domibus ad commodius viuendum, societas. Ciuitas est ex pluribus pagis ad bene & ordinatè viuendum, constituta communitas. Domus prior est executione, ciuitas intentione.

150 Seruus est animatum Domini instrumentum actiuum; Huic quotidie, opus & cibus, adhibenda. Inter coniuges esto pudor in verbis, in opere honestas, in animo amor, in conuersatione moderatio. Bonus vicinus, est aliud quoddam prædium. Pater filiis bonam educationem debet: erudire eos debet, in disciplinis, Literaria, Musica, Figuratiua, & Gymnastica, quarum honestus pace aut bello vsus: Filius parenti debet, amorem, honorem, obedientiam, subsidium. Honestissimum est œconomicorum agricultura.

DISCITE IVSTITIAM MONITI

Ad Maiorem Dei gloriam, & Deiparæ sine originali peccato conceptæ honorem.

*Апошняя старонка з той жа дысертацыі.*

* * *

У агледжаны перыяд кніжнасць стала трывалым элементам культуры: усяго ў XVI стагоддзі ў ВКЛ было выдадзена каля 500 назваў, у 17 стагоддзі колькасць выданняў павялічылася да амаль 5000. Грамадства прызвычаілася да шматмоўнасці кніг і іх шматканфесійнасці. Дзеячы кнігі — аўтары, друкары, мастакі-гравёры — супрацоўнічаюць з заказчыкамі розных веравызнанняў: у пратэстанцкіх друкарнях выдаюцца каталіцкія кнігі, у каталіцкіх — панегірыкі права-

[446] *Buchwald-Pelcowa P.* Kazimierz Krzysztof Kłokocki i drukarnia w Słucku. S. 166.

слаўным магнатам і шляхціцам і да т. п.; хаця часам сутыкаемся і з адваротным бокам талеранцыі — спаленнем кніг іншаверцаў. У гэты ж час складаюцца вялікія кнігазборы, прыватныя і царкоўныя. Кірылічная кніжнасць дасягнула найбольшай разнастайнасці рэпертуару.

У сучасным кнігазнаўстве ёсць гіпотэза Я. Неміроўскага аб актыўным удзеле ўраднікаў ВКЛ у падрыхтоўцы першых кірылічных друкаваных у Кракаве ў 1491 г. кніг. Падставы для гэтага дала беларуская прыпіска на лацінскай кніжцы, падоранай бібліятэцы Ягелонскага універсітэта: «Кніга Адама Якубовича с Котри с Литвы, волости Городенское», таксама тое, што бацька магістра Адама, пісар і сакратар вялікага князя Якуб здабыў на Маскве «праўленыя» спісы кніг, сярод якіх надрукаваныя пазней Швайпольтам Феолем Асьмагласнік і дзве Трыёдзі. Веліч подзьвігу Францыска Скарыны акрамя перакладу Бібліі і стварэння новага мастацкага аблічча кнігі яшчэ і ў тым, што пачаўшы друкарскую дзейнасць за мяжой, ён здолеў перанесці варштат на Радзіму, зрабіўшы Вільню на доўгія часы цэнтрам беларускага кнігадрукавання. Аднак за выключэннем Статута ВКЛ, некалькіх палемічных твораў і панегірыкаў, кірылічныя друкаваныя кнігі застаюцца царкоўнымі. Мастацкая літаратура, гістарычныя творы, уключаючы летапісы, падручнікі (акрамя падручнікаў славянскай мовы) і іншыя кнігі выдаюцца пераважна на лацінскай і польскай мовах — надрукаваны ў Вільні ў 1642 г. беларускамоўны сатырычны твор лацінкай — з'ява дастаткова рэдкая[447]. Хоць вядома шмат рукапісных кірылічных спісаў падобных кніг, аднак тыражы рукапісаў і друкаў былі непараўнальныя — грамадства памалу, але ўпэўнена паварочвалася да паланізацыі. Праваслаўныя інтэлектуалы разумелі патрэбу ў асвеце, у пашырэнні рэпертуару чытання, але адны, як імігрант князь Курбскі, пачыналі дзеля гэтага працаваць над перакладамі на славянскую (грэбуючы мясцовай «простай рускай») мову патрэбных і важных твораў, а іншыя без асаблівай развагі запаўнялі месца на паліцах гатовымі выданнямі, не абцяжарваючы сябе клопатам успомніць мудрасць св. Іаана Лесвічніка: «...Пакуль не прымеш сілы духоўнае, не чытай кніг, чужых для прававерʼя, таму што яны поўныя цемры, і цемрашаляць розум нямоглых».

Уніяты пачалі тую багаслоўскую працу, якая засталася ў гісторыі не толькі як помнік азнаямлення лаціна-польскага свету з набыткамі грэка-візантыйскай царкоўнай культуры, але — шырэй — як пошук рэлігійна-культурнага кампрамісу. Адной з выразных праяў гэтай працы стала дзвюхмоўная кніга доктара тэалогіі Пахомія Агілевіча, якую надрукавалі ў 1671 г. віленскія базыліяне. Вось дакладны пераклад яе тытула: «Ecphonemata грэчаскай літургіі. Гэта значыць тое, што пад час літургіі святар (дыякан) і хор у голас толькі спяваюць. Са службаў св. Васіля Вялікага і св. Іаана Златавуснага выбранае і мовай славенскай, а шрыфтом польскім, з новым перакладам на польскую мову на супрацьлеглых старонках пакладзенае... тамсама ГАРМОНІЯ альбо кароткае ўзгадненне ў абрадах, паміж імшой св. рымскай і літургіяй грэцкай; з тлумачэннем абрадаў і далучэннем спосабаў набожнага і ўжытковага спосабу слухаць святую службу як рымскую, так і грэцкую; напісана і да друку пададзена... у Вільні, у друкарні манастыра св. Тройцы айцоў базыліянаў, году Гасподня 1671». Крохкая раўнавага рэпертуару і гармонія кампрамісу сталі галоўным набыткам гэтага перыяду развіцця кніжнай культуры.

[447] *Rózycki E.* «Krotofilne tragaedie» — nieznana satyra obyczajowa z XVII wieku//Pamietnik Literacki. 1978. I. S. 167.

# Культурная перыферыя Рэчы Паспалітай (1648—1795 гг.)



# ГІСТАРЫЧНА-КУЛЬТУРНЫ ПРАЦЭС НОВАГА ЧАСУ

Панаванне Яна Казіміра, малодшага брата Уладзіслава IV, прыйшлося на 1648—1668 гг. і стала лагічным завяршэннем таго перыяду, калі Вялікае Княства магло мець культурную палітыку самастойнай дзяржавы. Маладога Яна Казіміра выхоўвалі польскія магнаты Ян Астрарог і Міхал Канарскі, а таксама езуіты, галоўным чынам Пшамыслаў Рудніцкі. Вучыўся каралевіч нядоўга, але абавязковую праграму падрыхтоўкі, дзе асноўнай была вайсковая практыка, выканаў. У 1629 г. дваццацігадовы Ян Казімір ваяваў са шведамі, пазней браў удзел у Смаленскім паходзе супраць Масквы, у вайне з Турцыяй. У 1636 г. ён паступіў на службу да германскага імператара; праз два гады рушыў у Іспанію, але па дарозе, у Францыі, быў арыштаваны паводле загаду герцага Рышэльё і пэўны час прасядзеў у турме. Вызваліць каралевіча са зняволення дапамагаў генуэзскі гуманіст Дж. Б. Салуца. За гэтую паслугу яму была падараваная адна з самых прыгожых кніг, што захоўваліся ў Вільні з часоў Ягайлы, — «Андэгавенскі легендарый»[1]. З Францыі Ян Казімір паехаў у Італію і насуперак волі брата-караля паступіў у ордэн езуітаў. Пасля двухгадовага навіцыяту выйшаў з ордэна, але яшчэ праз пару месяцаў (28 мая 1646 г.) атрымаў ад папы сан кардынала (праз год ад яго адмовіўся). У лістападзе 1648 г. абраны каралём і вялікім князем, у маі 1649 г. ажаніўся з удавой брата, Людвікай Марыяй.

Гады няспынных і бясслаўных войнаў, рокашаў, здрадніцтваў, анархіі, пагроз самому існаванню дзяржавы, вышэйшым выяўленнем чаго стала расійска-шведскае заваяванне 1654—1667 гг., якое атрымала назву «патоп», — вось што было асноўным зместам панавання апошняга Вазы. Паказальны і лёс караля, які ў рэшце рэшт адрокся ад трона, пераехаў у Францыю і памёр (у 1672 г.) абатам парыжскага абацтва Сен-Жэрмен дэ Прэ.

У грамадстве і грамадскай свядомасці шырока распаўсюдзіліся настроі заняпаду, канца, трагічнасці, узмацнілася цікавасць да перыядаў дэкадансу, распаду і падзення вялікіх дзяржаў. Прадстаўнік славутага роду Рудамінаў з Браслаўскага павета Андрэй Рудаміна пераклаў лацінскую кнігу Яна Хокера «Аб зменлівасці царстваў». Вось урывак з яе: «Усе дзяржавы ад пачатку з'яўляюцца часовымі і канец свой, як і людзі, маюць. Хто асірыйскую дзяржаву зруйнаваў? Хто афінянаў моцы пазбавіў? Хто македонскую сілу загубіў? Не іншая таму прычына, толькі такі прыродны парадак у людскіх справах... Патрэба таго была, каб альбо ад сілы іншых тыя ўсе дзяржавы ўпалі, альбо з гадамі старэючы самі ад гэтага загінулі»[2]. Гэты меланхалічны твор друкарня універсітэта выдала ў Вільні якраз напярэдадні «патопу», а перавыдала ў 1738 г.[3], калі ВКЛ было ўжо толькі намінальнай дзяржавай.

«Патоп» адбіўся і на кніжнай культуры. У час вайны 1654—1667 гг. актывізаваўся «кнігаабмен» з Маскоўскай дзяржавай, які набыў форму вывазу кніг-трафеяў (і Куцеінскай друкарні) на ўсход. З другога боку, на захад, у Вялікае Княства, быў скіраваны масавы прывоз маскоўскай кнігадрукарскай

[1] Зараз захоўваецца ў бібліятэцы Ватыкана (*Pasierb J. St., Janocha M.* Polonica artystyczne w zbiorach watykańskich. Gdańsk, 2000. S. 32—33).

[2] *Chokier J.* O odmianie państw y zgubie panuiących y o słusznym ratunku. Wilno, 1652. S. 3.

[3] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 251, 1346.




*Андрэй Младзяноўскі. Аб святых патронах Польшчы і Літвы. Гравіраваны на метале франтыспіс з прысвячэннем віленскаму ваяводзе і вялікаму гетману Міхаілу Казіміру Пацу выконвае ролю тытула: мае загаловак і год выдання (1671). Лацінская эпіграма унізе старонкі: «Спяшайся наперад, імклівы коннік, спяшайся. Прарвіся праз калоны, о старажытны герб і суцяшэнне зямлі ліцвінаў. У цябе наперадзе крочыць правадыр узброены непераможнай зброяй і хапаецца за зброю войска нябеснай краіны. Нічога іншага такі правадыр са святым войскам не загадвае, як толькі ЯШЧЭ ДАЛЕЙ прарывацца па слаўным шляху».*

прадукцыі, часцей за ўсё непераплеценых богаслужбовых кніг. Фатальным для выдавецкай справы пратэстантаў Вялікага Княства Літоўскага стала смерць аднаго за адным, беспатомнымі, двух магутных апекуноў гэтай канфесіі — Багуслава і Януша Радзівілаў. У выніку спыніла дзейнасць Любчанская друкарня, заняпала Кейданская, а ўрэшце і Слуцкая.

Пасля «патопу» прастора Вялікага Княства здавалася пусткай: зруйнаваныя гарады, разбураная гаспадарка, знішчанае альбо зведзенае ў палон насельніцтва. Не была выключэннем і кніжнасць — спаленыя друкарні, разрабаваныя бібліятэкі, вывезеныя на новыя месцы манахі-кнігапісцы і друкары. Пад час праўлення Міхала Карыбута Вішнявецкага (1668–1673) у ВКЛ налічвалася


S. GALLICANVS
DVX IN EXER: CONSTANTINI MAGNI.

*Belliger inuictis quem Mars non strauit in armis:*
*In medio pacis corruit ille sinu.*
*Quod Mars non rapuit, rapiunt persæpè Penates:*
*Sæpè sago fuerit peior & esse toga.*

ELO-




*Старонка з кнігі Андрэя Младзяноўскага «Аб святых патронах Польшчы і Літвы». «Воляй віленскага гравёра Тамаша Шнопса». Вільня, 1671 г.*

*Партрэт Льва Сапегі работы данцыгскага гравёра Вільгельма Хондзія, 1621 г.*

толькі палова ад той колькасці насельніцтва, што была перад 1650 г.

Алегорыю зруйнаванага грамадства можна ўбачыць на гравюры 1671 г. з кнігі папулярнага аўтара-езуіта, выкладчыка ў полацкіх і віленскіх школах Андрэя Младзяноўскага — коннік-Пагоня, што скача да двух Гераклавых слупоў па суцэльнай пустэльні. У верхняй частцы гравюры — кароль, епіскапы ў візантыйска-грэцкіх і рымска-лацінскіх убраннях, народ[4]. Подпісы пад шматлікімі вывамі гэтай кнігі называюць святых патронаў Польшчы і Літвы, часам толькі Літвы. Да апошніх належаць св. Мікалай, св. Георгій, св. Галікан. Пры гэтым святы Галікан вельмі падобны на Льва Сапегу з гравіраванага партрэта данцыгскага гравёра Хондзія.

Тым не менш, краіна паволі адбудоўвалася, колькасць насельнікаў павялічвалася. Новае грамадства і новыя пакаленні, што выраслі з папярэдніх, не імкнуліся паўтараць іх. Пачынаюць панаваць новая архітэктура, новыя законы, новая літаратура і музыка. Паступова не толькі аднаўляюць працу старыя варштаты, але і ўзнікаюць новыя. Прапаведнікі ўсіх канфесій рыхтуюць для сваіх слухачоў-прыхаджан новыя казанні, у якіх свет і яго вечныя ісціны растлумачаны ўжо іначай. Усё гэта патрабуе новых кніг, пераважную большасць якіх друкуюць лацінкай, на польскай мове. Колькасць выданняў на лацінскай, славянскай і «рускай» мовах імкліва змяншаецца. У той жа час ацалелыя ад ліхалецця кнігі захоўваюць старыя традыцыі, мацуюць даўніну сваім аўтарытэтам. Кніг таго перыяду, калі амаль суцэльна панавала кірылічная культура, захавалася дастаткова шмат, каб грамадства не пазбавілася гістарычнай памяці. Польскамоўныя прафесары Віленскага універсітэта, напрыклад, мусілі з пашанай успамінаць занядбаную і

[4] Аўтарам гравюры лічыўся Іван Шчырскі, аднак украінскі мастацтвазнаўца Д. Стэпавік выявіў, што мастаком быў віленскі залатар Тамаш Шнопс (*Степовик Д. В.* Іван Щирський. Київ, 1988. С. 26).

напаўзабытую «рускую» мову пры кожным передруку Статута ВКЛ і пераконваць чытача, што іх выданне ёсць найдакладнейшы пераклад з арыгінала.

На прасторах Расіі працягвалі жыць новым жыццём кнігі, што прывезлі маскоўскія салдаты з паходаў на Вялікае Княства. Часта новыя гаспадары ўкладвалі трафеі на памінанне сваёй (ці сваіх блізкіх) душы, не звяртаючы ўвагі на запісы былых гаспадароў — забарону «аддаляць» іхнюю ахвяру і праклёны таму, хто гэта зробіць. Як прыклад можна прывесці два Евангеллі з Полацка. Адно было ўкладам архімандрыта Іоны Данілавіча ў царкву апосталаў Пятра і Паўла на Полацкім замку; у 1677 г. яно было ўкладзена ў царкву Раства Багародзіцы ў Вятцы Багданам Яфімавым сынам Родзічавым[5]. Другое заказаў і ўклаў на прастол Увядзення Багародзіцы на памінанне па сабе і па сваіх бацьках полацкі епіскап Нафанаіл, а ў 1645 г. яно было ўкладзена другі раз — у Барысаглебскі манастыр паблізу Растова Вялікага. Зноў у Растоўскім павеце Евангелле Нафанаіла ўклаў «при казначее Пимине и при всеи братие» «по себе и по своих родителех» ігумен Варлам Хватаў[6]. Абодва кніжныя трафеі паказваюць, такім чынам, што для сярэдняга маскоўскага праваслаўнага чалавека XVII ст. псіхалагічнага бар'ера для парушэння запавету папярэдняга ўкладчыка не было. Гэта, як нам здаецца, стварала спрыяльную маральную глебу для пашырэння ў канцы XVII стагоддзя уніі на праваслаўных землях ВКЛ.

Пазнейшыя заказы велікарускімі старавераммі богаслужбовых і чэцціх кніг у друкарнях уніяцкіх манастыроў — вынік збліжэння гэтай галіны праваслаўя са светам каталіцызму, збліжэння, вымушанага абставінамі.

Ужо пасля таго, як закончыліся часы ваеннага супрацьстаяння Маскве, у расійскай сталіцы з'явілася знакавая для гісторыі і будучыні ВКЛ кніга. У 1672 г. у Пасольскім прыказе баярын Артамон Мацвееў кіраваў збіраннем звестак па гісторыі дынастыі Раманавых, а таксама інфармацыі аб замежных краінах, з якімі цары мелі дыпламатычныя дачыненні. Перакладчык Мікалай Спафарый і пад'ячы Пётр Далгаво рыхтавалі па кожнай дзяржаве (датычна яе зносін з Расіяй) гістарычную даведку і ўдакладнялі тытулатуру гаспадароў. Упершыню ў культуры Маскоўскага царства выява папы рымскага апынулася побач з партрэтамі патрыярхаў — канстанцінопальскага, іерусалімскага і маскоўскіх. Іконнікі малявалі партрэты кіраўнічых асоб, залатапісцы пісалі дзяржаўныя і зямельныя гербы і арнаментальныя рамкі (усяго працавала не менш чым 12 чалавек)[7]. Хутка велізарны фаліянт быў закончаны. Кнігу, якая атрымала назву «Тытулярнік», альбо


Акаѳістъ
стлю хвꙋ нїколаю
Начало ꙗкоже прежде: Акадїста
Стихиры, Гласъ в.
Кими похвалными вѣнцы, вѣнчаемъ стителя: плотїю въ мирѣхъ сꙋща, и дꙋховнѡ всѣхъ достигающагѡ, инѣтъ тогѡ любящихъ: всѣхъ пристателя и застꙋпника, и всѣхъ скорбныхъ ꙋтѣшителя, благочестїа столпа, вѣчныхъ поборника: егоже ра[illegible]танїа врагѡвъ, хс низложи, имѣяй велїю милость.
Кн

*Св. Мікалай. Гравіраваная застаўка ў кнізе «Акафісты і каноны». Магілёў, 1693 г.*

[5] *Никольский А. И.* Описание рукописей, хранящихся в архиве Святейшего Правительствующего Синода. Т. 1. СПб., 1904. С. 6—7.

[6] Аддзел рукапісаў РНБ, F.I.39. — Укладны запіс Нафанаіла змяшчаецца на 13-м аркушы, запіс Варлама Хватава ўяўляе скрэпу (па адным-два словы на кожнай старонцы) на 59 аркушах, ад 14-га да 73-га.

[7] *Кудрявцев И.М.* «Издательская» деятельность Посольского приказа: (К истории русской рукописной книги во второй половине XVII века) // КИМ. 1963. Сб. 8. С. 186.

*Маскоўскі «Тытулярнік» 1672 г. Дзяржаўны герб Вялікага Княства Літоўскага, афіцыйны малюнак Пасольскага прыказа.*



*Маскоўскі «Тытулярнік» 1672 г. Герб Кароны Польскай.*



«Корань Расійскай дзяржавы», пакінулі для практычнага карыстання ў Пасольскім прыказе, таму на заказ цара Аляксея Міхайлавіча ў наступным годзе зрабілі яшчэ два паасобнікі меншага памеру — «на верх», г. зн. для патрэб царскага двара і сям'і[8]. Канцэпцыя новазаказаных паасобнікаў была некалькі змененая — павялічана колькасць партрэтаў: па жаданні цара напісалі «персоны» ўсіх яго дзяцей (што не супярэчыла ідэі кнігі) і дадалі партрэты гаспадароў Рэчы Паспалітай, пачынаючы ад Стэфана Баторыя. Гэта было навіной і падкрэсленым вылучэннем бліжэйшых суседзяў. ВКЛ у гэтым царскім падручніку пададзена раней за Польшчу, з усіх замежных краін яму адводзілася найбольш месца.

Тэксты «Тытулярніка» сталі знакам пераходу расійскай гістарычнай свядомасці ад летапісання да гістарыяграфіі новага часу[9]. Змешчаны адразу за выявай Пагоні тэкст тлумачыў правамоцнасць маскоўскіх цароў мець тытул вялікага князя літоўскага, а значыць, і права на ўключэнне ВКЛ у Расійскую дзяржаву. Разам з тым выпісаны «крыўды» на Польшчу, напрыклад няправільнае тытулаванне пасламі Яна Казіміра цароў і патрыярха, праз што «всему Российскому царствию учинены злые безчестья и укоризны, и хулы, чего не токмо великим государем християнским, помазанником божиим, и простому человеку слышать не годитца». Разбіраючы радавод каралёў Рэчы Паспалітай, «Тытулярнік» пад 7086 (1578) г. цалкам прыводзіць тэкст граматы Стэфану Баторыю, дзе ад імя маскоўскіх баяр паведамляецца пра паходжанне рускіх князёў ад Аўгуста-кесара і іх «брацтва» з іншымі еўрапейскімі гаспадарамі: «А Седмиградцкого государства нигде есмя не слыхали», і «государю вашему Стефану с нами в родном братстве быти непригоже»[10].

Развіццё канцэпцыі пабудовы «Тытулярніка» (а ўскосна — і палітычных поглядаў маскоўскіх цароў на ВКЛ), як нам здаецца, можна звязаць з асобай Сімяона Полацкага. Ён быў настаўнікам царэвіча Фёдара Аляксеевіча, у тым ліку выкладаў гісторыю. Яго ўспрыняцце сваёй радзімы як Літвы і, адначасова, «рускага» краю, якім здаўна кіравалі неаднойчы пародненыя паміж сабой гаспадары, не магла не ўплываць на пазнейшую

[8] Зараз першы паасобнік «Тытулярніка» захоўваецца ў РДзАСА, а два іншыя — у Пецярбурзе: у бібліятэцы Дзяржаўнага Эрмітажа і ў Аддзеле рукапісаў РНБ (шыфр Эрм. 440).

[9] *Каган-Тарковская М. Д.* «Титулярник» как переходная форма от исторического сочинения XVII в. к историографии XVIII в. // ТОДРЛ. 1971. Т. 26.

[10] Тамсама. С. 59.



*Акафісты і каноны. Разгорт з пачаткам канона аб Укрыжаванні Гасподнім. Гравёр Максім Вошчанка. Магілёў, 1693 г.*

пазіцыю царскага двара. Рыхтуючы да друку ў «верхняй» друкарні самыя розныя кнігі, Сімяон пераносіў вопыт вядомых яму беларускіх выдавецтваў ВКЛ у Маскву. У прыватнасці, ён выкарыстаў куцеінскае 1637 г. выданне «Гісторыі пра Варлаама і Іасафа» пры падрыхтоўцы свайго, 1680 г., выдання гэтай кнігі, праз «Тэстамент» знаёміў чытачоў з панегірычнай кнігай і г. д.[11] Пагоня на мініяцюрах «Тытулярніка» сустракаецца некалькі разоў: спачатку як ілюстрацыя аднаго з царскіх тытулаў (вялікі князь літоўскі), потым як дзяржаўны герб ВКЛ і, нарэшце, як элемент гербаў беларускіх гарадоў Віцебска, Полацка і Мсціслаўля. Асобны аркуш для Пагоні як дзяржаўнага герба — падкрэслена асобна ад польскага Белага арла — недвухсэнсоўная дэманстрацыя погляду Масквы на Рэч Паспалітую як на дзяржаву двухчасткавую, федэратыўную.

Пра ўвагу Масквы да Вялікага Княства ведалі ў Вільні. Але ніхто з сенатараў і вышэйшых урадавых асоб не стварыў «рускай», хай сабе і не прамаскоўскай, апазіцыі, як гэта бывала ў часы Аляксандра Ягелона, Баторыя ці таго ж Жыгімонта III (Віленскае брацтва, за якім стаялі Агінскія). Цяпер большасць з тых, хто не дыстанцыраваў ад палітыкі, цягнуліся да Варшавы мацаваць саюз з Польшчай; моцных прыхільнікаў непасрэдных сувязей з Прусіяй і Брандэнбургам пасля Багуслава Радзівіла не засталося. У Маскве прымаюць гэтыя правілы гульні — тут усё часцей гучыць тэма расійска-польскіх дачыненняў, пры гэтым Вялікае Княства Літоўскае упамінаецца як гістарычная тэрыторыя, на

[11] *Сетин Ф. И.* «Тестамент» в издании Симеона Полоцкого // Русская старопечатная литература (XVI — первая четверть XVIII в.). [Т. 4]: Симеон Полоцкий и его книгоиздательская деятельность. М., 1982. С. 105—115.



*Акафісты і каноны. Медзярыт Максіма Вошчанкі «Прапаведзь Хрыста перад народам». Магілёў, 1693 г.*

якую мае правы пануючая ў Расіі дынастыя. Паняцце «Польшча», якое спачатку было рэфрэнам, стала дамінантай.

Панаванне Яна Сабескага (1674—1696) пачалося з бліскучай перамогі над туркамі пад Хоцімам. Гэтая падзея, важная для ўсёй Еўропы (спынена турэцкае нашэсце!), знайшла адлюстраванне ў шматлікіх кніжных выданнях. Адным з такіх выданняў стала і кніга з апісаннем тэатральнай дзеі, што адбылася 12 кастрычніка 1783 г. — у юбілей Хоцімскай бітвы (Вільня, 1784 г., друкарня акадэміі). Больш таго — узрасла актыўнасць у грамадстве, звязаная з імкненнем з боку ВКЛ умацаваць Рэч Паспалітую — імкненне, якое хутка разбілася аб рэлігійную, сацыяльную, моўную, заканадаўчую пярэстасць грамадства Вялікага Княства. Характэрным прыкладам з'яўляецца арганізацыя, дзейнасць і заняпад Слуцкай друкарні (1673—1688) і спроба францысканцаў друкаваць кнігі ў Гродне (1679).

З другога боку, магчымасць развівацца адносна самастойна для ВКЛ заставалася. Прыкладам гэтай тэндэнцыі можа служыць Магілёў. Тут не толькі развівалася гаспадарка (гандаль і рамёствы), але і расквітнела кніжнасць — пісаліся гарадскія хронікі, працавала друкарня.

У канцы XVII ст. ад езуітаў пачала распаўсюджвацца новая ідэя — нібыта мясцовая «літоўская» самастойнасць шкодзіць стварэнню моцнай агульнай з Польшчай дзяржавы. Гэтая думка часта ўзнікае ў кнігах, што выдае акадэмічная, цалкам падкантрольная ордэну, друкарня. Як прыклад можна разгледзець панегірык, напісаны на пахаванне (у 1695 г.) жонкі падканцлера ВКЛ Караля Станіслава Радзівіла — Кацярыны Радзівіл: «Усход несмяротнай славы на заходзе смяротнага жыцця...»[12].

Яго аўтар — сын пінскага харунжага, аўдытар Віленскага універсітэта Геранім Гадэбскі. Большасць тэкстаў ён напісаў на лацінскай мове, прынамсі славаслоўе да роду Радзівілаў, добрыя словы аб памерлай і г. д., а ў канцы некалькі вершаваных і празаічных твораў па-польску з прысвячэннем Ганне Сангушцы з Радзівілаў. Тэксты і тры гравюры з сімвалічнымі малюнкамі праводзяць думку аб тым, што гербавы Чорны арол Радзівілаў, які так падобны да польскага кароннага Белага арла, не павінен быць з ім у антаганізме. Наадварот, ён павінен спрыяць польскаму Арлу шчасліва злучыцца з гербам Пагоні — такі саюз забяспечыць росквіт і перамогу над ворагамі. Апошні верш гэтай кнігі, названы «Карона светла асвечанага Арла і Пагоні пасля пераадолення антаганізму», пачынаецца такімі радкамі:

Juz po antagoniey skłoń się do Korony
Z Pogonją Orlę dzielny y niezwyciężony.
Niechay że wieniec łaurowy
Zwycięskie otoczy głowy...
Пасля антаганізму — схіліся да Кароны,
З Пагоняй Арол мужны і непераможны.
Няхай жа вянок лаўровы
Пераможцаў пакрые галовы...

[12] *Narbutienė D., Narbutas S.* XVII a. Lietuvos lotyniškų knygų sąrašas. № 368.




ORIENS
IMMORTALIS GLORIÆ,
IN OCCIDENTE,
VITÆ MORTALIS:
REGIO, DVCALI, & FÆDERATO
AFFINIVM, COGNATARVMq; FAMILIARVM SPLENDORE
SERENISSIMVS;
A CELSISSIMA DVCALI RADIVILIA-NA AQVILA
OBSERVATVS.
SVB PARENTALIA IVSTA,
SERENISSIMÆ, ac CELSISSIMÆ
S. R. I. PRINCIPIS,
DOMINÆ, D. CATHARINÆ
RADIVILIÆ,
Ducis in Nieswież & Ołyka, Procancellariæ M. D. L.
Atque
Publicis, mæstissimisque, Orbis Poloni & Litvani aspectibus,
Nec non,
ILLVSTRISSIMO, ac CELSISSIMO
S. R. I. PRINCIPI,
DOMINO, D. CAROLO STANISLAO
RADZIWIŁ, PROCANCELLARIO
M. D. L.
Duci in Ołyka & Nieswież, Comiti in Szydłowiec, Mir, Krożę, & Biała, Præmysliensi, Camenecensi, Krzyczeviensi &c. &c.
GVBERNATORI:
propositus,
Ab Alma Academia, & Vnivertsiate Vilnensi Soc: IESV.
Per Magnificum Dominum HIERONYMVM GODEBSKI, Vexilliferidam Pinscensem,
In eadem Alma Vniversitate, Eloquentiæ Auditorem.
Anno, ab Ortu Solis Incarnati, super occasum humani generis
MDCXCV.
Typis Vniversitatis Vilnensis Societatis IESV.




SPLENDOR REGIVS
IMMORTALIS GLORIÆ
IN OCCIDENTE VITÆ MORTALIS
A DVCALI RADIVILIA-NA AQVILA
Observatus.
HOc demum est CAROLE Principum gloriosissime, Ducalem Maiestatem Regia Augustam cognatione, Potentissimæ Serenitatis participem esse; inde etiam inextincta innubique luce consurgere,
A

*Тытульны аркуш кнігі Гераніма Гадэбскага «Oriens immortabilis gloriae...». Вільня, 1675 г.*

*Радзівілаўскі арол (ён мае на грудзях знак «тры трубы») побач з каронным арлом на сімвалічнай гравюры з кнігі «Oriens immortabilis gloriae...». Вільня, 1675 г.*

Ад 1697 да 1733 г. каралём Рэчы Паспалітай быў Аўгуст II — саксонскі курфюрст Фрыдрых Аўгуст, які дзеля польскай кароны перайшоў з пратэстантызму ў каталіцызм. Першы год кіравання быў выкарыстаны для парушэння «старыны» — адбылося ўзгадненне правоў (coaequatio iurium) Вялікага Княства і Кароны. Насуперак соймавай пастанове 1669 г., дзе гаварылася, што «ўсялякае наваўвядзенне ў Рэчы Паспалітай можа быць небяспечным і прывядзе да вялікіх хваляванняў»[13], па просьбе шляхты скончылася эпоха «рускай» мовы ў справаводстве, бо шляхта ВКЛ тую мову як мову пісьмовую ўжо не выкарыстоўвала (за выключэннем Жамойці), замяніўшы яе на польскую. Занапад мовы не перашкаджаў карыстацца «рускім» патэнцыялам мясцовай інтэлігенцыі іх суседзям. У 1697 г. у Галандыі пазнаёміліся ўраджэнец Міншчыны, выпускнік Слуцкай гімназіі Ілля Капіевіч і рускі цар Пётр I.

На заказ цара Капіевіч у 1698—1706 гг. пераклаў на рускую мову і выдаў у Амстэрдаме і Капенгагене каля 20 кніг: навучальныя дапаможнікі па вайсковай і марской справе, гісторыі і арыфметыцы, лацінскай і рускай граматыцы, руска-лацінска-нямецкі і руска-лацінска-галандскі слоўнікі, карту зорнага неба[14]. Далейшы лёс гэтага кніжніка звязаны з Масквой.

[13] Цыт. па: Бардах Ю. и др. История государства и права Польши. М., 1980. С. 235.

[14] *Nowak Z.* Eliasz Kopiewicz, polski autor, tłumacz, wydawca i drukarz świeckich książek dla Rosji w epoce wczesnego Oświecenia // Libri Gedanenses: Rocznik Biblioteki Gdańskiej Polskiej Akademii Nauk za rok 1968/1969. Gdańsk, 1970.



DYARYVSZ
DROGI
Z Wilna do Peterburga J. W. JMCI PANA
SAPIEHI,
STAROSTY Bobruyſkiego, á teraz Felt-MARSZAŁKA Woyſk Roſſyiſkich y Kontynuácyi, Rezydencyi, w Peterburgu.

DIe 16. Februaryj. JMC P. STAROSTA Bobruyſki, z Synem ſwoim Iegomćią P. STAROSTĄ Zdźitowſkim, wyiechali z Wilna do Peterburga, z ktorymi w kompánij Jchmć Panowie *Merecki* y Luboſzánſki STAROSTOWIE w tęż drogę obligowáni, y Imć Pán URBANOWICZ Generał *Major* Woyſk Rośinſkich, ktory dla ſprowádzenia y przeprowádzeniapomienionych Ichmćiow do Peterburga, był od *X*iążęćia Imći MĘZYKA Ordynowány do Litwy. Zá Kápelana w tęż Podrożę Imć Xiądz SANKOWICZ, *Doctor Sacrae Th: Ordinis Praedicatorum*, tákże Imć P. PODOLEC, y innych niemało Przyiaćioł y ſług żebrało ſię.

*Die* 21. *Februaryj.* Wyż mianowáni Ichmć ſtánęli w Rydze o godźinie piątey po Południu na Przedmieśćiu przy Ryſkim Rynku. *Die* 22 *Ejuſd.* Kommendánt Ryſki y inni znácznieyśi Officierowie oddáwáli Wizyty. Tegoż dnia od *X*iążęćia Imći Repliná Generálnego Gubernatora RYSKIEGO zaproſzeni Ichmć ná Obiad, o godźinie dwunáſtey iechali do Zamku, gdźie od pomienionego *X*iążęćia Imśći Gubernatora *gratiſſime* przyięći y ſolennie tráktowáni byli.

*Die* 23. *Ejuſdem.* Zraná o godźinie dźieśiątey był tenże *X*iąże Imć REPLIN z wizytą u Imći *P.* STAROSTY Bobruyſkiego, ktory záraz wyśiadſzy z Kárety nim wſzedł do Pokoiu exkùzował ſię, że mu náleżało dawniey uczynić ten honor, ále z fatygowánych podrożą inkommodowáć niechćiał. *Tandem* godźinę zábawiwſzy ſię, odiechał.

Tegoż dnia Imć Pán STAROSTA Bobruyſki w ſtáncyi ſwoiey iadł Obiad, na ktorym Kommendánt Ryſki y inśi znacznieyśi Officyerowie záproſzeni znaydowáli ſię. Po Obiedźie o godźinie czwartey Imć Pan STAROSTA Bobruyſki y inni wyż mianowáni Ichmć wyiechali z Rygi w przedśięwźiętą drogę, w ktorey dla wſzelkiey uczynienia wygody y uſługi, oraz ná Pocztách względem koni łátwo-

A prz

*«Дыярыуш падарожжа з Вільні да Пецярбурга яго высокай міласці пана Сапегі, бабруйскага старасты, а зараз першага фельдмаршала расійскіх войск і прабывання яго ў Пецярбурзе». 1725 г.*

У 1698 г. адбылася ўрачыстая каранацыя Аўгуста ІІ. Сярод запрошаных на гэтую падзею гасцей у якасці пасла ад горада Магілёва і Богаяўленскага брацтва ў Варшаву разам са шляхетным панам Васілём Сідаравічам Гукам паехаў друкар і мастак-гравёр Максім Вошчанка[15]. Мэтай яго паездкі было пацвярджэнне правоў брацтва на друкарню. Друкар схітраваў і атрымаў прывілей толькі для сябе. Потым брацтва доўга з ім судзілася ў Магілёўскім магістраце і нават скардзілася мітрапаліту[16]. У наступным годзе выйшла знакавая для свайго часу і бліжэйшай будучыні кніга — «Маніфест Богу, свету і Айчыне яснавяльможным ягамосцям панам Казімірам Янам, графам на Быхаве, Заслаўі і Дуброўне, Сапегам, ваяводам віленскім, вялікім гетманам Вялікага Княства Літоўскага да ўсеагульнага ведама пададзены году 1699»[17]. Гэты «Маніфест» абазначыў пачатак вялікага грамадзянскага закалоту ў ВКЛ, які перакрочыў у XVIII ст. і застаўся вядомы як вайна Сапегаў з Радзівіламі (хоць былі закранутыя інтарэсы іншых магнацкіх родаў — Пацаў і Агінскіх).

Духоўная рэформа ў Расіі ў 1721 г. фармальна ўраўняла архірэяў Рускай праваслаўнай царквы з іншымі расійскімі чыноўнікамі. Гэта значыла, што магілёўскія епіскапы, якія падпарадкоўваліся маскоўскаму патрыярху, пасля ліквідацыі патрыярхату сталі дзяржаўнымі чыноўнікамі Расіі. Склалася парадаксальная сітуацыя: вышэйшая духоўная асоба праваслаўных ВКЛ стала чыноўнікам замежнай дзяржавы. Тым часам расійская традыцыя канцэнтрацыі кнігавыдання для патрэб царквы ў адным месцы — Маскве (і пад жорсткім наглядам) — была парушана: прадукцыя Магілёўскай друкарні пайшла на расійскі кніжны рынак, у Магілёве выконвалі і заказы з Расіі — прынамсі заказ на друкаванне першай часткі «Жыццяў святых» мітрапаліта Дзмітрыя Растоўскага. Гэтае выданне не было скончана, і першы выдадзены том стаў апошнім.

Адзіная новая друкарня, што ўзнікла ў ВКЛ пад час праўлення Аўгуста ІІ, — друкарня езуіцкага калегіума ў Пінску (1729—1743). Яна пакінула вельмі мала знакаў сваёй дзейнасці — бібліёграфам вядомыя ўсяго некалькі назваў пінскіх выданняў[18].

Мы ўжо адзначалі, што Замойскі сабор 1720 г. па сутнасці ператварыў уніяцкую царкву ў асобны дыяцэз рымска-каталіцкай і што моцных народных і ўнутрыцаркоўных

[15] Прозвішчам «Вошчанка» часта падпісаны гравюры (часам лацінскімі, часам кірылічнымі літарамі) і тытульныя аркушы выданняў гэтага майстра. Нам здаецца неапраўданым пісаць яго «Вашчанка», як гэта часам робяць сучасныя беларускія даследчыкі.

[16] *Жудро Ф. А.* История Могилевского Богоявленского братства. Могилев-на-Днепре, 1890. С. 98.

[17] *Sapieha K. J.* Manifest Bogu, światu y Oyczyźnie [...] do powszechney wiadomości podany roku 1699. [Wilno, 1699].

[18] *Мальдзіс А. В.* Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. Мн., 1974. *Самайлюк Т.* Друкарня езуітаў у Пінску // Спадчына. 2003. № 4/5. С 96—99.


а.

Мцъ Сентеврій

Слово в начало индикта сі есть новагѡ лета.

Бгъ Црь вѣкомъ, положивый времена и лѣта въ своей власти, и въ тыя къ славѣ своей, а къ человѣческому ѿ дѣлъ упокоенію, различныя праздники узаконивый, даде повеленіе въ ветхомъ завѣтѣ: праздновати нарочито мцъ Сентеврій по вся лѣта, да людіе в сей мцъ упразднившеся ѿ мовъ житейскихъ, единому поработаютъ Бгови: сице въ книгахъ Моѵсеовыхъ пишется: рече Гдь к Моѵсею гля: Гли сыномъ Ійлевымъ рекій. Мца седмагѡ, в первый днь мца, да будетъ вамъ покой, всякагѡ дѣла да не творите во всѣхъ селеніяхъ вашихъ, и да принесете всесожженіе Гдѹ. Яко же бо днь седмый, Создатель по шестодневномъ вся твари своея созданіи, блви, и ѡсти егѡ почивъ вонь, и члвкови заповѣда гля: Шесть дній дѣлай, а днь седмый субота Гдѹ Бгѹ твоему, да не сотвориши во дѣла своегѡ: тако и мцъ

Дѣя: а. Лев: кг. Исх: к.

А седмый

*Жыцці святых (складзены Дзмітрыем Растоўскім). Першы аркуш з чытаннямі на верасень. Гравіраваная застаўка са сцэнай хрышчэння і ініцыялам «Б». Магілёў, брацкая друкарня, 1702 г.*


KAZANIA
Ná
NIEDZIELE
Y
SWIĘTA,
Cáłego Roku.
Wielebnego Xiędza
PIOTRA SKARGI
Societatis JESU.
Trzy rázy do Druku w Krákowie
PODANE.
Teraz czwárty raz
Zá Dozwoleniem Stárszych
PRZEDRUKOWANE.
w PINSKU
...rni Collegium Societatis JESU, Roku Páńskiego
1735.

*Тытульны аркуш кнігі Пятра Скаргі «Kazania ná niedziele y swięta...», надрукаванай у Пінску ў 1735 г. Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.*

рухаў гэта не выклікала, бо замацавала ўжо складзеную практыку. Здаецца, што была яшчэ адна прычына — асцярожная палітыка Ватыкана і вышэйшай уніяцкай іерархіі — рашэнні сабору не адразу былі даведзены да грамадства. Праз чатыры гады пасля сабору Кангрэгацыя прапаганды веры выдала яго матэрыялы ў Рыме на лацінскай мове, якую уніяцкія святары ў пераважнай сваёй большасці не ведалі. І толькі ў 1785 г. з'явілася віленскае (у друкарні манастыра св. Тройцы) выданне ў перакладзе на зразумелую прыходскім святарам польскую мову. Пераклад зрабіў Палікарп Філіповіч, архімандрыт Ляшчынскага манастыра пад Пінскам. Усё гэта значыць, што на працягу жыцця цэлага пакалення інфармацыя аб рашэннях сабору перадавалася і трактавалася вусна, без апоры на аўтарытэт друкаванага слова.

І сёння ўдаецца адшукаць выданні перыяду панавання Аўгуста ІІ, што засталіся невядомыя бібліяграфіі. Адно з такіх знайшлося ў БАН у Пецярбурзе, калі там (пасля амаль 50-гадовага перапынку) стаў даступны Славянскі фонд. Гэтая кніга («Голас серафічны, што хваліць траякім тонам аднаго ў трох асобах Бога»)[19] мае прысвячэнне наваградскаму ваяводзе Яну Мікалаю Радзівілу, яго жонцы Дароце з Пшэбэндоўскіх і іх сыну, крайчаму ВКЛ Марціну Радзівілу. Аўтар прысвячэння — клецкі пробашч Міхал Залескі — дзякуе гэтай сям'і як дабрадзеям-фундатарам новага фарнага касцёла і брацтва пры ім у Клецку. «Approbatio» (ухваленне) падпісаў у Нясвіжы 13 ліпеня 1723 г. Аляксандр Іаан Жабраўскі, віленскі канонік і цэнзар, «imprimatur» (дазвол да друку) — Багуслаў Корвін-Гасеўскі, адміністратар Віленскага біскупства.

У пачатку кнігі надрукаваны шэсць пунктаў адпушчэння грахоў брацтву св. Тройцы пры касцёле, дадзеныя папам Кліментам XI; потым пералічваюцца абавязкі членаў брацтва. На адгорцы тытульнага аркуша ёсць гравюра, зробленая спецыяльна для дадзенага выдання. Паказаны пабудаваны ў стылі віленскага барока новы Клецкі касцёл[20], над якім у аблоках у трохкутніку — Святая Тройца (пададзена спосабам злучэння трох твараў у адзін, пры гэтым на выяве тры барады, тры насы, але чатыры вокі) у атачэнні сімвалаў евангелістаў — анёла, льва і быка. Каб заняць сваё месца сярод іншых, арол (сімвал евангеліста Іаана) ляціць на неба з зямлі, ад новага касцёла. Воляй невядомага мастака гэты арол яшчэ і геральдычны арол Радзівілаў — на грудзях у яго радзівілаўскія тры рагі, з якіх вылятае слова «sanctus» — святы. Надрукаваны таксама словы і ноты песні да Святой Тройцы.

[19] Głos seraficzny, trojakim tonem jednego w trzech osobach Boga wychwalający. Vilnae, 1724. — Паасобнік БАН (шыфр XXIX/б21032) паходзіць з бібліятэкі Радзівілаў у Бялай Падляскай.

[20] Зараз гэты помнік архітэктуры разбураны, гравюра застаецца адным з лепшых іканаграфічных сведчанняў пра яго выгляд.



GŁOS
SERAFICZNY,
Trojákim tonem
Jednego w Trzech O-
ſobách BOGA
Wychwaláiący,
Przy Nowey Bráctwá Troy-
cy Przenayśw: pod tymże ty-
tułe w Kośćiele Fárnym Klec-
kim erekcyi, y Introdukcyi
Intonowány,
pod Práſy Drukárſkiey
Wynieśiony:
Roku
Ktorego BOG mowił nam w Synu swoim.
1724.
VILNÆ Typis Acad: Societatis JESU.



*Głos seraficzny...*
*Тытульны аркуш і гравюра з алегарычным арлом на фоне Клецкага касцёла.*
*Вільня, 1724 г.*

Казнакрадства, бездапаможнасць і... бляск характарызуюць пераломную эпоху Аўгуста III (1733–1763), які сеў на каралеўства пры дапамозе Расіі. За доўгі час яго панавання толькі адзін сойм (у 1736 г.) закончыў працу, астатнія 13 былі сарваныя. Тым часам праз актыўную дзейнасць гродзенскага старасты і надворнага падскарбія Антонія Тызенгаўза ў гаспадарцы ВКЛ адбываліся значныя змены, у тым ліку і ў кніжнай справе. У 1735 г. у Гродне была арганізавана друкарня, якая праіснавала да 1796 г. Выдавала яна пераважна матэрыялы соймаў і газеты і стала важным чыннікам у палітычным жыцці краіны. У гэты ж час афіцыйная гістарыяграфія пачала распаўсюджваць міф аб тым, што Мікалай Радзівіл Сіротка выдаткаваў 5 тысяч злотых на закуп ерэтычных кніжак, каб потым іх спаліць[21].

Менавіта за часы Аўгуста III адбылася перамена мастацкіх стыляў — прайшоў падзел паміж эпохамі барока і Асветніцтва, альбо, калі прыняць іншыя, мясцовыя сістэмы каардынат, у 1750-я гг. стварылася мяжа паміж сарматызмам і Асветніцтвам[22]. Будучы найперш саксонскім манархам, Аўгуст III уключыў некалькі асоб з ВКЛ у кола сваіх саксонскіх міністраў (падляскага ваяводу Міхала Сапегу і вялікага маршалка Паўла Сангушку) і генералаў (Язэпа Сапегу і Мікалая Радзівіла). Кантакты з Германіяй, такім чынам, акрамя даўняга брандэнбургска-прускага накірунку набылі яшчэ адзін — паўднёва-заходні, саксонскі. Пры гэтым новы манарх лёгка даў дзяржаўныя пасады Вялікага Княства асобам, якія не былі яго грамадзянамі (што забараняў Статут ВКЛ): літоўскім лоўчым ВКЛ стаў паляк Сулкоўскі, а пасля яго смерці — немец Бруль. Сто гадоў раней такое было б прынцыпова немагчыма — успомнім спрэчку за Віленскае біскупства, калі канцлер Леў Сапега не ставіў дзяржаўную пячатку на каралеўскі загад аб прызначэнні паляка Мацэеўскага! Але інтэграцыя ад таго

[21] *Niesiecki K.* Korona Polska. T. 3. Lwów, 1740. S. 832.
[22] *Staszewski J.* August III Sas. Wrocław etc., 1989. S. 194.

*«Ісус, Марыя, Іосіф. Septenna sacra, гэта значыць сяміразовая богаслужба... у касцёле вялебных айцоў кармелітаў босых сем разоў на год служыцца да святога Іосіфа, патрона і апекуна...». Прысвячэнне княгіні Тэклі Карыбутавай-Вішнявецкай, заснавальніцы новага манаскага ордэна. Вільня, 1745 г.*


Ná
Kleynot rodowity
JASNIE OSWIECONEY
XIĘZNY JEYMCI.

Głoſzą Herbowne Trąby dobroć Sercá TEKLI; (rzekli.
Idźmyż! pod ſkrzydła Orła: ex converſis Societas MARIÆ, pryncypalnie z Rzymu Głośna w lot przydźie, dla ſwey Promotorki prymu.

SUPPLIKA
Do
J.O. XIĘZNEY JEYMCI
Nowego Zgromadzenia
FUNDATORKI.

J. O. XIĘZNO PANI, á PANI
MIŁOSCIWA,
FUNDATORKO
y
PROTEKTORKO
Naſza.

Zalibym ſłuſzney nie zdał ſię podlegać cenſurze, gdybym przed Pańſkim konſpektem Twoim, wſzelkiey ſzczodroty y łaſkawośći pełnym, z prożną odwa-
A żył

часу зайшла так далёка, што Сулкоўскі, пароднены з тымі ж Сапегамі (пра гэта сведчыў і друкаваны панегірык з гравіраванымі гербамі абодвух родаў), не меў на Літве ніякіх клопатаў.

Эпоха Асветніцтва змяніла і ролю жанчыны ў грамадскім жыцці. Цяпер жанчына са шляхетнай сям'і часта займаецца навукамі, цікавіцца мастацтвам, збірае асабістую бібліятэку, арганізоўвае дабрачынныя таварыствы. Гэта добра адчуваюць кнігавыдаўцы, асабліва манахі, якія прысвячаюць шматлікія выданні «высокім» паннам, змяшчаючы на тытулах кніг тытулы іх мужоў і бацькоў, — з'ява амаль адсутная ў папярэдні перыяд. Прыкладам можа быць дзейнасць віленскай ваяводзіны Тэклі Карыбутавай-Вішнявецкай, фундатаркі новага брацтва пад эгідай ордэна кармелітаў босых. У спецыяльна прысвечанай таму кнізе[23] змешчаны ўзнёслы зварот да гэтай паважанай жанчыны, напісаны ксяндзом Стэфанам Турчыновіч-Сушыцкім, пробашчам віленскага касцёла св. Стэфана.

У 1748 г. для грамадскага карыстання адчынілася бібліятэка Залускіх у Варшаве — падзея паказная і разлічаная на знешні эфект; казалі, што ў самой Варшаве гэта было мала каму патрэбна[24]. Культурны працэс Новага часу ў XVIII ст. усё больш атрымліваў агульнаеўрапейскі характар. Развіццё культуры ў асобных рэгіёнах Еўропы паказала тэндэнцыю да тыпалагічнага збліжэння. Гэта датычыць і зямель неабсяжнай Расійскай дзяржавы, што пачыналася за ўсходняй мяжой ВКЛ. Згладжваліся стылёвыя адрозненні ў культуры праваслаўнага і каталіцкага арэалаў, складалася новая геапалітычная прастора, прасякнутая рознага кшталту сувязямі. Гэта стала сутнаснай прыкметай Асветніцтва. У гісторыі культуры Асветніцтва адзначылася не толькі ўласнымі дасягненнямі, але і выразнай экстравертнай тэндэнцыяй, павернутасцю «да свету», імкненнем чэрпаць духоўнае святло з самых розных крыніц і распаўсюджваць яго на магчыма большае кола людзей і народаў, што не пе-

[23] *Turczynowicz-Suszycki S.* Jesus Maria Józef. Septenna sacra, to iest siedmiorakie nabożeństwo [...]. Wilno, 1745.
[24] *Staszewski J.* August III Sas. S. 84.


In Stemmaticum Decus
Illustrissimi & Reverendissimi
ANTISTITIS.

Hactenus ascensus vibrata Sagitta per altos,
Non tamen in centro, functa labore, stetit.
Fortè Cruci geminæ, decus ingens tertia quæri
Debuit, hancq; dedit Pontificalis honor.
Sed non desistet. cursu venerabile Telum,
Donec erit, summi culminis Ara, scopus.

ILLUSTRISSIME
EXCELLENTISSIME
REVERENDISSIME
PRÆSUL.

Devota Magno carmina Nomini,
Et Infulatis debita fascibus
Apollo Calasantianus
Metra dicat, resonante passim
Parnassiorum per juga montium,
Et per recessus Phocidis abditos
Plausu triumphali; quòd ille
Præsuleas Tibi jure Vittas
a2 Assu-

*Honor praesuleus meritis, virtitubus et prosapiae celfitudine... D. Josephi Sapieha... referendarii Magni Dukatus Lithvaniae coronatus eadeq. pontificia mitra coronans... Anno1737 die 1-ma Septembris. Адгорт тытульнага аркуша з гербам Язэпа Сапегі і пачаткам звароту піярай.*

рашкаджала культываваць высокі інтэлект і вытанчанасць густу[25]. У тым жа 1748 годзе сталіцу ВКЛ спасцігла няшчасце — горад пацярпеў ад вялікага пажару. Друкарня акадэміі адразу ж выдала прысвечаную гэтай падзеі кнігу езуіта Базыля Яхімовіча — аўтар здолеў ужо на тытуле паказаць (і закляйміць) вінаватага: «Рэляцыя аб страшлівым упадку сталічнага горада Віленскага ў Вялікім Княстве Літоўскім, таксама пасля пільнай рэвізіі... кароткае апісанне цэркваў, манастыроў, палацаў, камяніц, дамоў, людзей... у фатальных руінах таго ж сталічнага места Віленскага Я. К. М. пахаваных, ад нявернага жыда Рубіна, што жыве на Зарэччы, у дварку маёнтка пана Нарбута, віленскага лоўчага, з бровара, як з пекла, выбуховым агнём дашчэнту спаленага дня 11 чэрвеня 1748 г.».

Ускладніліся дачыненні паміж грамадствам і каталіцызмам, асабліва з прычыны празмерна актыўнай дзейнасці езуітаў. Віленскі епіскап Язэп Сапега і яго паслядоўнікі вымушаны былі ўдзельнічаць ў змаганні з гэтай магутнай сілай сваімі спосабамі. Яны пашырылі колькасць ордэнаў, якія мелі ўласнае кнігадрукаванне; надзвычай трывалай стала-

[25] *Свирида И. И.* Между Петербургом, Варшавой и Вильно. Художник в культурном пространстве. XVIII — середина XIX в.: Очерки. М., 1999. С. 8.





*Маскоўскі «Тытулярнік» 1672 г. Партрэты двух вышэйшых для праваслаўных і каталікоў ВКЛ першасвятароў: патрыярха канстанцінопальскага Мяфодзія і Клімента IX, папы рымскага.*

ся створаная ў 1754 г. Віленская друкарня піяраў. Езуітаў актыўна падтрымлівалі буйнейшыя магнаты ВКЛ — Радзівілы. Гэтыя некаранаваныя каралі аднавілі традыцыю кнігадрукавання ў Нясвіжы: віленскі ваявода Міхал Казімір Радзівіл у 1750 г. арганізаваў друкарню і ў хуткім часе перадаў яе ў кіраванне езуіцкага калегіума. Трохі пазней за Радзівілаў сваю друкарню арганізавалі ў Слоніме Агінскія, аднак прадпрыемства існавала ўсяго пяць гадоў.

Выданні езуітаў і падначаленых ім базыльян панавалі на кніжным рынку ВКЛ. Некаторыя засталіся выразнымі помнікамі палітычных інтрыг Літоўскай правінцыі ордэна. Так, пасля смерці (15 мая 1762 г.) Міхала Казіміра Радзівіла вышэйшую пасаду ў дзяржаве заняў Караль Станіслаў Радзівіл, які быў перакананы ў большай карысці саюза з магутнай Расіяй, чым з заняпалай Саксоніяй. У наступным годзе «прыніжаная Літоўская правінцыя Таварыства Ісуса» выдае раскошны панегірык з гэтай нагоды, адрасуючы яго, на манер блаславенняў папаў рымскіх, «Urbi et orbi» — «Гораду і свету Палемона». Гэтае парадное выданне зрабілася выразным помнікам свайго часу. Палітычная кан'юнктура хутка змянілася, і 11 жніўня 1764 г. дэкрэтам канфедэрацыі ў Гродне Караль Станіслаў быў пазбаўлены годнасці ваяводы і адпраўлены ў выгнанне.

Саксонская дынастыя спынілася, каралём і вялікім князем стаў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі — крэатура Расіі. Выступленне часткі шляхты супраць новага караля і імперскай Расіі не змяніла гісторыю, але засталося ў ёй як адна з бурлівых падзей (Барская канфедэрацыя 1768 г.). Адной з балючых праблем новага маястату стала ўладкаванне рэлігійных супярэчнасцей. Закон супраць дысідэнтаў быў прыняты ў 1775 г., і пытанне з суіснаваннем розных плыняў хрысціянства ў адной дзяржаве заставалася адкрытым амаль да канца XVIII ст. Толькі ў 1791 г. у Пінску сабралася Генеральная кангрэгацыя — 96 прадстаўнікоў праваслаўнага насельніцтва — і склала праект аб устанаўленні ў Рэчы Паспалітай адзінай і агульнай вышэйшай праваслаўнай царкоўнай іерархіі: трох епіскапаў і мітрапаліта. Было заяўлена пра адмову царкоўных іерархаў ад іншаземнай залежнасці. Прызнавалася вяршэнства канстанцінопальскага патрыярха, а не расійскага Сінода. У маі 1792 г. рашэнні Пінскай кангрэгацыі былі прынятыя соймам. Аднак расійскае войска і таргавіцкія канфедэраты зрабілі выкананне гэтых пастаноў немагчымымі. І калі на далучаных да Расіі землях ВКЛ у 1774 г. паўстала друкарня Магілёўскай кансісторыі, яна мела ўжо новы характар: правінцыйнай расійска-польскай. Пра старыя традыцыі магілёўскага «рускага» кнігадрукавання забыліся — яны не былі патрэбныя ні расійскаму праваслаўю, ні магілёўскаму біскупу Станіславу Богушу-Сестранцэвічу, які стаў цяпер мітрапалітам каталіцкай царквы ў Расіі.

# ПЕРАЕМНАСЦЬ ТРАДЫЦЫЙ У КНІГАВЫДАННІ

Існаванне шматнацыянальнай дзяржавы з дамінаваннем польскай мовы і паланізаванай культурай вярхоў грамадства запаволіла ўласцівы для Новага часу працэс фарміравання нацыянальнай самасвядомасці народаў Рэчы Паспалітай. Палітычная свядомасць насельнікаў Вялікага Княства была дваістая, што адлюстравалася, прынамсі, у распаўсюджаным саманайменні «паляк з Літвы», прычым абедзве часткі гэтага азначэння не мелі этнічнага зместу[26]. Не мела выразнага этнічнага накірунку і пераважная большасць друкарняў ВКЛ — як выключэнне можна назваць разлічанае толькі на габрэяў прадпрыемства Баруха Рома ў Азёрах (1789).

На працягу 1776—1794 гг. быў пастаўлены рэкорд выданняў аднаго аўтара. Такім стаў смаленскі архідыякан Міхал Францішак Карповіч (1744—1803). Яго казанні выдаваліся 36 разоў: у Вільні 25 разоў (друкарні піяраў, базыльян, Акадэміі), у Варшаве — восем, у Гродне — тройчы[27]. Патрыятычныя прамовы ксяндза Карповіча не маглі штонебудзь змяніць, а тым больш вырataваць «Рэч Паспалітую абодвух народаў» ад падзелу паміж мацнейшымі суседзямі і засталіся як помнік марнага выкіду вялікай энергіі, хоць, магчыма, гэтыя кнігі паўплывалі на далейшыя настроі ў грамадстве і працягвалі яднаць ВКЛ і каронную Польшчу нават тады, калі гэтыя дзяржавы як самастойныя ўжо не існавалі.

Традыцыю рукапіснай кніжнасці працягваюць гарадскія хронікі. У апошнія гады жыцця Вялікага Княства і першыя гады далучэння да Расіі пісаліся «Віцебская хроніка» Панцырнага і Аверкі, «Магілёўская хроніка» Сурты і Трубніцкага, ананімная «Слуцкая хроніка»; да гэтага ж летапіснага тыпу можна далучыць і пінхасы — дзеяпісанні габрэйскіх абшчын. Аўтары карысталіся рознымі мовамі, але аднолькавыя задачы — захаваць для нашчадкаў звесткі пра сучасную ім гісторыю, перш за ўсё мясцовую, — збліжаюць гэтыя помнікі. Яны ўсё радзей укладаюцца як зборнікі — аўтары не лічаць патрэбным, як гэта было ў папярэднія часы, дадаваць літаратурныя творы, прававыя дакументы ці рэлігійныя трактаты. «Адна кніга — адна тэма», — вось формула новай кніжнасці. Але і стары тып кнігі «ўсякага ўсялякага» зместу пад адной вокладкай («Silva rerum» — «лес рэчаў») менавіта ў гэты час дасягае вяршыні папулярнасці. Зборнікі рознага зместу, вядомыя з часоў Кіеўскай Русі, ператвараюцца ў «Silva rerum» тады, калі набываюць рысы індывідуальнай творчасці, раскрываюць асобу складальніка. Гэта робіцца заўважным яшчэ ў сярэдзіне XVII ст. Прыкладам можа быць зборнік, які належаў Сімяону Полацкаму: пачынаецца ён яго казаннем у дзень Іаана Хрысціцеля ў храме Богаяўлення ў Магілёве ў 1649 г. і змяшчае урачыстыя прамовы з розных нагод, выпісы са зборнікаў энцыклапедычнага зместу і да т. п., а таксама велізарную эпісталярыю (151 пасланне розным асобам). Найбольш выразныя прыклады «Silva rerum» у кніжнасці XVIII ст. — «Svada latina» («Прывабная лаціна») Я. Д. Астроўскага і зборнік К. Несялоўскага. Першая з іх сабрала ў двух тамах звесткі пра Сапегаў — прывілеі каралёў і вялікіх князёў, вершаваныя і празаічныя творы, у якіх упамінаюцца прадстаўнікі гэтага роду, звесткі пра шматлікіх сваякоў Сапегаў і прадстаўнікоў розных галін роду і г. д. — усяго больш за 1400 старонак фоліо. У кожным з тамоў па адной ілюстрацыі — гравіраваны партрэт канцлера Яна Фрыдэрыка Сапегі і гравюра цудатворнага абраза Багародзіцы Гвадэлупскай, што знаходзіўся ў маёнтку Сапегаў Кодэнь (20 кіламетраў ад Брэста).

Натхняльнікам (а часам і аўтарам) «Прывабнай лаціны» называюць самога канцлера, у якога пінскі скарбнік Ян Астроўскі (што падпісаў прысвячэнне) працаваў сакратаром. Вось адрасаты панегірыкаў з гэтай кнігі: кароль Францыі Людовік XIII, Ян Сабескі, калішскі ваявода Мацей Казьмінькі, Тэрэзія Баварская, імператар Траян — сапраўды ганаровая кампанія для Яна Сапегі; сабраць такую можна толькі на старонках спецыяльна задуманай кнігі. Завяршаецца гэты двухтомнік раздзелам «Compendium geographiae» — невялічкім падручнікам па еўрапейскай, улучаючы ВКЛ, геаграфіі.

[26] Праблеме ўзаемадачыненняў народаў у ВКЛ прысвечана шмат даследаванняў. Адна з апошніх абагульняльных прац: *Bardach J.* Polacy a narodziny Litwy historycznej — próba analizy systemowej // Kultura i społeczeństwo. 1994. № 2.

[27] *Estreicher K.* Bibliografia polska. T. 19. Kraków, 1903. S. 149—155.




*Канцлер ВКЛ Ян Фрыдэрык Сапега. Гравіраваны партрэт з кнігі «Svada latina».*

Нашмат больш сумбуру, блытаніны і варыятыўнасці ў кнізе шляхціца Наваградскага павета К. Несялоўскага. Тут выпісы з гісторый Венецыі і Германіі, звесткі пра маскоўскія паходы, незвычайныя прыродныя з'явы. Тут і вершы на ўрачыстыя падзеі з жыцця шляхты, і прамовы дэпутата Несялоўскага на павятовых сойміках. Адсутнасць тытульнага аркуша і неахайны друк далі падставу залічваць гэтую кнігу да прадукцыі розных друкарняў, найперш Супрасльскай альбо Пінскай.

За прыклад аўтарскага «Silva rerum» можна ўзяць рукапісны зборнік мяжы XVII і XVIII стст., які напісаў Фама Канстанцін Рудаміна-Дусяцкі, земскі суддзя Браслаўскага павета. «Шчаслівы чалавек. Абразок з жыцця беларускага пана XVII—XVIII стст.» — так называлася публікацыя ўкраінскага вучонага і пісьменніка І. Франко пра гэтую кнігу[28]. Жыхары Беларусі, піша Франко, бралі ўдзел ва ўсіх перыпетыях тагачаснага палітычнага жыцця: войнах з казакамі, туркамі, маскалямі і шведамі, дый у самім краі даводзілася перажываць небяспечныя часы, вынік ці ўнутранага бязладдзя, ці наездаў казацкіх, турэцкіх альбо маскоўскіх узброеных атрадаў. Тым больш цікава прачытаць рукапісны зборнік аўтара, які шчасліва перажыў гэтую бурлівую эпоху, не захаваў прыкрасці і балючага пачуцця, але, наадварот, жывую, наіўную веру ў Наканаванасць, якая нібыта апякуецца яго сям'ёй.

Другі распаўсюджаны від рукапіснай кнігі — гэта сямейныя зборнікі, куды ўпісвалі ўсё, што для членаў сям'і здавалася патрэбным і важным: любімыя літаратурныя творы, хроніку сямейных падзей і радавод, выпіскі аб маёмасных справах і да т. п. Характэрным прыкладам можа быць «Silva rerum» 1763 г. шляхецкай сям'і Красоўскіх з Драгічынскай зямлі[29].

«Silva rerum» як зборнік цікавага чытання быў надзвычай папулярны. Часам у яго назву ўваходзіў і пэўны чытацельскі адрас — ксёндз Бенядыкт Хмялеўскі, рагатынскі дэкан, не без гумару назваў сваю кнігу «Новыя Афіны, альбо Акадэмія, поўная ўсялякай веды. На розныя часткі, як на школьныя класы, падзеленая. Мудрым для памяці, ідыётам для навукі, палітыкам для практыкі, меланхолікам для забаўкі прысвечаная»[30].

Ледзь не ў кожным з манастыроў Вялікага Княства ў XVIII ст. была большая ці меншая вытворчасць рукапісных кніг. Як прыклад мы выкарыстаем картэзіянскі манастыр св. Крыжа ў Бярозе. Аглядаючы ў 1819 г. бібліятэку гэтага манастыра, Юльян Нямцэвіч запісаў: «...апрача невялікай колькасці старых класічных выданняў, рэшта кніг аскетычныя, шмат казанняў і медытацый у рукапісах. За гады існавання манастыра значнай часткай манахаў былі немцы. Яны і пакінулі ўзоры сваёй прыроднай працавітасці. ...Сорак гадоў таму, сам памятаю — быў адзін манах, немец, які два разы пе-

[28] *Франко І.* Щасливий чоловік. Образок із життя білоруського пана з XVII—XVIII в. // ЗНТШ. 1911. Т. 105. С. 148—165.

[29] Захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Беластока. Фота пераплёту, тытульнага аркуша і ілюстрацыі з гербам Красоўскіх гэтага зборніка змясціў на каляровых уклейках часопіс «Białostoczczyzna». 1998. № 1.

[30] *Estreicher K.* Bibliografia polska. T. 14. Kraków, 1896. S. 173.

рапісаў цэлую Святую Біблію»[31]. Сярод рукапісных кніг былі дзве лацінскія манастырскія хронікі, перапісчык і аўтар якіх — манах Францішак Пасек, родам з Маравіі. Адна з іх называецца «Стагоддзе бярозаўскіх картэзіянцаў» («Saeculum Carthusiae Berezanae») і ахоплівае падзеі 1648—1779 г. Рукой Францішка Пасека перапісана першая частка (да 1747 г.), а астатнія запісы зроблены яшчэ двума почыркамі[32]. У кнізе ёсць адна ілюстрацыя і пакінута месца яшчэ для трох. Другі рукапіс, які таксама прысвечаны гісторыі манастыра, перапісаны толькі Пасекам і падае некаторыя падзеі з большай паўнатой.

Падзел кніг на дазволеныя і недазволеныя царквой адбываўся паводле каталіцкага «Індэкса забароненых кніг» і праваслаўнага артыкула «От правил святых апостол о книгах. Их же подобает чти и внимати и ихже не внимати ни чести». Перапісвалі яго часта, у самых разнастайных зборніках[33]. У артыкуле пералічаны розныя кнігі Старога і Новага Запаветаў, дазволеныя і не дазволеныя для чытання, і прыведзены пастановы адносна гэтага некаторых сабораў.

Працягваў развівацца інстытут цэнзуры. Першымі аб праходжанні кнігай цэнзуры пачалі паведамляць езуіты. На тытульных аркушах іх выданняў прынята было друкаваць фразу «З дазволу старэйшых» («Superiorum permissu»). Потым пачалі друкаваць на адгорце тытульнага аркуша цэнзарскі дазвол, які часам падпісваў сам епіскап, але часцей — спецыяльна прызначаны ордэнам цэнзар.

Базыльяне, над дзейнасцю якіх езуіты ажыццяўлялі апеку, таксама пачалі друкаваць паведамленні аб дазволе на друк і праходжанні цэнзуры. Да сярэдзіны XVII ст. дазвол (благаслаўленне) на адно і тое ж выданне часам давалі і каталіцкі, і уніяцкі біскупы, як на кніжку Пятра Вагнера Дунгоўскага «Цуды і дабрадзействы... ў Свержані, у царкве уніятаў...» (Вільня, акадэмічная друкарня, 1651 г.). Там спачатку змешчаны дазвол уніяцкага мітрапаліта Антонія Сялявы (15 чэрвеня 1650 г.), а потым бласлаўленне віленскага каталіцкага біскупа Юрыя Тышкевіча (22 студзеня 1651 г.). Пазней выданняў з такімі «сумеснымі» дазволамі мы не сустракаем.

Пра базыльянскую цэнзуру ўпаміналася ў рашэннях Наваградскай (XVIII) кангрэгацыі ордэна ў 1671 г.: «Друкаванне працягваць у Вільні, аднак кожную рэч, якая ідзе ў друк, даць праглядзець яго міласці ксяндзу Агілевічу»[34]. Доктар тэалогіі Агілевіч на той час — протаархімандрыт ордэна; гэтым рашэннем уводзілася цэнзура протаархімандрыта над усёй друкаванай прадукцыяй. Прыклад цэнзурнага дазволу базыльян можна знайсці на адгорце тытула віленскага выдання 1768 г. «Павучанняў» Яфрэма Сірына: «Сія Поученія с. Ефрема типом издати соизволяем. Гедеон Горбацкій, чину святого Василія Великаго именованный способник епископии Пинска. Книг в епархии мітрополитанской кіевской печатаемых разсуждатель».




*Абраз Багародзіцы Гвадэлупскай з сапегаўскага маёнтка Кодэнь каля Брэста. Іканаграфічны тып «Прыбаўленне розуму». Гравюра з кнігі «Svada latina».*

[31] *Niemcewicz J. U.* Podróże historyczne... między rokiem 1811 a 1828 odbyte. Paryż; Petersburg, 1858. S. 396.
[32] Тэкст выдадзены Рафалам Віткоўскім [LSPSH. 1995 (1997). T. 7. P. 173—244].
[33] Гл., напр.: *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 251, 240.
[34] АСД. Т. 12. С. 104.

Шмат цэнзурна-бюракратычных калізій ўзнікала ў тым выпадку, калі базыльянская друкарня выдавала кнігу, аўтар якой належаў да іншага ордэна. Так, кніга «Zakon trzeci braci kaznodzieiow przez s. patryarche Dominika fundowany. Czesc pierwsza. W Wilnie w Drukarni J.K.M. XX. Bazylianow Roku 1779», перш чым легчы на друкарскі варштат, за паўтара гады прайшла чатыры этапы цэнзуры: 1) багаслоўскі (censura theologorum ordinis) — дазвол падпісалі магістры тэалогіі, браты Ільдэфонс Былеўскі і Канцыўс Багінскі ў Вільні 7 кастрычніка 1777 г., 2) епархіяльны (censura diocesana) — дазвол падпісаў Іосіф Пазоўскі 9 студзеня 1778 г., 3) ліцэнзія прыёра Літоўскай правінцыі ордэна братоў-прапаведнікаў Алаізія Быкоўскага, падпісаная ў Астраўцы (in conventu nostro Ostrovicensi) 9 мая 1778 г., 4) «imprimatur» цэнзара друкарні, базыльяніна Караля Карпа (без пазначэння даты).

**Агульныя тэндэнцыі развіцця рэпертуару кніжных выданняў.** Распаўсюджванне ідэй Асветніцтва адбілася і на рэпертуары мясцовай кніжнай прадукцыі. У прыватнасці, з сярэдзіны XVIII ст. можна заўважыць значнае павелічэнне колькасці выданняў навуковай і навукова-папулярнай літаратуры. Усяго за перыяд ад 1750 да 1795 г. было выдадзена больш чым 600 назваў навуковых кніг, каля паловы з іх — акадэмічнай друкарняй. Шмат намаганняў да пашырэння навуковых ведаў прыклалі ордэнскія друкарні: заснаваная ў 1754 г. піярская, у прадукцыі якой пятая частка належала навукова-папулярным кнігам, а таксама Віленская і Супрасльская базыльянскія, што існавалі ад XVII ст. Праграма эпохі была сфармулявана ў 1769 г. ксяндзом Станіславам Богушам-Сестранцэвічам у прысвячэнні кнігі англійскага ўрача Дж. Макензі «Умельства захоўваць здароўе і яго гісторыя» (выдавалася ў 1769, 1773, 1796 гг.) тагачаснаму віленскаму біскупу Ігнацыю Масальскаму. Адукаваны чалавек, пісаў Сестранцэвіч, «ужо не цэніць іншых памкненняў, акрамя тых, задача якіх ёсць шчаслівае і прыемнае жыццё ў будучым, пры выкананні прыроджаных правоў, і карыснае ўдасканаленнем земляробства, мастацтва, рамяства. Акадэміі, грамадства і вучоныя — усе працуюць для палягчэння самай правільнай, якая толькі ёсць на свеце, дарогі да шчасця і дабывання зямных багаццяў...[іх] зараз... хапае для самых сябе, і самі між сабой абыходзімся без чужой дапамогі»[35].

Акрамя ідэй Асветніцтва ад сярэдзіны XVIII ст. у кніжнасці ВКЛ суіснуюць дзве тэндэнцыі. Першая — гэта ўжыванне «рускай» мовы, другая — пошук саманазвы, якая б стасавалася да гэтай мовы больш, чым найменні «Літва» ці «Сарматыя». Для літоўскай мовы паслядоўна ўжываецца лацінскі алфавіт. Кнігі простай «рускай» мовай друкуюцца нячаста. Буйнейшыя кірылічныя друкарні (Супрасльская, Магілёўская і Віленская брацкая), працуючы ў XVIII ст. па заказах стараверац, павінны былі ўважліва сачыць за правільнасцю (пры перадруках) царкоўнаславянскай мовы. Свая ж «простая» мова была ўжо далёкая ад гэтай практыкі. Шырокае распаўсюджанне польскіх і лацінскіх кніг прывяло і да выкарыстання «рускай» мовай «нярускага», але цяпер ужо больш звычнага лацінскага алфавіта. Пытанне аб выкарыстанні лацінкі ў старабеларускай мове мае даўнюю гісторыю і да сёння яшчэ канчаткова не вырашана. Адна з апошніх публікацый пачынае адлік друкаваных лацінкай беларускіх кніг ад віленскага выдання 1835 г. «Krótkie zebranie nauki chrześcianskiej...», хоць аўтар агаворваецца, што «раннія прыклады такога запісу адносяцца да сярэдзіны XVIII ст.»[36] З падобным сцверджаннем цяжка пагадзіцца — выданні «рускай», «шчырай рускай» мовай на лацінцы вядомыя ад другой чвэрці XVII ст.[37] У гэтай мове мы бачым шмат рыс сучасных беларускай і ўкраінскай моў (прычым колькасць такіх рыс непасрэдна не залежыць ад геаграфіі месца выдання). Аднак з «беларускай» ці «ўкраінскай» ідэяй гэтая мова яшчэ не злучана. Беларускі жыхар Рэчы Паспалітай ужо ўсведамляе сябе такім, але па-польску, як сведчыць загаловак адной з кніг 1788 г.: «Obywatel białoruski do stanów Rzeczypospolitey albo supplement odezwy względem

[35] *Mackenzie J.* Sztuka utrzymania zdrowia y oney historya [...]. Wilno, 1769. S. [6—7].

[36] *Мечковская Н. Б.* Зачем одному народу две азбуки? (Кириллица и латинка в коллизиях белорусского возрождения) // Slavia orientalis. 1998. № 2. S. 283.

[37] У 1642 г. у Вільні надрукавана брашура «Witanie na pierwszy wiazd z Królowca do Kadłubka Saskiego Wileńskigo...». У гэтай кніжцы мова аднаго з герояў — Сенькі Налівайкі — беларуская, перадаецца лацінкай (*Карский Е.Ф.* Белорусы. Т. 3. Ч. 2. Пг., 1921. С. 212).

podatków»[38]. Яе змест — зварот да караля і станаў Рэчы Паспалітай з просьбай аб ураўнанні ў правах грэка-уніяцкага духавенства з рымска-каталіцкім.

У канвалюце, які склаў для сябе ў XVIII ст. віленскі цэнзар Караль Карп, знайшлося няўлічанае выданне «шчырай рускай» мовай, найхутчэй віленскага друку[39]. Мясцовая «простая мова» трапляе і ў рукапісную кнігу. Прынамсі, можна сцвярджаць, што Канстанцыя Сапега ведала гэтую мову настолькі, што запісала «Песню набожную рускую» ў свой «Silva rerum» — альбом з найбольш любімымі творамі[40].



*«Грамадзянін беларус да саслоўяў Рэчы Паспалітай, альбо Суплемент адозвы з гледзішча падаткаў».*
*Ужо ў першым сказе аўтар вызначае сваё нераўнапраўе: «Хай ніхто не дзівіцца а ні пытаецца, з якога поваду і прычыны цяпер ужо нешчаслівым лёсам у супольнай Айчыне чужаземец...». Тытульны аркуш. Без месца, 1788 г.*

**Кнігі для навучання і па розных галінах ведаў.** Пакуль да падзелаў Рэчы Паспалітай было далёка, езуіты, якія кантралявалі адукацыю, знітоўвалі грамадства ВКЛ у адзінай з кароннай Польшчай кніжна-вучэбнай прасторы. Гэта выяўлялася і ў практыцы пастаяннага перамяшчэння выкладчыкаў з адной навучальнай установы ў другую, што уніфікавала падрыхтоўку. Вось, для прыкладу, кароткія біяграфіі выкладчыкаў-езуітаў, аўтараў надрукаваных кніг. Товій Арэнт (1646—1724) быў місіянерам у Кёнігсбергу, прафесарам філасофіі ў Полацку, выкладаў пазітыўную і палемічную тэалогію ў Брунсбергу, быў прэфектам школ у Варшаве, выконваў абавязкі літоўскага правінцыяла і рэктара Віленскай акадэміі. Ян Кулеша (1660—1706) — прафесар рыторыкі і грэцкай мовы ў Пінску, Драгічыне, Пултуску і Полацку. Ян Пашакоўскі (1684—1757) — прафесар паэтыкі і рыторыкі ў Коўне, Крожах, філасофіі ў Вільні, рэктар у Слуцку, рэктар і прафесар французскай мовы і навейшай гісторыі ў Нясвіжы. Ігнат Вількіновіч (1690—1757) — прафесар рыторыкі ў Плоцку, філасофіі ў Варшаве, Вільні, Брунсбергу.

Пад уплывам езуітаў базыльяне, якія прынялі ў спадчыну грэка-візантыйскую абраднасць, сталі носьбітамі набыткаў каталіцкай царквы і трансплантатарамі іх у «рускае» асяроддзе. Так, у «Службоўніку» 1763 г. супрасльскага друку акрамя традыцыйных для праваслаўнай царквы службаў меліся службы «некіим предстателем Царства Полскаго и Великаго князства Литовскаго» — Іаану Непамуку, Антонію Падуанскаму, Францішку Серафіцкаму, Дамініку, іерарху чыну прапаведнікаў, Ігнацыю Лаёле, царэвічу Казіміру.

Выкладчыкі (прафесары) вышэйшых і сярэдніх школ у межах ВКЛ заставаліся найбольш значнай сацыяльнай групай, стваралі кнігі і адначасова былі іх спажыўцамі. Пры гэтым ад другой паловы XVII і ў XVIII ст. традыцыяй былі міграцыі прафесараў. Напрыклад, Міхаіл Карвоўскі ў 1688—1689 гг. чытаў у Полацкім калегіуме курс логікі, у 1689—1690 гг. — фізікі (рукапісныя канспекты абодвух курсаў захоўваюцца ў НБВУ), перад тым і пасля быў прафесарам Віленскай акадэміі. Даследаванне прыродазнаўчых ру-

[38] Паасобнік гэтай невядомай бібліяграфіі кнігі захоўваецца ў Славянскім фондзе БАН.
[39] *Нікалаеў М. В.* Невядомае бібліёграфам «рускае» выданне XVIII ст. лацінскім шрыфтам // Выяўленне, сумеснае выкарыстанне і вяртанне архіўных, бібліятэчных і музейных каштоўнасцей, якія захоўваюцца ў замежных краінах. Мн., 1999.
[40] Зараз захоўваецца ў аддзеле рукапісаў БАН у Санкт-Пецярбурзе.

капісных кніг у сховішчах Мінска і Вільні паказала, што больш за ўсё іх стваралі езуіты, францысканцы і базыльяне — прыблізна палову ўсёй колькасці, другая палова належала бернардзінцам, дамініканцам, кармелітам, трынітарыям і піярам. Практычна ва ўсіх населеных пунктах Княства, дзе былі навучальныя ўстановы (Вільня, Гродна, Полацк, Нясвіж, Мінск, Пінск, Наваградак, Кейданы, Слуцк, Брэст, Шчучын, Крожы, Друя, Віцебск, Орша, Жыровіцы, Слонім і інш.), выпускаліся кнігі для навучання (падручнікі)[41].

Прыкладам кнігі-канспекта можа служыць «Сферычная трыганаметрыя», на вокладцы якой адзначана, што кніга напісана пад дыктоўку Жана Расіньёля[42] і скончана 28 чэрвеня 1765 г. У гэтым рукапісе (208 старонак і 8 аркушаў старанна зробленых чарцяжоў) выкладзены пачаткі плоскай і сферычнай трыганаметрыі, а таксама алгебра, метэаралогія і садаводства.

Прафесар матэматыкі Якаў Накцыяновіч (1762—1790) напісаў два кароткія падручнікі па арыфметыцы і алгебры, а ў 1759 г. выдаў фундаментальную манаграфію «Лекцыі па матэматыцы, складзеныя паводле вольфаўскіх элементаў і прыстасаваныя для карыстання слухачамі»[43]. Заслугай езуіта Накцыяновіча было тое, што сваю працу ён заснаваў на творах пратэстанцкага філосафа і матэматыка К. Вольфа, супраціўніка езуітаў[44].

Дасягненні вучоных з ВКЛ з дапамогай кніг на еўрапейскіх мовах шырока распаўсюджваліся ў свеце, часам у выглядзе падарунка аўтара вядомым навукоўцам. Прыкладам можа быць кніга астранома Марціна Пачобута[45] з надпісам па-французску на адгорце шмуцтытула (паасобнік БАН): «Яго правасхадзіцельству пану Дамашневу, камергеру яе імператарскай усерасійскай вялікасці і прэзідэнту імператарскай Акадэміі навук у Санкт-Пецярбурзе ад яго найніжэйшага і пакорнага слугі абата Пачобута».

Звесткі аб рукапісных кнігах, што належалі віленскім вучоным, уключыў у сваю манаграфію гісторык навукі Лібертас Клімка[46].

У сувязі з новымі задачамі з'явілася шмат выданняў практычнага зместу: па земляробстве і сельскай гаспадарцы, медыцыне, тэхніцы, батаніцы. Базыльяне тройчы (у 1756, 1761, 1791 гг.) перавыдалі невялікую кніжку нямецкага аўтара XVII ст. Я. Германа «Хатняя гаспадарка»: у ёй даваліся парады, як працаваць зімой, як сеяць, вывозіць гной, як распланаваць гаспадарчы двор, звесткі пра пчол і збіранне мёду, выраб піва, рыбалоўства і інш.[47] Піяры пераклалі і выдалі твор А. Л. Дзюамэля дзю Монсо «Праца аб земляробстве»[48], кнігі Р. Брэдлі «Фальварак, дзе зямля ніколі не застаецца пусткай» і «Земляробчы і сельскагаспадарчы каляндар»[49]. Перакладчык — землямер Г. Княжэвіч — згодна з ідэяй эпохі лічыў сельскую гаспадарку галоўнай эканамічнай сілай у жыцці краю: «Ужо ў большай частцы Еўропы існуе цвёрдае перакананне, што сельская гаспадарка з'яўляецца важнейшым заняткам не толькі для патрэбы і карысці, але і апорай грамадства, ключом да багацця, школай добрых звычаяў»[50]. Сацыяльную няроўнасць грамадства тагачасныя аўтары не толькі прымаюць як дадзенае, але і дэкларуюць часам у загалоўку, як гэта зрабілі каралеўскі сакратар Станіслаў Чарнецкі і кухмістр Аляксандр Любамірскі: «Стол абаенты, што значыць панскі і таксама для беднейшых, альбо спосаб гатавання разнастайных паводле рознага смаку і густу, таксама залежна ад поглядаў багатых, як і бядотных...». З 1744 да 1788 г. гэтая кніга была пе-

[41] *Бельский А. М.* и др. Рукописи натурфилософского содержания в Белоруссии XVII—XVIII вв. Мн., 1988. С. 36—41.

[42] Жан Расіньёль — французскі езуіт, выгнаны з Францыі і залічаны ў кастрычніку 1762 г. прафесарам матэматыкі Віленскай акадэміі; у 1765 г. паехаў місіянерам у Кітай.

[43] *Nakcyanowicz J.* Praelectiones mathematicae ex Wolfianis elementis adornatae atque sic usui auditorum accomodatae [...]. T. 1, pars [1—2]. Vilnae, 1759—1761.

[44] *Жемайтис З. Ю.* Физико-математические науки в старом Вильнюсском университете, 1579—1832 гг. // Литовский математический сборник. 1962. № 2. С. 298.

[45] *Poczobut M.* Cahiers des observations astronomiques faites a l'observatoire royale de Vilna en 1773. Vilna, 1777.

[46] *Klimka L.* Tikslieji mokslai Lietuvoje: Istorinė apžvalga. Kaunas, 1994.

[47] *Herman J.* Gospodarstwo domowe. Wilno, 1791.

[48] *Duhamel du Monceau H. L.* Dzieło o rolnictwie. T. 1—2. Wilno, 1770—1773.

[49] *Bradley R.* Folwark w ktorym grunta nie zostawują się nigdy urogem. Wilno, 1770; Kalendarz rolniczy y gospodarski. Wilno, 1770.

[50] *Кітурка І.* Эканамічная літаратура другой паловы XVIII ст. аб неабходнасці і шляхах рэфармавання сельскай гаспадаркі Вялікага Княства Літоўскага // Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я. Галенчанкі. Вільня—Мінск, 2009. С. 162—168.

равыдадзена акадэмічнай друкарняй чатыры разы. У «Календары...» Брэдлі праца на сельскай гаспадарцы размяркоўваецца па месяцах; у адной частцы даюцца ўводныя заўвагі пра глебу, апісваюцца ўласцівасці некаторых раслін. У «Фальварку...» змешчаны звесткі пра глебу, масла, сыры, кармленне хатняй жывёлы, пра барометр і тэрмометр. Перакладчык дадаў свае каментарыі аб стане земляробства ў розных краінах, у тым ліку ў Літве, мясцовыя метэаралагічныя звесткі. Вопытам вядзення вясковай гаспадаркі ў Вялікім Княстве кіруецца Ю. Леговіч, аўтар кнігі «Каротка сабраныя абавязкі сельскіх гаспадароў», якую друкарня універсітэта выдала ў 1779 г.[51] Выдадзеная піярамі кніга «Цікавыя досведы па гаспадарцы...» прапаноўвала спосабы вырошчвання садавіны і агародніны, захавання ўраджаю, спосабы догляду і лячэння хатняй жывёлы, птушак, развядзення пчол[52].

Пра дастаткова шырокае распаўсюджанне сельскагаспадарчай літаратуры сведчыць факт з'яўлення спецыялістаў-кніжнікаў, адарваных ад жыцця; тып такога вучонага высмейвала літаратура XVIII ст. (папулярныя ў ВКЛ аўтары Красіцкі і Карпінскі), дзе часта паказваецца недавук-аграном, які атрымаў толькі кніжную падрыхтоўку, незнаёмы з практыкай вядзення вясковай гаспадаркі і механічна пераносіць чужаземныя спосабы гаспадарання на сваё поле. «Па кніжках навучыўшыся, як кіраваць маёнткам», — піша ў «Пане Тадэвушы» А. Міцкевіч пра знаўцу такога тыпу — пана Бухмана.

Чытача (і пакупніка) кнігі вабіла магчымасць даведацца пра замежныя дасягненні — таму аўтары і складальнікі спяшаліся анансаваць іншаземныя крыніцы пададзеных звестак ужо на тытуле. Віленская акадэмічная друкарня тройчы (у 1752, 1782 і 1784 гг.) выдала кнігу Адама Францішка Ксаверыя Растсоўскага, на тытуле якой было напісана: «Абавязкі хатняга жыцця. Напісаныя адным гаспадаром па-французску, а друкаваныя ў Бруселі ў 1706 г. Перакладзена на польскую і друкавана ў Брунсберку ў 1714 для навукі тых людзей, якія хатнюю гаспадарку падтрымліваюць».


Каѳісма первая.
Блаженъ мужъ, иже не иде на совѣтъ нечестивыхъ, и на пути грѣшныхъ не ста, и на сѣдалищи губитель не сѣде. Но въ законѣ Гдни воля его, и въ законѣ его поучится день и нощь. И будетъ яко древо са-
жденное

*Псалтыр. Пачатак першай кафізмы. Магілёў, брацкая друкарня, 1738 г.*

Вучоны, прафесар прыродазнаўчых навук Б. С. Юндзіл пераклаў працу італьянскага вучонага Я. Бекарыя аб электрычнасці, дзе на аснове вучэння Б. Франкліна і ўласных вопытаў даступна выклаў асновы фізікі[53]. Праз некаторы час ён выдаў уласны твор «Прыкладная батаніка» — першую ў Вялікім Княстве арыгінальную працу пра карысныя расліны, як культурныя, так і дзікія. Аўтар апісаў іх асаблівасці, ужыванне ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і гандлі[54].

Вялікай папулярнасцю працягвалі карыстацца кнігі па медыцыне. У некаторых з іх, напрыклад у «Навуцы здароўя» Л. Карнары (пераклад выдання XVII ст.)[55], увага аддавалася не столькі медыцыне, колькі духоўнаму

[51] *Legowicz J.* Powinności gospodarzów wieyskich w krótkości zebrane. Wilno, 1779.
[52] Ciekawe doświadczenia gospodarskie [...]. Wilno, 1777.
[53] *Beccaria J.* O elektryczności sztucznej i naturalnej. Wilno, 1786.
[54] *Jundziłł B. S.* Botanika stosowana, czyli wiadomość o własnościach i użyciu roślin w handlu, ekonomice, rękodzielach [...]. Wilno, 1799.
[55] *Kornary L.* Nauka zdrowia [...]. Wilno, 1775.


DZIEŁO
O
ROLNICTWIE
Przez Pana DUHAMEL DU MONCEAU
Towarzyſza wielu Akademii y Towarzyſtw Rolniczych, Naywyżſzego we Francyi Sędziego Portowego. Po Francuzku napiſane.
NA POLSKI JĘZYK
PRZETŁOMACZONE.
TOM DRUGI
Z KOPERSZTYCHAMI.
w WILNIE
w Drukarni J. K. M. y Rzeczypoſpolitey
Xiężży Scholarum Piarum
R. 1773.

*Сачыненне аб сельскай гаспадарцы Дзюамэль дзю Монсо, члена шматлікіх акадэмій і сельскагаспадарчых таварыстваў. Пераклад з французскай мовы. Вільня, друкарня ксяндзоў піяраў, 1773 г.*

ўдасканаленню. У іншых ставілася задача навучыць чытача метадам лячэння і гігіене. У названай працы Макензі «Умельства захоўваць здароўе і яго гісторыя» асновай здароўя лічыцца правільнае харчаванне. Аўтар сцісла асвятляе гісторыю медыцыны. Падкрэслівае, як уплывае на здароўе, узрост, тэмперамент, фізічныя і душэўныя якасці. У Вільні ананімна выдавалася кніга П. Біратоўскага «Цікавыя звесткі пра дзеянне і сілу розных траў і агародніны»[56]. Разам з апісаннем раслін характарызуюцца іх уласцівасці, спосабы ужывання, ёсць практычныя парады па выкарыстанні лекавых траў пры розных хваробах. Аналагічнымі па тэме выданнямі з'яўляюцца «Збор некаторых назіранняў...» (скарочаны пераклад з англійскай кнігі «Хатняя медыцына» доктара Г. Б'юкена)[57], а таксама «Новы, альбо Сённяшні Альберт...» (пераклад з французскай ананімнага аўтара)[58]. У апошняй кнізе акрамя медыцыны ёсць раздзелы, прысвечаныя хатняй гаспадарцы, правілам паводзін у грамадстве. М. Тукала падрыхтаваў сваю «Хатнюю аптэчку»[59], у якой апісаў спосабы вырабу лекаў у хатніх умовах. Аўтар знаёміць чытачоў з аптэчнымі мерамі вагі, дае практычныя парады па распазнанні сімптомаў хвароб, піша аб прычынах іх узнікнення, спосабах лячэння. П. Бжастоўскі для сваіх сялян выдаў практычнае кіраўніцтва «Лекі для зручнасці тых, хто жыве ў Паўлове»[60], а біскуп Ігнацы Масальскі ў кнізе пад назвай «Простыя і зручныя спосабы, што даюць дактары для захавання ад маравой заразы тым, хто жыве па вёсках»[61] знаёміў з рэцэптамі і спосабамі захавання ад чумы.

У другой палове XVII і ў XVIII стст. няспынна павялічвалася колькасць прывезеных у ВКЛ кніг. Каб зарыентавацца ў моры гэтага імпарту, неабходна спецыяльна вывучыць шэраг крыніц: архівы магнатаў і шляхты, што прывозілі еўрапейскія выданні з падарожжаў за мяжу, кнігагандлёвыя каталогі віленскіх гандляроў, захаваныя вопісы і спісы маёмасці бібліятэк, тэстаменты прадстаўнікоў розных сацыяльных груп насельніцтва і інш. Пакуль гэта яшчэ не зроблена, адзначым толькі, што, як і ў папярэдні перыяд, істотная колькасць новых кніг, аўтары якіх былі грамадзянамі ВКЛ, выдавалася па-за яго межамі. Больш за ўсё — у каронных друкарнях, на другім месцы нямецкія, асабліва данцыгскія і кёнігсбергскія, ды іншыя еўрапейскія друкарні. Аўтарамі твораў былі вядомыя дзеячы з Вялікага Княства. Так, Міхал Казімір Агінскі надрукаваў свае вершы — «Кніжка ў вялікае актава» ў 1781 г. у Львове, а «Гістарычныя і маралістычныя аповесці, якія напісаў грамадзянін са Слоніма» — у 1782 г. у Варшаве[62]. Кніга Яна

[56] [*Biretowski P.*] Wiadomość ciekawa, każdemu wielce pożyteczna, o skutkach y mocy zbóż wszelkich, jarzyn y ziół różnych, tak ogrodowych jako y polnych. [...]. Wilno, 1768.
[57] *Buchan G.* Zbiór niektórych obserwacyi, przestróg, sposobów łacnych, tudzież lekarstw prostych, służących do zachowania w czerstwości zdrowia [...]. Wilno, [1791].
[58] Albert nowy czyli teraźnieyszy albo sekreta nowe, doświadczone i approbowane. [...]. Wilno, 1790.
[59] *Tukałło M.* Apteczka domowa [...]. Wilno, 1789.
[60] *Brzostowski P.* Lekarstwa dla wygody gospodarzy w Pawłowie mieszkających. Wilno, 1770.
[61] *Masalski I.J.* Sposoby proste y łatwe podane od doktorow dla mieszkających po wsiach na ustrzeżenie sie morowej zarazy [...]. Wilno, 1771.
[62] *Цеханавецкі А.* Міхаіл Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме. Мн., 1993. С. 66.

Дамейкавіча Астроўскага «Svada latina» была надрукавана ў Любліне. Прыклады такіх кантактаў можна множыць.

Несмяротны твор ізраільскага цара Давыда па-ранейшаму быў адной з найчасцей тыражаваных кніг. У Псалтыры людзі, як і стагоддзі раней, шукалі апірышча і прасілі дапамогі, каяліся ў грахах і чакалі помсты, імкнуліся да праведнага жыцця і ўсхвалялі Бога. Псалтыр быў шырока распаўсюджанай кнігай, яго шматразова перавыдавалі друкарні ВКЛ. У тых выпадках, калі наклад друкавалі па заказе старавераў, у выхадных звестках пазначалі, што перадрук зроблены з даніканаўскіх маскоўскіх выданняў. У 1693—1794 гг. на тэрыторыі Вялікага Княства (у Магілёве, Вільні, Гродне, Супраслі) былі надрукаваны 22 датаваныя праваслаўныя Псалтыры. Ёсць выданне Псалтыра з выхаднымі звесткамі «Магілёў, 1711 г.» Аднак, хутчэй за ўсё, гэта памылковыя звесткі, бо філіграні ў кнізе шмат пазнейшыя — другой паловы XVIII ст.

У адрозненне ад Новага Запавету і апошніх частак Старога Запавету Псалтыр выдавалі і каталікі (у Вільні ў 1753, 1764 і 1773 гг.)[63].

Перапісванне Евангелляў працягвалася да канца XVIII ст.; заказаць спіс гэтай святой кнігі было справай важнай і для ратавання душы, і для прэстыжу прыхаджаніна — як вялікага гарадскога храма, так і маленькага вясковага. Захаваныя прыпіскі сведчаць пра шырокую геаграфію месц перапісвання.

Да сёння не існуе поўнага бібліяграфічнага спіса створаных у ВКЛ рукапісных Евангелляў. Колькасць іх памяншалася, колькасць друкаваных узрастала як за кошт прадукцыі айчынных друкарняў, так і за кошт прывазных — з Масквы, Кіева і Львова.

Прыпіскі ўкладчыкаў Евангелляў пераважаюць над прыпіскамі кнігапісцаў. Вось прыклад прыпіскі XVIII ст. (месцазнаходжанне рукапісу ў наш час невядомае): «Во славу человеколюбца единаго тріипостаснаго Бога Отца и Сына и Святаго Духа и в память Преблагославенныя Девы Маріи списася во граде Витебску за святейшаго вселенскаго архіерея Венедикта 13, папу Рымскаго, пры державе благовернаго кораля Августа Третяго, за преосвященнаго архіепископа Флоріана Гребницкаго, к церкве соборной Витебской, храма Успенія Пресвятой Богородицы чину св. Великаго Василія, тщаніем господина Миколая Чернобровки и супружницы его Евфросиніи у лето от бытія мира 7251, от Рождества Христова 1743, совершишеся тогожде лета месяца марта 25 дня»[64].

Вучыцельны тып Евангелля быў у свой час вельмі папулярны ў Вялікім Княстве


Za wierne zmarłe 263
Proszę Duchem uniżonym.
Sercem iak popioł skruszonem:
Bądź mi do końca Pátronem.
Opłákanysz to dźień będźie,
Kiedy się z prochu dobędźie,
Ná sąd straszny człek mizerny.
Bądź mu Boże miłośierny,
IEZU Pánie łáskáwy,
Day zmárłym pokoy práwy.
SS2 Pięć

*Разарыум. Маленне за праведных манахаў: на аблоках сядзяць анёлкі і граюць на розных музычных інструментах. Гравюра Аляксандра Тарасевіча. Вільня, друкарня Акадэміі 1677 г.*

[63] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 1447—1449.

[64] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета... С. 177—178.

Літоўскім, а ў Маскоўскай Русі пасля Нікалаўскіх рэформ распаўсюджваўся галоўным чынам сярод старавераў (яны заказвалі гэтую кнігу ў Супрасльскай і Віленскай друкарнях у 1790 і 1794 гг. Усяго ад 1569 да 1616 г. было выдадзена некалькі тысяч паасобнікаў[65]). Пасля гэтага — больш чым стосямідзесяцігадовы перапынак. Толькі ў канцы XVIII ст. (у Супраслі ў 1790 г. і ў Вільні ў 1794 г.) яно было перавыдадзена па заказах старавераў. Урэшце, і ў Маскоўскай Русі гэты тып кнігі быў вядомы галоўным чынам сярод старавераў — у Маскве «Вучыцельнае Евангелле» ўпершыню выдадзена ў 1652 г., а другі раз — толькі праз 200 гадоў.

Што да лютэран, то з сярэдзіны XVII ст. яны, не маючы магчымасці арганізаваць сваё кнігавыданне ў краіне, друкавалі Біблію за мяжой. У 1660 г. евангелістамі ў Лондане была выдадзена Біблія на літоўскай мове ў перакладзе Самуіла Багуслава Хілінскага, літоўскамоўныя Бібліі выдадзены ў 1735, 1739 і 1755 гг. — няма сумневу, што большая частка накладу прызначалася для экспарту ў этнічныя літоўскія землі.

Акрамя таго, для пратэстантаў у Кёнігсбергу ў 1701 г. выдрукаваны Новы Запавет на мове прускай літвы, прымеркаваны да каранацыі прускага караля Фрыдрыха I; яно было паўторана ў 1727 г.

Евангелле для патрэб рыма-каталікоў выпускала (па-польску) толькі друкарня Віленскай акадэміі. Для простых вернікаў гэта былі маленькія, у дванаццатую долю аркуша, кніжачкі чытанняў (нядзельныя і на святы, посныя). Падрыхтоўваў іх ксёндз Якуб Вуек. Першы раз «Евангелле» Вуйка выйшла ў 1643 г.[66], потым, да 1713 г., не перавыдавалася. Затое ў 1713—1787 гг. адбылося сем выданняў[67], якія нязначна адрозніваліся паміж сабой загалоўкамі, колькасцю і складам дадаткаў. Больш пашыранай кнігай было «Евангелле польскае і літоўскае, як нядзельнае, так і на ўсе святы, якое ў касцёле каталіцкім паводле рымскага абраду на працягу цэлага года чытаюць», якую склаў ксёндз Ян Якновіч. У 1705—1794 гг. гэтая кніга, з тэкстамі Евангелля на польскай і літоўскай мовах, выдавалася 18 разоў[68]. Найчасцей фарматам у восьмую долю (13 выданняў), але былі і меншыя — у шаснаццатую.

Сумешчаныя выданні некалькіх біблейскіх кніг, у адрозненне ад папярэдняга перыяду, ужо не выходзілі.

Найбольшую групу сярод захаваных рукапісных і друкаваных кніг складаюць літургічныя, альбо богаслужбовыя. Вялікая іх колькасць у праваслаўнай царкве тлумачыцца тым, што пры набажэнстве карысталіся спалучэннем сонечнага (мінейнага) і месячнага (трыёднага) каляндарных цыклаў. Каталіцкая царква выкарыстоўвала гатовыя тыпы богаслужбовых кніг, якія склаліся ў Заходняй Еўропе: зборнікі службаў, агенды, рытуалы, брэвіярыі, градуалы, антыфанарыі і інш. Уніяты карысталіся сваімі традыцыйнымі (візантыйска-праваслаўнымі) богаслужбовымі кнігамі. Гэта варожа сустрэлі многія каталікі рымскага абраду; нарадзіліся шматлікія канфлікты. Уніяты вымушаны былі апеляваць да вярхоўнай свецкай (караля) і царкоўнай (папы) улад. У пратэстанцкіх канфесій былі свае тыпы богаслужбовых кніг, якія склаліся, як і каталіцкія, у Заходняй Еўропе.

Сярод іудзеяў былі шырока распаўсюджаныя спісы адзінай богаслужбовай кнігі — Торы, сярод мусульман — спісы Карана.

Найбольш важнай літургічнай кнігай заставаўся Службоўнік (Літургікон). Ён уключаў абавязковыя і пастаянныя дзённыя малітваслоўі, у большасці выпадкаў незалежна ад асаблівасцей спалучэння каляндарных цыклаў. У практыцы праваслаўнай царквы Вялікага Княства Літоўскага (як і Маскоўскай Русі) існавалі розныя лакальныя традыцыі, пра што сведчаць шматлікія рукапісныя Службоўнікі з чынамі і асобнымі тэкстамі розных рэдакцый, у тым ліку паўднёваславянскіх[69]. Будаўніцтва уніяцкай царквы патрабавала новых Службоўнікаў, якія выходзілі пераважна з Супрасльскай друкарні. Вядома восем выданняў 1691—1773 гг.

[65] *Topolska M. B.* Czytelnictwo książek wydanych na Litwie i Białorusi... Cz. 1. S. 221.

[66] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 1014.

[67] Ibidem. № 3072—3078.

[68] Ibidem. № 1783—1800.

[69] *Дмитриевский А. А.* Богослужение в русской церкви в XVI веке: Историко-археологическое исследование. Ч. 1. Казань, 1884.

17-я кангрэгацыя базыльянскага ордэна пастанавіла адкласці пытанне «аб направе» Службоўнікаў да генеральнага сінода. Адзначалася, што Сімвал веры («Крэда») трэба змяніць на каталіцкі: «...і ад Сына ў Крэдзе дадаваць там жа пастанавілі». Пасля Замойскага сабору 1720 г. друкаваныя Службоўнікі адлюстравалі змены ў службе, хоць рашэннем Віленскай кангрэгацыі ордэна (1713) у манастырах павінны былі ўсе царкоўныя кнігі называць «уласнымі імёнамі, як то Služэбнікамі, а не Мшаламі, Паўуставамі, а не Брэвіарыямі»[70]. Гэта, натуральна, не магло замаскіраваць прынцыповыя канфесійныя змены ў тэксце Сімвала, што рабіла немагчымым выкарыстанне уніяцкіх Службоўнікаў у царкве ўсходняга абраду. Таму тыя святары, што захавалі прыхільнасць да традыцыйнага праваслаўя, вымушаны былі карыстацца кнігамі кіеўскага ці маскоўскага друку.

Службоўнікі сталі тым відам кніг, якія цалкам адлюстравалі змены і адрозненні канфесійнага характару. Гэта перш за ўсё ўключэнне ў памінанні папы рымскага і выключэнне канстанцінопальскага патрыярха, памінанне некаторых святых рымска-каталіцкай царквы (найбольш часта — Антонія Падуанскага). Гісторыя уніяцтва (ужо як часткі рыма-каталіцызму) прывяла да фарміравання новага цыкла — шанавання пакутніка Іясафата Кунцэвіча. Да прыкладу, у Службоўніку 1768 г. Пятра Васілевіча, прэсвітэра Насовіцкай царквы Гомельскага дэканата, у праскамідзійнай малітве пасля ўпамінання Мікалая Цудатворца замест маскоўскіх трох свяціцеляў (Пятра, Алексія, Іоны) называецца «блажэнны свяшчэннамучанік Іясафат»[71]. Разам з тым Службоўнікі ў большай ступені, чым іншыя кнігі, адлюстравалі талерантнасць — у іх адсутнічае забарона «творить свадьбы и кумовство» з каталікамі[72].

Пасля скасавання уніі богаслужбовыя кнігі канфіскавалі з царкоўных і манастырскіх бібліятэк, пры гэтым большую іх частку знішчылі. Некалькі рукапісных Службоўнікаў былі перададзены ў Сінод, у выніку ў яго архіве склалася значная калекцыя[73]. Шмат рукапісных Службоўнікаў захоўвалася ў цэнтральных бібліятэках базыльянскага ордэна — Супрасльскага, Жыровіцкага і Віленскага манастыроў; у цяперашні час асноўная іх маса захоўваецца ў БАНЛ і СПбФІРГ.

Багаслужбы прыватнага характару — таемства (хрышчэнне, шлюб і інш.), пахаванне, пастрыжэнне ў манахі, а таксама розныя службы «на патрэбу» чалавека і абшчыны групаваліся ў Трэбніку. Трэбнік — адна з самых варыятыўных кніг літургічнай сферы.



Tablica Wielkich nocy

| Rzymskich | | y Ruskich |
|---|---|---|
| 1667. | Rzymska 10 Aprilis. | Ruska. Wtydzien po nas. |
| 1668. | Rzym. 1 Aprilis. | Ruska. Znami. |
| 1669. | Rzym. 21 Aprilis. | Ruska Znami. |
| 1670. | Rzym. 6 Aprilis. | Ruska Wtydzien po nas. |
| 1671. | Rzym. 29 Martij. | Rus. Wpięć niedziel po nas. |
| 1672. | Rzym. 17 Aprilis. | Ruska Znami. |
| 1673. | Rzym. 2 Aprilis. | Rus. Wtydzien po nas. |
| 1674. | Rzym. 25. Martij. | Ruska Wpięć niedziel po nas. |
| 1675. | Rzym. 14 Aprilis. | Ruska Znami. |
| 1676. | Rzym. 5 Aprilis. | Ruska Znami. |
| 1677. | Rzym. 18 Aprilis. | Rus. Wtydzien po nas. |
| 1678. | Rzym. 10 Aprilis. | Ruska Znami. |
| 1679. | Rzym. 2 Aprilis. | Rus. We cztery niedziele po nas. |
| 1680. | Rzym. 21 Aprilis. | Ruska Znami. |
| 1681. | Rzym. 6 Aprilis. | Rus. Wtydzien po nas. |
| 1682. | Rzym. 29 Martij | Rus. We cztery niedziele po nas. |
| 1683. | Rzym. 18 Aprilis. | Ruska Znami. |
| 1684. | Rzym. 2 Aprilis. | Rus. Wtydzien po nas. |
| 1685. | Rzym. 22. Aprilis. | Rus. Wtydzien po nas. |

*Табліца «рускіх» і «рымскіх» Вялікадней на 1667—1685 гг. У 8 выпадках з 19, калі дні свят супадаюць, аўтар адзначае: «Ruska z nami». З Нясвіжскай бібліятэкі.*

[70] Аддзел рукапісаў РНБ, Польск. F.I.48.f.146г (р. 282). — Выказваем глыбокую падзяку С. Г. Жамайцісу, які звярнуў нашу ўвагу на гэтую кнігу.
[71] *Востоков А. Х.* Описание русских и словенских рукописей Румянцовского музеума. С. 608—609.
[72] *Макарий (Булгаков М. П.).* История русской церкви. М., 1900. С. 298.
[73] РДзГА, ф. 834, воп. 1, №№ 742, 743, 744, 745, 746, 747, 748, 750, 751, 752, 755, 835 і інш.

Пытанне аб «направе» Трэбнікаў ставіла 4-я кангрэгацыя базыльянскага ордэна, але рашэнне па ім было адкладзена. Вывучэнне змен у складзе Службоўнікаў і Трэбнікаў у далейшым павінна шмат даць для разумення працэсу злучэння праваслаўнай і каталіцкай цэркваў і з'яўлення уніяцкай галіны хрысціянства.

Службоўнікі каталіцкай царквы друкаваліся пераважна на лацінскай мове. Мы ўжо ўпаміналі першае выданне — «Агэнду» віленскага канонікa Марціна 1499 г. Усеагульная змена касцельных богаслужбовых кніг адбылася пасля Трыдэнцкага сабора (1545—1563) — новыя кнігі павінны былі адлюстраваць рэформы ў літургіі. У бібліятэках сёння часта можна сустрэць пераплёты XVI ст., зробленыя з натаваных пергаменных лацінскіх рукапісаў — гэта рэшткі тых каталіцкіх датрыдэнцкіх Градуалаў і Антыфаналаў, якія пайшлі пад нож пераплётчыка. Акрамя лацінскіх вядомыя польскамоўныя службоўнікі — усяго, па нашых падліках, 12 выданняў. Называліся яны па-рознаму, найчасцей Рытуалы і Місалы[74]. У XVII і XVIII стст. вельмі папулярны быў «Рытуал, зацверджаны на Пётркоўскім сінодзе дзеля уніфікацыі богаслужэння, для ўжытку ў Каралеўстве Польскім і Вялікім Княстве Літоўскім...» з тэкстамі на лацінскай, латышскай, літоўскай, нямецкай і польскай мовах. З 1633 да 1771 г. гэтая невялікая (8°) кніжачка была перавыдадзена дзевятнаццаць разоў. Беларуская мова, якая ў часы Скарыны рэальна магла стаць адной з ужытковых у касцёле, ні ў адным з гэтых выданняў не прысутнічае.

Важным раздзелам кніжнага рэпертуару каталіцкай царквы, які цалкам адсутнічаў у царкве праваслаўнай, былі libri precatorii — малітоўнікі для верных (гутарковая назва — «кантычкі»), а таксама кнігі са службай аднаму святому. Прыклад апошняй — «Sexenna альбо шасцідзённае набажэнства да... с. Алаіза Ганзагі S. J. з лацінскай мовы на польскую пакладзенае... Эльжбеце з Агінскіх Пузыне, кашталяншы Мсціслаўскай... ахвяраванае. Вільня, 1752». Акадэмічная друкарня рэгулярна выпускала асобныя выданні службаў, якія разыходзіліся па ўсіх касцёлах ВКЛ: да найсладзейшага сэрца Ісуса, да найсвяцейшай Марыі, да св. Францішка Ксаверыя і св. Яна Францішка Рэгіса, да святых Ануфрыя персідскага каралевіча і пакутніка Юстына і шмат іншых. Былі і зборныя выданні, напрыклад «Хатняе набажэнства на кожны дзень цэлага тыдня раскладзенае, богабаязным гаспадарам для храмавай чэлядзі на духоўны пажытак ахвяраванае» (1771).

Спецыяльна для вайскоўцаў тройчы (у 1748, 1754 і 1759 гг.) надрукаваны зборнік Марціна Кужанецкага «Салдацкае набажэнства, якое служыць жаданням вайсковых людзей, для лепшага ім карыстання з французскай на польскую мову пакладзенае і з асаблівых казанняў і малітваў салдацкіх дадаткам... да друку пададзенае».

Акрамя Службоўніка, паследаванне дзённых службаў змяшчалася таксама ў Часоўніку (пазней Часаслове). Найбольш важнае адрозненне Часаслова ад уласна Часоўніка з гледзішча структуры кнігі палягае ў тым, што ў першым, побач з паследаваннем дзённых службаў, змяшчалі яшчэ месяцаслоў і некаторыя іншыя матэрыялы, пераважна даведачныя. Часоўнікі і месяцасловы выдаваліся часта — праз кожныя адзін-два гады. Тым не менш, гэтыя кнігі даволі рэдкія, у прыватнасці таму, што іх выкарыстоўвалі для навучання грамаце. Прыкладам рукапіснага Часаслова можа быць Часаслоў з Супрасльскага манастыра з дадаткамі (малітва на нараджэнне дзіцяці, чын асвячэння вады і іншыя службы); у пазнейшых Часасловах з'яўляюцца мясцовыя элементы, напрыклад, як і ў Службоўніку, служба Іясафату Кунцэвічу[75].

У папярэднім раздзеле мы змаглі назваць дзевяць праваслаўных Часасловаў. У наступны перыяд іх колькасць узрастае — вядома пяць магілёўскіх выданняў 1697—1771 гг. і 15 выданняў 1772—1794 гг., што ўбачылі свет у розных месцах, галоўным чынам у Супраслі і Вільні. Гэтыя апошнія — надрукаваныя па заказах старавераў — маюць паказанні на маскоўскі даніканаўскі арыгінал, у асноўным на выданні 1615 і 1651 гг. Некаторыя крыніцы ўказваюць на віленскі Часаслоў 1670 г., аднак ні аднаго яго паасобніка не захавалася.

У практыцы праваслаўнай царквы на кожны дзень года прыпадае ўпамінанне пра якую-небудзь звязаную з царкоўнай гісторыяй падзею. Да дзённых службаў, паследаванні

[74] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 789—799, 2144—2147; *Narbutienė D., Narbutas S.* XVII a. Lietuvos lotyniškų knygų sąrašas. № 930—947.
[75] Рукапіс Часаслова БАНЛ. F 19—226.

якіх меліся ў Службоўніку і Часаслове, далучаліся асобныя малітваслоўі і спевы да канкрэтных падзей альбо прысвечаныя каназаваным асобам. Гэтыя паследаванні (галоўным чынам да вячэрні і ютрані) маюцца ў кнігах, што называюцца «Мінеі месячныя». Усіх Міней дванаццаць; у кожнай з гэтых кніг прыведзены адпаведныя формулы на кожны дзень месяца; дванаццаць кніг ствараюць поўны гадавы камплект. Колькасць захаваных да нашых дзён рукапісных паасобнікаў (напрыклад, месячная Мінея, якую ў 1671 г. ахвяравалі ў царкву св. Спаса ў Слуцку свяшчэннік Патапій з жонкай[76]), вельмі нязначная.

У небагатых храмах, дзе не было магчымасці служыць поўную штодзённую службу і багаслужба адбывалася толькі ў нядзельныя дні і на святы, не было неабходнасці, а часта і магчымасці, трымаць поўнае гадавое кола месячных Міней. Была створана спецыяльная кніга — «Мінея святочная» («Празднея»), у склад якой увайшлі паследаванні гасподскіх і багародзічных свят. Разнавіднасцю Мінеі святочнай былі зборнікі, якія называліся Анфалагіён, альбо Трыфалагіён — яны адрозніваліся тым, што склад службаў у іх быў значна пашыраны за кошт уключэння службаў на найбольш шанаваныя святы. Але гэтыя адрозненні вытрымліваліся не заўсёды, і дзве назвы падобных па складзе і функцыях зборнікаў успрымаліся як сінонімы, напрыклад, у прыпісцы, зробленай у 1720 г. у Петрыкаве: «Анфологіон... списан бысть во граде Петрыкове в лето бытія мира 7151 от воплощенія же Господня 1720. З Трифолоя Лвовского списан быст»[77].

Анфалагіён упершыню надрукаваны Віленскай брацкай друкарняй у 1616 г., потым яго выданні паўтараліся:

*Куцейна, 1647 г.* На тытульным аркушы яшчэ адзін варыянт назвы гэтай кнігі — «Цветослов». Багатая мастацкая аздоба (19 адбіткаў гравюр з 17 дошак).

*Супрасль, 1783 г.* На тытульным аркушы паказана, што гэта перавыданне кіеўскіх «миней дванадесятомесячных» 1750 г.

*Магілёў, 1748 г.* На тытульным аркушы яшчэ адзін варыянт назвы гэтай кнігі — «Цветослов». Багатая мастацкая аздоба (16 гравюр).




*Актоіх. Тытульны аркуш. Магілёў, брацкая друкарня, 1754 г.*

Аб папулярнасці «Мінеі святочнай» сведчаць яе рукапісныя спісы. З Турава паходзіць спіс з прыпіскай пра перапляценне кнігі ў 1747 г. «рабом божіим Павлом з женой Феодосьею и со тестем Кузьмою и Ефросиньею» [БАНЛ, F19-139]. Другая прыпіска паведамляе, што «Сія книга глаголемая Празднея, имеюшчь в себе пение церковных праздникам господским, богородичным и святым нарочитым на весь год. Списася священным іереем Антоніем Тараневичем презвитером катедральным в богоспасаемом граде Пинску пры храме Рождества Пр. Богородици Року б[ожага]. 1759, лета от Адама 7267»[78].

**Багаслужбовыя музычныя выданні.** Як мы ўжо адзначалі, першыя музычныя кнігі, з якімі сутыкнуліся жыхары ВКЛ, былі кнігі з запісамі музычнага суправаджэння багаслужбы. Большасць з захаваных да нашых

[76] *Петров Н. И.* Описание рукописей церковно-археологического музея при Киевской духовной академии. Вып. 1. Киев, 1875. № 365.
[77] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета... С. 190.
[78] Тамсама.

дзён музычных кніг XV—XVIII стст. належаць менавіта да гэтай катэгорыі. У XVI—XVIII стст. утварылася катэгорыя прафесійных свецкіх музыкантаў, якія часта станавіліся вытворцамі (перапісчыкамі) музычных кніг з творамі свецкага зместу. Часцей за ўсё гэта былі члены прыдворных капэл. Як прыклад можна назваць музычныя рукапісы першай паловы XVIII ст. нясвіжскага капелана Шымкевіча («Меса для аргана» і, магчыма, «Месы нясвіжскай капэлы»), якія ўключыў у навуковы зварот беларускі даследчык У. Неўдах[79]. Богаслужбовае спеўнае мастацтва праваслаўнай (а пазней і уніяцкай) царквы мае агульныя літургічныя карані са старажытнарускім спеўным мастацтвам, аднак у той жа час адрозніваецца як напевамі, так і тыпам кніг. Ад канца XVI ст. вядомыя рукапісныя спеўныя зборнікі — Ірмалоі, якія былі асноўнай спеўнай кнігай беларуска-ўкраінскага асяроддзя на землях ВКЛ і Кароны. Ужо ў XVII ст. музычная культура Вялікага Княства рабіла значны ўплыў на суседнюю расійскую музычную культуру. У рускіх музычных зборніках у гэтыя часы з'яўляюцца напевы з рэмаркамі «виленская херувимская», «кралевски плач» і інш. Сярод «літоўскіх» песень былі папулярныя «Слухайце вшысцы, яко Бог ласкавы», прысвечаная перамозе над туркамі пад Хоцімам у 1673 г., «Злота ойчызна ксенства літэвскего», «Вы буйны вятры, шумёнцы лясы» і інш.[80]

Значнай падзеяй у музычным жыцці ВКЛ, а пазней і Расійскай дзяржавы, стала кніга Мікалая Дылецкага «Ідэя музычнай граматыкі». Аўтар вывучаў у Віленскім універсітэце свабодныя мастацтвы[81], пад час навучання напісаў падручнік па музыцы, паклаўшы ў аснову творы шматлікіх мастакоў, стваральнікаў спеваў як у царкве праваслаўнай, так і ў рымскай, і шматлікія лацінскія кнігі па музыцы. Музыку аўтар вызначыў праз яе ўласцівасць уздзейнічаць эмацыянальна: «Яже сердца человеческая своим гласом ово к радости, ово к сокрушению и плачу, ово смешанию возбуждает». Праца Дылецкага хутка і шырока распаўсюдзілася ў свеце Slavia ortodoxa. Даследчыкі вылучаюць тры яе рэдакцыі: 1. Віленская. Спачатку напісана (магчыма, і надрукавана, але ні выданне, ні рукапіс першага арыгінала не захаваліся) на польскай мове, потым перакладзена на славянскую. 2. Смаленская 1677 г. 3. Дзве маскоўскія 1679 і 1681 гг., пераклад зроблены самім аўтарам і дапоўнены раздзелам пра раздачу тона (для харавых спеваў)[82].

Тым часам праваслаўная і уніяцкая цэрквы карысталіся традыцыйнымі музычнымі кнігамі: Поснай і Каляровай Трыёддзю і Актоіхам. У пачатку XVII ст. (у 1609 г.) Посная і Кветная Трыёдзі былі выдадзены ў друкарні Мамонічаў і больш не перавыдаваліся да канца XVIII ст. Малая колькасць друкаваных выданняў была прычынай частага спісвання гэтай кнігі. Цікавая прыпіска ёсць на Трыёдзі, якую спісаў Іаан Клінковіч у Рубяжэвічах у 1741 г.; ён лакалізаваў месца перапіскі наступным чынам: «Написана книга сія в Великом кн. Литовском Слуцком у воеводстве Минском в месте Рубежевич през мене недостойного іерея Іоанна Клинковича, пресвитера на той час Рубежевскаго, лету. мироз. 7249, ад воплошч. бога слова 1741 мес. марта числа 9»[83].

Цікавы лёс Трыёдзі XVIII ст., якая належала Тыкоцінскай царкве. Падляскі пратапоп Стэфан Германеўскі забраў гэтую кнігу ў Рыбалы, дзе ён быў прэсвітэрам. Кніга мае арыгінальную застаўку, на якой выявы епіскапа і двух анёлаў, адзін з якіх грае на басэтлі (музычны інструмент тыпу віяланчэлі).

Наступнае пасля Мамонічаў выданне Трыёдзі Кветнай ажыццявілі базыльяне ў Супраслі ў 1793 г. — гэта быў передрук на заказ старавераў.

Вядомы тры выданні Актоіха ў адзначаны перыяд: у Магілёве ў 1730, 1740 і 1754 гг.

Актоіх друкавалі фарматам 2° (№ 1 і 5) альбо 4° (№ 2, 4, 6, 7). Часам яго ўпрыгожвалі толькі двухколерны друк і простыя застаўкі (№ 1, 5), але часцей гэтую кнігу багата аздаблялі: яна магла мець ад дзвюх (№ 2, 3, 4) да дзевяці (№ 7) і дзесяці (№ 6) гравюр-ілюстрацый.

[79] *Неўдах У.* Cantantibus organis. С. 69—80.
[80] *Позднеев А. В.* Польский элемент в русских рукописных песенниках XVII в. // ТОДРЛ. 1968. Т. 23. С. 335—338.
[81] Дылецкі скончыў універсітэт, па ўсёй верагоднасці, у 1675 г. — менавіта тады ў францысканскай друкарні выйшаў яго твор, дзе ён названы «віленскім акадэмікам» — так называлі студэнтаў універсітэта (параўн. з сынамі Друцкага-Горскага, якія выдалі кніжку Плачаў па сваёй маці).
[82] *Дилецкий Н.* Идеа грамматики мусикийской. М., 1979. С. 570—572.
[83] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета... С. 189.



*Актоіх. Пачатак трэцяга гласа нядзельнай сціхіры на Госпадзе вазвах. Магілёў, брацкая друкарня, 1754 г.*

Бытаваў і скарочаны варыянт Актоіха, куды ўваходзілі спевы нядзельных дзён на ўсе восем гласаў, іншыя былі пададзены выбарачна. Гэтая кніга, прыдатная для небагатых храмаў, у якіх не было штодзённай рэгулярнай службы, называлася Шасціднеў. Найбольш ранні вядомы нам рукапіс Шасціднева мае прыпіску з датай: «В року 1616 месяца сенътебрия 14 написася сия книга глаголемый шестодневец»[84]. Надрукаваны Шасціднеў быў толькі аднойчы, на заказ стараверaў — у Вільні, у 1792 г., перадрук з маскоўскага выдання.

Як мы ўжо адзначалі ў папярэднім раздзеле, з канца XVI ст. у практыцы праваслаўнай і уніяцкай цэркваў шырока выкарыстоўвалі натаваную кнігу з песняспевамі — Ірмалагіён, альбо Ірмалой. Асноўны змест Ірмалоя — Ірмасы, з якіх складаюцца каноны. «Паколькі Ірмалой — гэта частка музыкі, ён варты таго, каб пра яго тут успомніць, — піша Мікалай Дылецкі ў «Ідэі музычнай граматыкі», — бо і ён у аснове мае тыя ж гукі a, b, c, d, e, f, g, але такта ён не мае і падпарадкоўваецца не канцэртнаму, але прыроднаму правілу»[85].

Даследчыкі даўно звяртаюцца да Ірмалояў як да крыніц прафесійнай і народнай паэтычнай і музычнай творчасці. Так, вывучэнне рукапіснага Ірмалоя з Забычанскай (Магілёўскай губерні) царквы дало магчымасць Я. Раманаву зрабіць выснову, што «наш цудоўны народны духоўны верш «Іоасаф Прекрасный» мае сваім першавобразам царкоўную сціхіру»[86]. Тэндэнцыі развіцця царкоўнай музыкі ўсходняй традыцыі на землях Вялікага Княства Літоўскага вывучалі, грунтуючыся на апісанні рукапісных Ірмалояў, украінскія музыказнаўцы Ю. Ясіноўскі і А. Канатоп,[87] пра Ірмалоі шмат піша англій-

[84] *Перетц В. Н.* Рукописи библиотеки Московского университета... С. 179.

[85] *Дилецкий Н.* Идеа грамматики мусикийской. С. 292.

[86] *Романов Е. Р.* Памятник старины // Могилевская старина: Сборник статей «Могилевских губернских ведомостей». Вып. 3. Могилев, 1903. С. 51—52.

[87] *Конотоп А. В.* Древнейший памятник украинского нотолинейного письма — Супрасльский Ирмологион 1598—1601 гг. // ПКНО 1974. М., 1975; *Ясіноўскі Ю. П.* Беларускія Ірмалоі — помнікі музычнага мастацтва XVI—XVIII стст. // Мастацтва Беларусі. 1984. № 11.



*Ірмалой Лаўрэна Крупскага. Разгорт з няскончанай старонкай (не ўпісаны ініцыял). Смаленск, канец XVII ст.*

скі даследчык беларускай царкоўнай музыкі Гай дэ Пікарда (Г. Піхура)[88]; прынамсі, ён пісаў пра два кодэксы (Львоўскі і Перамышльскі) са знаменнай натацыяй[89].

Ужо ўведзеныя ў навуковы зварот Ірмалоі дазваляюць лічыць, што існавалі кніжныя цэнтры, дзе музычныя рукапісы выраблялі рэгулярна. Гэта перш за ўсё Супрасльскі манастыр, у ім на працягу XVI–XVIII стст. ствараліся Ірмалоі. Сёння мы можам гаварыць пра сем такіх зборнікаў, з якіх вядома месцазнаходжанне чатырох.

Да прадукцыі Супрасльскага скрыпторыя можна залічыць таксама Ірмалой 1717 г. (БАНЛ, F19-130), які зроблены на продаж, пра што сведчыць запіс на старонцы 39: «Сія книжица рекомая Ирмолой сооружися року Божія 1717 месяца марта 21 дня. Продана Петру Григоровичу поповичу Степанковскому за суму золотых осьм доброй монеты».

Шматлікія прыпіскі на рукапісным Ірмалоі XVIII ст. з вёскі Вымна Суражскага павета Віцебскага ваяводства даюць магчымасць прасачыць лёс гэтай кнігі. 3 жніўня 1758 г. Тамаш Іраноўскі, «кантар у Вымне», запісаў загавор супраць крадзяжу: «Хто яго (Ірмалой) украдзе, таму рука па локаць адпадзе, у Бога грэх, у людзей сорам». Пазней, у 1792 г., нехта Філімон Батвінскі браў кнігу на тэрмін ад сакавіка да жніўня, каб па ёй вучыцца. Апошні па храналогіі запіс сведчыць, што вымнянскі парох Іосіф Тарноўскі падараваў гэты Ірмалой гарадзецкаму вікарыю Ціхану Шулікановічу.

Першай вядомай кірылічнай друкаванай кнігай, у якой надрукаваны музычны твор,

[88] *Пікарда Г. дэ.* Царкоўная музыка на Беларусі 989–1995. Мн., 1995.
[89] *Pichura G.* Monuments of Byelorussian church music // Eastern churches quarterly. 1962. Vol. 14. P. 411–412.



*Ірмалой Лаўрэна Крупскага. Мініяцюра «Каранаванне Багародзіцы Святой Тройцай». Сюжэт, характэрны для беларускай уніяцкай іканаграфіі. Смаленск, канец XVII ст.*

з'яўляецца «Последованіе постригу двою во искус, си есть у малый иноческій образ и во великій», аркуш 6 адв. якога змяшчае натаваны трапар «Об'ятія отча». Гэты трапар выконваўся дыяканам альбо кімсьці з манахаў пад час прыняцця «вялікага манаскага вобраза» манахаў ордэна Васіля Вялікага. Кніга надрукавана ў аркуш некалькімі шрыфтамі, у дзве фарбы. Яна мае наборны арнамент, ініцыялы, застаўкі, канцоўкі, рамкі калонтытулаў. Аб'ём яе невялікі, усяго 15 аркушаў, лічачы і тытульны, дзе сказана, што кніга выдадзена «Повеленіем Превелебного Господина Отца Симеона Цыпрыяновича, Архимандрыты Супрасльскага года господня 1697». «Паследаванне...» з'яўляецца ў наш час вялікай рэдкасцю — бібліяграфія фіксуе два захаваныя паасобнікі, адзін у БАН у Санкт-Пецярбурзе і адзін у РГБ у Маскве.

Трапар «Об'ятія отча», змешчаны ў «Паследаванні...», натаваны з дапамогай «квадратнай ноты», першапачатковыя формы якой адлюстравалі пераход у развіцці перакладу старажытнарускіх музычных помнікаў круkавой натацыі ў еўрапейскую ноталінейную сістэму. Сам спосаб друкавання трапара да канца не ясны. Як лічыць Ю. Лабынцаў, друк рабілі з дзвюх дошак з адначасовым увядзеннем некаторых наборных элементаў[90]. Для гэтага на дрэве былі награвіраваны самі лінейкі нотнай асновы (адна дошка), а потым і ноты, магчыма, разам з тэкстам (другая дошка). З гэтых дзвюх дошак і друкавалі трапар. Тлумачальны тэкст, а таксама асобныя графічныя элементы маюць безумоўна наборны характар.

Друкаванне нот з дапамогай дрэварыту было шырока распаўсюджана ў еўрапейскім

[90] *Лабынцев Ю.А.* Некоторые вопросы кирилловского книгопечатания в Супрасле. С. 174—178.

нотадрукаванні, асабліва ў першыя два стагоддзі яго існавання[91]. Трапар, таксама як і кніга, надрукаваны ў дзве фарбы. Кінаварам адціснуты ініцыял «О», застаўка, нотныя лінейкі, тэкст «Егдаже Третее...», арнаментаваныя ўпрыгажэнні ніжняй нотнай лінейкі. Усё астатняе надрукавана чорнай фарбай, у тым ліку і самі нотныя знакі. Такім чынам, не толькі спосаб, але і манера друкавання трапара нагадвае працы заходнееўрапейскіх майстроў XV—XVI стст. Больш таго, сам малюнак нотнага пісьма падобны на гэтак званыя раманскія харальныя нотныя знакі, што адным з першых выкарыстаў у сваім «Місале» венецыянскі друкар Актавіян Скот.

Пазней Ірмалоі друкаваліся часцей украінскімі друкарнямі, і адтуль іх прывозілі для продажу ў Вялікае Княства. Гэта «Ірмологіон сі есть піснослов» 1757 г., выдадзены Львоўскім брацтвам, а таксама пачаеўскія музычныя кнігі 1766—1794 гг. пад рознымі назвамі[92]. Еўеўскі Ірмалой 1642 г., таксама як і два Ірмалоі, надрукаваныя ў Магілёве ў XVIII ст., мелі багатую графічную ілюмінацыю багародзічнага і хрысталагічнага характару, але не падавалі музычны матэрыял. Гэтыя апошнія выданні (Максіма Вошчанкі 1700 г. і друкарні Богаяўленскага брацтва 1747 г.) маленькага (адпаведна 8° і 12°) фармату і багата аздобленыя — першае мае 41 гравюру, а Ірмалой 1747 г. — 42 гравюры-ілюстрацыі. Аднак запісу музыкі (нот) у гэтых выданнях няма — звычайна музыка запісана ў аднайменных рукапісных кнігах.

Большасць даследчыкаў, якія звярталіся да натаваных кніг, найперш цікавіліся іх музычным зместам. Што датычыць аздобы, то часта пра яе ўпаміналі толькі мімаходзь. Адным з нешматлікіх выключэнняў з'яўляецца П. Жалтоўскі, які прысвяціў спецыяльнае даследаванне аздобе ўкраінскіх Ірмалояў[93].

Мы ведаем пра 30 Ірмалояў другой паловы XVII і XVIII ст. (29 з іх занатаваў фундаментальны каталог Ю. Ясіноўскага). 11 кніг захавалі імёны сваіх стваральнікаў:

1. Іераманах Пахомій Пацэнка ў манастыры св. Тройцы ў Слуцку спісаў «Ірмолой албо Осмогласник содержаи в себе службу всеношную, литургию святую, ирмосы воскресныи и столповыи, подобны на 8 гласов, службу святых страстей, стихиры вибраныи на праздники господскія... Року Божого 1669 августа 15»[94];
2. Максім Васілевіч Карэйша працаваў на Віцебшчыне ў 1669 г. Упамінаюцца ў Ірмалоі Міхал Ермаловіч і старалепельскі ксёндз Пазняк[95];
3. У 1673 г. «Сия книга глаголемая Стихиральник переписана з книг Ірмолоев як с киевскага напелу так же из беларускаго, почасти из Московии...». Перапісчык — іераманах Гаўрыла Аранесовіч, родам палачанін, працаваў у Сава-Старажоўскім манастыры на Маскве[96];
4. Не захаваўся Ірмалой, які ў 1674—1676 гг. спісаў вікарый Антоні Кішчыц у Супрасльскім манастыры[97];
5. Іерэй Кобрынскага манастыра св. Спаса Павел Дубоўскі ў 1682 г.: «Сию книгу глаголемую ірмолой списал и надал коштом и трудолюбием своим... Павел Дубовский... композитор и авдитор...»[98];
6. Ірмалой Грыгорыя, дзідаскала з Міклашэва[99];
7. Ірмалой, які пісаў у 1714 г. у Бешанковічах Дзімітры Гаміловіч. Тут 10 мініяцюр з манаграмай мініяцюрыста-ілюстратара «IR» і датай «1745» — кнігу ўпрыгожвалі праз 30 гадоў пасля напісання[100]; хутчэй за ўсё гэта была праца мастака Яна (Іаана) Рапалеўскага, які ў 1744 г. аздобіў яшчэ адзін віцебскі Ірмалой;

[91] *Gamble W.* Music engraving and printing: Historical and technical treatise. London, 1923; *Przywecka-Samecka M.* Drukarstwo muzyczne w Polsce do końca XVIII wieku. Kraków, 1969.

[92] *Запаско Я. П., Ісаевіч Я. Д.* Пам'яткі книжкового мистецтва. Кн. 2, ч. 1. Львів, 1984. № 2003; ч. 2. Львів, 1984. № 2410, 2766, 3018, 3510, 3694, 3743.

[93] *Жолтовский П. Н.* Изобразительная графика украинских Ирмолоев XVII—XVIII вв. // ПКНО 1984. Л., 1986. С. 262—271.

[94] *Ясиновський Ю. П.* Українські та білоруські нотолінійні Ірмолої 16—18 століть. № 168.

[95] Тамсама. № 169.

[96] Тамсама. № 191.

[97] Тамсама. № 238.

[98] Тамсама. № 251.

[99] Тамсама. № 256.

[100] Тамсама. № 510.




*Ірмалой Яна Рапалеўскага. Разгорт. Віцебск, 1741—1744 гг.*

8. У 1723 г. Ірмалой пісаў Марцыян Паўлоўскі ў Смаленску (прыпіска беларускай мовай, лацінкай). Дапісваў Гельяш (Ілля) Дашкевіч[101];
9. Не захаваўся Ірмалой, які ў 1759 г. спісаў пінскі іерэй Антоні Тараневіч[102];
10. Айцец Себасцян Снітко спісаў Ірмалой для базыльянскага манастыра ў Цэпры каля Клецка ў 1761 г. і ўпрыгожыў яго арыгінальнымі застаўкамі і мініяцюрай з Іаанам Дамаскіным[103];
11. У 1795 г. скончыў працу над Ірмалоем быценскі базыльянін, іераманах Парфірый Клюбоўскі[104].

Яшчэ 11 з захаваных натаваных рукапісаў можна лакалізаваць па прыпісках: Ірмалой 1717 г. з Супрасльскага манастыра[105]; Ірмалой 1721 г. з Магілёўшчыны[106]; Ірмалой

[101] *Ясиновський Ю. П.* Українські та білоруські нотолінійні Ірмолої 16—18 століть. № 556.
[102] Тамсама. № 918.
[103] *Kalamajska-Saeed M.* Portrety i zabytki książat Olelkowiczów w Słucku. Inwentaryzacja Józefa Smolińskiego z 1904 r. S. 19—20. — Ю. Ясіноўскі гэты помнік не называе.
[104] *Ясиновський Ю. П.* Українські та білоруські нотолінійні Ірмолої 16—18 століть. № 1014.
[105] Тамсама. № 515.
[106] Тамсама. № 549.



*Ірмалой Яна Рапалеўскага. Пачатак сціхіры на Пакровы Прачыстай Багародзіцы. Віцебск, 1741–1744 гг.*

1769 г. з в. Давыдкі (у Ясіноўскага памылкова — Давыдкаўцы)[107]; Ірмалой 1770 г., які належаў пастаўскім бызыльянам[108]; Ірмалой 1-й паловы XVIII ст. з Антопальскага базыльянскага манастыра каля Кобрына[109]; Ірмалой 1-й паловы XVIII ст. з Оршы[110]; Ірмалой 1-й паловы XVIII ст., куплены ў Слуцку ў 1776 г.[111]; багата аздоблены (19 мініяцюр) Ірмалой 1695 г. са Смаленскага Свята-Троіцкага манастыра[112]; спісаны да 1681 г., вельмі багаты на разнастайную музыку Ірмалой з маскоўскага Сава-Старажоўскага манастыра[113]; Ірмалой канца XVII ст. (11 мініяцюр), мае запіс пра знаходжанне ў манастыры ў Кронах[114]; багата аздоблены (24 мініяцюры і адна гравюра) Ірмалой, што быў куплены ў Смаленску, а знаходзіўся ў Крупках[115].

Выдатным помнікам развіцця візантыйскай спадчыны ў музычнай культуры ВКЛ з'яўляецца так званы «Полацкі сшытак» — зборнік вакальна-інструментальнай свецкай і царкоўнай музыкі, датаваны 1680 г. Музычны рукапіс быў уклеены ў вокладку Службоўніка, які належаў полацкім архіепіскапам (у 1721–1724 гг. знаходзіўся ў Астрамечаўскай царкве непадалёку ад Брэста). Большасць твораў «Полацкага сшытка» — гэта канты, песні, гімны, сольная і ансамблевая інструментальная музыка — арыгінальнае спалучэнне мясцовага творчага прафесіяналізму і традыцый заходнееўрапейскай музыкі ранняга барока («Прыідзіце паклонімся», «Вялічае душа мая Госпада», «Божа, прыідоша языцы», «Kyrie eleison» і інш.)[116]. Адзін з твораў «Полацкага сшытка» падпісаны аўтарскім імем — гэта «Фантазія ў першым тоне» Пятра Жэляхоўскага.

Музыка была абавязковым прадметам у каталіцкіх навучальных установах. Вядомы створаныя ў Вялікім Княстве дапаможнікі, па якіх вучыліся музыцы — гэта перш за ўсё кніга Жыгімонта Лаўксміна «Тэорыя і практыка музыкі для карыстання моладзі, вучняў калегіяў грамады Ісуса», тройчы (у 1667, 1669 і 1693 гг.) выдадзеная друкарняй Віленскай акадэміі[117]. Лаўксмін — вядомы вучоны, доктар філасофіі і тэалогіі, магістр паэзіі і

107 *Ясиновський Ю. П.* Українські та білоруські нотолінійні Ірмолої 16–18 століть. № 952.
108 Тамсама. № 953.
109 Тамсама. № 402.
110 Тамсама. № 437.
111 Тамсама. № 441.
112 Тамсама. № 319.
113 Тамсама. № 185.
114 Тамсама. № 288.
115 Тамсама. № 296.
116 Беларуская музыка XVI–XVII стагоддзяў. Мн., 1990.
117 *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576–1805. № 564–566. – Апошняе перавыданне: *Liauksminas Z.* Ars et praxis musica. Vilnius, 1977.

рыторыкі. Ён выкладаў у езуіцкіх калегіумах у Брунсбергу, Нясвіжы, Пінску, Полацку, быў прарэктарам Віленскай акадэміі. Кніга была напісана ў працэсе работы на заснаваных ім курсах спеваў для бедных вучняў і студэнтаў і карысталася поспехам, пра што сведчаць як перавыданні, так і бібліятэчныя запісы езуіцкіх калегіумаў і манастыроў розных ордэнаў на захаваных паасобніках.

У адрозненне ад езуітаў, якія аддавалі перавагу папулярнаму выкладу асноў музычнай граматы і больш сучасным накірункам у музыцы, дамініканцы культывавалі старажытныя касцельныя спевы — грыгарыянскі харал. Захавалася каля дзесяці рукапісных музычных зборнікаў з дамініканскіх кляштараў Папорцаў (дзе знаходзіўся навіцыят Літоўскай правінцыі ордэна), Вільні, Гродна, Нясвіжа, Наваградка. Важнейшымі з іх з'яўляюцца тры поўныя дамініканскія антыфанарыі XVIII ст. Найбольш ранні датаваны 4 снежня 1709 г.: «Навіцыят у Папорцах. Антыфанарый Панскіх свят і службаў святым, сабраным паводле абраду дамініканцаў»[118]. Цікавая асаблівасць гэтага зборніка — графічны арнамент з васількоў у канцы кожнага раздзела. Адтуль паходзіць і зборнік мес, «досыць тыповы для каталіцкай традыцыі другой паловы XVIII ст. Такога тыпу зборнікі прыйшлі на змену традыцыйным градуалам...»[119]. Параўнанне назваў напеваў ірмалояў праваслаўнай і уніяцкай цэркваў і мес з дамініканскіх зборнікаў паказвае, наколькі першыя арыентаваны на паўднёвую і мясцовую традыцыі, а апошнія — на Захад.

Важным цэнтрам вытворчасці музычных рукапісных кніг для ордэна прапаведнікаў (дамініканцаў) быў віленскі кляштар Св. Духа. У сярэдзіне XVIII ст. тут працаваў айцец Серафіновіч, які выканаў у 1752 г. двухтомны «Антыфанарый Панскім святам» і двухтомны «Антыфанарый службаў святым» для гэтага кляштара, а таксама двухтомны «Антыфанарый» для Нясвіжскага дамініканскага касцёла. Параўнанне рукапісных антыфанарыяў з Вільні (1752) і Нясвіжа (1760) дазволіла Т. Ліхач выказаць думку пра сістэматычнае і мэтанакіраванае перапісванне (капіраванне) харальных кніг у гэтым скрыпторыі[120]. Перапісчыкі выкарыстоўвалі так званую рымскую харальную натацыю (з нотамі ў выглядзе квадратаў і ромбаў). На патрэбнае месца нотнага стану такія ноты наносілі пры дапамозе штэмпеля з дрэва, апрацаванага на канцы ў выглядзе квадрата альбо ромба. Для навучання музыцы дамініканцы ў 1753 г. надрукавалі ў Віленскай акадэмічнай друкарні «Кароткі выклад агульных правіл абавязковага, альбо грыгарыянскага, царкоўнага спеву для навучання навіцыяў у адпаведнасці са звычаем ордэна дамініканцаў» невядомага аўтара — сур'ёзны падручнік, які даваў глыбокія і шматбаковыя веды ў галіне грыгарыянскага спеву.

З часам пры касцёлах розных ордэнаў складваліся значныя музычныя бібліятэкі, якія ўключалі кнігі і ноты мясцовага паходжання і прывазныя. Так, напрыклад, у гродзенскім касцёле езуітаў у 1773 г. было 166 музычных натаваных кніг, сярод іх рукапіс-




*«Песня да Святой Тройцы» з кнігі «Glos seraficzny...», выдадзенай для Клецкага брацтва. Вільня, 1724 г.*

[118] *Ліхач Т. В.* Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі // Наша вера. 2000. № 2. С. 35.
[119] Тамсама.
[120] *Ліхач Т. В.* Музычна-тэарэтычныя дапаможнікі па грыгарыянскіх спевах у ВКЛ // Наш радавод. Кн. 4. Ч. 3. Гродна, 1992. С. 571—575.

| Назвы напеваў Ірмалояў | Назвы з дамініканскіх місалаў |
|---|---|
| | *Месы* |
| «Кіеўскі» | «Кракаўская» |
| «Балгарскі» | «Рымская» |
| «Просты» | «У грэцкім стылі» |
| «Грэцкі» | «Першая канстанцінопальская» |
| «Супрасльскі» | «Простая» |
| «Куцеінскі» | «Ягелонская» |
| «Падгорскі» | «Посная» |
| «Астрожскі» | «Варшаўская» |
| «Беларускі» | «Благаславёным» |
| «Смаленскі» | «Анёльская» |
| «Віленскі» | *Сімвалы веры* |
| «Слуцкі» | «Люблінскі» |
| «Іверскі» | «Польскі» |
| «Сербскі» | «Велікодны» |
| «Маскоўскі» | «Італьянскі» |
| | «Нікейскі» |
| | «Венецыянскі» |

ныя і друкаваныя[121]. З тэолагаў рымскай царквы найбольшай папулярнасцю ў XVIII ст. карыстаўся Фама Кемпійскі. Яго галоўная праца «Аб паследаванні Ісусу Хрысту» (De imitatione Christi libri quator) у 1722—1789 гг. была выдадзена двойчы палітоўску і чатыры разы па-польску, прычым польскі пераклад быў новы, як адзначана на тытульным аркушы «паводле экзэмпляра самім аўтарам напісанага».

**Памяннікі.** Сярод іншых царкоўных кніг вылучаюцца Памяннікі, альбо Сінодзікі. Шырокае іх распаўсюджанне тлумачыцца царкоўным звычаем памінання нябожчыкаў «за супакой душы» ў пэўныя дні сядмічнага і гадавога круга, часцей за ўсё па суботах, адкуль і другая іх назва — «Суботнік». Імёны для памінання запісвалі ў пэўным парадку (з нязначнымі адрозненнямі): напачатку служкі царквы па ранжыру (ад патрыярхаў і мітрапалітаў да дыяканаў), потым свецкія паноўныя асобы, пры канцы ўсе астатнія ў храналогіі.

Традыцыйны памяннік у праваслаўнай царкве амаль не змяніўся па сваёй будове. Больш таго, пры нязменнай пашане да царкоўнай іерархіі свецкія асобы маглі быць памянёныя ў адвольным парадку. Так, «Сінодзік» Куцеінскага манастыра (пач. XVIII ст.) спачатку называе род князёў Друцкіх-Сакалінскіх, а пасля толькі цароў Раманавых (Міхаіла, Аляксея, Фёдара, Іаана; апошнім дапісаны «Петр инператор»)[122]. Дзеля памінання тут упісаны роды манахаў і манашак з Куцейна, а таксама нябожчыкаў з блізлеглых месц — Дуброўны, Любавічаў, Смаленска, Магілёва.

Ордэн св. Васіля Вялікага, які стаў пераемнікам традыцыі заходнярускага праваслаў'я, замацаваў практыку вядзення памянніка ў рашэнні Бяльскай (XXVI) кангрэгацыі: «...Statutum est wiecznemi czasy, aby po zmarlym bracie naszym byly odprawowane trzy liturgie, a za wszytkich in genere zaraz po elekcyey protoarchimandryty nazaiutrz spiewana liturgia z panaechydą y to additum, aby w pominniki patres et fratres byli wpisywani...»[123]. Ужо ў другой палове XVII ст. базыльяне стварылі новы тып сінодзіка: памяннік — зборнік жыццяў.

Адзін з найбольш ранніх спісаў падобнага памянніка складзены Дзімітрыем Занкевічам: «Theatrum seu Katafalk zakonny godnych i zacnych mężów... Reguly sw. Bazylego

[121] *Дадиомова О. В.* Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Мн., 1992. С. 186—188.
[122] Аддзел рукапісаў і рэдкай кнігі НББ, 091/4274, арк. 3.
[123] АСД. Т. 12. С.169.

Wielkiego od roku...»[124]. Спіс падобнага памянніка маецца ў Аддзеле рукапісаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбурзе (Польск. F.I.47). Пра кожную упісаную ў Памяннік асобу складзены артыкул. Ёсць артыкулы невялікія — два-тры абзацы: характарыстыка памерлага, некалькі памінальных слоў, дата смерці. Ёсць і цэлыя біяграфіі, на 10—18 старонак фоліо — яны часцей за ўсё распавядаюць пра епіскапаў, мітрапалітаў, архімандрытаў манастыроў.

Памяннік са збораў Аддзела рукапісаў РНБ на тытульным аркушы мае загаловак, які адначасова з'яўляецца і кароткай прадмовай складальніка: «Pominnik abo wizerunk smertelnosci Ludzkiey; Przez Opisanie Wielebnych Oycew y braci zmarłych celnieyszych tylko y Prałatow w Zakonie S°. Bazylego W°. Poczawszy od Roku przeszłego Tysiąc sześć set osemdzesiąt Szostego, az do Roku terazniejszego Tysiąc Siedmset dwudziestego Pierwszego. Od iednego Zakonnika tey ze Reguły S°. Oyca naszego Bazylego ktory zostawiony ku pamiątce OO y Braci pozostaley, aby za czytaniem tego pominnika, pamiątali, ze y sami smiertelni sa ludzie, y w podobny Katalog zapisani będą, a iz będąc na swiecie, zyc przestali, y pamiatke swoie tylko na papierze zostawili».

На адгорце тытульнага аркуша — тры распіскі, якімі базыльяне Іосіф Сапаровіч, Канстанцін Шацінскі і Сімяон Міцкевіч сведчаць, што гэтая кніга пісаная ўласнай рукой нябожчыка Яна Альшэўскага, протакансультара ордэна, старэйшага Тараканскага манастыра. Распіскі датаваныя 1724 г. А побач зроблены запіс без даты і без подпісу: «...не так гэта: не яго рукой пісана, але рукой брата Філарэта Шукевіча, які памёр у Тараканах 24 кастрычніка 1772 года».




«Bohdanowicz Piotr. Wiosna... Jana Paca...». Пётр Багдановіч. Тытульны аркуш панегірыка на вяселле Яна Паца з дачкой смаленскага ваяводы Тэрэзай Падбярэзкай. Вільня, друкарня універсітэта, 1680 г.

«Палеміку», што пачалася на тытульным аркушы, спыніў вядомы базыльянскі дзеяч, протакансультар ордэна Антоній Завадскі. Ён працягваў складаць памяннік, уключыў у яго біяграфіі абодвух перапісчыкаў гэтай кнігі:

«Брат Філарэт Шукевіч... служыў старшым Ордэна ў пытаннях права, бо быў знаўца і ўмеў гэта, застаючыся многа гадоў пры Трыбунале Вялікага Княства Літоўскага; больш за ўсё працаваў пісаннем (бо меў добры і беглы почырк), так жа і гэтая самая кніга яго почыркам пісана ад першай і да 117-й старонкі; і для сябе шмат пісаў, бо меў жаданне і ніколі не ленаваўся. Кароткі тэрмін жыцця дараваны яму: у 1722 г. захварэў на сухоты альбо іншы падобны дэфект, дня 24 кастрычніка... адышоў».

«Айцец Ян Альшэўскі, протакансультар ордэна. Той, хто гэтую кнігу задумаў і сам уласнай рукой закончыў на апошняй старонцы... Меў правую руку высахлую, бо яшчэ ў

[124] «Analecta OSBM». Перадваенная публікацыя І.Скрутэня (Жолква; Львів, 1924—1932 гг.): Т.1. С. 105—130, 284—291, 496—520; Т. 2. С. 123—138, 376—401; Т. 3. С. 496—520; Т. 4. С. 219—237, 496—520) і пасляваенная рымская публікацыя: Sectio II. Vol.VIII. Romae, 1973.

маладыя гады, калі пан, якому ён служыў, напаў на госця, ён госця прыкрываў і атрымаў рассечаныя шабляй жылы на руцэ, якраз каля ладоні... [далей расказваецца, як скалечаны хлопец некаторы час рыхтаваўся, потым вучыўся на дыякана, затым, у 1700 г., спецыяльная камісія засведчыла, што пры сваім калецтве ён усё ж можа выконваць абавязкі святара і мае для гэтага дастатковыя веды... У 1706 г., пасля смерці Гедэона Шумлянскага, ён назначаны мінскім суперыёрам, потым служыў у розных гарадах і манастырах] ... пісаў гэтую кнігу, пісаў і пра грамадзянскую вайну ў Вялікім Княстве Літоўскім у асобнай кнізе, якая названа «Нарыс дамашніх няшчасцяў», перапісаў сваёй левай рукой «Матрылогіум», альбо «Меналогій», — на кожны дзень цэлага года жыцці святых. Пісаў асобную кнігу «Пахвала мітрапалітам, ад часу святога злучэння Літвы і Русі з рымскім касцёлам»..., памёр у Быцені 9 кастрычніка 1723 года». Невялікія, але вельмі характэрныя біяграфіі кнігапісцаў мяжы XVII і XVIII стагоддзяў.

Варта адзначыць, што Антоній Завадскі, які скончыў пачаты Філарэтам Шукевічам і Янам Альшэўскім «Памяннік», закончваў перапісваць яшчэ адзін паасобнік. В. Ластоўскі паведамляе пра Мінскі (Менскі) памяннік; яго пачаў складаць яшчэ ў 1610 г. Паісій Сахоўскі: «Гэты «Суботнік» закончыў толькі сто гадоў пазней Антоні Завадскі».

З бібліятэчных запісаў на тытульным аркушы «Памянніка», які захоўваецца ў РНБ, можна рэканструяваць шлях гэтай кнігі: у 1729 г. яна перададзена з бібліятэкі Тараканскага манастыра ў бібліятэку манастыра Быценскага. Калі Антоній Завадскі стаў вікарыем базыльянскага ордэна, ён загадаў перанесці кнігу ў бібліятэку Жыровіцкага манастыра «як больш бяспечную», што і зрабілі 26 лютага 1731 г. Як рукапіс трапіў у Пецярбург, у Імператарскую Публічную бібліятэку, дакладна невядома. Можна меркаваць, што з паперамі гісторыка царквы, прафесара Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі Міхаіла Каяловіча.

У зборах Пецярбургскага філіяла Інстытута расійскай гісторыі захоўваецца зараз варыянт кароткага храналагічнага базыльянскага «Памянніка» — кнігу гэтую 21 красавіка 1721 г. манахі Тараканскага манастыра падаравалі жыровіцкаму закрысцію Мітрафану Зеніхоўскаму, потым «Памяннік» захоўваўся ў бібліятэцы Жыровіцкага манастыра[125]. Ён ахоплівае перыяды ад 1686 да 1721 г., але называе толькі 117 імён з кароткім жыццяпісам. Уся кніга перапісана адной рукой (Філарэта Шукевіча), але не закончана. Магчыма, кіраўніцтва ордэна благаславіла Філарэта працаваць над кароткай рэдакцыяй базыльянскага пацерыка для яго выдання, каб расказаць пра самых выдатных базыльян. Аднак з-за заўчаснай смерці Філарэт не паспеў закончыць яго складанне. Пазней была зроблена спроба складання кароткага алфавітнага памянніка (ад «А» да «Z»), аднак і гэтая праца засталася незакончанай[126].

У другой палове XVIII ст. у розных базыльянскіх манастырах складалі вялікія зводныя храналагічныя памяннікі, якія называліся «Каталог памерлых Мітрапалітаў, Архіепіскапаў, Епіскапаў, Архімандрытаў, Ігуменаў і іншых айцоў і братоў закону св. Васіля Вялікага, ад Генеральнай капітулы, ўрачыста праведзенай у Навагрудку ў 1630 годзе», альбо па-латыні: «Catalogus Defunctorum Patrum Provinciae Litvaniae». Побач з імем і прозвішчам памерлага пазначалася месца смерці — адзін з 14 базыльянскіх манастыроў Літоўскай правінцыі: Беразвеч, Брэст, Быцень, Бяла-Падляска, Вільня, Жыровіцы, Лаўрышава, Мсціслаўль, Наваградак, Полацк, Ружаны, Ракаў, Ушачы, Чарэя. Іншых звестак у каталогах няма. Да канца XVIII ст. у гэтых памянніках было запісана звыш 700 імён[127], пераважна «сваіх», «мясцовых». Іншая справа — Памяннік братоў каад'ютараў езуіцкага ордэна, што склаў гісторык Войцэх Віюк Каяловіч — рэестр у канцы гэтай кнігі называе 501 імя людзей з розных канцоў тагачаснага хрысціянскага свету[128].

**Панегірыкі.** Звычай выдаваць асобнай кніжачкай казанне (казанні), падрыхтаванае з нагоды якой-небудзь важнай падзеі ў шляхецкай сям'і, захоўваўся да канца XVIII ст.

[125] СПбФІРГ, ф. 52. БАНЛ. F19. Воп. 1. № 363. — Гэтая кніга была адной з многіх, якія выкраў з Жыровіцкай бібліятэкі Павел Дабрахотаў.
[126] СПбФІРГ, ф. 52. БАНЛ. F19. Воп. 1. № 305.
[127] СПбФІРГ, ф. 52. БАНЛ. F19. Воп. 1. № 266, 285.
[128] *Koialowicz W.* Pamiątka krotka braciey koadiutorow Societatis Jesu swiatobliwie zmarłych. [...].Wilno, 1673.

Друкаванае казанне раздавалі гасцям пад час цырымоніі; часта выданне запазнялася і ўключала ў сябе апісанне цырымоніі, ператвараючыся, такім чынам, у кнігу-помнік. Паколькі ў кожным выпадку галоўнай мэтай было ўзвялічыць прадстаўніка роду і цэлы род, кнігі сталі называць «Панегірыкі» (ад лацінск. panigiris — узвялічваць). Загалоўкі гэтых выданняў падрабязна пералічвалі тытулы асобы (асоб), якой яны былі прысвечаны, у тым ліку галоўныя маёнткі, якімі гэтая асоба валодала.

Геаграфічна ўладанні буйных магнатаў знаходзіліся ў розных мясцовасцях ВКЛ. Вяльможныя паны, якія былі ў той ці іншай зямлі ваяводамі, старастамі і намеснікамі, рабіліся мясцовымі землеўласнікамі, пускалі карані ў гэтую зямлю, не парываючы іншыя сувязі. Ад пачатку існавання ВКЛ гэты працэс — гісторыкі часам называюць яго «ваенна-служылая літоўская каланізацыя» — спрыяў стварэнню новых сацыяльных сувязей, якія злучалі часткі Вялікага Княства шмат мацней, чым маглі б гэта зрабіць толькі дачыненні палітычнай залежнасці. Акрамя зямельных і службовых важную ролю адыгрывалі дачыненні з царквой, правільней, з рознымі хрысціянскімі цэрквамі. Кнігі (прынамсі, панегірыкі ці утылітарнага прызначэння) сталі яшчэ адным чыннікам аб'яднальных тэндэнцый, незалежным ад веравызнання замоўцаў і выдаўцоў.

Дапаможнікамі па складанні панегірыкаў па-ранейшаму заставаліся кніжка Казіміра Вайшнаровіча «Палітычны аратар, які служыць розным пахвальным актам» і «Навука, альбо Спосаб складаць казанні» Іянікія Галятоўскага. Кожная эпоха давала сваіх папулярных складальнікаў тэкстаў эпіцэдый і прамоўцаў, прычым большасць замоўцаў былі ўжо не жыхары сталіцы і ваяводскіх гарадоў, а шляхта з правінцыі. Мода на панегірыкі ахапіла шырокія пласты насельніцтва: калі ў XVI ст. асобныя выданні прысвячалі ўрачыстым падзеям у жыцці багацейшых магнацкіх сем'яў ВКЛ, то ў XVII—XVIII стст. такія кніжкі заказвае і сярэдняя шляхта. Друкуюцца казанні, якія рыхтавалі і прамаўлялі не толькі ў храмах сталіцы і ваяводскіх гарадоў, але і ў правінцыі. Напрыклад, у Віленскай акадэмічнай друкарні асобнымі брашурамі выйшлі казанні радашковіцкага пробашча Антонія Букатага, якія ён гаварыў у Маладзечне, на пахаванні Ізабэлы Агінскай (1762); у Заслаўі, на пахаванні Кацярыны Пшэздзецкай (1764); у Радашковічах, на пахаванні капітана коннага рэгімента войскаў ВКЛ Станіслава Свентарэцкага (1785); у Радашковічах, на пахаванні Іаанны Паўлікоўскай (надрукавана як зборнік трох казанняў Антонія Букатага), а таксама дунілавіцкага пробашча Тадэвуша Паўлікоўскага і канюшага Мінскага ваяводства Пятра Паўлікоўскага (1780).




SPLENDOR
Affinium Cognatarumq; Familiarum,
Ducali RADIVILIANO Splendori
Fœderatus.
IN ORIENTE IMMORTALIS GLORIÆ
A DVCALI RADIVILIA.
NA AQVILA
Obſervatus.

PErtinebat CAROLE Princeps Celſiſſime, tum ad Gloriæ Tuæ amplitudinem; tum ad CATHARINÆ Principis Se- G reniſſimæ

*Радзівілаўскі арол назірае за дачыненнямі Пагоні з двухгаловым аўстрыйскім арлом: чакалася прыняцце на трон Рэчы Паспалітай сваяка Габсбургаў Фрыдэрыка Аўгуста. Будучых дачыненняў з Расіяй ніхто ў гэтай алегорыі не бачыў.*

**Кнігі утылітарнага прызначэння.** Як ужо адзначалася, кніга з'явілася ў Вялікім Княстве Літоўскім як прадмет рэлігійнага культу. Аднак функцыянальныя магчымасці яе сталіся нашмат шырэйшыя, і з развіццём дзяржавы і грамадства кніжная культура таксама


KAZANIE
Na Pogrzebie J. W. Jmci Pana
STEFANA IGNACEGO
SLIZNIA
PODKOMORZEGO SŁON.
GENERAŁA MAI: i PUŁKO
WNIKA WOYSK W. X. L
KREWSKIEGO WISNIOW
SKIEGO, OLESIEJOWSK:
STAROSTY
w Kościele Słonimskim WW. OO. Benardynow R. 1776. 13. Listop.
MOWIONE
Na usilne Prześwietney Familii żądanie, do Druku podane
w NIESWIZU
R. 1777.

*Казанне на пахаванні Яго Міласці Пана Стэфана Ігнацыя Слізня, слонімскага падкаморыя, генерала-маёра і палкоўніка войска ВКЛ, крэўскага, вішнеўскага, аляссееўскага старасты, прамоўленае ў слонімскім касцёле вялебных айцоў бернардынаў року 1776, 13 лістапада. Па жаданні сям'і да друку пададзеныя ў Нясвіжы, року 1777». Тытульны аркуш, на ім уладальніцкі запіс «З кнігазбору Іосіфа Жабы з Шша».*

рабілася больш разнастайнай. Зборнікі выбраных тэкстаў ператвараліся ў зборнікі універсальнага зместу, а ўрэшце частка з іх вылучалася ў асобны тып кнігі: юрыдычная, інвентарна-гаспадарчая, кніга-архіў. У XVIII ст. сфарміравалася спецыялізацыя кніг па галінах ведаў.

Прыкладам кнігі утылітарнага прызначэння могуць служыць спісы (а ў далейшым і друкаваныя паасобнікі) зборніка законаў Вялікага Княства — Статута.

У канцы XVII ст. права на выданне Статута атрымала друкарня акадэміі. Ужо з тытульнага аркуша відаць, што пры падрыхтоўцы чацвёртага выдання езуіты інтрыгавалі: «Статут Вялікага Княства Літоўскага, перад тым, за найяснейшага гаспадара караля яго міласці Жыгімонта III у Кракаве ў 1588 годзе, другі раз у Вільні, у 1619 годзе з паказаннем згоды і розніцы Статутаў каронных і В. К. Л. Трэці раз, за найяснейшага К. Я. М. Уладзіслава IV, у Варшаве, у 1648 годзе, з прыданнем Канстытуцый ад 1550 году да 1647. Цяпер, чацвёрты раз, за шчасліва панующага найяснейшага Караля Яго Мосьці Яна Трэцяга з прылажэннем артыкулаў і соймавых канстытуцый ад сойму 1550 году аж да сойму году 1690, што служаць абодвум народам (самога тэксту нічым не парушаючы). Друкаваны ў Вільні, у друкарні Акадэмічнай Societatis IESU. У год гасподні 1693».

Першае, мамоніцкае, выданне Статута тут паказана як кракаўскае. Можна патлумачыць гэта фармальна — менавіта ў Кракаве Жыгімонт III падпісаў прывілей на выданне Статута. Аднак па сутнасці (па аналогіі са звесткамі пра наступныя тры выданні) выразна відаць наўмыснае «адлучэнне» гэтага «рускага» інтэлектуальнага прадукту ад сталічнай Вільні. Гэтым жа можна патлумачыць і адсутнасць паведамлення пра першае друкаванне адначасова са Статутам актуальных соймавых пастаноў — Трыбунала. Пачатак гэтай традыцыі прыпісваецца другому, польскамоўнаму выданню Статута 1619 г. (аб выданні 1614 г. не ўпамінаецца). У пачатку кнігі надрукаваны прывілей Яна III, завераны пісарам ВКЛ і мальтыйскім кавалерам Казімірам Міхаілам Пацам. Потым ішло прысвячэнне двум Сапегам: Казіміру Яну — віленскаму ваяводзе і вялікаму гетману ВКЛ і Бенядыкту Паўлу — вялікаму падскарбію і земскаму пісару ВКЛ. Другое прысвячэнне — двум Радзівілам: Дамініку Мікалаю — вялікаму канцлеру ВКЛ і Каралю Станіславу — падканцлеру ВКЛ. Абодва прысвячэнні падпісаны: «Вашых мосьцяў паноў і дабрадзеяў удзячная за дабрачынства Віленская друкарня Акадэміі Societatis IESU». Акрамя тэксту самога Статута і дадаткаў (яны вельмі ўдала вылучаны шрыфтам у канцы кожнага артыкула) у кнізе маюцца тры звароты «Да чытача». Першы [арк. 11 адв.] пачынаецца з інфармацыі — «перасцярогі»: «...паколькі старыя паасобнікі часткова праз войны і агонь, часткова праз ужыванне час знішчыў, (Статут) той жа, а не іншы, без аніякай адмены альбо памяншэння Раздзелаў, Артыкулаў, Параграфаў, зноў з друку выходзіць...». Далей паведамляецца, што гэтае выданне папоўнена рашэннямі соймаў (канстытуцыямі) ад 1550 да 1690 г. і мае на канцы Рэестр, які адлюстраваў не толькі сам тэкст, але і дадаткі. Другі зварот (ад першай асобы, але не падпісаны) названы «Да ласкавага чытача» і надрукаваны ў канцы тэксту Статута. Гэты кароткі тэкст, які напісаны напярэдадні адмены «рускай» мовы як дзяржаўнай, варты таго, каб працытаваць яго ўвесь: «Чацвёрты раз



IMPRIMATUR.
CAROLUS KARP
U. J. D. Can: Sen: Cath:
Offlis Grlis Vilnenſis.
mpp.

De Dormientibus non contriſtemini,
ſicut qui ſpem non habent. 1ma
ad Theſ. 4.
O zaſypiaiących nie zaſmucaycie ſię,
iako ci, co nadzieie nie maią.

SMUTNE ZGROMADZENIE.

KIEDY Ja na tę Pogrzebnego do Was Kazania poſługę wezwany, temi ie Apoſtoła Swiętego roſpoczynam ſłowy, któremi On Wiernych Teſſaloniczan w podobnym zoſtaiących ſmutku liſtownie cieſzył; á w nich,
A nie

*«Казанне на пахаванне... Стэфана Ігнацыя Слізня...». Адгорт тытульнага аркуша з дазволам на друк віленскага цэнзара Караля Карпа і аркуш 1. Нясвіж, 1777 г.*

гэты Статут Вялік. К. Літ. кнігу права паспалітага, уважлівы чытацелю, ад недахопу паасобнікаў для патрэбы кожнага ў Рэчыпаспалітай на свет з друку выдаючы, не выпадала мне ад шчырага перакладу з рускай, альбо скарэй славянскай мовы, на мову польскую, адступаці, бо то не мая справа чужыя словы прычэсваць і сэнс папраўляць, а толькі ўласныя [яго] словы, як у ім гучаць, надрукаваць. А калі табе гэтае простае, але праўдзівае тлумачэнне калі-небудзь смакаваць, альбо падабацца не будзе, а дзе-небудзь цяжкія словы, альбо менш польскія, а за тым і сумніўным сэнс здавацца табе будзе, то ўжо прашу прабачыць. Бо ж у тым перакладзе таго Статута не скупасць, альбо не няўменне слоў польскай мовы было перашкодай. Але больш спрыяючы шчыраму выкладу рускіх слоў і праўдзіваму тлумачэнню, так гэта для карыстання людзям падаю: а калі ж той пераклад каму падабацца не будзе, па-старому застаецца вольны кожнаму rekurs да старасвецкай рушчыны. Аднак жа прашу, каб гэтую маю працу прыняць добразычліва, для патрэбы кожнага з нас зробленую, кошт і наклад з адвагай укладзены, удзячна прыняць схацелі, а калі пахваліць не можаш, хоць бы ганьбы не рабі. А за тым будзь ласкавы і ўжывай доўга шчаслівы».

Апошні, трэці, зварот надрукаваны ў канцы Трыбунала 1581 г. Яго мы таксама працытуем дзеля мастацкіх вартасцей кароткага вершаванага тэксту, аўтарам якога з'яўляецца Станіслаў Галонскі:

Do łaskawego Czytelnika
Porzadek Sądow głownych znowu się wydaie,
Dla tego, Egzemplarzow dawnych iz nie staie.
Nie przeto, żeby mialo tu byc co nowego,
Lecz tylko dogadzaiąc potrzebie każdego.
A co się zaś na brzegach, y niżey przydało,
Przyimi wdzięczne, y popraw, iesli się zda mało.
Y vżyway szczęsliwie, broń sprawiedliwości,
Daiąc prawny na sądzie odpor ludzkiey złośći.



*Старонка Пінкаса з Межыбору. Расійскі этнаграфічны музей ў Санкт-Пецярбурзе. Зборы Рапапорта.*

Да ласкавага Чытача
Парадак судаводства зноўку выдаецца,
Бо паасобнікаў старых зусім не застаецца.
Не дзеля таго, каб было што нова,
Але толькі да патрэбы судовай.
А што на палях, і ніжэй дадана,
Прымі ўдзячна, і папраў, як здасца мала.
І ўжывай шчасліва, шчыт справедлівосці,
Даўшы на судзе законны адпор людскай злосці.

У XVIII ст. было тры выданні Статута ВКЛ: пры Аўгусце III у 1744 г., у 1780 г. (на тытуле паказаны 1744 г., але ў Дадатку канстытуцыі соймаў даведзены да 1780 г.) і ў 1786 г. пры панаванні Станіслава Аўгуста. Для патрэб Трыбунала ВКЛ юрыдычны факультэт рыхтаваў, а акадэмічная друкарня рэгулярна выдавала «Парадак адпраўлення спраў у Галоўным Трыбунале ВКЛ» (10 вядомых бібліяграфіі выданняў за 1708—1786 гг.).

У XVIII ст. з розных друкарняў ВКЛ выходзілі (пад рознымі назвамі) шматлікія брашуры, аўтары якіх мелі на мэце давесці аргументы па сваёй справе да суддзяў Трыбунала ВКЛ і да грамадскасці, якая збіралася на сесію Трыбунала. Пачатак выдання такіх брашур звязаны з судовымі працэсамі полацкіх езуітаў 1720 і 1748 гг., а своеасаблівы росквіт прыпадае на час перад падзеламі Рэчы Паспалітай, менавіта на 1770-я гг. Беларускі гісторык У. Вяроўкін-Шэлюта прапанаваў даць агульную назву гэтаму віду друкарскай прадукцыі — «Трыбунальскія рэплікі»[129]. «Судовыя» кнігі ў большасці складаюць гістарычную частку архіўнага фонду, значная частка іх распылена па музеях і бібліятэках.

У габрэйскіх абшчынах ВКЛ у XVIII ст. узнікла традыцыя весці абшчынную кнігу, куды заносіліся пратаколы кагальных пасяджэнняў, падзеі, што датычылі гісторыі абшчыны, — Пінкас (ад грэц. πινκαζ, што значыць дошка). Пінкасы — вельмі важная крыніца ведаў па справах абшчын у гарадах і мястэчках ВКЛ — амаль не захаваліся.

**Навукова-папулярная літаратура.** Прага да ўсеабдымных ведаў вымушала шляхту ўпісваць у свае Silva rerum звесткі па айчыннай і ўсеагульнай гісторыі, інфармацыю пра дзіўныя прыродныя з'явы, літаратурныя творы (часам і свае), малітвы і ўрыўкі з твораў Айцоў Царквы — усё самае цікавае з пачутага ці прачытанага. Базавую аснову навукі давала акадэмія, пачынаючы з прымусу вучыць класічныя мовы — лацінскую, грэцкую і славянскую.

На працягу стагоддзя друкарня Віленскай акадэміі выдала асноўны падручнік па лаціне — «Альвар» — шэсць разоў: у адной кнізе ў 1744 г. і ў трох кнігах у 1762, 1764, 1767, 1770 і 1773 гг. Дзеля засваення граматыкі на класічных прыкладах універсітэт выдаваў лацінскія «Лісты» Цыцэрона (акадэмічная друкарня ў 1755 г. і яшчэ тры выданні без даты, таксама яго ж выбраныя творы ў трох тамах ў 1754—1756 гг.). Вучыцца грэцкай мове можна было па «Грэцкай граматыцы» прафесара універсітэта Мацея Карвацкага, якую

[129] *Вяроўкін-Шэлюта У.* Трыбунальскія рэплікі ў фондах Аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі // Матэрыялы першых кнігазнаўчых чытанняў (Мінск, 15 верасня 1998 г.). Мн., 2000. С. 90.

выдалі ў 1725 г. Для патрэб навучэнцаў тройчы (у 1752, 1757 і 1766 гг.) перавыдаваўся двухтомны падручнік паэтыкі: J. Jouvancy «Institutiones poeticae».

Рэгулярна выдаваліся падручнікі нямецкай і французскай моў. Ад 1762 да 1791 гг. з-пад прэсаў акадэмічнай друкарні выйшла пяць выданняў «Нямецкай граматыкі... з дадаткам вакабулаў, размоў, баек і лістоў» Ёгана Готшэда, і не менш сямі выданняў французскай граматыкі (1774—1796).

Выданне гістарычнай навукова-папулярнай літаратуры шырока пачалося пасля ўвядзення ў езуіцкіх школах ВКЛ у 1741 г. абавязковага выкладання гісторыі. Прадметна-энцыклапедычны выклад матэрыялу (на польскай мове) характэрны для кніг Я. Пашакоўскага «Сума ўсеагульнай гісторыі...»[130] і Ф. Папроцкага «Хатнія звесткі аб Вялікім Княстве Літоўскім з далучэннем гісторыі гэтага народа»[131].

У «Суме...» гісторыя выкладалася ад пачатку нашай эры да XVIII ст., уключаючы жыццё і дзейнасць вялікіх князёў літоўскіх, з пераважнай увагай да фактаў культуры (вынаходства кнігадрукавання, дзейнасць пісьменнікаў і вучоных). У кнізе Папроцкага айчынная гісторыя даведзена да часу заключэння Люблінскай уніі. Як і ў іншых сваіх творах, што пабачылі свет у друкарні акадэміі[132], аўтар імкнуўся даць усебаковую інфармацыю, сабраную з розных крыніц. Выкарыстоўваючы больш раннія працы іншых даследчыкаў, ён параўноўваў сябе з садаводам, які перанёс дрэва ў свой сад, прывіваў яго і даглядаў. Разам з гістарычнымі падзеямі ў яго кнігах змешчаны геаграфічныя і эканамічныя звесткі.

Вялікае значэнне для папулярызацыі гістарычных ведаў мелі «Календары» і «Імператарскія калядкі» Пашакоўскага[133], дзе друкаваліся артыкулы пра рымскіх цэзараў, візантыйскіх і заходніх імператараў, турэцкіх султанаў (частка гэтых матэрыялаў выкарыстоўвалася ў яго кнігах на падобныя тэмы). Гістарычныя публікацыі працягваліся


EMMANUELIS
ALVARI
è Societ: Jesu,
DE
INSTITUTIONE
GRAMMATICA
LIBRI TRES.
EDITIO NOVA CORRECTIOR
CUM LICENTIA SUPERIORUM, ET
PRIVILEG: SACRÆ R. M.
VILNÆ

Падручнік лацінскай мовы «Альвар» Эмануэля Альварэса. Тытульны аркуш. Вільня, сярэдзіна XVIII ст.

ў выданнях Ф. Папроцкага «Kalendarzyk polityczny» (1758—1767) і «Kalendarz wileński» (1768—1786)[134]. Некаторыя з іх заслугоўваюць увагі як помнікі мясцовай гістарыяграфіі, напрыклад артыкул Папроцкага (у календары на 1764 г.), прысвечаны Сямігадовай вайне 1756—1763 гг.

У ВКЛ выдаваліся перакладныя і сваіх аўтараў працы па гісторыі краін Паўднёвай Еўропы і Азіі, у тым ліку кнігі «Войны грэкаў з Атаманскай Портай...» Ф. Каменскага[135], «Скарочаная гісторыя Усходніх Індый» Т. Падлецкага[136], «Гісторыя партугальскай рэвалюцыі» А. дэ Верто[137]. Побач з антычнай

[130] *Poszakowski J.* Summa historyi uniwersalney na dwie części rozłożona abo Index kalendarzyków seu kolend, ktore w Wilnie corocznie się wydaią. Wilno, 1748.
[131] *Paprocki F.* Domowe wiadomości o W. X. Litewskim z przyłączeniem historyi tegoż narodu. Wilno, 1760. — Перавыдадзена ў 1763, 1771 і 1775 гг.
[132] *Čepienė K., Petrauskienė I.* Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai 1576—1805. № 2385, 2386, 2391—2397.
[133] Ibidem. № 1827—1832, 1834—1837.
[134] Ibidem. № 1838—1864.
[135] *Kamieński F.* Woyny greckie z Portą Ottomańską [...]. Wilno, 1773.
[136] *Podlecki T.* Historya Indyi Wschodnich skrocona. Wilno, 1776.
[137] *Vertot A.* Historya rewolucyj portugalskiey. Wilno, 1753.

літаратурай (кнігі Флора[138] і Салюсція[139]) выдаваліся творы сучаснікаў, напрыклад «Час Людовіка XIV» Вальтэра[140].

З выданняў па геаграфіі трэба адзначыць «Геаграфічны слоўнік для грунтоўнага разумення газет і гісторыі» Г. Карпінскага[141] і «Кароткае, але фундаменальнае апісанне Балеарскіх і Пітыузскіх астравоў...»[142] ананімнага аўтара. «Геаграфічны слоўнік...» знаёміў чытача з агульнай тэрміналогіяй геаграфіі, апісваў асаблівасці розных мясцовасцей Зямнога шара.

Новыя погляды на жыццё адлюстраваліся ў літаратуры па грамадскіх навуках. Дыдактычныя выданні, як і раней, мелі на мэце вучыць нормам паводзін — «Універсальны чалавек» і «Аб спосабе паводзін у грамадстве» Б. Грацыяна[143], «Збор разумных і важных меркаванняў...» П. Гарберта[144] і інш. Хоць іх аўтары абапіраліся на традыцыйныя грамадскія нормы, аднак падкрэслівалі і абавязкі паноў у дачыненнях да сваіх служкаў. Бурламакі ў кнізе «Доказ пра асновы прыроджанага права»[145] сцвярджаў, што галоўныя правы — набытак кожнага чалавека, разважаў пра паняцці волі, гаварыў, што пан мае пэўныя абавязкі ў адносінах да свайго прыгоннага. П. Гатэ ў «Навуцы розуму, звычаяў і палітыкі»[146] даводзіў, што ў жыцці трэба прытрымлівацца каталіцкай маралі, але навука не супярэчыць рэлігіі. Сацыяльныя пытанні гучаць у прамовах і казаннях прафесараў В. Каліньскага — «Пра свабоду» і «Пра ўцехі сельскага стану»[147], Я. Касакоўскага — «Пра любоў да Радзімы» і «Пра зберажэнне правоў народа»[148], М. Карповіча — «Пра абавязкі паноў да падданых»[149] і інш. У іх праслаўляўся чалавечы розум, выкладаўся крытычны погляд на існуючы феадальны лад, выказвалася імкненне правільна арганізаваць працу і размеркаваць яе вынікі.

Навукова-папулярныя выданні ў XVIII ст. сталі выразнікамі ідэй сваёй эпохі. У іх распаўсюджванні найбольш актыўную ролю адыгралі друкарні акадэміі і ордэнскія: віленскіх і супрасльскіх базыльян, піяраў, францысканская.

Добраахвотнае схіленне да хрысціянства іудзеяў — грамадзян ВКЛ — было вядома ад пачатку XVI ст. Пра гэта сведчыць лёс падскарбія ВКЛ Абрама Юзафовіча, які пасля прыняцця хрысціянства ўклаў у віленскую Мікалаеўскую царкву гэтак званы Кіеўскі Псалтыр. Нашчадкі Абрама Юзафовіча (яго сыны і ўнукі) займалі пасады мінскіх войтаў, мечнікаў і кашталянаў, а таксама аршанскіх старастаў і земскіх суддзяў. З часам пераважная большасць іудзеяў пераходзіла ў каталіцызм, зліваючыся з польскай плынню культуры ВКЛ — колькасць толькі шляхціцаў габрэйскага паходжання дасягае некалькіх дзесяткаў[150].

Адна з адметнасцей кніжнасці XVIII ст. у ВКЛ у тым, што пачалося выданне кніг спецыяльна для прапаганды хрысціянства сярод іудзеяў. Была гэта ініцыятыва езуітаў, ці імкнуліся пашырыць свой уплыў неафіты, ці была якая іншая дамінавальная прычына —

[138] *Florus L.* O początku y dziejach narodu rzymskiego [...]. Wilno, 1790.
[139] *Sallustiusz Krisp K.* O wojnach z Katyliną i Jugurthą. Wilno, 1767.
[140] [*Voltaire F. M.*] Wiek Ludwika XIV. T. 1–2. Wilno, 1793.
[141] *Karpiński H.* Lexykon geograficzny, dla gruntownego poięcia gazet i historyi [...]. Wilno, 1766.
[142] Krótkie ale fundamentalne opisanie Balearyiskich i Pythyuzyskich wysp Majorka, Minorka, Ivica i Formentera. [Wilno, 1766].
[143] *Gracyan B.* Człowiek uniwersalny. Wilno, 1762; O sposobie postępowania na świecie, przestrogi młodym, zwłaszcza dworskie życie prowadzić myslącym pożyteczne [...]. Wilno, 1766.
[144] *Harbert P.* Zbiór mądrych y poważnych zdań wielu starożytnych cnotą y madrością zaszczyconych królów, xiążat, filozofów, y siedmiu mędrców greckich. Wilno, 1769.
[145] [*Burlamaqui J. J.*] Dowod z początków prawa przyrodzonego [...]. Ed. 2. Wilno, 1779.
[146] *Gattey P.* Nauka rozsądna, obyczajowa y polityczna [...]. Wilno, 1780.
[147] *Kaliński W.* Mowa [...] o wolności, miane w Pawłowie r[oku] P[ańskiego] 1777 d. 28 paźdz. Wilno, [1777]; Ён жа. Mowa [...] o pociechach stanu rolniczego miana w Pawłowie, dnia 29 czerwca. Wilno, [1779].
[148] *Kossakowski J. N.* Kazanie o miłości Oyczyzny [...]. Wilno, [1789]; Ён жа. Kazanie o zachowaniu praw narodowych [...]. Wilno, [1790].
[149] [*Karpowicz M. F.*] Kazanie jubileuszowe [...] o powinney poddanym od panów miłości względem ich duszy [...]. Wilno, [1776].
[150] *Mieses M.* Z rodu żydowskiego. Zasłużone rodziny polskie krwi niegdyś żydowskiej. Warszawa, 1991. — Аўтар, на жаль, не падзяляе насельнікаў ВКЛ і Кароны і не паказвае асаблівасцей іх біяграфій, гэтым самым як бы паказваючы, што ўсе «выкрасты» былі польскія патрыёты — такая метадалагічная пастава падаецца нам не зусім правільнай. Прыклад таго ж Абрама Рэбічкавіча Юзафовіча таму сведчанне.

няясна. Аднак кніг гэтага накірунку ўжо ў першай палове XVII стагоддзя з'явілася шмат, і кожная з іх, як правіла, выходзіла некалькімі выданнямі. Так, напрыклад, Віленская акадэмічная друкарня ў 1705 і 1720 гг. выдала «Трактат мараканскага рабіна Самуіла, які паказвае іудзейскія памылкі», а таксама «Пісьмо аднаго статыста, якое ўключае ў сябе некаторыя прычыны, з-за якіх з цяперашніх жыдоў да святой каталіцкай веры вернутыя бываюць... таксама некаторыя спосабы да вяртання жыдоўскага народа...» (1728, 1741).

У 1737 «годзе ад нараджэння сапраўднага Месіі», як напісана на тытульным аркушы, у той жа акадэмічнай друкарні выйшла кніга Язэпа Саламона Лефенбергена, «які быў партугальскі і жыдоўскі рабін, а таксама ў тых жа краях будучы прафесарам Святога Пісьма, а цяпер, у 1728 г., зрабіўшыся прававерным католікам, задумаў выявіць жыдоўскія памылкі перад польскім светам...»[151]. У 1743 г. гэтая кніга была перавыдадзена чацвёрты раз.

У зборах Залускіх захоўвалася рукапісная кніга 1716 г. на тую ж тэму: «Выяўленне перад Богам і светам абрадаў жыдоўскіх, якіх супраціў Богу Усемагутнаму непачціва... хрысціянам неміласэрна і бяспраўна на кожны месяц і дзень... прываблівае і публічную цырымонію ўжывае, праз Яна Шарафіновіча ласкай Бога да с. веры павернутага, перад тым рабіна ў Княстве Літоўскім будучага». Рукапіс гэты з Публічнай бібліятэкі ў Пецярбурзе (шыфр I.Q.46.) быў перададзены паводле ўмоў Рыжскага міру ў Польшчу і там, верагодна, загінуў.

Вось кароткае апісанне яго, зробленае мінскім канонікам, ксяндзом Антоніем Машынскім: «Ёсць гэта аповяд пра абрады жыдоўскія, напісаны чыстай пальшчызнай. У прадмове аўтар гаворыць пра сябе, што нарадзіўся ў Брэсце Літоўскім і, маючы 18 гадоў, стаў рабінам ў Слуцку, пасля шасці гадоў стаў найвышэйшым рабінам Літоўскім... нарэшце стаў хрысціянінам. Хросныя яго былі каралевіч Канстанцін (Сабескі) і Эльжбета Сіняўская. Тая праца Шарафіновіча (Серафіновіча?) мае шмат цікавых звестак, бадай ці не была надрукавана»[152].




*Тытульны аркуш зборніка з Пінскай Радзівілаўскай езуіцкай калегіі. Прыклад спалучэння друкаванай рамкі і рукапіснага загалоўка. Пінск, 1681 г.*

Празіліцкія мэты падкрэслівае ў загалоўку-анатацыі і ксёндз-езуіт Марцін Кужэнецкі з Нясвіжа, які выдаў (у 1769 г.) babyшаваную Біблію. Сярод іншых прычын выдання — «na poskromnienie porywczey do Pisma Swiętego bez wykładu ciekawośći heretyckiey, na ohydę y potłumienie przeciwnych teyze Biblii Swiętey błędów szerzącego się coraz w tym Państwie niewiernego żydowstwa, a oraz na oświecanie y przynęto Neofityw temy czasy przybywaiących...».

Ад 1760 г. пачаўся выпуск новага для ВКЛ віду выданняў — газет. Першымі былі «Літоўскі кур'ер» (Kurier Litewski, 1760—1763 гг.) і «Літаратурныя ведамасці» (Wiadomości literackie, 1760—1763 гг.), якія

[151] Мы карысталіся паасобнікам БАН. Цікава адзначыць паэтычны вобраз таямніцы дукарства на тытуле гэтай кнігі: «...za dozwolenie Zwierzchnosci Duchowney, ku pożytkowi dusz błądzących z cieniow Drukarskich na widok wystawuią».

[152] Аддзел рукапісаў РНБ, Польск. F.XVIII.23.




*Дрэварыт з вывай герба паноў Максімовічаў Ломскіх з Лушчына і панегірычны верш на герб. Адварот тытула кнігі «Духоўныя бяседы... Макарыя, пустэльніка Егіпецкага». Вільня, друкарня манастыра Св. Духа, 1627 г.*

выходзілі з друкарні універсітэта. У 1764 г. гэтыя дзве газеты аб'ядналіся ў адну, і яна праіснавала да пачатку падзелаў Рэчы Паспалітай, — «Віленскія газеты» (Gazety Wileńskie, 1764—1792 гг.). Акрамя мясцовых і замежных навін газеты друкавалі навукова-папулярныя артыкулы, аўтары якіх былі выкладчыкамі універсітэта. Так, у 1761 г. у «Літаратурных ведамасцях» (№ 1—4) змешчаны артыкул, які выкладаў (як гіпотэзу) геліяцэнтрычную сістэму Мікалая Каперніка. Другі артыкул знаёміў чытача з тэлескопам, мікраскопам, барометрам (1760 г., № 33). Друкавалі таксама артыкулы па медыцыне і гігіене, па батаніцы і сельскай гаспадарцы, пра садаводства, выхаванне моладзі і навучанне замежным мовам. Астраном Марцін Пачобут пачынаючы з 1764 г. друкаваў свае вынікі назіранняў за нябеснымі целамі ў абсерваторыі. Друкаваліся і метэаралагічныя зводкі. У 1776—1783 гг. свая газета выходзіла ў Гродне[153].

**Мастацкая аздоба кніг.** Другая палова XVII ст. стала канцом эпохі «сармацкага барока», калі ў мастацкай аздобе большасці друкаваных кніг панаваў груваcткі, шматфігурны сімвалізм, пры гэтым тэхнічна дасканалы. Як прыклад можна назваць франтыспіс кнігі «Area Triplex...» (Вільня, акадэмічная друкарня, 1674 г.) працы віленскага гравёра Л. Кшчановіча. Складаная кампазіцыя панегірыка плоцкаму епіскапу Мадалінскаму перанасычана сімваламі, назва кнігі губляецца.

Аднак ужо ў канцы XVII ст., пад уплывам французскіх выданняў, у аздобе друкаванай прадукцыі ВКЛ з'яўляюцца рысы класіцызму. Эпоха Асветніцтва, пачатак якой звязваецца з дзейнасцю выдаўцоў французскай энцыклапедыі, хутка дасягнула межаў ВКЛ. Асветніцтва прынесла павышаную ўвагу да тэхнікі, мастацтваў.

Галоўным відам аздобы друкаванай кнігі заставалася гравюра. Дасягнуўшы высокай тэхнічнай і эстэтычнай дасканаласці, яна заставалася ў XVIII ст. найважнейшым сродкам візуальнай камунікацыі, спрыяла распаўсюджванню навуковых ідэй і ўзораў моды, геакультурных звестак (віды гарадоў, будынкаў, паркаў). Узмацнілася яе пасрэдніцкая роля паміж аўтарам кнігі і чытачом. Кнігу яна магла зрабіць, у адпаведнасці з патрабаваннямі эпохі, не толькі карыснай, але і прыемнай. Кнігі мелі шмат гравіраваных ілюстрацый, асабліва ў модных тэхніках «пад аловак» альбо «пункцір», і таму раскупляліся нават малацікавыя творы. У эпоху Асветніцтва дамінавала камунікатыўная, а не ўласна эстэтычная сутнасць гравюры (што, аднак, не замінала высока ацэньваць яе эстэтычныя якасці). Партрэты, тыражаваныя ў гравюрах, задавальнялі не толькі жаданне мець выяву таго ці іншага чалавека, але і павялічвалі ўласцівую Асветніцтву ўвагу да асобы, у тым ліку гістарычнай[154]. Тыражава-

[153] *Мальдзіс А. І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палова XVII—XVIII ст.). Мн., 1980. С. 243—244.
[154] *Свирида И. И.* Между Петербургом, Варшавой и Вильно. С. 86.



*«Трифологион или Цветослов избранные службы со всенощными на Господскiа праздники, богородичны, святых нарочитых. В Богоспасаемым граде Могилеве в друкарни Братства Богоявления Господа Бога и Спаса нашего Исуса Христа издадеся Рок: 1748 месяца февруара 27».*
*Разгорт неразрэзанага экзэмпляра РНБ на старонках 280 адв. — 281.*
*На с. 281 гравюра з выявай Дабравешчання.*

ная ў друкарнях гравюра прысутнічае і як аздоба рукапіснай кнігі (гравюры ўклейвалі ў рукапісы), кнігапісцы часта ўжывалі друкаваныя рамкі для выканання тытульных аркушаў. Найбольш распаўсюджаным сюжэтам у гравюры па-ранейшаму застаюцца гербы. Выява герба ўпрыгожвае старонку і разгорт, сведчыць пра асобу, якой кніга прысвечана, альбо пра аўтара, у ёй выяўляюцца розныя тэхнікі і стылі гравюры, накірункі моды.

Асаблівае месца ў кніжным мастацтве ВКЛ займае вобраз Багародзіцы. Трапяткія адносіны да Маці Божай уласцівыя і каталікам, і уніятам, і праваслаўным. Характэрнай для XVIII ст. з'явай сталі ўрачыстыя каранацыі цудатворных абразоў Багародзіцы: Троцкай (1718), Кодэньскай (1723), Жыровіцкай (1730), Віленскай бернардзінскай (1750) і Бялыніцкай (1761). Выдавалася шмат кніг, прысвечаных асабліва шаноўным у ВКЛ абразам. У Супраслі, напрыклад, быў надрукаваны пералік цудаў, якія адбыліся ў 1671—1712 гг. перад іконай Маці Божай Барунскай, чатыры выданні былі прысвечаны Маці Божай Жыровіцкай, некалькі асобных кніг — цудатворным абразам з Супрасля, Вільні і Ружанастока. Як патрабаваў звычай эпохі, загалоўкі кніг з'яўляліся анатацыямі, якія раскрывалі змест. З іншага боку, назва павінна была інтрыгаваць чытача, напрыклад: «Містычны фантом з абраза найсвяцейшай дзевы Марыі, што слынны ад 1684 году цудоўнымі ласкамі ў Віленскім Лукішскім касцёле св. апосталаў Філіпа і Якуба Літоўскай правінцыі ордэна казнадзеяў, струменіць, з пастырскай ласкі... Багуслава Корвіна Гасеўскага, біскупа смаленскага, северскага і чарнігаўскага, выдадзена з-пад друкарскага варштата» (Вільня, 1737). У XVIII ст. вельмі папулярны быў зборнік «Прыслугі каралеве неба і зямлі Марыі з жыццяў святых... сабраныя, на ўсе дні цэлага года раскладзеныя і адным са слугаў Марыі... да друку пададзеныя» — акадэмічная друкарня перавыдала яго тройчы (у 1746, 1767 і 1784 гг.). Вобраз заступніцы з'яўляецца на гравюрах і ў мініяцюрах, у кнігах агульнага зместу (напрыклад, сапегаўская «Svada latina») і ў спецыяльна прысвечаных Багародзіцы. Адным з першых такіх выданняў стала кніга айца-езуіта Іаана Дрэўса «Спосаб паломніцтва» («Methodus peregrinationi menstruae Marianae»), якая выйшла з друкарні Віленскай акадэміі ў 1684 г. Фармат быў аб-




*«Прыбайленне розуму» — віленская цудатворная ікона Багародзіцы з універсітэцкага касцёла св Яна. З кнігі «Methodus peregrinationis menstruae Marianae ad imagines Deiparae Virginis per ditiones regni Poloniae et M. Ducatus Lituaniae, miraculis celebriores pro publicis privatisque necessitatibus sine fatigatione, fructuose tamen, instituendae/ proposita a p. Ioanne Drews Societatis Iesu, anno M. DC. LXXXIV». Вільня, друкарня Акадэміі, 1684 г.*

раны вельмі маленькі — у 16-ю долю аркуша, кніжачка лёгка змяшчаецца на далоні. Тэкст малітваў і медытацый да Прачыстай Дзевы раскладзены па месяцах на ўвесь год. Працу благаславіў правінцыял Літоўскай правінцыі ордэна Іаан Берэнт, дазвол на друкаванне падпісаў ардынарны цэнзар кніг Віленскай дыяцэзіі доктар тэалогіі Пятрусь Кітноўскі. Задумай стваральніка кнігі былі малітоўныя падарожжы да славутых абразоў Багародзіцы ўсяе Рэчы Паспалітай — у каронную Польшчу (чатыры разы на год), у Літву (чатыры разы на год), Прусію (двойчы), Жамайцію (Самагіцію) і Чырвоную Русь — адзін раз на год. Адпаведна выканалі гравюры-ілюстрацыі, дзе месяцы прысвечаны наступным абразам Багародзіцы:

студзень — Чэнстахоўскай у Польшчы;

люты — Кракаўскай кармеліцкай у Польшчы;

сакавік — Баркавенскай у Малой Польшчы;

красавік — Студзянскай у Польшчы;

май — Віленскай з касцёла св. Міхала. Зараз гэты абраз знаходзіцца ў Віленскай кафедры, у капліцы Гаштольдаў. Цудатворным яго прызнала камісія, якую стварыў у 1699 г. віленскі епіскап Аляксандр Сапега. Дзякуючы клопату канцлера ВКЛ Яна Фрыдэрыка Сапегі папа Клемент XII выдаў у 1733 г. дазвол на каранацыю абраза, але з-за палітычных закалотаў яна была арганізавана толькі праз 17 гадоў. Залатыя кароны з Рыма, ад папы Бенядыкта XIV, на абраз усклаў віленскі біскуп Міхал Ян Зянковіч 8 верасня 1750 г. Працэсія з цудатворным абразам ішла па вуліцах Вільні, спыняючыся пад васьмю брамамі; пад час гэтых прыпынкаў разыгрываліся тэатральныя «дыялогі» — усё было арганізавана, як пры кананізацыі св. Казіміра паўтара стагоддзя таму. Каранацыйныя ўрачыстасці працягваліся цэлы тыдзень. У Ватыкане захоўваецца расфарбаваны дрэварыт з гэтага абраза, названы S. M. Rutena delle Clarisse[155];

чэрвень — Троцкай у Літве;

ліпень — Жыровіцкай у Літве. Загаловак кніжкі, што прысвечаны гэтаму абразу, акрамя ўсяго, паведамляе гісторыю выдання: «Гістарычная рэляцыя аб з'яўленні цудоўнага абраза найсвяцейшай дзевы Жыровіцкай, названай па-італьянску del Pascolo od Żyru ў Рыме пры Гарах у рэзідэнцыі вв. аа. базыльянаў рускага народа пад кірункам на той час вялебнага а. Бенядыкта Турлевіча, генеральнага пракуратара і рэктара таго ж ордэна. Таксама з прылучэннем жыровіцкай гісторыі канонікам Ісідорам Нардзі, па-італьянску выдадзенай у 1721 г. Па-польску перакладзена кс. Ігнацыем Кульчыцкім... с. тэалогіі доктарам... і да друку аддадзена ў Супраслі вв. аа. базыльянаў у 1728 г. А зараз паўторна перадрукавана. Вільня, 1738»;

жнівень — Наваградскай у Літве. У той жа год была выдадзена і асобная кніга Дрэўса аб гісторыі гэтай іконы і з медытацыямі да яе;

верасень — Ліндэнскай у Варміі, Прусія;

кастрычнік — Багародзіцы з Пратаў, Прусія;

лістапад — Шыдлавенскай у Жамайціі;

снежань — у тэксце надрукавана малітва да Хелмскай Багародзіцы ў Русі (Чырвонай), але гравюра была зроблена з абраза ў Сейнах, у гродзенскім дыстрыкце.

Абавязковым, а часта асноўным, матывам мастацкай аздобы кожнага з кодэксаў з'яўля-

[155] *Pasierb J. S., Janocha M.* Polonica artystyczne w zbiorach watykańskich. S. 194.


IN MAIO.
Visitatio B. Virginis VILNENSIS
in Litvania, ad S. Michaëlem.
Salutatio & veneratio ut sup. Deinde
ACTVS GAVDII.
ET meum necesse est exultare Spiritum in Deo salutari suo, quia fecit tibi magna qui potens est, ô unica post Deū nostræ lætitiæ Causa, Virgo Mater. Cûm enim Te amem amore planè filiali, non possum non gaudere, & quodam excessu gaudii superbire tali Dominâ pariter ac Matre, cuius potentia insuperabilis, bonitas inæstimabilis, dignitas ineffabilis. Lætor medullitus ob infinitatem quandam perfectionum & excellentiarū tuarū, ob summam cum ipso Deo sanguinis coniunctionem, ob gustum suauissimū quem habet Deus in tali Matre sua, ob gloriam maiestatis, qua superemines omnibus Angelorū choris Regina.
Non

*Віленская цудатворная ікона Багародзіцы з касцёла св Міхаіла. З кнігі «Methodus peregrinationis menstruae Marianae ad imagines Deiparae Virginis per ditiones regni Poloniae et M. Ducatus Lituaniae, miraculis celebriores pro publicis privatisque necessitatibus sine fatigatione, fructuose tamen, instituendae/ proposita a p. Ioanne Drews Societatis Iesu, anno M. DC. LXXXIV». Вільня, друкарня Акадэміі, 1684 г.*

ецца вобраз Багародзіцы. Вось толькі тры прыклады Ірмалояў другой паловы XVII ст.: у Актоіху-Ірмалоі з Грозаўскага манастыра (БАН СПБ, Колоб. 668) усяго 4 мініяцюры, з іх адна з выявай Багародзіцы (з мячом у сэрцы); у Ірмалоі з в. Шышава Горацкага павета з 10 мініяцюр 4 прысвечаныя непасрэдна Багародзіцы, а яшчэ на чатырох яна прысутнічае разам з іншымі асобамі (Раство Хрыстова, Укрыжаванне з прадстаячымі, Багародзіца і Хрыстос, Багародзіца, св. Антоній і св. Хведар); у Смаленскім Ірмалоі канца XVII ст. (БАН СПБ Эрм. 5) 24 мініяцюры, з іх 13 сюжэтна звязаныя з багародзічным цыклам:

арк. 3: застаўка — Марыя, Ісус і Іаан Прадцеча;

арк. 26 адв.: застаўка — Раство Хрыстова;

арк. 48 адв.: мініяцюра — св. Тройца і Багародзіца;

арк. 49: застаўка — Багародзіца;

арк. 73: застаўка — Раство Багародзіцы;

арк. 91: застаўка — Багародзіца з двума анёламі;

арк. 133 адв.: мініяцюра — Багародзіца;

арк. 156 адв.: мініяцюра — Багародзіца;

арк. 157: застаўка — Сашэсце Св. Духа, царкву сімвалізуе выява Багародзіцы;

арк. 169 адв.: мініяцюра — св. Тройца і Багародзіца;

арк. 170: застаўка — Успенне Багародзіцы;

арк. 202: застаўка — Уцёкі ў Егіпет;

арк. 225: застаўка — Зняцце з крыжа і палажэнне ў труну[156].

Вобраз Маці Божай прысутнічае і ў новых кнігах — выданнях на простай мове мясцовага люду. Гэта мы змаглі яшчэ раз пацвердзіць, працуючы з кнігазборам Аддзела рэдкай кнігі бібліятэкі Расійскай Акадэміі навук у Санкт-Пецярбурзе.

**Кнігі-зборнікі.** Не заўсёды проста адказаць на пытанне: калі і хто стварыў канвалют — гэ-

[156] *Ясиновський Ю. П.* Українські та білоруські нотолінійні Ірмолої 16—18 століть. № 138, 139, 296.


30

Colitur Trocis antiquissima religione celebris.

31

IN IUNIO.
Visitatio B. V. TROCENSIS
in Litvania.
Salutatio & veneratio ut sup. Deinde
ACTVS LAVDIS.

Qvam volo æternam mihi esse occupationem, ut scilicet totis viribus Te laudem & glorificem, ô dignissima Dei Mater, eam ut hac ipsa hora omnibus potentiarum mearum impensis inchoem, imperat Maiestas tua & debitum meum. Benedictus Deus cæli & terræ, in cuius conspectu gratiam invenisti, & de plenitudine perfectionum eius, cæteris omnibus creaturis, etiam simul sumptis, abundantiùs accepisti. Benedicta tu quoq; in cælo & in terra, ô gloriosissima Imperatrix; in cuius benedicta Anima plenius & perfectius resplendet viva Dei Creatoris imago, quàm in toto reliquo

*Троцкая цудатворная ікона Багародзіцы. З кнігі «Methodus peregrinationis menstruae Marianae proposita a p. Ioanne Drews Societatis Iesu, anno M. DC. LXXXIV». Вільня, друкарня Акадэміі, 1684 г.*

ты маленькі кнігазбор пад адной вокладкай? Лягчэй растлумачыць, чаму: канвалют — гэта зручная форма захавання кніжак (часцей за ўсё тонкіх, якім уласціва губляцца), гэта злучэнне тэматычна блізкіх (альбо любімых, патрэбных) кніг для лепшага карыстання, гэта, урэшце, эканомія на цвёрдым пераплёце. Калі сплецены выданні адной друкарні, часам з агульным тытульным аркушам, мы гаворым аб «выдавецкім», альбо «друкарскім», канвалюце, калі пад адным пераплётам сабраныя кнігі розных выдавецтваў, гаворка, напэўна, ідзе пра ўладальніцкі канвалют. Канвалюты ў гісторыі кніжнасці ВКЛ пачынаюцца ад пачатку кнігадрукавання. «Біблію» Францыска Скарыны мы можам лічыць нават па задуме друкарскім канвалютам (хоць кожная частка мае асаблівасці індывідуальнага выдання, прынамсі асобную пагінацыю, што дало падставу Г. Галенчанку апісваць іх як асобныя выданні).

Творчы падыход кніжніка пры складанні канвалюта дае шмат інфармацыі і заўсёды багата загадак: чаму менавіта такія, а не іншыя кніжкі склалі канвалют; якія былі задумы гаспадара; які быў лёс асобных частак, пакуль яны не сабраліся пад адной вокладкай; які быў лёс наваствbooранага зборніка і г. д. Дзеля прыкладу мы прааналізуем два канвалюты XVIII ст.

Адзін з іх захоўваецца ў Аддзеле рэдкай кнігі БАН Расіі ў Санкт-Пецярбурзе. На тытульным аркушы першага алігата ёсць запіс пяром, почыркам XIX ст.: «Ректора Семинаріи Архимандрита Павла Д-ва». Гэта ўладальніцкі запіс рэктара Літоўскай духоўнай семінарыі (яна размяшчалася ў Жыровіцкім манастыры, а потым была пераведзена ў Вільню) Паўла Дабрахотава, апантанага калекцыянера. Ён вядомы тым, што вывез з Жыровіцаў значную частку манастырскага архіва і безліч рарытэтаў з манастырскай бібліятэкі. Аднак гэты канвалют не быў уласнасцю Жыровіцкага манастыра — на ім няма ні старых бібліятэчных шыфраў, ні паліставой скрэпы Жыровіцкай бібліятэкі.


Colitur Żyrowicij apud PP. Basilianos Romanæ Ecclesiæ unitos.

IN IULIO
Visitatio Beatissimæ Virginis
ZYROWICIENSIS
in Litvania.
Salutatio & veneratio ut sup. Deinde
ACTUS PETITIONIS.

AD sacros pedes tuos supplex provolvor miserorum egentissimus, ô munificentissima misericordiæ Mater. Vbi enim promptius aut uberius reperirem necessitatibus meis subsidium, quam apud illam, quæ apud Omnipotentem omnia potest? Caput autem supplicationis meæ illud est, ut nihil mihi impetres, quod non pertineat ad majorem Dei gloriam, honorem tuũ, & salutem meam. Quidquid his adversum est, gratiosè negare digneris, quantumcunq; gemitibus, clamoribus & mei ipsius afflictationibus institero.

b 2 Fiat

*Жыровіцкая цудатворная ікона Багародзіцы. З кнігі «Methodus peregrinationis menstruae Marianae proposita a p. Ioanne Drews Societatis Iesu, anno M. DC. LXXXIV». Вільня, друкарня Акадэміі, 1684 г.*

Пасля смерці Дабрахотава яго зборы перайшлі ў БАН. Відаць, ад таго, што першы алігат канвалюта быў на лацінскай мове, кнігу накіравалі не ў славянскі, а ў замежны фонд бібліятэкі. Гэтая акалічнасць пазбавіла яго ўвагі славістаў, хоць большая частка зборніка — 6 выданняў — на славянскіх мовах.

Фармат кнігі — актаво (8°) адпавядае фармату іншых частак-алігатаў. Пераплёт кардонны з карычневай скураной спінкай. На форзацы алоўкам напісаны стары шыфр замежнага фонду БАН II и/3125 (перакрэслены сінім алоўкам) і сучасны шыфр Аддзела рэдкай кнігі БАН: 11657.о./18830.R.-18837.R., на адгорце форзаца алоўкам сучасны запіс: «Конволют 6 аллигат». На тытульных аркушах шасці алігатаў прастаўлены алоўкам лічбы ад 1 да 6 пры наступных кнігах:

1. Hymnus Acathistus in Sanctissimam Dei Genitricem Mariam, In Greca Ecclesia Celeberrimus, Ex interpretatione Illustrissimi ac Reverendissimi Domini D. Josepho Schiro. Ex Ordine S. Basilii Magni. Rchiepiscopi Dyrrachini et Olim Vicarii Apostolici Provinciae Cimarae in Epiro, Romae Anno 1744. Una cum sacro Indulgentiarumthesauro Vulgatus, Nunc autem in gratiam Sodalitatis Marianae Scolarum Zyrovicensium. Ad exemplar Romanum accurate recusus. Superiorum Permissu. Vilnae, typis S. R. M. Monachorum Baslilianorum, Anno 1763.

2. Nauka dobrey śmierci abo nabozenstwo do umierającego na krzyżu Jezusa Pana... Wilna, 1757. S.J.

3. Laudetur Jesus Christus a grzesznik przymuszony albo raczey naklonony zbawienna Jesusa radą do poboznego życia. Warszawa, XX. Schol. Piar., 1751.

4. Przymierze abo pactum wzajemnie S. Stanislawa Kostki... Wilnae, Druk. S.J. R., 1758.

5. Pomoc grzesznikom upadającym do powstania, pokutującym do trwania w dobrym; albo nabożenstwo do S. Maryi Egipcianki y innych SS. Patronów pokutujących przez pewnego

kaplana i teologa Zakonu S. Bazylego Wielkiego Zlożone y do druku za pozwoleniem Zwierzchności duchowney Podane. Roku Pańskiego 1763. W Wilnie, w drukarni J.K.M. u XX. Bazylianów. (На арк. 2 адв. гэтага алігата — гравюра з выявай прычашчэння Марыі Егіпецкай, надпісы: «S. Maria Egytiaca. J. Filipowicz sc. exe».)

6. Niewiasta niebieska dwoma skrzydlami miłości Boskiey y Bliżnego ozdobiona w niezliczonych łaskach swoich na mieyscu od Boga naznaczonym po pustyni Borunskiey ulatuiąca to iest officium albo godzinki o nayswiętszey Maryi Panne w cudownym obrazie swoim w Powiecie Oszemianskim w Miescie Borunach u WW.OO. Bazylianów Litewskich niezliczonemi laskami iaśnieiącey. Przez iednego y poprzysiężonego tey Pani niewolnika zložone roku 1766. W Lwowie w drukarni bractwa SSS. Troicy. Гэтае выданне апісана львоўскімі бібліёграфамі па двух прагледжаных de visu паасобніках[157].

Аднак пасля львоўскай кніжачкі пра Барунскі абраз ідуць яшчэ 8 друкаваных аркушаў, якія і па якасці паперы, і па шрыфтах, і па памерах паласы набору адрозніваюцца ад папярэдняга выдання. Мяркуючы па ўсім, гэта асобнае выданне: фармат актаво (8°), складаецца з 8 аркушаў: A1, A2. Тытульны аркуш адсутнічае. У верхняй частцы першай старонкі наборны арнамент — крыжык, аточаны чатырма акантавымі лісткамі. Першае слова тэксту набранае большым кеглем і асобным радком, гэтым самым вылучана як загаловак: «SPOSOB Howorenija Pátiera z Ludmi próstymi; iazykom szczyrym ruskim wyłozony; dla rozumenija usich Ludey, nerozumiejuszczych słowenskoho iazyka». Далей надрукаваны: «Intencyja abo Pryczyna Patiera» (арк. 1), «Molitwa Hospodniaja» і «Bohorodycy Diewie» (арк. 1 адв.), «Sobranije Apostolskoje» і «Desiatero Bozoje Prykazanile» (арк. 2), «Molitwa szczodennaja. Zadanija laski, oborony y pomoczy ot Boga y ot swiaty'ch.», «Ofierowanije Patiera» (арк. 5), «Informacya» (арк. 6 адв.), «Molitwa swiatoho Otca Ihnatija, fundatora y ustanowitela Zakonu Sobranija Isusowoho; kotoruju howoruczym, Jan dwadcaty druhi Papa Ry'mski, nadau y pozwoliu trysta let proszczy y O'dpustu.» (арк. 7 адв.). На адгорце апошняга, восьмага аркуша (ён часткова заліты чарнілами) — заканчэнне тэксту, лацінская фраза «Soli Deo Honor et Gloria» і канцоўка наборнага арнаменту — трохкутнік вострым канцом уніз. Асаблівую ўвагу звяртае «Інфармацыя пра належнае вымаўленне рускіх слоў для палякаў, якія добра не ведаюць рускай мовы» на адгорце пятай старонкі — гэта адзіны кавалачак, напісаны па-польску.

Знойдзенае выданне сведчыць, што ў сярэдзіне XVIII ст. не проста рабіліся запісы на беларускай мове лацінскім алфавітам, але ішла свядомая філалагічная праца па адаптацыі лацінскага алфавіта з мэтай яго найлепшага фанетычнага дапасавання да асаблівасцей вымаўлення. Прывядзём гэты невялічкі раздзел цалкам:

«Informacya o wymawianiu należytym słow Ruskich, dla Polakow nie umieiących dobrze Ruskiego ięzyka.

1mo. Nad Literami Vokalnemi: ū, é, î, ó, ú, y' polozone kreski, są to znaki tonowe słow. Przeto ta syllaba, w ktorey iest vocalis z kreską ma się wymawią z preciągiem głos w gurę podnosząc. Tak vg. w tych słowach: Hóspody, wy'słuchay, syllaby pierwsze: Hó, wy' tak się maią wyrażaią, iako Do, ad, w tych słowach łacińskich: Dómine, ádjuva. A vg. spasenny, sehódnia &c. wymawiaią się iak: Profánus, volúntas, &c. W takich zas słowach: vg. Hlid'i, zywotóm, &c. ton iest w ostatniey syllabie: d'i, tóm, iak w słowach Niemieckich: Verstand, Dignitet &c.

2do. Dwie vocales spolne, składaią iednę syllabę: gdy druga ma akcent taki: î, iako vg. to słowko: Kotoryî ma trzy syllaby, nie cztyry. Pátier, ma dwie syllaby. Tieło takze dwie.

3tio. Litery Consonantes, naznaczone akcentem vg. d', t', niemowia się: De, Te, ale mollier miekko wymawiaią się: Die, Tie, w iedney syllabie. vg. Bud', Hled'i, Pryczast' &c.

4to. Inne zaś wszystkie litery y syllaby, tak się wyrażaią, iako w Polskim ięzyku».

Цяпер, карыстаючыся інструкцыяй выдаўцоў, мы можам прачытаць тэксты больш набліжана да таго, як іх чулі ў XVIII ст. Вось як пачыналася Песня да Прасвятой Багародзіцы:

[157] *Запаско Я. П., Ісаевіч Я. Д.* Пам'яткі книжкового мистецтва. Каталог стародруків, виданих на Україні. Кн. 2, ч. 2. № 2440. — Само выданне зроблена, магчыма, з рукапіснай in-4 кнігі, што знаходзілася ў Барунскім (каля Крэва) манастыры і змяшчала апісанне цудаў Барунскага абраза Багародзіцы, якія адбыліся з 1708 да 1735 г. (*Недельский С. П.* Униатский митрополит Лев Кишка и его значение в истории унии // ЛитЕВ. 1894. № 38. С. 338).




*Наваградская цудатворная ікона Багародзіцы (з гербам Лебедзь). Гербы на гравюры належаць Багуславу Уняхоўскаму (левы) і невядомай асобе, наваградскаму ваяводзе (правы). З кнігі «Methodus peregrinationis menstruae Marianae proposita a p. Ioanne Drews Societatis Iesu, anno M. DC. LXXXIV». Вільня, друкарня Акадэміі, 1684 г.*

Marja Mati łaskawaja,
Mati y miłoserdnaja,
Ty nás ot złóho boroni,
A wo czas smerti choroni.
Marja Dîewo nad Dîéwami,
Moli Bóha ty' za nami;
Proszczu hrehóŭ nam uprosi,
Syna twohó pereprosi.

У канвалюце ёсць яшчэ адна частка, якая засталася без апісання. Гэта ўплеценыя пасля першага алігата 12 аркушаў тэкстаў малітваў да Багародзіцы на лацінскай мове. Папера і шрыфты гэтага бястытульнага выдання не падобныя да папярэдняга, але вельмі блізкія да паперы, шрыфтоў і асаблівасцей набору «Sposobu». У канцы гэтага канвалюта ёсць рукапісная прыпіска «Reimprimatur Karolus Karp, Cap. Cat. et Offic. Surrog. Vilnen. mpp.». Надпіс зроблены пяром, карычневым чарнілам, рукой, спрактыкаванай да пісання, але не вельмі цвёрдай — хутчэй за ўсё чалавека ў гадах.

Імя Караля Карпа сустракаецца яшчэ ў дзвюх кнігах гэтага канвалюта: ён «imprimatur» — засведчыў (як адзін са старэйшых базыльянскага ордэна — віленскі канонік) выданне «Акафістаў» (Vilnae, typis S. R. M. Monachorum Baslianorum, Anno 1763) і «Набажэнства да св. Марыі Егіпецкай» (Roku Pańskiego 1763. W Wilnie w drukarni J.K.M. u XX. Bazylianów).

Нарэшце мы павінны паспрабаваць адказаць на пытанне: калі і для каго складзены канвалют БАН? Датаваць яго можна часам не ранейшым, чым выданне пазнейшага з датаваных алігатаў — г. зн. 1766 г. Пераплёт зборніка — сціплы, з карычневага кардону, тыповы для другой паловы XVIII ст., зроблены не шмат пазней за 1766 г.

Наяўнасць запісу Караля Карпа са словам «Reimprimatur» — «перазасведчваю» дазваляе зрабіць выснову, што малітвы да Багародзіцы на лацінскай мове былі дадрукаваны як працяг таго базыльянскага выдання (першага ў канвалюце), якое Карп ужо «засвед-

чыў». Паколькі дадрукоўка малітваў да Марыі зроблена ў іншы час і, па ўсёй верагоднасці, у іншай друкарні, можна дапусціць, што гэта была ініцыятыва альбо самога Караля Карпа, альбо некага, каго ён падтрымаў, уласнаручна перазаверыўшы дадрукоўку для (свайго) канвалюта. Выдавецкае падабенства дадрукаваных марыйных малітваў і «sposobu» дазваляе меркаваць, што яны зробленыя ў адной друкарні, а можа, і адным ініцыятарам.

На тое, што «sposob» выдадзены хутчэй за ўсё езуітам, паказвае малітва да заснавальніка ордэна Ігнацыя Лаёлы. Характэрна, што складальнік канвалюта прыплёў гэтае выданне пасля кніжкі пра Барунскі цудатворны абраз Багародзіцы, дзе пісалі «рускай» мовай — дыялектам, вельмі падобным да гаворак сучаснай Беласточчыны. Тое, што езуіты былі цесна звязаны з уніятамі і, прынамсі, з ордэнам базыльянаў, не выклікае здзіўлення. Ад самага пачатку базыльянскага ордэна, у які злучыліся праваслаўныя манахі, што прынялі унію, ішла гаворка пра тое, каб даць ім патрона з якога-небудзь лацінскага ордэна. Спачатку ў Рыме меркавалі прызначыць на гэтую ролю айцоў кармелітаў босых з Кракава, але потым спыніліся на «Таварыстве Ісусавым» — езуітах. Другая кангрэгацыя базыльянаў, якая адбылася ў Лаўрышаўскім манастыры ў 1621 г., абвясціла: «Wiadomo niech będzie wszystkim braci naszym, że dla lepszego y skutecznieyszego postępku w rzeczach naszych obieramy w towarzystwo y pomoc zakon swięty oycow Jezuitów...»[158]

Кнігі, у якіх адлюстраваны статус беларускай (новай?) мовы, з'яўляліся і ва ўсходняй частцы ВКЛ, у асяроддзі старавераў, якія эмігрыравалі з Расіі; яны адчувалі і бачылі адрозненне мясцовай культуры ад рускай і нават працавалі над адаптацыяй гэтай культуры для рускіх, прынамсі над перакладам. Захаваўся рукапісны зборнік з Каменскага Успенскага манастыра, у які перапісчык Мікіта ўключыў «Звезду пресветлую» «С белороссийского языка переведены елико возможно...»[159]. Значным цэнтрам вытворчасці рукапісных кніг для стараверaў стаў Пакроўскі манастыр у Ветцы. Адзін з заснавальнікаў веткаўскай кнігапіснай школы — Феадосій (Варыпін) — працаваў тут да 1711 г. Захаваліся імёны іншых веткаўскіх перапісчыкаў — Іван Ермалаеў Сініцын, манах Феданорт, Фядул Іваноў, Карп Ларывонавіч Назараў[160].

Працягваецца вытворчасць кніг, якія перапісваюць прыватныя асобы «надомна». Гэта звязана як з большай даступнасцю матэрыялаў для пісьма (з'яўленне і распаўсюджанне паперы), так і з наступнай сітуацыяй: можна было параўнальна лёгка знайсці арыгінал для капіравання, павялічылася колькасць кніг, звязаных з індывідуальнай літаратурнай творчай працай (напісанне літаратурных твораў, пераклады). Такое кнігапісанне існавала да ліквідацыі ВКЛ і было (у XVII—XVIII стст.) асноўным відам вытворчасці рукапіснай кнігі. Прыкладам можа служыць вытворчасць рукапісных кніг пры пратэстанцкім зборы ў Асташыне Навагрудскага павета — да сёння іх захавалася дзве: «Xiędza Karolla Wanowskiego, kaznodziei Słuckiego, jakie się po smierci tego sługi bozego naydowali, rozmiarkowane na Rok cały, a podzielone na dwa Tomy, przepisane się ku chwale Bozey przez S.O... 1780 w Ostaszynie. T.I» (БАНЛ, Ф.40-1074); «Traktat objaśnienia proroctw... Tomasza Neftona... z angelskiego na niemecki, z nemekiego na polski wyłożony w roku 1773, a przepisane ku wiadomości wiernym Pańskim przez S.O. roku 1784 w Ostaszynie» (БАНЛ, Ф.40-975).

Абедзве кнігі маюць выдатны скураны пераплёт з цісненым арнаментам, а першы том казанняў Карла Ваноўскага — яшчэ і кардонны, абцягнуты скурай футарал з цісненым бардзюрам па краі.

Пераход у XVIII ст. да Асветніцтва адбіўся найперш на ідэалогіі. Асаблівасці гэтага пераходу (што азначала перабудову ўсёй чалавечай свядомасці) выразна выявіліся ў рэлігіі. На працягу больш чым тысячагоддзя царкоўна-хрысціянскае вучэнне было мерай сапраўднага і памылковага, правільнага і няправільнага; з заняпадам Сярэднявечча на першы план выходзіць чыста свецкая сістэма каштоўнасцей. Узнікае новая, варожая хрысціянскаму Адкрыццю альбо, ва ўсялякім выпадку, абыякавая да яго арыентацыя, і цяпер яна вызначае развіццё культуры.

Хрысціянская вера ўсё больш адступае на абарончыя пазіцыі. Цэлы шэраг дагматаў аказваецца раптам у канфлікце з сапраўднымі альбо верагоднымі вынікамі філасофіі і навукі — дастаткова назваць стварэнне свету

[158] АСД. Т. 12. С. 18.

ці тое, што Бог кіруе светам. Раней Адкрыццё і вера складалі аснову чалавечага быцця; цяпер яны павінны даказваць свае прэтэнзіі на праўдзівасць. Нават там, дзе вера засталася, яна губляе сваю спакойную несумненнасць. Яна знаходзіцца ў пастаянным напружанні, падкрэслівае і акцэнтуе сябе. Яна ўжо не ў паслухмяным ёй свеце, але ў чужым і нават варожым[161].

У XVIII ст. значна зменшылася колькасць друкарняў, якія друкавалі кірылічныя кнігі. Прычыны гэтага можна шукаць у абмежаванасці рэпертуару, а таксама ў паланізацыі, якую частка сенатараў праводзіла ўжо як свядомую дзяржаўную палітыку. Віленская і Супрасльская базыльянскія друкарні, якія мелі і кірылічныя і лацінскія шрыфты, нелітургічныя кнігі выдавалі на польскай мове. Кірылічнае кнігадрукаванне спынілася б зусім, калі б не заказы багатых старавераў, што жылі як у межах ВКЛ, так і ў Расійскай імперыі.

З часам, пры пераходзе ад Сярэднявечча да эпохі Асветніцтва, змянілася само паняцце народа. Пакуль «народ» складалі выключна нашчадкі шляхетных сарматаў, значыць, прадстаўнікі толькі шляхты, да таго часу людзей, што кіравалі дзяржавай, не вельмі хвалявала існаванне іншых этнічных груп. Паколькі народам пры канцы XVIII ст. маглі стаць мешчанін і селянін, «якія найвялікшую ў народзе складаюць люднасць» (як запісана ў Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 г.), то палітыкі сфармулявалі патрабаванні аб неабходнасці паланізацыі ўсіх слаёў грамадства.

Больш радыкальную паланізацыю прапанаваў Тадэвуш Касцюшка («Неабходна русінаў далучаць да польскай мовы, каб усё іх богаслужэнне было па-польску»), больш асцярожную — Гуга Калантай (прапаноўваў памяркоўную і асцярожную праграму прапаганды і пашырэння польскай культуры, а не непасрэдную рэлігійную і моўную паланізацыю). Абодва палітыкі мелі, пры ўсім гэтым, адну мэту — каб жыхар Рэчы Паспалітай за непрыяцеля лічыў таго, хто не ўмее гаварыць па-польску[162]. Той імпэт, з якім спольшчаная шляхта здзекавалася з русінаў, добра выявіўся ў вершы XVIII ст.:

| | |
|---|---|
| Mysz w pudle | Мыш у кубле |
| noga w szudle, | Нага ў шудле,* |
| Koza w sadzie, | Каза ў садзе, |
| Rusin w radzie. | Русін у радзе. |
| Cztery rzeczy, | Чатыры рэчы |
| nic do rzeczy. | Недарэчы. |

Нягледзячы на працэс паланізацыі літаратуры ў ВКЛ, у канцы XVII і ў XVIII ст. узнікалі літаратурныя творы на народных (прынамсі на беларускай) мовах. А. Мальдзіс паказаў на некаторыя, што ўваходзілі ў склад рукапісных зборнікаў: «Аршанскі кодэкс» з бібліятэкі Асалінскіх (12778, зборнік бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве (2337, рукапіс «Казане руске» з Радзівілаўскага архіва ў Варшаве і інш.[163]

Апошнім друкаваным старабеларускай мовай выданнем філолаг Аркадзь Жураўскі называе кнігу «Собраніе припадковъ краткое», якая выйшла з супрасльскай друкарні ў 1772 г. Кніга гэта трохмоўная: уступ на стараславянскай, галоўная частка па-беларуску, апошнія 30 старонак паралельны беларуска-польскі тэкст[164].

159 *Поздеева И. В.* Археографические работы МГУ в районе древней Ветки и Стародуба // ПКНО 1975. М., 1976. С. 59.

160 *Нячаева Г. Р. і інш.* Веткаўскі музей народнай творчасці. С. 108—110.

161 *Гвардини Р.* Конец нового времени. Средние века: ощущение бытия и картины мира // Вопросы философии. 1990. 4. С. 140.

162 *Tazbir J.* Procesy polonizacyjne w szlacheckiej Rzeczypospolitej // Tryumfy i porażki: Studia z dziejów kultury polskiej XVI—XVIII w. Warszawa, 1989. S. 35—36.

* Шудла — капкан, сілок.

163 *Мальдзіс А. І.* На скрыжаванні славянскіх традыцый.С. 34.

164 *Жураўскі А.* Апошняя старабеларуская друкаваная кніга // Gwary i onomastyka pogranicza polsko-wschodniosłowiańskiego i słowiańsko-baltyckiego: Tom prac ofiarowany Prof. Michałowi Kondratiukowi z okazji 45-lecia pracy naukowej. Białystok, 2006. S. 391—402.

# СПРАВЫ ДРУКАРСКІЯ

У XVIII ст. славянскі свет працягваў карыстацца дасягненнямі кніжнай культуры ВКЛ папярэдніх эпох. На заказы стараевераў Гродзенская друкарня двойчы (у 1778 і 1788 гг.) перавыдала «Катэхізіс» Лаўрэнція Зізанія, у 1775 г. у Валахіі выйшла «Славянская граматыка» Мялета Сматрыцкага, гэтае ж выданне неаднаразова паўтаралася ў маскоўскіх друкарнях.

Сталіца ВКЛ перастала быць буйнейшым цэнтрам кірылічнага кнігадрукавання — на яе долю цяпер прыпадае толькі 11% выданняў. На першы план выйшаў супрасльскі Дабравешчанскі манастыр — 64%, а разам з блізка размешчаным Гроднам — 74% усёй кірылічнай прадукцыі ў Вялікім Княстве Літоўскім. У параўнанні з папярэднімі перыядамі цэнтр кірылічнага кнігадрукавання відавочна перасунуўся на захад. Гэтая тэндэнцыя звязана са зменай дзяржаўных і прыватных прыярытэтаў у кнігадрукаванні на землях Вялікага Княства Літоўскага.

Тыя друкарні, якія ўзніклі пасля «патопу», друкавалі толькі лацінкай (табл. 11).

**Друкарня Віленскай акадэміі і яе выданні.** У гэты перыяд дзейнічалі друкарні, якія існавалі даўно, прынамсі, працягвала працаваць самая старая і аўтарытэтная друкарня універсітэта (акадэмічная). Пачатак новага перыяду яе дзейнасці (1666—1737) можна звязаць з набыццём рэктарам Бжазоўскім новых шрыфтоў і новых варштатаў. У 1670 г. кароль і вялікі князь літоўскі Міхал Карыбут Вішнявецкі пацвердзіў прывілеі, дадзеныя Жыгімонтам III. Колькасць выданняў узрасла да 5—18 штогод. Каля 1690 г. было закончана будаўніцтва новага вялікага будынка на вуліцы св. Яна: друкарня займала ў ім сем пакояў на другім паверсе, а на першым размясцілася аптэка.

У рэпертуары выданняў яшчэ да разбуральнай Маскоўскай вайны з'явіліся і пазней неаднойчы перавыдаваліся творы таленавітага гісторыка і прапаведніка, прафесара акадэміі Войцэха Віюка Каяловіча: «Miscellanea rerum ad statum ecclesiasticum in Magno Lithuanife Ducati pertinentia» (1651), «De rebus anno 1648 et 1649 contra Zaporovios Cosacos gestis» (1651), а таксама гісторыя роду Радзівілаў «Fasti Radiviliani gesta illustrissimae domus ducum Radzivil compendio continentes» (1653), за якую незадаволеныя Радзівілы скіравалі на аўтара свой гнеў і пераследы. Усяго ж у XVIII ст. выйшла 20 прац В. В. Каяловіча, некаторыя з іх былі перавыдадзеныя двойчы і тройчы. На мяжы гісторыі і багаслоўя па змесце знаходзяцца падрыхтаваныя ў Наваградскай рэзідэнцыі ордэна іезуітаў апісанні гісторыі і цудаў абраза Багародзіцы, што знаходзіцца ў Наваградскім езуіцкім касцёле: «Nowa obrona... w obrazie Nowo-Cudownym... przy kosciele Nowogrodskim Societatia Jesu w Nowogrodku...» (1673), а таксама медытацыі Іаана Дрэўса ў сувязі з гэтым цудатворным абразам: «Effigies Mirakulosae Imaginis Deipare Virginis, quae apud Patres Societatis Jesu religiose colitur Novogrodeci, compendiosa narratione historica illustrata» (1684) з панегірычным прысвячэннем «Notario terrenstri Palatinatus Novo-

**Друкарні 2-й паловы XVII—XVIII стст.** *Табліца 11*

| Населены пункт | Друкар (уладальнік друкарні) | Час існавання, гады |
|---|---|---|
| Вільня | Францысканцы | 1671—1681 |
| Слуцк | Радзівілы | 1673—1688 |
| Гродна | Францысканцы | 1679 |
| Супрасль | Базыльяне | 1695—1803 |
| Пінск | Езуіты | 1729—1743 |
| Гродна | Каралеўская друкарня (Тызенгаўз) | 1735—1796 |
| Нясвіж | М. К. Радзівіл — Нясвіжскі калегіум | 1750—1791 |
| Вільна | Піяры | 1754—1816 |
| Магілёў | Магілёўская кансісторыя | 1774—1844 |
| Слонім | Агінскія | 1777—1782 |
| Азёры | Барух Ром | 1789 |




*Тытульны аркуш кнігі «Area Triplex...» — «Тайная пашня, якую заараў спадчыннымі нарогамі плоцкі епіскап Банавентура Мадалінскі [з дапамогай] Марса, Паллады і Дабрачыннасці». Сімвалічная фігура Дабрачыннасці — у цэнтры кампазіцыі. Яна трымае епіскапскую мітру і нарогі — галоўны знак родавага гербу Мадалінскіх. Злева — сімвал мудрасці Афіна Паллада з кнігай у руцэ. Справа — Марс, які сімвалізуе смеласць. Ён трымае ў правай руцэ кап'ё з вайсковым рыштункам. Гравёр Л. Крышчановіч. Вільня, акадэмічная друкарня, 1674 г.*

grodeci» Багуславу Уніхоўскаму[165]. Кожная з гэтых кніг мела дадатак — гравіраваную выяву цудатворнага абраза, але гравюры настолькі розныя, што ўзнікае сумненне — ці з аднаго абраза яны рабіліся?

Езуіты працягвалі падтрымліваць ордэн базыльян, выдаючы працы базыльянскіх манахаў (напрыклад, падрыхтаванае протаархімандрытам ордэна Іосіфам Пяткевічам «Жыціе св. Ануфрыя», складзенае «з розных паасобнікаў лацінскіх і аднаго даўняга славенскага...», 1686 г.), альбо творы, звязаныя з базыльянскім ордэнам, напрыклад слова на пахаванне мітрапаліта Гаўрыіла Календы (Каляды) рэктара Полацкай езуіцкай калегіі Казіміра Віюка Каяловіча (1674), «Казанні» Кіпрыяна Жахоўскага (1667, 1668, 1683), альбо «Казанне пра... Іясафата Кунцэвіча, якое гаварыў ксёндз з касцёла св. Яна Юры Боршч у царкве св. Тройцы, на ахвяру Іясафата Зыберкі, крайчага княства Інфлянцкага» (1717).

Для «ідэалагічнай работы» з праваслаўным насельніцтвам ВКЛ ужываліся спецыяльныя выданні, сярод якіх важнае месца займалі творы ксяндза Яна Алаіза Кулешы «Вера праваслаўная...» і «Аб пачатку схізмы»[166].

Даследванне захаваных паасобнікаў дазваляе рэканструяваць гісторыю выдання «Веры праваслаўнай...» наступным чынам: у 1704 г. былі выдадзены два варыянты кнігі. Першы, поўны, варыянт меў 1156 нумараваных старонак. У яго склад уваходзілі «Спавяданне веры» на польскай і на славянскай (лацінкай) мовах, і 27 (1—27) артыкулаў з доказамі, аргументамі і цверджаннямі аўтара. Пасля тытульнага у гэтым выданні ёсць адзін ненумараваны аркуш з Дазволам на выданне, падпісаным 26 лютага 1704 г. правінцыялам Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў Товіем Арэнтам, і Апрабацыяй, якую падпісаў 15 сакавіка таго ж 1704 г. віленскі епіскап Канстанцін Казімір Бжастоўскі. Аднак большую частку накладу ў 1704 г. выдалі ў скарочаным выглядзе: без «Спавядання веры» на славянскай мове ( адсутнічаюць с. 9—14) і прадмовы-малітвы аўтара да Багародзіцы (с. 15—16), а з 27 артыкулаў пакінуты толькі два: першы і другі. Аркуш з Дазволам і Апрабацыяй прыплецены ў канцы кнігі, якая мае ўжо не 1156, а ўсяго 342 нумараваныя старонкі. Паасобнікаў гэтага паменшанага выдання было надрукавана так шмат, што яны не разыходзіліся больш як сорак гадоў. Каб «паднавіць» кнігу, у 1747 г. быў надрукаваны новы тытульны аркуш і рэшта тыражу выдання 1704 г. разыходзілася (і трапіла ў бібліяграфію) як выданне 1747 г.

Цікава, што выданні Кулешы даходзілі і да расійскага чытача: паасобнікі скарочанага варыянта «Веры праваслаўнай...» былі, у прыватнасці, у кафедральной бібліятэцы цвярскіх епіскапаў і ў асабістым кнігазборы супрацоўніка Пятра І Феафілакта Лапацінскага (у наш час абедзве кнігі захоўваюцца ў БАН).

Вялікім выдавецкім прадпрыемствам акадэмічнай друкарні было друкаванне Статута Вялікага Княства Літоўскага. Перш чым выпусціць новае выданне Статута (не ўзнаўлялася з 1648 г., калі ён выйшаў у варшаўскага выдаўца Пятра Элерта), езуіты дамагліся асобнага прывілея караля Яна Сабескага на выданне гэтай кнігі (у 1691 г.), а таксама на выпуск соймавых Канстытуцый (пастаноў сойма). Статут разам з Канстытуцыямі, прынятымі соймам пасля 1648 г., і алфавітным паказальнікам да Канстытуцый, складзеным Станіславам Галонскім, быў выпушчаны ў 1693 г. і меў значную колькасць недакладнасцей і памылак друку.

[165] На гравюры Наваградскай Багародзіцы з кнігі Дрэўса паказаны два гербы — Багуслава Уніхоўскага і невядомай асобы герба Лебедзь (лацінскія літары пры гербе BDPN азначаюць, хутчэй за ўсё, першыя літары імя і прозвішча і далей «palatinus Novogrodensis» — наваградскі ваявода). Цікава, што якраз для гэтага часу спіс наваградскіх ваяводаў Вольфа (*Wolff J.* Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego 1386—1795. Kraków, 1885) мае лакуну.

[166] *Kulesza J. A.* Wiara prawosławna Pismem świętym, soborami, oycami s. s. mianowićie greckiemi y hystoryą kośćielną [...] obiaśniona. Wilno, 1704; Ён жа. O początkach schyzmy. Wilno, 1747. — У першай з іх надрукавана спавяданне веры на польскай і «рускай», г. зн. славянскай з моцна выяўленымі ўкраінізмамі мове (s. 9—14), лацінкай, старым гатычным шрыфтам. Яшчэ на час абароны дысертацыі (1997) аўтар лічыў гэта доказам таго, што друкарня не мела кірылічных шрыфтоў, хоць і адзначыў, што ў гэтай кнізе аўтар палемізуе з выдадзенымі ў 1635 г. Віленскім брацтвам пры царкве Св. Духа брашурамі, даючы цытаты з іх на старабеларускай мове лацінкай. Цяпер, пасля знаходкі выдадзенай езуітамі асобнай кнігі лацінскім алфавітам і «шчырай рускай мовай» («Sposob goworenija...»), адсутнасць кірылічных шрыфтоў нельга лічыць наўмысным адмежаваннем друкарні ад праблем народнай («рускай») мовы.

Аднак «вяртанне» выдання Статута з польскай Варшавы на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага было важным палітычным крокам. Акрамя таго, гэта ініцыятыва стала ўдарам па канкурэнтах езуітаў — ордэну піяраў, якія, адкупіўшы друкарню Элерта, атрымалі, такім чынам, яго правы на выпуск урадавых пастаноў.

У далейшым кожнае наступнае выданне Статута езуіты абаранялі спецыяльнымі прывілеямі манархаў, нягледзячы на тое, што ў 1701 г. ад новаабранага караля Аўгуста II атрымалі манапольны прывілей на яго выданне.

Для патрэб студэнтаў акадэміі друкарня працягвала выпуск навучальных кніг. Выйшлі, у прыватнасці, «Dictionarium Polono-Latino-Lotavikum...» (1683), які стаў першым друкаваным слоўнікам латышскай мовы, «Грэцкая граматыка» Мацея Карвацкага (1725), «Compendium rhetoricae» Саазара (1748). У першай палове XVIII ст. перавыдадзены ўсе асноўныя творы Пятра Скаргі: «Wzywanie do pokuty» (1715), «Kazania o siedmiu sakramentach» (1737), «Kazania przygodne» (1738) і «Żywoty swiętych» (1747—1748). Рэгулярна друкаваліся таксама працы прафесараў універсітэта. У адным з такіх выданняў, а менавіта на тытульным аркушы кнігі прафесара метафізікі Іаана Антонія Прэйсхофа універсітэт называецца «Jagellonico-Batoreana».

Праз намаганні езуіта Яна Пашакоўскага (рэктара Слуцкага, а потым Нясвіжскага калегіумаў) у выданнях Віленскай акадэмічнай друкарні з'явіўся новы від прадукцыі — календары на цэлы год.

Першым стаў «Kalendarz polityczny» на 1737 г. (выдадзены раней, у 1730 г., каляндар Яна Адама Кульмуса «Z pilnośćią wyrachowany nowy i stary, to iest rzymski y ruski kalendarz» не стаў перыядычным выданнем). Прызначаліся календары як для членаў ордэна, так і для свецкай публікі і змяшчалі разнастайную неабходную інфармацыю: каляндарныя, гістарычныя звесткі, спісы службовых асоб Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай і да т. п. Для патрэб акадэмічнага тэатра працягвалася выданне друкаваных праграм і тэкстаў п'ес. Нешматлікія захаваныя праграмы значна пашыраюць нашы гістарычныя веды, напрыклад пра тое, што езуіты ставілі спектакль (у 1732 г.) аб жыцці трох віленскіх праваслаўных пакутнікаў[167].




*Дзіцятка-Хрыстос, слухаючы якога, пішуць свае кнігі вучоныя дактары. Ілюстрацыя Аляксандра Тарасевіча да «Разарыума...». Глуск—Вільня, трэцяя чвэрць XVII ст.*

Аздобай новых выданняў у 1660-я — 1670-я гг. займаліся галоўным чынам залатары, што жылі і працавалі ў гэты перыяд у Вільні: Тамаш Шнопс, Лаўрэн Вілац, Захар Зеліхмахер, Іосіф Гафнэр. У іх гравюрах выявілася тэндэнцыя да перагружанасці сімваламі і гіпербалізацыі вобразаў. Так, Тамаш Шнопс на франтыспісе да кнігі Казіміра Нарушэвіча «Phoenix orbis Litvani... Casimirus Leo Sapieha» («Фенікс краіны Літваніі... Казімір Леў Сапега», 1666 г.) шматзначна вырашае пытанне сімвалічнага параўнання памерлага Сапегі з феніксам. На палаючым шары стаіць птушка, якая трымае стралу з дзвюма папярэчынамі — гербавы знак Сапегаў. Род не спыніўся са смерцю аднаго з членаў, ён абнаўляецца, ажывае, паўстае, як фенікс з попелу. Але аднаго гэтага вобраза здалося недастаткова, і Шнопс выгравіраваў на грудзях птушкі партрэт Казіміра Льва. Не толькі род, але і сам памерлы прыраўняны да фенікса. Выява змешчана ў рамцы з шкуры льва, што таксама з'яўляецца метафарай[168].

У 1672—1677 гг. у Глуску, у маёнтку маршалка ВКЛ Аляксандра Гіларыя Палубінскага (1626—1679), жыў і працаваў малады мастак Аляксандр Тарасевіч, які навучыўся гравёрнай справе ў нямецкім Аўсбургу, у майстэрні знакамітых гравёраў Кіліянаў.

[167] *Baronas D.* Trys vilniaus kankiniai: gyvenimas ir istorija. P. 186—188.
[168] *Степовик Д. В.* Леонтій Тарасевич і українське містецтво бароко. С. 56—57.




*Тытульны аркуш кнігі «Разарыум...». Унізе герб мецэната — маршалка Вялікага Княства Літоўскага, уладальніка Глуска Аляксандра Палубінскага. На левым баку тытула — шыфры бібліятэкі Жыровіцкага манастыра, куды гэта кніга трапіла з кнігазбору айца Іахіма Корбуса. Медзярыт Аляксандра Тарасевіча. Вільня, трэцяя чвэрць XVII ст.*

Ён падрыхтаваў два вялікія цыклы ілюстрацый-медзярытаў да малітоўніка «Сад ружаў» («Разарыум»): «Rosarium et officium Beatae Mariae Virginis». Тытульны аркуш да гэтай кнігі — першая падпісная і датаваная праца Тарасевіча (Alexander Tarasowicz sculpsit Anno 1672 w Hlusku). Падбор тэкстаў зрабіў сам Аляксандр Палубінскі, лацінская версія кнігі была прысвечана яго сынам — Дамініку і Крыштафу. Першы цыкл — 15 малых ілюстрацый на евангельскія сюжэты — авальныя гравюры ў прамакутных рамках (куты запоўненыя гратэскавым раслінным арнаментам, подпіс мастака — абрэвіятура АТ).

На вялікіх ілюстрацыях да гадзінак (пра імя Ісуса, пра анёла-ахоўніка), да малітвы за памерлых, да гутарак на чатыры Евангеллі (з выявамі евангелістаў) і іншых (зараз вядома 18 сюжэтаў) подпіс мастака пададзены на лацінскай мове больш поўна, але ў розных варыянтах: A. Tarasowicz sculpsit. (11 разоў) альбо Alex. Tarasewicz sc. (7 разоў) [Аляксандр (Тарасовіч альбо Тарасевіч) гравіраваў]. У пачатку адной з частак («Primum Mysterium») Аляксандр Тарасевіч змясціў мініяцюрную кампазіцыю «Дабравешчанне», акрамя гэтага, яшчэ тройчы паўтарыў гравюру з гэтым папулярным у Сярэднявеччы сюжэтам (мастацтвазнавец Аляксандр Ярашэвіч называе яго «Звеставанне»[169]). Акрамя лацінскамоўнай версіі «Разарыума» была падрыхтавана і польскамоўная з прысвячэннем дзвюм дочкам Палубінскага — Ганне Радзівілавай і Ізабэле-Алене Палубінскай. Сааўтарам гэтага выдання стаў канцлер ВКЛ Альбрэхт Станіслаў Радзівіл, твор якога «Жыцці святых» быў дададзены да «Разарыума» як другая частка кнігі (с. 316—680). Тарасевіч працаваў над цыклам ілюстрацый да «Разарыума» больш за 10 гадоў. Поўны камплект уключае 47 розных гравюр: два тытулы, 12 каляндарных («месяцы», гравюры гэтага цыкла не маюць подпісаў і, магчыма, выкананы іншым майстрам) і два евангелічныя цыклы — 15 малых ілюстрацый і 18 вялікіх. Аднак ні ў адным з захаваных экзэмпляраў поўны камплект ілюстрацый не сабраны. Наадварот, у многіх пакінута вольнае месца, на якое маглі пазней наклеіць гравюры іншых


według Lukaſza S. 305

A. Taraſowicz ſculpsit

PASSIA P.N.I:C.

według Łukáſza Swiętego.

Czaſu onego przybliżał ſię dźień świętý Przaśnikow, ktory zową Páſchá:á ſzukáli przednieyſzy kápłani y Doktorowie, iákoby P.Iezuſá zábili:ále ſię bali ludu.Y wſtąpił ſzátan w Iudaſzá ktore° zwano Iſzkáryotem, iednego ze dwunáśćie. Y odſzedł, y zmowił ſię z przednieyſzymi kápłany y z przełożonymi, iákoby go im wydał.Y urádowáli ſię: y poſtánowili dáć mu pieniądze. Y obiecał.Y ſzukał ſpoſobnego czáſu iákoby go im wydał bez rzeſzey. Y przyſzedł dźień Prza-

Eece ſnikow

*«Разарыум...». Медзярыт Аляксандра Тарасевіча з выявай евангеліста Лукі. Вільня, трэцяя чвэрць XVII ст.*

мастакоў, як гэта сталася ў паасобніку з нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў (БАН СПБ XXIX/г1107). Шмат якія ілюстрацыі Ружанца сталі так папулярныя, што іх выкарыстоўвалі пры напісанні абразоў альбо пры стварэнні аздобы рукапісных Ірмалояў.

У 1677 г. Аляксандр Тарасевіч прыехаў у Вільню[170]. Неўзабаве ён стаў галоўным мас-

[169] *Ярашэвіч А.* «І пачула голас...»: сюжэты Звеставання ў беларускім мастацтве // Наша вера. 2000. № 1. С. 46.

[170] Акадэмічная друкарня, дзе выходзіла гэтая кніга, выдавала паасобнікі з няпоўнай аздобай. Так, у польскамоўным паасобніку РНБ (шыфр 15.57.1.18; захаваліся першыя 312 старонак) ёсць 9 вялікіх і 9 малых гравюр, пакінута чыстае месца для 5 вялікіх і 5 малых гравюр-ілюстрацый (параўн.: *Рошчына Т. І.* Невядомыя асобнікі «Rosariuma» ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі // Здабыткі. Дакументальныя помнікі на Беларусі. [Вып. 1]. С. 30—35).




*«Разарыум...». Медзярыт Аляксандра Тарасевіча з сюжэтнай гравюрай «Анёл-ахоўнік». Вільня, трэцяя чвэрць XVII ст.*

таком-гравёрам акадэмічнай друкарні. Адначасова друкарня запрашала да працы таленавітых гравёраў Лявона Тарасевіча (яго лічаць братам Аляксандра) і ў 1680—1683 гг. Івана Шчырскага[171]. У 1690-я гг. з друкарняй актыўна супрацоўнічалі Л. Крышчановіч, Даніэль Пельцэльд, Марцін Шымкевіч. Арганізацыя працы мастакоў-гравёраў у друкарні вызначалася дакладным падзелам абавязкаў паміж працаўнікамі. Вучні выконвалі дапаможна-тэхнічную працу: былі пасыльнымі, дбалі пра чысціню матэрыялаў і працоўнага месца, рыхтавалі фарбы і інструменты. Патрэбныя для вырабу гравюр медныя дошкі рукамі вучняў паліраваліся да люстранога бляску, паверхня павінна была быць ідэальна роўнай. На наступным этапе яны вучыліся карыстацца інструментам, выконваць штрыхі рознай шырыні і глыбіні, рабіць на метале простыя, закругленыя і перакрыжаваныя лініі, пункціры, кропкі, штрыхавыя контуры, уласныя нескладаныя кампазіцыі. Падмайстры самастойна пераводзілі малюнак на медную дошку, цалкам выраблялі адносна простыя контурна-штрыхавыя малюнкі, вучыліся дапаўняць контурнасць тонам, прапрацоўвалі на дошках майстра менш важныя дэталі: рамы, картушы, маскароны, арнаменты і інш. Падпісваць свае працы падмайстры не мелі права.

Друкарня няўхільна нарошчвала выпуск кніг. Калі ў другой палове XVII ст. у найбольш спрыяльныя гады выдавалі 11 (1669, 1682) і 13 (1672) кніг у год, то ў першай трэці XVIII ст. выходзілі па 16 (1705, 1725) і нават 27(1737) кніг. Бывалі «неўраджайныя» гады, калі невядома ніводнага (1712) выдання альбо друкарня выдавала адну (1696) ці дзве (1678, 1679, 1698, 1710) кнігі ў год. Усяго ж ад 1666 да 1737 г. выйшлі 562 кнігі, яшчэ 325 лічацца магчымымі выданнямі акадэмічнай друкарні. Усяго — каля 887 назваў.

Пяты перыяд дзейнасці друкарні (1737—1773) пачаўся з перавыдання прац першага рэктара — Пятра Скаргі. Спачатку гэта быў вялізны фаліянт «Казанні пра сем сакрамэнтаў св. каталіцкага касцёла» (786 арк. памерам 20), на наступны год «Казанні пры нагодзе і іншыя працы» ў двух тамах, нарэшце, «Заклікі да цноты міласэрнасці» ў 1739 г. Тым часам друкарні ў 1738 г. надалі тытул каралеўскай, альбо «яго каралеўскай міласці» (J.K.M.). У 1766 г. яна атрымала пацвярджальны каралеўскі прывілей на кнігавыданне. Для агульнадзяржаўных патрэб было падрыхтавана новае выданне Статута ВКЛ (1744) і тры перавыданні «Садацкага наба-

[171] Віленскі гравёр Іван Шчырскі рабіў ілюстрацыі для выданняў езуіцкай (тытульны аркуш панегірыка на гадавіну смерці браслаўскага маршалка Яна Агінскага, 1680 г., і герб кіеўскага ваяводы Адама Кіселя да панегірыка уніяцкаму мітрапаліту Кіпрыяну Жахоўскаму, 1683 г.) і базыльянскай (абраз св. Іаана Златавуснага на фоне віленскага манастыра Св. Тройцы) друкарняў, а таксама эстампы: «Нясенне крыжа на Галгофу», «Блажэнны Міхаіл Гедройц з жыцієм», «Малітва святых Дамініка і Фамы да Багародзіцы» і інш.

жэнства...» (1748, 1754, 1759). Апошняя кніга была перакладам з французскай мовы, але дапоўненая дадаткам з выбраных навук і салдацкіх малітваў Пятра Скаргі.

Важнай падзеяй, якая істотна паўплывала на рэпертуар выданняў, стала пастанова 1741 г. пра абавязковае вывучэнне студэнтамі гісторыі. Наступным крокам, які паспрыяў кароткачасоваму перыяду росквіту выдавецкай дзейнасці, быў ліст правінцыяла Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў Станіслава Попеля ад 25 красавіка 1753 г. з рэкамендацыямі кіраўнікам ордэнскіх друкарняў не абмяжоўвацца публікацыямі падручнікаў, духоўнай літаратуры і панегірыкаў, а прыступіць да распаўсюджвання розных жыццёва важных твораў[172].

Пахавальна-панегірычная літаратура вырастае ў самастойны жанр. Акрамя тэкстаў панегірыкаў сюды дадаюцца навуковыя трактаты, як, напрыклад, ананімна надрукаваная ў 1766 г. кніга езуіта Юзэфа Бакі (1707—1780) «Развbooжанні пра смерць, непазбежную для ўсіх». Пазней Адам Міцкевіч пісаў у дзявятай кнізе «Пана Тадэвуша»:

«Бо Бака быў казаў, што смерць —
як той сабака:
Кусае маскаля, кусае і паляка...».

У рэпертуары выданняў акадэмічнай друкарні з'явіліся гістарычныя творы: «Гісторыя Лівоніі» Гільзена (1745), ужо памянёнага выдаўца календароў Яна Пашакоўскага «Summa historyi cezarzyw zachodnich, iako tez wschodnich y sultanów Ottomańskich...», і шматлікія творы прафесара Францыска Папроцкага: гісторыя Англіі (1758, 1778), Курляндыі (1759), гісторыя войнаў (1763) і Вялікага Княства Літоўскага [1760, 1763—1771, 1775 (Domowe wiadomosci o Wielkim Xięstwie Litewskim z przyłączeniem historyj tegoż narodu)]. Гістарычна-геральдычным выданнем, зробленым па замове даўніх апекуноў універсітэта, была кніга гербаў каронных і велікакняжацкіх сем'яў, звязаных сваяцтвам з Радзівіламі: «Majestas Augusta Serenissimi Poloniarum Regis Augusti III Vicaria in celsissimo illustrissimo ac exellentissimo principe Duce in Ołyka, Nieświż, Kleck, et S. R. I. Principe, in Szydłowiec, Mir, et Kroże Comite, Equite S. Huberti, Colonello gravioris Armaturae S. R. M. et reipublicae. D.D. Albrichto Radziwiłł... Supremo Mareschalco,... Anno quo celssimae ducalis Redivillianae Domus [1750]. — Vilnae, typis Academ. S. R. M. Societ. Jesu, [1750]». — (Год зашыфраваны ў хранаграме.)



FELIX AUSPICIUM
Publicæ Felicitatis
Ex Auſpicatiſſimo in Palatinatum Ingreſsu
CELSISSIMI S. R. J. PRINCIPIS
DUCIS in Ołyka, Słuck, Nieśwież, Birże, Dubinki, Kopyl, &c. &c.
COMITIS in Mir, Kroże, Szydłowiec, Koydanow, Kopyś, Kieydany, Biała &c. &c.
Domini in Newel, Siebież &c.
D. CAROLI
RADZIWIŁŁ
PALATINI VILNENSIS
EQUITIS AQUILÆ ALBÆ
Urbi & Orbi Palæmonico
Publicâ Gratulatione
PRÆMONSTRATUM
A Devinctiſsima ſuo Nomini & Honori minima
Societate JESU Provinciæ Litvanæ.
VILNÆ
Typis S. R. M. Academ: Societ: JESU
Anno Domini 1763.

Кніга-панегірык Літоўскай правінцыі ордэна езуітаў новаму віленскаму ваяводзе Каралю Радзівілу з пералічэннем усіх яго тытулаў. Вільня, 1763 г.

Для выкарыстання ў школах ніжэйшай ступені быў падрыхтаваны падручнік «Geografia y historia Litewska krutko zebrana, na częsci podzeliona z pysaniami dla uczących sie wielu pozytecznemi, stosowana do przepisanych prelekcyi szkolnych» (1763). Друкарня выпусціла таксама кнігі па гісто-

[172] *Bednarski S.* Dwieście lat Wileńskiej Akademii Jezuickiej 1570—1773: Proba syntezy // Pamiętnik VI powszechnego zjazdu historyków polskich w Wilnie 17—20 września 1935 r. T. 1. Lwów, 1935. S. 289—294.

*Панегірык бернардзінца, лектара ў нясвіжскім калегіуме Даната Шышкі «Вясна неабходных у небе радасцяў...». Герб паноў Слізняў трымаюць два ўзброеныя дзідамі ваяры ў рыцарскіх даспехах: распаўсюджаны ў 16—18 ст. сімвал Miles Christianus — хрысціянскага ваяра. Вільня, «Яго Каралеўскай Мосьці друкарня Акадэміі Таварыства Ісуса Году, якога кветка назарэцкая, вясну збавення людзям прагназуючая, у Віфліеме сярод лілей заквітнела 1755, месяца студзеня».*



Na herbowny JJ.WW. SLIZNIOW Swiat.

I.

*Wſzák Niebo z śliczna wioſna ma dawne przymierze,*
*Iż każdy kwiat na wioſnę piękny wzroſt ſwòy bierze,*
*Toć niedźiw, iż SLIZNIOWIE dziś w Honory roſna;*
*Bo w Ich Herbie Swiat mu ſiał, razem począć z wioſna.*

Verno tempore eſt perfectus mundi ornatus. Ita Vener: Beda in Hexam: S.Thomas in cap: 1. Geneſ:

II.

*Jako Bóg na częśći świat podźielił, to powie*
*Każdy człek, lecz wam jaki doſtał śię SLIZIOWIE?*
*Czy madry, czy uczony, powiedz człecze dumny?*
*Ja przyznam, iż w Dom SLIZNIOW doſtał świat rozumny.*

Praparavit orbem in Sapientia ſua. Jerem: 51.

III.


In Avitum Decus Celsissimæ Domûs
RADIVILLIANÆ.

I.
*Vana procul veteris cedant auspicia Romæ*
*Visa Cui varium luserat omen avis.*
*CAROLE Magne Tibi, præsto felicior Ales,*
*Rex volucrum, & Vestræ gloria prima Domûs.*
*Ominis illa fuit læti, vel nuntia tristis*
*Ominis hic læti, nuntius Ales adest.*
*Sive honor in terris, seu virtus figat in astris,*
*Perge bonis avibus, culmen utrumq; petas.*
II.
*Quis neget hoc Nomen, totum transisse per Orbem,*
*Quod sua fert Volucris, trinaque Tuba canit.*

GRATULATIO.

SI quemadmodùm omnium gentium literis atq; lingvis proditum est, neminem unquàm Magnum ac præstantem Virum, qui rebus maximis amplissi-
A2

*«Felix auspicium D. Caroli Radziwill palatini Vilnensi... Societate Jesu Provinci de Litvanae. Vilnae, A.D.1763». Герб Радзівілаў у картушы са сцягоў і гармат і вершам на герб. На с. А2 — віншаванне (Gratulatio). Няроўна ўстаўлены ў набор ініцыял і старая застаўка (яе выкарыстоўвалі яшчэ ў 1737 г.) не псуюць уражанне ад гэтай прыгожай урачыстай кнігі.*

рыі Літоўскай правінцыі ордэна: «Rostowski Stan. Lithuanicarum Societatis Jesu historiarum prowincialium pars prima» (1768 г., другая частка не надрукавана) і зборнік дакументаў па гісторыі універсітэта: «Porządek i ustawy Collegii Nobilium Akademii Wilenskiej Societatis Jesu...» (1762).

Выдаваліся падручнікі і навуковыя працы па філасофіі і логіцы (А. Скарульскі, Б. Дабшэвіч), матэматыцы (Я. Накцыяновіч, Т. Жэброўскі). Прафесар філасофіі Давыд Пільхоўскі (у будучым прэфект друкарні) выпусціў творы рымскіх класікаў: Луцыя Сенэкі (1771, 1772) і Гая Салюсція Крыспа (1760, 1767, 1770) ва ўласным перакладзе на польскую мову. Старыя пераклады Цыцэрона Беняша Буднага (выйшлі ў Вільні ў 1593 г.) перавыдаў Казімір Нарушэвіч (1766).

У 1751 г. з прысвячэннем графу Аляксандру Сапегу быў падрыхтаваны зборнік трагедый антычных аўтараў (Публія Карнэлія Сцыпіёна, Стылікона, Феміcтокла) у перакладах мсціслаўскага ваяводы Ігната Лапацінскага.

Па-ранейшаму друкарня была звязаная з сваімі заснавальнікамі — Радзівіламі. Час ад часу яна выдавала кнігі па гісторыі сям'і, напрыклад «Казанні і прамовы на агульным сабранні пахавання св. пам. князёўны яе міласці Ганны з князёў Сангушкаў Радзівілавай, канцлершы В.К.Літоўскага. Тут жа кароткае таго ж акту апісанне з выразамі Castri doloris у Нясвіжскім езуіцкім касцёле урачыстай містэрыяй праведзенага ў 1747 годзе. На вечную ў патомныя вякі памяць да друку пададзена. Году 1750» — да кнігі дададзены ілюстрацыі работы нясвіжскага архітэктара Маўрыцыя Петэці і гравёра Гершкі Ляйбовіча. У бібліятэцы нясвіжскага замка шырока быў прадстаўлены адзін з самых пладавітых аўтараў гэтага перыяду, Ян Пашакоўскі, які палемічны тэзіс свайго сачынення



Niech nic to WIELKIE SŁONCE niezaciemia,
Z którego wzięła dzień Roſſyiſka ziemia:
Którego mdłością świat mdleie prawdziwie,
Którego zdrowiem jędrnieie, i żywie.

Słońce już naſze bierze ſię ku ſnowi,
Z gwiazdami kſiężyc ſzykiem ſię ſtanowi:
Kſiężyc i gwiazdy świecą światlem twoim,
Z gwiazdmi, z kſiężycem całą noc przeſtoim.

Po dziennych czuciach na ſen idzieſz PANI,
Do cało-nocnych pieniów z dnia poddani:
Nim jutro znowu ze dniem złoto-litem
Pańſtwo pocieſzyſz ſwym Pańſkim przybytem.

*O WIELKA PANI cnych Monarchów wzorze,*
*Pańſtwa, i świata, i wieków Honorze!*

CZĘSC II.
PIENIA
CAŁO-NOCNE

*«Спеў цэладзённы і цэланочны на прыбыццё да краёў сваіх Бела-Расійскіх найяснейшай, наймагутнейшай, найсамаўладнейшай яе імператарскай міласці Кацярыны II велькай пані і імператрыцы, стварыцелькі, правадаўніцы і маткі цэлай Расіі ад падданых Двінскай правінцыі праз кс. Канстанціна Беніслаўскага, аднаго з найпадданейшых падданых, вершам каралеўскім складзены». Вершаваны панегірык да візіту расійскай імператрыцы ў нядаўна далучаныя беларускія землі. Канец першай — пачатак другой часткі. Вільня, каралеўская друкарня пры Акадэміі, 1780 г.*

мог вынесці на тытульны аркуш, як у кнізе 1737 г. «Каталіцкая навука...»: «пратэстанты ніколі не ўжываюць Цела і крыві Хрыстосавай, дзеля недахопу ў іх сапраўдных святароў». Адным з самых значных прадпрыемстваў універсітэта стала перавыданне (1744) Статута Вялікага Княства.

Лічбы выдавецкай прадукцыі за гэты перыяд большыя, чым за папярэдні. У найбольш плённыя гады выходзіла 28 (1744), 29 (1763) і 31 (1762) кніга, найменшая колькасць іх выдадзена ў 1768 (6), 1765 (9), 1751 і 1756 (11). Усяго выдадзены 642 кнігі, яшчэ 334 — магчымыя выданні.

Апошні перыяд дзейнасці друкарні (1773—1794) пачынаецца ад часу ліквідацыі ордэна езуітаў і завяршаецца са спыненнем існавання Вялікага Княства Літоўскага. У 1773 г. кіраўніцтва акадэміяй (і акадэмічнай друкарняй) перайшло да Камісіі народнай адукацыі (Komisja Edukacji Narodowej). У гэты час друкарня працягвае выдаваць падручнікі, перавыдаецца Статут ВКЛ (1780, 1786), працягваецца выпуск малітоўнікаў, кантычак, Евангелляў на польскай і літоўскай мовах. З раздзелу гістарычных кніг трэба адзначыць «Збор правоў і прывілеяў... нададзеных Вільні» Пятра Дубінскага. Сярод кніг, прысвечаных актуальным палітычным падзеям свайго часу, можна вылучыць паэму на лацінскай мове, прысвечаную пяцідзесяцігадоваму юбілею расійскай імператрыцы Кацярыны II (Augusstissimae Catharinae II... carmen oblatum. — Vilna, typis Regiis penes Academiam, 1778), а таксама стылёва аздоблены вершаваны панегірык да яе візіту (у 1780 г.) у нядаўна далучаныя ўсходнебеларускія землі. Папулярнымі былі падрыхтаваныя ў 10 частках (выйшла 9 кніг) анекдоты прускага караля Фрыдрыха II (другое выданне ў 2 частках выйшла ў 1796—1797 гг.). Для патрэб універсітэта з 1781 г. кожны год пачалі выпускаць друкаваныя расклады заняткаў.

Пасля 1794 г. акадэмічная друкарня ўжо не мае статуса «каралеўскай». Яна праіснавала да 1805 г. і потым была прададзена за 3000 рублёў срэбрам Іосіфу Завадскаму, які пераварыў яе ў вялікае капіталістычнае прадпрыемства новага тыпу[173].

**Друкарня францысканцаў.** У 1667 г. гвардыян (ігумен) віленскага манастыра «братоў меншых» Якуб Францішак Длускі заснаваў у Вільні новую друкарню. У хуткім часе, аднак, Длускага перавялі ў Замосце і ён забраў варштат з сабой. У 1671 г. Длускі вярнуўся ў

[173] Materiały do dziejów literatury i oświaty: Z archiwum drukarni i księgarni Józefa Zawadskiego w Wilnie. T. 1. Wilno, 1935.

**Прэфекты віленскай акадэмічнай друкарні (паводле І. Петраўскене[174])** *Табліца 12*

| Час працы (гады) | Прэфект |
|---|---|
| 1666—1673 | Мікалай Дамброўскі, прафесар граматыкі |
| 1673—1675 | |
| 1675—1676 | Андрэй Філіповіч, прафесар логікі |
| 1676—1677 | Мікалай Дамброўскі, прафесар граматыкі |
| 1677—1678 | |
| 1678—1680 | Сцяпан Высоцкі, прафесар матэматыкі |
| 1680—1682 | Казімір Келпша, прафесар грэцкай мовы |
| 1682—1683 | |
| 1683—1684 | Сцяпан Высоцкі |
| 1684—1686 | Георгі Берэнт, прафесар габрэйскай і грэцкай моў і матэматыкі |
| 1686—1687 | Іаан Маркварт, прафесар матэматыкі |
| 1687—1688 | Конрад Тэрпікоўскі, прафесар матэматыкі і габрэйскай мовы |
| 1688—1691 | Іосіф Рымгайла, прафесар матэматыкі і маральнай тэалогіі |
| 1691—1693 | Георгі Берэнт |
| 1693—1696 | Казімір Стануціс, прафесар этыкі |
| 1696—1701 | |
| 1701—1706 | Пётр Пузына, прафесар этыкі |
| 1706—1710 | Іван Нарбут, прафесар лацінскай, грэцкай і габрэйскай моў і матэматыкі |
| 1710—1711 | І. Скірмунт |
| 1711—1712 | |
| 1712—1720 | Аляксандр Кулеша, прафесар грэцкай і габрэйскай моў і матэматыкі |
| 1720—1732 | Мацей Карвацкі, прафесар грэцкай мовы і матэматыкі |
| 1732—1734 | Аляксандр Кіркор, прафесар рыторыкі |
| 1734—1735 | Тэадор Аўцепі, прафесар матэматыкі |
| 1735—1742 | Аляксандр Кіркор |
| 1743—1749 | Францыск Крушэўскі, прафесар маральнай тэалогіі |
| 1749—1750 | |
| 1750—1758 | Станіслаў Хаслоўскі, прафесар рыторыкі і граматыкі |
| 1758—1759 | |
| 1760—1763 | Францыск Папроцкі, гісторык, прафесар філасофіі |
| 1763 | Вінцэнт Вяжэвіч, прафесар логікі |
| 1764—1765 | Францыск Сакольскі |
| 1765—1766 | Казімір Нарушэвіч, прафесар матэматыкі |
| 1767—1769 | Марцін Пачобут, прафесар астраноміі |
| 1769—1770 | Іаан Шэвалье, прафесар філасофіі і граматыкі |
| 1770—1773 | Якуб Лінкевіч, прафесар рыторыкі, паэтыкі і граматыкі |

Вільню, прывёз друкарню назад, і яна засталася тут назаўсёды. Першы этап працы друкарні працягваўся да канца 40-х гадоў XVIII ст. Кніг у гэты час выдавалася няшмат, асновай рэпертуару сталі панегірыкі і малітоўнікі. Але былі і выданні для дзяржаўных патрэб, напрыклад «Stanow W.X.L. na pospolite ruszenie vigore laudum wilenskiego...», выдадзеная 10.3.1699 г. Гісторыкі культуры пакуль беспаспяхова шукаюць вядомую толькі з бібліяграфіі брашуру 1675 г. (40,7 аркушаў) пад назвай «Залатая тога ў новым пераўтварэнні свету шляхетнаму Віленскаму магістрату на новы год...». Аўтарам гэтага твора быў знакаміты музычны тэарэтык, «віленскі акадэмік» Мікалай Дылецкі[175]. Паспяховая спроба францысканцаў у 1679 годзе выдаць Канстытуцыю Гродзенскага сойма сведчыць пра ўвагу гэтага ордэна да выдання дзяржаўных дакументаў. У параўнанні з кнігамі

[174] *Petrauskienė I.* Vilniaus Akademijos spaustuvė 1575—1773. Vilnius, 1976. P. 179—181.
[175] *Estreicher K.* Bibliografia polska. T. 15. Kraków, 1897. S. 207. — «Акадэмікамі» ў Віленскім універсітэце называлі студэнтаў у адрозненне ад выкладчыкаў — «прафесараў».



244

DRUGA MODLITWA.

WSzechmogący BOZE, ktoryś ná świát dla Odkupienia náſzego zeſłał Syná Twoiego Jednorodzonego, ktoremu zá Zwiaſtowaniem Anielſkim przez JOZEFA S. dałś Imię JEZUS, dayże nam w tym nayſłodſzym Imieniu JEZUS, przez záſługi MARYI y JOZEFA Swiętego, w tym doczeſnym życiu w pokoiu zoſtawáć, á potym Ciebie BOGA widząc z JEZUSEM, MARYĄ, y JOZEFEM Swiętym náwieki wiekow cieſzyć się

A M E N.

RE-

*Застаўка з вывай друкара за работай. У кнізе: «Jezus, Marya, Jozef. Septenna sacra, гэта значыць сямікратная богаслужба... у касцёле вялебных айцоў кармелітаў босых сем разоў на год служыцца да святога Іосіфа, патрона і апекуна...». Вільня, акадэмічная друкарня, 1745 г.*

іншых віленскіх друкарняў францысканскія выданні не вылучаюцца якасцю друку, прыгажосцю макета альбо дасканалымі ілюстрацыямі.

Хутчэй наадварот, узровень прадукцыі ўвесь час заставаўся невысокі, хоць з францысканцамі супрацоўнічалі такія выдатныя майстры, як гравёр Лявон Тарасевіч, які выканаў для лацінамоўнага панегірыка Іпаліта-Аўгусціна Касцецкага «Illustrissimus Brzostowcianus» (1682) герб Бжастоўскіх.

У вялікіх віленскіх пажарах 1748 і 1749 гг. моцна гарэў і манастыр францысканцаў, ад агню пацярпела друкарня. Але францысканцы адбудаваліся, а ў 1754 г. атрымалі новы прывілей ад караля Аўгуста III, згодна з якім друкарня набыла статус каралеўскай. Вядомыя прозвішчы некалькіх кіраўнікоў друкарні гэтага перыяду:

1756–1769 гг. – Фелікс Тавянскі, адначасова рэгент віленскай школы, беларускі суфраган;

1769–1770 гг. – Віктар Сцяпурэвіч, настаўнік у манастырскай школе;

1770–1775 гг. – Іосіф Сенкальскі;

1775–1781 гг. – Плацыд Навіцкі.

У 1781 г. на капітуле ордэна францысканцаў Плацыд Навіцкі інфармаваў аб стане друкарні. Яна мела добры рыштунак, але была абцяжарана вялікімі даўгамі. Капітул пастанавіў друкарню прадаць, а з атрыманых грошай сплаціць пазыкі.

У апошні перыяд дзейнасці ў рэпертуары дамінавалі выданні рэлігійныя, кшталту шматлікіх «propositiorum philosophicarum» і «theologicarum». Для патрэб школы друкавалі драматычныя творы, да прыкладу «Cicero tragedia» Багуслава Згельскага (1752) альбо «Lizymachus tragedia» (1755). Вялікай падтрымкай для францысканскай друкарні было тое, што падканцлер ВКЛ Міхал Антоні Сапега аддаў туды друкаваць свае пераклады з Вальтэра – «Трагедыю Заіра і Дрозмана» і «Генрыяду» (1753). Друкарня выдавала кнігі на польскай і лацінскай мовах. Вядома таксама пра два літоўскамоўныя выданні: «Літоўскі слоўнік», выдадзены коштам жмудскага епіскапа Антонія Тышкевіча, складальнік Крыштаф Лапацінскі (невядома ніводнага захаванага паасобніка) і «Евангелле польскае і літоўскае» (1776). Усяго бібліёграфы налічваюць не менш чым 99 выданняў францысканскай друкарні.

**Слуцкая друкарня.** Горад Слуцк зрабіўся значным цэнтрам кніжнасці Вялікага Княства Літоўскага дзякуючы працы кнігапісцаў, сярод якіх былі і князі Алелькавічы. Пасля спынення (у 1569 г.) дынастыі Алелькавічаў Слуцк перайшоў ва ўладанне Радзівілаў біржайскай лініі, традыцыйных пратэстантаў. Горад стаў буйнейшым на беларускіх землях Вялікага Княства цэнтрам кальвінізму. Пры зборы, пабудаваным у 1617 г., знаходзілася рэзідэнцыя суперінтэндантаў Наваградскага дыстрыкту, была заснавана школа, узровень якой з часам стаў адпавядаць узроўню вышэйшай школы. Яскравым прыкладам высокай якасці ў падрыхтоўцы вучняў з'яўляюцца два лісты сына Крыштафа II Радзівіла (1585–1640), 14-гадовага Януша Радзівіла (1612–1655), якія ён напісаў з Слуцка да маці, Ганны Радзівіл з Кішкаў, і сястры Кацярыны ў 1626 г. Абодва лісты – плач па заўчасна памерлай сястры, чатырохгадовай Гальшцы Радзівіл. Кампазіцыйна і стылістычна яны вельмі выразна пабудаваныя, поўныя трагічнай паэтычнасці: «...ясны яе свет цёмная хмара смерці зайшла...». Напісаць лісты свайму вучню дапамагалі настаўнікі, сярод якіх былі славутыя пісьменнікі і педагогі Слуцкай школы: Крыштаф Мусоні малодшы, Рэйнгольд Адамі і




«Recursus gratus» — мыш пад'ядае дрэва жыцця, на суку якога сядзіць птушка-крук. Сюжэт узыходзіць да малюнкаў на палях Кіеўскага Псалтыра і Лаўрышаўскага Евангелля. З кнігі Іосіфа Быдзкевіча «Ода слуцкаму губернатару Казіміру Клакоцкаму». XVII ст.




«Bello et pace felix» — «Шчаслівы ў мірны час і на вайне» — малюнак з кнігі Іосіфа Быдзкевіча «Ода слуцкаму губернатару Казіміру Клакоцкму». XVII ст.

Даніэль Набароўскі, але гэты факт не прыніжае вартасці твора маладога князя-вучня[176]. Заказы Слуцкай школы, як і іншыя патрэбы кальвіністаў у друкаванай прадукцыі, выконвала ў першай палове XVII ст. Любчанская друкарня. Аднак пасля войнаў з Расіяй і Швецыяй (1657—1667) яна спыніла існаванне. У пратэстантаў заставалася толькі Кейданская друкарня, якая пасля смерці Багуслава Радзівіла (31.XII.1669) належала яго малалетняй дачцы Людвіцы Караліне.

Апеку над маленькай Людвікай Каралінай прынялі сваякі-каталікі — Радзівілы нясвіжскай лініі, а маёмасныя справы вёў адданы слуга Багуслава Радзівіла (з 1658 г.) губернатар Слуцкага і Капыльскага княстваў Казімір Клакоцкі. Адшукаліся архіўныя дакументы, якія паказваюць, што ён займаўся арганізацыяй друкарні ў Слуцку яшчэ пры жыцці Багуслава Радзівіла[177]. У маі 1665 г. з нейкім Лазаровічам (магчыма, друкаром) ён заключыў кантракт і выплаціў 100 злотых авансу. У 1672 г. рэшткі княжацкай друкарні з Мітавы (куды яна была вывезена з Радзівілавых Кейданаў на час вайны з Швецыяй) былі перавезены ў Слуцк[178]. У перапісцы Клакоцкага разглядаецца магчымасць прывезці друкарскае абсталяванне з Любліна — відаць, для аднаўлення кнігадрукавання былі закуплены патрэбныя дэталі.

У перапісцы К. Клакоцкага ёсць упамінанне пра выдадзеную ў Слуцку ў 1672 г. кнігу «Nenija», аднак гэтае выданне не захавалася і бібліёграфамі не апісана. Таму самым раннім датаваным выданнем Слуцкай друкарні прынята лічыць кнігу Я. Германа «Ziemianin albo gospodarz inflandski...» (пераклад з нямецкага выдання 1662 г.). Выйшла яна ў 1673 г. На тытульным аркушы аднаго з першых выдадзеных двухмоўных малітоўнікаў (лацінска-польскіх) ёсць такі запіс: «Сем спаведных псальмоў... выдадзеныя ў Варшаве, у год Гас-

[176] *Jarosz A., Jarczykowa M.* Kondolencyjne listy Janusza II Radziwiłła do matki i siostry z 1626 roku // Biuletyn Biblioteki Jagiellońskiej. 1994. R. 44. S. 145—153.
[177] *Buchwald-Pelcowa P.* Kazimierz Krzysztof Kłokocki i drukarnia w Słucku. S. 135—172.
[178] *Грыцкевіч А. П.* Рэгіянальная культура Случчыны ў XVI—XVIII стст. // Беларусіка — Albaruthenica. Вып. 3. Мн., 1994. С. 27.



*Турэцкая манархія. Радзівілаўскі арол у вянку. Гравюра выкарыстоўвалася як фірменны знак Слуцкай друкарні. Слуцк, 1678 г.*

подні 1667, 12 8бра, а зараз паўторным разам з друкарні Слуцкай з дадаткам сямі псальмоў пакутных, у 1674 г.».

Адсутнасць патрона-пратэстанта адбілася на рэпертуары Слуцкай друкарні: тут выходзяць прыбытковыя, але індыферэнтныя з гледзішча веравызнання кнігі, рэлігійныя выданні, прымальныя для каталікоў і пратэстантаў. Толькі адно выданне можна назваць чыста пратэстанцкай кнігай — «Godzinki każdodzienne» Крыштафа з Жарноўца[179].

Пасля знаходкі ў нясвіжскім архіве ў канцы XIX ст. Інвентара слуцкіх выданняў, датаванага 1687 г.[180], агульная колькасць надрукаваных у 1672—1688 гг. кніг вызначаецца лічбай 23, хоць 10 з іх да нашых дзён не захаваліся.

Рэпертуар кніг быў даволі разнастайны. Гэта ўжо названыя «Psalmy pokutne» (пераклад працы А. Дона Кастра «Сем спаведных псальмоў», 1674 г.), і «Pieśni nabożne Rzymskiego Kościoła» (1674), — гэтак званая кантычка, і выданні свецкай тэматыкі: «Monarchia Turecka» Поля Рыко, перакладзеная з французскай і ілюстраваная 19 гравюрамі магілёўскага гравёра Максіма Вошчанкі (1678), «Viktoria nad Turkami» (sine datum). Асаблівую цікавасць уяўляюць памянёныя ў Інвентары, але не захаваныя да нашага часу, і невядомыя бібліяграфіі кнігі: «Szkołki», «Formułki», «Elementarze», «Kalendarze mniejsze», «Instruktarzt poglownie», «Tablicy horyzontalne», «Uwagi chrześcijańskie», «De rege Poloniae», «Modlitwy żołnerskie»[181]. Усе яны надрукаваны лацінкай — па-польску альбо па-латыні. Магчыма, што Слуцкая друкарня не мела кірылічных шрыфтоў. Аднак нельга выключыць, што названыя ў Інвентары 1687 г. «Teorie ruskie» надрукаваны кірыліцай. А. Кавецка да невядомых бібліяграфіі слуцкіх кніг далучыла і выданне «O złączeniu rzek» («Аб злучэнні рэк»). Нам здаецца магчымым атаясаміць яго з часткай кнігі львоўскага кашталяна Андрэя Максіміляна Федра (пам. у 1679 г.) «Potrzebne Consideretie około Porzódku Woiennego, y Pospolitego Ruszenia. Przez Franciszka Glinkę z Rafałow, do Druku Podane. A teraz z Przydatkiem sporzędzenia economiey woienney y sposobu, iakoby Woyska Rzeczypospolitey mogły być w dobrym porządku zatrzymane. У Слуцку, у год ад Божага нараджэння 1675 [1арк.], 117 с., 4°». На адгорце тытульнага аркуша дрэварыт — герб Радзівілаў.

Кніжка складаецца з пяці частак, апошняя называецца: «Krótko zebrane zdanie o złączeniu Rzeki Piny z Rzeką Muchawcem, y o wygodzie nowego spławu na tych Rzekach, do teyże materyi Woienney słuzące, w ktorym się pokazuie, iak wiele wygody Rzeczpospolita pod woienne czasy z złączenia pomienionych Rzek miec moze, tak w dodawaniu Fortecom, iako y Obozom Armaty Ammunicyi, y Prowiantu» («Каротка сабраная інфармацыя пра злучэнне ракі Піны з ракой Мухаўцом і пра выгаду новага сплаву па тых рэках, да той жа мэты ваеннай служыўшы, у якой паказана, як шмат выгодаў Рэч Паспалітая ад злучэння памянёных рэкаў можа мець: як у забеспячэнні крэпасцяў, так і пры перамяшчэнні абозаў, гарматаў, амуніцыі і правіянту»).

У калонтытуле назва кожнай часткі пазначалася карацей, у апошнім выпадку: «Krótko zebrane zdanie o złączeniu Rzek»[182]. Пра гэтае выданне ведаў Эстрайхер, хоць паасобнік, якім ён карыстаўся, не меў гэтай апошняй часткі[183].

→
*Турэцкая манархія. Тытульны аркуш. Гравюра Максіма Вошчанкі. Слуцк, 1678 г.*

[179] *Kawecka-Gryczowa A. i in.* Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. S. 232; *Buchwald-Pelcowa P.* Kazimierz Krzysztof Kłokocki i drukarnia w Słucku. S. 147—163.
[180] *Połkowski J.* Notatka o drukach słuckich // PrzBA. 1881. ( 1. S. 86—88.
[181] *Kawecka-Gryczowa A. i in.* Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. S. 232.
[182] Мы карысталіся паасобнікам БАН (шыфр XXIX/б20061).
[183] *Estreicher K.* Bibliografia polska. T. 16. Kraków, 1898. S. 310.





Rozdźiał VI. 225

Z tego wßytkiego może kożdy ſnadno poiać / iákowe ieſt poſtánowienie y kondicia Spahow / to ieſt woyſka konnego w Turczech. Teraz o piechoćie cokolwiek powiem.

ROZDZIAŁ VII.

O Ianczarach.

Po Spahach naymocnieyßa podpora Páńſtwá Ottomáń-ſkie° ſą Jánczarowie / zowią ich nowỹ woyſkiem / lubo początek ſwoy wiodą od Ottomána pierwßego / ále że im Amurat trzeći nadał wielkie Przywileie / nieráchuie ich Hiſtoria Turecka áż od iego czáſow. Jákoż poprawdźie on poſtánowił práwá około ich wychowánia / y ſuſtentámentu / z rády Katradyna, ktorego ináczey zwano Kara Rutenes, Wezyra wielkiego / nákázał / áby ná rozmnożenie tego woyſka / kożdego piątego więźnia z Chrześćian / ktoremu piętnaśćie lát minie / oddáwano ná Sołtána / ktory ich potym rozdawał miedzy chłopow Aziey / áby ſię tám chowáiąc / ięzyká y wiáry Tureckiey vczyli.

Nie było Jánczarow zrázu nád ßeść álbo śiedm Tyśięcy / potym ich przyczyniono / y znayduie ſię ich teraz ſpełna Dwádźieśćia Tyśięcy. Mogłćiby ich położyć więcey niż ſto Tyśięcy / ktoby chćiał ráchowáć wßytkich / co ſię tym imieniem zowią / y Przywileiow Jánczárſkich záżywáią / nie biorąc żołdu / gdyż ſię ich poſpolićie pod tytułem iednego ßeść álbo śiedm okrywá. Ci ludźie żeby ſię vwolnić od podátku iákiego / álbo vchylić od powinnośći poſpolitey / dáią pewną ſummę pieniędzy / álbo vpominek iáki co rok Officierom / żeby ſię pod ich protekcią zá Jánczarow mogli vdáwáć.

Noßą Jánczarowie ſuknie trochę krotße od inßych Turkow. Ná głowie nákryćie oſobliwe ná kßtałt rękáwá w tył ná plecy wiſzącego / ktorego początek opiſałem w Rozdźiele dźiewiętnaſtym Xięgi wtorey. Brody nie zápußczáią tylko wąſy. Powiádáią niektorzy że ſię tego od Włochow náuczyli. Ale ten zwyczay v nich był dobrze przed tym / niżeli ſię pod Włoſką źiemię podemknęli. á prawdźiwa przyczyna tego ieſt / że golenie brody v Turkow / ieſt znákiem niewoli. Wßyſcy Pokoiowi / wßyſcy Ogrodnicy / wßyſcy Baltadźiowie, iednym słowem / wßyſcy posługacze Sáráiu / y ſámiż Ceſárſcy ſłudzy / tákimże kßtałtem ſię golą / pokázuiąc że ſą poddáni Pánu; ále iáko prędko ſię Jánczar wyzwoli od służby woienney / álbo Vrzędu iákiego doſtąpi / zápußcza záraz brodę / ná znák wolnośći.

Hhh 2 Wßyt-

*Турэцкая манархія. Разгорт з пачаткам раздзела «Пра янычараў» і гравюрай Максіма Вошчанкі. Слуцк, 1678 г.*

Слуцкі інвентар дае магчымасць вызначыць наклады выданняў: ад найбольшых для буквароў (3389 паас.) і кантычак (3270 паас.), да найменшых («Consideratie» — 700 паас.). У заключэнне Інвентар піша аб прапажы некаторых кніг і зазначае, што 50 «меншых» календароў выкарыстаныя для выцірання бляшанак: «użyto na wyciranie blaszanek» — нераспрададзеныя календары хутчэй, чым іншыя выданні, гублялі сваю актуальнасць.

Найбольш багата ілюстраваным выданнем Слуцкай друкарні стала «Турэцкая манархія» дыпламата і падарожніка Поля Рыко. Упершыню гэтая кніга пад назвай «Сучасны стан Атаманскай імперыі» выйшла ў 1669 г. у Лондане, на наступны год была перавыдадзена ў Парыжы, у перакладзе на французскую мову[184]. Па прыгажосці шрыфтоў і акуратнасці набору, па прапорцыях разгортаў і мастацкіх якасцях арыгінальных гравюр-ілюстрацый і заставак мастакоў С. Леклерка і Н. Кашэна парыжскае выданне 1670 г. было і застаецца адным з прыгажэйшых, што выйшлі ў французскай Каралеўскай друкарні. Радзівілы, якія актыўна ўдзельнічалі ў фарміраванні знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай, не маглі не заўважыць гэтай кнігі, а важнасць інфармацыі пра суседнюю дзяржаву стала прычынай жадання зрабіць яе тэкст даступным для суайчыннікаў. Казімір Кла-

[184] Кніга Рыко стала адным з найбольш часта перавыдадзеных арыенталістычных твораў XVII ст.: у Парыжы ў 1682 і 1683 гг., у Руане ў 1677 г., у Амстэрдаме ў 1672 і 1686 гг., у Аўсбургу ў 1694 г. і ў Венецыі ў 1672 і 1673 гг.

коцкі пераклаў яе на польскую мову, і ў 1678 г. у Слуцкай друкарні быў закончаны яе друк. Паасобнік РНБ мае тытульны аркуш з дапіскамі (карычневымі чарніламі, пяром) невядомага кніжніка пачатку XVIII ст. Паколькі ў іх змяшчаецца шмат дадатковай інфармацыі, мы паўторым іх у адпаведнасці з арыгіналам, паказваючы рукапісныя дописы курсівам: «*1a editio* Monarchia Turecka, opisana przez *Pawła* Ricota sekretarza *graffa Winszelszey* Posła angelskiego *Carla II* u Porty Ottomanskiey *u Soltan Mahometa IV* residuiącego. *Z angielskiego przetlumaczona na francuski ięzyk przez Piotra Briota y w Paryzu 1670 in 4° drukowana.* Z francuskiego ięzyka na polski przetlumaczona przez *Kłokockiego oyca tego co był fundatorem Kolleium Słuckiego Soc. Jesu* szlachcica polskiego. Y do druku podana w roku 1678. W Słucku».

Тэкст кнігі і цыкл з 19 ілюстрацый (уключаючы гравіраваны тытульны аркуш) упершыню паказваў паўднёвага супраціўніка без варожай перадузятасці і з розных бакоў: будова дзяржавы і войска, арганізацыя імператарскага (султанскага) двара, асаблівасці сямейнага і рэлігійнага жыцця. На гравюрах турэцкія воіны, святары, начальнікі, жанчыны у сваім штодзённым жыцці. Хоць пастаноўка фігур часам манерная, але самі выявы рэалістычныя і спакойныя. Усе гравюры па замове Слуцкай друкарні выканаў магілёўскі мастак Максім Вошчанка. Працаваў ён, верагодна, у Магілёве і прыслаў у Слуцк патрэбную колькасць адбіткаў кожнай гравюры. Так думаць нас вымушае тое, што ні на адным адваротным баку аркуша з гравюрай няма друкаванага тэксту, яны чыстыя. У правым верхнім куце кожнай гравюры ёсць нумар, які адпавядае нумару старонкі тэксту, да якой гравюра стасуецца. Верагодна, набор быў зроблены загадзя і мастаку паведамілі нумары старонак, а потым чакалі выкананых ілюстрацый і ўплялі іх (арыентуючыся на нумары на гравюрах) у патрэбныя месцы. Большасць ілюстрацый Вошчанкі кампазіцыйна паўтараюць гравюры С. Леклерка і Н. Кашэна — яны з'яўляюцца люстэркавымі адбіткамі французскіх з самымі нязначнымі зменамі.

Па фармаце слуцкае выданне большае за парыжскае, і памер гравюр пры капіраванні быў павялічаны. Часам ў гэтай працы Вошчанка дапускаў вольнасць і злучаў дзве французскія гравюры ў адну (іл. на с. 334), часам рабіў нязначныя змены (як на тытульным аркушы) у кампазіцыі[185].

У канцы кнігі — звычайны спіс памылак друку, які ў гэтым выпадку мае некаторую спецыфіку (разважанні аб цяжкасці выявіць памылкі ў польскай і ў турэцкай (!) мовах) і называецца «Перасцярога чытачу»: «Przestroga czytelnikowi. Poniewasz nie zawsze ten był przytomny przy drukowaniu tey xięgi ktory iako Polskiego tak Tureckiego ięzyka mial postrzegac omylki. Jednak aby się laskawemu przypodobal Czytelnikowi z pilnoscią w Polskim y Tureckim ięzyku ktore się mogly znaleść omylek zebranie na osobliwey klada się karcie aby wiedział iakie słowo ma bydz w


OTTOMAN, LIVRE III. 339

CHAPITRE VII.

*Des Janissaires.*



APRE'S les *Spahis*, les Janissaires font la plus considérable force de l'Empire Ottoman. On les appelle la nouvelle milice, quoiqu'ils tirent leur origine d'Ottoman Premier; mais parce qu'Amurath Troisiéme leur accorda de grands privileges, l'Histoire des Turcs ne les compte que depuis ce tems-là. Ce fut luy, à la verité, qui fit des loix pour leur education & pour leur entretien.

Par le conseil de Catradin, que l'on appelle autrement *Kara Ruthenes*, son Premier Visir, il ordonna que pour augmenter cette milice, le cinquiéme de tous les prisonniers que l'on feroit sur les Chrêtiens au dessus de quinze ans,

Vu ij

*Турэцкая манархія. Старонка з гравіраванай вывай янычара. Гравюра С. Леклерка і Н. Кашэна, якую капіраваў для слуцкага выдання Максім Вошчанка. Парыж, 1670 г.*

185 *Пікулік А. М.* Барочныя тэндэнцыі ў мастацтве магілёўскіх старадрукаў // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998. С. 251.






*Турэцкая манархія. Гравюра С. Леклерка і Н. Кашэна з выявай дэрвіша, якую капіраваў для слуцкага выдання Максім Вошчанка. Парыж, 1670 г.*

*Турэцкая манархія. Кампазіцыя Максіма Вошчанкі «Духоўны з ордэна эхімі і сантон, альбо Святы чалавек». У французскім арыгінале гэтыя два вобразы паказаны на асобных гравюрах. Слуцк, 1678 г.*

samey rzeczy czytane dosyc się tu wyrazilo w ktorym rozdziale y na ktorey karcie bez trudnośći znaleść snadnie moze». Асаблівасці перакладу адчуваюцца і ў подпісах да гравюр. Так, на старонцы 134 гравюра з выявай імама падпісаная па-польску «Імам, альбо Поп цэзарскай мячэці» — у французскім арыгінале ўжыта слова «prist», якое можна было перакласці як «святар» альбо «ксёндз». Клакоцкі, перакладаючы слова «імам» словам «поп», падкрэслівае, што гутарка ідзе пра іншаверца.

Хоць Слуцкая друкарня, як і іншыя ў гэты час, не мела спецыяльнага сігнета, але яго функцыі выконваў дрэварыт з гербам Радзівілаў у вянку. Гравюра гэтая прысутнічае на большасці вядомых нам выданнях друкарні.

Слуцкі інвентар не называе заказных выданняў друкарні, увесь наклад якіх перадаваўся замоўцам. У прыватнасці, вядомыя надрукаваныя ў Слуцку панегірыкі на смерць Кацярыны Мірскай (21.1.1681) і два — на смерць арганізатара і кіраўніка друкарні, кніжніка-бібліяфіла Казіміра Клакоцкага (1685). Цалкам верагодна, што такіх выданняў было больш.

Друкаванне кніг у Слуцку спынілася каля 1688 г., прычым абсталяванне друкарні яшчэ доўгі час знаходзілася ў горадзе. Самае позняе вядомае выданне — кніга Хрыстафора Станіслава Завішы «Milość bez odmiany abo historia o Agnulfie» (Słuck, 1688.). У 1693 г. Людвіка Караліна Радзівіл перадала друкарню ў распараджэнне кальвінскага сінода Вялікага Княства Літоўскага. Лёс яе вырашылі ў 1698 г. на сесіі сінода ў Жупранах, пастанавіўшы абсталяванне прадаць. Гэтае рашэнне пацвердзіў сінод у Беліцы ў 1700 г., аднак канкрэтных захадаў не рабілася. Нарэшце ў 1705 г. абсталяванне адвезлі ў Кёнігсберг і перадалі міністрам новазаснаванага кальвінскага збору Самуілу Бітнеру і Юрыю Рэкуцю. У 1714 г. яно было здадзена ў наём Яну Давыду Зенкеру, які праз шэсць гадоў выкупіў яго ў сваю ўласнасць[186].

**Друкарня віленскага манастыра св. Тройцы (Троіцкая).** Як аб'ектыўныя эканамічныя, так і суб'ектыўныя прычыны (канфлікт базыльянскага ордэна з уніяцкімі мітрапалітамі) садзейнічалі спыненню на доўгі перыяд выдавецкай дзейнасці друкарні — ад 1692 да 1760 гг. Патрэбу ў друкаваных кнігах у гэты час дапамагалі задавальняць езуіты. Так, напрыклад, калі ў царкве св. Тройцы было знойдзена і пастаўлена для агляду цела пакутніка св. Люцыда, езуіты выдалі ў сваёй друкарні брашуру, якая падрабязна апісвала ўсе акалічнасці, — «Swiatło nowe...» (1749). Пасля аднаўлення (у 1760 г.) свайго кнігадрукавання базыльяне закупілі новае абсталяванне. Інвентар святатроіцкай друкарні ў 1774 г. фіксуе 4 друкарскія прэсы (у т.л. адзін з новай бронзавай шрубай) і

[186] У 1873 г. Феліцыян Ваноўскі бачыў у склепе Слуцкага касцёла друкарскае абсталяванне (*Dalton H.* Lasciana. 1898. S. 372). Не выключана, што гэта былі рэшткі даўняй радзівілаўскай друкарні.





*Турэцкая манархія. Гравюра Максіма Вошчанкі «Імам, альбо Поп імператарскай мячэці». Слуцк, 1678 г.*

*Турэцкая манархія. Вялікі візір на фоне старажытнаегіпецкай стэлы. Першая ў беларускім мастацтве выява егіпецкіх старажытнасцей. Слуцк, 1678 г.*

адзін прэс «для выбівання абразоў», вялікую колькасць «польскіх» і «рускіх» шрыфтоў рознай гарнітуры, у тым ліку нотныя шрыфты[187]. Паводле звестак віленскага «Гандлёвага дзённіка», у 1787 г. друкарня набыла ў ліцейні Завадскага шмат разнастайных шрыфтоў, у тым ліку кірылічных: «parangonu ruskiego na 9, mytlu ruskiego na 7 arkuszy». Захаваўся і стары рыштунак. У выніку друкарня мела «бляшак малых ціснутых на медзі — 14, бляшку медзяную, на якой выгравіраваны вобраз тутэйшай Найсв. Дзевы — 1; канцовак драўляных — 35, кветак драўляных — 9, гербаў разнастайных — 58». Інвентар паведамляе, што манахі, якія працавалі ў друкарні, і жылі пры ёй — тут жа ў келлях стаялі ложкі, тут жа знаходзіліся печы для адлівання свінцовых літар.

Аснову рэпертуару выданняў друкарні складалі кнігі богаслужбовыя і чэцці, а таксама панегірыкі. Пачынаючы ад 1767 г. базыльяне рэгулярна перадрукоўвалі маскоўскія выданні XVII ст.: Словы (павучанні) авы Дарафея, Яфрэма Сірына, Шасціднеў, Псалтыр, Часоўнік. Заказвалі гэтыя кнігі багатыя купцы-стараверы, што жылі ў межах ВКЛ, Польшчы і, найбольш, Расіі. Г. Галенчанка паказвае на 29 такіх выданняў, што выйшлі да 1794 г.[188] Частка заказаных старaверамі кніг перапляталася пры друкарні, што давала манастыру дадатковы заробак. З інвентару 1774 г. відаць, што прыкладна палова ўжыванай паперы была «пруская водная»: на момант складання інвентару яе мелася 230 рэзаў, пры друкарні знаходзілася таксама значная частка паперы маскоўскага вырабу (Маскоўскай дужай 12 ліберaў і Маскоўскай паперы рэзаў 158), а рэшта — мясцовых фабрык (Пад Паннай рэзаў 8, Пад Арлом рэзаў 11), былі і прывазныя гатункі: французскай ліберaў 14. Друк выконвалі акуратна, колькасць памылак параўнальна невялікая. Так, у «Павучаннях» Яфрэма Сірына (1768) на больш чым 560 аркушаў тэксту ўсяго 25 памылак друку. Друкарня змясціла іх на асобным аркушы ў канцы кнігі. Вось характэрныя памылкі:

1) прапушчана слова: Дивим и величаем — чти: дивим бываше и величаем. Противу нераждению — чти: противу твоему нераждению.

2) прапушчаны альбо памяняныя месцамі літары: Подобает — чти: подавает. Расторено — чти: растворено.

Друкаваліся таксама тэалагічныя творы, урадавыя паведамленні. Двойчы (у 1767 і 1782 гг.) быў выдадзены буквар славянскай мовы. Выданні Троіцкай друкарні былі папулярныя ў суседняй Расійскай дзяржаве, іх часта капіравалі, пра што сведчыць, напрыклад, рукапісная кніга «Изображение истинное христианского жития паче же иноческаго, от многих святых вкратце собрано по числу литер словенских ради удобнейшаго обрете-

[187] Архіў СПбФІРГ. Ф. 52. Доброхотов. Воп. 1. N 297. С. 13 адв. — 15.
[188] Кніга Беларусі 1517—1917. С. 575.



*Дабравешчанне. Гравюра з кнігі «Акафісты і каноны». Магілёў, 1693.*

ния», якая мае прыпіску: «Сия святая и богодухновенная книга Альфа и Омега типом издана в типографии его королевского величества Станислава Августа, великого короля Польского и великого князя Литовского, в богоспасаемом граде Вильне в обители св. Троицы...»[189].

Вялікім прадпрыемствам было выданне перакладу з італьянскай мовы на польскую 13-томнай серыі «Жыцці святых» Карла Масіні (завершана ў 1786 г.). Выходзіла і свецкая літаратура: «Лексікон геаграфічны» з дзвюма картамі, складзены Іларыёнам Карповічам (1766), «Скарочаная гісторыя Усходніх Індый» (1776) Тадэвуша Падлецкага, «Хатняя гаспадарка» Яна Германа (1791). У канцы XVIII ст. у рэпертуары з'яўляецца мастацкая літаратура — паэзія Мікалая Бялкоўскага, драматычныя творы Міхаіла Тамашэўскага, якія былі перапрацоўкамі альбо перакладамі заходніх п'ес.

Базыльяне выпускалі кнігі на царкоўнаславянскай, лацінскай і польскай мовах, вядома таксама выданне «Акафіст Багародзіцы» на французскай мове. Усяго да канца XVIII ст. друкарня ажыццявіла каля 200 вядомых бібліяграфіі выданняў. Няма сумнення, што на самой справе іх было значна больш. Сярод іх не толькі арыгінальныя выданні, але і перавыданні, напрыклад кнігі мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскага: «Swiętołdycz, albo Starozytny iasńie wielmożnego domu Ichmośćiow Panow Kisielow herbowny kleinot namiot rozbity na gorze Witebskiey do W. Jmci Pana Adama Franciszka Dorohinickiego na Brusiłowie Kisela Pisarza Ziem. Wdztwa Witebskiego. Przez Pobozną Erekcyą i Fundacyą Monastyra dla XX. Bazilianow przy Cerkwi Kathedralney A od J. W. w Bogu Przewielebnego Jmśći Xiędza Cypriana Zochowskiego z Bozey i Stolicy S. Apostolskiey łaski, Metropolity Wszystkiey Rusi, Arcybiskupa Połockiego, Witebskiego, Orszanskiego i Mohilowskiego: Przy Introdukcyey do pomienionego Monastyra i Kathedry, Mową Enkomistyczną reprezentowany. R. 1683, 11 Stycznia według nowego KAl. w Dzień Uroczystośći S. O. D. Bazilego W. Metropolity Kappadockiego. — w Wilnie, w drukarni J. K. M. XX. Bazilianow R. 1765 przedrukowano. — 4°».

Гэтае выданне — выразны прыклад таго, як умелі базыльяне перахапіць ад праваслаўных ініцыятыву ў дачыненнях з шляхетнымі сем'ямі ВКЛ. Так, Віленская брацкая друкарня ў 1635 г. выдала на славянскай мове «Малітвы штодзённыя» з прысвячэннем і панегірыкам праваслаўнаму шляхціцу Адаму Кісялю з Брусілава. У 1683 г. пісару Віцебскага ваяводства Адаму Кісялю з Брусілава польскамоўны панегірык прысвячае ўжо уніяцкі епіскап Кіпрыян Жахоўскі. Панегірык настолькі ўдалы, што выданне яго паўторана Троіцкай базыльянскай друкарняй у 1765 г.

Друкарня пры манастыры св. Тройцы праіснавала да ліквідацыі ордэна ў 1839 г., а яе маёмасць была прададзена віленскім выдаўцам Т. Глюксберку і А. Двожэцу. Кірылічныя шрыфты і дошкі з гравюрамі і застаўкамі захоўваліся ў манастырскіх скляпеннях да 1871 г., пакуль іх не прадалі на вагу, як лом, — пра гэта з абурэннем пісаў ар-

[189] Музейное собрание рукописей [Государственной библиотеки СССР им. В. И. Ленина]: Описание. Т. 1. М., 1961. С. 18.

хеограф Пётр Гільтэбрандт супрацоўніку Археаграфічнай камісіі ў Пецярбурзе Афанасію Бычкову[190].

**Магілёўская друкарня.** Магчыма, што пасля Маскоўскай вайны сярэдзіны XVII ст. брацкая друкарня ў Магілёве і захавала свой варштат, што ж датычыць шрыфтоў, то яны да 1693 г. усе былі заказаны новыя. Сістэматычнае кнігадрукаванне пачалося ад 1693 г., калі працай друкарні (да 1704 г.) кіраваў магілёвец Максім Вошчанка[191]. Ён выдаваў папулярныя богаслужбовыя і чэцці кнігі для патрэб праваслаўных: «Акафісты і каноны» (чэрвень 1693 г.), «Псалтыр» (ліпень 1693 г.), «Малітваслоў» (1695), «Часаслоў» (1695). Характэрна, што хоць усе гэтыя выданні змяшчаюць богаслужбовыя тэксты, ні ў адным з іх не падаецца інфармацыя пра блаславленне альбо дазвол на выданне кнігі якога-небудзь царкоўнага іерарха. Шыкоўным было першае выданне аднаўленай друкарні — «Акафісты і каноны». Маленькая па фармаце (8°), але ёмкая (250 арк.), гэтая кніга змяшчае 45 гравюр; у некаторых месцах кожная другая старонка мела ілюстрацыю — медзярыт (іх у кнізе пераважная большасць — 42) альбо дрэварыт (3 адбіткі з 2 дошак). Тут Вошчанка надрукаваў цэлы цыкл гравюр на евангельскія сюжэты. Вельмі падрабязна паказаны апошнія зямныя дні Ісуса Хрыста: уезд у Ерусалім, Хрыста вядуць на кару, Хрыста прыбіваюць да крыжа, ставяць крыж, трое салдат сцерагуць на Галгофе, гуляючы ў косці, Хрыстос, пакутуючы на крыжы, прамаўляе «Ойча, адпусці ім» і г. д. Некаторыя з гравюр маюць манаграму «M.W.» альбо подпіс: «Scul. Maxim Woszczanka» (гравіраваў Максім Вошчанка)[192]. На некаторых ёсць даты: 1680 і нават 1676 г. Выкарыстанне старых дошак сведчыць пра тое, што на час арганізацыі друкарні, у 1693 г., Максім Вошчанка быў ужо сталы майстар, які даўно займаўся гравюрай і меў добрыя напрацоўкі. У цыкле новазапаветных ілюстрацый ёсць некаторыя новыя сюжэты, не ўласцівыя папярэдняй традыцыі. Прынамсі, гэта вобраз Маці Божай, сэрца якой праціна́е кінжал. Магчыма, што менавіта з магілёўскіх выданняў гэты сюжэт перайшоў у ілюмінаваныя рукапісныя Ірмалоі канца XVII—XVIII стст. Чаму Вошчанка не выдаў зборнік «Рымскія дзяянні» (Gesta Romanorum), што быў падрыхтаваны да друку яшчэ ў 1688 г., — невядома[193].



*«Акафісты і каноны і прочыя спасітелныя молбы на ползу Православным в Богоспасаемом гради Могилове». Тытульны аркуш. Друкар і гравёр Максім Вошчанка. Магілёў, «Року ад Раства Хрыстова 1693 месяца Іюня дня 11».*

У 1693—1698 гг. у выхадных звестках магілёўскіх выданняў адзначалася, што кніга друкавана «ў друкарні Брацтва Богаяўлення Господня стараннем і коштам Максіма Вошчанкі». Потым, пасля змены формулы, мож-

190 Гільтебрандт П. А. К истории вандализма // АР РНБ. Ф. 120. Бычковы. № 546. Арк.3—Задв.

191 У канцы 1660-х гг. ён паступіў у Віленскі універсітэт, 21 лістапада 1672 г. «здаў публічны экзамен прафесару Марціну Крэзмеру на ступень бакалаўра філасофіі і вольных мастацтваў», 14 ліпеня 1673 г. атрымаў званне магістра (*Степовик Д. В.* Олександр Тарасевич: Становлення української школи гравюри на металі. Київ, 1975. С. 72).

192 Мастацтвазнаўцы адзначаюць, што Максім Вошчанка часта альбо капіраваў польскія і заходнееўрапейскія выданні, альбо выкарыстоўваў іх іконаграфічныя схемы (*Пікулік А. М.* Барочныя тэндэнцыі ў мастацтве магілёўскіх старадрукаў. С. 247—260).

193 Рукапіс быў выдадзены ў XIX ст. намаганнямі Таварыства аматараў старажытнага пісьменства ў Пецярбурзе: Издания ОЛДП. № 80. СПб., 1877—1878.





*Акафісты і каноны. Гравюра Святой Тройцы з датай 1680 (злева) і гравюра са сцэнай Дабравешчання (справа). Магілёў, 1693 г.*

на здагадацца пра змаганне за друкарню паміж друкаром, членам Магілёўскага магістрата Максімам Вошчанкам, і брацтвам. У 1698—1700 гг. выйшла некалькі кніг, якія ў выходных звестках паказвалі: «У друкарні Максіма Вошчанкі» («Диоптра», «Перло многоцветное» Кірылы Транквіліёна Стаўравецкага, «Небо новое» Іянікія Галятоўскага і інш.). Верагодна, брацтва перамагло, бо астатнія гады выдавецкай дзейнасці Вошчанка зноў падпісваў кнігі друкарняй брацтва, хоць і не забываўся дадаваць, што сваім коштам. У 1728 г. брацкая друкарня перавыдала «Акафісты і каноны» 1693 г. У кнізе выкарыстаны пераважна старыя дошкі, але ёсць і некалькі новых, якіх не было ў першым выданні (Максім Вошчанка на той час ужо памёр, магчыма, матэрыял даў яго спадкаемцасын).

Калі пачаўся новы перыяд кнігадрукавання ў Магілёве, дакладна яшчэ не высветлена. Беларускі гісторык царквы Іаан Грыгаровіч лічыць, што ў 1758 г., калі пры архірэйскім доме пачала працаваць друкарня, якая ў 1768 г. атрымала на сваю дзейнасць каралеўскі прывілей[194]; пра тое, што друкарня належыць праасвяшчэннаму Георгію Каніскаму, пісаў магілёўскі краязнавец Ф. Жудро[195]. Сучасны гісторык кнігі прапануе лічыць два Катэхізісы (1757 і 1761 гг.), «Акружное пастырскае пасланне» Георгія Каніскага 1757 г. і кнігу «De arte Poetica...» 1786 г. прадукцыяй друкарні магілёўскага Богаяўленскага брацтва[196].

Захавалася дастатковая колькасць крыніц, якія дапамогуць вырашыць спрэчныя пытанні храналогіі кнігадрукавання ў Магілёве ў новых даследаваннях.

→
*Кірыла Транквіліён Стаўравецкі. Евангелле вучыцельнае. Тытульны аркуш з выявай цара Давыда. Магілёў, каля 1697 г. (выхадныя звесткі на тытуле кнігі: Рохманово, 1619 г. — фіктыўныя).*

[194] *Грыгаровіч І. І.* Беларуская іерархія. С. 55.
[195] *Жудро Ф. А.* Богоявленский братский монастырь в г. Могилеве. Могилев, 1899. С. 41—42.
[196] *Киреева Г. В.* Кириллические книги могилевских типографий в фондах Национальной библиотеки Беларуси // Матэрыялы першых кнігазнаўчых чытанняў (Мінск, 15 верасня 1998 г.). Мн., 2000. С. 82.

# Еѵⷢ҇лїе

## оучителное

Здоказаньи на нд҃ли през рокъ и на празники гп҃дкие:

и нарочитым ст҃ым оугодником бж҃ін

Съставлена трꙋдолюбїемъ Їеромонаха Кирила Транквилиона проповѣдника слова бж҃го. Всего вл҃нымъ старанѧмъ коштомъ и накладомъ здрꙋку на свѣтъ ново выдана

Запозволенїемъ старшихъ в маетности ея млⷭ҇ кнгинѣ вдовы Михаиловой Вишневецкой в Рохмановѣ.

Ѿ създанїа мирꙋ з҃ р҃ кн҃ а ѿ воплощенїа гн҃а а҃ х҃ ді҃ мц҃а, Новембра, д҃.



*Кірыла Транквіліён Стаўравецкі. Евангелле вучыцельнае. Разгорт з пачаткам чытання на гасподскія святы. Магілёў, 1697 г.*

У апошняе дзесяцігоддзе дзейнасці друкарня не заўсёды называла сябе альбо месца выдання, хоць у выхадных звестках «Часаслова» (1771) яно зноў з'яўляецца: «Тип. Братства Богоявленія». Другі перыяд выдавецкай дзейнасці Богаяўленскага брацтва характарызуецца выпускам багата аздобленых, упрыгожаных гравюрамі кніг. Акрамя Максіма Вошчанкі ў друкарні працаваў яго сын, выдатны мастак Васіль Вошчанка (у 1694—1730 гг.), гравёры-мастакі Апанас Пігарэвіч і Фёдар Ангілейка, майстры Сямён, Мікіта Антушкевіч, Міхась Чарняўскі, Ян Стральбіцкі[197]. Некаторыя з іх працавалі над выданнем вучыцельнага Евангелля, якое выйшла, хутчэй за ўсё, у 1697 г. Каб мець магчымасць прадаваць гэтую кнігу ў асяроддзі расійскіх старавераў, на тытульным аркушы былі пазначаны фіктыўныя звесткі: «За позволением старших в маетности ей милости княгине Вышневецкой Михайловой в Рохманове от създания миру 7128 а от въплощениа господня 1619 месяца новембра 9». Формулу «за позволением старших» ужывалі пры выданні царкоўнай літаратуры пратэстанты і некаторыя з каталіцкіх ордэнаў (прынамсі, езуіты), але ніколі — праваслаўныя. Кнігу ўпрыгожваюць двухколерны друк і шматлікія гравіраваныя ініцыялы і застаўкі. Мастакі выканалі па некалькі розных ініцыялаў для адной і той жа літары. Для ініцыяла «Н» літара выгравіравана ў лацінскай форме яе напісання — «N», малюнак чалавека ў епіскапскім адзенні паказвае, відавочна, на святога Мікалая, епіскапа мірлікійскага. У іншых выпадках выява на ініцыяле называецца на тую самую літару (ініцыял «К», у кампазіцыі малюнак каня).

Значнай падзеяй 1698 г. у працы друкарні стала кніга «Акафісты штодзённыя» (назва даецца ў канцы кнігі, у калафоне. На тытульным аркушы паказана: «Акафисты всесед-

[197] *Шматаў В. Ф.* Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984. С. 162, 169.



Поученія евангелская и от многих божественных писаній албо беседы на евангелія неделныи през увесь рок, и на празники господскіе.

Поученіе в неделю ... еже о мытари и фарисеи. Евангеліе от Луки слово ...

Же вечной правды истинный учитель, проведе яко всех ведущ: иже лютое зло есть тщеславіе, и гордыня. Сія и аггелов несоблюдших своего начала, мраком тмы вечной покры: и в пропасти под земной заключи. Паки же смиреніе свет есть: сіе и грешников просвещает, и к небеси возводит.

Сего ради Господь отвергает гордыню, и уничижает мнимых праведников, иже поношают обращающимся ко Христу: Посем же смиреніе похваляет, и покаявших ся грешников оправдает. Яко и всего мытаря, о нем же ниже свидетелствует Евангеліа. Лука зачало ...

*Кірыла Транквіліён Стаўравецкі. Евангелле вучыцельнае. Выбраныя павучанні, аркуш 1. Магілёў, 1697 г.*

*Жыцці святых (складзены Дзмітрыем Растоўскім). Гравіраваны тытульны аркуш з відам Магілёва. Гравёр Васіль Вошчанка. Магілёў, брацкая друкарня, 1702 г.*





Мцⷭ҇ъ Октѡврїй

Слово на покровъ прⷭ҇тыѧ влⷣчцы нашеѧ бгⷪ҇родицы.

Въ послѣднѧѧ лѣтнаѧ времена, егда умножившымсѧ грѣхомъ нашымъ, умножишасѧ бѣды намъ, ꙗко исполнѧтисѧ словесемъ Павла стⷢ҇о: бѣды ѿ разбойникъ, бѣды ѿ сродникъ, бѣды ѿ ꙗзыкъ, бѣды во градѣхъ, бѣды въ пустынѣ, бѣды въ мори, бѣды во лжебратїи; егда исполнѧющымсѧ словесемъ и самогѡ Гдⷭ҇а: востанетъ ꙗзыкъ на ꙗзыкъ, и царство на царство, и будутъ глади и пагубы и трусы по мѣстомъ; егда стужаютъ намъ нашествїѧ иноплеменникъ, междꙋ собныѧ брани, и смертоносныѧ раны; тогда Прⷭ҇таѧ и Преблⷭ҇веннаѧ Дв҃а Мр҃їѧ Мт҃и Гдⷭ҇нѧ, подаетъ намъ Покровъ свой въ защищенїе, да ѿ великихъ насъ бѣдъ свободитъ. ѿ глада пагубы и труса защититъ. ѿ брани и раны покрыетъ, и сохранитъ ны подъ своимъ Покровомъ невреждены: Егоже извѣстїе сотворисѧ въ Царствующемъ Кѡнстантинѣ градѣ, въ царство Лва Царѧ блгⷭ҇очестиваго, въ преславной

2 Кор: аі

Мф: кд.

гі Бго-

*Жыцці святых (складзены Дзімітрыем Растоўскім). Пачатак чытанняў на кастрычнік: Слова на Пакровы Прачыстыя Багародзіцы. Магілёў, брацкая друкарня, 1702 г.*



*Тытульны аркуш самай маленькай магілёўскай друкаванай кнігі — «Малітваслоўца» 1743 г. выдання (памер 24° — у 24-ю частку аркуша).*

мічныя» (ад слав. «седмица» — тыдзень). Фармат гэтай кнігі большы, чым папярэдніх, — in quarto. Кніга мае багатую аздобу, складзеную з мастацкіх твораў розных майстроў. Пры гэтым старыя дошкі Максіма Вошчанкі былі выкарыстаны творча — каб гравюры малога фармату пасавалі да фармату большага, выдаўцы зрабілі для старых маленькіх гравюр новыя, шырокія, гравіраваныя рамкі-бардзюры (гэтыя рамкі-дрэварыты не падпісаныя). У пасляслоўі ўдакладнена дата — генвар 1698 г., акафісты называюцца «от древних зводов изследованныи...» (г. зн. сабраныя). Тытульны аркуш надрукаваны ў два колеры. Кніга атрымалася ўрачыстая і прыгожая. Аздоба ніякім чынам не пашкодзіла функцыянальнасці выдання, наадварот — патрэбнае месца ў тэксце лёгка знайсці па адпаведнай ілюстрацыі. Пры акафісце «Усім Святым» знаходзіцца гравюра «Св. Тройца і Усе Святыя», пры акафістах Мікалаю, Пятру і Паўлу адпаведна — выявы гэтых святых, а пры акафісце архангелу Міхаілу да гравюры далучаны верш:

Виденіе огненно доброта чудесна!
Сотвори мя всечудне предстателя десна,
Михаиле Ангелъ, первый Воевода,
Заступниче великій Хрстиянска рода.

Наступным вялікім прадпрыемствам брацкай друкарні стала багата аздобленая (40 гравюр-ілюстрацый) кніга «Ірмолой, альбо Осьмогласник» (1700). Тытульны аркуш і восем гравюр для гэтага выдання выканаў Фёдар Ангілейка[198].

Шырока вядомыя сувязі з беларускімі землямі ВКЛ свяціцеля Дзімітрыя Растоўскага — ён некаторы час служыў у Слуцкім, Жыровіцкім і Віленскім манастырах. Магчыма, кантакты з праваслаўнымі ВКЛ, а таксама наяўнасць добрых майстроў у Магілёве спрыялі справе размяшчэння заказу на выданне тут велізарнай працы Дзімітрыя, патрэбнай і важнай для ўсяго арэала Slavia ortodoxa, — зборніка «Жыцці святых». Першая кніга (жыцці на месяцы верасень—снежань) была надрукавана ў вялікім фармаце (што патрабаваў аб'ём тэксту), з прыгожымі застаўкамі-дрэварытамі на пачатку вялікіх свят (Раство і Пакровы Багародзіцы і інш.). Тытульны аркуш, што выканаў сын друкара Васіль Вошчанка, — гэта не толькі рамка з выявамі выбраных святых, але і (унізе) з відам Магілёва. Краявід, зроблены мясцовым таленавітым мастаком, да сёння застаецца асабліва каштоўным таму, што гэта апошні від Магілёва да татальнага знішчэння квітнеючага горада войскам Аляксандра Меншыкава ў 1708 г.[199] Чаму выданне не было закончана, да канца няясна. Магчыма, з'яўленне новай сталіцы Расіі — Пецярбурга і звязаны з гэтым клопат? Калі ў 1725 г. магілёўскі лаўнік і староста брацтва св. Яна Пётра Аляксандравіч Асіевіч шукаў для друкарні гісера (ліцейшчыка), што сведчыць пра

[198] *Пікулік А. М.* Невядомыя гравюры Ф. Ангілейкі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Новыя даследаванні. Мн., 1989. С. 14—20.

[199] *Шчакаціхін М. М.* Васіль Вашчанка — магілёўскі гравёр канца XVII — пачатку XVIII сталецьця. Мн., 1925; *Пушкін І.* Расейскае войска на Беларусі падчас Паўночнай вайны (па магілёўскіх хроніках) // Зборнік матэрыялаў магілёўскіх чытанняў «Трафім Сурта і яго час». Магілёў, 1993. С. 53—61.



DO
JASNIE WIELMOZNEGO JMCI XIĘDZA
STANISŁAWA
BOHUSZA
SIESTRZENCEWICZA
BISKUPA BIAŁORUSKIEGO
KAWALERA
ORDEROW ORŁA BIAŁEGO Y S. STANISŁAWA
W DZIEN IMIENIN
OD PROWINCYI BIAŁORUSKIEY
S. JERZEGO
ZAKONU KARMELITANSKIEGO
WIERSZ.

ROKU 1781. 8. MAIA.

*Тытульны аркуш панегірыка: «Да яснавяльможнага яго міласці ксяндза Станіслава Богуша Сестранцэвіча, беларускага біскупа, кавалера ордэнаў Белага Арла і св. Станіслава, у дзень імянін ад беларускай правінцыі св. Юр'я ордэна кармелітаў. Верш. 8 мая 1781 году».*



Władza Prawa Natury, jest powſzechne zdanie,
Żadną przemocą aby wzruſzona została
Niemoże, wſzak odwieczne te ludzi mniemanie,
Że jey istoty dzielność, i ſiła niemała.
Jednostaynym porządkiem od wiekow ſię rządzi,
Ani czyni nad przepis, ani kiedy błądzi.

Ztąd

*Першая старонка панегірыка беларускаму епіскапу Станіславу Богушу Сестранцэвічу. Магілёў, 1781 г.*

уласны выраб шрыфтоў, выдавецкая палітыка друкарні была ўжо іншая[200]. Свая шрыфталіцейня дала магчымасць адліць шрыфты вельмі маленькага кеглю для унікальнага выдання «Малітваслоўца» 1743 г. — памер кніжачкі склаў 24-ю долю аркуша; яна лёгка змяшчалася на далоні.

На пачатку XVIII ст. (не раней 1701 г.) Магілёўская брацкая друкарня пачынае выконваць заказы на друкаванне кніг для старавераў. Першым вядомым заказчыкам стаў калужскі купец Е. С. Кадмін. Як правіла, умовай быў максімальна дакладны передрук маскоўскіх даніканаўскіх выданняў. Першым выданнем для старавераў стала кніга «Часоўнік»: фактычна яна была передрукам трох маскоўскіх даніканаўскіх выданняў: «с Часовников двох, в осмуху друкованых в Великой России в... граде Москве» (1615 і 1651 гг.) і «Псалтиря с восследованіем» (1630)[201]. Да канца 1770-х гадоў магілёўскія выданні для старавераў выходзілі з раннімі датамі (1701—1705). Гэты факт можна патлумачыць нежаданнем брацтва пагаршаць адносіны з афіцыйнай рускай праваслаўнай царквой, якая аказвала магілёўскім праваслаўным немалую дапамогу. Усяго, па апошніх падліках, Магілёўская друкарня выпусціла для стараверал 17 выданняў, прычым апошняе («Часоўнік») мела ў выхадных звестках дату 1713 г., але было надрукавана ў 1773 г. ці пазней (філіграні паперы гэтага выдання датуюцца 1773 г.)[202].

Цікавая метамарфоза адбылася пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай і ўключэння Магілёва ў склад Расійскай імперыі. Брацкая

[200] Дакументальныя пацверджанні знойдзены ў фондзе Богаяўленскага мужчынскага манастыра ў Нацыянальным архіве Беларусі (*Киреева Г. В.* Кириллические книги могилевских типографий в фондах Национальной библиотеки Беларуси. С. 82).
[201] *Починская И. В.* Могилевские старообрядческие издания XVIII ст. в собрании старопечатных книг и рукописей Научной библиотеки Уральского государственного университета // Культура и быт дореволюционного Урала: Сборник научных трудов. Свердловск, 1989. С. 81—92.
[202] *Jaroszewicz-Piereslawcew Z.* Starowiercy w Polsce i ich księgi. Olsztyn, 1995. S. 67—69, 147—149.

*Дзесятаглаў. Старонка з літарай «С». Каліграфія Мацея Дзесятага. Вільня — Супрасль, 1502—1507 гг.*



друкарня была зачынена, акалічнасці яе закрыцця і тое, куды падзелася абсталяванне, — невядомыя. Тым часам у 1774 г. распачала працу друкарня рымска-каталіцкай кансісторыі, якая працавала амаль 70 гадоў — да 1844 г. Стваральнікам гэтага прадпрыемства стаў біскуп Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, які дамогся ў 1776 г. дазволу на друкаванне кніг на рускай мове, а з 1780 г. друкарня стала выконваць функцыі губернскай і была абавязана друкаваць афіцыйныя матэрыялы. Друкарня ад пачатку змяшчалася пры Магілёўскім кармеліцкім касцёле, потым у прыгарадным палацы Богуша-Сестранцэвіча ў Пячэрску. Вядома больш за 60 выданняў на польскай, рускай, лацінскай, французскай і нямецкай мовах. Некаторыя афіцыйныя выданні былі двухмоўныя (польска-рускія). Сярод выданняў — творы Богуша-Сестранцэвіча і віншаванні біскупу на дзень нараджэння (8 мая) ад Беларускай правінцыі кармелітаў, першы пераклад на польскую мову «Гісторыі Сіндбада-марахода» (пад назвай «Вандроўны турак», 1789 г.), спісы парафій і духавенства Магілёўскай рымска-каталіцкай епархіі і інш.[203]

**Друкарня Супрасльскага манастыра.** Аб наяўнасці ў адным з найбольш значных цэнтраў кніжнасці ў ВКЛ — Супрасльскім манастыры (заснаваны ў канцы XV ст. на землях навагрудскага ваяводы Аляксандра Ходкевіча, у 50 км ад Гродна)[204] спецыялізаванай майстэрні па перапісцы кніг сведчыць падзел працы некалькіх чалавек для выканання адной кнігі; наклад «Зборнік навук і слоў на нядзелі і ўсялякія святы» складзены з асобных сшыткаў, кожны з якіх перапісаны іншым почыркам[205]. Большасць кнігапісцаў Супрасля — іераманахі і дыяканы, для якіх кнігапісанне — від паслуху. Іранічнае ці шчырае самапрыніжэнне — характэрная рыса іх дапісак, як, напрыклад, на адгорце апошняга аркуша зборніка «Златаструй», што складзены з Словаў Іаана Златавуснага: «Господи Исусе Христе сыне Божии святого ради Иоанна Златоустого помилуй мя грешного окаяннаго ленивого диякона Ануфрие аминь»[206].

Аднак імёны супрасльскіх кнігапісцаў не заўсёды манаскія: Мацей Дзесяты, Іван Праскура. Гэта дае падставу меркаваць, што ў працы манастырскага скрыпторыя ўдзельнічалі свецкія асобы. Супрасльскі прыклад кнігапісца не манаха ў манастырскім скрыпторыі не адзінкавы — у першай чвэрці XVI ст. у манастыры Міколы Старога ў Кітай-горадзе ў Маскве Міхал Медаварцаў, застаючыся асобай свецкай, меў келлю, якая была

**Кнігапісцы Супрасльскага манастыра** *Табліца 13*

| Кнігапісец | Кніга | Дата перапіскі |
|---|---|---|
| 1 Мацей Дзесяты | Дзесятаглаў | 1502—1507 |
| 2 Свяшчэннаманах Паісі | | 1514 |
| 3 Грыгоры Іванавіч | Супрасльскі летапіс | 1519 |
| 4 Іаан | Евангелле вучыцельнае | 1569—1571 |
| 5 Яўстафі | Зборнік твораў аб іншаверцах | 1580 |
| 6 Іван Праскура | | 1593 |
| 7 Ануфрый | Златаструй | XVI ст. |
| 8 Афанасі паповіч | | |
| 9 Афанасі раб божы | Зборнік | |
| 10 Стэфан Каханевіч | Памяннік | 1631 |
| 11 Манах Феафіл | Ірмалой | 1662 |
| 12 Свяшчэннаманах Лявонці | | 1667 |
| 13 Вікарый Антоні Кішчыц | | 1674 |
| 14 Свяшчэннаіераманах Афанасі Свідэрскі | | 1678 |
| 15 Іераманах Гервасі Кішчыц | | 1714 |
| 16 Іераманах Аляксей Плашковіч | Службоўнік | |

[203] *Мальдзіс А.* Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст. С. 63.

[204] *Николай (Далматов).* Супрасльский Благовещенский монастырь: Историко-статистическое описание. СПб., 1892.

[205] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 258.

[206] Тамсама. № 238.

*Дзесятаглаў. Канец аўтабіяграфічнай дапіскі Мацея Дзесятага і яго ж (?) запіс тайнапісам. Вільня — Супрасль, 1502—1507 г.*



хощѣ. а азъ чтъ есмь ѿ своего обѣта. ежеѡбѣщахся цр҇кви бж҇ии
послоужити, ежемнѣ гь҇ бъ поможе и вразоуми. то елико могох сътво
рити по моеи гроубости. Сице исъвръших. гь же бъдас храни ть
своего бл҇голѣпиа храмь свои, и съслоужители ст҇го храма своего. иже
право исправлають слово истинны до скончаниа вѣка амин:

Ѡ имени писавшего книгоу сию.

Ащели кто хощет оувѣдѣти имени моего ѿ сновы иѡанновы на
писавшаго книгоу сию. се и то напишоу ему. и нечте, ѡбрящеш ѿ пи
смен имя. и мало томоу есть, м тицис а мь съвъкоуплены.
срѣ не еже число п. по г. сложно въдвоу. конець д, съ е ю. и в подши
п а кончевается. да бжде всего числа, тзг. нарицаеть же ежи и па
ко порекло, прозван ѿ м тре своеа. въсми число къ д мь съвокоу
пи не въедино число е. и приложи к ним ѡсобь с. и пестомшее въчи
слѣ приеъвокоупи къ семоу, а. и ѿ сего въсми р рицею г ши въ сдино.
и к ним приложи, ы. и да боудеть всѣ сим конець д дваши. да бж
де семоу число, кромѣ а. и ы. ф з и. пръвому има, и пеш: а по
слѣни число ѿ има, порекло. в во е пш ж: ѿ хв ис ѿ гк, аминь:

Матфей Десятый


уои.

Оца безмѣрнаго величества.
И Превѣчнаго твоего истиннаго и Единороднаго Сна.
И стаго Утѣшителя Дха.
Ты Царь славы Хрте.
Ты Оца превѣчнаго Снъ еси.
Ты къ избавленію хотя прияти члвка, не возгнушалъся еси Двческа Чрева.
Ты ωдолѣвъ смрти жало, ωтверзлъ еси вѣрующимъ Црство Нбное.
Ты одесную Бга седиши въ славѣ Очей.
Судіею пріити вовѣренъ еси.
Тебе убω молимъ помози рабωмъ твоимъ, ихже чтною Кровію твоею искупилъ еси.
И сподоби съ стыми твоими: въ вѣчной славѣ воей црствовати.
Спаси люди твоя Гди.
И блгви достоянію твоему.
И упаси я, и вознеси я въ вѣки.
Да въ вся дни блгвимъ тя, и восхвалимъ Имя твое въ вѣки, и въ вѣкъ вѣка.
Сподоби Гди в день сей безъ грѣха сохранитися намъ.
Умилосердися на нами Гди, умилосердися на нами.
Да будетъ млсдіе вое Гди на нами, якоже уповаемъ на тя.
На тя Гди уповаемъ, да не постыдимъся въ вѣки.
Аминь.

Въ Хвалу Престыя Животворящія и Нераздѣлимыя Трци, Оца и Сна и Стго Дха: въ честь Преблгвенной Влчци нашей Бци, и всѣхъ стыхъ. Начася печатати сей Служебникъ Року аψкз. Повелѣніемъ Преосщеннаго Архі-Епкпа Митрополиты Всея Россіи Лесωна Кишки. Скончася въ Прассы Тупографічной, Року аψлв. Мца Іанварія дня ді. При Преосщенномъ Архіепкпѣ Митрополитѣ Всея Россіи Адамасіи Шептыцкомъ, и Всечесномъ Архи-Мандритѣ Супрасльскомъ, Іннокентіи Хадкевичу. в Супраслю.

*Службоўнік, канфіскаваны Сінодам у Віцебскай Троіцкай царкве. Калафон гэтага выдання паведамляе, што кнігу пачалі друкаваць у 1727 г., а скончылі 14 студзеня 1732 г. Супрасль, 1732 г.*

кніжнай майстэрняй і выконвала заказы вялікіх князёў маскоўскіх[207].

Пад № 11—14 у гэтым спісе — асобы, якія ўпамінаюцца як стваральнікі кніг, аднак не звязаны з якімі-небудзь захаванымі да сёння рукапісамі. Адным з пачынальнікаў кнігапісання ў Супраслі стаў выдатны каліграф Мацей Іаанавіч (Мацей Дзесяты).

У гісторыі супрасльскага скрыпторыя найбольш плённы быў перыяд архімандрыцтва Сергія Кімбара (1532—1565), які значна пашырыў вытворчасць кніг і павялічыў манастырскую бібліятэку. Па ініцыятыве Сергія зроблены спраўленні ў Евангеллях, што выклікала пратэст аднаго з манахаў — Арсена; Сергій быў выкліканы мітрапалітам Макарыем II на сабор, дзе разбіралася спрэчка супрасльскага архімандрыта з падначаленым яму манахам. Спрэчка закранула праблему перакладу Святога Пісьма і стала прыкметнай з'явай у навуковым жыцці свайго часу — у прыватнасці, пра яе падрабязна піша Сымон Будны ў прадмове да выдання Новага Запавету 1574 г.[208]

Адной з найбольш значных кніг сярэдзіны XVI ст., перапісаных ў супрасльскім скрыпторыі (над ёй працавалі, як найменш, чатыры пісцы) і захаваных да нашага часу, можна назваць «Віленскі хранограф» — рукапісны зборнік, які ўключае тэксты хронік Малалы, Амартала, «Александрыі» і «Гісторыі юдзейскай вайны» Іосіфа Флавія. Творы гэтыя, перакладзеныя на старaславянскую літаратурную мову яшчэ ў перыяд Кіеўскай Русі, напэўна меліся ў бібліятэцы манастыра; у супрасльскім скрыпторыі іх мова набыла выразныя беларускія рысы. У тым месцы, дзе «Гісторыя юдзейскай вайны» Іосіфа Флавія апавядае, як у Ерусаліме замест выгнанага зілотамі галавы юдзейскай іерархіі быў пастаўлены першасвятар з простых сялян, перапісчык дадае (глоса на полі): «Как то и в нас ставят митрополита по своей воли, а не по правилом стых отьць, вчера с псы по полю за заецом, а ныне святительская съвръшаеть а не тако, как стыи Василие говорить: дондеже все степени сщенническыя проидеть, тогда святить бываеть». Даследчыкі звязваюць гэтую глосу з «нарачэннем» у 1555 г. падскарбія Сцяпана Пятровіча Бялькевіча мітрапалітам Кіеўскім, Галіцкім і Усяе Русі[209]. Не прайшоўшы ніжэйшых ступеняў царкоўнай іерархіі, Бялькевіч ужо ў 1556 г. пастаўлены мітрапалітам пад імем Сільвестр. «Беда, беда от таких» — рэзюмуе на палях рукапісу кнігапісец XVI ст. — гэтая рэпліка сведчыць пра апазіцыю мітрапаліту (а значыць, і каралю, з якім кандыдатура мітрапаліта ўзгаднялася), што існавала ў Супрасльскім манастыры.

[207] *Синицина Н. В.* Книжный мастер Михаил Медоварцев // ДИРК. [Сб. 1]. С. 286—317.
[208] *Саверчанка І. В.* Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993. С. 10—11.
[209] *Мещерский Н. А.* История иудейской войны Иосифа Флавия в древнерусском переводе. М.; Л., 1958.



*Літургікон. Разгорт з партрэтам Караля Станіслава Радзівіла работы Лявона Тарасевіча і пачаткам прадмовы мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскага з прысвячэннем Каралю Радзівілу. Вільня — Супрасль, 1692—1695 гг.*

Адным з накірункаў працы супрасльскага скрыпторыя было тыражаванне Словаў святога авы Дарафея. Кароткая біяграфія аўтара ў пачатку 3-га Слова паведамляе, што ён быў манахам манастыра авы Серыда (у Сірыі), а потым ігуменам уласнага манастыра (бліз Газы). Ён жа запісаў для нашчадкаў аскетычныя навукі сваіх настаўнікаў: «айца Іаана, глаголемага пророка», «канечнага маўчання айца Варсануфія» і авы Засімы. Вядомыя два спісы яго твораў — адзін у выглядзе асобнай кнігі, а другі — разам з творамі Ісаака Сірына (Ісаак Сірын і ава Дарафей. Павучанні з рознымі прыбаўленнямі з Супрасльскага манастыра. БАНЛ, F19-63).

Найбольш значнай кампілятыўнай працай супрасльскага скрыпторыя ў канцы XVI ст. з'яўляецца «Ізмарагд» аб'ёмам 690 аркушаў folio. Толькі апісанне гэтага зборніка займае 23 аркушы друкаванага тэксту[210]. Пачынаецца ён словамі Іаана Златавуснага: «Како не ленитися чести книг». Асабліва зачытанымі (у адным месцы нават адарваўся край старонкі) сталі старонкі з артыкуламі пра зайздрасць і нянавісць, словамі пра злых і добрых жанчын. Акрамя гэтага ў «Ізмарагдзе» шмат звестак з гісторыі, ёсць палемічныя артыкулы, у адным з якіх даказваецца, што Ісус Хрыстос нарадзіўся не ў 5500, а ў 6000 г. ад стварэння свету, ёсць артыкул «О книгах их

[210] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 240.



Иже въ святыхъ отца нашегѡ
Іѡанна Златоустагѡ Архіепископа
Константіна Града.

Благословенъ Бгъ нашъ всегда нне и прнѡ, и во вѣки вѣкѡвъ, амінь.

Царю Нбный утѣшителю душе истины, иже вездѣ сый, и вся исполняй, сокровище благихъ и жизни подателю, пріи[ди] и вселися в ны, и ѿчист[и] ѿ всякія скверны, [и сп]аси блаже душы [на]ша.

Слава въ вышнихъ Бгу и на земли миръ, во чловѣцехъ благоволеніе

Гди устнѣ мои ѿверзеши, и уста моя возвѣститъ хвалу твою.

Время еже сотворити Гдеви, Влко благослови.

Благословенъ Бгъ нашъ, всегда нне и присно и во вѣки вѣкѡвъ.

Помолися ѿ мнѣ Влко.

Іерей: Да исправитъ Гдь стопы твоя.
Діаконъ: Помяни мя Влко стый.
Іерей: Да помянетъ тя Гдь Бгъ во црствіи своемъ, всегда нне и прнѡ и въ вѣки вѣкѡвъ.
Діаконъ: И изшедъ изъ олтаря ...

*Літургікон. Пачатак літургіі Іаана Златавуснага. На старонцы відаць знакі пазнейшай (XVIII ст.) рэстаўрацыі. Вільня — Супрасль, 1692—1695 гг.*


WZOR
SWIĘTEY z BOGIEM
Conwersacyi,
w Oyczystey BRAMIE
Jáśnie Wielmożney IMCI
PANNIE PANNIE
TERESSIE
z KOZIELSKA
OGINSKIEY
WOIEWODZANCE
Wileńskiey:
dla przykłádu
SERC POBOZNYCH
WYABRYSOWANY.
w SUPRASLU w Drukárni WW. Oycow Bázyliánow. Roku Páńskiego 1739.

*Тытульны аркуш кнігі «Wzor swiętey z Bogiem Conwersacyi...». Супрасль, 1739 г.*

же подобает чести и внимати, их же не внимати ни чести», а пры канцы дадзены габрэйска-славянскі слоўнічак з перакладам 79 слоў і 12 назваў месяцаў. Складанне такога багатага па змесце зборніка было б немагчыма без выкарыстання манастырскай бібліятэкі і без інтэлектуальнай працы перапісчыка, які сваё імя — Іван Праскура — і час заканчэння працы (чэрвень 1593 г.) абазначыў тайнапісам.

Арганізацыя ў манастыры друкарні дала новыя магчымасці пры вырабе рукапісных кніг, у прыватнасці, ужывалі друкарскія клішэ для загалоўных літар [Службоўнік, укладзены Багданам Ягаткоўскім у Сеніцкую царкву ў 1733 г. (БАНЛ, F19-198)] і Службоўнік з прыпіскай «Сія книга монастыря Супрасльскаго. Ведомо буди яко сія книга, глаголемая Требник альбо епископскій Понтыфикал есть власная монастыра Супраслскаго, написаная честным отцем Алексіем Плашкевечом чина святого Василія Великаго, профессом тогож манастыра» (БАНЛ, F19-197). Часам манах-перапісчык не называў сваё імя, як, напрыклад, перапісчык кнігі «Epitome... альбо Кароткая навука рускім святарам, што не могуць чытаць лаціны. Напісана Іосіфам Пяткевічам, старшым быценскім у 1685, а скапіявана адным з манахаў супрасльскіх у 1700 г.»[211]. У XVIII ст., калі ў манастыры ўжо працавала друкарня, кнігапісцы выкарыстоўвалі для аздобы рукапісаў гравіраваныя застаўкі і ініцыялы.

Кнігадрукаванне ў манастыры пачалося ў канцы XVII ст., пры мітрапаліце Кіпрыяне Жахоўскім. Усяго, па падліках Ю. Лабынцава, за час свайго існавання Супрасльская друкарня выдала больш чым 400 выданняў, з якіх больш чым 100 — кірылічныя. Астатнія — на лацінскай, польскай і французскай мовах[212]. Па колькасці друкаваных аркушаў кірылічных выданняў мелася значная перавага над выданнямі лацінскім алфавітам[213].

У 1695 г. паводле загаду мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскага ў Супрасль з віленскага Свята-Троіцкага манастыра быў прывезены друкарскі варштат і іншае абсталяванне і арганізавана друкарня, якая закончыла друкаванне «Службоўніка, альбо Літургікона». У выніку кніга мае дзве даты выдання: на тытульнам аркушы: Вільня, 1692 г., а ў канцы, у калафоне — Супрасль, 1695 г. Выдатная аздоба кнігі: тытульны аркуш гравіраваны на медзі Лявонам Тарасевічам і партрэт Карла Радзівіла работы таго ж майстра.

Пра абставіны ўзнікнення друкарства ў Супраслі сведчыць тэстамент Кіпрыяна Жахоўскага: незадоўга перад смерцю (25 кастрычніка 1693 г.) мітрапаліт успамінаў «друкарню мою виленскую с паасобніками тысяча пятьсот плюс минус, из которых каждый стоит по крайней мере талеров битых семь, которую я препровадил в Супрасль, желая продолжыть [друкаванне] изданием Требника и Катехизму и отцов к рукоделию приучить...»[214]. Друкарня, згодна з тэстаментам,

[211] Описание Рукописного отделения Библиотеки императорской Академии наук. Т. 2. Пг., 1915. С. 144.
[212] *Лабынцев Ю. А.* Памятники древнерусской книжности и литературы в старообрядческих изданиях Супрасльской типографии (XVIII в.) // ТОДРЛ. 1981. Т. 36. С. 210.
[213] *Cubrzynska-Leonarczyk M.* Katalog druków supraskich. — Усяго ўлічана 502 выданні, з іх 413 — да 1795 г.
[214] Аддзел рукапісаў НБВУ, Fn 2132.

павінна была перайсці да архімандрыта Пінскага Ляшчынскага манастыра Мялета Дарашкоўскага, яму ж прызначаліся і большасць паасобнікаў нераспрададзенага «Службоўніка». Аднак калі ў Супрасльскім манастыры спецыяльная камісія разгледзела тэстамент мітрапаліта і яго даўгі манастыру (больш за 6000 злотых), то вызначыла, што ў надзейным месцы схавана 1300 паасобнікаў «Службоўніка», з якіх манастыр атрымае 500 (а не 150, як пісалася ў тэстаменце) у кошт пагашэння доўгу нябожчыка мітрапаліта, а кожны паасобнік павінен прадавацца па 20 тынфаў альбо злотых (што нашмат менш, чым прапануецца ў тэстаменце — 1 талер роўны 6 злотым, зн. 5 бітых талераў роўныя 30 тынфам альбо злотым)[215]. Да 1697 г. друкарня заставалася ў Супраслі. У ёй працягвалі кнігавыданне — выйшлі «Жытие преподобного отца нашего великого Онуфрия царевича перскаго» (1696), «Последование постригу...» (1697) — першая, як лічыць Юрый Лабынцаў, кірылічная кніга з друкаванымі нотамі[216].

Першым кіраўніком друкарні ў Супраслі стаў манах-кніжнік Самуіл Піліхоўскі, які добра ведаў «рускую» і польскую мовы, перакладаў з грэцкай на славянскую; ён перапісаў некалькі Службоўнікаў, Пантыфікалаў і Статутаў. «Службоўнік» пад рэдакцыяй а. Самуіла Піліхоўскага паказвае «не толькі асноўныя моманты лацінізацыі абрадавага боку уніяцкай царквы, але і адначасова асноўную сувязь з кірыла-мефодзеўскай традыцыяй»; гэтая кніга з'яўляецца «важнейшым сведчаннем пераходнасці ад Усходу да Захаду»[217].

У базыльянскім ордэне памяталі, аднак, што большасць маёмасці Супрасльскай друкарні належала віленскаму манастыру св. Тройцы. За тое, каб друкарня была перавезена зноў у Вільню, энергічна змагаўся святатроіцкі архімандрыт Леў Кішка. Пасля яго хадайніцтва мітрапаліт Леў Шлюбіц-Заленскі загадаў (у 1697 г.) вярнуць віленскаму манастыру ўзятае адтуль абсталяванне: «друкарскі варштат у камплекце адзін, пунсоны і матрыцы, лішнія славянскія, польскія і лацінскія літэры і матрыцы»[218]. Аднак стаўшы базыльянскім протаархімандрытам (генералам ордэна), Леў Кішка змяніў сваю пазіцыю па гэтым пытанні. На Наваградскай (XXV) кангрэгацыі ордэна была прынята рэзалюцыя: вярнуць друкарскую маёмасць «у пазнейшы больш спрыяльны час»[219]; у рэшце рэшт абсталяванне так ніколі і не было вернута.

У працы друкарні пасля 1697 г. быў перапынак. Пра тое, што Л. Кішка імкнуўся аднавіць кнігавыданне, сведчаць дакументы Бяльскай капітулы ордэна, якая адбылася 9 верасня 1709 г. Прадстаўнік Супрасльскага манастыра Іяхім Пешка прасіў капітулу дазволіць прадаваць кнігі, што былі і будуць надрукаваны ў Супраслі. У 1710 г. манастырская друкарня атрымала ад Аўгуста II кара-




*Разгорт з гербам Агінскіх у выданні «Wzor swiętey z Bogiem Conwersacyi...». Супрасль, 1739 г.*

[215] «Службоўнік» 1692/95 гг. прадавалі доўга: захаваўся паасобнік з прыпіскай 1730 г., згодна з якой яго купіла «раба Божія Евдокія... за золотых одинадцять доброи монеты на польския рахуючи золотых двадцять и два...» (Аддзел рукапісаў РНБ, V.4.3). Характэрна, што спачатку кошт кнігі абазначаны ў злотых літоўскіх, якія былі ў два разы даражэйшыя за злотыя польскія.

[216] *Лабынцев Ю. А.* Кирилловские издания Супрасльской типографии // Методические указания в помощь составителям Сводного каталога рукописных книг, хранящихся в СССР. Вып. 3. М., 1978.

[217] *Ліпатаў А. В.* [Рэц. на кн.: *Щавинская Л. Л.* Литературная культура белорусов Подляшья XV—XIX вв.: Книжные собрания Супрасльского Благовещенского монастыря. Мн., 1998] // Кантакты і дыялогі. 1999. № 5. С. 32—36.

[218] АСД. Т. 9. Вильна, 1870. С. 310—311.

[219] Тамсама. Т. 12. С. 151.

*Тытульны аркуш супрасльскага буквара. 1792 г.*


Бꙋкварь
Ѧзыка
славенскаго
чтенія и писанія оучи
тисѧ хотѧщим, в по
лезное рꙋководженіе
Издадесѧ в Обители
Сꙋпрасльской
тщаніем Инокѡв
Чина стаго Василіѧ
Великаго
Лѣта ѿ рж҃тва Хр҃това
ахчв.

леўскі прывілей, а ў 1713 г. Л. Кішка дамогся дазволу на кнігавыданне ад царкоўных улад у Рыме, у Кангрэгацыі Прапаганды Веры. Кнігадрукаванне было адноўлена ў 1711 г. выданнем твора дамініканскага манаха з суседняга манастыра ў Харошчы, доктара тэалогіі Аўгусціна Ракевіча. За год да гэтага ў Супраслі быў арганізаваны папяровы млын, прадукцыю якога выкарыстоўвала друкарня[220].

З 1714 г. Супрасльская друкарня выдае календары (вядома пра выданне «Каляндар польскі і рускі» на 1714, 1717 і 1722 гг., які склаў з разліку і на праваслаўных і на каталікоў прускі астролаг Ян Рэтцэн). Кракаўскі універсітэт меў прыярытэтныя правы на выданне матэматычнай літаратуры і календароў, ён падаў манастыру судовы іск. Па хадайніцтве доктара філасофіі і медыцыны і прафесара матэматыкі універсітэта Ігната Міхалоўскага 13 студзеня 1720 г. папская нунцыятура выдала дэкрэт, які забараняў друкарскую дзейнасць манастыра. Аднак намаганнямі протаархімандрыта Льва Кішкі 21 чэрвеня таго ж года дэкрэт быў адменены, «паколькі Супрасль ляжыць у іншай правінцыі, належыць да іншага абраду і не падпарадкоўваецца акадэмічнай юрысдыкцыі». У адказ універсітэт падпісаў (у 1723 г.) мандат, які абавязваў манастырскую друкарню не выдаваць календары без апрабацыі універсітэта. Кепская захаванасць календароў, як і адсутнасць пісьмовых крыніц па гэтай справе, не дазваляюць прасачыць за ходам барацьбы. Ва ўсялякім выпадку, адзін з захаваных супрасльскіх календароў разлічаны на 1732 г.[221] Не ўсе падрыхтаваныя да друку кнігі траплялі на супрасльскі варштат — рукапіс «Кнігі цудаў, якія адбыліся перад абразом Маці Божай у Старым Корніне», што быў падрыхтаваны ў 1724 г. (пра яго згадваецца ў паперах візітацыі 1727 г.), па невядомых прычынах не надрукавалі — толькі праз 270 гадоў гэта зрабіў беларускі гісторык Антон Мірановіч[222].

Важным накірункам выдавецкай дзейнасці манастыра быў выпуск кніг для навучання грамаце. Хутка пасля арганізацыі манастырская друкарня выпусціла «Буквар славянского языка» (1715) і «Лексікон, сіреч Словестнік словенскій» (1722). Пазней выданне «Лексікона» ў Супраслі не паўтаралася,[223] а буквар быў выдадзены яшчэ чатыры разы — у 1727, 1759, 1792 і 1795 гг. З іншых падручнікаў можна назваць «Азбуку» (1781), «Псалтыр», у якім напачатку маецца тэкст «Наказаніе ко наставникам, яко им учити детей грамоте» (1780) і «Часоўнік», які пачынаецца казаннем пра настаўнікаў, «іжэ вучаць младых отрочат грамаце» (пасля 1796 г.).

Прэфект друкарні Мялет Асухоўскі ўспамінаў у 1788 г., што ён ведаў (са слоў епіскапа Антаніна Младоўскага) пра дзейнасць друкарні пасля Замойскага сабору 1720 г.: мітрапаліт Леў Кішка надрукаваў новыя літургічныя кнігі, якія змяшчалі ўнесеныя Саборам змены, і «добраахвотна-прымусовым» спосабам распаўсюдзіў іх на ўсе пад-

[220] *Cubrzyńska-Leonarczyk M.* Oficyna supraska 1695—1803. Dzieje i publikacje unickiej drukarni ojców bazylianów. Warszawa, 1993. S. 37—40.
[221] Ibidem. S. 42.
[222] *Mironowicz A.* Księga cudów przed ikoną Matki Bożej w Starym Korninie dokonanych. Białystok, 1997.
[223] Выданне «Лексікона» тройчы (у 1751, 1756 і 1804 гг.) паўтарыла Пачаеўская базыльянская друкарня.



*Буквар. Адгорт тытула. Славянскія літары агласаваны лацінскімі. Супрасль, 1792 г.*

парадкаваныя яму епіскапствы (усяго каля 10 000 цэркваў). На атрыманыя грошы будавалася варшаўская рэзідэнцыя ордэна з капліцай, узводзіліся мураваныя пабудовы ў Супраслі. Калі ў 1728 г. епіскапы Холмскі і Перамышльскі не ўнеслі грошы за Службоўнікі і Прыпадкі (Kazusy), то мітрапаліт спецыяльна пасылаў вікарыя Харкевіча спагнаць грошы на будаўніцтва манастыра, нагадваючы, што «сцены сохнуць». У дакументах называюцца і цэны (досыць высокія) на супрасльскія кнігі: Службоўнікі (mszały) — па 40 злотых, Трэбнікі (rytuały) — па 10 тынфаў, Малітваслоўі (brewiarze) — па 8 тынфаў[224].

З цягам часу ў бызыльян ужо склалася традыцыя выдання Службоўніка. «Службоўнік, альбо Літургікон» 1763 г. ва ўсім імкнецца паўтарыць першыя выданні. І калі па якасці і акуратнасці друку гэтая задача вырашаная, то ўзнавіць выдатны медзярыт тытульнага аркуша працы Лявона Тарасевіча пазнейшыя гравёры не змаглі — новы тытул па кампазіцыі нагадвае стары, аднак тэхнічныя і мастацкія якасці гэтай гравюры шмат ніжэйшыя.

Пры архімандрыцтве Антаніна Младоўскага (1760—1778) манастырская друкарня пачала выпускаць кнігі па заказах старавераў. Гісторык кнігі З. Ярашэвіч-Пераслаўцаў падлічыла, што ў Супраслі ад 1772 і да пачатку 1790-х гг. выдадзена 45 назваў, што складае каля 5 тысяч аркушаў[225]. Большая частка накладу заказных выданняў вывозілася ў Расійскую імперыю, дзе іх чытачамі былі людзі з ніжэйшых пластоў грамадства — у большасці сяляне і гандляры[226]. Кнігі для мясцовага рынку былі традыцыйныя, прынамсі буквары. Гісторык мастацтва Віктар Шматаў звяртае ўвагу на святочную прыгажосць гравіраванага вобраза Маці Божай з анёламі ў «Буквары» 1761 г. Як магчымага

[224] АСД. Т. 9. С. 391—392.
[225] *Jaroszewicz-Pieresławcew Z.* Starowiercy w Polsce i ich księgi. S. 75.
[226] *Лабынцев Ю. А.* Читатели супрасльских старообрядческих изданий и их записи на экземплярах собрания Отдела редких книг ГБЛ // Федоровские чтения 1976: Сборник научных трудов. М., 1978. С. 77—82.


ВОПРОСЫ
Еллино-россійскій
ѿвѣтми Стыхъ Ѿцъ
ѿ Книгъ Црковныхъ
избранными, раздрѣшенныи
тщаніемъ
Единнаго Правовѣрнаго
Презвітера
Лѣта Гдня аѱеі.
PYTANIA GREKO-RUSKIE
Odpowiedźmi SS. Oycow
z Xiąg Cerkiewnych
wybranemi, rozwiązane
Stárániem
Iednego Prawowiernego
KAPŁANA.
Roku Pańskiego
1715.

Адно з першых двухмоўных супрасльскіх выданняў: «Грэка-рускія пытанні з адказамі св. айцоў выбранымі з царкоўных кніг». Імя аўтара на тытульным аркушы не пазначана, але ў асобніку РНБ ёсць аўтограф, які яго раскрывае: «Pro Domo Professa Vilnensi offert author P. Ioannes Szapiell. Soc. Jesu». Супрасль, 1715 г.

выканаўцу гэтай гравюры ён называе Паўла Камара[227]. Ёсць верагоднасць, што дакладныя копіі аздобы маскоўскіх даніканаўскіх выданняў зрабіў для Супрасльскай друкарні мастак Антоні Грушэцкі, які працаваў у манастыры да 1774 г.[228]

Друкарня ў Супраслі выдавала даволі шмат мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры па-польску. Большай часткай гэта былі пераклады з лацінскай і новых еўрапейскіх моў (па два выданні вытрымалі «Падарожжа капітана Гулівера» Джанатана Свіфта — 1784, 1787 гг. і кніга медыцынскіх рэцэптаў Рыхтэра — 1784, 1787 гг.), часам — вынікі творчай працы мясцовых аўтараў, напрыклад «Лексікон» 1722 г. — істотна перапрацаваны слоўнік Памвы Бярынды. Звычайнымі сталі і двухмоўныя выданні з паралельнымі тэкстамі, як, напрыклад, малы Катэхізіс 1788 г. пад назвай «Общих и естественных поученыи христианского благочестия». На апошняй старонцы гэтай кнігі надрукавана «Перасцярога» супраць чарнакніжжа: «У тым Катэхізісу ўпамінаецца чарнакніжжа, каб катэхізатар, катэхуменаў павучаючы, засцерагаў, каб бабскім байкам пра чарнакніжжа і варажбу не верылі» (арк. 177).

Праз гнуткую палітыку кампрамісу і выкарыстання сваіх пераваг друкарня супрасльскіх базыльян стала унікальным выдавецкім цэнтрам, дзе друкаваліся кнігі для праваслаўных-старавераў, славянская богаслужбовая і двухмоўная чэцця рэлігійная літаратура, падручнікі славянскай чытанкі для дзяцей і дарослых (менавіта такім падручнікам быў, напрыклад, супрасльскі «Буквар» 1792 г., які вучыў вымаўляць славянскія літары, транскрыбіруючы іх лацінкай), а таксама сучасная еўрапейская мастацкая літаратура (якую немагчыма было выдаць у падпарадкаваных каталіцкім уладам друкарнях). Іх прадавалі як у ВКЛ, так і ў польскіх каронных землях — памежнае геаграфічнае становішча Супрасля і наяўнасць падвор'я ў Варшаве гэтаму спрыяла.

У 1790 г. кароль Станіслаў Аўгуст даў Супрасльскаму манастыру прывілей друкаваць розныя творы, дазволеныя духоўным начальствам і незабароненыя, а таксама права раздаваць і прадаваць свае выданні «ва ўсялякім месцы».

Крах Рэчы Паспалітай і знікненне з палітычнай карты Вялікага Княства Літоўскага негатыўна адбіліся на эканамічным становішчы манастыра. У 1803 г. друкарня была разам са словалітняй і іншымі «орудіями и снарядами» прададзена беластоцкаму друкару Апельбауму, але той у 1806 г. збанкрутаваў; куды дзелася друкарскае абсталяванне — невядома[229]. Усяго за час існавання друкарні ў Супраслі выйшлі 502 выданні, да 1795 г. — 413 назваў[230].

**Піярская друкарня.** У 1722 г. у Вільні з'явіліся манахі ордэна піяраў. Праз чатыры гады яны атрымалі прывілей ад Аўгуста II, якім кароль і вялікі князь дазваляў ім жыць у Вільні і займацца выхаваннем моладзі. У 1736 г. была створана Літоўская правінцыя

[227] *Шматаў В. Ф.* Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. С. 159.
[228] *Jaroszewicz-Piereslawcew Z.* Starowiercy w Polsce i ich księgi. S. 76.
[229] АСД. Т. 9. С. 407.
[230] *Cubrzyńska-Leonarczyk M.* Katalog druków supraskich.



206

мовилибы на Римлян, якω против Канону Апстскому постася. Но ничтоже се естъ в нихъ, ибо и самъ Сократъ. Кни. е. Гла: кв. Анстъ. спи. в Мобунцін. аχоз: безвсякаго поношенія такω пишетъ: Римляне въ всяку Суботу постатся. Прочее же и нашін благочестивін Черньци, такожде в Суботу постяся, бо неядатъ мяса, чи суть же для того убійци Хвы?

ВОПРОСЪ Г.

Почто Црковъ Римская, исправи Календаръ? Отвещаю.

а. Сего ради, да соравненіе нощи Весенной, еже иматъ быти коло двацатого Марта, егда слонце входитъ въ овень, от егоже по ветхому Календару единадцатми днями отступи, на свое место возвра-

207

przećiwko onemu Kánonowi poszczą, ále nic w nich tego nie masz, bá owszem Sokrates l: 5. c. 22. fol: 288. Moguntiæ 1677. bez żadney przymowki pisze tak: Rzymianie prawi każdey Soboty poszczą. Do tego, Czerńcy Błahoczestywi tákże, iak y Rzymianie poszczą Soboty, bo mięsa nie iedzą, á przećie ich nie nazywamy záboycámi Chrystusa.

PYTANIE 3.

Dlá czego Cerkiew Rzymská Kalendarz popráwiłá?

Odpowiadam.

1. Dlatego, ážeby porownánie dnia z nocą, ktore powinno bydź około 20. Márca, kiedy Słońce w Báráná wstępuie, od ktorego według stárego Kalendárza iedynástą dniámi odstąpiło, na swe się mieysce

przy-

«Грэка-рускія пытанні з адказамі св. айцоў выбранымі з царкоўных кніг». Разгорт з пытаннем 3 у параграфе 9: «Для чаго Рымская царква выправіла каляндар?» Супрасль, 1715 г.

ордэна (праіснавала да 1843 г.). Піяры адчынілі ў Вільні ніжэйшыя школы, а потым, па ініцыятыве Станіслава Канарскага і працай Лукі Расалецкага, Мацея Догеля і Тарквата Тымінскага, залажылі калегіум. Задумана было таксама адчыніць вышэйшую навучальную ўстанову — гімназію. Педагагічная дзейнасць піяраў выклікала актыўны пратэст з боку езуітаў. Спасылаючыся на прывілеі сваёй «Акадэміі», яны сцвярджалі, што выкладанне ў Вільні і яго ваколіцах — толькі іх выключнае права. Пачаўся доўгатэрміновы працэс, пад час якога ў 1727, 1731 і 1733 гг. бакі апелявалі да Трыбунала Апостальскай Сталіцы ў Рыме. Рашэнні Рыма былі спрыяльныя для піяраў. Нягледзячы на гэта, езуіты не спынялі барацьбу да 1738 г., пакуль не атрымалі рашэнне задворнага асэсарскага (апеляцыйнага) суда на сваю карысць. У тым жа годзе быў выдадзены дэкрэт Аўгуста III, які загадваў зачыніць піярскія школы ў Вільні і яго ваколіцах, што і было зроблена да 1741 г.

Некаторай згоды паміж сабой піяры і езуіты дасягнулі у 1753 г., калі езуіцкі правінцыял Себасцян Выкоўскі заключыў у Нясвіжы з піярамі дамову, згодна з якой піяры мелі права трымаць шляхецкую школу (канвікт)[231].

Заснавальнікам піярскай друкарні быў вядомы знаўца міжнароднага права, былы настаўнік Шчучынскай піярскай школы Мацей Догель. Праект друкарні існаваў ад часу стварэння калегіума і толькі доўгая спрэчка з езуітамі перашкаджала яго рэалізаваць. Пасля заключэння нясвіжскага пагаднення Догель, які хацеў мець друкарню на высокім узроўні, на уласныя сродкі купіў абсталяванне ў Францыі. Адначасова ён атрымаў ад караля Аўгуста III прывілей на адкрыццё пры калегіуме друкарні. Кароль не толькі даў дазвол (у Варшаве, 6.11.1754), але і ўзяў новае

→ «Codex diplomaticus...». Франтыспіс і тытул першага тома. Шматтомная публікацыя дыпламатычных дакументаў Мацея Догеля да сёння з'яўляецца каштоўнай крыніцай па гісторыі міжнародных сувязей Беларусі, Літвы і Польшчы. Вільня, 1758 г.

[231] *Moszyński A.* Żywot Macieja Dogiela z przydaniem wiadomości o sporze xx. pijarów wileńskich z jezuitami wileńskiemi r. 1723—1753. Wilno, 1838.



# CODEX
# DIPLOMATICVS
## REGNI POLONIAE
ET
## MAGNI DVCATVS LITVANIAE
IN QVO

**PACTA, FOEDERA, TRACTATVS PACIS,**
MVTVAE AMICITIAE, SVBSIDIORVM, INDV-
CIARVM, COMMERCIORVM,

NEC NON

**CONVENTIONES, PACTIONES, CONCORDATA,**
TRANSACTIONES, DECLARATIONES, STATVTA, ORDINATIONES,
BVLLAE, DECRETA, EDICTA, RESCRIPTA, SENTENTIAE ARBITRALES,
INFEVDATIONES, HOMAGIA

PACTA ETIAM MATRIMONIALIA ET DOTALIA

LITERAE ITEM REVERSALES, CONCESSIONVM,
LIBERTATIS, IMMVNITATIS, DONATIONVM, OPPIGNORATIONVM, RENVN-
TIATIONVM, ERECTIONVM, OBLIGATIONVM, VENDITIONVM, EMPTIONVM,
PERMVTATIONVM, CESSIONVM, PROTESTATIONVM

ALIAQVE OMNIS GENERIS

PVBLICO NOMINE ACTORVM ET GESTORVM

**MONVMENTA**

NVNC PRIMVM EX ARCHIVIS PVBLICIS ERVTA AC IN LVCEM PROTRACTA

EXHIBENTVR.



VILNAE
Ex Typographia Regia & Reipublicae Collegii C. C. R. R. Scholarum Piarum.
M DCC L VIII.

выдавецтва пад сваю апеку, надаўшы яму афіцыйны тытул «Typografia Regia et Reipublicae». Новая друкарня, згодна з прывілеем, павінна была служыць для грамадскай карысці («pro publico Reipublicae usui»), што перавышала задачы звычайнай ордэнскай друкарні. Першым выданнем новага прадпрыемства павінен быў стаць падрыхтаваны Догелем збор знешнепалітычных трактатаў «Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae». I хоць дзеля аховы аўтарскіх правоў на гэтае выданне атрыманы (10. XII. 1754) асобны прывілей Аўгуста III, аднак шэраг абставін перашкаджаў яго з'яўленню на свет. Катастрофай стаў пажар 1754 г. у Варшаве, што знішчыў сабраныя для выдання рукапісы. У 1755 г. пад уплывам езуітаў была прынятая пастанова, якая забараняла Догелю выдаваць «Кодэкс...» без пісьмовага дазволу канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага (таксама і кароннай канцылярыі).

Калі ўсе перашкоды былі пераадолены і Догель атрымаў дазвол на друкаванне першых трох тамоў, выхад кнігі затрымаўся з-за памылкі на тытульным аркушы. Памылку заўважылі, калі ўжо было надрукавана некалькі соцень паасобнікаў. Нарэшце 19 лістапада 1758 г. на спецыяльнай аўдыенцыі Догель урачыста перадаў каралю і вялікаму князю літоўскаму Аўгусту III першы том сваёй працы з прысвячэннем. Пазней выйшлі пяты і чацвёрты тамы, а другі і трэці так і не пабачылі свет. Сярод іншых выданняў піярскай друкарні можна адзначыць гістарычныя творы: два выданні (1762 і 1772 гг.) «Звычаяў старажытных рымлян», «Uwagi nad przyczynami wielkosci y upadku Rzeczypospolitey Rzymskiey» Шарля Луі Мантэск'ё, чатыры выданні (1761, 1769, 1778 і 1698 гг.) «Каротка сабранай свяшчэннай гісторыі Старога і Новага Запаветаў» і пераклад Бернарда Сіруцa кнігі Жана Руссэта дэ Мюссі пра расійскую гісторыю: «Rousset de Missy, Jean. Historya Państwa Rossyyskiego napisana językom oyczystym przez Iwana Nestesuranoja Wytłómaczona po Polsku Przez X. Bernarda Sirucia Schol. Piar. T. 1. — w Wilnie, w drukarni J. K. M. y Rzeczypospolity u XX Scol. Piar., Roku 1781».

Увогуле, пераклады складалі значную частку прадукцыі піярскай друкарні — 22%[232]. З іх 65% — свецкая літаратура і гісторыя, медыцына, тэхніка, педагогіка, вайсковая справа і інш. На працягу XVIII ст. мовы, з якіх перакладалі піяры, размеркаваліся наступным чынам: французская — 61%, лацінская — 31%, італьянская — 6%, англійская — 2%[233]. Французская мова была настолькі распаўсюджаная, што часта праз яе рабіліся пераклады з іншых моў — напрыклад, кніга імператара Фрыдрыха II «Nauka żołnierska» (1771 г., выданне фінансаваў Міхал Агінскі) была перакладзена піярамі не з нямецкага арыгінала, а з французскага перакладу. Гарацый у піяраў выйшаў пад назвай «Зборнік сацiраў вершам польскім, адным з літоўскіх абывацеляў выкладзены». Гэтым «літоўскім абывацелем» быў Марцін Матушэвіч, брэсцкі кашталян, аўтар мемуараў «Diariusz życia mego ile spamiątac mogą».

**Гродзенская друкарня А. Тызенгаўза.** Пытанне аб тым, калі друкарня ўзнікла ў Гродне, застаецца нявысветленым да сёння. У «Перапісе жыхароў Гродна», што датаваны жніўнем 1794 г., названа «друкарня паезуіцкая», г. зн. якая некалі належала ордэну езуітаў[234]. На жаль, нам невядома якая-небудзь яе прадукцыя. Пасля 1773 г. друкарняй апекаваўся гродзенскі староста (ён жа надворны падскарбій) Антоні Тызенгаўз. Дакументы яго архіва паказваюць, што шмат інвентару (адзін варштат і камплекты шрыфтоў) Тызенгаўз купіў у Вільні, у кіраўніка Віленскай акадэмічнай друкарні Марціна Пачобута-Адляніцкага. З Вільні прыехалі таксама наборшчык, друкар і два вучні, два карэктары, некалькі пераплётчыкаў і іншы персанал. У Кёнігсбергу былі закуплены новыя шрыфты[235]. У 1775 г. для арганізацыі словалітні Тызенгаўз запрасіў з Сокаля майстра Земеля Нохіма — наяўнасць яе спрыяла развіццю Гродзенскай друкарні. У выхадных звестках выдадзеных у Гродне кніг друкарня называецца па-рознаму: «Друкарня Яго Каралеўскай Міласці», «Надворная Яго Каралеўскай Міласці», «Скарбовая», «Тызенгаўза». Найбольш важнай яе прадукцыяй былі дыярыушы і канстытуцыі — друкаваныя справаздачы і пастановы сойма, органа

[232] Для параўн.: Віленскі універсітэт выдаваў перакладаў прыкладна 11% ад усіх друкаў.
[233] *Jackevičienė I.* Vilniaus pijorų spaustuvės užsienio autorių leidiniai // Knigotyra. 1999. 35. P. 107–121.
[234] Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od średniowiecza do 1939 roku). Białystok, 1997. S. 67.
[235] *Jaroszewicz-Pieresławcew Z.* Starowiercy w Polsce i ich księgi. S. 87.

дзяржаўнага кіравання Рэчы Паспалітай, які адбываўся кожныя два гады, па чарзе, у Гродне і Варшаве. Варшаўскія Канстытуцыі друкавала Варшаўская «друкарня Яго Каралеўскае Міласці ў ксяндзоў Піяраў» у тым самым фармаце, што і Гродзенская. Часта сустракаюцца збрашураваныя паміж сабой варшаўскія і гродзенскія Канстытуцыі, падабраныя па храналогіі соймаў[236]. Забеспячэнне патрэб сойма і Трыбунала ВКЛ вымагала шмат працы па падрыхтоўцы іх прадукцыі. Прынамсі, дапаможнік «Судовы працэс, альбо Спосаб працы ў Трыбунале... Вялікага Княства Літоўскага» да 1782 г. меў ужо пяць выданняў[237]; асобнымі брашурамі выдаваліся прамовы дэпутатаў.

Акрамя кніг друкарня выдавала тэатральныя праграмы для спектакляў гродзенскага тэатра, вядомага як тэатр Тызенгаўза. Гісторыя яго пачынаецца ў 1774 г. з тэатральна-музычнай школы надворнага падскарбія Вялікага Княства Літоўскага Антонія Тызенгаўза. Вучняў для школы набіралі ў Паставах, Літвянах, Ігумене (зараз Чэрвень), Хатынічах, Быцені і іншых маёнтках графа. Тызенгаўз прыкладаў усе намаганні, каб яго трупа магла скласці канкурэнцыю тэатрам Нясвіжа, Слоніма і Варшавы. Арганізацыя тэатра і тэатральнай школы пачалася з запрашэння вядомых музыкантаў, спевакоў і харэографаў з Італіі, Францыі і Германіі. На пасаду балетмайстара ў 1773 г. запрасілі маладога неапалітанскага харэографа Каэтана Пецінацці — ён навучаў танцам хлопчыкаў і дзяўчынак з наваствoранай Гродзенскай балетнай школы, а таксама сам выступаў як танцоўшчык. У 1777 г. кантракт з Пецінацці быў прадоўжаны. Трупа падрыхтавала некалькі балетных спектакляў, якія ставіліся ў 1778 г.

Дагэтуль былі вядомыя тры балетныя пастаноўкі гродзенскага тэатра (пакуль ён не пераехаў спачатку на гастролі, а потым і назаўсёды ў Варшаву): «Сялянскі балет», пастараль у адной дзеі; «Другі балет пекараў», камічны балет у адной дзеі; «Квартэт дудароў», камічны балет у адной дзеі[238].

Балетмайстрам усіх пастановак выступіў Каэтан Пецінацці.

Даследуючы прадукцыю Гродзенскай друкарні, рэпертуар гродзенскага балета можна


HISTORYA
WOJENNA
Krótko Wyrażająca Pierwszą
WOYNĘ PRUSKĄ
i Dawnieyszą
BAWARSKĄ
Zaczętą Roku 1741. a skończoną Roku 1748. Utrzymywaną przez lat 7.
MIĘDZY
AUSTRYĄ, ANGLIĄ, HOLLANDYĄ, SARDYNIĄ i ROSSYĄ
z jedney,
A
FRANCYĄ, HISZPANIĄ, BAWARYĄ, SYCYLIĄ i PRUSAMI
z drugiey strony.
PRZEŁOZONA z FRANCUZKIEGO
PRZEZ
W. JMCI PANA
FELIXA JODKĘ
Sstę Dziewieniskiego.
TOM I.
w Grodnie w Drukarni J. K. M.
Roku 1779.

*Загаловак гэтай кнігі цяпер мы назвалі б разгорнутай анатацыяй: «Ваенная гісторыя, якая каротка паказвае першую вайну Прускую і даўнейшую Баварскую, што пачалася ў 1741, а скончылася ў 1748 годзе. Працягвалася 7 гадоў паміж Аўстрыяй, Англіяй, Галандыяй, Сардыніяй і Расіяй з аднаго боку, і Францыяй, Гіспаніяй, Баварыяй, Сіцыліяй і Прусамі з другога боку. Перакладзена з французскай мовы ягамосьцю панам Феліксам Ёдкам. У Гродне, у друкарні Яго Каралеўскай Міласці, Году 1779 г.»*

не толькі ўдакладніць, але і пашырыць. Падставу для гэтага дае канвалют Славянскага фонду БАН (шыфр XXIX/б27179) — некалькі сплеценых у адзін пераплёт тоненькіх кніжачак XVIII ст. У склад канвалюта ўваходзяць дзве праграмы, надрукаваныя на 1778 г. у запас (дзень і месяц спектакля не пазначаны, але пакінута месца, каб можна было дапісаць ад рукі). Першая праграма — да «Сялянскага балета», а вось другая выдадзена да невядомага нам сёння спектакля: «Маскарад. Балет-пантаміма. На тэатры Яго Высокасьці Яго Мосьці пана Графа Тызенгаўза надворнага падскарбія В.К.Л. Году 1778. Дня... Месяца... У Гродне Прэзентаваны». У другой праграме называецца пастаноўшчык балета — «вынаходнік пантамімы пан Каэтан Пецінацці з Неапалю». Гэтая знаходка яшчэ чакае асобнай публікацыі, у якой гісторык тэатра знойдзе і сюжэты пастаўленых твораў, і імёны выканаўцаў. Пашы-

[236] Напр., канвалют БАН пад шыфрам XXIX/г 1122.
[237] Sądowy process czyli sposob prawowania się w trybunale [...] W. Xięstwa Litewskiego. Ed. 5. Grodno, 1782.
[238] *Барышев Г. И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992. С. 266.



Сїѧ книга глаголемаѧ катихисїсъ, тѵпомъ издана, в тѵпографїи егѡ королевскагѡ величества гроденской. в лѣта ѿ созданїѧ мира, ҂зче.

С переводу печатанной в великой россїи, в црьствующемъ граде москве. в лѣто ҂зрле. при бгохранимой державе блгочестивагѡ гдрѧ црѧ, и великагѡ кнѧзѧ михаила федоровича. и при патрїаршестве оца егѡ и бгомольца, кѵръ филарета, патрїарха московскагѡ и всеѧ россїи.

*Выхадныя звесткі Катэхізіса Лаўрэнція Зізанія, надрукаванага па заказу купца-старавера Іллі Губарава. Гродна, 1787 г.*

рыўшы веды пра першапачатковы рэпертуар тэатра, нам будзе лягчэй зразумець прычыны пазнейшых трыумфаў гродзенскіх выхаванцаў на тэатральнай сцэне.

Хоць па сутнасці друкарня была ўласнасцю Антонія Тызенгаўза, але пасля яго смерці (у 1785 г.) яна павінна была перайсці, згодна з тэстаментам, да ксяндза Мучынскага. Гэтага не адбылося — з 1788 г. тут кіраваў наёмны друкар Барух Ром, але кантроль каталіцкай царквы за друкарняй захаваўся — у 1796 г. віленскі архіепіскап Ян Касакоўскі перанёс яе з Гродна ў Вільню.

Гродзенская друкарня выкарыстоўвала паперу мясцовай вытворчасці з млыноў-папернях у Лыскаве і Кайранах (Койрах) і прывазную прускую. Прадукцыя друкарні была разнастайная: тут друкавалася «Гродзенская газета», мастацкая літаратура, афіцыйныя выданні, гістарычныя творы і богаслужбовыя кнігі на польскай, лацінскай, французскай і царкоўнаславянскай мовах. На царкоўнаславянскай, у прыватнасці, былі выдадзены 25 кніг па заказах старавераў (у тым ліку адно выданне — «Псалтыр» 1785 г. — сумесна з Супрасльскай друкарняй). У архіве Тызенгаўзаў захавалася дамова 1781 г. на выданне «Псалтыра» паміж Гродзенскай друкарняй і купцом Іллёй Губаравым. Згодна з дамовай, Губараў дае рукапісную кнігу «Псалтыр» і хоча, каб яна была надрукавана накладам 500 паасобнікаў літарамі такой самай (як у рукапісе) велічыні і на такой самай колькасці старонак. Ён дае сваю паперу і плаціць па 28 галандскіх залатых за аркуш[239].

**Нясвіжская друкарня.** Як мы ўжо згадвалі, рэзідэнцыя князёў Радзівілаў — горад Нясвіж — двойчы станавіўся выдавецкім цэнтрам. Першая друкарня належала Мацею Кавячынскаму і існавала ў 1562—1572 гг.; яе абсталяванне перавезена ў Лоск і больш ў Нясвіж не вярнулася.

Другая друкарня дзейнічала ў Нясвіжы ў 1750—1791 гг. Кароль Аўгуст III пасля свайго візіту да Радзівілаў выдаў 28 жніўня 1750 г. прывілей на аднаўленне кнігадрукавання ў Нясвіжы, а таксама ўраўняў у правах будучую друкарню з іншымі прывілеяванымі друкарнямі: «Абвяшчаем гэтым лістом, прывілеем нашым, усім увогуле і кожнаму асобна, каму аб тым ведаць належыць... За даняседнем вяльможнага віленскага ваяводы, вялікага гетмана В.Кн.Літ., князя Міхала Радзівіла, што ў месцы ардынацыі яго, называным Нясвіж, што ляжыць у Навагрудскім ваяводстве, ab antiquo была друкарня et extant гэтага ў розных тамах, што з яе выйшлі, але памянёная ў Нясвіжы друкарня, праз час занядбаная, на нова erigere et vario idiomatae і ў розных матэрыях (praevia solita кіраўніцтва approbatione) кнігі ў ёй друкаваць з іншымі прывілеяванымі друкарнямі ўраўняць мы задумалі. Як жа гэтым прывілеем нашым дзейным вечна дазваляем і з улады нашае каралеўскай дапушчаем, а таксама для лепшай веры і вагі рукой нашай падпісаўшы, пячатку В.Кн.Літ. прыцісНуць Мы загадалі»[240].

Арганізаваць друкарню ўзяўся жыхар Нясвіжа Гершон Давыдавіч з наборшчыкам Лаўрэнам Навірскім і «прасоўшчыкам» Янам Дубачынскім. У 1750 г. яны склалі для князя мемарандум, дзе паведамлялі, якое неабходна абсталяванне, і прасілі прызначыць штотыднёвую аплату памерам у 3 талеры (24 злотых) для наборшчыка і 20 злотых у тыдзень для прасоўшчыка[241].

[239] *Jaroszewicz-Piereslawcew Z.* Starowiercy w Polsce i ich księgi. S. 88—89.
[240] Цыт. па: *Judkowiak B.* Z dziejów drukarni Nieświeskiej w XVIII wieku // LSPSH. 1994 (1995). T. 6. S. 123.
[241] Łowmiański H. Rys historyczny województwa nowogródskiego w jego dzisiejszych granicach, do r. 1795. Wilno, 1935. S. 114.

Адным з першых выданняў новаарганізаванай друкарні быў віншавальны панегірык Міхалу Казіміру Антонію Радзівілу да дня нараджэння, падпісаны Нясвіжскай Рыцарскай кадэцкай акадэміяй[242].

Панегірык датаваны 13 чэрвеня 1750 г.; застаецца невядомым — ці друкарня пачала працаваць да атрымання каралеўскага дазволу, ці правільная дата дня нараджэння князя пастаўлена post faktum. На адгорце тытульнага аркуша гэтай кнігі надрукавана гравюра з гербам Радзівілаў і Вішнявецкіх, з роду якіх паходзіла жонка Міхала Казіміра «Рыбанькі» Уршуля Радзівіл. Яна захаплялася навукамі, тэатрам, наглядала за бібліятэкай, выдала асобнай кнігай зборнік сваіх п'ес для прыдворнага тэатра, была рэжысёрам спектакляў.

Ад 1.XII.1751 г. друкарня была перададзена загадам князя ў распараджэнне прэфекта Нясвіжскага езуіцкага калегіума. Дагавор перадачы патрабаваў, каб два паасобнікі ўсіх выданняў паступалі ў замкавую ардынацкую бібліятэку — гэта першы вядомы нам загад пра абавязковы паасобнік у Вялікім Княстве Літоўскім. Працай друкарні кіравалі прэфекты-езуіты: Антоні Жэброўскі (1751—1755), Рамуальд Вайніловіч (1755—1756), Антоні Барташэвіч (1764), Іеранім Гарабурда (1771—1779). Звычайна на гэтую пасаду прызначаўся чалавек адукаваны, які адначасова кіраваў Нясвіжскай бурсай. Антоні Барташэвіч, напрыклад, да пераезду ў Нясвіж быў прафесарам Віленскага універсітэта, выкладаў там граматыку, рыторыку і гісторыю. Прэфект уплываў не толькі на працу друкарні, але і на яе рэпертуар, мог ахвяраваць выданні князю-гаспадару, як гэта зрабіў, напрыклад, у выдавецкім звароце апошні з прэфектаў, Іеранім Гарабурда, на кніжцы казанняў ксяндза Антонія Глажынскага[243].

Рэпертуар выданняў Нясвіжскай друкарні залежаў ад яе «двайнога» падпарадкавання: магнату-князю і езуітам. Члены калегіума падтрымлівалі працу прадпрыемства, пастаянна сачылі за яго тэхнічным станам, турбавалі князя пры кожнай неабходнасці купляць новае абсталяванне. Для патрэб ордэна выдавалі штогадовы каталог імён, для вучняў калегіума друкавалі падручнікі (напрыклад, Hell M. Elementa arithmeticae, 1768), прывітанні педагогам (Patris sui... Adami Abramowicz a Soc. Jesu natalem diem... celebrat Collegii Neswisiensis typografia et bursa, 1770 г.). Для княжацкага тэатра былі надрукаваны «Камедыі» Уршулі Радзівіл (першае выданне выйшла ў Нясвіжы да сярэдзіны 1749 г., другое — у Жоўкве ў 1754 г.)[244], а таксама трагедыі нясвіжскага прафесара І. Ка-


ARTYKUŁY
WOIENNE
HETMANSKIE
*Authoritate* Seymu ápprobowane
Anni 1609.

IZ od ſamego Pána BOGA każde zwyćięſtwo, bo on ieſt Bogiem Woyſk y Záſtępow: Rotmiſtrz káżdy má to mieć na pieczy, żeby ſię y ſam Pana BOGA bał, y ſwym przykładem y napomnieniem wiodł do boiáźni Bożey, y poboźnego y przyſtoynego żyćia Towárzyſze, á oni zaś Páchołki ſwe.

Żádna ſprawa owſzeki Rycerſka nie może ſtać bez porządku. A iż ſię trafiá w Rotach śiła ludźi młodych niebywałych przed tym w ſłużbie: przeto áby każdy wiedźiał powinność ſwą y wedle niey niewymawiaiąc ſię niewiadomośćią ſprawował, wydane ſą te Artykuły ſtoſuiąc ſię do Konſtytucyi Koronnych y do Artykułow inſzych przed tym Hetmanow, ktorych będąc Szlachćicami, powinniśmy we wſzem cáłość przeſtrzegáć.

*1mo.* Obecnie zawzdy Rotmiſtrze przy Rotach mięſzkáć maią, nie odieżdżáć bez dozwolenia Hetmáńſkiego, pod winą Konſtytucyą *Anni* 1693. opiſaną.

*2do.* Tákże ſię we wſzyſtkim wedle teyże Konſtytucyi Seymu 93. y wedle Konſtytucyi Seymu *Anni* 91. do ktorego ſię Konſtytucyá 93. Seymu referuie záchowáć maią.

*3tio.* Ktoby iakie ſkupianie tak ná leży iáko
A y

*Карэктурны экзэмпляр Нясвіжскага выдання вайсковых статутаў ВКЛ з наклеенымі заўвагамі.*

---

242 Akademia wdzięczności [...] iaśnie oświeconemu xiążęciu iegomości Michałowi Kazimirzowi Antoniemu Radziwiłłowi [...] od zdewinkowanych sobie xiążęcemi łaskami Rycerskiey Akademiy Nieświeskiey kadetów. Nieśwież, 1750.

243 Głażyński A. Kazania na niedziele całego roku [...]. Nieśwież, 1779.

244 *Judkowiak B.* Z dziejów drukarni Nieświeskiej w XVIII wieku. S. 125.



Na Herbowny Zaſzczyt
Prześwietnego DOMU
JASNIE OSWIECONYCH
XIAZAT ICHMOSCIOW
RADZIWIŁŁOW

I.
Wielkiemi ſławy, Fortun, Honorow zaſzczyty,
DOM Xiążęcy wspaniale od wiekow okryty
Gdy

Gdy zawſze w pełni fortun, honorow przebywa;
Godnie zdawna fortunney zwan pełni ſzczę-
tywa. (a)
Przeto: tylko maiącym gdy ſię więcey daie! (b)
Słuſznie: łaſk Boſkich Pełnia, tey Pełni
przyſtaie.

II
DOM ten miedzy pierwſzemi znaczny; ktò
wyliczy?
Iak w nieſkomparowanych Fortunach dźiedźiczy.
Niedość Państw obſzernością światu zaſzczycony,
Y z pierwſzemi w Europie ma krwie związki
Trony.
Lécz nad to: gdy Herbownym ORŁEM ſię-
ga Feba; (trzeba?
Oyczyſtym rządzi światem; czegoż mu po-

III
Cały świat zdobią XIAZAT Herbowne Kley-
noty,
Az TRĄB
(a) In Diplomát: Sereniſſimorum Cæſár: potentiſſimorumq; Reg: Polon: Gall: Hiſpan: & aliorum, favore Cel: Domûs Radivil: datis. (b) Lucæ cap: 8.

*«Pelnia piękney iak xiężус łask promieniami swiatu...». Перавыданне кнігі кс. Дунгоўскага аб цудатворнай іконе Багародзіцы са Свержаня. Гравіраваны герб і пачатак тэксту «на гербоўны клейнот князёў Радзівілаў». Нясвіж, 1754 г.*

тэнбрынга «Proznosc nad proznosciami abo Tomasz Poundlus» (1755), «Syores» (1758)[245]. Па даручэнні Міхала Казіміра Радзівіла ў 1754 г. быў выдадзены зборнік дакументаў, што захоўваліся ў нясвіжскім архіве: «Artykuły wojenne...». У тым жа годзе друкарня выпусціла кнігу рэктара Свержанскай базыльянскай семінарыі І. Ясткевіча «Поўня прыгожай як месяц...» — дапоўненае і пашыранае перавыданне кнігі свержанскага святара П. Дунгоўскага «Цуды і дабрадзействы, атрыманыя пры цудатворным абразе Дзевы Марыі ў Свержані, у царкве унітаў» (Вільня, 1651 г.). Складальнік кніжкі прасіў пісьмова засведчыць атрыманыя ад Свержанскага абраза дабрадзействы і цуды розных людзей — мясцовых і прыезджых, магнатаў і сялян (сярод іншых нават адзін лютэранін, цырульнік з Міра Альбрыхт Шульц). Больш за дзесяць сведчанняў жанчын падпісаны «рукою ўласнай», што гаворыць пра нечакана высокі працэнт адукаваных жанчын у «глыбінцы» ВКЛ, і толькі ў адным выпадку стаіць такі подпіс: «Я, муж, добра то знаючы замест жонкі маёй, якая пісьма не ведае, рукою сваёй уласнай падпісваю» (цуда 20, яго сведчыць Барбара Авядоўская). Ініцыятарам выдання быў Міхал Радзівіл, якому цудатворны абраз дапамог пазбавіцца каменя ў нырках «велічынёй з фінікавую костку». У гэтай кнізе змешчаны прыгожа гравіраваны абраз Свержанскай Маці Боскай, па тэхніцы выканання падобны да гравюрных партрэтаў членаў сям'і Радзівілаў працы Гірша Ляйбовіча[246].

Адным з шэдэўраў нясвіжскага кнігадрукавання стаў манументальны альбом партрэтаў Радзівілаў. Большасць з іх выканаў (у тэхніцы медзярыту) з жывапісных арыгіналаў, што захоўваліся ў карціннай галерэі замка, Гірша Ляйбовіч; хто быў укладальнік — невядома; магчыма, што сам гаспадар Нясвіжа Міхал Радзівіл «Рыбанька», які цікавіўся гісторыяй: «Icones familiae ducalis

[245] *Барышев Г. И.* Театральная культура Белоруссии XVIII века. С. 35.
[246] *Ткачэнка М. І.* Невядомая гравюра Маці Боскай Сверджаньскай // Матэрыялы да 100-годдзя з дня нараджэння Міколы Шчакаціхіна 1896—1940. Мн., 1996. С. 109—111.




Radivillianae ex originalibus in Gazophylacio Ordinationis ab antiquo servatis picturis inscriptionibus historico-genealogicis, ex documentis authenticis compendiose ab anno Virginei partis 1346 ad annum 1758 deductae. — Nesvisii, in typographia privilegiata ducali Radiviliana, Collegii Societatis Jesu, [1758]. — F°. max.». Гэтае выданне — неацэнная крыніца інфармацыі пра славутую магнацкую сям'ю[247].

У друкарні былі ажыццёўлены і такія вялікія публікацыі, як праца Цырціўса Руфуса «O życiu i dzejach Aleksandra Wielkiego» ў трох тамах. У 1769 г. выйшла з друку «ў Нясвіжы ў друкарні яго княскай міласьці Таварыства Ісуса» грандыёзная праца рэктара Нясвіжскага езуіцкага навіцыята Марціна Кужанецкага — рыфмаваны пераказ Біблii (Старога і Новага Запаветаў) — усяго больш за 89 400 вершаў, 748 аркушаў памерам фоліо. Акрамя кніг Нясвіжская друкарня выдавала ліставую графічную прадукцыю, у тым ліку карты. Да апошніх належыць выкананая ў 1760-я гг. Гіршам Ляйбовічам піктаграфічная карта касцёлаў і манастыроў Літоўскай правінцыі ордэна бернардзінцаў. Малюнкі гэтай карты зараз — каштоўнае сведчанне аб тым, як выглядалі разбураныя пазней архітэктурныя помнікі[248].

Ліквідацыя ордэна езуітаў (1773) адбылася ў хуткім часе пасля таго, як Нясвіж быў заняты рускім войскам (восень 1772 г.) і ў Пецярбург вывезлі бібліятэку, габелены, гарматы і іншыя каштоўнасці[249]. Друкарню расійскія войскі не кранулі; за права распараджацца ёю пачалі хадайнічаць нясвіжскія даміліканцы, якія пасылалі ў сувязі з гэтай справай паслоў да князя Карла Радзівіла ў

*«Pelnia pięknеy iak xiężyc łask promieniami swiatu...». Разгорт з гравіранай вывай свержаньскага вобраза Багародзіцы. Нясвіж, 1754 г.*

[247] Пасля авалодання Нясвіжа расійскім войскам медныя дошкі з партрэтамі Радзівілаў былі вывезены ў Пецярбург і перададзены ў Акадэмію мастацтваў. З іх у 1857 г. было зроблена невялікім накладам паўторнае выданне альбома партрэтаў Радзівілаў.

[248] *Баравы Р. В., Якімовіч Ю. А.* Каштоўны дакумент па гісторыі беларускай графікі і архітэктуры XVIII ст. // Помнікі культуры: новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 113—122.

[249] *Николаев Н. В.* Несвижская библиотека князей Радзивилов // Книга в России XVIII — середины XIX в.: Из истории Библиотеки Академии наук. Л., 1989. С. 140—147.

Венецыю. Экс-езуіты, у прыватнасці, прэфект Іеранім Гарабурда, супраціўляліся, сцвярджаючы, што частка маёмасці друкарні купленая за іх грошы. Некаторы час (да прыбыцця Карла Радзівіла ў Нясвіж у 1778 г.) яны працягвалі распараджацца друкарняй. Чым закончылася гэтая спрэчка, архіўныя крыніцы не паведамляюць[250]. Друкарня працягвала працаваць амаль да канца стагоддзя (да далучэння Нясвіжа да Расійскай імперыі). Вядома, што ў ёй у 1781 г. была перавыдадзена кніга аднаго з самых вялікіх супраціўнікаў Вальтэра — Францыска Нанота: «Жыццё і памылкі Вальтэра». Дадаткам да кнігі быў ліст папы Клеменса XIII да аўтара, у якім рымскі пантыфік пісаў, што кніга карысная і для тых, хто не чытаў Вальтэра (бо ўжо не захоча), і для тых, хто чытаў, бо паказвае шматлікія яго памылкі. Выданнем гэтай кнігі Радзівілы закраналі, між іншым, Сапегаў, адзін з якіх (падканцлер Міхал Сапега) перакладаў Вальтэра (два яго пераклады выдадзеныя ў Вільні ў 1753 г.). Самым познім вядомым выданнем Нясвіжскай друкарні былі афішы, якія выйшлі 4 лістапада 1791 г. За іх князь Мацей Радзівіл заплаціў друкару Андрэю Маслоўскаму адзін злоты[251].

Не ўсе друкарні XVIII ст. былі такімі добра арганізаванымі і доўга жывучымі прадпрыемствамі, як акадэмічная ці радзівілаўская нясвіжская. Некаторыя з іх праіснавалі нядоўга і вядомыя ўсяго па некалькіх выданнях.

Першы вальны сойм адбыўся ў Гродне ў канцы (снежні) 1678 г., а ўжо ў наступным, 1679 г. Канстытуцыі сойма былі надрукаваны (44 аркушы фармату 20). У выхадных звестках на тытульным аркушы названа месца друку — Гродна і друкарня — «typis Minaritanis». Гродзенскі францысканскі манастыр (манастыр мінарытаў) заснаваны на Занямонні упіцкім старастам Яўстахам Курчам у 1635 г. Ніякага іншага выдання ці дакументаў аб існаванні тут друкарні невядома. Падабенства шрыфтоў гродзенскага францысканскага выдання 1679 г. да шрыфтоў Віленскай друкарні францысканцаў грунтуецца на гіпотэзе аб тым, што Канстытуцыі надрукаваныя альбо ў Вільні, альбо ў Гродне, куды часова былі прывезены варштат і іншыя неабходныя прылады.

Самая ранняя з вядомых бібліяграфіі кніг, надрукаваных ў Слоніме «in typografia Slonimensi», датаваная 1777 г. Гіпотэза К. Эстрайхера аб тым, што ордэну дамініканцаў у гэты час належала (альбо знаходзілася пад іх наглядам) друкарня, не знаходзіць падцверджання.

Ёсць яшчэ тры слонімскія кнігі, а таксама лібрэта опер, што былі пастаўлены ў Слонімскім тэатры (без паказання месца выдання). Выйшлі яны паміж 1778 і 1782 гг. і ў выхадных звестках выдаўцом называюць слонімскага старасту, гетмана Вялікага Княства Літоўскага Міхаіла Агінскага. Гэта падручнік — «Кніжка для моладзі» (Książka dla młodzi, 1778 г.); «Kondycja Stanow» (1781); «Moc świata» (1782)[252].

Размяшчалася друкарня ў слонімскім палацы Агінскіх. З часопіса «Dziennik Handlowy», які перыядычна выдаваўся ў Вільні, вядома, што шрыфты слонімская друкарня купіла ў ліцейні Пятра Завадскага ў Вільні: «схаластыкі малой на 3 аркушы» і «курсіва на 1,5 аркуша».

У адным з самых вялікіх у Вялікім Княстве Літоўскім калегіуме, які езуіты адчынілі ў Пінску ў 1717 г., акрамя школ была друкарня, што працавала, верагодна, ад 1729 да 1743 г.

У Пінскай друкарні ў 1743 г. былі перавыдадзены «Kazania o siedmiu sakramentach» Пятра Скаргі[253]. Унікальны паасобнік гэтай кнігі з паведамленнем на тытульным аркушы, што яна надрукавана ў Пінску, захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

[250] *Kawecka-Gryczowa A.* i in. Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. S. 216–217.
[251] Ibidem. S. 217.
[252] *Цэханавецкі А.* Міхаіл Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме.
[253] *Kawecka-Gryczowa A.* i in. Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. S. 230. *Самайлюк Т.* Друкарня езуітаў у Пінску // Спадчына. 2003. №4/5. С. 96–99.

# ПЕРАПЛЁТНЫХ СПРАЎ МАЙСТРЫ

Развіццё кнігавытворчасці нарадзіла некалькі прафесійных груп людзей, якія служылі галоўным чынам кніжнай справе. Акрамя друкароў сюды ўваходзілі пераплётчыкі і мастакі-гравёры. Значная частка сталічных (віленскіх) пераплётчыкаў была аб'яднана ў цэх. У чэрвені 1664 г., па просьбе старэйшын віленскага цэха Эльяша фон Тыля і Казіміра Вяжбоўскага кароль і вялікі князь Ян Казімір надаў цэху новы прывілей замест таго, што загінуў пад час Маскоўскай вайны ў 1655 г. Праз восем месяцаў быў зацверджаны новы статут. Усе члены («браты») павінны рэгулярна збірацца на малебен і сумесна ўтрымліваць святара ў цэхавым касцёле св. Себасцяна. З гэтага вынікае, што членам цэха мог быць толькі каталік. Нябожчыкаў — членаў цэха хавалі на віленскіх бернардзінскіх могілках. Майстру дазвалялася мець не больш за трох падмайстраў. Быў у статуце пераплётнага цэха пункт, накіраваны супраць канкурэнтаў: «Калі чужы пераплётчык з другога горада... прывязе ў Вільню пераплеценыя кнігі і тайна прадасць іх бібліяфілам, зрабіўшы шкоду каралеўскай казне і цэху, то старастам цэха дазваляецца кнігі тыя забраць і аддаць палову гораду, палову цэху». Аднак замацаваць падобную манаполію на практыцы было вельмі цяжка, бо горад не падлягаў адзінай юрысдыкцыі. Згодна з новым прывілеем віленскаму цэху (атрыманы 12 красавіка 1676 г.), асабістыя эканамічныя інтарэсы пераплётчыкаў былі цесна звязаныя з палітычнымі і ідэалагічнымі інтарэсамі ўлад і царквы[254]. Падмайстры абавязваліся прад'яўляць пасведчанне аб паходжанні і веравызнанні. Ерэтыкам і іудзеям забаранялася пераплятаць кнігі і мець кніжныя склады. Знойдзены ў іх інструмент падлягаў канфіскацыі. Гэта была прафесійна-веравызнаўчая дыскрымінацыя.

Сёння мы можам назваць імёны 23 пераплётчыкаў другой паловы XVII ст. Вось іх кароткія біяграфіі[255].

1. Анушкевіч Ян. У 1678—1689 гг. упамінаецца ў кнігах віленскага магістрата як гандляр кнігамі. 23 снежня 1679 г. інтралігатар Ян Анушкевіч скардзіцца ў магістрат на пераплётчыкаў Я. Вяжбоўскага і Э. Тыля, што яны схавалі прывілей цэха пераплётчыкаў.

2. Бесэль Стацівус. У 1687 г. у Вільню прыехаў з Любека пераплётчык С. Бесэль.

3. Вяжбоўскі Казімір. 22 кастрычніка 1663 г. віленскае грамадзянства прыняў кракаўскі пераплётчык Казімір Вяжбоўскі. У тым жа годзе ён купіў каменны дом памерлага пераплётчыка М. Пенкальскага. У 1655 г. К. Вяжбоўскі запісаны ў кнігах магістрата як старэйшы цэха пераплётчыкаў. 21 ліпеня 1666 г. складзены вопіс маёмасці памерлага пераплётчыка К. Вяжбоўскага. 7 кастрычніка 1666 г. у судовых кнігах сустракаецца прозвішча В. Пяткевіч — удавы К. Вяжбоўскага.

4. Вяжбоўскі Ян. 23 снежня 1679 г. старшы цэха пераплётчыкаў Ян Вяжбоўскі абвінавачаны ў тым, што разам з Э. Тылем узяў з цэхавай скрынкі прывілей і схаваў яго. 8 чэрвеня 1684 г. у кнізе войта запісана скарга, што пераплётчык Ян Вяжбоўскі (названы Ioannes Josephus...) б'е свайго падмайстра Х. Овінгера. У 1686 г. варшаўскі купец А. Менчыцкі патрабуе праз віленскі магістрат, каб пераплётчык Ян Вяжбоўскі вярнуў пазыку. У 1699 г. ён ад імя цэха скардзіцца на купца Барысевіча, што той, не будучы пераплётчыкам, гандлюе кнігамі. У 1705 г. упамінаецца як віленскі «bibliopola», у 1706 г. распісаўся як сведка на вяселлі віленскага пераплётчыка Я. Капа.

5. Гладзіс Мацей. У 1645 г. у Кракаў для практыкі прыехаў віленскі вучань-пераплётчык Мацей Гладзіс.

6. Грыгаровіч Андрэй. У 1666 г. браў удзел у апісанні маёмасці памерлага віленскага пераплётчыка М. Вяжбоўскага. 1 чэрвеня 1672 г. быў складзены інвентар маёмасці памерлага пераплётчыка Андрэя Грыгаровіча. Жыў у доме купца М. Гроса. Быў жанаты на Р. Браўчанцы.

7. Дубялевіч Мацей. У 1641 г. у Кракаў да пераплётчыкаў І. Моленда і І. Барычковіча прыбыў на практыку пераплётчык-падмайстар Мацей Дубялевіч з Вільны.

8. Заянчкоўскі Лаўрэн. У 1665 г. у кнізе магістрата фігуруе як старшы цэха пераплётчыкаў. Памёр 20 студзеня 1681 г.; у актах

[254] У наш час пергаменны арыгінал прывілея захоўваецца ў бібліятэцы Акадэміі навук Летувы (*Jasas R.* Pergamentų katalogas. Vilnius, 1980. № 1012).

[255] Паводле Э. Лаўцявічуса (*Laucevičius E.* Knygų irišimai Lietuvos bibliotekosė), з некаторымі дадаткамі.

упамінаецца В. Пянцкевіч, удава памерлага віленскага пераплётчыка Лаўрэна (Лорэнца) Заянчкоўскага.

9. Кап Ян (Ioannes Kappe). Віленскі пераплётчык. У 1680 г. ажаніўся з М. Кецерын. У 1689 г. ажаніўся другі раз, з Аленай Рэйман, і ў гэтым жа годзе яны хрысцілі дзіця. У 1705 г. ажаніўся трэці раз з Рэбусцін; як сведкі пры гэтым акце падпісаліся віленскія пераплётчыкі Зэйдэль і Вяжбоўскі.

10. Маркевіч Міхал. У 1643 г. жыхар Вільні, меў свой дом, пабудаваны на царкоўнай зямлі.

11. Овінгер Хрысціян. У чэрвені 1684 г. цэх пераплётчыкаў разглядаў справу аб тым, што старшыня цэха Я. Вяжбоўскі жорстка абыходзіцца з падмайстрам Х. Овінгерам, цягае яго за валасы і б'е.

12. Пенкальскі Марцін. Быў членам віленскага цэха пераплётчыкаў. У 1655 г. з'ехаў на Жмудзь, дзе і памёр. 29 лютага 1663 г. у кнігах магістрата запісана: «Anastazia...» Жонка яго вярнулася ў Вільню, аднавіла пераплётную майстэрню ва ўласным мураваным доме на вуліцы Св. Яна. 24 сакавіка 1667 г. складзены інвентар майстэрні, прыстасаванняў і кніг у лаўцы.

13. Пенкальскі Сымон. У 1663 г. запісаны ў кнігах віленскага магістрата як «bibliopola Vilnensis». Хутчэй за ўсё — сын Марціна Пенкальскага. У 1671 г. жыў у мураваным доме на царкоўнай зямлі.

14. Пракаповіч Лявон. У 1677 г. пераплётчык Лявон Пракаповіч разам з жонкай Даротай скардзіліся на пераплётчыка Я. Вяжбоўскага, што той прыйшоў да іх у хату, біўся, сварыўся, называў злодзеямі і г. д. Майстэрня Л. Пракаповіча была ў доме Каткевіча.

15. Пуш Георгі. 30 мая 1684 г. віленскі пераплётчык Вяжбоўскі абвінавачваецца ў тым, што крыўдзіць свайго падмайстра Г. Пуша. У 1709 г. у кнігах магістрата запісаны як сведка пераплётчык Якуб Пуш. Хутчэй за ўсё гэта той самы чалавек, толькі ў адным выпадку няправільна запісана яго імя.

16. Тыль Эльяш. У 1642 г. з Каматау (Бельгія) у Кракаў прыехаў на практыку падмайстар Э. Тыль, працаваў у кракаўскага пераплётчыка Моленда. У Вільні пасяліўся каля 1650 г., гандляваў кнігамі і іншымі рэчамі, быў пераплётчыкам. У 1657 г. у кнізе віленскага магістрата запісана, што 20 красавіка грамадзянін Эльяш Тыль судзіўся з-за купленай у бургамістра каноплі. У 1664 г. ён жыў у Кёнігсбергу, гандляваў кнігамі і віном. Пазней вярнуўся ў Вільню, працягваў гандляваць кнігамі. Пад 1668 г. запісана, што ў Вільні памёр «Elias Thill...».

17. Тыль Эльяш (малодшы). Каля 1665 г. вядомы ў Вільні кнігагандляр і пераплётчык, які называў сябе «Elia von Thillen». Хутчэй за ўсё гэта быў сын Э. Тыля. У 1677 г. ён абвінавачаны ў тым, што наняў людзей і паслаў іх збіць сваіх канкурэнтаў. Новы судовы працэс адбыўся ў 1681 г. Э. Тыля, які названы гандляром і пераплётчыкам, абвінавацілі ў тым, што ён не заплаціў за купленыя скуры аленяў ігумену ў Неманчыне. У 1679 г. ён абвінавачваецца ў тым, што, будучы старшынёй цэха пераплётчыкаў, узяў са скрынкі цэхавы прывілей і схаваў яго. У 1680 г. разлічыўся за кнігі, што купіў у гданьскага гандляра Форстэра. Віленскі пераплётчык Э. Тыль памёр 2 лютага 1683 г. 26 сакавіка 1683 г. была апісана яго маёмасць: асабістыя рэчы, пераплеценыя і непераплеценыя кнігі, папера віленскай вытворчасці, скура і пергамен для пераплёту, пераплётнае абсталяванне.

18. Ховель Горвард (Gothard van Hovel). У 1665 г. працаваў у Вільні пераплётчыкам.

19. Харанжэвіч Францыск. 3 лютага 1681 г. у кнізе віленскага войта запісана скарга, у якой грамадзянін Вільні, пераплётчык Харанжэвіч, што жыве ў доме Медзекшы на Янавай вуліцы, абвінавачваецца ў п'янстве, арганізацыі боек і сварак.

20. Швеер Маціас. У 1690 г. браў удзел у складанні тэстамента віленскага гандляра Даніэля Фортэля. У 1696 г. атрымаў узнагароду за пераплеценыя для віленскага магістрата кнігі. У 1702 г. прызнаны апекуном непаўналетняга І. Фортэля.

21. Свейгер Натан. 5 лістапада 1674 г. прыбыў у сталіцу і прыняў віленскае грамадзянства.

22. Шнюдэль Фердынанд (Ferdinandus Sn(del). У кнізе памерлых брацтва св. Марціна запісана, што 25 ліпеня 1679 г. спачыў віленскі пераплётчык Ф. Шнюдэль.

23. Штэнер Іаан. У 1687 г. працаваў у Вільні як падмайстар пераплётнай справы.

У XVIII ст. колькасць пераплётчыкаў павялічылася, але не на шмат. Сталыя заказы на пераплётныя работы давалі толькі дзяржаўныя ўстановы і двары буйных магнатаў, пераплётныя майстэрні дзейнічалі пры друкарнях. Так, у Віленскім манастыры св. Тройцы пры друкарні была пераплётная майстэрня, у якой меліся тры прэсы: два драўляныя і адзін з жалезнымі шрубамі, таксама 20 «бронзавых штук да штэмпелявання», бронзавыя літары, матэрыялы для працы з зола-



*Шаўковы пераплёт падарункавага (для расійскай імператрыцы Кацярыны II) выдання. Вільня, XVIII ст.*

там і іншы неабходны рыштунак (гэблікі, напільнікі, малыя і вялікія малаткі, жалезная лінейка, цыркуль, нажніцы, падушка для золата, «зуб для паліравання золата» і медзяны тыгель для гатавання клею[256].

Існавала канкурэнцыя: каб пракарміцца, пераплётчыкі часта працавалі як карданажнікі, футаральшчыкі і да т. п. Дамова паміж Гродзенскай друкарняй і купцом І. Губаравым на выданне ў 1781 г. Псалтыра ў спецыяльным пункце фіксавала, што пераплёт у кошт друку не ўваходзіць, але калі Губараў захоча мець кнігі ў пераплёце, ён заплаціць за гэта асобна[257]. Пры выкананні багатых абкладаў пераплётчыкі супрацоўнічалі з залатарамі — пра гэта сведчаць не толькі абклады нававыдадзеных літургічных (як касцельных, так і царкоўных) кніг, але і аднаўленне пераплётаў на старых кнігах. Прыкладам апошняга можа быць аксамітны пераплёт Евангелля XVI ст. з Галынскай царквы са срэбнымі навугольнікамі і срэбнай планкеткай са сцэнай Укрыжавання ў цэнтры верхняй дошкі. Прыпіска на ўнутраным баку верхняй дошкі пераплёту паведамляе: «Сия книга евангелія Христова оправлена коштом побожнаго человека іменем Григорія Конецкого до церкве Голынское заложенія светой великомученицы Парасковеи нарицаемыя Пятки, на честь и хвалу Богу в Троици единому, ему слава и держава во веки аминь. Лета от нароженія сына Божія 1713 месеца мая 14 дня»[258]. Залатары ж былі выканаўцамі адмысловых штэмпеляў, пры дапамозе якіх пераплётчык наносіў на скуру абкладу арнаменты, малюнкі, надпісы (у тым ліку і кірылічныя, пра што сведчыць пераплёт Поснай Трыёдзі з Тыкоцінскай царквы, на якім выціснута «Тріодь постная року Божія...»)[259]. Часам залатару заказвалі толькі зашпількі; яны з'яўляюцца самастойнымі высокамастацкімі творамі, якія выдатна ўпрыгожваюць

[256] Архіў СПбФІРГ. Ф. 52. Доброхотов. Воп. 1. N 297. Арк. 14.
[257] *Jaroszewicz-Piereslawcew Z.* Starowiercy w Polsce i ich księgi. S. 89.
[258] *Добрянский Ф. Н.* Описание рукописей Виленской публичной библиотеки... № 37.
[259] Тамсама. № 221.

скураны пераплёт. Прыкладам могуць быць фігурныя зашпількі кніг, пераплеценых для бібліятэкі Канстанцыі Сапегі з Радзівілаў: манарх з дзяржавай і скіпетрам (на кнізе «Lilia nebieska... Wystawiona przez pewnego Oyca Zakonu S. B. W. Opactwa Supraslskiego». Suprasl, 1721 г.), фігура чалавека, які моліцца (на кнізе К. Любамірскай «Krotkie zebranie Rożnego Nabożeństwa...». Warszawa, 1724 г.), выявы грыфонаў (на кнізе К. Любамірскай «Krotkie zebranie Rożnego...», 1730 г.) і інш.

Найбольш пераплётчыкаў па-ранейшаму працавала ў Вільні. У 1756 г. віленскі магістрат перарэгістраваў членаў цэха пераплётчыкаў — на той час у ім было 9 майстроў: Бабрыцкі Сымон, Бацэвіч Захар, Вінча Міхаіл, Дубінскі Іосіф, Літвіновіч Казімір, Очан Ян, Патахоўскі Якуб, Савіцкі Войцэх, Эйзенкрэмер Хрысціян Якуб.

Некаторыя пераходзілі з цэха на службу да магнатаў, як гэта зрабіў, напрыклад, Якуб Патахоўскі: у 1778 г. ён перайшоў у двор Радзівілаў. Некаторыя займаліся гандлёвымі аперацыямі і маглі збанкрутаваць, як гэта здарылася з Хрысціянам Якубам Эйзенкрэмерам; у яго ў 1772 г. з-за доўгу апісана маёмасць, а ў 1773 г., ужо пасля смерці «бібліяполы», крэдыторы патрабавалі дзяліць маёмасць. Калі да 9 майстроў дадаць яшчэ як мінімум 9 падмайстраў (па адным на кожнага майстра), то лічба прафесійна занятых пераплётнай справай у сталіцы ВКЛ у гэты час дасягае 18—20; нешматлікія захаваныя архіўныя дакументы дазваляюць сёння гаварыць пра 69 пераплётчыкаў XVIII ст.[260]

1. Аўшэвіч Ілля. Ковенскі габрэй-інтралігатар у 1795 г. пераплятаў кнігі для ковенскага магістрата.

2. Альшэўскі Дамінік. У кнігах хрышчэння і вянчання прыходу св. Яна на Зарэччы ў 1711—1739 гг. некалькі разоў запісаны як хросны бацька і сведка. У 1721 і 1724 гг. ён фігуруе як пераплётчык, які плаціць падатак віленскаму магістрату.

3. Анташэўскі Андрэй. У 1721 г. плаціў падаткі віленскаму магістрату. У 1722 г. зарэгістраваны ў магістраце як дзейны пераплётчык; працаваў і ў 1724 г.

4. Астравіцкі Габрыэль. У 1795 г. жыў у Вільні, на вуліцы св. Яна. 33 гады, халасты, прыбыў з Радама (Польшча). У 1805 г. жыў ў так званай Кардыналіі насупраць касцёла св. Яна.

5. Астроўскі Ян. Працаваў у Вільні ў 1769 г., член цэха пераплётчыкаў.

6. Бабрыцкі Сымон. У 1747 г. працаваў і плаціў падатак. У 1756 г. зарэгістраваны магістратам як член цэха пераплётчыкаў.

7. Багрыноўскі. Некаторыя магнаты мелі сваіх пераплётчыкаў; часта тыя не толькі пераплятаў кнігі, але і выконвалі працу футаральшчыка. Багрыноўскі быў пераплётчыкам у Радзівілаў. Ён працаваў у Слуцку і ў Бялай. У 1738 г. Багрыноўскаму з Бялай у Слуцк былі адпраўлены розная папера і кардон «для вырабу лялек для князёўны». У тым жа годзе ў Слуцк быў пасланы кардон і папера, «каб пераплесці кнігі для князёўны». У 1742 г. у Слуцку ён атрымаў з княжацкага склада паперу «для вырабу форм». У 1743 г. з княжацкага склада ў Бялай паслалі ў Слуцк 50 лібр простай паперы «для вырабу каробачак». У 1754 г. слуцкі пераплётчык Багрыноўскі працаваў у маёнтку Бяла і ўзяў з княскага склада гданьскі кардон для пераплёту кніг.

8. Бацэвіч Іосіф. У кнізе віленскага магістрата за 1718 г. упамінаецца як «introligator ksiąg rzymskich». У 1722 г. запісаны ў магістраце як дзейны пераплётчык. У 1727—1729 гг. пераплятаў кнігі для віленскага магістрата.

9. Бацэвіч Захар. У 1742—1745 гг. фігуруе ў кнігах віленскага магістрата як старшы цэха пераплётчыкаў. 28 сакавіка 1743 г. ён даў паруку за пераплётчыка М. Вінчу, калі той прымаў віленскае грамадзянства. 3 студзеня 1760 г. даваў паруку за пераплётчыка С. Янкоўскага, калі той прымаў віленскае грамадзянства. У 1768 г. у магістраце прымаў прысягу як старэйшы цэха пераплётчыкаў. У 1769 г. падпісаўся пад вопісам маёмасці пераплётчыка Мельхеровіча.

10. Башкевіч Марцін. Родам з Баранавічаў. Доўгі час працаваў пераплётчыкам у Гродне, адкуль 17 мая 1764 г. перабраўся ў Вільню.

11. Бекенштэйн Абрам. У 1722 г. зарэгістраваны як дзейны пераплётчык. У 1733 г. плаціў падатак 2 злотых. У тым жа годзе пераплёў для віленскага магістрата том Варшаўскіх Канстытуцый і атрымаў за працу 5 злотых.

12. Бурнелевіч Пётр. Пераплётчык з Пуняў, пераехаў у Вільню ў сакавіку 1770 г.

13. Буткевіч Марцін (1724—1795). Пераплётчык, прыхаджанін віленскага сабора св. Яна.

[260] Паводле Э. Лаўцявічуса, з дадаткамі аўтара.

14. Буцэвіч Іаан. У 1717 г. прыняў прысягу ў віленскім магістраце як старшы цэха пераплётчыкаў (bibliopola seu compactor librorum).

15. Вінча Міхаіл. 28 сакавіка 1743 г. прыняў віленскае грамадзянства, паручыўся за яго З. Бацэвіч. У 1739 і 1743 гг. запісаны ў кнігах хрышчэння прыходу св. Яна як хросны бацька, у 1745—1746 гг. — як старэйшы цэха пераплётчыкаў. У 1756 г. зарэгістраваны як член цэха пераплётчыкаў. 23 лістапада 1758 г. памёр, пахаваны ў Вільні, на бернардзінскіх могілках.

16. Вайноўскі Ян. У 1727—1729 гг. пераплятаў кнігі для віленскага магістрата.

17. Вільбутовіч Ян. У 1721 г. плаціў падаткі віленскаму магістрату як пераплётчык. Фігуруе як пераплётчык у кнігах віленскага магістрата ў 1722 і 1724 гг. У 1730 г. запісаны ў кнігах касцёла св. Яна як хросны бацька.

18. Галахоўскі Антон. У 1722 і 1724 гг. зарэгістраваны ў віленскім магістраце як гандляр кнігамі.

19. Гладкоўскі Войцэх. У 1750 г. працаваў у Вільні пераплётчыкам-падмайстрам.

20. Дубінскі Іосіф. Нарадзіўся ў 1704 г. У 1746 г. закончыў навуку і стаў віленскім пераплётчыкам (magister introligatorus), М. Вінча выдаў яму пасведчанне. У 1756 г. зарэгістраваны ў віленскім магістраце як член цэха пераплётчыкаў. Памёр у 1769 г., пахаваны на віленскіх бернардзінскіх могілках.

21. Дубіцкі Тадэвуш. У 1772 г. віленскае грамадзянства прыняў пераплётчык, выхадзец з Жмудзі Тадэвуш Дубіцкі. Фігуруе ў паперах віленскага магістрата ў красавіку 1779 г.

22. Дынкевіч Сымон. У 1795 г. у Вільні, на вуліцы св. Яна, у доме Станкевіча жыў пераплётчык Сымон Дынкевіч (непісьменны), 31 год, жанаты на К. Шылкевіч з Ашмянаў.

23. Жур Мікалай. У 1711 г. фігуруе ў кнігах магістрата як кнігагандляр і пераплётчык. У 1712 г. ён атрымліваў грошы ад магістрата за пераплеценыя кнігі. У тым жа годзе М. Жур судзіўся з віленскім пераплётчыкам Ф. Сейдэлем. У 1717 г. ён прымае прысягу ў магістраце як старэйшы цэха пераплётчыкаў У 1724 г. судзіўся з габрэямі-пераплётчыкамі. У 1726 г., даючы паказанні ў магістраце, сцвярджаў, што жыве ў Вільні больш за 30 гадоў. У 1726 г. фігуруе як кнігагандляр і сеньёр віленскага пратэстанцкага збору. У 1714—1730-я гг. у кнізе хрышчэнняў прыходу св. Яна некалькі разоў запісаны як хросны бацька. У 1748 г. пад час вялікага пажару ў Вільні згарэла яго лаўка з нямецкімі кнігамі. М. Жур быў заможны чалавек і не толькі гандляваў, але і даваў пазыку. Напрыклад, Сапегі, калі заклалі за пазыку срэбра, у 1735 г. заплацілі яму 80 злотых працэнтаў. У 1747 г. дзейнічала пераплётная майстэрня ўдавы М. Жура.



*Магілёўскі пераплёт за знакам пазнейшай рэстаўрацыі (рамонту). XVIII ст.*

24. Ісаковіч Натан. У 1722 г. зарэгістраваны ў магістраце як віленскі габрэй-пераплётчык.

25. Йохер Бенядыкт. 20 чэрвеня 1778 г. віленскае грамадзянства прыняў пераплётчык Бенядыкт Йохер, які прыбыў з Варміі.

26. Йохер Леанард. У 1790 г. віленскае грамадзянства прыняў «bibliopola» Леанард Йохер, які прыбыў з Баварыі.

27. Канцэвіч Дамінік. У 1750 г. унесены ў спіс віленскіх пераплётчыкаў.

28. Каспаровіч Васіль. У 1750 г. у кнігах прыходу св. Яна запісаны як хросны бацька.

29. Каспаровіч. У спісе віленскіх пераплётчыкаў у 1750 г. упамянуты Каспаровіч. Хутчэй за ўсё гэта Ян, сын пераплётчыка Васіля Каспаровіча.

30. Каштэль Генрых. У 1702 г. у кнізе віленскага магістрата запісаны як пераплётчык.

31. Клекер. У 1740 — 1748 гг. да цэха пераплётчыкаў належаў майстар Клекер.

32. Конскі Станіслаў Ян. Як пераплётчык працаваў ў Вільні ў 1769 г. Называўся «bibliopola Vilnensi»; дакументы ўпамінаюць і яго жонку Ганну.

33. Кракевіч Юрый. У кнізе віленскага магістрата за 1721 г. упамінаецца «bibliopola Vilnensi» Юрый Кракевіч.

34. Крафэрт Готфрыд. Прыбыў з Прусіі і 12 кастрычніка 1746 г. атрымаў віленскае грамадзянства. У 1748 г. прыняты ў цэх віленскіх пераплётчыкаў.

35. Кундуз Ян Карл. 5 лістапада 1761 г. ажаніўся і прыняў віленскае грамадзянства жыхар Коўны, пераплётчык Я. К. Кундуз. У 1761 г. ён абраны за старэйшага віленскім цэхам пераплётчыкаў.

36. Кшымоўскі Феліцыян. 27 лютага 1757 г. віленскае грамадзянства прыняў пераплётчык Феліцыян Кшымоўскі, які прыбыў з Прусіі.

37. Літвіновіч Казімір. У 1746 г. працаваў у Вільні як пераплётчык-падмайстар. У 1756 г. зарэгістраваны ў віленскім магістраце як член цэха пераплётчыкаў.

38. Міцкевіч Тадэвуш. У 1786 г. у кнізе запісаў хрышчэнняў віленскага прыхода св. Яна запісаны як сведка пераплётчык Тадэвуш Міцкевіч.

39. Маркевіч Тамаш. У 1795 г. у Вільні жыў кнігагандляр і пераплётчык Т. Маркевіч, памёр у 1806 г.

40. Мейрым. Пераплётчык, плаціў падатак у Гродне ў жніўні 1794 г.[261]

41. Мельхеровіч Кацярына. Удава віленскага кнігагандляра і пераплётчыка. Пасля яе смерці кніжная лаўка перайшла да дачкі Ганны, якая ў 1760 г. выйшла замуж за С. Янкоўскага.

42. Очан Ян. У 1756 г. запісаны як член віленскага цэха пераплётчыкаў.

43. Палахоўскі Ян. У 1721 г. у кнігах віленскага магістрата запісаны як кнігагандляр. У 1722 г. плаціў падатак як пераплётчык.

44. Патахоўскі Якуб. У 1756 г. зарэгістраваны ў віленскім магістраце як член цэха пераплётчыкаў. У 1777—1778 гг. жыў у двары Радзівілаў.

45. Прахневіч Карл. У 1795 г. працаваў у Вільні як падмайстар Уланоўскага. У 1798 г. працаваў самастойна.

46. Пукшта Людвік. 4 красавіка 1772 г. віленскае грамадзянства прыняў пераплётчык з Гродна.

47. Пукшта Ігнат. Сын Людвіка Пукшты. Працаваў падмайстрам-пераплётчыкам у 1798 г.

48. Пукшта Юзэф. Сын Людвіка Пукшты. Працаваў падмайстрам-пераплётчыкам у 1798 г.

49. Пшэгалінскі Віктар. 15 лютага 1754 г. атрымаў віленскае грамадзянства.

50. Рагоўскі Іосіф. 1783 г.

51. Рачынскі Пётр. У чэрвені 1726 г. віленскі пераплётчык падаў у магістрат скаргу адносна не вернутай яму грашовай пазыкі.

52. Савіцкі Войцэх. У 1756 г. у віленскім магістраце зарэгістраваны як член цэха пераплётчыкаў. 9 сакавіка 1769 г. памерла ва ўзросце 50 гадоў і пахавана на бернардзінскіх могілках Савіцкая, жонка пераплётчыка.

53. Сэйдэль Фердынанд. 16 лютага 1711 г. «bibliopola Vilnensis» Ф. Сэйдэль ажаніўся з А. Цэлін. У 1712—1713 гг. ён удзельнічаў у судовых працэсах.

54. Сяняўскі Антоні. Запісаны ў кнізе віленскага магістрата за 1750 г.

55. Сакалоўскі Клеменс. У спісе жыхароў Вільні за 1795 г. значыцца Клеменс Сакалоўскі, 40 гадоў, які прыбыў з Галіцыі. Жыў з жонкай (яна родам з Вільні) і дзецьмі пры манастыры піяраў.

56. Слупецкі Марцін. У 1746 г. працаваў падмайстрам пераплётчыка ў Вільні.

57. Стажынскі Іосіф. У кнізе метрык віленскага касцёла бернардзінцаў запісана, што 16 чэрвеня 1783 г. памёр кнігагандляр Іосіф Стажынскі і пахаваны ў склепе капліцы св. Міхала.

58. Стажынскі Тамаш. Займаўся пераплётам, гандлем кнігамі, у 1744 г., купіўшы лес, ганяў яго плытамі ў Кёнігсберг. У 1751 г. магістрат разглядаў справу «бібліяполы» Тамажда Стажынскага, які пабіў Мацкевіча, справа дайшла да ваяводы. У 1748 г. ў Вільні згарэла яго кнігарня.

59. Стэфановіч Антоній. У спісе жыхароў Вільні за 1795 г. запісаны як пераплётчык, 32 гадоў, пражываў на вуліцы Спаса, дом 16. Быў жанаты з Р. Жукоўскай з Ліды.

[261] Grodno w XVIII wieku. S. 117.

60. Тшэпулькоўскі Міхаіл. У 1750 г. запісаны ў кнігах віленскага магістрата як член цэха пераплётчыкаў.

61. Уланоўскі Антоні. У 1795 г. у спісе жыхароў Вільні запісана, што пераплётчык А. Уланоўскі, 28 гадоў, шляхціц з Гродзенскага павета, жанаты з К. Яблонскай, жыў у доме Фрэберта на Вялікай вуліцы.

62. Федаровіч Якуб. У 1795 г. у кнізе магістрата запісаны грамадзянін Вільні пераплётчык Якуб Федаровіч, шляхціц з Ашмянскага павета, 32 гады, жанаты з М. Янкоўскай, жыве на гарадской зямлі за Замкавай брамай.

63. Эйзенкрэмер Хрысціян Якуб. 20 мая 1748 г. атрымаў віленскае грамадзянства, у тым жа годзе прыняты ў цэх пераплётчыкаў. У 1756 г. зарэгістраваны ў віленскім магістрацe як член цэха пераплётчыкаў. У 1773 г. крэдыторы патрабавалі апісаць маёмасць ужо памерлага віленскага «бібліяполы».

64. Эльяшэвіч Вульф. У 1722 г. зарэгістраваны ў віленскім магістрацe як пераплётчык. Працаваў і ў 1724 г.

65. Яворскі Сымон. У 1746 г. працаваў у Вільні як пераплётчык.

66. Якубовіч Іцко (Іцко Малы). У 1722 г. зарэгістраваны як габрэй-пераплётчык.

67. Ян. У падканцлера ВКЛ Міхала Сапегі працаваў пераплётчык і футаральшчык Ян. Грошы яму выплочваліся, верагодна, за зробленую працу, бо штомесяц ён атрымліваў ад 6 да 12 злотых. Магчыма, што гэты пераплётчык жыў у юрысдыцы Сапегаў і не быў членам цэха.

68. Янкоўскі Сымон. У 1746 г. працаваў у Вільні як пераплётчык.

69. Янкоўскі Станіслаў. У 1760 г. пераплётчык з Гродна Станіслаў Янкоўскі прыняў віленскае грамадзянства. За яго паручыўся З. Буцэвіч. 29 снежня С. Янкоўскі ажаніўся з дачкой кнігагандляра і пераплётчыка Мельхеровіча Ганнай. Перад тым Станіслаў Янкоўскі быў агентам Мельхеровіча, ездзіў па ўсім Вялікім Княстве і прадаваў кнігі. У 1769 г. introligator Станіслаў Янкоўскі меў грашовыя справы ў судзе.

Звестак пра магілёўскіх і аршанскіх пераплётчыкаў у нас няма, хоць некаторыя паасобнікі кніг, выдадзеных у друкарнях гэтых гарадоў, захавалі свой «родны» пераплёт. Яны паказваюць на высокі ўзровень рамяства кніжнай апраўы на ўсходнебеларускіх землях. Як прыклад можна разгледзець пераплёты магілёўскіх выданняў 1693—1700 гг. Пераплёты вельмі густоўныя. Яны выкананы з дошак, абцягнутых ціснёнай скурай. Больш просты пераплёт быў для масавага продажу, напрыклад, «Жыццяў святых» 1702 г. (паас. РНБ). У асяроддзі веткаўскіх стараевераў працавалі пераплётчыкі высокай кваліфікацыі; захаваліся звесткі аб прыездзе ў пачатку XVIII ст. (1710) у веткаўскі Пакроўскі манастыр «міраніна Казьмы пераплётчыка»[262].



*Суперэкслібрыс з гербам Радзівілаў. Ціснение золатам на вельмі далікатна выробленым зялёна-карычневым саф'яне. Фрагмент пераплёту кнігі «Felix auspicium... D. Caroli Radziwill palatini Vilnensis... Gratulatione... suo nomini et honori minima Societate Jesu Provinciae Litvanae. Vilnae, Typis S.R.M. Academ. Societ.Jesu. Anno Domini 1763.». Штэмпель для суперэкслібрыса падобны па кампазіцыі (не паўтарае, але больш дасканалы па малюнку) да гравюры герба на адгорце тытульнага аркуша гэтай кнігі: гербавы Арол Радзівілаў у картушы са сцягоў і зброі і са знакам ордэна Белага Арла пад шчытом.*

Прыкметай XVIII ст. сталі гандляры, што спецыялізаваліся на гандлі кнігай. Кніжная крама пры акадэміі ў 1780 г. выдала «Каталог кніг, што выйшлі з друкарні Я. К. М. пры Віленскай акадэміі, а часткова прывезены з іншых друкарняў, асабліва краёвых». Каталог гэты перавыдаваўся ў 1782, 1786 і 1790 гг., увесь час павялічваючы свой аб'ем. Акрамя старой кнігарні, пры друкарні акадэміі ў 1767—1770 гг. у Вільні працавала кніжная крама Рыгера і Клека, якая выпусціла на лацінскай мове каталог наяўных выданняў. У другой палове XVIII ст. кніжны гандаль за межамі сталіцы і некалькіх вялікіх гарадоў адбываўся галоўным чынам на ярмарках. У прыватнасці, у 1788 г. кнігавыдавец і гандляр М. Гроль выпусціў каталог кніг на лацінскай, французскай, нямецкай і польскай мовах, якія прадаваліся на ярмарках у Мінску, Наваградку, Нясвіжы, Зэльве, Свіслачы і Гродне.

[262] *Нячаева Г. Р.* і інш. Веткаўскі музей народнай творчасці. С. 109.

# КНІГАЗБОРЫ І МАНАСТЫРСКІЯ БІБЛІЯТЭКІ

У канцы XVII і на працягу XVIII ст. колькасць выдадзеных у ВКЛ і прывезеных кніг, у параўнанні з папярэднімі эпохамі, значна павялічылася. Яны размяркоўваліся галоўным чынам у бібліятэках, ствараючы новыя кнігазборы і робячы тыя, што ўжо існавалі, яшчэ багацейшымі. Даследаванні гісторыі навучальных ці дзяржаўных устаноў і манаскіх ордэнаў часта ўпамінаюць пра іх бібліятэкі. Застаецца пакуль яшчэ не да канца зразумелым, наколькі кнігі, што належалі да маёмасці невялікіх прыходскіх цэркваў, задавальнялі патрэбы богаслужбы і пісьменных прыхаджан у чытанні, якая была роля кнігазбору прыходскага свяшчэнніка (ён жа, звычайна, і настаўнік для малых дзяцей). У інвентары, што складзены пад час візітацыі наваградскім пратапопам царквы ў вёсцы Груздава ў 1714 г., было адзначана, што да маёмасці царквы належаць толькі дзве друкаваныя кнігі, а астатнія з'яўляюцца ўласнасцю святара[263]. Асаблівасцю гэтага перыяду кніжнасці ВКЛ стала істотнае павелічэнне колькасці прыватных бібліятэк — фінансавыя магчымасці дазваляюць зрабіць кнігу прадметам бібліяфільства не толькі багацейшым магнатам, але і сярэдняй і нават дробнай шляхце, гараджанам, дробнаму духавенству. У сувязі з гэтым асаблівую вартасць зараз маюць даследванні, мэтай якіх з'яўляецца пошук інвентароў кнігазбораў[264].

З аматараў кніг вылучыліся бібліяфілы і бібліяманы, гатовыя на значныя ахвяры дзеля свайго захаплення кнігай. Прыкладам можа быць кухмістр Вялікага Княства (1763—1775) Міхал Віельгорскі, які прадаў свае дыяменты, каб купіць кнігазбор вучонага Майрона, што памёр у Парыжы[265]. Памеры кнігазбораў большасці гараджан звычайна налічвалі адзін-два дзесяткі выданняў. Напрыклад, заможны мешчанін з Коўна Якуб Рэйнгольд Рокель у 1788 г. меў 19 кніг (вялікіх і малых), а таксама два календары, 11 карт і 26 гравюр[266]. Такія ж кнігазборы можна сустрэць і ў гродзенскіх, віленскіх ці магілёўскіх мяшчан. Практычна ў кожнай шляхецкай сям'і была бібліятэка з ужытковымі кнігамі — інвентарамі маёнтка, спісамі прамоў гаспадара ці кагосьці з сваякоў на соймах, трыбуналамі і статутамі, трыбунальскімі рэплікамі; у рэшце рэшт, у родавым доме складалі свой зборнік Silva rerum. Бібліятэкі дробнай шляхты і заможных гараджан зніклі ў хвалях часу амаль бясследна. Акрэсліць кола іх гаспадароў, вызначыць колькасць і па захаваных крыніцах рэканструяваць рэпертуар — задача на будучыню. Дзеля гэтага неабходна працаваць і над крыніцазнаўчай базай, прынамсі над зводным каталогам кнігаў эпохі ручнога варштата з фіксацыяй асаблівасцей кожнага захаванага паасобніка. Неацэннай крыніцай інфармацыі стануць кнігі з бібліятэк Іосіфа Жабы з Шша, Яна Нікадзіма Лапацінскага, уладальніка маёнтка Лявонпаль на Віцебшчыне, Антонія Памарнацкага з Віцебшчыны і інш.[267]

Адсутнасць спецыяльнага даследавання кнігазбораў вышэйшых царкоўных (і касцельных) іерархаў не дазваляе гаварыць пра кожнага з гэтых дзеячаў з магчымай паўнатой. Пакуль такая праца зробіцца, можна задаволіцца ведамі, што мы атрымліваем з іншых крыніц, прынамсі з твораў мастацтва. Так, у эпоху Асветніцтва, пры партрэтаванні свецкіх асоб кніга, як сімвал інтэлектуальнасці, пастунова выходзіць з моды. Цікавасць да яе можа выявіцца вельмі незвычайным спосабам — у 1700 г. у Венецыі мінскі ваявода Хрыстафор Завіша запісваў у дзённік уражанні не ад палотнаў Тынталета і Тыцыяна ў венецыянскай царкве Scuola San Rocco, а ад «кніг, што зробленыя з дрэва, але якія ад сапраўдных адрозніць цяжка — адны напалову

[263] РДзГА, ф. 823, воп. 3, № 491.

[264] Крыніцазнаўчая праца асабліва актывізавалася ў апошні час у Польшчы; гл., напр.: *Paszkiewicz U.* Rękopiśmienne inwentarze i katalogi bibliotek z ziem wschodnich Rzeczypospolitej (spis za lata 1553—1939). Warszawa, 1996; Inwentarze i katalogi bibliotek z ziem wschodnich Rzeczypospolitej (spis za lata 1510—1939). Warszawa, 1998.

[265] *Łoziński W.* Życie polskie w dawnych wiekach. S. 39.

[266] Iš Lietuvos bibliotekų istorijos: Teminis mokslo darbų rinkinis. Vilnius, 1985. P. 5—12.

[267] Даследчык згадвае толькі трыбунальскія рэплікі са збораў Яна Нікадзіма Лапацінскага, Антонія Памарнацкага і інш. (*Вяроўкін-Шэлюта У.* Трыбунальскія рэплікі ў фондах Аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. С. 92—93), але там былі і іншыя кнігі.



*«Уся ты прыгожая, любасць мая, і няма на табе заганы!». Цытата з Найвышэйшай песні Саламона на экслібрысе барона Гінцбурга. Гістарычную частку кнігазбору барона складае бібліятэка Іосіфа Жабы з Шша (XVIII ст.).*




*Экслібрыс канцлера ВКЛ, брэсцкага дзяржаўцы Яна Фрыдэрыка Сапегі. 1730 г.*

адкрытыя, другія пагрызеныя пацукамі, трэція паедзеныя моллю, іншыя падраныя...»[268]. Аднак у парадным партрэце мітрапаліта Кіеўскага і Усяе Русі Кіпрыяна Жахоўскага[269] невядомы мастак па-ранейшаму аддае ўвагу кнігам, каб паказаць зацікаўленні чалавека, яго прыярытэты. Кампазіцыя, даволі ўстойлівая, мала змянілася ад часу аўтапартрэта Францыска Скарыны. Кіпрыян паказаны з кнігай (малітоўнікам) у руцэ, а побач, на паліцы, стаяць аднолькавага памеру фаліянты, на спінках якіх напісаны назвы (аўтары). Як госці на званым абедзе, па ранжыру расстаўлены кнігі: спачатку Біблія, потым св. Васіль Вялікі, св. Іаан Златавусны, Фама Аквінскі, Бароній... лацінскія надпісы, каталіцкі рэпертуар. Аб кірылічнай грэкавізантыйскай традыцыі папярэднікаў нагадваюць хіба што адзенне мітрапаліта ды імя св. Іаана Златавуснага на кнізе.

**Прыватныя кнігазборы.** У другой палове XVIII ст. у грамадска значную бібліятэку ператварыўся збор кніг графоў Храптовічаў у маёнтку Шчорсы Наваградскага павета. Пасля 1768 г. яно папоўнілася кнігамі з бібліятэкі епіскапа Ю. Залускага і купленым у Рыме зборам кардынала І. Імперыале. Асаблівую ўвагу ўладальнікі аддавалі краязнаўству, у выніку была сабраная вялікая калекцыя рукапісаў, друкаваных кніг, карт і эстампаў па гісторыі і геаграфіі літоўска-беларускіх зямель[270]. На пачатку Першай сусветнай вайны гэтую бібліятэку вывезлі ў Кіеў, у распараджэнне універсітэта. Храптовічы мелі на мэце перадаць яе першаму універсітэту ў Беларусі, але сацыялістычная рэвалюцыя змяніла лёсы людзей і кніг. У выніку шчорсаўская бібліятэка і сёння знаходзіцца ў Кіеве.

Другі па велічыні пасля Радзівілаўскага прыватны кнігазбор у ВКЛ належаў Сапегам. Аснову яго заклаў у XV ст. вялікакняжацкі пісар Івашка Сапега. У другой палове XVI —

[268] *Łoziński W.* Życie polskie w dawnych wiekach. S. 255.
[269] *Высоцкая Н. Ф.* Жывапіс Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. Фрэска. Абраз. Партрэт. Мн., 1980. № 147.
[270] *Пташицкий С. Л.* Щорсовская библиотека графа Литавора Хрептовича: Краткие сведения о собрании рукописей. М., 1899; *Эрнст Н.* Библиотека графов Хребтовичей // Русский библиофил. 1914. № 6.




*Усвяцкі староста, праваслаўны магнат Ян Пётр Сапега, удзельнік пераможнай бітвы 1605 г. пад Кірхольмам, гаспадар Дайлідаў, Лейпунаў, Гарадка і Харошчы. Памёр у маскоўскім Крамлі 15 верасня 1611 г.*

першай чвэрці XVII ст. вялікую калекцыю сабраў дзяржаўны канцлер Леў Сапега. Паводле яго тэстаменту кнігі перайшлі да сына, Казіміра Льва, які падараваў іх у 1644 г. універсітэту. Новы вялікі сбор Сапегаў звязаны з імем канцлера Яна Фрыдэрыка (пам. 6.6.1751 г.). Для яго былі зроблены два варыянты экслібрыса. Вялікі і малы экслібрысы падобныя па кампазіцыі (адрозніваліся толькі колькасцю дробных дэталей і наклейваліся на кнігі ў залежнасці ад фармата апошніх. Ян Фрыдэрык пакінуў свой кнігазбор нашчадкам, хоць, як і яго папярэднікі, ахвяраваў частку кніг грамадству — прынамсі Брэсцкай езуіцкай калегіі[271].

У бібліятэцы Віленскага універсітэта захаваўся «Рэестр кніг, якія знаходзяцца ў Слонімскай бібліятэцы пана графа Сапегі, падканцлера ВКЛ», складзены 26 мая 1760 г., за чатыры месяцы да смерці гаспадара — падляшскага ваяводы і падканцлера ВКЛ Міхала Антонія Сапегі. Слонімская бібліятэка ўключала ў сябе кнігі па ўсіх галінах ведаў, былі ў ёй і рукапісныя кнігі з палемічнымі тэкстамі, у прыватнасці, вопіс называе «манускрыпт «Дыскусія аб скаргах праваслаўных»[272].

Галоўныя зборы Сапегаў знаходзіліся ў маёнтках Дзярэчын і Кодэнь. Значэнне культуратворчай дзейнасці прадстаўнікоў роду Сапегаў у сярэдзіне XVIII ст., у прыватнасці віленскага епіскапа Іосіфа Станіслава, самагіцкага (жмудскага) епіскапа Паўла Бернарда, падканцлера ВКЛ Яна Фрыдэрыка, можна супаставіць хіба што з дзейнасцю братоў Залускіх у суседняй Польшчы. Захаваная (у Вільні) велізарная перапіска Сапегаў яшчэ дасць даследчыку мноства самай разнастайнай інфармацыі, у тым ліку аб прадстаўніках гэтага роду як аўтарах, заказчыках і збіральніках кніг[273].

У гісторыі родавай бібліятэкі Сапегаў быў момант, калі кнігазбору пагражала пагібель з прычыны моднага захаплення... кнігай. Так, Нестар Сапега ў лісце да маці з Парыжа прасіў, каб яна загадала прадаць усе «старыя паперы» з родавай бібліятэкі, бо ён «складае сабе новую» ў Парыжы[274]. У гэтым выпадку парушыўся баланс паміж бібліятэкай (яе рэпертуарам, мастацтвам афармлення, тэхналогіяй вырабу кніг, што мeліся ў зборы) і, з другога боку, імкненнем маладога гаспадара да новых каштоўнасцей праз адмаўленне старога.

Апошнім сярод Сапегаў-бібліяфілаў быў Аляксандр Сапега. Ён нарадзіўся ў верасні 1773 г. у сям'і палкоўніка Юзафа Сапегі. Ранняе дзяцінства правёў у Страсбургу, куды бацькі пераехалі пасля паражэння Барскай канфедэрацыі і першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. На пачатку 1777 г. Сапегі вярнуліся на радзіму. Аляксандр жыў ў маёнтку Сямяцічы пад Брэстам, у цёткі Ганны Яблаtable ноўскай з Сапегаў, карыстаўся яе вялікай бібліятэкай і мінералагічным музе-

[271] Кніга «Ars Metrica» Авідзія са збораў РНБ (шыфр 6.4.7.1.63) мае на адгорце верхняй крышкі вокладкі надпіс: «Collegii Brestensis Societatis Jesu. Ex dono Ill[ustrissi]mi Ioannis Friderici Sapieha cancellarii MDLitt.»
[272] Аддзел рукапісаў НБВУ, ф. 3, воп. 3, № 222.
[273] *Roszak S.* Środowisko intelektualne i artystyczne Warszawy w połowie XVIII w.
[274] *Łoziński W.* Życie polskie w dawnych wiekach. S. 35.

ем. Вялікі ўплыў на фарміраванне светапогляду Сапегі мела знаёмства з Жакам Жэліберам (1741—1841), прафесарам гісторыі прыродазнаўства Галоўнай школы ў Вільні, заснавальнікам медыцынскай акадэміі ў Гродне, з якім ён потым падтрымліваў сяброўскія адносіны ўсё жыццё.

У 1795 г. Аляксандр удасканальваў свае веды ў Вене, падарожнічаў па Альпах, Апенінскім паўвостраве і Францыі. У 1800 г. Сапега становіцца членам Таварыства аматараў навук у Варшаве і займаецца стандартызацыяй мераў і вагаў ў Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім па ўзоры метрычнай сістэмы Заходняй Еўропы. Друкуе на польскай і французскай мовах сваю працу «Параўнальная табліца новых французскіх і літоўскіх (польскіх) мераў і вагаў». Асобнымі выданнямі для масавага карыстання выходзяць яго табліцы пераводу мераў і вагаў, распаўсюджаных у Рэчы Паспалітай, у метрычныя, прынятыя ў Еўропе. Адначасова ў часопісах ён друкуе шэраг артыкулаў па геалогіі, геаграфіі і этнаграфіі, выдае падручнік па неарганічнай хіміі.




Экслібрыс Канстанцыі з Радзівілаў Сапегі, жонкі канцлера. 1741 г.

У 1811 г. Аляксандр Сапега перадаў свой кнігазбор у карыстанне Таварыству аматараў навук (яно павінна было выконваць функцыі Акадэміі навук) і вызначыў сродкі для парадкавання і падтрымання гэтага збору. Бібліятэка з Кодэня пераехала ў Варшаву. Восенню 1812 г. у сутычцы з дзіком на паляванні ў Белавежскай пушчы Аляксандр атрымаў сур'ёзную траўму і 8 верасня памёр у Дзярэчыне пад Зэльвай — маёнтку Францішка Сапегі, генерала літоўскай артылерыі. Там ён і пахаваны. Бібліятэка заставалася ў Варшаве, пакуль палітычныя закалоты не змянілі яе лёс. У 1831 г., пасля падаўлення польскага паўстання, Таварыства аматараў навук было зачынена, а яго бібліятэка перавезена ў Санкт-Пецярбург і перададзена Імператарскай Публічнай бібліятэцы. Зараз кнігі з апошняй бібліятэкі Сапегаў знаходзяцца ў Віленскім універсітэце, Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы і бібліятэцы Эрмітажа (Санкт-Пецярбург).

**Царкоўныя кнігазборы.** У вопісы асноўнай маёмасці царквы звычайна траплялі найбольш каштоўныя, алтарныя кнігі. Што ж тычыць астатняй царкоўнай бібліятэкі, на яе альбо складаўся асобны рэестр, альбо проста называлася колькасць наяўных пераплётаў. У 1700 г. у вопісе маёмасці Слуцкай архімандрыі адзначаны тры Евангеллі, апраўленыя ў аксамітны пераплёт са срэбнымі пазалочанымі навугольнікамі, а таксама кнігі «ў скрыні бібліятэчнай, акрамя царкоўных 116, апісаных у асобным рэестры»[275].

Кнігі, што былі ў Лукомскім манастыры, упамінаюцца ў «Мемориале о чинимых в Польше и Литве благочестивым несносных утеснениях и обидах и о желании государством, каким образом оные удовлетворить Польская Республика должна», які быў перададзены каралю Аўгусту II у чэрвені 1720 г.: «В 1715, в Оршанском повете, Лукомскаго монастыря игумена греческаго исповедания Варлаама и нескольких монахов князь Лукомской... тот монастырь отняв у тех монахов со всею утварью, вещами церковными, пожитками, книгами и письмами монастырскими, отдал униатам, которые и ныне в нем обретаются»[276].

Сёння ў грамадстве зноў ажывілася цікавасць да манастыроў ВКЛ як асяродкаў

[275] *Грыцкевіч А. П.* Рэгіянальная культура Случчыны ў XVI—XVIII стст. С. 29.
[276] *Бантыш-Каменский Н. Н.* Историческое известие о возникшей в Польше унии, с показанием начала и важнейших в продолжение оной чрез два века приключений, паче же о бывшем от римлян и униатов на благочестивых тамошних жителей гонении. 2-е изд. Вильна, 1866. С. 158.

*Сапегаўскае Евангелле XVI ст. — адна з найбольшых святынь Жыровіцкага манастыра. У час існавання Вялікага Княства Літоўскага выкарыстоўвалася для літургічнай практыкі. Зараз знаходзіцца ў бібліятэцы АН Літвы ў Вільні.*



кніжнай культуры. Тым больш істотным здаецца пастулат аб даследванні манастырскіх бібліятэк з улікам мэт іх узнікнення, паказ на фоне дамінавальных у дадзеную эпоху рэлігійных плыней разам з аналізам уплыву бібліятэк на пэўнае асяроддзе[277]. Усведамляючы велізарнасць (і асобнасць) гэтай тэмы, мы спынімся на адной з манастырскіх бібліятэк як вельмі характэрнай састаўной часткі кніжнасці Вялікага Княства Літоўскага.

**Бібліятэка Жыровіцкага манастыра.** Жыровіцкі Успенскі манастыр заснаваны ў 1613 г. брэсцкім кашталянам Іванам Мялешкам на месцы царквы, што пабудаваў у XIV ст. Аляксандр Солтан у 9 кіламетрах ад Слоніма. Вялікія зямельныя фундушы (Сапегаў, Мялешкаў і інш.) і прысутнасць высокашаноўнай у цэлым краі рэліквіі — цудатворнага Жыровіцкага абраза — зрабілі манастыр адным з буйнейшых у Літоўскай правінцыі базыльянскага ордэна. Ужо ў першай чвэрці XVII ст. Жыровіцы сталі цэнтрам кнігапісання. Захавалася «Гисторыа або повесть людей розных веры годных о образе чудотворном пренасвятейшое девы Марии жировицком в повете слонимском, во всем згодная. Коротко выписаная и з немалою працою и старанем собраная през много грешного отца Феодосия» — яна спісана каліграфічным беларускім скорапісам у 1622 г.[278] На пакланенне цудатворнаму абразу прыязджалі каралі Польшчы і вялікія князі літоўскія — у 1644 г. Уладзіслаў IV, у 1651 г. — Ян Казімір, у XVIII ст. — Ян Сабескі, Аўгуст II, Станіслаў Аўгуст. У 1656 г. мястэчка Жыровіцы было спалена казакамі Багдана Хмяльніцкага; гарэў і манастыр, аднак бібліятэку пажар не крануў. Манахі пад час гэтага наезду хаваліся ў суседнім Быценскім манастыры, там захоўваліся і каштоўнасці ордэна (верагодна, і кнігі)[279]. Пасля ўсіх нягодаў кнігазбор вяртаўся на сваё месца.

Выбар памяшкання для бібліятэкі і яго абсталяванне для захавання кніг у пэўнай меры адлюстроўвалі тагачасныя погляды на спосабы захавання збору ад знішчэння і растраты. Напрыклад, размяшчэнне кнігазбору на больш высокіх паверхах манастыра ізалявала яго і засцерагала ад залівання вадой, а вокны, якія свабодна адчыняліся, дазвалялі ствараць цыркуляцыю паветра, зняць лішнюю вільготнасць, забяспечвалі дастатковае дзённае асвятленне.

Шафы з дзверцамі захоўвалі ад пылу, а таксама — хоць і ў невялікай ступені — ад пападання кніг да неўпаўнаважаных асоб. Быў у манастыры і «фонд спецыяльнага захоўвання» — кнігі адсюль выдаваліся толькі па благаславенні архімандрыта.

Трэба адзначыць, што нават некаторыя пастановы вышэйшага органа кіравання базыльянскага ордэна — кангрэгацыі — часам датычылі непасрэдна кніжнасці.

Віленская (VI) кангрэгацыя на першай сесіі 21 чэрвеня 1636 г. прыняла рашэнне «аб пільным мураванні Жыровіцкай царквы, аб гандлі кнігамі і дакупленні кніг» для Жыровіцкага манастыра кожны год.

Жыровіцкая (XIV) кангрэгацыя на восьмай сесіі 25 снежня 1661 г. разгледзела просьбу айца Іларыёна Скажынскага, «рэгента музыкі жыровіцкай»: паколькі гатовага гроша з яго спадчыннага маёнтка паўтрэці тысячы злотых (2,5 тыс.) старэйшыя ордэна выдаткавалі на кнігі для бібліятэкі, ён просіць, «каб на тых кнігах імя яго напісана было, каб за жывата і па смерці яго айцы і брацця тыя кнігі на хвалу Бога і збавенне бліжніх ўжываючы, маглі тэж онага перад панам Богам у малітвах сваіх не забыць...», і пастанавіла задаволіць яе[280].

Гістарычна ў Жыровіцкім манастыры скляліся некалькі кнігазбораў.

1. Бібліятэка Успенскага сабора. Згодна з вопісам 1731 г., у ёй было 56 кніг, галоўным чынам богаслужбовых, з якіх 15 — рукапісныя. Сярод рукапісных 2 Ірмалоі, 8 Міней, 1 Асьмагласнік, 3 Службоўнікі, 1 Трэбнік і 1 Евангелле, усе кнігі памерам фоліо.

2. Галоўная манастырская бібліятэка. У 1757—1759 гг. яна была ўпарадкавана, разбіта на 17 раздзелаў, на першым і апошнім аркушы кожнай кнігі прастаўлены бібліятэчны шыфр. Шыфр выглядаў наступным чынам:

[277] *Zahajkiewicz M.* Zarys dziejów i znaczenie bibliotek kościelnych // Archiwa, biblioteki i muzea kościelne. 1988. T. 56. S. 136-137.

[278] Гэты рукапіс у XIX ст. Павел Дабрахотаў вывез з Жыровіцкага манастыра (*Крамко I. I., Мальдзіс А. I.* Са скарбаў нашага старажытнага пісьменства // Помнікі культуры. Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 128—132).

[279] *Щербицкий О. В.* Бытенская архимандрия // Вестник Западной России. 1868. Кн. 10. С. 200—201.

[280] АСД. Т. 8. С.





*«Гистория або Повесть людзей розных веры годных о образе чудовном пренайсвятейшое девы Марии жыровицком в повете Слонимском...». Кніга, складзеная і перапісаная іераманахам жыровіцкага манастыра Феадосіем. Тытульны аркуш і першая старонка.*

| | |
|---|---|
| 1758 | год, калі кніга прайшла шыфроўку |
| XXX | раздзел па каталозе бібліятэкі |
| Ж | шафа |
| 39 | нумар кнігі ў шафе |
| лd | нумар, напісаны кірылічнымі літарамі |
| 39 | нумар кнігі ў шафе |

Па ніжнім полі ў сярэдзіне тома запісвалася скрэпа такога зместу: *«Сія книга есть библиотеки моностыра Жыровицкого Чину святого Василія Великого 1758* [варыянты: 1757, 1759] *Anno подписана»*. Вопіс канца XVIII ст. фіксуе 2686 назваў у 3867 тамах, акрамя таго, 192 кнігі «рукапісныя з хораў» і 345 «рукапісаў рознага віду», а таксама 93 розныя эстампы[281]. Значнай была нотная калекцыя, якая ў 1772 г. налічвала 209 адзінак[282].

3. Бібліятэка базыльянскай ордэнскай школы. Паводле інвентару 1800 г., мела 142 назвы ў 330 паасобніках.

4. Бібліятэка свецкай школы пры манастыры. Налічвала (на 1800 г.) 42 назвы ў 123 паасобніках.

У наш час рукапісныя кнігі з бібліятэкі Жыровіцкага манастыра знаходзяцца ў бібліятэцы АН Расіі ў Санкт-Пецярбурзе, бібліятэцы АН Летувы ў Вільні, архіве аддзялення Інстытута расійскай гісторыі ў Санкт-Пецярбурзе, Аддзеле рукапісаў і кніжных фондах Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі, Гродзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі-запаведніку, Ціхаміраўскай калекцыі бібліятэкі Сібірскага Аддзялення АН Расіі ў Навасібірску. Яны даюць магчымасць уявіць, як рукапісныя кнігі траплялі ў Жыровіцкую бібліятэку:

Кнігі, перапісаныя на заказ у іншых манастырах. Прыкладам можа быць Кормчая (БАНЛ, F19-242), з такой прыпіскай: «В лето от сотворенія міра 6242, а іже ад... рождества Господа Бога і Спаса нашего Ісуса Хрыста 1634 месяца марта 22 дня написана быс сія книга... при... преосвященном архіепископе митрополите Кіевском и Галицком и всеа Росіи Кир Іосифе Велямине Руцком. Сверши же ся в богаспасаемом граде Пинску пры благочестивом епископе того града Рафаиле

[281] Архіў СПбФіРГ. Ф. 52 Доброхотов. Воп. 1. Спр. 152, 161, 228, 296.

[282] Нотны каталог Жыровіцкага манастыра 1772 г. надрукаваны як дадатак да кнігі: *Дадиомова О. В.* Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. С. 186.

Корсаку в манастыру Лещу повеленіем настоятеля моего на тот час чеснаго отца Іоана Дубовича и накладом чудотворныя лавры Жыровицкія, церкви Успенія Пресвятыя Богородицы, у ней же и положена при игумене сего монастыра Жыровицкого чесном отци Пахоміи Оранском. Написах же ю аз многогрешный и недостойный свяшченноинок Никодим прозываемый Козицки чину святого отца нашего Великого Василія...».

Кнігі, падараваныя манастыру царкоўнымі і свецкімі іерархамі. Захаваліся два такія дары: Евангелле з прыпіскамі Сапегі (БАНЛ, F19-32) і «Статут яко посвящать епископа новаго» з даравальным надпісам мітрапаліта А. Сялявы (БАН, Добр. 27).

Кнігі, перапісаныя ў Жыровіцах. Магчыма, адной з першых была ўжо памянёная кніга Феадосія — яна змяшчала апісанні цудаў, звязаных з Жыровіцкім цудатворным абразом. У бібліятэцы захоўваліся кнігі, перапісаныя адным з першых архімандрытаў — Іясафатам Кунцэвічам, інвентарныя кнігі і кнігі-архівы, захаваўся зборнік на славянскай і лацінскай мовах, перапісаны Цімафеем Мароўскім у 1752 г. (РНБ, Разн. 0.І.54). Наяўнасць сярод манастырскай маёмасці двух «прасаў інтралігатарскіх» (пераплётных прэсаў) сведчыць аб тым, што ў Жыровіцах займаліся і пераплётам кніг.

Паступленні з іншых манастыроў. Часам гэта былі законныя (з дазволу вышэйшага начальства) перамяшчэнні каштоўных кніг з невялікіх манастыроў у Жыровіцкі для лепшага захавання, часам жа ўзятая на карыстанне кніга гаспадару не вярталася. На першым аркушы «Павучанняў» Кірылы Іерусалімскага, напрыклад, маецца такі запіс: «Монастыра Дубенскаго св. Спаса, мон. віленскому св. Тройцы пожичона в лето 1537»; на гэтай жа кнізе, пачынаючы з 18-га аркуша, бібліятэчная скрэпа Жыровіцкага манастыра.

Сярод друкаваных кніг у Жыровіцкай бібліятэцы было некалькі паасобнікаў Статута ВКЛ 1588 г. На адным з іх, на адгорце апошняга аркуша, захаваўся напісаны пяром храналагічны пералік важнейшых падзей (надпісы зробленыя паміж 1695 і 1720 гг.), даты некаторых падзей аўтар не ведаў і не дапісаў:

*З'яўленне вобраза цудоўнага жыровіцкага каля року Господня 1470 аказалася.*

*Кароль Стэфан Баторы пад Гданьскам абозам ляжаў. Року 1578.*

*Року 1630. У Жыровіцах царкву мураваную заклалі.*

*Тая ж цэркаў зруйнавана ад Масквы праз Залатарэнку гетмана А. 16*

*А рэстаўрацыя яе ж у року 1675 скончана.*

*Року 1660 месяца ліпеня 28 Хаванскага, гетмана Маскоўскага, пад Палонкай знеслі. Праз Яснавяльможнага Я.М. пана Паўла Сапегу, ваяводу віленскага, гетмана Вялікага Княства Літоўскага і праз ясна вяльможнага Я.М. пана ваяводу Рускага Чарноцкага і праз вяльможнага Я.М. пана Аляксандра Гіларыя Палубінскага, пісара польнага ВКЛ.*

*Ян кароль выехаў з дзяржавы ў року 16*

*Кароль Міхал Карыбут Вішнявецкі панаваў гадоў паў чварта, памёр у року 16*

*Кароль Ян Сабескі панаваў гадоў 21. Памёр у року 1697.*

*Кароль Аўгуст Саскай зямлі каранаваны ў року 1697.*

*Року 1690 месяца жніўня саранча напала. Шкодзіла людзям у збожах, ела траву на лугах і лісце на дрэвах.*

*Року 1695 на Божае Цела выпаў снег немалы, санмі ездзілі, жыто... было засыпана, а калі таяў, аж у дзень на вадзе сярка паказалася.*

*Року 1720 Цар Я.М. меў Сынод у Пецярбурзе in August*[283].

Картачнага каталога бібліятэка не мела — галоўны каталог быў сістэматычны, вялі яго на аркушах вялікага фармата. Шмат кніг бібліятэкары пераплялі самі (у канцы XVIII ст. сярод інвентару Жыровіцкага манастыра значыліся два пераплётныя варштаты), канвалюты збіралі часцей за ўсё паводле тэматычнага крытэрыю, напрыклад выдання аднаго аўтара. На выданнях, што датычаць дзейнасці базыльян, можна сустрэць адсылкі да папераў манастырскага архіва. Напрыклад, на тытуле кніжкі Кіпрыяна Жахоўскага «Уступленне па дарозе да сталічнага ВКЛ горада Вільні...», выдадзенай у друкарні універсітэта ў 1667 г., ёсць заўвага: «NB. Апісанне гэтага акту глядзі ў Торбе пад лічбай 33».

Колькасць манастыроў (кляштараў), якія мелі значныя кнігазборы, безупынна павялічвалася. Уяўленне пра іх стан дае табліца 14, крыніцамі да якой былі падлікі М. Підлыпчак-Маяровіч (заснаваныя на інфарма-

[283] Паасобнік БАН. Шыфр 982 сп.


Ant Herba Kunigaykščia jo Milistos.

TAwi išškiesta=sparni / o Eriali iuodas /
Tris širdij triubas turis / gársi šlowe duodas.
Jánušie Rádiwilay / Kunigaykšti / Pone /
Waywáda Wilniaus / dides Lietuwos Het=
mone.
Tau likta ziuret saulen áštray / ir pázinti
Diewa duotá / ir drasey tiesa išpázinti.
Ta juog mili / o tiesos ano neatstoi /
Tárnus jo kayp priguli mielay šienawoi:
)*( 2
Tawo

*«Кніга набажэнства хрысціянскага... для карыстання цэркваў Вялікага Княства Літоўскага...». Герб Януша Радзівіла і верш на літоўскай мове «Ant herba kunigaykščia jo Milistos» — «на герб князя яго міласці». Кейданы, 1653 г.*

цыі Я. Тышкевіча, Я. Гіжыцкага, С. Баранча, Ф. Радзішэўскага і Я. Курчэўскага)[284], а таксама звесткі Ю. Лабынцава, Л. Шчавінскай і аўтара. Калі ў розных крыніцах даецца розная ацэнка колькасці кніг у манастыры, мы прыводзім (праз косую рыску) найменшую і найбольшую лічбы, калі інфармацыі няма — пакідаем месца.

Арыгінальна былі арганізаваны бібліятэкі членаў ордэна езуітаў: шматлікія выкладчыкі-езуіты (прафесары), не купляючы кніг, (а значыць не парушаючы запавету беднасці), маглі карыстацца прыватнымі кнігазборамі. Згодна звычаям ордэна, кожны член праз тры гады мяняў месца працы (звычайна і жыхарства). Прыехаўшы на новае месца служэння, ксёндз-прафесар пасяляўся ў пакой, дзе ўжо знаходзілася спецыялізаваная бібліятэчка. Бібліятэчка належала ордэну, кожны, хто ад'язджаў, мусіў гэты кнігазбор пакінуць у цэласці, (для кантролю адзін спіс кніг захоўваўся ў пакоі, разам з бібліятэчкай, другі — у адказнага за маёмасць, трэці — у прэфекта агульнай бібліятэкі). Прэфекта агульнай бібліятэкі кожнага калегіума прызначаў непасрэдна правінцыял Літоўскай правінцыі ордэна, прэфекты былі абавязаны складаць каталог усіх кніг і прад'яўляць яго правінцыялу пад час праверак (візітацый). Акрамя таго, Статут ордэна езуітаў абавязваў прэфекта трымаць кнігасховішча замкнёным і дазваляць карыстанне кнігамі толькі тым асобам, якія мелі дазвол старэйшых. Асабліва гэта датычыла выданняў, названых у «Індэксе забароненых кніг», які ўпершыню быў надрукаваны ў Рыме ў 1559 г. і потым штогод дапаўняўся, — іх захоўвалі ў асобнай шафе. Каб бібліятэкай зручна было карыстацца, прэфект мусіў ставіць кнігі на паліцы ў прадметным парадку, падпісваць на пераплётах назву, а таксама імя і прозвішча аўтара. Сшываць у адзін пераплёт тэзісы публічных дыспутаў па тэалогіі і філасофіі, запісваць у сшыткі драматычныя, панегірычныя і іншыя творчыя працы студэнтаў таксама было абавязкам прэфекта бібліятэкі. Такія пераплёты змяшчалі ў аддзел «Miscellania». Раз у тыдзень неабходна было выціраць пыл, а два разы на тыдзень — прыбіраць памяшканне.

Прэфект меў права купляць для галоўнай бібліятэкі тыя кнігі, якіх не хапала, а таксама замяняць непатрэбныя кнігі на лепшыя, але для гэтага трэба было ўзгадніць пытанне з кіраўніцтвам ордэна. Гэтая акалічнасць стрымлівала ініцыятыву прэфектаў і ў 1763 г. генерал ордэна Лаўрэн Рыккі ўнёс пэўныя змены. Цяпер кіраўніцтва выдзяляла прэфекту на закуп айчынных кніг пэўную суму грошай на год (замежныя выданні купляў па просьбе прэфекта пракуратар правінцыі)[285].

Задача будучага даследчыка — вызначыць асаблівасці функцыяніравання і ролю бібліятэк розных ордэнаў (і розных канфесій) у культурным і рэлігійным жыцці Вялікага Княства, а таксама прасачыць іх лёсы.

[284] *Pidłypczak-Majerowicz M.* Biblioteki i bibliotekarstwo zakonne na wschodnich ziemiach Rzeczypospolitej w XII—XVIII wieku. Wrocław, 1996. S. 173—176.

[285] *Grzebeń L.* Organizacja bibliotek jezuickich w Polsce od XVI do XVIII wieku. // Archiwa, Biblioteki i Muzea Kościelne. 1975. T. 30. S. 227—268.

**Кнігазборы манастыроў** *Табліца 14*

| Ордэн | Населены пункт | Колькасць кніг |
|---|---|---|
| Аўгусцінцы | Брэст Літоўскі | 161/1201 |
| Бенедыкцінцы | Нясвіж | 1036 |
| | Старыя Трокі | 276/1521 |
| Бернардзінцы | Валожын | 100 |
| | Вільня | 7000 |
| | Гродна | 400/2000 |
| | Заслаў | 5000 |
| | Іўе | 500 |
| | Нясвіж | 1000 |
| | Слонім | 1000/2000 |
| | Трокі | 276 |
| Баніфраты | Гродна | 44 |
| | Наваградак | 12 |
| | Высокае Літоўскае | 67 |
| Даменіканцы | Веркі | 243 |
| | Вільня | 3480/5317 |
| | Гродна | 15 000 |
| | Дзярэчын | 1143 |
| | Забелы | 3000 |
| | Наваградак | 500 |
| | Папорцы | 1072 |
| Францысканцы | Альшаны | 510 |
| | Вільня | 2186/3358 |
| | Гродна | 500 |
| | Мінск | 400 |
| | Наваградак | 100 |
| | Паставы | 250 |
| | Свіслач | 889 |
| | Пінск | 700 |
| Езуіты | Брэст Літоўскі | 1366 |
| | Бабруйск | 500 |
| | Гродна | 2373 |
| | Кодэнь | 1130 |
| | Наваградак | 982 |
| | Пінск | 1000 |
| | Полацк | 20 000 |
| | Слуцк | 2995 |
| | Ужвалда | 2200 |
| Канонікі рэгулярныя латэранскія | Вільня | 2819 |
| Кармеліты босыя | Вільня | 4000 |
| | Глыбокае | 3000 |
| | Гродна | 526 |
| | Мядзел | 500 |
| | Жалудок | 160 |
| Картэзіянцы | Бяроза | 1500 |
| Місіянеры | Вільня | 6694.8284 |
| | Заслаўе | 860 |
| | Краслаў | 1500 |
| | Тыкоцін | 1500 |
| Піяры | Вільня | 4014/7000 |
| | Дуброўна | 2000 |
| | Ліда | 800 |
| | Панявеж | 221 |
| | Шчучын | 2000/2751 |
| Трынітарыі | Вільня | 4060 |
| | Маладзечна | 1086 |
| | Орша | 970 |

Публікацыі на гэтую тэму пакуль што яшчэ вельмі нешматлікія і фрагментарныя[286].

**Бібліятэкі бенедыкцінак.** Пасля Трыдэнцкага сабору пачалося рэлігійнае абнаўленне каталіцкага Касцёла. Яно ахапіла як старыя, так і новастворaныя манаскія ордэны, галоўным чынам сузіральнага характару. Першым жаночым ордэнам, які пачаў жыццё згодна з новымі нормамі і ідэаламі, былі бенедыкцінкі. Тыповай з'яўлялася бібліятэка іх Слонімскага канвента — падобныя былі ў жаночых бенедыкцінскіх манастырах Вільні (ад 1620 г.), Драгічына (ад 1623 г.), Коўна (ад 1624 г.), Мінска (ад 1631 г.), Оршы (ад 1640 г.) і Крожаў (ад 1642 г.). У 1591 г. узнік манастыр бенедыкцінак у Нясвіжы; у 1638—1640 гг. частка манашак з яго пераехала ў Смаленск, а ў 1669 г. гэты канвент быў яшчэ раз перанесены — цяпер у Слонім, як новы фонд Святога Крыжа[287].

Пад тэрмінам «бібліятэка» бенедыкцінкі разумелі як увесь адпаведным чынам арганізаваны кнігазбор, так і вылучаныя з яго спецыялізаваныя зборы. Для агульнага карыстання была прызначана ўласна манастырская бібліятэка, г. зв. канвенцкая, якая адначасова выконвала функцыю сховішча, а магчыма, і чытальні. Асобны збор меўся ў распараджэнні паслушніц. Падручныя зборы знаходзіліся ў ігуменні, капеланаў, у інфірмерыях (памяшканнях для хворых), трапезнай, на хорах, а таксама ў рызніцы (закрысці) касцёла. Дакументы і хронікі захоўваліся асобна ў архіве. Запісы на кнігах даюць магчымасць меркаваць аб наяўнасці ўласных збораў у манашак, што супярэчыла Статуту і рэкамендацыям візітатараў[288].

Дэцэнтралізацыя кнігазбору была вынікам прызначэння і спосабу выкарыстання. Папаўненне адбывалася галоўным чынам праз закупы (на месцы і праз заказы падарожным манашкам альбо асобам, якія звязаны з канвентам павіннасцю) і дарункі, рукапіснае стварэнне і капіраванне тэкстаў, а таксама выдавецкую дзейнасць. Бенедыкцінкі падрыхтавалі і надрукавалі ў розных друкарнях ВКЛ тэксты рэлігійнага характару, галоўным чынам Статут і каментары да яго, літургічныя і паралітургічныя, палемічныя і агіяграфічныя працы, у прыватнасці манастырскія тэксты і зборы малітваў, пісанні ўласных заснавальнікаў і святых, а таксама творы з нагоды розных падзей.

Набытыя зборы апрацоўвалі — надпісвалі на кнігах уладальніцкія знакі, шыфры, згодна з якімі яны размяшчаліся на паліцах, а таксама запісвалі ў каталог бібліятэкі, які часцей за ўсё меў характар інвентара. «Рэестр касцельнага інвентару смаленскага манастыра году 1668 жніўня 28» сярод рызаў, абразоў, antependium і да т. п. рэгіструе кнігі, якія пералічаны ў такім жа парадку, як і «касцельная бялізна». Бенедыкцінкі не распрацавалі спецыяльных бібліятэчных правілаў і таму можна меркаваць, што апрацоўка збораў залежала ў большай ступені ад іх прызначэння і патрэб чытачоў, чым ад тэарэтычных даследаванняў ці ведаў манашак, якія адказвалі за кнігазбор. Часцей за ўсё на тытульным аркушы альбо на пярэднім і заднім форзацы размяшчаўся (сустракаецца ў розных варыянтах) тэкст ці пячатка, якія сведчылі аб прыналежнасці тамоў канкрэтнаму канвенту і размяшчэнні кніг у манастыры.

Паколькі не існавала спецыяльных правілаў адносна канструкцыі бенедыкцінскіх манастыроў, іх архітэктуру і ўнутраную планіроўку памяшканняў у асноўным вызначалі патрэбы манаскага жыцця, рэальныя магчымасці іх рэалізацыі. Гэта датычыла таксама і размяшчэння кнігазбору, на што ўплывала яго велічыня і спосаб выкарыстання. Напрыклад, кнігі, што прызначаліся для літургіі, знаходзіліся звычайна ў рызніцы і на хорах.

Слонімскія манашкі да 1700 г. жылі ў часовых памяшканнях, затым пераехалі ў драўляны аднапавярховы будынак з 10 келлямі (на 18—26 манашак). Толькі ў 1767—1779 гг. быў пастаўлены новы цагляны двухпавярховы будынак, потым узведзены касцёл і гаспадарчыя пабудовы. Зараз цяжка рэканструяваць і вызначыць, як размяшчалася бібліятэка і якім было яе абсталяванне. Ад'езд манашак па распараджэнні царскіх улад у Коўна, Вільню і Менск, а таксама ліквідацыя дома ў

[286] *Шоцік В.* Гісторыя і лёс бібліятэкі кляштара дамініканцаў у Гародні//Гістарычны альманах. Т. 6. Гродна, 2002. С. 228—235. *Ткачэнка М.І.* Пецярбургскі лёс бібліятэкі Полацкай езуіцкай акадэміі (даклад на 10-й Міжнароднай канферэнцыі «Санкт-Пецярбург і беларуская культура 14 чэрвеня 2002 г.» і інш.

[287] *Гвёздзик И.* Собрание книг бенедиктинок в Слониме//Белорусский сборник. № 2. СПб., 2001. С. 56—63.

[288] У раздзеле 33 Статута сказана, каб ніхто «не адважваўся мець чаго-небудзь уласнага, зусім ніякай рэчы альбо кнігі: «Reguła świętego Ojca Benedicta z łacińskiego przetłumaczona i Reformacyją porządków chełmieńskiego, toruńskiego [...] potwierdzona [...] W Krakowie, u wdowy Jakuba Sybeneichera, 1606. S. 56.

1850 г. прывялі да поўнай страты бібліятэкі. Захаваны «Рэестр...» пералічвае 31 назву кніг, не ўдакладняючы, аднак, дакладнай колькасці тамоў (часам абазначана наяўнасць пазіцыі ў некалькіх паасобніках). Шмат большай была бібліятэка бенедыкцінак з Нясвіжа — 225 назваў у 437 тамах[289].

Бібліятэка слонімскіх бенедыкцінак мела перадусім рэлігійны характар, які адпавядаў патрэбам жаночага сузіральнага манастыра. Тут знаходзіліся творы па самых розных тэалагічных дысцыплінах, найважнейшыя ў рэалізацыі манаскага прызначэння літургічныя тэксты (ігумення павінна была забяспечыць манастыр кнігамі для правядзення літургіі, такімі, як трэбнікі, службоўнікі, кнігі аб пакутніках (martyrologium) і diurnały, цырыманіялы, абрады і rubryceli — «Рэестр...» называе больш за 10 такіх кніг, аскетычна-містычныя працы старых (асабліва манастырскіх) і сучасных аўтараў, розных духоўных школ, патрыстычныя, казанні і інш. Тэндэнцыя стварэння акрэсленага, актуалізаванага фонду «духоўнай» літаратуры наогул характэрна для бібліятэк жаночых ордэнаў. Гэтая бібліятэка выступае як паказальнік знешніх ўплываў, а таксама патрэб, магчымасцей і характару канкрэтнага манастыра, што звязана з яго жыццём, асобамі, формамі дзейнасці, нават геаграфічным становішчам. Напрыклад, Слонімскі манастыр быў вядомы сваім выключным клопатам аб прыгажосці літургічных спеваў, таму натуральная прысутнасць у бібліятэцы адпаведных гэтай мэце кніг.

Рукапісныя кнігі слонімскіх бенедыкцінак перш за ўсё літургічныя і паралітургічныя: манаскі антыфон, Статут, а таксама «Духоўныя практыкаванні». Кожная манашка яшчэ паслушніцай павінна была запісваць тэксты медытацый і гавення.

Таму ў асяроддзі рэфармаваных бенедыкцінак узнікла своеасаблівая літаратурная школа, якая спрыяла стварэнню літаратуры аскетычнай і з нагоды пэўных падзей. Іх творчасць мела экзістэнцыяльны маштаб, упісвалася ў будзённае жыццё, у святы свет думак, мар і памкненняў манашак і разам з тым асімілявала ўсё, што было каштоўнае ў культуры.

Рэжым дня ў манастырах адпавядаў і суадносіўся з рэалізуемай духоўнасцю. Роля практычнага чытання на кожным этапе жыцця манаха ці манашкі вельмі істотная: ад паслуху да апошняй хвіліны жыцця. З чытаннем літургічных тэкстаў манашкі сустракаліся перш за ўсё пад час oficium; сталым месцам, якое прызначалася для гэтага, была трапезная: «У трапезнай павінны заўсёды чытаць, а тая, якая будзе размаўляць, хай прыме чытанне на сябе, прычым стоячы на каленях», — прадпісваў у 1745 г. манашкам візітатар; ён рэкамендаваў «часта чытаць раздзел св. Якуба пра мову, якую з бібліятэкі спаведнік можа перакласці на польскую мову»[290] (у «Рэестры...» названа таксама Евангелле).

Другім асноўным тэкстам быў Статут. Называліся канкрэтныя творы: «1. Жыцproperty пана Ісуса Гранатаса. 2. Жыцце Найсвяцейшай Панны. 3. Жыцці святых. 4. Аб паследаванні Пана Ісуса Фамы Кемпійскага. 5. Вячэры Святых Айцоў ад Яна Касіяна пісаныя і тамсама іншыя рэчы. 6. Гераніма Плата аб добрах манаскага стану. 7. Дызедэроза. 8. Юлія Фацця аб умярцвенні. 9. Пуцяводніка. 10. Люстэрка. 11. Баронія польскага і «штонебудзь [...] да тых кніг падобнае».

Спецыяльна вызначаныя кнігі давалі для чытання паслушніцам пад час посту. Для гэтай мэты асабліва падыходзілі агіяграфічныя творы, якія дапамагаюць фарміраванню асобы, а таксама выбраныя біяграфіі, такія, як біяграфіі св. Ігнацыя, св. Іаана, альбо пасцілы, што ёсць у слонімскім «Рэестры...». Называліся там таксама тэксты вядомых езуіцкіх пісьменнікаў: Іярэміі Дрэкселія («Oko wieczności», «Droga do wieczności»), Лукі Пінэлі («Złota monstrancja»), Марціна Хіньчы («Kryl bolesny») альбо бенедыкцінскіх, напрыклад, Войцэха Плоцкага («Błogosławieństwo zakonu S. Benedykta»).

Асобную бібліятэку ў жаночым манастыры мелі святары-капеланы. Прынамсі, у нясвіжскіх бенедыкцінак яна налічвала 60 назваў у 79 тамах, сярод якіх вылучаюцца паасобнікі Бібліі і каментараў да яе (4 пазіцыі), катэхізісы (3 паас.), медытацыі (7 паас.), жыцці і календары (5 паас.), рытуалы (4 паас.) і розныя кнігі, сярод якіх «Індэкс забаро-

[289] *Gwioździk J.* Staropolski ksiegozbiór panien benedyktynek z Nieświeża. Z dziejów fundacji Mikolaja Krzysztofa Radziwiłła Sierotki// Badania księgozbiorów Radziwiłłów... S. 104.

[290] Візітацыі ксяндза Жулкоўскага ў архіве слонімскіх бенедыкцінак у Станентках. Інфармацыя Іяланты Гвёздзік.

*Геральдычныя малюнкі з маскоўскага рукапіснага «Тытулярніка» 1672 г. Герб Полацка, герб Мсціслаўля, герб Смаленска, герб Віцебска.*









неных кніг» і «Гальская вайна» Гая Юлія Цэзара[291].

Своеасаблівы фонд кніг мелі бібліятэкі каталіцкіх парафій (парохій) у Інфлянтах (сумеснае ўладанне Польшчы і ВКЛ). Побач з богаслужбовай і тэалагічнай літаратурай тут былі выданні па медыцыне і вядзенні гаспадаркі, юрыдычныя кнігі, можна было знайсці выданні на польскай, лацінскай, літоўскай і латышскай мовах. Так, візітацыя 1761 г. паказала, што ў касцельных бібліятэках Краслаўскай, Люцынскай і Марыенхаўзенскай парафій Інфлянцкай дыяцэзіі знаходзіліся розныя выданні місалаў, Статут ВКЛ, кніга пра падарожжа Мікалая Радзівіла ў Святую зямлю, «Жыцці святых» П. Скаргі, творы Грыгорыя Назіянзіна, Фамы Кемпійскага і Цэзара Баронія, слоўнікі літоўскай і латышскай моў (яны ў інвентарах часам фігуруюць пад назвай «sinonima»), Евангеллі на польскай і літоўскай мовах, «Гаміліі» Іпата Пацея і «Вера праваслаўная» ксяндза Кулешы[292].

[291] *Gwioździk J.* Staropolski ksiegozbiór panien benedyktynek z Nieświeża. Z dziejów fundacji Mikolaja Krzysztofa Radziwiłła Sierotki// Badania księgozbiorów Radziwiłłów... S. 107.
[292] Akta wizytacji generalnej diecezji Inflanckiej i Kurlandzkiej czyli Piltyńskiej z 1761 roku. Toruń, 1998.

* * *

Кніжная культура ВКЛ трэцяга перыяду — пасля «патопу» і да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай — адлюстравала новы стан рэчаў, калі Вялікае Княства з'яўлялася толькі культурнай перыферыяй гэтай прыходзячай у заняпад дзяржавы. Пануючы клас служыць ужо не Вільні, а Варшаве, высілкі большасці дзеячаў культуры і адукацыі скіраваны хутчэй на уніфікацыю з Польшчай, чым на развіццё сваіх старых традыцый. Адбылася унія «каня і конніка», у якой коннікам была Карона — гэты коннік паганяў Рэч Паспалітую да згону. На пачатку перыяду да Расіі адышлі ўсходнія гарады ВКЛ, а пры канцы — уся тэрыторыя Вялікага Княства. Пры гэтым кніжнасць яшчэ значны час развівалася па інерцыі, пад уплывам польскага Асветніцтва, што яскрава пацвярджае дзейнасць полацкай езуіцкай друкарні ў 1787—1820 гг.[293] Можа, менавіта таму на гэтым апошнім прамежку часу з яе пачалі, кожная сама па сабе, прарастаць кніжнасць Летувы і кніжнасць Беларусі. Шэдэўрамі мастацкай аздобы кнігі з'яўляюцца ў гэты час «Разарыум» з гравюрамі Аляксандра Тарасевіча (Віленская акадэмічная друкарня), «Манархія Турэцкая» і «Акафісты і каноны» (першая ў Слуцкай, другая — у Магілёўскай брацкай друкарні) з гравюрамі Максіма Вошчанкі. Лепшыя майстры кніжнай мініяцюры працуюць на Усходніх землях ВКЛ. Большасць з іх ананімная, выключэнне складае Ян Рапалеўскі з Віцебска.

Эпоха распаўсюджвання ведаў пры значным цэнзурным кантролі за інфармацыяй нарадзіла ўмовы для жыцця стэрэатыпаў. Пераважная большасць адукаваных насельнікаў Вялікага Княства аб праваслаўі ведала з кнігі ксяндза Кулешы «Вера праваслаўная», жыцці святых чытала па кнізе П. Скаргі, медыцынскія, прыродазнаўчыя і гаспадарчыя звесткі знаходзіла ў календарах альбо ў перакладзеных з еўрапейскіх моў польскіх кніжках.

У глыбінцы этнічнай Летувы на паліцах, праўда, стаяў малітоўнік на роднай гаворцы (і пратэстанты і каталікі спяшаліся, пры патрэбе, зрабіць новае выданне), а на беларускіх абшарах праваслаўныя карысталіся надзвычай прыгожымі магілёўскімі выданнямі, уніяты — супрасльскімі, але і ў тых і ў другіх простая мова гучала толькі ў прадмовах і прысвячэннях, асноўныя ж тэксты былі на царкоўнаславянскай. Развівалася мастацтва гравюры — у вялікіх друкарнях (Акадэмічнай, Супрасльскай, Магілёўскай брацкай) майстры-гравёры працавалі пастаянна, іншыя (Віленская базыльянская, Гродзенская) рабілі заказы для асобных выданняў. Паралельна з кнігай друкаванай шырока выраблялiся і рукапісныя кнігі. У гэты перыяд сярод рукапісаў найбольш інвентароў, зборнікаў Silva rerum, Ірмалояў з выдатнымі мініяцюрамі.

У XVIII ст. інтэнсіўна «ўрасталі» ў мясцовую глебу манастырскія кнігазборы, папаўняючы свае фонды пераважна прадукцыяй мясцовых друкарняў. На кнігах бібліятэкі бенедыкцінскага манастыра ў Гарадзішчы пад Пінскам, які быў перанесены ў Беларусь з Італіі, манахі змянілі заверачны запіс: замест «Кніга з манастыра гары Касіно» пачалі пісаць «Манастыр Монтэ-Касіно ў Гарадышчы». Значна павялічыў свой кнігазбор картэзіянскі манастыр, перанесены ў XVII стагоддзі з Кёльна ў Бярозу Картузскую пад Брэстам. Пры скасаванні расійскімі ўладамі ў пачатку XIX стагоддзя тут было 1303 друкаваныя кнігі і больш за 100 рукапісаў[294].

[293] *Kaczorowski W., Sękowski R.* Drukarnia połocka w latach 1787—1820: Problemy badawcze i próba odtworzenia produkcji wydawniczej // Jezuicka ars historica: Prace ofiarowane Professorowi Ludwikowi Grzebieniowi SJ. Kraków, 2001. Kadulska I. Akademia Połocka Ośrodek kultury na Kresach. 1812—1820. Gdańsk, 2004.

[294] *Nierzwicki K.* Die klosterbibliothek der kartause «sanctae crucis» in Bereza Kartuska. Salzburg, Austria, 2004. (Analekta cartusiana N 198).

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Памяць — не склад інфармацыі, а механізм яе рэгенеравання.

*Ю. Лотман*

Далучэнне ВКЛ да імперыі Раманавых зрабіла яго кніжнасць часткай расійскай кніжнасці, кніжнікаў (літаратараў і выдаўцоў) — складнікамі расійскага літаратурна-выдавецкага працэсу. Найбольш дзіўная, на першы погляд, рэч здарылася ўжо пасля трыццацігадовай (першы — трэці падзелы) агоніі Рэчы Паспалітай — самымі заўзятымі прадаўжальнікамі традыцый польскасці сталі землі Вялікага Княства. Яскравы прыклад даюць полацкія езуіты, якія ў канцы XVIII і першай чвэрці XIX ст. мелі сваю друкарню — іх польскамоўныя падручнікі па айчыннай гісторыі пачыналі яе ад Леха; мясцовых юнакоў выхоўвалі як польскіх шляхціцаў, хоць расійскае падданства вымагала іншага.

Прычына гэтай асаблівасці кніжнай культуры ў тым, што яна адлюстравала назапашаную ў апошні перыяд жыцця ВКЛ інерцыю трактавання і ацэнак гісторыі, звычку лёгкага ўспрыняцця лацінкі і дыскамфорту ў чытанні кірылічных тэкстаў, прызвычаіла карыстальнікаў да пэўнага мастацкага аблічча кнігі; агульная ж з Расіяй спадчына — спадчына Кіеўскай Русі — ужо не была відаць за набыткам апошняга стагоддзя.

Але шмат хто на Літве хутка ўспомніў старажытную гісторыю, і на здзіўленне адукаваных рускіх з заваяванага Вялікага Княства (ва ўяўленні простых расіян — з Польшчы) у Маскву і Санкт-Пецярбург пачалі прыязджаць (больш за тое, актыўна ўмешвацца ў літаратурнае і грамадскае жыццё) «ва ўсім свае» шляхціцы-літаратары, напрыклад Фадзей Булгарын ці Міхаіл Сенкоўскі (Барон Брамбеус); Аляксандр Пушкін вершам рэфлексаваў на нелагічнае для «паляка» Адама Міцкевіча атаясамленне сябе як літвіна: «И там Мицкевич вдохновенный свою Литву воспоминал...». Члены Румянцаўскага гуртка раскрывалі вучонаму свету адзін за адным прыгожыя і багатыя па змесце кірылічныя рукапісы, што паходзілі з Полацка і Супрасля, Вільні і Слуцка, а ў гэты самы час члены варшаўскага Таварыства аматараў навук карысталіся аддадзенай туды часова адной з самых багатых прыватных бібліятэк ВКЛ — кнігазборам Сапегаў.

Пачыналася эпоха «разводу» культурнай спадчыны ВКЛ і далучэння яе частак да «рускай мінуўшчыны» і «польскага дзядзіцтва». Але чым больш «разводзілі» старыя кнігі, тым глыбей іх вывучалі, і тым больш рабілася відавочна, што яны — частка адзінага цэлага. Без адчування гэтага адзінства нельга зразумець жыццёвыя маршруты Францыска Скарыны (Полацк — Вільня — Кракаў — Падуя — Прага), Мацея Дзесятага (Тарапец — Вільня — Супрасль), Аляксандра Солтана (Іспанія — Францыя — Германія — Вільня — Жыровіцы — Шышкіні) і шмат іншых дзеячаў кнігі, збіральнікаў бібліятэк. Яны напаўнялі адну і тую ж прастору — культурную прастору Вялікага Княства Літоўскага. Асаблівасцю яе было суіснаванне ў адным часе розных традыцый, за якімі стаялі розныя складнікі кніжнай культуры — кнігапісцы, друкарні, кнігазборы і г. д. У кожнай традыцыі была свая дынаміка развіцця, свае перасячэнні, канфрантацыі і кампрамісы. Кірылічныя кнігі выраблялі для патрэб праваслаўных, уніятаў і пратэстантаў; друкар, які пачынаў як пратэстант (Даніэль Ленчыцкі), закончваў сваё жыццё і сваё служэнне як каталік; у кнігазборы манаха-дамініканца Дамініка Сівіцкага захоўваюцца кірылічныя рукапісныя кнігі праваслаўнай традыцыі, а пратэстант Багуслаў Радзівіл цікавіцца музычнымі кнігамі Супрасльскага манастыра — колькасць прыкладаў талерантнасці і ўзаемнай зацікаўленасці можна множыць бясконца. Адкрытасць прасторы для розных культурных плыней была, аднак, не «скразная» — ВКЛ не з'яўлялася толькі краінай транзіту. Каталіцкія і пратэстанцкія кнігі, што прыходзілі з Захаду, як і праваслаўныя, што прыходзілі з Усходу, у бальшыні асядалі ў Вялікім Княстве. Яны стваралі глебу для працы мясцовых кніжнікаў і вярталіся на Захад працамі гісторыка Віюка Каяловіча, артылерыста Казіміра Семяновіча, паэта Мацея Казіміра Сарбеўскага і г. д., а на Усход — лістамі Андрэя Курбскага да Івана Грознага, палемікай Зізанія з маскоўскімі кніжнікамі аб асаблівасцях перакладу Катэхізіса з «літоўскай рускай» на «рускую маскоўскую» мову, бібліятэкай Сімяона Полацкага і

іншымі праявамі ўзаемных кніжных дачыненняў. Такія сталыя, на працягу доўгай гісторыі, кантакты з Захадам і Усходам перашкаджалі, аднак, мацней кансалідаваць культурныя рухі ў межах ВКЛ. Паралельна з паланізацыяй насельнікаў ВКЛ заўсёды існавала адваротная тэндэнцыя — захаванне старой славянскай кнігі. У XVIII ст. езуіты друкуюць ужо лацінкай (простай мовай) малітвы для будучых беларусаў. Летувісы і жмудзіны, якія не мелі кнігі рукапіснай, ад XVI ст. памалу назапашваюць колькасць друкаваных кніг на роднай мове і да першай чвэрці XX ст. будуць захоўваюць status qvo — пакуль не пачнецца іх нацыянальнае і дзяржаўнае адраджэнне і не народзіць спакусу — перад светам і самімі сабой — выступаць як непасрэдныя спадкаемцы ВКЛ[295]. Беларускае адраджэнне XIX і пачатку XX ст. таксама азірнулася назад і пачало шукаць выключна кірылічнае мінулае беларускай кніжнай культуры. Пасля катастрафічнага згону нешматлікай нацыянальнай інтэлігенцыі ў эпоху сталінскіх рэпрэсій у беларускай грамадскай свядомасці з'явілася новая тэндэнцыя — усе старыя кнігі атаясамліваць з дагматычнай схаластыкай і надаваць ім негатыўны сэнс. Найбольш яскрава гэта выявілася ў вершы народнага паэта Савецкай Беларусі Пімена Панчанкі «Мае настаўнікі» (1970):

З пажоўклых пергаментаў,
З прапыленых фаліянтаў,
З усіх шчылін мінулых стагоддзяў
Вылазяць галовы
Мудрых разбойнікаў,
Кволых філосафаў,
Фанатыкаў і прарокаў,
І кожны
Дагматычным пальцам
Тыкае ў маё набалелае сэрца:
Я твой настаўнік.

Такое стаўленне да гісторыі ў спалучэнні з камуністычнай ідэалогіяй прыводзіла да наўмыснага самаабмежавання, пра што з гонарам сцвярджаецца ў канцы гэтага верша:

...
Таму я выбраў сабе ў настаўнікі
Леніна,
Праўду
І родны народ...




*«Каротка сабраныя гісторыі аб трох першых манархіях свету: асірыйскай, персідскай і грэцкай, а таксама аб Расійскай імперыі і Каралеўстве Польскім з розных класічных аўтараў для II і III класаў. За дазволам старэйшых. У Полацку ў прывілеяванай ад Яе імператарскай міласці друкарні Калегіі Таварыства Ісуса. У год гасподні 1795». Тытульны аркуш падручніка з вывай двухаблічнага бога Хронаса, які адначасова глядзіць у мінулае і ў будучыню.*

Сёння, праз сорак гадоў пасля напісання верша, вобраз Леніна ўзбагаціўся адсутным у сацыялістычны час негатывізмам і ператварыўся ў фігуру замоўчвання, «родны народ» неаднойчы дэманстраваў неверагодную залежнасць ад маніпулятараў грамадскай свядомасцю, а «пажоўклыя пергаменты і прапыленыя фаліянты» па-ранейшаму заставаліся terra incognita, невядомай краінай. Праз 12 гадоў пасля П. Панчанкі сугучнае (Qvo vadis?) пытанне адбілася ў версэце паэта-інтэлектуаліста Алеся Разанава «На гэтай зямлі» (1982):

Хто пытаецца ў мяне дарогу на
Ўсход, хто — дарогу на Захад...

і завяршылася канстатацыяй: «Тут мой Захад, і тут — Усход». Раптам стала відавочна, што ні адзін з кірункаў не вывучаны дастаткова, а пра сінтэтычны падыход да абодвух даводзіцца толькі марыць.

[295] Адно з яскравых сведчанняў: Гудавичус Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 года. Т. 1. М., 2005.

*Статут Вялікага Княства Літоўскага перажыў само Вялікае Княства і застаўся самым значным помнікам яго духоўнай культуры. Тытульны аркуш першага выдання. Вільня, друкарня Мамонічаў, 1588 г.*


СТАТУТ ВЕЛИКОГО КНЯЗТВА ЛИТОВСКОГО

Ѿ наяснейшего г(оспо)д(а)ря короля его м(и)л(о)сти

Жикгимонта Третего на коронацыи

в Кракове выданы року

аѳпи.

Смотрите што маете чинити. Бо не справуете суду чл(о)вечего але суду Божого. А што кольвекъ судити будете на васъ се то обалить. Нехай будеть боязнь страхъ Господень з вами. А справуйте все пильне. Нетъ бо у пре Господа Бога нашого неправости. Ани брания особъ. Ани пожаданья даровъ.

Книги 2 паралип. глава 19

Милуйте справедливость которые судите землю. Хто любить неправду тотъ ненавидить души своее. Правам судите сынове человечестии.

З ласки и з привилеемъ короля его м(и)л(ости).

В Вильни. Друковано в дому Мамоничовъ.

Мы закончылі агляд цэлай піраміды помнікаў, якія стваралі кніжнасць ВКЛ. Яны належаць і заходняй, і ўсходняй культуры, шмат якія з іх настолькі непаўторныя, што сталі падставамі для пабудовы новых — «тутэйшых» — беларускай і летувіскай цывілізацый.

Тэорыя гаворыць, што «мінулыя станы культуры пастаянна закідаюць ў яе будучыню свае абломкі: тэксты, фрагменты, асобныя імёны і помнікі. Кожны з гэтых элементаў мае свой аб'ём памяці, кожны з кантэкстаў, у які ён уключаецца, актуалізуе некаторую ступень яго глыбіні»[296].

Аўтар спадзяецца, што яго праца над старымі кнігамі будзе спрыяць актуалізацыі гістарычнай памяці беларускай культуры і што сваімі росшукамі і цытаваннем іншых даследчыкаў ён не толькі павялічыў колькасць «закінутых ў будучыню (зн. у сучаснасць) яе абломкаў», але і праз тлумачэнні і разважанні хоць трошкі змяніў погляды чытача на нашу вельмі разнастайную і багатую кніжную спадчыну.

[296] *Лотман Ю. М.* Семиосфера. СПб., 2000. С. 621.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

**Назвы сховішчаў рукапісаў і рукапісных кніг**

БАН — Бібліятэка Расійскай Акадэміі навук (Санкт-Пецярбург)
БАНЛ — Бібліятэка Акадэміі навук Літвы (Вільня)
ДзГМ — Дзяржаўны Гістарычны музей (Масква)
НББ — Нацыянальная бібліятэка Беларусі (Мінск)
НБВУ — Навуковая бібліятэка Віленскага універсітэта (Вільня)
РДзАВМФ — Расійскі дзяржаўны архіў Ваенна-Марскога Флоту (Санкт-Пецярбург)
РДзАСА — Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (Масква)
РДзБ — Расійская дзяржаўная бібліятэка (Масква)
РДзГА — Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (Санкт-Пецярбург)
РНБ — Расійская нацыянальная бібліятэка (Санкт-Пецярбург)
СПбФІРГ — Санкт-Пецярбургскі філіял Інстытута расійскай гісторыі Расійскай Акадэміі навук (Санкт-Пецярбург)

**Загалоўкі шматтомных і перыядычных выданняў**

АВАК — Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею (*з т. 20* — Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов)
АЗР — Акты, относящиеся к истории Западной России
АСД — Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси
БГА — Беларускі гістарычны агляд
БЛДР — Библиотека литературы Древней Руси
ВЛУ — Вестник Ленинградского университета
ВУИ — Варшавские университетские известия
ГроднЕВ — Гродненские епархиальные ведомости
ДИРК — Древнерусское искусство. Рукописная книга
ЖМНП — Журнал Министерства народного просвещения
ЗБІНМ — Запісы [Беларускага інстытута навукі і мастацтва]
ЗНТШ — Записки Наукового товариства імені Шевченка
ЗОР ГБЛ — Записки Отдела рукописей [Государственной библиотеки СССР имени В. И. Ленина]
ИВ — Исторический вестник
ИОРЯС — Известия Отделения русского языка и словесности императорской Академии наук
ИЮМ — Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской
КИМ — Книга. Исследования и материалы
КСИА — Краткие сообщения [Института археологии Академии наук СССР]
ЛитЕВ — Литовские епархиальные ведомости
ПГКБ — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі
ПКНО — Памятники культуры. Новые открытия. Ежегодник
ПСРЛ — Полное собрание русских летописей
РИБ — Русская историческая библиотека
РФВ — Русский филологический вестник
СмолЕВ — Смоленские епархиальные ведомости
ТКДА — Труды Киевской духовной академии
ТОДРЛ — Труды Отдела древнерусской литературы [Института русской литературы Академии наук СССР (з 1992 г. — Российской Академии наук)]
ЧИОНЛ — Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца
ЧОИДР — Чтения в императорском Обществе истории и древностей российских при Московском университете
ABMK — Archiwa, biblioteki i muzea kościelne
BBJ — Biuletyn Biblioteki Jagiellońskiej
BHSz — Biuletyn historii sztuki
HUS — Harvard Ukranian studies
KHist — Kwartalnik historyczny
LSPSH — Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia historica
ORP — Odrodzenie i Reformacja w Polsce
OSP — Oxford Slavonic papers
PamBK — Pamiętnik Biblioteki Kórnickiej
PrzBA — Przegląd bibliograficzno-archeologiczny
RB — Roczniki biblioteczne

